# Прадмова

У 2013 г. выйшла мая кніга «Жыццёвы меланж» (Мінск, «Кнігазбор», 648 с.), у якую ўвайшлі розныя артыкулы, напісаныя ў 1992–2013 гг. У наступныя пяць гадоў я працягваў пісаць свой жыццёвы меланж, прычым шэраг твораў друкаваў у беластоцкім часопісе «Тэрмапілы» (рэдактар Ян Чыквін) — № 18 (2014), 19 (2015), 20 (2016), 21 (2017), некаторыя — у беларускіх газетах ці зборніках, а многія засталіся ў рукапісах. Нагадаю, што я разумею пад жанрам «жыццёвы меланж». Гэта — жанр кароткіх замалёвак, эсэ, мініяцюр, нярэдка блізкіх да вытрымак з дзённікавых запісаў, якія тычацца розных здарэнняў, праяў, эпізодаў штодзённага жыцця і выкліканых імі пачуццяў, думак.

Сюды ж трапляюць успаміны ці роздумы пра розных сяброў, знаёмых, выдатных дзеячаў літаратуры, культуры і навукі, часта звязаныя з іх юбілейнымі датамі. Тэрмін «меланж» (фр. — сумесь) шырока вядомы ў геалогіі: своеасаблівае геалагічнае цела, складзенае з сумесі, мешаніны разнастайных парод, што робіць такое ўтварэнне вельмі стракатым, рознакаляровым, цікавым і загадкавым на выгляд. Такую ж назву носіць і прыгожая тканіна, якая зроблена з сумесі афарбаваных у розныя колеры валокнаў. Геалагічны меланж утвараецца пры розных стрэсавых з’явах, напрыклад, калі адзін вялікі блок, а то і магутны сегмент зямной кары насоўваецца на другі, трэцца аб яго, рухаецца ўздоўж ці ўпоперак яго з агромністай сілай. У выніку ў памежжы гэтых блокаў, у разломныя зоны, якія іх дзеляць, адрываюцца разнастайныя па рэчавым складзе, колеры і памерах глыбы і кавалкі горных парод, накопліваюцца тут, і ўтвараецца такім чынам геалагічны меланж.

Так і ў жыцці людзей уздзеянне чалавека на чалавека, адной супольнасці людзей на другую, краіну на краіну, прыродных феноменаў і іншых самых разнастайных з'яў выклікае стрэсавыя сітуацыі, як станоўчыя, так і адмоўныя, якія і застаюцца ў памяці чалавека. Так узнікае «жыццёвы меланж» — сумесь самых розных з'яў, фізічных і душэўных водгукаў чалавека на рух і развіццё падзей… Яны фіксуюцца ў памяці, адлюстроўваюцца на палотнах мастакоў, у сродках масавай інфармацыі, творах пісьменнікаў і музыкантаў, афіцыйных дакументах і г. д.

Пасля выхаду маёй кнігі накладам 300 асобнікаў, якая на працягу двух гадоў амаль цалкам разышлася, я атрымаў не так многа водгукаў і ўражанняў аб ёй, і таму я пачаў хістацца ў пытанні, ці цікавы мой жыццёвы меланж грамадству, ці трэба мне яго працягваць. Праўда, я меў шчырую падтрымку ад маіх сяброў — выдатных паэтаў Ніла Гілевіча і Анатоля Вярцінскага.

Яшчэ раней пра «Жыццёвы меланж», які часткова друкаваўся ў часопісе «Тэрмапілы» вельмі цёпла і нават эмацыйна выказалася прафесар Беластоцкага ўніверсітэта, літаратуразнаўца і пісьменніца Галіна Тварановіч. У лісце да мяне ад 11.08.09 з Бельска яна напісала: *«Дарагі Радзім Гаўрылавіч! Віншуем сардэчна з цудоўнай кнігай! Дзякуй!!! Я хачу выказаць захапленне Вашым "меланжам" (як трапна, дарэчы, вызначаны жанр). Якая праўда ў тым, што і гэтая частка Вашай лірычнай прозы друкуецца ў "Тэрмапілах"! Каштоўнасць "меланжу" ў тым, што менавіта Ваш погляд, Ваша ўспрыняцце падзей, мысленне прадстаўніка слаўнага беларускага роду адкрываецца чытачу. І ніхто ж — апрача Вас! — так знутры гісторыі і сучаснасці аб цяперашніх абставінах не скажа. Удзячная Вам бясконца за той унутраны плён душы, які адчула, чытаючы Вашу прозу. Вось жа пішаце і аб гарачым штодзённым, а такое адчуванне, што належаць Вашы развагі не таму, што прамінае, а таму, што застаецца назаўсёды… Сапраўды, кожнае слова — энергія. Выказанае ж арганізаваным адзінствам, стварае энергетычную цэласнасць,*

*такую адчувальную і важную для душы… Хочацца чытаць і чытаць Вашу прозу. Запісвайце, калі ласка, сябе!!!»*

Галіна Тврановіч надрукавала станоўчую рэцэнзію[1].

Лідзія Савік — вядомая літаратуразнаўца, крытык, даследчык сучаснай беларускай літаратуры, асабліва спадчыны рэпрэсаваных беларускіх пісьменнікаў і пісьменнікаў-эмігрантаў — напісала артыкул «Шматгранны талент» («Наша слова», № 21, 21 траўня 2014 г.), у якім дала ацэнку дзвюм маім кнігам «Лісты жыцця і кахання» і «Жыццёвы меланж». Пра апошнюю яна адзначыла: *«“Жыццёвы меланж” — кніга-роздум, своеасаблівая характарыстыка беларускіх рэалій, з дакладна акрэсленымі гадамі (1992–2013). […] Суіснаванне розных жанраў (публіцыстыка, дакументальная проза, дзённікавыя запісы, лірычныя мініяцюры, успаміны, кароткія абразкі-запісы самых розных назіранняў аўтара, артыкулы, невялікія апавяданні) сведчыць пра багацце жыццёвага матэрыялу, які падаецца пісьменнікам у храналогіі хуткаплынных дзён, падзей, з’яў, розных значных фактаў. Усе яны, на першы погляд, не звязаны паміж сабой. Але аб’ядноўвае іх адна тэма: “Чым і як жыве сёння Беларусь…” А гэта самыя разнастайныя праблемы — востра надзённыя, супярэчлівыя, якія датычацца многіх сфер нашага існавання і нікога не пакідаюць абыякавымі. […] Цяжка перадаць усю разнастайнасць, багацце жыццёвага матэрыялу кнігі. Гэта і ёсць той “меланж”, кажучы мовай геалогіі, тая прыродная сумесь, мешаніна самых розных з’яў, фізічных і душэўных водгукаў чалавека на рух і развіццё падзей. І самае галоўнае — “Меланж” збірае ў адзінае цэлае ўвесь змест, усё тое, пра што хацеў сказаць пісьменнік — геолаг па прафесіі (Дарэчы, дзякуючы яму, тэрмін “меланж” упершыню ўводзіцца ў сучаснае літаратуразнаўства). Ва ўсім падобным жыццёвым меланжы надзвычай важная пазіцыя аўтара, і яна*

---

[1] Twaranowic, H. «Жыццёвы меланж» Радзіма Гарэцкага / H. Twaranowic // Studia i zprice slawisyczne. — № VI. Na pograniczu nauk i kultur. — Opole, 2011. P. 315–321.

*яскрава прасочваецца літаральна на кожнай старонцы. Гэта пазіцыя самаадданага патрыёта сваёй Бацькаўшчыны, паслядоўнага змагара за незалежнасць, нацыянальнае адраджэнне, захаванне роднай мовы, духоўнага стану беларускага грамадства».*

Яшчэ ў 2002 годзе я надрукаваў артыкул «Незалежнасць», які пазней змясціў у кнігу «Жыццёвы меланж». У 2010 годзе Васіль Зуёнак прэзентаваў мне сваю кнігу «Выбраныя творы» (Серыя 1. Мастацкая літаратура «Беларускі кнігазбор») з такой высокай ацэнкай маёй дзейнасці: *«Дарагому Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму, выдатнаму сыну Беларусі, змагару за нацыянальнае адраджэнне, чый талент вучонага, літаратара, грамадзяніна дастойны параўнання са шматграннасцю таленту волатаў эпохі Класічнага Адраджэння — з найлепшымі пажаданнямі. Васіль Зуёнак, 28.XI.2010».*

Мне было вельмі прыемна атрымаць такі цудоўны падарунак ад нашага выдатнейшага паэта, перакладчыка, рэдактара, вядомага вучонага-літаратуразнаўца, ганаровага сябра НАН Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, з якім мы пасябравалі яшчэ з часоў, калі займалі «важныя» грамадскія пасады: Зуёнак — старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі, я — віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі.

Кніга «Выбраныя творы» Васіля Зуёнка, якая безумоўна належыць да класічнай беларускай літаратуры, складзена з раздзелаў «Паэзія» і «Проза», а апошняя ўключае элегіі, эсэ і эцюды. Адно з цікавейшых эсэ «Гукаючы слова…», у якім глыбокае даследаванне «рыфмы, гучнай сяброўкі…» (напісана 2 красавіка 2007 г.). У кнізе В. Зуёнка нечакана для сябе прачытаў такі абзац: *«Рыфма — як звон. Адну такую я напаткаў зусім нядаўна — і зусім не ў вершы, а ў публіцыстычнай нататцы. Проста дзіву даешся: якое сугучча! На зайздрасць паэтам. А вобраз які нарадзіўся! — і дзякуючы рыфме:* ***“Незалежнасць — вельмі старое і важкае слова… і ў той жа час дзейнае, бо яно адмаўляе «лежня» — лодара…”***

*“Незалежнасць” — “лежня” — “рыфма акадэміка” — так і назавём яе. Аўтар — геолаг, акадэмік Радзім Гарэцкі»*.

У сваім прывітальным слове ў час XXII Гарэцкіх чытаннях (Менск, 26 чэрвеня 2014 г.) Анатоль Вярцінскі, калі ўспамінаў пра маю кнігу «Жыццёвы меланж» адзначыў: *«А ўвогуле, меланж — гэта новы жанр, які Радзім Гаўрылавіч адкрыў у нашай дакументальнай літаратуры»*.

Нечакана атрымаў ліст з Брэста (20.XII.2014) ад Марыі Пракопаўны Лукашук — маці вядомага дырэктара беларускай службы Радыё Свабода, журналіста, пісьменніка, грамадскага дзеяча. Яна — былая настаўніца, педагог, ведала майго брата Усяслава, я сустракаўся з ёй на з’ездзе беларусаў свету. У лісце Марыя Лукашук таксама напісала пра маю кнігу: *«Шаноўны Радзім Гаўрылавіч! Не магу не выразіць сваё ўражанне ад Вашага “Жыццёвага меланжу”. [...] ...ужо 3 гадзіны ночы, а мне не спіцца, чытаю Ваш “Меланж”, чытаю няспешна, наталяюся Вашым іскрыстым словам, вобразамі, разважаннямі. Бяру Вашу кнігу як на дэсерт, чытаю па 15–20 старонак на працягу 2-х месяцаў, потым зноў асобныя старонкі перачытваю. У маім уяўленні як жывыя ўяўляюцца Вашы родныя, сябры, калегі. [...] Удзячна Вам, спадар Радзім, што Вы так падрабязна апісалі жыццёвы шлях свайго знакамітага брата. Хай руская зямля для нашага вялікага беларуса будзе яму пухам. [...] Вы ўнеслі ў беларускую навуку важкі ўклад, можа хопіць, астаўце яе і падарыце нам яшчэ “Меланж”»*.

Пасля такіх думак гэтых чытачоў і спецыялістаў я, безумоўна, навуку не кінуў, але працягваў не толькі пісаць у часопіс «Тэрмапілы», але вырашыў скласці асобную кнігу «Апантаны Бацькаўшчынай. Жыццёвы меланж-2». Я ў «Тэрмапілы» рэгулярна пісаў жыццёвы меланж з другой паловы мінулага года па першую частку наступнага, таму гэтая кніга ўтрымлівае пяць раздзелаў: I. Жыццёвы меланж —2013–2014 (з траўня 2013 г. да траўня 2014 г.); II. Жыццёвы меланж — 2014–2015 (з чэрвеня 2014 г. да красавіка 2015 г.); III. Жыццёвы меланж — 2015–2016 (з красавіка 2015 г.

да траўня 2016 г.); IV. Жыццёвы меланж — 2016–2017 (з траўня 2016 г. да траўня 2017 г.); V. Жыццёвы меланж — 2017–2018 (з траўня 2017 г. да лютага 2018 г.).

Я шчыра ўдзячны ўсім, хто вусна і тым больш пісьмова выказаў свае ўражанні пра мае творы ў жанравай форме «жыццёвага меланжу» і асабліва пра кнігу «Жыццёвы меланж», а таксама Наталлі Рудкоўскай, якая прыняла значны ўдзел у падрыхтоўцы рукапісу кнігі.

## Сотні мелодый у сэрцы маім…

Калі раніцаю ўстаеш, а другі раз нават перад гэтым, яшчэ ў сне ўзнікае якая-небудзь мелодыя. Часта яна або некалькі мелодый тыпа папуры трымаюцца ўвесь дзень, а то два дні ці больш. Мелодыі знікаюць у час пільнай працы, калі штонебудзь пішаш, калі размаўляеш з кім-небудзь, ці слухаеш даклады, перадачы радыё ці тэлебачання, і зноў раптоўна гучаць у вольных перапынках — калі едзеш у аўтобусе ці тралейбусе і асабліва ў час пешай хады, калі раўнамерныя крокі патрабуюць адпаведныя мелодыі і г. д. Мелодыі сядзяць недзе ўнутры — узнікаюць у душы ці сэрцы, а гучаць у галаве, але ў многія вольныя моманты вырываюцца наверх і тады пачынаю іх насвістваць, а то і ціха спяваць. Мелодыі прыходзяць самыя разнастайныя, але абавязкова мілагучныя, прычым прадбачыць, якія з іх будуць сёння ці заўтра амаль ніколі не задаецца. Часцей за ўсё яны бываюць лірычныя: рамансы і вальсы пра каханне і разлуку, інструментальныя і класічныя, танцавальныя і маршавыя, арыі з опер і аперэт, народныя песні (беларускія, рускія, украінскія, італьянскія і інш.), песні кампазітараў розных краін і іх вядомых выканаўцаў і г. д. Нярэдка ўзнікаюць песні маладосці — гэта песні ваенных гадоў, але зноў лірычнага, часта сумнага кшталту, а то і бадзёрыя песні савецкіх кампазітараў, у тым ліку з розных кінафільмаў. Нечакана гучаць мелодыі песень пра Радзіму, Маскву, Ленінград, Тбілісі, Нёман, Волгу, Дняпро і інш. Усё пералічыць вельмі цяжка. З часам я заўважыў адну заканаўпарадкаванасць: мелодыі ці шэраг мелодый адпавядаюць тагачаснай сітуацыі. Апошняя выклікае настрой, а той — мелодыі.

*2013*

# Раман расійскага філолага[1]

З вялікай цікавасцю праглынуў захапляючы твор «Ложится мгла на старые ступени. Роман-идилия» Аляксандра Чудакова (2012), які рашэннем журы конкурсу «Русский Букер» прызнаны лепшым рускім раманам першага дзесяцігоддзя новага стагоддзя. Яго напісаў выдатны расійскі філолаг Аляксандр Чудакоў (1938–2005) ужо ў сталым узросце на базе сваіх дзённікаў і ўспамінаў, якія, дзякуючы бліскучай памяці, трымалі шмат нават дробных побытавых падрабязнасцяў жыцця і адначасова важкіх абагульненняў. Раман напісаны цудоўнай рускай мовай, блізкай да чэхаўскай, — здаецца вельмі простай, але ўсё глыбока асвятляючай, з мяккім гумарам, прымушаючым радасна смяяцца. Чытаецца так лёгка, што адчуваеш сапраўдную асалоду ад слова, якое дазваляе яскрава ўяўляць усё тое, пра што піша аўтар — вясёлае, светлае і жудаснае; цяжкае грознае і жыццярадаснае. Непаўторны стыль рамана: з аднаго боку падрабязнасці падзей, дасканалае апісанне рэчаў, дакладныя думкі і пачуцці герояў, а з другога — выдуманая, і ў той жа час рэчаіснасць. Аўтабіяграфічнасць удала ўпісана ў зменлівую шматпакутную рэальнасць мінулага стагоддзя.

Аляксандр Чудакоў на 10 гадоў маладзейшы за мяне, але падзеі і сітуацыі ягонага жыцця вельмі блізкія і зразумелыя мне: ён жыў у той жа час, і яго лёс нечым падобны да майго. Рэпрэсіраваныя родныя; ГУЛАГ, які пранік усюды і не даваў забыць пра існуючую сістэму бальшавізму; вайна і эвакуацыя; жыццё ў Казахстане; лысенкаўшчына ў навуцы; дэмагогія і хлусня, страх і нянавісць, якія прыводзяць да раздвоенасці душы чалавека; і ў той жа час — радасць і любоў да жыцця; адчуванне шчасця, маладосці і сілы; вера, надзея і каханне…

У «Новой газете» пра раман А. Чудакова напісана, што гэта — вобраз сапраўднай Расіі ў яе самыя цяжкія гады. *«Книга гомерически смешная и невероятно грустная, жуткая и жиз-*

[1] Тэрмапілы. — 2014. — № 18.

*неутверждающая, эпическая и лирическая. Интеллигентная робинзонада, роман воспитания, “человеческий документ”».*

*2013*

## Вершаваны аўтограф на кнізе

Калі наша Бюро Прэзідыума АН Беларусі вырашыла ў 1995 годзе правесці выбары замежных і ганаровых членаў акадэміі, мы трапілі ўжо пад поўны нагляд Адміністрацыі прэзідэнта РБ і самога Прэзідэнта. Дазвол і падтрымку атрымалі па выбарах замежных членаў АН Беларусі, і тады былі абраны аж дзевяць выдатных вучоных Расіі, Украіны, Польшчы, а таксама палітычныя дзеячы Н. А. Назарбаеў і Бутраос Бутрос-Галі. У ганаровыя члены АН Беларусі намі былі прапанаваны кандыдатуры Ніла Гілевіча, Васіля Зуёнка і Віктара Скарабагатава, якія поўнасцю адпавядалі такому званню не толькі як класікі сваёй справы, але і як вучоныя ў тых жа напрамках і як вядомыя грамадскія дзеячы. Яны далі згоду. Прэзідэнту РБ не спадабаліся прапанаваныя кандыдатуры і ён, насуперак Статуту Акадэміі, наогул адмяніў выбары ганаровых членаў. Добра, што яшчэ пры апошнім нармальна абраным Прэзідэнце АН Беларусі А. П. Вайтовічы ўдалося, каб Васіль Зуёнак у 2000 годзе стаў ганаровым членам НАН Беларусі. Я быў вельмі рад гэтай справядлівай падзеі, бо яго выдатная творчасць, класіка беларускай літаратуры, была блізка маім

думкам і пачуццям. Сціплы, добразычлівы, высокакультурны інтэлігент, поўнасцю адданы беларушчыне, Васіль Зуёнак заўсёды выклікаў у мяне вялікую павагу, сімпатыю, якія потым перараслі ў шчырае сяброўства. Цяпер я адчуваў гонар і задавальненне, што маім калегай па НАН Беларусі стаў такі выдатны даследчык сучаснай літаратуры, кандыдат філалагічных навук, аўтар кніг «Лінія высокага напружання» (1983) і «Паміж небам і зямлёй» (2009).

Ужо ў 2013 годзе я з вялікай удзячнасцю атрымаў ад Васіля Зуёнка цудоўную кнігу у серыі «Беларуская паэзія ХХ стагоддзя» — «Азірнуўшыся, не скамянець…: вершы, фрагменты з паэм» (Мінск: Маст. літ., 2013. 170 с.). Мне вельмі прыемна было, што, мусіць, упершыню я атрымаў кнігу з вершаваным аўтографам, да яшчэ такога шчырага і па сутнасці высокага для мяне зместу.

*2013*

## Шосты з’езд беларусаў свету[1]

З’езд прайшоў 23–24 ліпеня 2013 г. у Міжнародным адукацыйным цэнтры імя Ёганэса Раў. У з’ездзе прынялі ўдзел дэлегаты беларускіх дыяспар з 21 краіны свету, сярод якіх больш за 200 чалавек з замежжа і каля 140 чалавек з Беларусі. Таксама прысутнічалі прадстаўнікі дыппрадстаўніцтваў Украіны, ЗША, Польшчы і Нідэрландаў, 14 прадстаўнікоў дзяржаўных устаноў, у тым ліку Міністр культуры Барыс Святлоў, Упаўнаважаны па справах рэлігіі і нацыянальнасцяў Леанід Гуляка. Тэма з’езда: «Беларуская нацыя ва ўмовах глабалізацыі: выклікі і магчымасці». Пасля вітання кіраўніка «Бацькаўшчыны» Алены Макоўскай, мне, як сустаршыні Аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенню з’езда, давялося абвесціць з’езд адкрытым. Пасля гімна ЗБС «Бацькаўшчына» ўшанавалі хвілінай маўчання па-

[1] Тэрмапілы. — 2014. — № 18.

мяць 51 сяброў Згуртавання, якія адышлі ў іншы свет за час паміж Пятым і Шостым з’ездамі.

З асноўнымі дакладамі выступілі Алена Макоўская, даследчыца беларускай эміграцыі Наталля Гардзіенка, старшыня гуртка Беларуска-амерыканскага задзіночання ў Вашынгтоне Алеся Кіпель і сябра абласной Рады Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага Алег Рудакоў. Праца з’езда і яго вынікі даволі шырока асвятляліся ў СМІ, асабліва ў недзяржаўнай прэсе, таму я не буду пераказваць іх, падкрэслю толькі некаторыя моманты.

Дзякуючы дасканалай працы Аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенню Шостага з’езда і асабліва працоўнай групы на чале са старшынёй Рады Нінай Шыдлоўскай, з’езд прайшоў вельмі арганізавана. Упершыню, калі не лічыць Першы з’езд беларусаў свету, не было ніякіх перашкод з боку ўладных структур. Вельмі лагодна, без асабліва рэзкіх нападкаў адзін да аднаго, спакойна прайшла дыскусія, а таксама даволі аднадушна прыняты выніковыя дакументы і абрана новае кіраўніцтва Згуртавання «Бацькаўшчына». Шосты з’езд прайшоў пад знакам 20-гадовага юбілею правядзення незабыўнага і вельмі паспяховага Першага з’езда беларусаў свету ў 1993 г. Таму ў гонар гэтай даты ўсім дэлегатам з’езда быў уручаны спецыяльны значок, а ганаровым сябрам Згуртавання — яшчэ і памятныя медалі да 20-годдзя Першага з’езда беларусаў свету. На канцэрце асабліва ўразілі выступленні іркуцкага гурта аўтэнтычнага спеву «Крывічы», дуэт чэшскіх беларусаў Сяргея Доўгушава і Аляксандра Ясінскага і інш. Дэлегаты і госці з цікавасцю агледзелі шэраг выстаў, удзельнічалі ў прэзентацыі культурных праектаў — кніг, музычных дыскаў і інш.

Дэталёва была абмеркавана і прынята праграма «Беларусы замежжа» (2013–2017), якая ставіць мэту захаваць беларускую прысутнасць у свеце ў розных яе праявах, кансалідаваць беларускую нацыю і ўмацаваць грамадзянскую супольнасць у Беларусі. Пасля грунтоўнага разгляду падрыхтаваных праектаў, рэ-

залюцый і зваротаў, якія выклікалі гарачыя, але добразычлівыя спрэчкі, былі зацверджаны наступныя дакументы: «Выніковая рэзалюцыя», «Зварот да Нацыянальнага сходу і Урада Рэспублікі Беларусь аб прыняцці закона “Аб беларусах замежжа”», «Беларуская мова — галоўны фактар існавання незалежнай Рэспублікі Беларусь», «Пра захаванне гісторыка-культурнай спадчыны», «Пра транслітарацыю найменняў беларускіх геаграфічных аб’ектаў», «Аб акце добрай волі» (заклік вызваліць вязняў сумлення). Кіраўніком Згуртавання «Бацькаўшчына» была пераабрана Алена Макоўская, старшынёй Рады — Ніна Шыдлоўская. Намеснікамі старшыні сталі Валеры Герасімаў і Барыс Стук. У новы склад Вялікай Рады ўвайшлі 50 чалавек ад Беларусі (яны складаюць Малую Раду) і такая ж колькасць ад замежжа. Усе дакументы з’езда былі надрукаваны ў газетах і перададзены ў адпаведныя дзяржаўныя і грамадскія структуры.

* * *

Ужо ў лістападзе 2013 г. з’явілася паведамленне, што Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі прыняла ў першым чытанні законапраект «Аб беларусах замежжа». Прыемна, што шэраг прапаноў, якія Згуртаванне «Бацькаўшчына» на працягу ўжо 20 гадоў прапанавала і на Шостым з’ездзе зноў дапрацавала і прыняла, улічаны Нацыянальным сходам Беларусі. У прыватнасці гэта адносіцца да льготнага парадку атрымання грамадзянства Беларусі для беларусаў, якія жывуць за мяжой і не маюць беларускага пашпарта. Важна, што ўведзена дасканалае вызначэнне, якія групы людзей маюцца на ўвазе пад беларусамі замежжа.

*2013*

## Выстава ў Мінскай гарадской ратушы[1]

28 жніўня 2013 г. адбылася выстаўка вядомага скульптара Алеся Шатэрніка «Святло майго горада (скульптура, жывапіс, імпрэсія)». Гэта рэдкі, а магчыма і першы выпадак, калі Галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі разам з Музеем гісторыі г. Мінска, Нацыянальным мастацкім музеем Беларусі і Беларускім саюзам мастакоў праводзіць выставу ў Мінскай гарадской ратушы сябра суполкі «Пагоня», якая была створана ў 1990 г. у складзе Саюза мастакоў Беларусі з мэтай «развіцця нацыянальнага мастацтва … дзеля абуджэння нацыянальнай самасвядомасці народу, ягонага духоўнага, культурнага і дзяржаўнага адраджэння» (Статут суполкі). На выставе былі прадстаўлены найбольш вядомыя скульптурныя і жывапісныя творы (шэраг пейзажаў, храмаў, новы партрэт) Алеся Шатэрніка, а таксама яго літаратурныя працы. Як сам Аляксандр Сяргеевіч адзначыў у сваім буклеце «Сонцакрыж» (2011): *«Жывапіс — гэта двухмерная прастора. Скульптура — трохмерная. Паэтычнае слова выходзіць па-за межы гэтых Прастораў і набліжаецца да чацвёртага вымярэння: Боскага Слова… “Напачатку было Слова…”»* Таму ён апантана працуе ў пералічаных трох напрамках творчасці. Усе выступоўцы адзначалі шматграннасць творчых схільнасцей А. Шатэрніка. Чамусьці ніхто не казаў пра яго шматлікія мемарыяльныя дошкі. Як раз па гэтым напрамку яго творчасці мне і прыйшлося шмат разоў сустракацца з Аляксандрам Сяргеевічам. З вялікай удзячнасцю ўспамінаю яго працу над мемарыяльнымі табліцамі, якія ўсталяваны ў Вільні на ўваходзе ў будынак Першай Віленскай беларускай гімназіі — выкладчыка Максіма Гарэцкага і яго вучаніцы Наталлі Арсенневай. Тады я часта наведваў яго майстэрню, мы вялі вельмі цікавыя размовы, а потым разам ездзілі на адкрыццё дошак у Вільню. Потым я звярнуўся да А. Шатэрніка зрабіць мемарыяльную дошку

[1] Тэрмапілы. — 2014. — № 18.

майму бацьку акадэміку Гаўрылу Гарэцкаму. Цяпер яна вісіць на будынку Інстытута геахіміі і геафізікі НАН Беларусі. Побач таксама зробленая А. Шатэрнікам дошка ў гонар акадэміка Аляксандра Сямёнавіча Махнача. Ён жа намаляваў яго партрэт, які ўпісаўся ў галерэю выдатных геолагаў Беларусі — членаў Акадэміі навук, якая ўпрыгожвае залу пасяджэнняў Інстытута. А. С. Шатэтнік зрабіў дошку ў гонар выдатных вучоных Інстытута беларускай культуры, на якой у тым ліку выбіты прозвішчы Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх, а таксама роднага брата яго дзеда — Міколы Шатэрніка, вядомага беларускага мовазнаўца. Хацелі, каб гэтая мемарыяльная дошка была побач з дошкамі У. Ігнатоўскага і М. Гарэцкага на былым будынку Інбелкульта, дзе ў той час змяшчаўся Нацыянальны культурна-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны і наша Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», але дазволу не атрымалі. Мы тады яе адкрылі ў вестыбюлі нашага будынка. У далейшым дошка М. Гарэцкага была скрадзена, нашы грамадскія арганізацыі выкінуты разам з мемарыяльнымі дошкамі. Было жаданне зноў іх усталяваць да 90-годдзя стварэння Інбелкульта, але так і да сённяшняга дня дошкі пыляцца ў кладоўках.

Пасля адкрыцця выстаўкі я шчыра павіншаваў Алеся Шатэрніка з такой выдатнай падзеяй. Калі выйшлі мы з ім з ратушы, убачылі помнік Максіму Гарэцкаму, які нарэшце быў ужо вызвалены ад рамонтных матэрыялаў і добра выглядаў на фоне свежапафарбаванага будынку. Нам здалося, што пісьменнік усміхнуўся нам і шчыра падзякаваў нашаму выдатнаму скульптару і жывапісцу за яго пільную працу на шляху нацыянальнага адраджэння.

*2013*

## Прыемнасць

Кіраўнік дзяржавы ў жніўні 2013 г. выдаў загад, каб за рыбалку і паляванне, якімі займаецца вялікая колькасць аматараў гэтага віду адпачынку, трэба плаціць грошы, бо «за ўсякую прыемнасць трэба плаціць». А што рабіць тым, хто сваю работу, якая прыйшлася ім па душы і сапраўднай схільнасці, таксама лічыць яе прыемнасцю?

*2013*

## Свінскія адносіны да свінячай чумы

Пра свінячую чуму і пагалоўнае знішчэнне ўсіх свінак у некаторых мясцінах Беларусі, што часта рабілася прадстаўнікамі нашага чынавенства раптоўна, груба, а нярэдка проста па-хамску, яшчэ ў чэрвені ў газеце «Народная Воля» напісала Святлана Калінкіна. Нашы ўлады пра бяду са свінячай чумой доўгі час «хранили гордое молчание», і вось ужо ў жніўні, калі праблема стала велізарнай і вырасла да агульнадзяржаўнай (хаця гэта відавочна было ўжо даўно), уладны гаспадар сабраў кіраўнікоў губерній і іншае начальства і пачаў казаць прыблізна тое ж, пра што раней пісала С. Калінкіна, агучваючы страшную бяду, якая навалілася на жыхароў краіны. Але ў канцы ўсё ж дадаў, што некаторыя СМІ з «пятай калоны» падымаюць паніку і сказаў так, як быццам ледзь не яны вінаваты ў гэтай з'яве. Усё ж трэба не толькі ганьбіць апазіцыю і яе СМІ, але і прыслухоўвацца, бо менавіта яны першыя бачаць тыя недахопы, якія з'явіліся ў краіне (яны больш незалежныя і таму больш смелыя).

*2013*

# Сумная вестка[1]

Адна мая супрацоўніца 14 верасня патэлефанавала мне на мабільнік і паведаміла сумную вестку: памёр бацька Міхася Нагорнага. Пачуўшы, што я вельмі засмуціўся, яна пачала супакойваць мяне: «Да, ведаеце, ён жа ўжо быў зусім стары, знямоглы, ледзь рухаўся…» А я пра сябе падумаў: «Стары, вядома, не малады, але ён маладзейшы мяне на 40 дзён. Які ж я?»

Я адразу патэлефанаваў Міхасю Нагорнаму, які ўжо пару месяцаў пераехаў на сталае жыхарства ў сваю родную вёску Астраўкі на Нёманшчыне, дзе і жыў разам з бацькам. Міхась — адзін з самых здольных і сур'ёзных маіх вучняў, які выдатна працаваў над шэрагам праблем тэктонікі і ўжо завяршаў напісанне доктарскай дысертацыі. Але з'явіліся значныя цяжкасці са зрокам, які вельмі хутка пачаў пагаршацца. Ён вымушаны пайсці з нашага інстытута і ў апошнія гады працаваў дацэнтам у Інстытуце спорту і турызму, дзе выкладаў некалькі прадметаў па прыродазнаўстве, рэлігіі і інш. Да свайго 60-годдзя зусім страціў зрок, атрымаў пенсію і з'ехаў у вёску.

Яго бацька Анатоль Нагорны, як і маці Міхася, выдатны настаўнік, які ўсё жыццё прапрацаваў у вясковай школе, вельмі інтэлігентны, добразычлівы чалавек, які ўсіх людзей любіў і якога ўсе таксама любілі і ставіліся да яго з павагай. Я яго трохі ведаў, ён мне падабаўся, і мы заўсёды праз Міхася перадавалі адзін аднаму прывітанні і пажаданні ўсяго найлепшага. Да слёз было шкада Міхася…

Я адразу дазваніўся да Міхася, выказаў яму шчырае спачуванне і падтрымку. Ён мне бадзёрым голасам мужнага чалавека паведаміў: *«Бацька памёр яшчэ 9 верасня і яго ўжо пахавалі, зрабіўшы магілку побач з матчынай. Апошні год ён вельмі саслабеў, хадзіў з цяжкасцю, абапіраючыся на кіёк. З часам слабасць павялічвалася, гублялася цікавасць да ўсяго (а ён заўсёды цікавіўся многім — сачыў за жыццём вёскі, усім*

[1] Тэрмапілы. — 2014. — № 18.

*шмат дапамагаў, чытаў газеты, кнігі, глядзеў тэлебачанне, ведаў усе навіны), вочы зусім патухлі і не свяціліся, як раней. Не хварэў. Тыдзень правёў у бальніцы, дзе стараліся яго падмацаваць рознымі кропельніцамі, але ён усё слабеў, хаця розум не губляў, забралі яго дахаты, дзе ён яшчэ дзень пражыў, а раніцаю памёр. Проста ён вычарпаў усе дадзеныя яму ад Бога жыццёвыя сілы, спакойна без якіх-небудзь пакут пакінуў гэты свет і перайшоў у іншы. Ён пражыў добрае сумленнае жыццё.*

*Я жыву нармальна адзін у вялікай хаце. Сам сабе гатую ежу і раблю гэта някепска. Слухаю радыё, па прыёмніку лаўлю розныя каналы. Успамінаю прачытанае і пабачанае раней. Шмат прагульваюся, раблю кожны дзень па 10–15 км па знаёмых з дзяцінства сцежках, а наша прыгожае наваколле, хаця зараз і не бачу, але яскрава ўяўляю яго, як і раней. Шкада, безумоўна, што застаўся без бацькі, але супраць законаў жыцця нічога не зробіш, і рад, што ён адышоў так ціха, без пакут. Я задаволены і не скарджуся на свой лёс».*

Мне было вельмі сумна, але падтрымлівала думка, што яшчэ не згубіў жыццёвыя сілы. У гэты ж дзень я змог за рулём свайго старога жыгулёнка прыехаць з жонкай на дачу, з дапамогай бензапілы зваліць у лесе дзве нятоўстыя сасны і распілаваць іх, а на наступны дзень пакалоць на дровы, увечары з прыемнасцю папарыцца ў парыльні і ціха пасядзець каля каміна, гледзячы на полымя і думаючы пра жыццё і лёсы людзей…

*2013*

## «І самы светлы талент — дабрыня»[1]

*(Да 100-годдзя з дня нараджэння Сяргея Грахоўскага)*

25 верасня 2013 г. споўнілася 100 гадоў выдатнаму беларускаму паэту, празаіку, публіцысту, перакладчыку Сяргею Грахоўскаму, які належаў да той плеяды лепшых сыноў і дачок беларускай інтэлігенцыі, якія за беззапаветную любоў і адда-

---

[1] Тэрмапілы. — 2014. — № 18.

насць Бацькаўшчыне ў 30–40-я гады мінулага стагоддзя былі арыштаваны. Ён быў адарваны ад сваёй Радзімы на 20 гадоў і, цудам застаўшыся жывым, вярнуўся ў любімую краіну, не азлобіўся, захаваў вялікую дабрыню да людзей, якім аддаваў усю шчырую праўдзівую нязгубленую літаратурную творчасць у шматлікіх вершах, публіцыстыцы, дакументальнай прозе. Сяргей Іванавіч і яго самаахвярная прыгожая жонка Валянціна Міхайлаўна выклікалі ва ўсіх сардэчную сімпатыю сваёй добразычлівасцю, жыццялюбствам, гасціннасцю і шчырымі адносінамі адзін да аднаго. С. Грахоўскі цікавіўся ўсім, што рабілася ў свеце і асабліва ў Беларусі, блізка да сэрца прымаў усе падзеі. Лёсы сем'яў Грахоўскіх і Гарэцкіх былі блізкімі, і таму Сяргей Іванавіч і мой Тата Гаўрыла Іванавіч, характары якіх таксама пераклікаліся, ставіліся адзін да аднаго па-сяброўску і з вялікай павагай.

Я досыць часта сустракаўся з Сяргеем Іванавічам на розных літаратурных вечарах, з прыемнасцю слухаў яго выступленні, якія заўсёды былі вельмі эмацыйнымі, шчырымі і змястоўнымі. Больш часта мы сталі з ім сустракацца і размаўляць не толькі на афіцыйных вечарах і імпрэзах, але і проста ў час прагулак (тым больш, што жылі мы недалёка — ён на вул. Чырвонай, я — на вул. Кульман), пасля таго, як я выступіў у Саюзе пісьменнікаў на хвалюючую ўсіх тэму Чарнобыльскай катастрофы і экалагічнай сітуацыі ў краіне. Я тады атрымаў ад С. Грахоўскага наступны ліст ад 1.X.86:

*«Паважаны Радзім Гаўрылавіч! Захоплена слухаў учора ў Саюзе пісьменнікаў Ваша ўсхваляванае і трывожнае выступленне. Пад яго ўражаннем і сёння. Яно сугучна маім цяперашнім і даўнім думкам.*

*У 1975 годзе я паспрабаваў іх выказаць у невялічкай публіцыстычнай паэме "Трывожны маналог Зямлі".*

*Пасля некаторых ваганняў адважыўся паслаць Вам сваю даўнюю кніжку, каб Вы, калі будзе час і настрой, адгарнулі 131 старонку і прачыталі 200 радкоў маіх дачарнобыльскіх трывог.*

*З удзячнасцю за палымянае слова і найлепшымі пажаданнямі*

*Сяргей Грахоўскі».*

Атрымаў кнігу «Зачараванасць» (1978) з цёплым надпісам: *«Паважанаму Радзіму Гарэцкаму з пажаданнем творчых глыбінь, вялікіх навуковых здабыткаў і самага светлага шчасця. Сяргей Грахоўскі».* З цікавасцю прачытаў цудоўныя лірычныя вершы паэта і асабліва ўважліва на 131 старонцы «Трывожны маналог Зямлі», які быў поўнасцю сугучны майму выступленню і адчуванням. Верш заканчваўся такімі радкамі:

З агнём не гуляйце,
Дарослыя дзеці,
Каб часам, як той метэор,
Не згарэць.

Мы з Сяргеем Іванавічам пасябравалі, сталі перазвоньвацца, яшчэ больш часта прагульвацца, перапісвацца. Частка лістоў у мяне захавалася, некаторыя з якіх я хачу далей прывесці. Я тады дасканала ўбачыў наколькі Сяргей Іванавіч добразычлівы, рады чым-небудзь дапамагчы, незлабівы, поўны любові да людзей і асабліва да сваіх сяброў і родных. Ён быў настолькі чуллівы, што нярэдка на яго вачах з’яўляліся слёзы. Гэтыя рысы прыцягвалі людзей да яго, бо шчырая дабрыня саграває сэрца чалавека. Мне таксама вельмі блізкімі і прыемнымі былі якасці яго душы, а таксама яго эрудыцыя, разумныя размовы пра мінулае, сучаснае і будучае роднай Беларусі, якой ён поўнасцю быў адданы. У той жа час ён, як многія беларусы, быў вельмі ранімы і крыўдлівы, таму перажываў за няўважлівае слова каго-небудзь, жаліўся за некаторыя паводзіны сына… Вельмі любіў сваю дачушку Таццяну Сяргееўну, заўсёды хваліў і ганарыўся ёю. Дапамагаў ёй насіць бялізну ў пральню на вул. Кульман, дзе і пазнаёміўся з маёй жонкай.

Вось два яго лісты з віншаваннямі на Новы 1993 і 1996 гады:

*«Дарагі Радзім Гаўрылавіч!*

*Узрадавала, усцешыла і расчуліла Ваша віншаванне, шчодрыя пажаданні і добрае слова пра мае намаганні ў літаратуры і ў справе адраджэння Свядомасці народа. Ваша ацэнка — найвялікшая для мяне радасць. Дзякую!*

*Шчасця ўсім Гарэцкім на доўгі век!*

*Ваш С. Грахўскі».*

*«Дарагія, шаноўныя, незабыўныя Галіна Рыгораўна, Радзім Гаўрылавіч і ўсе Вашыя слаўныя сямейнікі! Жадаю ўсім Вам у Новым годзе па дарозе ў блізкае наступнае стагоддзе толькі дабра, дужасці, мужнасці, творчага імпэту, здзяйснення самых светлых спадзяванняў. Шчасця, шчасця і шчасця Вам.*

*Крануты і ўдзячны за ўвагу*

*Сяргей Грахоўскі».*

У гэты час С. Грахоўскі стаў яшчэ больш перажываць за лёс Беларусі, за яе незалежнасць, беларускасць, узніклі сумныя пачуцці пра вартасць сваёй творчасці, сумненне пра яе ўздзеянне на грамадскасць. Такі песімістычны настрой, мусіць, адбыўся і ад таго, што ён трапіў пад кола аўтамашыны… Аб усіх упамянутых падзеях Сяргей Іванавіч пісаў мне ў лісце ад 22.XI.93:

*«Дарагі і шаноўны Радзім Гаўрылавіч!*

*Літасціва даруйце маё доўгае маўчанне. Ваш шчыры ліст, шчодрыя пажаданні і добрае слова пра мае кніжкі прынеслі мне вялізную радасць у бальніцу, каб я ачуняў і акрыяў. Вялікі Вам дзякуй, што ведаеце, чытаеце і памятаеце мяне. Вельмі рады, што ў агульнай пральні выпадкова пазнаёміўся з Вашаю мілаю жонкаю, яна ўсцешыла мяне жывою моваю, іскрыстаю ўсмешкаю, добрым словам. Прывітанне ёй і найлепшыя пажаданні.*

*Ад стэрэатыпнага і сумнага вечара ў Саюзе я і на гэты раз адмовіўся, але было шмат цікавых і хвалюючых сустрэч з сапраўднымі чытачамі і шчырымі прыхільнікамі.*

*А 15 кастрычніка я ледзь не загінуў пад коламі машыны на нейтральным квадраце пешаходнага перахода. Але Бог, відаць, яшчэ злітаваўся і пакінуў мяне на далейшыя пакуты на гэтым свеце. Цяпер акрыяў. Спрабую нешта рабіць. Толькі каму патрэбна мая работа?*

*Ваш ліст сагрэў маю душу, узрадавалі прывітанні ад усіх Гарэцкіх — гэтай велічнай і святой дынастыі.*

*Слава Вам і шчасця на доўгі век на карысць Радзімы! Толькі ці будзе яна калі вольнай, незалежнай і беларускамоўнай?*

*З глыбокай пашанаю і ўдзячнасцю*

*Ваш Сяргей Грахоўскі».*

У 1998 г. з друку выйшла мая кніга «Ахвярую сваім “Я”…» (Максім і Гаўрыла Гарэцкія)», якую я пераслаў С. Грахоўскаму да яго 85-годдзя. Хутка ён мне ў лісце ад 26.Х.98 напісаў:

*«Дарагі і шаноўны Радзім Гаўрылавіч!*

*Спадзяюся, што Вы ўжо вярнуліся з далёкіх падарожжаў і наважыўся Вам шчыра-шчыра падзякаваць за ўвагу, шчодрыя пажаданні да маёй невясёлай даты і асабліва за такі дарагі падарунак. Шчырая і праўдзівая, смелая і сумленная кніга пра гонар беларускай зямлі і народа радавод найслаўнейшых Гарэцкіх. Глытаю яе водар і горыч не адразу, а калі зрок затуманіць сляза, адкладаю на заўтра, на другі дзень. Рэдкія і каштоўнейшыя здымкі ўваскрашаюць мінулае, светлыя воблікі слаўнага роду і яго незвычайнага прадаўжальніка — аўтара кнігі, які і цяпер ахвяруе сваім Я.*

*Дзякую, дзякую, дзякую і жадаю ўсяму роду Гарэцкіх доўгага і светлага шчасця.*

*Кланяюся Галіне Рыгораўне і ўсёй Вашай сям’і.*

*Шчыра ўдзячны*

*Сяргей Грахоўскі».*

14 студзеня 2000 г. у музеі Янкі Купалы адзначалі 80-годдзе Міколы Аўрамчыка, і мы атрымалі цудоўны падарунак ад Сяргея Іванавіча: «Выбраныя творы ў двух тамах» (1973) і «Споведзь» (1990). На апошняй надпіс: «Дарагім Галіне Рыгораўне і Радзіму Гаўрылавічу і ўсёй славутай дынастыі Гарэцкіх на доўгае шчасце. Сяргей Грахоўскі (паспавядаўся) 14.I.2000. Музей Купалы». Гэтая кніга на мяне зрабіла асабліва моцнае ўражанне, бо ўсё ў ёй мне, як сыну «ворага народа», было вельмі блізка, зразумела. Мой Тата стараўся не ўспамінаць тыя жудасныя гады ГУЛАГу, бо яму гэта было невыносна балюча і цяжка, хаця забыць той час ён не мог, а асобныя моманты ўсё роўна з'яўляліся яму ў сне і тады страшныя стогны будзілі родных… Каб не бударажыць душу, не «сыпаць соль на раны», ён пазбягаў гамонак на гэтую тэму. Колькі я не пытаўся пра мінулае, колькі не прасіў напісаць успаміны, ён адмаўляўся. Таму я здзівіўся мужнасці, нават подзвігу С. Грахоўскага напісаць усю праўду пра свой пакутніцкі шлях, падзяліўшы *«горкі лёс з мільёнамі нявольнікаў, заплямленых страшэнным таўрам 58-й пробы»*. Далей пісьменнік у слове да «Споведзі» дае ёмістую характарыстыку таго часу і тлумачыць, чаму вырашыў напісаць праўду пра яго. *«Усё наваколле ад небасхілу да небасхілу патанала ў змроку хлусні і казённай патэтыкі, бравурныя маршы і гучныя рапарты заглушалі людскі стогн, плач і зладзейскія стрэлы ў патыліцы сумленнейшых сыноў народа. […] Я бачыў усё і ўсё перажыў. Лёс злітаваўся і наканаваў мне жывым выйсці з пекла і стаць Сведкаю на Судзе Гісторыі. […] Памятаю ўсё да драбніц і клянуся кожным словам, кожным радком гаварыць толькі праўду, каб ведалі людзі і ніколі не далі сябе ашукаць прыгожай хлуснёй і д'ябальскім каварствам. Сведчу, каб нашы нашчадкі спазналі сапраўдную волю, роўнасць і шчасце на роднай акрыялай і расквітнелай зямлі»*.

Амаль праз тры гады 11 снежня 2002 г. Сяргей Грахоўскі памёр — яму было 89 гадоў. Нам пазваніла Таццяна Сяргееўна (трубку падняла Галя) і сказала, што перад смерцю

бацька прасіў, калі ён памрэ, пазваніць Гарэцкаму. 13 снежня ў вестыбюлі другога паверха Дома літаратара, які поўнасцю запоўніўся людзьмі (прыблізна каля 200 чал.) адбылося развітанне. Вядучы Анатоль Кудравец даў слова Янку Брылю, Нілу Гілевічу, Валянціну Тарасу, Генадзю Бураўкіну, Алесю Пашкевічу. Прапанаваў выступіць і мне, але я так расхваляваўся ад болю згубы, што не змог…

Стагоддзе Сяргея Грахоўскага адзначылі ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа 26 верасня 2013 г. Юбілейную сустрэчу арганізавалі Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры і Аддзел рэдкай кнігі і рукапісаў ЦНБ. Апошні зрабіў выставу з кніг, рукапісаў, дакументаў, фотаздымкаў паэта. Вельмі ўдала імпрэзу вяла Вольга Барысаўна Гулева. Таццяна Сяргееўна падзялілася ўспамінамі пра бацьку, яго жыццё і дзейнасць, паведаміла пра яе выдатную справу па захаванні спадчыны паэта: выданне шэрагу яго твораў, у тым ліку «Выбраныя» у славутай серыі «Кнігазбору». Дзякуючы яе намаганням пазней была адкрыта мемарыяльная дошка на будынку, дзе знаходзіцца яго кватэра. Белпошта выпусціла канверт да 100-годдзя з дня нараджэння С. Грахоўскага.

Шмат выступоўцаў вельмі цёпла ўспаміналі Сяргея Іванавіча, у тым ліку Анатоль Вярцінскі, Генадзь Бураўкін, Раіса Баравікова, і светлы вобраз гэтага таленавітага пісьменніка і цудоўнага чалавека ўяўляецца ўсё больш моцна і яскрава. Я таксама ўзяў слова і перадаў Таццяне Сяргееўне лісты Сяргея Іванавіча да мяне — такія дарагія сведкі былых дзён нашага сяброўства…

*2013*

# Віншаванне[1]

30 верасня Нілу Гілевічу споўнілася 82 гады, з чым яго па тэлефоне сардэчна павіншаваў. Некалькі дзён раней сустрэўся з Анатолем Вярцінскім. Дамовіліся наведаць Ніла 1 кастрычніка, каб адзначыць разам яго дзень нараджэння, але ўжо на наступны дзень, калі супакояцца тэлефонны бум віншаванняў. На жаль, атрымалася так, што ніяк не змаглі састыкавацца па часе: то Анатоль Ільіч заняты, то я не магу тады, калі ў яго выдаваўся вольны час дзеля наведвання. У сярэдзіне дня я апынуўся недалёка ад будынка, дзе жыве імяніннік, і, купіўшы вялікую белую ружу, вырашыў заглянуць да яго.

Ніл Сымонавіч быў не адзін. Насустрач паднялася маладая пара. Я адразу іх пазнаў. Не паспеў Ніл Гілевіч сказаць: «Пазнаёмцеся — Зміцер Дашкевіч і Наста Палажанка», як я ўжо абдымаў маіх даўніх знаёмых. Наста адразу з гонарам і радасцю адклікнулася: «Няма ўжо Палажанкі, ёсць толькі Наста Дашкевіч, а дакладней — Зміцер і Наста Дашкевічы». Вельмі прыемна было ўбачыць Зміцера, якога зусім нядаўна вызвалілі з няволі, разам са сваёй любай прыгожай Настай. Ён быў яшчэ бледны, схуднелы, на твары адчуваліся нейкія турэмныя фарбы, але вочы свяціліся воляй, каханнем і шчасцем, нягледзячы на тое, што ён па-мужчынску стараўся выглядаць спакойным, цвёрдым і стрыманым. Наста ж, наадварот, не хавала сваіх моцных эмоцый, наскрозь свяцілася шчасцем, старалася як мага наблізіцца да свайго любага, глядзела на яго закаханымі вачыма. За ўвесь час амаль трохгадзіннай размовы нашы маладыя трымаліся за рукі, не маючы сіл хоць на хвіліну адарвацца адно ад аднаго.

Нам вельмі прыемна было бачыць гэтых сімпатычных, мужных і разумных маладых людзей, якія так шчыра адданы беларушчыне і прыкладаюць усе сілы дзеля росквіту сваёй Бацькаўшчыны. Узрушаны прысутнасцю Дашкевічаў, Ніл

[1] Тэрмапілы. — 2014. — № 18.

Гілевіч натхнёна чытаў свае ранейшыя вершы, прысвечаныя Зміцеру і Насце. Памаладзелы паэт моцным жывым голасам чытаў і многія іншыя свае вершы, якія падыходзілі да тэмы нашай размовы, шмат успамінаў пра сябе і сваё змаганне за Беларусь. За цікавай, блізкай нам усім гамонкай непрыкметна праляцелі некалькі гадзін. Чакалі Анатоля Вярцінскага, які павінен вось-вось прыйсці, але трэба было ўжо развітацца. Я яшчэ раз павіншаваў Ніла Сымонавіча з днём нараджэння, Дашкевічаў — са шлюбам, вольным жыццём. Усім пажадаў любові, кахання, творчасці. Сэрца маё стукала: «Няхай усім траім жыццё і лёс шчасціць…»

*2013*

## Дачакаліся прызначэння[1]

НАН Беларусі пабіла рэкорд: ужо год працуе без кіраўніка. Начальніку ўладаў Беларусі было не да навукі, бо з яго погляду шмат накапілася значна больш тэрміновых праблем… Да таго ж паступілі такія розныя прапановы: з аднаго боку, ліст прэм'ер-міністра М. Мясніковіча аб ліквідацыі сучаснай акадэміі і Дзяржаўнага камітэта па навуцы і тэхналогіям і стварэнні па іншых мерках новай аб'яднанай яшчэ больш паслухмянай акадэміі, а з другога — выступленне навукоўцаў, у тым ліку і шэрагу акадэмікаў, з зусім адваротнымі напрамкамі па рэфармаванні навукі. Я таксама прыняў удзел у абмеркаванні стану і далейшага лёсу беларускай навукі, надрукаваўшы ў «Народнай Волі» ад 14 чэрвеня 2013 г. артыкул «Дыктат і навука — рэчы несумяшчальныя!» А тут яшчэ не зусім зразумелыя рэформы ў Расійскай акадэміі навук.

Вось так і год прайшоў… Раптам 15 кастрычніка 2013 г. па тэлебачанні нарэшце пачулі рашэнне: як ні дзіўна, але прапановы прэм'ер-міністра праляцелі міма, а шэраг меркаванняў

[1] Тэрмапілы. — 2014. — № 18.

акадэмікаў былі ўлічаны. Відаць, кіраўнік дзяржавы сочыць за артыкуламі незалежнай прэсы — яго выступленне выклікала такое ўражанне, што ён як бы адказваў на пытанні акадэмікаў. Самае галоўнае — НАН Беларусі быць! Таксама будзе захаваны і Дзяржкамітэт па навуцы і тэхналогіям. Адказваючы на думку вучоных, што неабходны выбары, а не прызначэнне, ён падкрэсліў, што можа быць так і трэба, але лічыць, што *«я это делаю для того, чтобы приблизить академию наук к жизни, [...] чтобы это было некое второе научное правительство, которое бы вместе с экономическим блоком Правительства и Правительством в целом работало на страну»*. Вучоныя ўвесь час прапанавалі, каб на чале Акадэміі навук быў прафесіянал, а не проста чыноўнік. Я ў інтэрв'ю карэспандэнту газеты «Народная Воля» ад 13 верасня нават адказаў, што з усіх кандыдытур, якія абмяркоўваюцца ў кулуарах, самы добры варыянт акадэмік Уладзімір Гусакоў, толькі каб не прызначылі «былога старшыню аблвыканкама ці якога міністра ваенных спраў, каб строем хадзілі…» Кіраўнік дзяржавы згадзіўся, што будзе больш правільным, калі Акадэмію навук узначаліць чалавек не з боку, а ад вучоных. *«Это был мой выбор [...] чтобы они не думали, что мы тут подбираем чисто своих людей и толкаем их»*. Ён абяцаў, што НАН Беларусі стане яшчэ больш самастойнай. *«Вы подотчётны Президенту, и я не очень-то вмешиваюсь в ваши дела»*. Ён патрабаваў, каб да лістапада склалі «Праграму развіцця НАН Беларусі», якую абмяркуем на нарадзе з вядучымі вучонымі краіны. *«Мы проведём это совещание, чтобы учёные понимали, что от них будет требоваться в обозримом будущем [...], какие проблемные вопросы сегодня есть, какие из них должно решать государство, правительство, а какие вопросы — сама Академия и учёные»*. Ён зноў падкрэсліў, што арыентуе НАН Беларусі на ўзмацненне практычнай накіраванасці навуковых даследаванняў.

Будзем спадзявацца, што пасля ўсіх гэтых падзей у НАН Беларусі застануцца не толькі практычныя напрамкі, але і

фундаментальныя. Ці зможа новы старшыня Прэзідыума НАН Беларусі, які, на жаль, занадта падатлівы начальству, супрацьстаяць часта не зусім разумным загадам уладаў.

*2013*

## «Найноўшая гісторыя ў асобах»[1]

9 лістапада 2013 вядомаму журналісту Аляксандру Тамковічу споўнілася 50 гадоў, а 19 лістапада ў памяшканні «Галерэі Ў» адбылася прэзентацыя яго кнігі «Найноўшая гісторыя ў асобах». Калі Беларусь стала суверэннай дзяржавай, Аляксандр Леанідавіч адразу пачаў працаваць у незалежнай журналістыцы. У апошнія сем-восем гадоў ён знайшоў цудоўную багатую «жылу», якую пачаў апрацоўваць з вялікім імпэтам. Гэта — захапляльныя інтэрв'ю з вядомымі асобамі, якія паўставалі не фармальнымі дзеячамі, а жывымі людзьмі часта нават з нечаканага боку. За гэты час А. Тамковіч размаўляў з больш за 350 чалавек і выдаў ужо 20 кніг. Апрача таго ён рэгулярна друкуе цікавыя артыкулы, адгукаючыся на розныя падзеі сучаснага жыцця, у шэрагу газет, асабліва ў «Новым Часе» і «Свабодные новости плюс». Такая пільная дзейнасць узняла сп. Аляксандра ў юбілейны год пяцідзесяцігоддзя на самы пік журналісцкага алімпу. Дарэчы хачу адзначыць, што да працы над сваім «кніжным праектам» А. Тамковіч амаль зусім не размаўляў на беларускай мове. Дасканалае авалоданне роднай мовай дапамагала яму бліскуча выканаць задуманае, бо яно стала «не камерцыйным, а заняткам для душы». Роднае слова не толькі дапамагае, але ўмацоўвае і лечыць духоўна і фізічна. Як адзначыў сам аўтар кнігі «Найноўшая гісторыя ў асобах»: *«...асноўная цяжкасць пры напісанні гэтай кнігі для мяне была ў тым, каб адабраць менавіта 100 герояў, таму што тых, хто робіць гісторыю, на самай справе значна больш».*

---

[1] Тэрмапілы. — 2014. — № 18.

Значыць трэба пажадаць юбіляру выдаць другі том «Найноўшай гісторыі ў асобах», а для гэтага доўгі час не сыходзіць з «кірмашу» публіцыстычна-літаратурнага алімпу, не губляць выдатную апантанасць да любімай працы і выдаць яшчэ многа цікавых кніг.

Прэзентацыя кнігі прайшла вельмі добра. Зала была перапоўнена. Прыемна было бачыць і жонку Тамковіча — сімпатычную спадарыню Ірыну, якая дапамагае яму ў творчасці і якой ён прысвяціў гэтую кнігу. Цікава было глядзець на многіх «герояў» кнігі, якіх аўтар змог сабраць у адной зале. Гэта вядомыя палітыкі, літаратары, мастакі і інш. Усіх іх можна лічыць аднадумцамі, у сэнсе іх імкнення да стварэння дэмакратычнай суверэннай заможнай Беларусі. Многія шчыра выступалі і аднадушна адзначылі выдатную працу юбіляра і жадалі яму далейшых творчых поспехаў. Імпрэзу вёў журналіст Валер Каліноўскі, які задаваў выступоўцам розныя, часам неспадзяваныя пытанні. Цікавыя звесткі пра выступоўцаў з кнігі выразным дыктарскім голасам чытала мілая Зінаіда Бандарэнка. Прыўзнятай юбілейна-радаснай атмасферы другі раз мне перашкаджала думка: «Чаму такія выдатныя разумныя людзі, якія сядзяць у зале, не могуць вось так жа дружна аб'яднацца, загасіўшы свае амбіцыі і дробныя разыходжанні, дзеля змагання за пабудову сапраўды дэмакратычнай незалежнай Беларусі?»

*2013*

## «Лісты жыцця і кахання»[1]

Калі ў 1988 г. памёр мой Тата, а праз амаль 5 гадоў назаўсёды пакінула мяне і мая Маці, я з часам пачаў прыводзіць у парадак іх шматлікую перапіску, сярод якой знайшоў два своеасаблівыя лісты, напісаныя алоўкам дробнымі-драбню-

[1] Тэрмапілы. — 2014. — № 18.

сенькімі літарамі на маленечкіх лісточках для цыгарак. Яны былі напісаны ў ліпені 1938 г. з турмы пасёлка Мядзведжая Гара — цэнтра Беламорска-Балтыйскага камбіната, дзе мы тады жылі. Гэта быў самы цяжкі арышт працягласцю больш за год, слава Богу апошні ў татавым жыцці. Я ўспомніў тыя часы, калі мы з братам убачылі Тату ў жудасным стане — апухлы, схуднелы, ледзь рухаўся. Здзекамі, голадам, катаваннем вязняў даводзілі да самагубства. Да гэтага часу не-не ды раптоўна ўсплывае ў мяне тая неверагодна страшная карціна. Наша шчасце, што Тата вытрымаў і не скарыстаў лязо, якое па яго просьбе перадала яму Мама. Пераадолець тыя пакуты ў значнай ступені Гаўрылу Гарэцкаму дапамагло Вялікае Каханне, якое ўвесь час жыло ў яго сэрцы да сваёй адзінай любай жанчыны, нашай Мамы.

У газеце «Літаратура і мастацтва» 16 лістапада 2001 г. я надрукаваў той ліст пад назвай «Ліст з турмы пра каханне». Алесь Пісьмянкоў, тагачасны рэдактар «ЛіМ», сказаў: «Гэта песня песняў».

Публікацыя вельмі ўразіла аднаго з кіраўнікоў музея Вялікай Айчынай вайны Наталлю Іосіфаўну Філіповіч. Яна, узрушаная лістом, патэлефанавала мне і вельмі прасіла перадаць іх разам з некаторымі лістамі часоў вайны ў іх музей, асабліва ў сувязі з тым, што яны рыхтуюць у хуткім часе адпаведную выставу. Я тады перадаў адзін самы вялікі ліст, напісаны на абодвух баках некалькіх дзясяткаў папіросных паперак. Таксама дадаў 19 негатываў фотаздымкаў розных гадоў, 15 фота з хатняга архіва Гарэцкіх; некалькі кніг, часопіс «Маладосць», 35 карталюшак і лістоў, якія былі пасланы ў час Другой сусветнай вайны Татам, маім братам і мной.

Яшчэ ў 2001 г. я ў «Жыццёвым меланжу» зноў згадаў пра тое Вялікае Каханне, якое было ў маіх бацькоў і пра якое можна прачытаць у іх лістах. З таго часу я меў намер напісаць кніжачку «Лісты жыцця і кахання», хаця ўвесь час хістаўся, ці выпадае выкладаць на шырокі свет выключна асабістае і інтымнае

пачуццё, але ўсё ж асмеліўся. Спачатку імкнуўся здзейсніць гэта да 110-годдзя Таты (2010), пазней — да 110-годдзя Мамы (2012), але розныя справы і недахоп часу ўсё перашкаджалі. Нарэшце, цвёрда вырашыў выканаць сваю задуму да 90-годдзя пачатку жыцця бацькоў разам, жыцця складанага і нялёгкага, але шчаслівага, дзякуючы вечнаму нязгаснаму Каханню. Тым больш, што 2013 год — год 25-годдзя адыходу Таты з зямнога жыцця і 20-годдзя — Мамы, калі іх душы зноў аб'ядналіся ў тым, як спадзяюцца людзі, лепшым свеце.

У пачатку 2013 г. я аддаў рукапіс тэксту і падбор фотаздымкаў у рукі выдатнага рэдактара Зміцера Санько ў выдавецтва «Тэхналогія». У прадмове я патлумачыў, чаму я ўсё ж адважыўся выдрукаваць гэтыя лісты. Яны *«...спалучаюцца не толькі з іншымі праявамі жыцця, але і з грамадзянскай сітуацыяй у краіне. Таму гэтыя лісты будуць цікавыя і для разумення розных бакоў тагачаснага жыцця»*, — і самае галоўнае — *«гэтую кнігу мне хацелася адрасаваць нашаму маладому пакаленню, каб зноў нагадаць пра важнасць і сур'ёзнасць такога вызначальнага пачуцця ў жыцці чалавека, як вялікае каханне, якое грунтуецца не толькі на фізічным імкненні да цялеснага паяднання з каханым чалавекам, але і на духоўным, бо менавіта апошняе дазволіць у першую чаргу захаваць і нават узмацніць гэтае цудоўнае пачуццё да канца жыцця»*. Хацелася б пажадаць, каб значна больш людзей пашчасціла перажыць такое сапраўднае каханне.

Анатоль Вярцінскі ў газеце «Новы Час». «Літаратурная Беларусь» (выпуск № 12, 20 снежня 2013) адгукнуўся на кнігу «Лісты жыцця і кахання» шчырым эсэ «Гурык піша Ларуце…» Ён з цеплынёй і нават захапленнем адзначае: *«Так, пад знакам Вялікага Кахання, пад светлаю Зоркай Венерай Гурык піша Ларуце, Ларута (Лара) піша Гурыку. Так яны адзін аднаго завуць, так яны адзін да аднаго звяртаюцца. З адпаведнымі, вядома ж, эпітэтамі, са словамі незвычайнай пачуццёвай моцы і духоўнай красы…*

*Колькі гадоў таму выходзіла вялікім накладам, расхоплівалася ў кнігарнях і з захапленнем, памятаю, чыталася кніга "Что движет солнце и ветрила?" з падзагалоўкам «Каханне ў лістах вялікіх людзей». Мушу сказаць, што многія з тых лістоў блякнуць у параўнанні з "лістамі жыцця і кахання". Асабліва не ў меру высакамоўныя, з завучанымі, шаблоннымі зваротамі — пачатковымі і развітальнымі. Блякнуць, цьмянеюць перад героямі кнігі, нашымі рэальнымі сучаснікамі з іх каханнем, іх учынкамі, іх лёсам усе гэтыя літаратурна-казачныя Трыстаны ды Ізольды, Русланы і Людмілы, Дафнісы і Хлоі...»*

***2013***

## Юбілейны выбух «Стральцоў»

Калі чалавек робіцца пажылым, яму здаецца, што час яго жыцця не проста ляціць, а імгненна знікае. Вось так і мне зусім нечакана час адлічыў 85 гадоў (7.XII.2013), а разам з маёй Галей (5.XII) — бо мы ўжо даўно адно цэлае — аж 150. Гэтая лічба дастаткова салідная. Мы пра яе нікому не нагадвалі і не рабілі які-небудзь афіцыйны юбілей, бо такое мерапрыемства ў мае гады нагадвае рэпетыцыю апошняга развітання... Але я быў прыемна здзіўлены, калі па тэлефоне, e-mail, тэлеграмамі, лістамі, адрасамі і падарункамі нас павіншавалі каля 150 чалавек з Беларусі і замежжа. Дзякуй усім, хто ўспомніў, шчыра сказаў добрыя словы, бо гэта сагравае сэрца. Асабліва радасна, калі адчуваеш, што віншаванне робіцца не па абавязку, а шчыра. Такіх было значная большасць.

Разам з намі, «стральцамі» па гараскопе, адзначылі юбілеі шэраг добрых нашых сяброў і знаёмых.

***Зінаідзе Якаўлеўне Мажэйка*** 6 снежня споўнілася 80 гадоў. У гэтым годзе выйшла вельмі змястоўная і добра аформленая кніга «Мажэйка Зінаіда Якаўлеўна: да 50-годдзя навуковай і творчай дзейнасці» (Мінск: Тэхналогія, 2013). Я ў свой юбілей атрымаў гэтую кнігу з такім надпісам: *«Шаноўнаму і вельмі*

*дарагому Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму з радасцю, што яшчэ ёсць каму пачытаць тое, што ўдалося зрабіць у “дазарэфармі-раванай” Акадэміі навук у галіне акадэмічнай этнамузыкалогіі. У год нашых стралецкіх юбілеяў. 7.07.2013»*.

Я даўно, яшчэ з часоў майго віцэ-прэзідэнства АН БССР, калі прыйшлося курыраваць гуманітарнае аддзяленне, сябрую з Зінаідай Мажэйка — унікальнай жанчынай, выдатным беларускім этнамузыколагам і этнакінематаграфістам і добразычлівым прыгожым чалавекам. У яе асобе перш-наперш захапляе яе адданасць любімай навуцы — этнамузыкалогіі, яе апантанасць не ведае межаў; па-другое — шматграннасць яе дзейнасці.

Разам з фундаментальнымі даследаваннямі Зінаіда Якаўлеўна шмат часу аддае практычнай фалькларыстыцы шляхам правядзення палявых даследаванняў і арганізацыі самабытных пеўчых гуртоў з аўтэнтычнай песняй, а таксама сумесна з прафесійнымі калектывамі Дзяржаўнай харавой капэлай і Дзяржаўным народным хорам. З. Мажэйка — сапраўдны этнакінематаграфіст, які ў складзе кіназдымачнай групы студыі «Беларусьфільм» стварыла ўнікальную па навуковай і мастацкай раўназначнасці серыю, пачынаючы з першага фільма «Палескія калядкі» (1972), і заканчваючы сёмым «Рух Зямлі» (1999). Зінаіда Якаўлеўна шмат гадоў шчыльна супрацоўнічала з «Беларускай энцыклапедыяй», у прыватнасці з Янкам Саламевічам. Таксама вядома яе выдатная педагагічная дзейнасць, што дазволіла стварыць знакамітую школу беларускіх этнамузыколагаў.

З. Мажэйка — аўтар 18 асабістых і калектыўных манаграфій («Песенная культура Белорусского Полесья. Село Тонеж» (1971); «Календарно-песенная культура Белоруссии: Опыт системно-топологического исследования» (1985); «Экология традиционной народно-музыкальной культуры Беларуси в свете социально-экологических проблем» (2011) і інш.), шматлікіх публікацый. Першую з пералічаных манаграфію яна абараніла як кандыдацкую дысертацыю, а другую — у якасці

доктарскай. Яна ўдзельніца многіх беларускіх і міжнародных творчых саюзаў і камісій. Выдатная дзейнасць З. Мажэйка, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, адзначана шэрагам міжнародных і айчынных прэмій (у тым ліку Прэміяй Саюза кампазітараў СССР імя акадэміка Б. Асафьева, Дзяржаўнай прэміяй Беларусі).

У кнізе «Белорусская этномузыкология: Очерки истории (XIX–XX вв.)», якая выйшла пад рэдакцыяй і ў суаўтарстве З. Я. Мажэйка ў 1997 г. прыведзены спецыяльны раздзел, прысвечаны фальклярыстычнай дзейнасці М. Гарэцкага. Тут дэталёва разгледжаны надрукаваны М. Гарэцкім зборнік «Народныя песні з мелодыямі» (1928), у якім сабраны 318 песень і 146 мелодый (запісаныя кампазітарамі А. Ягоравым і М. Аладавым) ад маці пісьменніка Просі Гарэцкай. У кнізе «Песні Беларускага Падняпроўя» (1999) З. Я. Мажэйка і Т. Б. Варфаламеевай зноў разгледжана фальклорная дзейнасць Максіма Гарэцкага і адзначанага зборніка песень яго маці. Аўтары падкрэслілі, што *«Сваё фальклорнае крэда Максім Гарэцкі яскрава выразіў у 1926 г. на Першым Усебеларускім краязнаўчым з'ездзе ў дакладзе "Зьбіранне і працоўка фальклёру"», дзе з дастатковай вастрынёй было пастаўлена пытанне аб прафесіяналізацыі збіральніцкай дзейнасці»*. Аўтаркі кнігі прэзентавалі мне сваю манаграфію з такім аўтографам: *«Шаноўнаму Радзіму Гаўрылавічу — галасы роднай Магілёўшчыны. З любоўю, павагай і надзеяй, што напярэдадні Трэцяга тысячагоддзя загляне сонца і ў наша ваконца. З. Мажэйка, Т. Варфаламеева. 01.01.2000»*.

У 2006 г. Зінаіда Якаўлеўна прыняла ўдзел у XIV Гарэцкіх чытаннях (прысвечаных Году Маці) і зрабіла цікавы даклад на тэму «Фальклорныя традыцыі Магілёўшчыны ў песнях Просі Гарэцкай», які быў надрукаваны ў матэрыялах чытанняў.

Зінаіда Якаўлеўна звярнула маю ўвагу на адну з балад Просі Гарэцкай пад назвай «Дом-цямніца», у якой маці бра-

тоў Гарэцкіх прадбачыць лёс сваіх сыноў. *«Гэта ўнікальны твор нібы знітоўвае ў адзін вузел амаль усе драматычныя матывы сказавай і лірыка-эпічнай песнятворчасці, уздымаючыся да вяршынных абагульненняў трагізму ўзнёсласці чалавечых памкненняў у іх жудасна адваротным рэальнымператварэнні. Паказальная беларускасць легендарнай баллады сцвярджаецца і тым фактам, што сюжэт яе невядомы ў міжнародных славянскіх каталогах… […] У баладнай песні "Дом-цямніца" зачын бясплоднай дубровы наканавана вядзе да гібелі светлых імкненняў двух братоў-дойлідаў, якія "«брусійка цісалі / святлічаньку будавалі" ў сваім збудаванні. Вытрыманая ў бясстрасна эпічным тоне кульмінацыя "Яны думалі святліца / Ажну цёмная цямніца" прыводзіць да ўзрыву амаль ўсяленскай роспачнай тугі. […] Заключэнне балады сцвярджае, што разам са светлымі імкненнямі гіне і сутнасць чалавечага жыцця, якое праз прыкметы пор года і часу сутак, знакі светлых дзён будуць далятаць да братоў-вязняў толькі з вонкавага свету»*[1].

5 снежня ў Аддзеле рэдкай кнігі і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа з вялікай прыемнасцю адзначылі 50-годдзе навуковай і творчай дзейнасці і 80-годдзе з дня нараджэння Зінаіды Мажэйка, а 16 снежня ў Музеі гісторыі беларускага кіно з цікавасцю і асалодай паглядзелі 5 дакументальных музычна-антрапалагічных кінафільмаў па сцэнарыях і палявой рэжысуры Зінаіды Мажэйка: «Палескія калядкі» (1972), «Голоса веков» (1979), «Память столетий» (1982), «Крывыя вечары» (1993) і «Рух Зямлі» (1999).

* * *

8 снежня споўнілася б 95 гадоў акадэміку ***Аляксандру Сямёнавічу Махначу***, вядомаму беларускаму геолагу, грамадскаму дзеячу, майму старэйшаму таварышу, аб якім я пісаў ужо ў 2008

---

[1] Мажэйка З. Песенная лірыка // Беларусы. — Т. 11. Музыка. — Мінск: Беларус. навука, 2008. — С. 123–124.

годзе і які пакінуў нас назаўсёды ўжо 7 кастрычніка 2006 года. Раней мы некалькі разоў разам у Інстытуце геахіміі і геафізікі адзначалі нашы юбілеі.

* * *

11 снежня ***матушка Раіса***, настаяцельніца жаночага манастыра ў Бабруйску, адзначала свае 70-годдзе. Мы з ёй пазнаёміліся яшчэ ў самым пачатку сучаснага стагоддзя, калі яна жыла ў Жыровіцкім манастыры, была памочніцай епіскапа Гурыя, а затым правай рукой, таксама памочніцай мітрапаліта Філарэта. Тады яна зацікавілася Фондам братоў Гарэцкіх, мяркуючы завязаць з ім сувязь для дабрачыннай дапамогі Жыровіцкаму манастыру ў пабудове спецыяльнага комплексу і прыехала да нас дахаты. Вельмі энергічная, жвавая, сімпатычная, беларускамоўная манахіня Пуціліна Раіса Віктараўна нам вельмі спадабалася. Аказалася, што ў нас шмат агульных знаёмых, у прыватнасці Ніна Мацяш, якую яна вельмі добра ведала і сябравала з ёй. У хуткім часе Раіса Віктараўна арганізавала хрышчэнне зусім яшчэ малой нашай унучцы Марыі, якая тады са сваімі бацькамі жыла разам з намі. З таго часу мы пасябравалі. Яна часта заязджала да нас на сваёй службовай машыне, якая была замацавана за ёй, з Жыровіцкага манастыра, а пазней з Бабруйску, калі яна стала матушкай Раісай і ўзначаліла Бабруйскі жаночы манастыр. У дзень нараджэння мы патэлефанавалі ёй, павіншавалі. На пытанне, чаму не званіла так доўга, адказала, што хварэла, зрабілі аперацыю, пасля якой ледзь не адышла ў той свет, але зараз ўжо значна лепш. Мы пажадалі ёй добрага здароўя, на што матушка Раіса паведаміла, што і яна кожны раз у час службы моліцца за ўсіх нас.

* * *

***Эдуарду Агуновічу***, вядомаму беларускаму мастаку ў той жа дзень, 11 снежня, споўнілася 75 гадоў. Ён асабліва праславіўся мастацкім афармленнем многіх музеяў, выставак, спектакляў,

у тым ліку літаратурных музеяў Янкі Купалы, Максіма Багдановіча і інш. Вядомы яго выдатныя працы ў кніжнай графіцы, станкавым жывапісе.

Я з ім пазнаёміўся і вельмі быў удзячны за яго добрыя афармленні шэрагу з'ездаў беларусаў свету і актыўны ўдзел у працы Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». Ён да Першага з'езда беларусаў свету (1993 г.) зрабіў галоўны сімвал у выяве Ефрасінні Полацкай, які на ўсіх з'ездах натхняў удзельнікаў на галоўнай сцэне і асноўных запрашэннях, праграмах і іншых дакументах.

Мне, як геолагу, неяк прыйшлося кампазіцыйна дапамагаць Эдуарду Канстанцінавічу, калі ён у сваёй роднай Рэчыцы рабіў помнік у сувязі са здабычай 100-мільённай тоны нафты ў Прыпяцкім прагіне. Я прысутнічаў на святкаванні гэтай адметнай падзеі (1998) і адкрыцці выразнага помніка. Прыблізна ў той час мастак зрабіў цудоўны падарунак сваёй малой Радзіме — пабудаваў вельмі арыгінальную выдатную капліцу, а мне ў знак падзякі за дапамогу ў помніку нафтавікам падараваў намаляваную мадэль той капліцы. Заўсёды з узаемнай сімпатыяй мы часта сустракаемся на розных сустрэчах, імпрэзах, а таксама ў час пасяджэння Рады Беларускага фонду культуры, сябрамі якога з'яўляемся. З вялікай прыемнасцю павіншаваў Эдуарда Агуновіча з яго слаўным юбілеем.

* * *

Апошнім «стралецкі» юбілей 19 снежня адзначыў ***Валер Стралко***, паэт і перакладчык. Валерый Васільевіч, украінец з Чарнігаўшчыны, аўтар арыгінальных вершаў на ўкраінскай і беларускай мовах, найбольш вядомы як таленавіты перакладчык паэзіі з усходнеславянскіх моў. Дзякуючы яго цудоўным перакладам, па-руску і па-ўкраінску загучалі «Тарас на Парнасе» і «Сказ пра Лысую гару». Да 120-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа і Года Тараса Шаўчэнкі ў Беларусі В. Стралко стварыў кнігу «Непагасны агонь / Непогасниї вогонь» (2003),

у якой творы класікаў натуральна гучаць на мовах адно аднаго. Пазней украінцы на сваёй роднай мове маглі прачытаць геніяльны твор «Новая зямля» Якуба Коласа (2006). Праз два гады ў Кіеве была па-мастацку прыгожа надрукавана кніга перакладаў «Трыяда славянскай паэзіі» В. В. Стралко, у якой сустрэліся украінскія, беларускія і рускія класікі — па 21 творы трох паэтаў з кожнага боку, прыведзеных на трох мовах. Валер Стралко — сябра Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны і Саюза беларускіх пісьменнікаў, лаўрэат Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Івана Франко і Літаратурнай прэміі імя Кандрата Крапівы.

У мяне і Валера Стралко часткова падобныя жыццёвыя лёсы: ён па адукацыі і працы мае фізіка-тэхнічную прафесію, доўга працаваў у Новасібірску ў Сібірскім аддзяленні Акадэміі навук СССР і толькі ў самым канцы 60-х гадоў мінулага стагоддзя пераехаў у Мінск, я — геолаг, які жыў у Маскве і быў супрацоўнікам Геалагічнага інстытута АН СССР, вярнуўся ў Мінск праз некалькі гадоў пазней за яго. Літаратура даўно цікавіла нас абодвух, але вельмі моцна прыцягнула да сябе ўжо ў досыць сталым узросце. Пазнаёміліся мы ў пачатку нашага стагоддзя, калі сустракаліся на розных літаратурных імпрэзах, ён запрашаў мяне на шэраг вечарын, якія адбываліся ў Амбасадзе Украіны, на адкрыццё помніка Тарасу Шаўчэнку і інш. Вельмі добразычлівы, спакойны, сімпатычны, інтэлігентны чалавек Валерый Васільевіч прыцягваў да сябе, і хутка паміж намі склаліся сяброўскія адносіны.

На маё 80-годдзе Валерый Стралко падараваў мне сваю кнігу «Трыяда славянскай паэзіі» з надпісам: *«Шаноўны Радзім Гаўрылавіч! Няхай класікі дапамагаюць Вам дажыць шчасліва да 180! З вялізнай павагай. Валер Стралко. 07.12.2008».* І сапраўды, чароўная паэзія класікаў нашых трох краін падтрымлівае любоў да жыцця, таму мы абодва — і я, і дарагі Валерый Васільевіч — у досыць добрым не толькі выглядзе, але і адчуванні сустракаем ў снежні 2013 ужо свае 85 і 75.

Саюз беларускіх пісьменнікаў і Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» 20 снежня наладзілі сустрэчу Валерыя Васільевіча з яго сябрамі, арандаваўшы на дзве гадзіны памяшканне ў Арт-сядзібе. Юбіляра ўсе прысутныя вельмі сардэчна і шчыра віншавалі і жадалі новых творчых дасягненняў, асабліва ў новых выданнях перакладаў, пашыраючы кола знакамітых паэтаў славянскіх народаў.

Як раз да юбілею В. Стралко з дапамогай Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» выйшла з друку мая кніга «Жыццёвы меланж», якую я з прыемнасцю і добрымі пажаданнямі ўручыў Валерыю Васільевічу на гэтай сустрэчы.

*2013*

## Застаюцца толькі ўспаміны[1]

У гэтыя снежаньскія (праўда без снегу) дні канца года ўсплываюць розныя ўспаміны — і сумныя, і больш вясёлыя. Галя і я ўжо прызвычаіліся, што мы ўвечары звычайна адны. У хаце ціха-ціха. Але раптам нешта згадваецца шумнае і чамусьці вельмі шчымлівае. Усплылі дваццатыя дні снежня 2002 г., калі мы праводзілі ў далёкі шлях нашу Інэсу з яе дзеткамі — Максімам і зусім яшчэ малой Марыйкай, якія паляцелі на самалёце да Генадзя ў Нарвегію. Яны ўжо больш двух гадоў жылі з намі разам, і мы вельмі прызвычаіліся да дзіцячага гоману. Пасля ад’езду ў хаце ўсё нагадвала нашых з’ехаўшых. Стала нязвыкла ціха, як зараз праз 11 гадоў. Галя тады не-не ды хадзіла з мокрымі вачыма. А я асабліва сумаваў па Малюсіку — так зваў я малую Марыю. Вельмі прывязаўся да такой мілай усмешлівай дзяўчынкі. Чую яе галасок: «Дзядуля, давай паваляемся!» «Дзядуля, давай пагуляем у птушку». Я сяджу, працую і раптам падскаквае і кажа: «Я хачу пасядзець з табой». Ну, як адмовіш такой малой? Але непаседа праз не-

[1] Тэрмапілы. — 2014. — № 18.

калькі хвілін ужо зноў выдумляе новае: «Давай патанцуем!» Скачам з ёй даволі доўга, а гэта падабаецца, і яна танчыць зноў і зноў, аж я стаміўся. Нарэшце, запыхаліся і абодва задаволеныя сядзім спакойна. Раніцаю ўстае раней за мяне, адразу бяжыць з вясёлым гоманам: «Добрай раніцы! Дзеда, трэба ўставаць, хопіць спаць!» Развітваемся на ноч, радасна прытанцоўвае, маша ручкамі: «Дабранач, дабранач!»

Я ўдзячны лёсу, што той год прайшоў пад сцягам Машы-Малюсіка, якая растапіла сэрца 74-гадовага дзеда, які заўсёды любіў дзетак, і яны, мне здаецца, адказвалі ўзаемнасцю. Некалі такое маё ласкавае пачуццё было да малой Вольгачцы. Калі мяне яшчэ ў Геалагічным інстытуце АН СССР у Маскве спыталі: «Вашы найлепшыя хвіліны?» Я адказаў: «Калі гуляю з дачкой па вуліцы ці па лесе». Такое ж пачуццё я адчуў зноў, але ўжо не бацькоўскае, а дзедаўскае. І не роднае крыві малое дзіця можа выклікаць такое ж шчырае пачуццё ласкавасці і замілавання. Яно захоўваецца на ўсё жыццё ва ўспамінах, якія саграваюць сэрца нават у 85 гадоў.

*2013*

## Подзвіг паэта[1]

У самым канцы снежня 2013 г. павіншаваў Ніла Сымонавіча не толькі з Калядамі і Новым годам, але і з выдатнай падзеяй для ўсёй беларускай літаратуры — выхадам у свет апошняй кнігі 23-томнага Збору твораў Народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. Том, які апошнім убачыў свет, па нумарацыі 22. Апошні том усяго Збору — 23 быў надрукаваны яшчэ ў 2008 г. У ім паэт змясціў успаміны пра свой жыццёвы шлях і роздум пра лёс Айчыны, тым самым шчыра асвяціў сваё жыццё, падвёў вынікі творчай дзейнасці і падкрэсліў, што галоўны клопат кожнага дня яго жыцця — стан беларушчыны, лёс роднай Бе-

[1] Тэрмапілы. — 2014. — № 18.

ларусі. Сам паэт у «Замест прадмовы» напісаў: *«Між роспаччу і надзеяй пражыў усё сваё свядомае жыццё — ад маладосці да старасці. Між роспаччу і надзеяй жыву і дажываю і сёння. І роспачы, на вялікі жаль, усё больш і больш. Але надзея застаецца...»*

Безумоўна, самастойна без усякай дапамогі падрыхтаваць да друку 23 тамы, выбраўшы на ўласны погляд самае лепшае са сваёй велізарнай спадчыны надрукаванага і рукапіснага, што складае па-за Зборам твораў амаль такі ж памер, а потым — выдаваць на працягу больш за 10 гадоў том за томам у розных выдавецтвах за кошт сваёй зусім невялікай пенсіі — гэта ўнікальны подзвіг творцы. Толькі чалавек вялікай волі, мужнасці, працаздольнасці і мэтанакіраванасці змог адолець такую, здавалася б, зусім непасільную задуму. Узяцца за яе ажыццяўленне прымусіла Ніла Гілевіча не проста жаданне пры жыцці ўбачыць Збор сваіх твораў, а адказнасць перад роднай Беларуссю і яе народам, перадаць людзям краіны сваю любоў да зямлі, да Бацькаўшчыны, да мілых сваіх землякоў, усяліць у іх сваю непахісную веру ў неўміручасць цудоўнай беларускай мовы, у вечнасць беларушчыны, натхніць усіх грамадзян краіны на змаганне стварыць сапраўдную беларускую Беларусь, таму што «і ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы да Беларусі!»

Ніл Сымонавіч заўзята і ўпарта працаваў, нягледзячы на розныя цяжкасці, у тым ліку і са здароўем — з узростам пачалі ліпнуць усякія хваробы. Асабліва перашкаджала пагаршэнне зроку ад катаракты. Апошнія некалькі тамоў змог завершыць ужо пасля аперацыі, якая прайшла паспяхова і дазволіла бачыць адным вокам. І вось завяршылася шматгадовая нялёгкая праца, якая падтрымлівала яго ў змаганні з хваробамі. Калі я зайшоў напярэдадні Новага года да Ніла Сымонавіча павіншаваць з такімі знакавымі падзеямі, вельмі баяўся, што яго па заканчэнні працы над Зборам твораў ахопіць не толькі радасць і палёгка ад здзейсненага, але і паслабленне, а то і спад жыццёвай энергіі ад пачуцця таго, што ў жыцці галоўнае ўжо зроблена. А што далей? Глянуў на стол і ўбачыў стос лістоў рукапісных

і копій з друкаванага. Ён заўважыў мой позірк і растлумачыў, што адшукаў яшчэ шмат цікавых твораў, якія някепска было б надрукаваць, і якіх, мабыць, набярэцца яшчэ на кніжкі тры. Пазней дадаў: «Вось не ведаю, што рабіць. Ці падрыхтаваць гэтыя тамы асобнай серыяй, ці абазначыць іх як тры кнігі, якія працягваюць адзін з апошніх тамоў Збору твораў?» Я гатовы падтрымаць любы варыянт, але вельмі горача раіў абавязкова выканаць гэтую думку. Пазней Ніл Сымонавіч вырашыў, што трэба лічыць завершаным 23-томны Збор твораў, а новы — даць асобна. Я з радасцю ўбачыў, што ў яго з'явілася новая мэта падрыхтаваць і выдаць тры кнігі, а гэта дазволіць яму працаваць і адчуваць тую цудоўную асалоду, якую атрымлівае сапраўдны творца ад сваёй справы.

*2013*

## Незалежнасць дзяржавы без нацыянальнага адраджэння немагчыма

Асабліва ўважліва чытаю ў розных газетах весткі па пытаннях незалежнасці Беларусі, справах у эканоміцы, стану беларускай культуры, мовы, літаратуры, мастацтва, адукацыі, навукі і інш. Далей прывяду некаторыя вытрымкі з газет апошніх месяцаў 2013 г. — лютага 2014 г., прычым дзеля аб'ектыўнасці ў выглядзе цытат. Цікава прасачыць, наколькі словы, намеры і абяцанні гаспадара дзяржавы і яго ўладных структур наконт незалежнасці, эканомікі, культуры, мовы адпавядаюць справам, рэальным здзяйсненням і ўкараненню ў наша жыццё.

*«Адзіная ў Магілёве беларускамоўная вучаніца Ялінка Салаўёва сёлета, як і ў папярэднія тры гады, у класе будзе адна. Бацькі намагаюцца знайсці дачцэ аднакласнікаў, аднак жадаючых вучыцца па-беларуску ў 400-тысячным горадзе пакуль не знаходзіцца»*[1].

[1] Народная Воля. — 2013. — 27 жніўня.

*«У мінулыя выхадныя ў Быхаве пачаліся ўрачыстасці, прымеркаваныя да Дня беларускага пісьменства. [...] Першым у Быхаве адкрылі адрамантаваны кінатэатр "Родина". Назву на фасадзе пакінулі рускамоўнай. Цырымонія адкрыцця ўстановы гэтаксама праходзіла па-руску. Не здолелі вымавіць ніводнага беларускага слова ні старшыня аблвыканкама Пётр Руднік, ні міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў»*[1].

*«...**Аляксей Мілер.** Стоячы праз дарогу ад аўтавакзала на агляднай пляцоўцы Нацыянальнай бібліятэкі, ён публічна заявіў: "Хутка мы з вышыні нашых кабінетаў будзем так на яе глядзець". [...] ...знішчэнне аўтавакзалу азначае не толькі страту нацыянальнай культурнай каштоўнасці, але і дэвальвацыю прысуджанай прэзідэнтам РБ Дзяржпрэміі. [...] Знікненне "Маскоўскага" моцна ўдарыць людзей па кашальках і магчымасці бываць на лецішчах»*[2].

*«Лукашэнка не размаўляе на нацыянальнай мове, хоць увесь час кажа пра незалежнасць. За час свайго прэзідэнцтва па-беларуску ён прамаўляў лічаныя разы»*[3].

*«"Введение выездной пошлины для белорусов предлагалось в качестве возможной меры для снижения оттока валюты за рубеж", — **заявил журналистам 28 сентября Александр Лукашенко**. "Я радею не за то, чтобы запретить выезд нашим гражданам, я переживаю, что под $3 млрд. валюты вывозится ежегодно из страны", — **приводит его слова БелТА.** "Вот брякнул себе во вред, наверное. Хотя я этого не боюсь", — **отметил Лукашенко**»*[4].

*«**Лукашэнка загаварыў пра дэвальвацыю**. [...] "Але ў апошнія месяцы, я гляджу, наш народзец пабег у абменныя пункты. Ну, бяжыце, бяжыце!" І не першы раз, калі ў краіне пачынаюцца эканамічныя складанасці, кіраўнік краіны пачы-*

---

[1] Народная Воля. — 2013. — 3 верасня.

[2] Новы Час. — 2013. — 6 верасня.

[3] Наша Ніва. — 2013. — 18 верасня.

[4] Свободные новості плюс. — 2013. — 1 октября.

*нае абвінавачваць народ. У той самы 2011-ы Лукашэнка звязаў дэвальвацыю з тым, што людзі кінуліся купляць на Захадзе машыны перад павышэннем мыта на аўтамабілі»*[1].

***«Пять с половиной часов продолжался откровенный и всесторонний разговор об актуалиях современного мира: Президент Беларуси, Председатель Высшего Государственного Совета Союзного государства Александр Лукашенко в одиннадцатый раз встретился с представителями российских СМИ.*** *"Я горжусь тем, что я президент у этого народа и что он меня избрал. Это искренняя правда. Я могу себе и моим коллегам поставить в заслугу за это время то, что мы создали своё государство",* ***— сказал Александр Лукашенко****. "И мы из разрухи, подхватив страну на краю пропасти, её сохранили, людей одели и накормили, насколько могли, модернизировали эту страну, производство. И параллельно, это крайне тяжело, мы создали суверенное и независимое государство. Вот единственное, что я могу себе поставить в заслугу. Всё остальное делал народ. И государство тоже создал не я один. Просто мне выпало счастье идти в этом процессе впереди".*

***Беларусь высоко ценит поддержку и плодотворное взаимодействие со своим стратегическим партнёром в экономической, оборонной внешнеторговой, социально-культурной и других сферах.*** *"Всего в нашей стране более двух с половиной тысяч предприятий с российским капиталом. Притом их число постоянно увеличивается, как и объём нашей взаимной торговли".*

*"Сегодня в строительстве Союзного государства сам процесс служит не только ориентиром, а некоей программой, калькой, лекалом для того, чтобы создавать новые интеграционные объединения, в том числе Евразийский экономический союз".*

***В Беларуси и России действует совместная группировка вооружённых сил в данном регионе, основой которой яв-***

---

[1] Наша Ніва. — 2013. — 2 кастрычніка.

***ляется белорусская армия.*** *“И в случае какого-то конфликта или, не дай бог, войны, у нас есть планы, по которым первый удар принимает белорусская армия, её сразу же, в этот же день, в этот же час, подкрепляют части армии Российской Федерации и входят в Беларусь для обороны нашего совместного пространства”»*[1].

*«**Работнікам культуры Рэспублікі Беларусь.** Дарагія сябры! Сардэчна віншую вас з Днём работнікаў культуры. […] Беларуская культура сёння — гэта важнейшы рухавік сацыяльнага прагрэсу, трывалы падмурак нашай ідэалогіі і маралі. […] Багатыя культурныя дасягненні — адзін з бясспрэчных паказчыкаў высокага ўзроўню развіцця краіны. […] Падтрымка культуры і яе дзеячаў з боку дзяржавы будзе ўзрастаць з году ў год… Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка»*[2].

*«**Заява Сакратарыята ГА “Саюз беларускіх пісьменнікаў”**. Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь прыняло рашэнне (№ 189 ад 25 верасня 2013 г.) правесці скарачэнне колькасці работнікаў устаноў культуры. Сярод прапанаваных мераў — скарачэнне на 20 % колькасці кіраўнікоў і спецыялістаў мясцовых органаў сферы культуры. Літаратурны музей Максіма Багдановіча і Літаратурны музей Петруся Броўкі плануецца далучыць да Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, пазбавіўшы статусу самастойнай юрыдычнай асобы. Штат Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа і Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы скарачаецца на 25 %. Гэтыя сумныя меры па “аптымізацыі штатнай колькасці работнікаў” варта разглядаць не як паасобныя праявы чыноўніцкай “ініцыятывы”, а як сістэмную з’яву і дзяржаўную палітыку, якая разам са скарачэннем колькасці гуманітарных дысцыплінаў ва ўстановах адукацыі, закрыццём бібліятэк і сельскіх устаноў культуры*

[1] Народная газета. — 2013. — 12 кастрычніка.

[2] Тамсама.

*вядзе не толькі да занядбання беларускай культуры, мовы і літаратуры, але і да планамернага і паслядоўнага размывання самой нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў. Мы разумеем, што гэтыя меры Міністэрства культуры выкліканы няпростым становішчам у эканоміцы краіны, аднак лічым, што нацыянальная культура — не тая галіна народнай гаспадаркі, на якой варта і можна эканоміць...»*[1]

*«Сегодня часто критикуют за Дворец Независимости. Но посмотрите на этот центр — площадь Флага, восстановленный "БелЭкспо", где мы выставляем высшие достижения нашего народа и Дворец Независимости,* **— цитирует Лукашенко пресс-служба президента**. *— Они даже не знают, сколько это стоит, за какие деньги построено. Там нет ни одного бюджетного рубля. И что? Плохо, что это построено? Это символ и для страны, и для простого человека это очень важно. Особенно сейчас, когда мы хотим презентовать себя». [...] "Это не резиденция президента. Там, правда, есть один рабочий кабинет для президента, больше там кабинетов нет" [...] "Но этим центром мы подчеркнули то, что мы создали своё государство" [...] Он обратил внимание на то, что всё во Дворце Независимости сделано из отечественных материалов и самими белорусами. [...] Президент так и не конкретизировал, откуда были взяты деньги на строительство Дворца Независимости. Между тем известно как минимум об одном решении властей о выделении 50 миллиардов рублей на строительство Дворца Независимости. Оно было принято в июле 2012 года, обязывало изыскать эти средства в бюджете города Минска и содержало слово "дополнительно". То есть подразумевалось, что бюджетные средства и ранее направлялись на эти цели... БелПАН»*[2].

---

[1] Наша слова. — 2013. — 9 кастрычніка; Літаратурная Беларусь, Новы Час. — 2013. — 25 кастрычніка.

[2] Свободные новости плюс. — 2013. — 22 октября.

*«**Усе рэзідэнцыі прэзідэнта:** Кіраўнік дзяржавы мае па два жылыя і працоўныя і з дзясятак гасцявых сядзібаў. Будаўніцтва Палаца незалежнасці каштавала бюджэту больш за $130 мільёнаў. Лукашэнка ж сцвярджае: не патрачана ні рубля»*[1].

*«**Богданкевич:** Беларуси надо просить у МВФ около 10 миллиардов. [...] **Заика:** Без российской нефти долги отдавать будет нечем»*[2].

***«Існаванне Літаратурнага музея Максіма Багдановіча знаходзіцца пад пагрозай.***

***Заява Сакратарыята ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"***

*Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь збіраецца ліквідаваць Літаратурны музей Максіма Багдановіча як юрыдычную асобу і такім чынам панізіць яго статус. [...] Мы заяўляем, што ліквідацыя Літаратурнага музея Максіма Багдановіча — прамы ўдар па беларускай культуры»*[3].

*«**Валерий Карбалевич. Образцово-показательный провал.** [...] Ещё в 2007 году было принято решение о модернизации девяти деревообрабатывающих предприятий. Им были выделены льготные кредиты на общую сумму более 800 млн евро. [...] модернизация сорвана. Убытки предприятий концерна "Беллесбумпром" за 2011 год выросли в 30 раз. [...] 30 ноября 2012 г. президент объявил о введении на деревообрабатывающих предприятиях "крепостного права", [...] который запрещал увольняться работникам отрасли до завершения модернизации. 15 июля 2013 года А. Лукашенко издал указ о предоставлении новых кредитов восьми структурам концерна "Беллесбумпром" на сумму 214 тыс. евро. Модернизация должна была завершиться к 7 ноября. [...] Сам глава государства и вынес приговор своему детищу: "Весь проект модернизации деревообработки провален... Мы здесь погубили*

[1] Наша Ніва. — 2013. — 23 кастрычніка.

[2] Свободные новости плюс. — 2013. — 27 октября.

[3] Наша слова. — 2013. — 6 лістапада.

*миллионы долларов. [...] президент пожертвовал, поставил на кон и так не очень хорошую репутацию страны. И всё ради того, чтобы продемонстрировать образцово-показательную схему экономических перемен, сделать эталон, по которому должна проводиться модернизация других предприятий. И иллюстрировать преимущество административно-командных методов управления, достоинство белорусской социальной модели”.* […] *А. Лукашенко осуществляя в Борисове традиционный культово-магический ритуал под названием “Царь хороший, бояре плохие”, на самом деле продемонстрировал, что реликтовая система исчерпала все ресурсы и находится в процессе деградации»*[1].

*«**Сяргей Законнікаў. “Мертва система”** [...] Дадам яшчэ ад сябе: калі будуецца дзяржава, якая не мае гістарычнага падмурку, не апіраецца на Канстытуцыю, законы, мараль, на родную мову і культуру, то яна можа абрынуцца ў любы момант»*[2].

*«**Цытата. Лукашэнка — ураду: Я вам галаву адвінчу і пакладу пад паху.** “Была прынята праграма. Будзе тое, што з дрэваапрацоўкай. Я вам проста адвінчу галаву, пакладу пад паху, і пойдзеце, калі зможаце. Я вам не дарую. Гэта шалёныя грошы”, — **заявіў Аляксандр Лукашэнка, наведваючы транспартна-лагістычны цэнтр “Мінск—Белмытнясэрвіс-2”**»*[3].

*«Вышэйшы гаспадарчы суд адмовіў Ігару Логвінаву ў ягонай спробе вярнуць выдавецкую ліцэнзію. Дзясяткі пісьменнікаў прыйшлі падтрымаць Логвінава ў судзе з Міністэрствам інфармацыі»*[4].

*«**Марат Гаравы.** “Месца, дзе некалі стаяў дом Максіма Багдановіча, пазначылі памятным знакам. А на месцы ад-*

---

[1] Свободные новости плюс. — 2013. — 12 ноября.

[2] Тамсама.

[3] Наша Ніва. — 2013. — 20 лістапада.

[4] Тамсама.

*ноўленага гістарычнага будынку зараз стаіць тэхналагічная пабудова для забеспячэння пажарнага выхаду з падземнай стаянкі 23-павярховага гмаху. [...] ...халодная бяздушнасць гэтага знаку, які знаходзіцца побач са сметнікам, прыніжае як самога паэта, так і ўсіх беларусаў. [...] Цяжка прыдумаць большай безгустоўнасці пры ўшанаванні месца, дзе стаяў дом, у якім нарадзіўся наш вядомы паэт Максім Багдановіч. Вельмі скрушна і крыўдна"*»[1].

«*У 2010-м у Музычным паставілі камедыю "Аршын мал алан" ("Вясельны базар") Узеіра Ганджыбекава. Сёлета ў Оперным — балет "Семь прыгажунь" Кара Караева. У планах Музычнага на наступны год — балет Фікрэта Амірава "Тысяча і адна ноч"... Ва ўсіх пастаноўках ёсць супольная рыса: падтрымка Міністэрства культуры і турызму Азербайджана. Гэта значыць, фінансаванне, частковае ці поўнае. [...] Мяркую, з азербайджанцаў трэба браць прыклад. Але толькі часткова. Бо калі кіравацца іх логікай, трэба было б паставіць у Баку за беларускія грошы "Тутэйшых"... Але спачатку нам бы аднавіць пастаноўку "Тутэйшых" у Мінску.* ***Максім Кавальскі***»[2].

***«Магіла Змітрака Бядулі можа знікнуць.***

*Дваццаць гадоў ніхто не клапоціцца пра пахаванне класіка літаратуры. Змітрок Бядуля памёр 3 лістапада 1941 года ў эвакуацыі ў далёкім казахстанскім Уральску: не вытрымала сэрца. Там жа і быў пахаваны. Як кажа Яфім Самуілавіч Плаўнік, сын пісьменніка, спярша сваякі Бядулі спадзяваліся стварыць музей, прысвечаны пісьменніку, у Беларусі. А калі не ўдалося, перадалі ў Уральск усе каштоўныя дакументы, матэрыялы і рэчы. У Мінск для гэтага спецыяльна прыязджала дырэктар уральскага музея. [...] матэрыялы пра Змітрака Бядулю ў іх адсутнічаюць. Куды зніклі — невядома. [...] варта даўно перазахаваць Змітрака Бядулю ў Беларусі. Згадзіцеся, сі-*

---

[1] Новы Час. — 2013. — 22 лістапада.

[2] Наша Ніва. — 2013. — 27 лістапада.

*туацыя, калі адзін з класікаў беларускай літаратуры спачывае далёка ад бацькаўшчыны, а лёс матэрыялаў пра яго невядомы, ганебная для беларусаў.* ***Мікіта Капкоў****»*[1].

*«****Міхаіл Пастухоў, Сяргей Пульша.*** *10 снежня ўвесь цывілізаваны свет адзначае Дзень правоў чалавека. Ён святкуецца па прапанове Генеральнай Асамблеі ААН штогод, пачынаючы з 1950 года. [...] Рэальнасць такая, што грамадзяне Беларусі не маюць права на жыццё, на свабоду і асабістую недатыкальнасць. Яны без усялякіх падстаў могуць стаць ахвярамі самавольства з боку ўладаў і не могуць абараніць свае правы ўнутры краіны»*[2].

*«****Российские Су-27 уже в Барановичах.*** *"8 декабря дежурное звено из четырёх российских истребителей Су-27 приземлились на аэродроме 61-й истребительной автобазы в Барановичах (Брестская область). Вместе с ними в Барановичи из России перебазировался и технический персонал", —* ***пишет БелаПАН****. 23 апреля этого года министр обороны России Сергей Шойгу, находясь с визитом в Минске, сообщил о планах Росии разместить на территории Беларуси к 2015 году истребительный авиаполк. [...] "Министерству обороны ставлю задачу приступить к практической реализации достигнутых с Российской Федерацией договорённости по авиации и системам противовоздушной обороны", —* ***сказал глава белорусского государства****"»*[3].

*«****Валерий Карбалевич.*** *[...] Беларусь превращается в российский военный плацдарм, страна ограничивает свой военный суверенитет. И наш президент перестаёт быть главнокомандующим всеми вооружёнными силами на территории страны. [...] принципиальное изменение государственного статуса Беларуси произошло тихо, незаметно, при полном молчании белорусских официальных лиц. Собственно не в*

---

[1] Наша Ніва. — 2013. — 27 лістапада.

[2] Новы Час. — 2013. — 6 снежня.

[3] Свободные новости плюс. — 2013. — 10 декабря.

*первый раз. Важнейшие решения, касающиеся судьбы народа и будущих поколений решаются кулуарно, втайне и даже вопреки доминирующим настроениям белорусского социума. Например, продажа России белорусской газотранспортной системы или превращение страны в ядерную державу (строительство АЭС) не получили поддержки большинства граждан. […] белорусский народ в XXI веке живёт по правилам средневековья. Он оказался вне политики, лишён не только права голоса, но и права на информацию*»[1].

*«**Больш грошай на міліцыю і КДБ, менш — на адукацыю і культуру.** Дэпутаты прынялі бюджэт краіны на 2014 г. […] Фінансаванне на КДБ і МУС павялічваецца на 23 % і на 21 % адпаведна. Прычым КДБ за два гады "падаражэў" беларусам амаль удвая! […] Выдаткі на культуру ў бюджэце — 2014 скарачаюцца аж на 150 мільярдаў!»*[2]

*«Падмаскоўная кампанія, работнікі якой працавалі на будоўлі новай прэзідэнцкай рэзідэнцыі "Палац Незалежнасці" у Мінску, расказалі пра выкананыя работы. Агульная плошча пакладзенага паркету склала 3600 м², прычым кладка (без уліку матэрыялу) каштуе $300–2000 за м². Таксама было выраблена 260 дзвярэй, кожная з якіх абышлася бюджэту больш чым у $3000. Гэта раскошныя драўляныя дзверы вышынёй па 4 м з разьбяным арнаментам, упрыгожаным пазалотай»*[3].

*«**Валерий Карбалевич: Стабилизация кризиса.** […] Кризисные явления "стабилизировались", стали постоянными и неотъемлемыми атрибутами нашей жизни. […] Не выполнены 7 из 9 параметров прогноза социально-экономического развития Беларуси на этот год. Фактически страна вступила в период регрессии на фоне нарастающего дефицита внешнеторгового баланса и критической нехватки валюты*»[4].

---

[1] Свободные новости плюс. — 2013. — 10 декабря.

[2] Наша Ніва. — 2013. — 18 снежня.

[3] Тамсама.

[4] Свободные новости плюс. — 2013. — 24 декабря.

*«Літаратурны музей Максіма Багдановіча плануецца далучыць да Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры да 1 красавіка 2014 года. […] правесці рэарганізацыю Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі шляхам далучэння да яго Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі»*[1].

*«**Борис Желиба: Кремлёвский отжим.** […] В. Путин даёт Беларуси взаймы до 2 миллиардов долларов. Да и как не дать, когда Украине, чтобы только сбить накал политических страстей, которые бушуют на Евромайдане в Киеве, отвалили 15 миллиардов долларов. Конечно, всего 2 миллиарда долларов не решат проблемы белорусской экономики. Это очередной допинг, который позволит отодвинуть угрозу обвальной девальвации белорусского рубля и всё, что с этим может быть связано, на несколько месяцев»*[2].

*«“Дурдом!!!” — пад такой “шапкай” была надрукавана падборка, у якой расказвалася пра дзікунства слуцкіх улад, якія мала таго, што беспадстаўна разагналі ўдзельнікаў сустрэчы ў Казловіцкім Доме культуры падчас прагляду гістарычнага фільма і абмеркавання пытанняў краязнаўчага характару, дык яшчэ асудзілі ініцыятарку культурнага мерапрыемства, наладзілі допыт людзей, якім далёка за семдзесят. Ад узрушэнняў і згубіў прытомнасць Мікалай Цімафеевіч Люшня. Знаходзячыся ў бальніцы, ён так і не выйшаў з комы. Днямі гэтага цудоўнага чалавека пахавалі»*[3].

*«256 общественных объединений лишились льгот по аренде. […] Перечень льготников составлялся по согласованию с президентом. […] Из 195 организаций, оставшихся в списке льготников 52 — именно спортивные федерации и объединения. […] В список общественных объединений, которым оказываеся поддержка, не вошли ОО “Таварыства беларускай*

[1] Народная Воля. — 2014. — 3 студзеня.

[2] Тамсама.

[3] Тамсама.

*мовы імя Францішка Скарыны” (ТБМ), ОО “Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»”, ОО “Белоруский фонд SOS — детская деревня”, РОО “Центральная служба анонимных алкоголиков”, БОО “Республика без наркотиков”, РОО “Лига добровольного труда молодёжи”, [...] союзы предпринимателей и экологические объединения, [...] союзы национальных меньшинств»*[1].

*«**Валерий Карбалевич: Митрополит в нагрузку.** [...] иностранец, росиянин стал главой православной церкви в Беларуси, а это противоречит белорусскому законодательству. Согласно статье 13 закона “О свободе совести и религиозных организациях”, руководителем религиозной организации “может быть только гражданин Республики Беларусь”. [...] Патриарх Кирилл, напутствуя нового главу БПЦ, отметил, что задача нового белорусского митрополита — “в хранении единства исторической Руси”. Отныне такая заповедь на белорусских скрижалях. Чтобы белорусы не дай Бог не подумали, что они живут в независимом государстве. Стесняюсь спросить: а что же молчит гарант Конституции и независимости президент Беларуси? Ведь он так любит рассуждать о незыблемом суверенитете нашего государства, сооружает всё новые его символы (площадь Государственного флага, Дворец Независимости). [...] Ответ до банального прост. Очень знаменательно, что назначение митрополита Павла главой БПЦ состоялось в тот же день, когда президент России В. Путин принял решение выделить Беларуси кредит в размере $2 млрд. Эти два события, безусловно, связаны. [...] Москва вручила подарок с нагрузкой.*

*[...] Страна с развивающейся, деградирующей экономикой, живущая на зарубежных подачках, не может претендовать на независимость. Сначала появились российские истребители, поставив под угрозу военный суверенитет Беларуси.*

---

[1] Свободные новости плюс. — 2014. — 8 января.

*Назначение митрополита Павла ставит под сомнение религиозный суверенитет страны. И всего лишь за $2 млрд. ! […] Даже страшно представить, что останется от Беларуси через несколько лет. Площадь Государственного флага да Дворец Независимости»*[1].

*«**Канстанцін Скуратовіч: Беларусаў становіцца ўсё менш.** За апошніх дваццаць гадоў колькасць насельніцтва Беларусі зменшылася на 1,2–1,3 мільёны чалавек. Памёр кожны дзясяты беларус»*[2].

*«Александр Лукашенко наконец задался вопросом, который мы на страницах газеты поднимали уже не один раз. “Модернизация в целом… Зачем она, если МТЗ, МАЗ домодернизировались до того, что продать продукцию не могут?” — вопрошал он срывающимся голосом на совещании по проблемным вопросам развития промышленного комплекса. Что произошло? Ведь совсем недавно на людей, публично задающих такие вопросы, А. Лукашенко сам навешивал ярлыки “не любят своё государство”, “пятая колонна”, “враги народа”… И Пётр Петрович Прокопович […] радостно сверкал очками. Но тут, на позавчерашнем совещании, и Прокопович вдруг протрезвел: “Александр Григорьевич! — даже закашлялся Пётр Петрович. А потом, набравшись духу, выпалил: — Мы же должны быть реалистами. У нас нет ни одного машиностроительного предприятия, которое было бы конкурентоспособно с мировыми лидерами. Для того, чтобы МАЗ и тракторный завод были конкурентоспособны, надо ещё вложить миллиарды и сотни миллионов. Это же сегодня наша реальность”. […] Тратить силы и средства для создания видимости жизни в неконкурентоспособных производствах, вкладываться в устаревающие да и просто не в уникальные технологии — это бесперспективно, это выброшенные деньги. Собственно, об этом почти*

---

[1] Свободные новости плюс. — 2014. — 8 января.

[2] Новы Час. — 2014. — 10 студзеня.

*20 лет говорили оппоненты Александра Лукашенко, критикуя его экономическую политику»*[1].

*«У доўгім пошуку нацыянальнай ідэі кіраўнік краіны нарэшце заявіў, што яе асновай павінны стаць патрыятызм і гістарычная спадчына. Але тут маецца нестыкоўка. Патрыятызм выхоўваецца на грунце роднай мовы і культуры. А рэжым шпаркімі тэмпамі працягвае русіфікацыю грамадства. [...] Марна шукаць тое, што даўно існуе і можна знайсці ў любой бібліятэцы. Уладзе трэба не займацца дэмагогіяй, пахвальбой і гандлем самым святым, а здзяйсняць запаветы сапраўдных змагароў за незалежнасць Айчыны»*[2].

* * *

На жаль многія падзеі нават пры жыцці асобнага чалавека даволі хутка забываюцца і потым некаторымі людзьмі трактуюцца так, як ім выгадна зараз. Таму я хачу нагадаць галоўныя моманты нядаўняй гісторыі нашай краіны, якія звязаны з яе незалежнасцю. 27 ліпеня 1990 г. Вярхоўны савет БССР прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР. Гэтая дата і ёсць сапраўдны **Дзень незалежнасці** — вельмі важнае для Беларусі свята, да якога беларускі народ ішоў праз вялікія пакуты і цяжкія намаганні. Троху раней 26 студзеня 1990 г. Вярхоўны Савет БССР прыняў Закон аб мовах, у адпаведнасці з якім беларуская мова абвяшчаецца адзінай дзяржаўнай мовай рэспублікі. 25 жніўня 1991 г. Дэкларацыі пра Дзяржаўны суверэнітэт БССР надаецца статус канстытуцыйнага закона, а 19 верасня 1991 г. Вярхоўны Савет Беларусі пастанавіў змяніць назву БССР на Рэспубліку Беларусь, Дзяржаўным гербам зацвердзіць герб Пагоня, а дзяржаўным сцягам — бел-чырвона-белы сцяг. 8 снежня 1991 г. у Віскулях (Белавежская пушча) была створана Садружнасць Незалежных

---

[1] Калинкина С. Приплыли // Народная Воля. — 2014. — 7 лютага.

[2] Законнікаў С. Марныя пошукі // Свободные новости плюс. — 2014. — 4 лютага.

Дзяржаў (СНД), рашэнне аб якой было амаль аднагалосна (супраць адзін) зацверджана дэлегатамі Вярхоўнага Савета Беларусі. 15 сакавіка 1994 г. прынята **Канстытуцыя незалежнай Рэспублікі Беларусь**, паводле якой яна абвешчана самастойнай унітарнай дэмакратычнай сацыяльнай праўнай дзяржавай.

10 ліпеня 1994 г. Беларусь становіцца прэзідэнцкай дзяржавай, калі пасля другога тура прэзідэнцкіх выбараў першым кіраўніком дзяржавы на 5-гадовы тэрмін абраны Аляксандр Лукашэнка. Ужо 14 траўня 1995 г. — рэферэндум аб наданні рускай мове статусу дзяржаўнай, новай сімволіцы, эканамічнай інтэграцыі з Расіяй і праве прэзідэнта распускаць парламент. 24 лістапада 1996 г. — рэферэндум па пытаннях, прапанаваных прэзідэнтам дзяржавы: аб прыняцці новай рэдакцыі Канстытуцыі 1994 г. і перанясенні Дня незалежнасці РБ на 3 ліпеня. 2 красавіка 1997 г. у Маскве падпісана дамова пра саюз Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі.

Пра думкі кіраўніка беларускай дзяржавы сведчаць некаторыя яго выказванні таго часу. *«Я хочу заявить, что обещал народу на выборах полную интеграцию с Россией, и слово своё сдержу. И мы проведём на эту тему референдум. Концептуально я вижу, что сближение в экономике обязательно выведет нас и на политическую интеграцию с Россией»*[1]. «*После первого тура президентских выборов В России Лукашенко сказал: "Счастье Ельцина, что его конкурентом был Зюганов, а не Лукашенко. В этом случае итог был бы другой: 75 % — за Лукашенко, 25 % — за Ельцина"»*[2]. *«Беларусь для меня — пройденный этап!»*[3]

Памочнік прэзідэнта С. Посахаў: *«У Александра Григорьевича есть прекрасный шанс возглавить единое государство»*[4].

---

[1] Народная газета. — 1995. — 24 февраля.

[2] Огонёк — 1996. — № 43.

[3] Тамсама.

[4] Тамсама.

Выступаючы перад ветэранамі з нагоды Дня Перамогі, прэзідэнт сказаў: *«Мы вернули вам государственный флаг страны, за которую вы воевали… Простите нам, что мы пока не смогли вернуть вам ваше и наше общее Отечество в широком и глубоком смысле этого слова. Но я убеждён, что это нам под силу. Мы это сделаем»*[1]. *«…президентом объединённого государства может стать только росиянин? По моему убеждению, руководителем объединённого государства может быть избран и белорус. Речь не идёт конкретно о Лукашенко. Я говорю о принципе»*[2]. *«Может быть, это будет единое государство, может быть — федерация, может быть — конфедерация. Мы к этому должны прийти»*[3]. *«Кому нужен суверенитет при нищете нации»*[4]. *«Я предложил Борису Ельцину, чтобы он стал президентом Союза, я согласен занять пост вице-президента»*[5]. *«Мы можем создать мощнейшую империю, могучую и сильную»*[6].

Як бачым, тады, на стыку стагоддзяў, была вялікая небяспека аб'яднання Беларусі і Расіі ў адну дзяржаву і страты суверэнітэту краіны. Па ініцыятыве грамадскасці адбыўся Усебеларускі з'езд за незалежнасць, у якім удзельнічалі 1376 дэлегатаў ад палітычных партый, грамадскіх арганізацый, прафсаюзных і творчых саюзаў, працоўных калектываў, якія прадстаўлялі ўсе рэгіёны краіны. З'езд прыняў Акт незалежнасці Беларусі, які абвясціў незаконнымі любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту нашай дзяржавы.

*«А после предложения Путина о присоединении Беларуси к России белорусская республика получила удовольствие от*

[1] Народная газета. — 1996. — 11–13 мая.

[2] Звязда. — 1997. — 24 снежня.

[3] Народная Воля. — 1997. — 19 чэрвеня.

[4] Выступленне па Беларускім тэлебачанні 27 снежня 1998 г.

[5] Московские новости. — 1999. — № 28.

[6] Белорусская деловая газета. — 1999. — 22 февраля.

*созерцания сюрреалистической картины чудодейственного превращения интеграторов в "незалежнікаў". Государственные СМИ заговорили языком БНФ, обвиняя Россию в "имперскости"»* (В. Карбалевич, 2010).

Яшчэ ў выступленні па беларускім тэлебачанні 1 ліпеня 2006 г., прысвечаным Дню незалежнасці, кіраўнік дзяржавы адзначыў, што *«...сегодня полностью завершено строительство суверенного белорусского государства».* Але ўжо праз два гады сам прызнаў няўпэўненасць у такім выніку: *«...выстоим — будет государство, не выстоим — нас сомнут и бесплатно в карман положат, и будем потом бегать и смотреть налево и направо, чтобы нам кусок хлеба со стола кинули»*[1].

Беларуская мадэль дзяржавы, у якой пануе рэжым асабістай улады, характэрна застоем (так званай «стабільнасцю») і не можа сама забяспечыць развіццё эканомікі і многіх іншых сфер дзейнасці без дапамогі, крэдытаў іншых дзяржаў, а таму і непахісную незалежнасць. Да гэтага яшчэ далучаюцца цяжкасці, якія звязаны з сучаснай знешняй палітыкай кіраўніцтва Беларусі. Апошняя прыводзіць да значнай ізаляцыі нашай краіны.

У апошнія гады зноў з'явілася вялікая небяспека згубіць незалежнасць у сувязі з актыўнай палітыкай Расіі, якая ўзяла курс на стварэнне імперыі. Беларускія ўладныя структуры не здольны супрацьстаяць гэтым працэсам толькі шляхам імітацыі самастойнай палітыкі, мадэрнізацыі эканомікі, падтрымкі навукі і культуры, а іх антыбеларускасць яшчэ больш падштурхоўвае і паскарае далучэнне рускамоўнай Белай Русі да Расіі.

Як выразна вынікае з агляду газет за апошнія паўгода, толькі пабудовамі спецыяльных сімвалаў (плошчы Дзяржаўнага сцяга і Палаца Незалежнасці) словамі кіраўніка дзяржавы пра ўпэўненасць у незалежнасці краіны ці ранейшай зменай назвы праспекта Францішка Скарыны на праспект Незалежнасці,

[1] Советская Белоруссия. — 2009. — 30 мая.

сапраўдную незалежнасць дзяржавы не здзейсніць. Абавязкова патрэбна інтэгральнае, комплекснае нацыянальнае адраджэнне ў такіх галоўных напрамках, як палітыка і эканоміка, родная мова і культура, адукацыя і навука, ахова прыроды і экалогія, сродкі масавай інфармацыі.

**У сферы палітыкі**: распрацаваць новую канстытуцыю; правесці празрыстыя выбары; галоўныя ўладныя паўнамоцтвы перадаць парламенту, а лепш наогул зрабіць парламенцкую рэспубліку; стварыць сістэму мясцовага самакіравання; поўная свабода судоў усіх узроўняў; мадэрнізаваць і скараціць сілавыя структуры; зрабіць краіну бяз'ядзернай, нейтральнай і дружалюбнай да ўсіх дзяржаў свету, асабліва да супольных краін; забяспечыць правы чалавека; забяспечыць свабоду веравызнання.

**У эканоміцы** неабходна павялічыць свабодны рынак і канкурэнцыю; падтрымка і свабода прадпрымальніцтва, развіццё малога і сярэдняга бізнесу; пашырэнне і эфектыўнасць інвестыцый; разумныя сістэмы прыватызацыі (з ільготамі для грамадзян краіны і членаў працоўных калектываў), падаткаў і пенсій; пашырэнне фермерскіх сельскіх гаспадарак; забяспечыць энергазберажэнне і пашырыць альтэрнатыўныя крыніцы энергіі; адкрыта абмеркаваць пабудову АЭС і правесці рэферэндум па гэтым пытанні, адклаўшы пабудову Астравецкай АЭС.

**Родная мова і культура** патрабуюць найхутчэйшай беларусізацыі ва ўсіх напрамках: беларуская мова павінна стаць па-сапраўднаму дзяржаўнай. Беларусізацыю неабходна правесці блізка да той, якая адбылася ў пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя, 90 гадоў таму. 15 чэрвеня 1924 г. на сесіі ЦВК БССР прынята пастанова «Аб практычных мерапрыемствах па правядзенню нацыянальнай палітыкі», пасля чаго беларусізацыя стала афіцыйнай дзяржаўнай палітыкай. Першымі справаводства на беларускай мове пачалі дзяржаўныя і партыйныя органы, ужо ў 1928 г. 80 % школ перавялі на беларускую мову

і г. д. Неабходна даць значна больш вольнае існаванне пры шчодрай дзяржаўнай падтрымцы ўстаноў культуры (тэатры, музеі, выставы і інш.), мастацтва, літаратуры і іх дзеячаў.

**Навука і адукацыя** патрабуе сур'ёзнага рэфармавання. У навуцы абавязкова дастатковае бюджэтнае фінансаванне; вырашэнне праблем інавацый і інвестыцый ад розных суб'ектаў; распрацаваць статуты акадэмічнай, вузаўскай і галіновай навук; у Акадэміі навук і ВНУ у новых статутах улічыць былыя варыянты, якія скалечаны шматлікімі ўказамі начальніка дзяржавы (выбарнасць усіх кіраўнікоў і інш.); наладзіць трыяду напрамкаў: фундаментальныя навукі — прыкладныя — вытворчасць, прычым апошнюю зацікавіць ва «ўкараненні» новых тэхналогій. У адукацыі перагледзець заканадаўчую базу функцыянавання існуючай сістэмы; змяненне схемы фінансавання; стварэнне розных форм адукацыйных устаноў; беларускую мову ўсюды — ад садкоў і школ да вышэйшых навучальных устаноў і стварэнне поўнасцю беларускамоўнага ўніверсітэта; стварэнне сеткі адукацыі на мовах нацыянальных меншасцяў; далучэнне сістэмы адукацыі Беларусі да агульнаеўрапейскай адукацыйнай прасторы.

**У напрамку аховы прыроды і экалогіі** патрэбны заканадаўчыя акты па ахове і экалогіі краіны і іх абавязковае выкананне; давесці да ўсіх прадпрыемстваў і людзей разуменне, што экалагічны стан набліжаецца да катастрафічнага; укараніць экалагічнае выхаванне насельніцтва ва ўсіх установах адукацыі; ахова і эканомія прыродных рэсурсаў.

**Сродкі масавай інфармацыі** павінны атрымаць значна большую свабоду ва ўсіх напрамках іх дзейнасці.

Толькі пералічаныя напрамкі інтэгральнага нацыянальнага адраджэння змогуць прывесці Беларусь да сапраўднай незалежнасці, у выніку якой наша краіна стане багатай, вольнай, еўрапейскай, дзе дэмаграфічная сітуацыя не стане такой небяспечнай, як цяпер, і дзе кожны чалавек, незалежна ад яго нацыянальнасці, веравызнання, зможа знайсці цікавую

прафесію, ажыццявіць сваю мару і стаць па-сапраўднаму шчаслівым. Тут дарэчы трэба ўзгадаць, што наша цывілізацыя ўступіла ў новую гістарычную эпоху, якую некаторыя вучоныя называюць антрапацэнам. Ужо цяпер насельніцтва Зямлі складае 7 млрд чалавек, будзе яшчэ павялічвацца. Таму дабрабыт чалавека, які ўсё больш уздзейнічае на прыроду, цесна звязаны з экалагічнай стабільнасцю і патрабуе пошукаў устойлівага развіцця. У 2012 г. праходзіла Канферэнцыя ААН, прысвечаная шчасцю. Сацыёлагі і эканамісты з Інстытута Зямлі Калумбійскага ўніверсітэта (ЗША) прадставілі даклад «Шчасце ў свеце». Яны прыйшлі да высновы, што рост валавога ўнутранага прадукту (ВУП) — гэта не шлях да агульнага шчасця. Шмат трэба зрабіць, каб павысіць задаволенасць жыццём насельніцтва ў асобных краінах, рэгіёнах, а таксама прадстаўнікоў розных дэмаграфічных груп. Па думцы аўтараў даклада, можна стварыць паралельную сістэму меркаванняў дзяржаўнай палітыкі аб тым, наколькі змянілася ў людзей адчуванне шчасця на адзінку выдаткаваных сродкаў. Валавае нацыянальнае шчасце (ВНШ) — інтэгральны паказчык развіцця дзяржавы, які ўключае паказчыкі матэрыяльнага і духоўнага развіцця грамадства, якія ў абавязковым парадку павінны расці паралельна, дапаўняць і ўмацоўваць адзін аднаго. ВНШ больш важны паказчык развіцця краіны, чым валавы нацыянальны прадукт (ВНП). Дзяржава павінна стварыць і развіваць умовы, якія садзейнічаюць павышэнню валавога нацыянальнага шчасця. ВНШ-індэкс з’яўляецца комплексным паказчыкам развіцця грамадства. Інтэгральнае нацыянальнае адраджэнне Беларусі, безумоўна, прывядзе да значнага ўздыму ВПШ-індэкса нашай краіны.

*2014*

## Жарт знаёмых дзядоў[1]

Непрыкметна падпаўзае той час, калі сам, твае сябры і знаёмыя становяцца дзядамі. А гадзіннік усё паскарае ход і адлічвае гадзіны, дні і гады хутчэй і хутчэй… З гадамі не толькі пераходзіш у дзядулі, але цябе паступова ўсё больш, як малюскі на палі прычала, наліпаюць хваробы. І ты ходзіш, чым большым букетам хвароб валодаеш, усё марудней і марудней, павольней і павольней, і ўсё часцей не на танцы ці вечарынкі, не ў тэатр ці музей, куды так хацелася б схадзіць, а ў Лечкамісію — ці да доктара, ці аналізы здаць, ці рэцэпт на лекі атрымаць… Адначасова з гэтым працэсам дзедаўскага жыцця, які пайшоў і які, на жаль, супыніць нельга, усё радзей маеш магчымасць разам з сябрамі павандраваць па прыгожых мясцінах краіны, паляваць на грыбы, пaганяць на лыжах, нават парыбачыць ці пасядзець за чаркай… Але ў такім выпадку, калі вельмі хочаш сустрэць і пабачыць старых сяброў і знаёмых, рэгулярна наведвай Лечкамісію і тады гэты сумны паход робіцца значна весялейшым — «няма худа без дабра». Калі хочацца не толькі сустрэцца і пабачыцца, але і пагаманіць як мае быць, а то і ўспомніць былыя часы маладосці і бадзёрасці, дык пастарайся, каб доктар паклаў цябе ў шпіталь. Мне неаднойчы даводзілася такім чынам сустракацца з даўнімі маімі знаёмымі часцей за ўсяго з навукоўцамі, але і з мастакамі, літаратарамі, артыстамі, грамадскімі дзеячамі, прычым нават з такімі, з якімі многа гадоў не бачыўся… Бываюць выпадкі, што не адразу і пазнаеш адзін аднаго. Дык да сустрэчы, дарагія! А дзе? Цяпер ведаеце самі.

*2014*

---

[1] Тэрмапілы. — 2014. — № 18.

## Чаргаванне: то юбілеі, то развітанні

Перыядычнасць і цыклічнасць — адзін з галоўных законаў прыроды. Так і ў жыцці чалавека: жыццёвы шлях складаецца з перыядаў узросту (дзяцінства і юнацтва, сталасці і старасці), перыядаў уздыму і падзення, шчасця і гора, радасці і суму. Нараджэнне змяняецца смерцю — жыццё пераходзіць у нябыт. Чым больш жыццё асобнага чалавека адлічвае гадоў, тым больш у яго самога юбілеяў і тым больш ён адзначае юбілеяў сваіх сяброў і знаёмых, але адначасова прыходзіцца больш развітвацца з імі, і ўсё гэта да таго часу, пакуль ўжо яны, яшчэ жывыя сябры, апошні раз не развітаюцца з ім самім.

У маім жыцці заканчэнне 2013 года і пачатак новага 2014 года адзначаўся развітаннямі. 27 снежня назаўсёды пайшла ад нас **Ала Міхайлаўна Ходан** — светлы чалавек, шчырая добрая жанчына, поўнасцю адданая беларушчыне, якая многія гады была цудоўнай гасціннай гаспадыняй клуба «Беларускай хаткі», дзе так утульна, па-сяброўску адчувалі сябе ўсе прысутныя пад аўрай клапатлівай, шчодрай сэрцам у любові да людзей жанчыны, невялікай постаццю, але такой мужнай духам.

11 студзеня раптоўна пасля другога інсульту памёр **Уладзімір Рыгоравіч Пяхота** брат маёй Галі ва ўзросце ўсяго 58 гадоў. Вельмі добры па сваёй шырокай натуры, гарачы і запальчывы, але адыходлівы і добразычлівы; майстар на ўсе рукі, мог адрамантаваць, пабудаваць, наладзіць па гаспадарцы самыя звычайныя і самыя неверагодныя рэчы, заўсёды гатовы быў дапамагчы родным і ўсім, хто яго папросіць нешта зрабіць, таму большасць людзей яго вельмі любіла. Мая Галя ніяк не можа ачуняць ад гэтай балючай і цяжкай для яе згубы…

* * *

Развітанні змяніліся шэрагам юбілеяў.

12 студзеня адзначыў 85-годдзе **Дзмітрый Якаўлевіч Бугаёў** — вядомы літаратуразнавец, крытык, прафесар БДУ. Ён

адзін з першых праўдзіва пісаў пра пісьменнікаў, якія трапілі ў ГУЛАГ, па магчымасці праводзіў іх рэабілітацыю і ўключаў у гісторыю беларускай літаратуры. Першы манаграфічны нарыс пасля рэабілітацыі пісьменніка «Максім Гарэцкі» (1968) належыць Дзмітрыю Якаўлевічу, які падарыў кнігу майму бацьку з такім надпісам: *«Дарагі Гаўрыла Іванавіч! Прыміце гэтую кніжку як сціплую даніну светлай памяці Вашага брата, які падзвіжніцкай працай на працягу ўсяго свайго шматпакутнага жыцця назаўсёды звязаў сваё імя з гісторыяй беларускай нацыянальнай культуры. Д. Бугаёў. 29.V.1969»*. Да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Гарэцкага ў 2003 г. выйшла з друку 2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае манаграфіі Дзмітрыя Бугаёва. З вялікай прыемнасцю атрымалі ад яго кнігу з аўтографам: *«Шаноўным Галіне Рыгораўне і Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкім, цудоўным людзям, якія, працягваючы справу Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх, самааддана змагаюцца за беларускае адраджэнне. Д. Бугаёў. 1.03.03»*. Мы досыць часта сустракаліся з Дзмітрыем Якаўлевічам на розных літаратурных вечарах. Заўсёды вельмі добразычлівы, ветлівы, інтэлігентны, гаваркі, жвавы, выдатны знаўца літаратуры, ён выклікаў павагу і цікавасць да размоў на розныя, асабліва літаратурныя, тэмы. Калі некалькі разоў давялося быць у гасцях у яго хаце, гасціннасць гаспадароў была надзвычайнай. З асаблівай удзячнасцю ўспамінаю, з якой ахвотай Дзмітрый Бугаёў пагадзіўся напісаць прадмову да маёй кнігі «Браты Гарэцкія» (2008).

14 студзеня пазваніў **Васілю Пятровічу Шаранговічу** і шчыра павіншаваў яго з 75- годдзем з дня нараджэння. Рад быў пачуць бадзёры голас, пагаманіць пра мінулыя нашы сустрэчы, пачуць пра многія задумы, якія хвалююць славутага народнага мастака Беларусі, выдатнага былога загадчыка кафедры графікі і рэктара Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, прафесара і педагога, грамадскага дзеяча, сапраўднага волата мастацтва і беларускага адраджэння.

Адкуль і як узнікаюць такія асобы — гонар беларускай культуры? Перш-наперш, ад нашай роднай зямлі, а ў юбіляра ад яго Мядзельшчыны — прыгажэйшага кутка Беларусі з цудоўнымі ляснымі пагоркамі, каляровымі валунамі, празрыстымі азёрамі, на якой жывуць мірныя працавітыя людзі з мілагучнай беларускай мовай. Па-другое — ад генаў моцнага роду Шаранговічаў і бацькоў юбіляра, якія ён сканцэнтраваў: ад маці прыйшла шчырая любоў да ўсяго прыгожага, ад бацькі — неймаверная працавітасць, упартасць, мужнасць, мэтанакіраванасць. Таму і сваю аўтабіяграфічную аповесць Васіль Пятровіч назваў «Ген жыцця». Ён тыповы прадстаўнік беларускай інтэлігенцыі XX стагоддзя, большасць якой складаюць выхадцы з сялян. Не здарма Міхась Чарняўскі — выдатны гісторык-археолаг, поўнасцю аддаsuccessful беларушчыне, зямляк і лепшы сябра Васіля Шаранговіча — прадмову да гэтай кнігі назваў «Сын каваля і артая». Згаданыя якасці ад родных каранёў дазволілі сялянскаму хлопцу выкаваць сапраўдны талент мастака, шырока адукаванага інтэлігента, добразычлівага чалавека з гумарам і імкненнем да праўды і справядлівасці, добрага знаўца беларускай і рускай моў, педагога і прамоўцу, здольнага арганізатара, адданага развіццю беларускай культуры.

Я даведаўся пра Васіля Шаранговіча яшчэ ў пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя, калі ён зрабіў вельмі выразныя ілюстрацыі да асобнага выдання кнігі Максіма Гарэцкага «Віленскія камунары», якая адной з першых убачыла свет з рэпрэсаваных твораў пісьменніка пасля поўнай яго рэабілітацыі. Пазней «Віленскія камунары» з ілюстрацыямі В. Шаранговіча выдаваліся на літоўскай мове ў выдавецтве «Вага» (Вільнюс, 1965 г.), для выдавецтва «Молодь» (Кіеў, 1969 г.) для кнігі на ўкраінскай мове ён зрабіў новы варыянт афармлення рамана.

Ужо значна пазней, калі ў 70-я гады я вярнуўся ў Менск і пазнаёміўся з Васілём Пятровічам і яго жонкай — мілай Галінай Андрэеўнай, выдатным рэдактарам мастацкай літаратуры, я са здзіўленнем пачуў, што тую працу па ілюстраванні

«Віленскіх камунараў», мастак рабіў яшчэ студэнтам трэцяга курса інстытута, і што гэтая кніга і для яго была першай такой сур’ёзнай працай. Тады ён разам з жонкай, яшчэ маладажонамі, летам у час канікул паехалі у Вільню і дасканала пазнаёміліся з усімі мясцінамі, якія звязаны з героямі рамана. Вынікі аказаліся настолькі змястоўныя, што гэтыя ілюстрацыі, хаця і бачыў некаторыя недахопы, цалкам усё ж ухваліў сам мастак, ужо стаўшы сталым выдатным майстрам (*«Мне не сорамна за іх»*).

Пазней, калі Васіль Шаранговіч і я мелі дасягненні не толькі ў сваёй творчасці, але занялі адміністрацыйныя пасады ў адпаведных інстытутах культуры і навукі, нашы лёсы незалежна адзін ад аднаго ў значнай ступені былі нечым падобны: у нялёгкім «баданні» з ЦК КПБ і іншымі адміністрацыйна-каманднымі органамі ў змякчэнні ці невыконванні часта недарэчных каманд, у ратаванні супрацоўнікаў за несправядлівыя абвінавачванні і г. д. Наш цвёрды выбар змагання за беларушчыну і дэмакратычнасць выклікаў падазроныя адносіны некаторых начальнікаў, як да «нацыяналістаў», «апазіцыянераў». Нават членства ў КПСС мы спынілі ў блізкі час, прычым спакойна без модных тады паказухі і рэкламы: я ў студзені 1991 г. пасля падзей у Вільнюсе, калі дзейнасць партыі яшчэ не была прыпынена, а ён — 28 жніўня адразу пасля ГКЧП.

Хаця мы нярэдка сустракаліся на розных грамадскіх мерапрыемствах, нас зноў зблізіў Максім Гарэцкі і Парыж. У лістападзе 1993 года, дзякуючы намаганням Міністэрства замежных спраў Беларусі (міністр П. К. Краўчанка), на XXVII сесіі Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА ў Парыжы адбылася выстаўка і вечарына, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння Максіма Гарэцкага. Васіля Пятровіча і мяне ўключылі ў беларускую дэлегацыю разам з П. К. Краўчанкам, Н. М. Мазай, А. І. Бутэвічам. Мы ўдвух на цягніку везлі экспанаты выстаўкі, якая выклікала цікавасць і якую мне прыйшлося прадстаўляць. Нам давялося выступаць з дакладамі, але ў розных секцыях — В. П. Шаранговіч па культуры, а я — па навуцы і адукацыі.

У выхадны дзень Васіль Пятровіч прапанаваў мне пахадзіць па Парыжу, што мы і зрабілі. З вялікай цікавасцю агледзелі шмат помнікаў, а потым трапілі на вядомую вуліцу Сен-Дэні, якую мой гід ўжо наведваў у свой мінулы прыезд і вырашыў паказаць мне, бо я тут ніколі не быў. Цікава было паглядзець, якія ж у Парыжы праслаўленыя красуні. За ўвесь дзень мы так стаміліся, што з вялікай прыемнасцю, дабраўшыся да гатэля, за келіхам французскага чырвонага віна з адпачыўшымі ад гудзення нагамі добра пасядзелі, дзелячыся ўражаннямі ад убачанага, а наконт красунь прыйшлі да высновы, што найпрыгажэйшыя жанчыны — ў Беларусі. У Менск вярталіся ў спальным вагоне хуткага цягніка, заціснутыя вялізнымі мяшкамі чаўнакоў-мяшочніц.

Творчасць Васіля Шаранговіча карысталася вялікім поспехам, асабліва шматлікімі ілюстрацыямі да кніг Янкі Купалы, потым Якуба Коласа і Адама Міцкевіча. Да 200-годдзя з дня нараджэння апошняга па ініцыятыве Беларускага фонду культуры (старшыня У. А. Гілеп) з друку выйшла яго паэма «Пан Тадэуш» (1998) на трох мовах: польскай, беларускай і рускай. Ілюстрацыі і афармленне Васіля Шаранговіча, якому як раз у гэты год споўнілася 60 гадоў. Гэта было свята культуры. Да 120-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа зноў па ініцыятыве БФК была надрукавана паэма Якуба Коласа «Новая зямля» (2002) з ілюстрацыямі Васіля Шаранговіча таксама на трох мовах. З вялікай асалодай пабачыў ілюстрацыі на выстаўках і прэзентацыях як першай, так і другой кнігі, якія з удзячнасцю атрымаў ад іх стваральнікаў.

Ужо ў 2013 годзе неяк Васіль Пятровіч запрасіў мяне зайсці ў яго майстэрню, дзе ён падзяліўся сваёй новай задумай: стварыць серыю пад назвай «Партрэты выдатных людзей — маіх сучаснікаў», якую, як ён сказаў, «проста абавязаны зрабіць перад гісторыяй». Але адхіліла яго ад рэалізацыі гэтай задумы не менш важная тэрміновая праца, над якой мастак, як ужо

нярэдка было на яго творчым шляху, натхнёна сядзеў дзень і ноч. І вось гэта кніга «Новая зямля» Якуба Коласа з ілюстрацыямі народнага мастака Беларусі Васіля Шаранговіча, выйшла з друку ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» (2014).

27 лютага ў Дзяржаўным музеі Якуба Коласа адбылася прэзентацыя кнігі, святкаванне 75-годдзя з дня нараджэння мастака і выстаўка яго цудоўных ілюстрацый да кнігі. Шчыра і сардэчна віншавалі юбіляра старшыня Саюза мастакоў Беларусі Рыгор Сітніца, аўтар прадмовы Адам Мальдзіс, ініцыятары выдання старшыня БФК Уладзімір Гілеп і яго намеснік Анатоль Бутэвіч, галоўны рэдактар выдавецтва Віктар Шніп і інш. Урыўкі з паэмы Якуба Коласа чыталі народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч і таксама вельмі артыстычна сын паэта Міхась Міцкевіч, якому ў студзені гэтага года споўнілася 88 год. Я сардэчна павіншаваў Васіля Пятровіча і пажадаў творчых поспехаў, новых выдатных дасягненняў і ўручыў дзве свае апошнія публікацыі («Лісты жыцця і кахання» і «Жыццёвы меланж»), а ён мне зрабіў шыкоўны падарунак — прэзентаваў «Новую зямлю» са сваімі ілюстрацыямі.

19 студзеня 2014 г. споўнілася 75 год народнай артыстцы Беларусі **Таццяне Мархель**. Я з ёй пазнаёміўся і пасябраваў з таго часу, калі разам мы ўдзельнічалі у працы Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», калі я быў прэзідэнтам згуртавання, а яна сябрам Управы і Малой Рады. Заўсёды добразычлівая, усмешлівая, жартаўлівая, жвавая, па сваім з'яўленні ўносіла нейкі радасны свет, лагоднасць, дапамагаючы тым самым ліквідаваць розныя гарачыя спрэчкі і нязгоды, якія нярэдка ўзнікалі паміж прысутных. Вельмі акуратная і дысцыплінаваная яна, нягледзячы на занятасць у тэатры і канцэртах, старалася прысутнічаць на нашых пасяджэннях. Я заўсёды быў рады яе з'яўленню, бо яна сапраўды светлая жанчына. З вялікай прыемнасцю і асалодай бачыў яе і ў тэатры, канцэртах, кінафільмах. Прыемна было ад яе магутнай

беларускасці, мілагучнасці яе голасу, цудоўных беларускіх песень, якія яна так душэўна і пранікнёна спявала. Мы ўсе даўно лічылі яе народнай артысткай, хаця афіцыйна была толькі заслужанай. Неяк у 2013 годзе я выпадкова сустрэў Таццяну Рыгораўну ў Лечкамісіі, дзе мы аказаліся ў чарзе на здачу крыві для аналізаў. Абняліся. Пачалі гамонку і пра мінулае, і пра сучаснае. Зноў адчуў яе светлую аўру і з вялікай прыемнасцю павіншаваў з нядаўнім прысваеннем гэтай выдатнай актрысе звання «народны артыст Беларусі».

* * *

На гэтым скончыўся першы цыкл развітанні-юбілеі і пачаўся другі. 22 студзеня 2014 г. у г. Дэтройт (штат Мічыган, ЗША) памёр на 87-м годзе жыцця пасля цяжкай хваробы **Мікалай Юр'евіч Прускі**, які нарадзіўся 01.01.1928 у Мікалаеўшчыне на Стаўцоўбшчыне. Яго маці Міхаліна Яўхімаўна была стрыечнай сястрой Якуба Коласа (па бацьку). Ён быў вядомы грамадскі і культурны дзеяч беларускай эміграцыі, актыўна ўдзельнічаў у працы Беларуска-амерыканскага рэспубліканскага клуба ў Дэтройце і ў Беларуска-Амерыканскім Задзіночанні (БАЗА), быў кіраўніком Беларускага драматычнага гуртка, які выступаў у розных гарадах ЗША. Яго абралі ганаровым сябрам ЗБС «Бацькаўшчына».

Успомніў, як у 1994 годзе, калі ехаў на 21-ю сустрэчу беларусаў Паўночнай Амерыкі (Таронта, 3–5 верасня), супыніўся на пару дзён у катэджы Міколы Прускага і яго жонкі Веры, якія жылі ў гарадку Гранд-Рапідс і вельмі гасцінна прынялі госця з Беларусі. Мілыя сціплыя людзі, адданыя беларускай справе. У сям'і пануе беларуская мова, хаця і англійская, асабліва ў іх сімпатычных дочак Ганны і Соні зусім выдатная. Здзівіла і ўразіла яго бескарыслівая працаздольнасць у выданні беларускамоўных кніг і газет. У сваім доме ён зрабіў маленькую друкарню, самастойна выдаў дзясяткі беларускіх кніг, разам з Беларускім інстытутам навукі і культуры рэдагаваў часопіс

«Беларускі свет», а ў час майго прыезду адзін рэгулярна выдаваў газету «Беларускі дайджэст». Шмат сіл ён аддаваў Цэнтру гуманітарнай медыцынскай дапамогі, праз які арганізоўваў пасылку ў Беларусь кантэйнераў гуманітарнай і медыцынскай дапамогі ахвярам Чарнобыльскай катастрофы. Раней арганізаваў збор грошай у Амерыцы на будаўніцтва беларускага музея ў Гайнаўцы на Беласточчыне, адкуль родам спадарыня Вера. Гамонкі пра жыццё і дзейнасць беларусаў у Амерыцы, разгляд значнага друкаванага і рукапіснага архіва беларускіх дзеячаў, якія збіраў Мікола Прускі, прагулкі па гарадку з купаннем у вельмі прыемных басейнах, прыязныя зносіны з такімі мілымі, шчодрымі, разумнымі, працавітымі, добрымі людзьмі назаўсёды засталіся ва ўдзячных успамінах маёй памяці.

З газет даведаўся, што 28 студзеня ад лейкеміі сышоў у лепшы свет **Генадзь Уладзіміравіч Грушавы** — філосаф, прафесар, кіраўнік фонду «Дзеці Чарнобыля». Ён адзін з актыўных стваральнікаў БНФ, сябра апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га склікання. Калі па ініцыятыве З. Пазняка быў створаны камітэт БНФ «Дзеці Чарнобыля», у маі 1989 года было даручана ўзначаліць яго менавіта Генадзю Грушавому, які моцна адчуў усю небяспеку трагедыі і неабходнасць шукаць шляхі самавыратавання нацыі. Гэта ідэя стала мэтай яго далейшай дзейнасці і ўсяго жыцця. Ён так арганізаваў працу фонду, пераадолеўшы шматлікія перашкоды чынавенства, што змог аказаць дапамогу больш чым 2 мільёнам жыхароў Беларусі, а 160 тысяч дзяцей былі накіраваны на рэабілітацыю і аздараўленне ў многія краіны свету.

Я з вялікай сімпатыяй заўсёды адносіўся да Генадзя Уладзіміравіча, а зараз з цяжкасцю ў сэрцы перажываю страту гэтага мужнага, рашучага, разумнага, высокаадукаванага чалавека. Ён сумленна і шчыра працаваў на шляху адраджэння вольнай, незалежнай, дэмакратычнай Беларусі. Я нярэдка сустракаўся з ім на самых розных мерапрыемствах дэмакратычных сіл і заўсёды

адчуваў яго веру ў лепшую будучыню нашай Бацькаўшчыны. Некалькі разоў Генадзь Уладзіміравіч запрашаў невялікую групу, у тым ліку і мяне, у кавярню ці рэстаран, каб адзначыць і падзяліцца ўражаннямі пасля якога-небудзь задашлівага мерапрыемства тыпа Усебеларускага з'езда за незалежнасць, а то і значную колькасць аднадумцаў, каб разам адзначыць юбілей важнай мінулай падзеі гісторыі Беларусі. Пры апошняй нашай сустрэчы ён на развітанне мне і Гале сказаў, каб мы чакалі яго запрашэння адзначыць 25 угодкі БНФ, але зрабіць гэта па стане здароўя ён ужо не змог.

Генадзь Грушавы ў сваіх успамінах «Люстэрка жыцця» так падсумаваў свой жыццёвы шлях: *«Бацька 4 гады ваяваў на фронце, а потым ратаваў ахвяр вайны. І я правёў 20 год на сваім чарнобыльскім фронце, каб ратаваць яго ахвяр. Мабыць, так павінна было адбыцца — я адмовіўся ад навуковай кар'еры і пайшоў з палітыкі, каб выканаць больш важнае жыццёвае прызначэнне. І тое, што Чарнобыль мяне цяпер дабівае, не азначае, што я пацярпеў паразу. Ёсць людзі, якія гэта разумеюць»*[1]. У гэтым сэнсе паказальны запавет Грушавога, які ён пакінуў свайму сябру журналісту Марату Гаравому і які прасіў апублікаваць пасля свайго сыходу.

*«Калі амаль пяць гадоў таму я даведаўся, што ў мяне лейкемія — парушэнне структуры ДНК, — я сказаў сабе: мне ў жыцці пашанцавала, бо я памру ад таго, з чым змагаўся ўсё жыццё. Але я не дам Чарнобылю аніякіх шанцаў. Я хацеў бы скончыць жыццё на той бойцы, у якую ўступіў 26 красавіка 1986 года і на якой знаходжуся апошнія 27 гадоў. Я з тымі, для каго працаваў пасля Чарнобыля. Мой сыход — лагічнае завяршэнне майго жыцця. Такі сыход дараваны мне Богам і лёсам. І я ўспрымаю яго як салдат на вайне, бо лепш загінуць падчас атакі на фронце, чым ад малярыі ў тыле. Быць можа, сваім лёсам я каго-небудзь пераканаю, што ў Беларусі няма будучыні,*

[1] Народная Воля. — 2014. — 21 лютага.

*калі ігнаруюцца наступствы Чарнобыля. Нельга спадзявацца, што ад гэтай трагедыі можна схавацца ці ўцячы. Вось чаму дзяржава павінна займацца Чарнобылем самым сур'ёзным чынам. Толькі тады нацыя мае нейкую надзею на выратаванне. У свой час я змагаўся за постчарнобыльскую Беларусь. А сёння палова Еўропы змагаецца за мяне. Еўрапейцы даюць мне тыя лекі, якія я не мог даць хворым беларусам. І гэты аванс я павінен адпрацаваць напоўніцу...»*

* * *

31 студзеня 2014 г. споўнілася 85 гадоў **Анатолю Пятровічу Грыцкевічу** — выдатнаму беларускаму гісторыку, прафесару, доктару гістарычных навук, педагогу, грамадскаму дзеячу. Анатоль Грыцкевіч здзіўляў энцыклапедычнымі ведамі: ён з самага юнацтва хацеў дасканала пазнаць чалавека і яго гісторыю, таму скончыў Менскі медыцынскі інстытут, Менскі педагагічны інстытут замежных моў і, нарэшце, гістарычны факультэт БДУ. Выключная працаздольнасць, апантанасць да гісторыі вылiліся ў больш за 1300 навуковых і навукова-папулярных публікацый і больш за дзясятак манаграфій. Ён і ў свае 85 гадоў, нягледзячы на цяжкасці са здароўем, плённа працуе. «Пакуль працую — жыву», — кажа юбіляр. Як усё жыццё, так і цяпер дапамагае яму любая спадарожніца — клапатлівая Ада Вячаславаўна. Натхняюць і тры добрыя ўнукі, а нядаўна з'явіўся і праўнук. Анатоль Пятровіч перадае ім годнасць і гонар сям'і Грыцкевічаў, склаў яе радавод, які пачынаецца яшчэ з XVI стагоддзя і карані якога са слаўнай слуцкай зямлі. Таму А. Грыцкевіч шмат напісаў пра Случчыну, а пра свой род распавядаў у кнізе «Выбранае», нядаўна выдадзенай у знакамітай серыі «Кнігазбор» (2012). А. Грыцкевіч — адзін з самых глыбокіх даследчыкаў беларускай мінуўшчыны, актыўны прапагандыст гістарычных ведаў. Прыкладам яго грунтоўных, займальных публікацый пра праўдзівую айчынную гісторыю можа быць кніга «Старонкі нашай мінуўшчыны» (2009).

Анатоль Грыцкевіч — вядомы грамадскі дзеяч. Ён адзін з заснавальнікаў беларускага Народнага фронту (1988 г.) і Таварыства беларускай мовы (1989 г.). З тых часоў і мне давялося пазнаёміцца з гэтым добразычлівым, інтэлігентным чалавекам, а пазней і пасябраваць. Як ганаровыя сябры Таварыства беларускай культуры ў Літве, мы часта разам ездзілі на аўтобусе ў Вільню на самыя розныя мерапрыемства (з'езды беларусаў краін Балтыі і інш). Гэтыя паездкі заўсёды былі прыемныя і цікавыя. Нашы жыццярадасныя пачуцці ад сустрэчы яшчэ больш павялічваліся ад таго, што Анатоля Пятровіча нярэдка праводзіла Ада Вячаславаўна — іх кватэра знаходзілася недалёка ад аўтавакзала. Некалькі гадзін вандроўкі пралятáлі зусім непрыкметна: гамонкі на хвалюючыя нас абодвух тэмы ўвесь час напаўняліся вясёлым смехам, бо без канца з нашых вуснаў сыпаліся жарты. Мы нярэдка сустракаліся на пасяджэннях Рады ТБМ, Рады ЗБС «Бацькаўшчына» і інш. У 2000 г. мы разам з Г. Бураўкіным і Р. Барадуліным былі сустаршынямі Аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні Усебеларускага з'езда за незалежнасць. Пасля двух тэрмінаў майго прэзідэнцтва Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» перадаў у 2001 г. гэтую пасаду А. П. Грыцкевічу. Шчыра віншую Анатоля Пятровіча з юбілеем і з нецярплівасцю чакаю яго новых твораў[1].

4 лютага 2014 г. пазваніў **Арсеню Сяргеевічу Лісу** і сардэчна павіншаваў з 80-годдзем. Выдатны навуковец, доктар навук, літаратуразнавец, пісьменнік, грамадскі дзеяч упэўнена ідзе па шляху нацыянальнага адраджэння. Ён аўтар не толькі грунтоўных манаграфій «Купальскія песні» (1974), «Валачобныя песні» (1989), «Калядна-абрадавая творчасць беларусаў» (1998) і іншых навуковых публікацый, якія ўвайшлі ў скарбонку лепшых дасягненняў Інстытута мастацтвазнаўства,

[1] На наступны год 20 студзеня ў 21:30 Анатоль Грыцкевіч памёр, не дажыўшы да 86 гадоў 10 дзён.

этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі, але і захапляючых біяграфій многіх дзеячаў беларускай культуры і інш. Асобныя кніжкі былі прысвечаны Міколу Шчакаціхіну (1968), Пятру Сергіевічу (1970), якія аўтар прэзентаваў майму бацьку, а пазней і Браніславу Тарашкевічу (1991), якую ўжо я атрымаў з яго аўтографам.

Я сустракаўся з Арсенем Сяргеевічам ў Акадэміі навук, на пасяджэнні Рады ЗБС «Бацькаўшчына», Рады беларускай інтэлігенцыі і інш. Прываблівае яго сціпласць, уважлівасць, тактычнасць, эрудыцыя, вобразнасць думкі. Я вельмі ўдзячны Арсеню Лісу за яго такія грунтоўныя творы пра жыццё і творчасць братоў Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх. Разам з І. У. Саламевічам яны склалі выдатную кнігу «Максім Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы» (1984). Разам з А. Вялюгіным ён напісаў сцэнарый для дакументальнага фільма «Максім Гарэцкі. Алея жыцця», зняты Ігарам Калоўскім у 1985 г. У часопісе «Полымя» (1989, № 1 і 2) А. Ліс апублікаваў вялікі і змястоўны нарыс «Браты Гарэцкія». У кнізе «Песню — у спадчыну» (1989) А. Ліс напісаў пра Максіма Гарэцкага і яго маці Ефрасінню Міхайлаўну Гарэцкую — народную спявачку. Да 60-годдзя А. Ліса выйшла з друку яго кніга «Цяжкая дарога свабоды. Артыкулы, эцюды, партрэты» (1994), якую я атрымаў з цёплым аўтографам. Мы даволі часта перазвоньваліся, каб падзяліцца некаторымі навінамі і падзеямі. Мне прыемна было пачуць ад яго ўражанні пра мае артыкулы, якія ён прачытаў у газеце, ці пра кніжку, якую я яму прэзентаваў. Дзівіла яго ўважлівасць: ён вельмі хутка па выхадзе ў свет адклікаўся на прачытанае. Да 80-годдзя Арсеня Ліса апублікавана яго кніга «Выбранае» у серыі II. Гісторыка-літаратурныя помнікі «Беларускага кнігазбору», у якой ёсць нарыс «Слова пра братоў Гарэцкіх». Я атрымаў гэтую змястоўную і цікавую кнігу з такім аўтографам: *«Дарагому Радзіму Гаўрылавічу з удзячнасцю, што жылі ў адным часе, сустракаліся і нешта здолелі зрабіць для дабра Беларусі. Арсень Ліс. 26.02.2014»*. Я вельмі рад,

што мне давялося сустракацца і разам з Арсенем Сяргеевічам ісці па шляху адраджэння роднай Беларусі і спадзяюся, што лёс будзе літасцівы да нас і дазволіць, каб нашы крокі ў тым жа напрамку цвёрда і з карысцю для Бацькаўшчыны рухаліся яшчэ як мага больш гадоў.

У той жа дзень 4 лютага споўнілася 80 гадоў **Міколу Іванавічу Савіцкаму** — вядомаму навукоўцу ў галіне інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі, прафесару і загадчыку кафедры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Ён не толькі выкладаў на беларускай мове, але і выдаў «Руска-беларуска-англійскі слоўнік па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы», дапаможнікі на беларускай мове па профільных вучэбных прадметах і інш. Я яго больш ведаю як выдатнага грамадскага дзеяча, які вельмі актыўна змагаецца за беларускую мову, смела ідзе па шляху нацыянальнага адраджэння. Шмат гадоў Мікола Іванавіч узначальваў Мінскую гарадскую раду Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны і да гэтага часу з'яўляецца сябрам Рэспубліканскай рады ТБМ. Я з вялікай прыемнасцю сустракаюся на пасяджэннях рады з гэтым мужным, сціплым, разумным беларускім адраджэнцам, які не шкадуе сіл і ў свае 80 гадоў дзеля стварэння незалежнай, дэмакратычнай, сапраўднай беларускай Беларусі. Жадаю яму яшчэ на доўгія гады такой жа невычэрпнай энергіі.

8 лютага 2014 г. у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа сабраліся супрацоўнікі Інстытута гісторыі НАН Беларусі, родныя, сябры, прыхільнікі творчасці вядомага гісторыка, прафесара, грамадскага дзеяча **Леаніда Міхайлавіча Лыча**, каб павіншаваць яго з 85-годдзем з дня нараджэння. Я нядаўна ў кнізе «Жыццёвы меланж» (2013) пісаў пра дзейнасць Леаніда Лыча, як пра выдатнага адраджэнца сучаснасці. Супрацоўнікі Аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі пад-

рыхтавалі выставу «У гісторыі шукаць будучае» з яго кніг і артыкулаў, а таксама публікацый пра ягонае жыццё і творчасць. Зноў здзівіла надзвычайная шматтэмнасць прац гісторыка і вялікі плён яго творчасці. Юбіляр падзяліўся ўспамінамі пра жыццё. Ён падкрэсліў, што доўгі час жыў далёка ад Беларусі, прычым нават служыў у падраздзяленні Міністэрста ўнутраных спраў, якое ахоўвала палітвязняў Азёрлага каля Тайшэту ў Іркуцкай вобласці ў гады масавых рэпрэсій. Нягледзячы на гэта, захаваў сумленнасць і павагу да ўсяго праўдзівага і нацыянальнага. Пасля вяртання на Беларусь хутка далучыўся да шляху беларушчыны, прысвяціўшы сваю дзейнасць гісторыі Беларусі і яе нацыянальнаму адраджэнню. Леанід Міхайлавіч з першых дзён удзельнічаў у стварэнні Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», актыўна ўдзельнічае ў яго працы як сябра Рады. Л. Лыч заўсёды адгукаецца на самыя розныя пытанні гісторыі, нацыянальнай культуры і асабліва моўнай сітуацыі ў Беларусі. Можна быць упэўненым, што з гадамі ягоны творчы плён не зменшыцца, а вострыя публікацыі будуць павялічваць колькасць прыхільнікаў беларушчыны і лячыць беларусаў ад манкурцтва.

* * *

Далей вялікая хваля юбілеяў змянілася значнай паласой развітанняў. 9 лютага памерла верная спадарожніца Алеся Адамовіча **Вера Сямёнаўна**, з якой я ў верасні 2007 г. апошні раз сустракаўся ў Глушы. Калі мы вялікай групай сяброў і прыхільнікаў нашага выдатнага вучонага, пісьменніка і грамадскага дзеяча наведалі магілку з тым валуном, які мы разам з Верай Сямёнаўнай і Валяр'янам Янушкевічам адабралі для помніка Алесю Міхайлавічу, а затым у іх былой хаце адзначалі яго 80-годдзе.

14 лютага 2014 г. прыйшла сумная вестка пра смерць народнага мастака Беларусі **Гаўрылы Харытонавіча Вашчанкі** —

аднаго з самых выдатных сыноў Беларусі, чалавека высокай культуры і вялікага інтэлекту, адданага беларускаму народу і беларушчыне. Успамінаю нашы такія прыемныя і цікавыя сустрэчы з Гаўрылам Харытонавічам на розных выставах і шкадую, што так і не змог наведаць яго майстэрню, куды ён некалькі разоў запрашаў. 15 снежня 2013 г. з Галяй наведалі Мастацкі музей, дзе паглядзелі «выставу трох партрэтаў Уладзіміра Стэльмашонка» (адзін з іх Максіма Гарэцкага), а таксама выдатны цыкл карцін «Таямніцы ночы» Гаўрылы Вашчанкі. Апошні зрабіў вялікае ўражанне, пасля якога я па-сапраўднаму адпачыў сэрцам і душой у таямніцах яго цудоўных начэй. Сотні людзей з сардэчным жалем і шчырай удзячнасцю развіталіся ў Палацы мастацтваў з 85-гадовым найвялікшым нацыянальным мастаком.

23 лютага пайшла з жыцця **Зоя Пяхота** — жонка роднага брата маёй Галі Уладзіміра — на дзень яго саракавін. Працавітая, клапатлівая жанчына, маці двух дарослых сыноў, доўгія гады была медычнай сястрой, сама захварэла на рак страўніка, а сэрца не вытрымала згубы блізкага чалавека.

24 лютага памёр **Аркадзь Дзмітрыевіч Закрэўскі** — член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар тэхнічных навук, прафесар, галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута праблем інфарматыкі, адзін з заснавальнікаў вядомай школы лагічнага праектавання. Яго бацька ў канцы 20-х гадоў мінулага стагоддзя быў аспірантам па лясной энтамалогіі ў Беларускім навукова-даследчым інстытуце сельскай і лясной гаспадаркі, дырэктарам якога працаваў мой Тата. 1 кастрычніка 1927 г. Д. Ф. Закрэўскі быў камандзіраваны на два гады ў Ленінград для заняткаў на спецыяльных курсах пры кафедры лясной заалогіі Лясного інстытута. У 1928 г. 22 траўня ў яго і нарадзіўся сын Аркадзь, а ў Г. Гарэцкага — у снежні на свет таксама з’явіўся сын Радзім. Хутка пачалася кампанія па барацьбе

з «нацдэмамі», і сям'я Гарэцкага аказалася на будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала. Адчуўшы такую атмасферу, Д. Ф. Закрэўскі з сям'ёй не стаў вяртацца ў Менск, а самастойна паехаў працаваць у Сібір. Аркадзь Закрэўскі пасля заканчэння фізічнага факультэта Томскага ўніверсітэта працаваў у Сібірскім фізіка-тэхнічным інстытуце. Ён захапіўся новай навукай — кібернетыкай, абараніў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі, адначасова працаваў прафесарам і загадчыкам кафедры матэматычнай логікі і праграмавання ў Томскім ўніверсітэце. Блізкі лёс адбыўся і са мной у Маскве.

У 1971 г. прэзідэнт Акадэміі навук БССР М. А. Барысевіч запрасіў на працу ў Менск раскіданых па Савецкім Саюзе беларускіх вучоных, і тры з іх — Л. М. Сушчэня, А. Д. Закрэўскі і я — апынуліся на сваёй Бацькаўшчыне і сталі суседзямі ў доме на вул. Каліноўскага, а затым і ў новым доме на вул. Кульман, а яшчэ праз некаторы час — і на дачах каля Раўбіч. Нашы жонкі, якіх мы прывезлі з Расіі (Масквы, Ленінграда і Томска) першыя пакінулі гэты свет: спачатку ў мяне, потым у Л. Сушчэні, а ў А. Закрэўскага зусім нядаўна. Аркадзь Дзмітрыевіч, вельмі лагодны, добразычлівы разумны чалавек, цікавы апавядальнік (асабліва пра свае сібірскія вандраванні) і яго спадарожніца Людміла Васільеўна, вельмі клапатлівая, таварыская, заўсёды гатовая дапамагчы, прыцягвалі да сябе шмат сяброў, у тым ліку і нас з маёй Галяй. Успамінаюцца цудоўныя сустрэчы, гамонкі, агульныя клопаты, сяброўскія ўзаемныя справы з гэтымі выдатнымі людзьмі, якія назаўсёды застануцца ў нашай памяці. Шкада, што ўсё праходзіць…

*2014*

## Маркотны пачатак вясны[1]

Зіма пасля Новага года была зусім цёплая і амаль без снегу. Таму ўжо ў лютым, калі выглядала сонейка, павеяла вясной, а

[1] Тэрмапілы. — 2014. — № 18.

ў сакавіку — у першыя дні вясны, якія выдаліся яшчэ больш сонечнымі, яны адчуліся яшчэ больш яскрава. Людзі радаваліся, што нарэшце дачакаліся вясны. Аднак, калі першыя месяцы новага года выдаліся досыць значнай колькасцю апошніх развітанняў, дык першыя дні вясны нечакана адзначыліся выбухам пахавання трох выдатных асоб.

1 сакавіка 2014 г. не стала заслужанага архітэктара Беларусі **Леаніда Мендэлевіча Левіна** — вядомага аўтара і суаўтара шматлікіх мемарыяльных комплексаў, помнікаў, будынкаў, станцый метро, праектаў рэканструкцыі гістарычнага цэнтра Менску. Сярод іх мемарыяльны комплекс Хатынь (за які атрымаў Ленінскую прэмію), метро «Плошча Леніна» і «Няміга», помнікі Я. Купалу і Я. Коласу, М. Гастэлу і К. Заслонаву і інш. Больш за 20 гадоў Леанід Левін узначальваў Саюз беларускіх яўрэйскіх грамадскіх аб’яднанняў і абшчын.

Успамінаю, як у 2001 годзе мы аказаліся ў адной палаце ў Лечкамісіі пасля інфарктаў. Тут разам мы правялі не менш за 10 дзён і змаглі больш блізка пазнаёміцца. Леанід Мендэлевіч — вельмі добразычлівы, інтэлігентны, шырока адукаваны, беларускамоўны чалавек. Мы з ім шмат размаўлялі на самыя розныя тэмы. Ён паведаміў мне многа цікавага пра тыя падзеі, якія адбываліся ў час яго працы над мемарыялам Хатынь. Як заўсёды ў нашым жыцці, было шмат цяжкасцяў, недарэчнасцяў, не зусім разумных камандных прапаноў і загадаў ад чыноўнікаў, што прымушала губляць шмат нервовых клетак творцам мемарыяла і г. д. Усё гэта ён успамінаў і з гаркатою, і з вясёлым гумарам. Я раіў яму абавязкова напісаць успаміны як пра гэтыя падзеі, так і пра шмат іншых цікавых выпадкаў з яго жыцця.

Пазней Леанід Левін напісаў успаміны «Хатынь», урыўкі з якіх у жніўні-верасні 2006 г. друкаваліся ў газеце «Народная Воля». У іх ён яскрава па-мастацку паведаміў пра сваё жыццё, пра сваіх блізкіх і калег, асабліва падрабязна пра творчы калектыў Ю. Градава, В. Замковіча, Л. Левіна, пра тую апантанасць, якая поўнасцю авалодала імі ў час працы над мемарыялам «Хатынь». Салодкія мукі творчасці не адпускалі іх

ад пачатку працы да яе заканчэння, якія паступова прывялі іх да ўнікальнага і ў той жа час, мусіць, «адзінага правільнага» вырашэння. Паведаміў і пра шматлікія перашкоды, якія ішлі і ад чыноўнікаў рознага рангу, і ад калег, пра асабістую, часта вырашальную падтрымку П. М. Машэрава, і, нарэшце, пра трыумф у выглядзе Ленінскай прэміі.

Далей жыццёвая кругаверць развяла нас, і мы вельмі рэдка сустракаліся толькі на некаторых агульных мерапрыемствах, але я добра ведаў пра яго прыкметную творчую і грамадскую дзейнасць, якая мне падабалася. Таму я заўсёды з цёплым пачуццём адносіўся да яго і з прыемнасцю ўспамінаў тую нашу сустрэчу, хоць і адбылася яна пры не зусім спрыяльных умовах нашага здароўя і ў не зусім прыдатным месцы для знаёмства.

2 сакавіка 2014 года аглушыла вестка: спынілася сэрца народнага паэта Беларусі **Рыгора Барадуліна**. Толькі 24 лютага віншавалі яго з 79-годдзем, і раптам такая жудасць нечаканая… Ён быў паэтам ад Бога, прычым паэтам шчыра беларускім, які любіў і шанаваў слова беларускае, не пісаць ён не мог, бо ў родным слове быў сэнс яго жыцця — так было ўсё жыццё, да самага апошняга дня. Трапяткія адносіны да слова асабліва яскрава адчуваюцца ў яго нядаўняй кнізе «Вушацкі словазбор». Яго любоў да роднага кута, да мілай маці сваёй, а потым да ўнучкі Дамінікі выклікала вялікую павагу. Я сустракаўся з Рыгорам шмат разоў з самых розных нагод — ад сур'ёзных мерапрыемстваў тыпу з'ездаў беларусаў свету ці Усебеларускага з'езда за незалежнасць (былі сустаршынямі Аргкамітэта разам з Г. М. Бураўкіным і А. П. Грыцкевічам) да простых сяброўскіх. Яго жвавы паэтычны розум прымушаў зусім нечакана кідаць у вочы любому суразмоўцу такія вострыя экспромты, што многія крыўдзіліся на іх, але ўтрымацца ад трапнага слова ён не мог. Веліч яго як паэта не аспрэчвалася не толькі ў Беларусі, але і далёка за межамі. Яго блізкі сябра з маладосці таксама паэт-класік Генадзь Бураўкін лічыў яго беларускім паэтам № 1. Такую ж думку меў і Васіль Быкаў. У мяне на добрую памяць

засталося каля дзясятка падараваных Рыгорам Барадуліным яго кніжак, большасць з нестандартнымі надпісамі. Напрыклад, на яго кнізе «Лісты ў Хельсінкі» (2000) — *«Нясьхільнаму Радзіму Гарэцкаму ад Васіля і мяне — паклон! Рыгор. 25.03.00».* На адной з апошніх вядомых кніг «Ксты» (2005) — *«Самаму шчыраму, самаму дасьведчанаму, самаму нясьхільнаму Радзіму Гарэцкаму — чалом! Рыгор Барадулін. 17.VII.05 Mensk».*

2 сакавіка 2014 г. пакінуў гэты свет рэктар Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта, член-карэспандэнт НАН Беларусі **Пётр Дзмітрыевіч Кухарчык**. Вядомы фізік, які ўнёс вялікі ўклад у распрацоўку галаграфічных метадаў. Займаў кіруючыя пасады БДУ і Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце РБ, а таксама быў намеснікам міністра адукацыі. Мне давялося нярэдка сустракацца з Пятром Дзмітрыевічам у пачатку 1990-х гадоў, калі ён быў прарэктарам БДУ, а я прыкладаў шмат намаганняў, каб адкрыць кафедру дынамічнай геалогіі на геаграфічным факультэце. Вельмі добразычлівы, беларускамоўны, уважлівы, яго паважалі і любілі педагогі і студэнты за яго добрыя спакойныя адносіны, разуменне і імкненне да справядлівасці ў спрэчных і складаных сітуацыях, якія часта ўзнікаюць у навучальных установах. Я з удзячнасцю ўспамінаю тую шчырую і дзейсную дапамогу, якую я заўсёды адчуваў у яго падтрымцы ў такім нялёгкім пытанні, як адкрыццё новай кафедры, якую нарэшце ў 1995 годзе ўдалося стварыць, а я стаў яе першым загадчыкам.

Пахаванне ўсіх трох вядомых дзеячаў Беларусі адбылося 4 сакавіка, а развітанне прыблізна ў адны і тыя ж гадзіны — з 10 да 15 гадзін.

* * *

У сонечны святочны дзень 8 сакавіка пайшла з жыцця заснавальніца беларускай этнамузыкалогіі, вядомы славіст і

беларусіст **Зінаіда Якаўлеўна Мажэйка**, якой зусім нядаўна (8 снежня 2013 г.) адзначылі 80-годдзе. Тады яна, такая бадзёрая, светлая і радасная, дзялілася са мной новымі задумамі сваёй творчасці… Горка і крыўдна за несправядлівы лёс, які так раптоўна спыніў жыццё гэтай няўёмнай таленавітай жанчыны. Моцны дыябет выклікаў гангрэну нагі, якую ў Лечкамісіі прыйшлося ампутаваць вышэй за калена — і праз некалькі дзён жыццё абарвалася. Адсюль з ёй развіталіся 12 сакавіка. Шматлікія навукоўцы, дзеячы культуры і літаратуры, яе паплечнікі па этнамузыкалогіі, кінематаграфіі, сябры прыйшлі, каб сказаць шчырыя развітальныя словы. Сярод іх М. Дрынеўскі, М. Казінец, І. Лучанок, Т. Варфаламеева, А. Ліс, П. Садоўскі, А. Разанаў, А. Ганчарэнка, А. Лакотка і інш. Сваю павагу, сяброўства і вялікую згубу выказаў і я. Як прасіла Зінаіда Якаўлеўна, выносілі труну пад гукі фальклорнай песні квартэта вучняў З. Мажэйкі і воплескі прысутных. Імя З. Я. Мажэйкі назаўсёды застанецца ў памяці беларускай навукі і культуры.

*2014*

## Родная мова — галоўны гарант незалежнасці краіны

Кіраўнік беларускай дзяржавы неаднойчы з гонарам казаў, што ён, як прэзідэнт, — гарант Канстытуцыі і незалежнасці краіны. Наконт яго дзейнасці як гаранта Канстытуцыі мы ўжо добра ведаем па шэрагу ўказаў, якія вышэйшыя за асноўны закон дзяржавы. А як з незалежнасцю краіны?

Нядаўні прыклад падзей з Крымам паказаў, што не прэзідэнт Украіны В. Януковіч — гарант незалежнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці краіны, а найгалоўнейшы гарант незалежнасці — родная мова. У. Пуцін патлумачыў, у чым асноўная прычына далучэння Крыма да Расіі — гэта не толькі вяртанне спрадвечна рускіх земляў у Рускі Свет, а «Расія — гэта там, дзе гучыць руская мова», «мы не проста суседзі, мы практычна адзін

народ», «ва Украіне жывуць мільёны рускіх і рускамоўных грамадзян, і Расія заўжды будзе іх абараняць».

Расія ўжо даўно марыла пра зварот Крыма ў свае лона — У. Пуцін яшчэ прэзідэнту ЗША Бушу казаў, што калі Украіна ўвойдзе ў НАТА, дык яна ўвойдзе туды без Крыма. Але гэты план не атрымліваў рэальных здзяйсненняў. Цяпер аншлюс Крыма прайшоў імгненна: Расія ўвяла армейскія часткі, прызначыла ўрад Крымскай аўтаноміі, абвясціла рэферэндум, дала 10 дзён на абмеркаванне такога лёсавызначальнага пытання, у час якога правяла моцную прапагандысцкую кампанію. Прайшло два дні пасля рэферэндуму, і 18 сакавіка ў Крамлі было падпісана «гістарычнае рашэнне аб далучэнні Крыма».

Начальнік уладаў Беларусі ўжо 20 гадоў свайго кіравання робіць усё магчымае і немагчымае, каб у краіне зменшыць асяроддзе беларускай мовы і павялічыць рускамоўе. Яму гэта выдатна ўдаецца. На мяжы тысячагоддзяў, калі ён усімі сіламі імкнуўся ўвайсці ў адзіны агульны саюз з Расіяй, мяркуючы стаць адным з кіраўнікоў гэтай дзяржавы, гатоў быў ахвяраваць незалежнасцю Беларусі. Толькі дзякуючы рашучасці У. Пуціна, які прапанаваў увайсці ў склад Расіі цалкам ці асобнымі абласцямі (аб чым ён марыць і цяпер), кіраўнік беларускай дзяржавы, спужаўшыся, што можа зусім згубіць сваю ўладу, раптам шырока загаласіў, што ён — адзіны гарант незалежнасці нашай краіны. У той жа час ён усё роўна працягваў палітыку змяншэння беларускай мовы, а гэта значыць, што ён з дзіўнай упартасцю ўсё «сячэ сук, на якім сядзіць». Як бачым, менавіта родная мова — гарант незалежнасці краіны. Таму, калі кіраўнік беларускай дзяржавы сапраўды хоча, каб Беларусь заставалася незалежнай, дык ён павінен дбаць пра мову карэннай нацыі і ствараць усе ўмовы для яе пашырэння, каб яна гучала ва ўсіх кутках краіны і каб на ёй размаўлялі не толькі простыя людзі, але і кіраўнікі дзяржавы, і ў першую чаргу самы галоўны з іх.

Крым — яскравы магчымы сцэнар для Беларусі. Тут у нас усё падрыхтавана для яго здзяйснення. У краіне жыве галоў-

ным чынам рускамоўнае насельніцтва, прычым шмат сярод іх рускія і па нараджэнні.

«Рускія і беларусы — адзін народ», — так без канца сцвярджаюць кіраўнікі абедзвюх дзяржаў (хаця генетыкі і антраполагі сваімі даследаваннямі адмаўляюць такое адзінства). Дзякуючы шматгадовай палітыцы кіруючых чыноўнікаў сучаснай нашай дзяржавы і тых, у якія мы ўваходзілі раней, нацыянальная самасвядомасць жыхароў Беларусі зменшылася і апусцілася, як любяць казаць некаторыя, «ніжэй за плінтус». Беларуская эканоміка не можа развівацца без дапамогі Расіі, а маёмасць дзяржавы ўсё больш таксама належыць «старэйшаму брату». На тэрыторыі Беларусі ўжо існуюць вайсковыя базы. Да гульняў у Саюз Беларусі і Расіі дабавіліся сур'ёзныя намеры ўвайсці ў Еўразійскі саюз, адзіную мытную прастору і інш. Зарплаты, пенсіі ў Расіі ўжо значна вышэйшыя, а цэны на прадукты і вопратку ніжэйшыя, рубель больш стабільны. Дарэчы, гэтымі фактамі Расія прываблівала крымчан пры галасаванні на рэферэндуме. На заробках у Расіі цяпер знаходзіцца больш за 500 тыс. самых працаздольных грамадзян Беларусі. Такім чынам, нават тое, што пералічана (а гэта толькі частка такога кшталту рэалій), пацвярджае магчымасць крымскага варыянта для Беларусі. Нездарма А. Лукашэнка, калі размаўляў пра захоп Крыма Расіяй, усклікнуў: «Я в страшном сне представляю себе, что это могло произойти с Беларусью».

Залежнасць Беларусі і яе кіраўніцтва ад Расіі ўсё больш павялічваецца, а незалежнасць пастулова, але няўмольна змяншаецца, што выклікае ў шырокага грамадства значны непакой. З аднаго боку, беларускі кіраўнік падтрымлівае цэласнасць Украіны і прыязна сустрэў, на яго думку, легітымнага выканаўца абавязкаў прэзідэнта Украіны Аляксандра Турчынава, а з другога ў ААН Беларусь прагаласавала супраць рэзалюцыі, у якой падтрымлівалася тэрытарыяльная цэласнасць Украіны, а падзеі з Крымам растлумачыў так, што сама Украіна вінавата ў іх. Ён пацвердзіў, што расійскія тэлеканалы пра сітуацыю ва

Украіне брэшуць. У той жа час беларускія транслююць тое ж самае. Такая дыпламатычная здольнасць кіраўніка дзяржавы лавіраваць у адносінах з Расіей (то падкрэсліваць шчырую паслухмянасць, то праяўляць хітры шантаж) дазваляе пакуль што захоўваць незалежнасць дзяржавы. Нягледзячы на тое, што кіраўнік нашай дзяржавы заўсёды імкнецца паказаць сваю самастойнасць і баіцца, каб не палічылі яго сатэлітам Расіі, зусім нядаўна 4 красавіка на сустрэчы з губернатарам Калужскай вобласці А. Артамонавым ён шчыра выказаў сваю адданасць Расіі, як яе сапраўдная марыянетка: *«Запомните, что бы я ни делал сейчас, разговаривая с Украиной, Западом, Востоком и т. д., я ни одного шага не делаю без согласования с руководством Российской Федерации, если вопрос касается Росии. Поэтому даю на этот вопрос прямой и чёткий ответ, если нужно Росии, чтобы мы за неё работали на Украине, мы будем это делать. Если нужно России, чтобы мы ехали за тридевять земель и пользу ёй приносили, мы это будем делать. Потому что это: а) в интересах нашего родного брата, б) это в интересах Беларуси, это не противоречит нашим интересам. Ещё не родился тот урод на земле, который бы не понимал, что такое Россия и что такое санкции, и чем они обернутся»*.

Кіраўніцтва Расіі на нейкі час адкладае прывесці крымскі сцэнар да Беларусі. Але ці надоўга? Аб такой магчымасці трэба думаць усім жыхарам самастойнай Беларусі і яе ўладам. А для гэтага неабходна выпраўляць сучасную сітуацыю з многімі праблемамі, пра якія адзначалася раней, і перш-наперш прыкласці ўсе намаганні на пашырэнне мовы карэннага насельніцтва ва ўсіх сферах жыцця краіны.

*2014*

# Ці пойдзе працэс далей?[1]

У час перабудовы Міхаіл Гарбачоў прамовіў фразу, якая стала крылатай: «Працэс пайшоў…». Цяпер кіраўніцтва Расіі на чале з У. Пуціным правялі рэферэндум, а затым і далучэнне Крыма да Расіі. Гэта здалося недастатковым («апетыт расце ў час яды») і пачаліся такія ж працэсы на ўсходняй і паўднёва-ўсходняй Украіне: Данецк, Славянск, Харкаў, Луганск, Нікалаеў, Адэса. А яшчэ раней былі Абхазія і Паўднёвая Асетыя. Тады ж падумалася: «Ці не пойдзе гэты "працэс рэферэндумаў" далей і шырэй?» «Ці не перакінецца ён бумерангам і на саму Расійскую імперыю?» Ужо называюць Малдову і непрызнаную ў свеце Прыднястроўскую рэспубліку.

Раптам чытаю ў «Народнай Волі» ад 4 красавіка 2014 г. невялікі артыкул «Как отреагирует Москва? На Смоленщине начали сбор подписей за вхождение в состав Беларуси». Ініцыятары акцыі патрабуюць правядзенне рэферэндуму пра далучэнне Шумяцкага раёна Смаленскай вобласці да Беларусі. У звароце да адміністрацыі Смаленскай вобласці і адміністрацыі Шумяцкага раёна яны пішуць:

*«"До 1939 года большая часть Шумячского района входила в состав Республики Беларусь. Мы считаем незаконным захват исконно белорусских земель", — пишут инициаторы петиции.*

*"На протяжении веков Смоленск был восточным форпостом Великого Княжества Литовского. Даже после его силового отъема Московией этнографические исследования XIX века однозначно указывали на преобладающее там белорусское население. Провозглашенная в 1918 году Белорусская Народная Республика, включавшая в себя земли, на которых белорусы составляли этническое большинство, претендовала на Смоленск. БССР, провозглашенная большевиками 1 января 1919 года как ответ на провозглашение БНР, была объявлена в Смоленске, он же и являлся ее столицей. В последующие пару*

---

[1] Тэрмапілы. — 2014. — № 18.

*лет большинство земель БССР были отторгнуты бездумным волюнтаристским решением, после многих лет подковерной борьбы часть из них была возвращена, но части так не повезло.*

*Мы считаем, что нужно исправить историческую несправедливость и дать населению Смоленской области свободно высказаться за присоединение к Республике Беларусь на референдуме", — говорится в сообщении инициаторов сбора подписей.*

*На вчерашний день под петицией стояло более 1500 подписей.*

*Интересно, что решение о включении Крыма в состав РФ было принято очень легко, а вот выход из состава Российской Федерации не предусмотрен. Более того, даже за призывы отделиться от России предусмотрено уголовное наказание до четырех лет лишения свободы».*

У газеце «Свободные новости плюс» ад 8.IV.2014 г. на гэту тэму з'явіўся артыкул «Губернатор Смоленщины согласен отдать белорусам приграничные районы». У ім тлумачыцца:

*«Предложение касается семи приграничных районов, где крестьяне не в состоянии возделывать землю собственными силами. О готовности передать российскую землю сообщает Радио Свобода со ссылкой на смоленскую газету "Рабочий путь"».*

Далей напісана: *«В статье газеты "Землю — белорусам" говорится, что губернатор Алексей Островский выступил с предложением передать белорусской стороне земли в Краснинском, Велижском, Монастырщинском, Хиславичском, Ершицком, Шумячском и Руднянском районах. Эти регионы граничат с Могилевщиной и Витебщиной. Единственное условие губернатора Смоленщины — чтобы сельскохозяйственные предприятия, образованные в этих районах, были российские и доходы шли в бюджет Смоленской области.*

*Тем временем на сайте общественных петиций www. avaaz.org собирают подписи за проведение референдума о вступлении Шумячского района Смоленской области в состав Республики Беларусь.*

*Обращение адресуется администрации Смоленской области и администрации Шумячского района.*

*Также петиция за возвращение Смоленска Беларуси появилась в конце марта на сайте change.org».*

Потым ідзе паўтор тэксту звароту. Масква пакуль што маўчыць. Хутчэй за ўсё працэс пойдзе…

***2014***

## Супадзенне?[1]

10 красавіка 2014 г. споўнілася 114 гадоў з дня нараджэння майго Таты. У такія дні вучні і паслядоўнікі акадэміка Г. І. Гарэцкага праводзяць навуковыя чытанні, прысвечаныя памяці вучонага. Сёлета павінны былі адбыцца XXV чытанні, на якіх, апрача навуковых дакладаў, звычайна ў самым канцы даюць слова і мне дзеля ўспамінаў. Нечакана напярэдадні чытанняў мне патэлефанаваў акадэмік А. В. Мацвееў — адзін з старэйшых вучняў Г. Гарэцкага, старшыня камісіі па вывучэнні геалогіі чацвярцічнага перыяду і геамарфалогіі, які ўжо шмат гадоў вядзе чытанні і распачынае іх уступным словам, — і кажа, што 8 красавіка памёр Пятрусь Фёдаравіч Каліноўскі — адзін з лепшых вучняў і прадстаўнікоў навуковай школы Г. Гарэцкага, а 10 красавіка адбудзецца пахаванне. Да свайго 75-годдзя ён не дажыў 42 дні. Вырашылі не праводзіць чытанні ў гэты дзень, а перанесці на 17 красавіка, калі будзе 9 дзён пасля смерці.

Пятрусь Каліноўскі, ураджэнец Слонімшчыны, пасля заканчэння Мінскага педагагічнага інстытута ў 1970 г. паступіў у

[1] Тэрмапілы. — 2014. — № 18.

аспірантуру Інстытута геахіміі і геафізікі АН БССР па спецыяльнасці палеанталогія і стратыграфія. Дзякуючы вялікай працаздольнасці, ён стаў вядомым спецыялістам па палеатэрыялогіі чацвярцічнага перыяду, абараніў кандыдацкую дысертацыю пад кіраўніцтвам Г. Гарэцкага. Ён вывучаў выкапнёвыя рэшткі млекакормячых ці, як лічыў Г. Гарэцкі больш правільна пабеларуску — сысуноў. П. Каліноўскі працаваў вельмі апантана, што асабліва цаніў яго кіраўнік, які падтрымліваў і натхняў яго як у навуковых працах, так і ў навукова-папулярных, чым Пётр Фёдаравіч пачаў таксама захапляцца. Найбольш вядомая яго кніга ў гэтым напрамку выйшла ў 1999 г. — «Падарожжа ў мінулае да братоў нашых меншых». Ён змог стварыць багатую калекцыю рэштак сысуноў па тэрыторыі Беларусі, Літвы, Маскоўскай вобласці.

Пасля смерці Г. І. Гарэцкага Пётр Фёдаравіч да яго стагоддзя напісаў цёплыя ўспаміны «Умеў падтрымаць і натхняць», актыўна ўдзельнічаў у чытаннях, прысвечаных памяці настаўніка, на якіх зрабіў некалькі дакладаў. На VI чытаннях роўна 19 гадоў таму ў 1995 г. Пятрусь Каліноўскі рабіў цікавы даклад «Аб датаванні костак млекакормячых са Смаргонскага месцазнаходжання». Раптам яму стала кепска — узняўся вялікі ціск. Выклікалі хуткую дапамогу і адвезлі ў бальніцу. Здарыўся інсульт, пасля якога Пётр Фёдаравіч пайшоў на пенсію, але патроху працягваў займацца сваёй любімай працай. Апошнія гады ён жыў у Ракаве.

Менавіта 10 красавіка жонка, дзеці, родныя, блізкія, сябры і былыя супрацоўнікі назаўсёды развіталіся з П. Ф. Каліноўскім — светлым, добрым чалавекам, выдатным вучоным, які ўнёс значны ўклад у палеатэрыялогію і стратыграфію чацвярцічнага перыяду Беларусі. На жаль, не перадаў ён сваё ўмельства і веды маладым вучоным. Многія задаліся пытаннем: чытанні, інсульт, развітанне — ўсё 10 красавіка — гэта супадзенне ці не?

***2014***

## Ці адбудзецца дзяржаўная падтрымка беларускай мовы?[1]

Украінскі крызіс моцна паўплываў на шэраг акцэнтаў у штогадовым кастрычніцкім пасланні да народа і парламента кіраўніка дзяржавы — самае галоўнае да яго, нарэшце, дайшло вялікае значэнне роднай мовы, і ён упершыню за ўсе 20 гадоў свайго панавання ўстаў на абарону беларускай мовы: *«Калі мы перастанем гаварыць па-руску — мы страцім розум. Калі мы развучымся гаварыць на беларускай мове — мы перастанем быць нацыяй»*. Апрача таго, разважаючы пра незалежнасць Беларусі, ён ужо не дзяліў насельніцтва на «сваіх» і «чужых», а казаў пра неабходнасць аб'яднання людзей, недапушчальнасці ў нашым адзінстве расколіны, падкрэсліў, што пагроза для краіны сёння зыходзіць не столькі ад НАТА, а больш з усходу і таму ролю «пятай калоны» адводзіў прарасійскім дзеячам, а «мы за любую апазіцыю, якая дзейнічае ў рамках закона». Ён зноў паўтарыў сваё выказванне, што ў выпадку чаго сам узначаліць абарону краіны і дадаў: *«Нас палохаюць, што прыйдзе Пуцін. Калі прыйдзе, дык невядома яшчэ, за каго будуць рускія»*. Цікава, ці надоўга захаваюцца такія погляды ў кіраўніка нашай дзяржавы і ці не зменяцца яны ўжо 29 красавіка, калі адбудзецца ў Менску сустрэча прэзідэнтаў Беларусі, Расіі і Казахстана?

* * *

Афіцыйна тэма сустрэчы ў Менску — стварэнне Еўразійскага эканамічнага саюза, аб чым шырока паведамлялася ў СМІ (засталіся некаторыя разначытанні і таму дата падпісання дамовы — 29 траўня ў Астане). Безумоўна, пытанне пра сітуацыю ва Украіне было таксама ў цэнтры ўвагі трох кіраўнікоў, але пра яго — поўнае маўчанне. Відаць, А. Лукашэнка і Н. На-

---

[1] Тэрмапілы. — 2014. — № 18.

зарбаеў, хоць і згадзіліся з далучэннем Крыма да Рассіі, але засталіся пры сваёй думцы пра цэласнасць Украіны.

29 траўня ў Астане кіраўнікі Расіі, Беларусі, Казахстана ўрачыста падпісалі стварэнне Еўразійскага эканамічнага саюза, тым самым лідар нашай дзяржавы яшчэ больш згубіў самастойнасць і мацней прывязаў Беларусь да Расіі, як эканамічна, так і палітычна. Нездарма ён у інтэрв'ю Ксеніі Сабчак назваў Беларусь «прорусской провинцией»[1].

*2014*

## З нарвежскіх замалёвак[2]

**Вясна.** Галя і я ўжо многа разоў ездзілі ў Нарвегію, але заўсёды ў канцы лета — пачатку восені (ліпень, жнівень, рэдка верасень). Тады тут нас сустракалі ў лесе грыбы (праўда бывалі і не надта грыбныя сезоны), розныя ягады (маліны, чарніцы, галубіцы-буякі, брусніцы), у дварах жыхароў — кусты парэчкі, агрэсту, рэдкія дрэвы яблынь, вішняў, усюды шматлікія кветкі — у вокнах дамоў, на верандах, ля выхадаў, замест агароджы — пастрыжаныя туі (падобныя да малых кіпарысаў) ці елачкі. На вуліцах і дварах — парадак і чысціня.

Зіма ў гэтым годзе ў Беларусі была амаль зусім без снегу і таму памерзлі ружы, вінаград, у некаторх мясцінах нават азімыя, і прыйшлося дасяваць. Мы выехалі ў Нарвегію ў пачатку траўня. Беларусь праводзіла нас буйным квітненнем садоў. Прыгажосць надзвычайная! У горадзе каштаны выкінулі прывабныя і стромкія свечачкі. Усё пазелянела: паля раскінулі светлую жыццярадасную рунь. Схілы дарог і лугі сталі стракатымі: іх зялёны фон парушыўся плямамі жоўтых адуванчыкаў, якіх у гэтым годзе, як ніколі, усюды вельмі шмат. Глядзіш на лес, і кідаюцца ў вочы пяшчотна зялёныя бярозкі, больш цёмныя ліпы і івы, яшчэ цямнейшыя сосны і зусім цёмна-зялёныя

[1] Свободные новости плюс. — 2014. — 27 мая.

[2] Тэрмапілы. — 2014. — № 18.

елкі. Бачна больш за дзясятак розных адценняў зялёнага колеру. Мясцінамі асобнымі куткамі рознай формы, а то і адзінокімі плямкамі бялеюць квітнеючыя дрэвы калакалухі (чаромхі). Па трывалай народнай прыкмеце ў гэты час пахаладала. Ужо вярнулася з выраю шмат пералётных птушак, лес ажыў гоманам птушыных певуноў, чуецца зязюліна вяшчунка, а бліжэй да дач — сварка варон і крумкачоў.

У Нарвегіі гэтая зіма таксама выдалася маласнежная, студзёная і таму многія расліны памерлі. Каля некаторых дамоў стаяць рудыя пасохлыя туі, прычым не ўсе, а толькі адзінкі ці некалькі сярод захаваўшыхся зялёных. Шэраг кустоў гаспадары ўжо вырубілі. Замест зялёнай акруглай купы ці паласы агароджы стаяць нязвыклыя шэра-рудыя, але мясцінамі яшчэ жывыя. Красавік тут выдаўся вельмі мокры і ветраны — бясконцыя праліўныя дажджы, і дзьмуў такі магутны вецер, што цяжка было ўтрымацца на нагах. Людзі стараліся больш сядзець у памяшканні.

Калі мы 10 траўня прыляцелі, дык прывезлі добрае надвор’е, якое пратрымалася ўсё двухтыднёвае наша гасцяванне. Светлыя воблакі ляцелі па небе, а скрозь іх прасвечвала ласкавае сонейка, а некалькі дзён выдаліся поўнасцю з чыстым сінім небам. Тэмпература паветра ў дзень уздымалася да 15–20°. Нарвегія сустрэла нас не толькі цёплым надвор’ем, але і буйнымі белымі фарбамі яблынь і вішняў, ружовых сакур і рознакаляровых бэзаў, якіх, на жаль, малавата ў дварах. Больш за ўсё кідаюцца ў вочы прыгожыя рададэндраны, якія пасаджаны асобнымі кустамі розных памераў ці групамі кустоў і нават вялікімі агароджамі і якія маюць самыя разнастайныя шапкі кветак: белых, жаўтавата-белых, жоўтых, розных адценняў ружовага колеру — ад бледна-ружовых да цёмна-ружовых і амаль чырвоных, больш рэдкія — стракатыя. Каля дамоў і ў дварах шмат кветак球рознага памеру: цюльпаны (чырвоныя, жоўтыя, ружовыя, белыя, чорныя, стракатыя), белыя і блакітныя ірысы, шматкаляровыя анюціны вочкі і інш. Магутныя грабы і букі

пакрыліся густымі зялёнымі лісцямі, некаторыя з іх — арыгінальнымі карычневатымі, а дубы — слаба распусціўшыміся зеленавата-жаўтаватымі лісточкамі. Толькі светлыя ясені выглядаюць амаль голымі — набухлыя почкі зрэдку раскрыліся бледна-зялёнымі лісткамі. Зялёныя паляны ўсыпаны буйнымі жоўтымі плямамі адуванчыкаў, якія мясцінамі раскіданы, як зоркі на небе. Зрэдку трапляюцца невялікія паселішчы прыгожых рознакаляровых стромкіх люпінаў.

Адносна невысокія горы поўнасцю пакрыты лесам, які вылучаецца зялёным фонам шматлікага, больш за дзясятка, адценняў ад ярка-зялёных піхт, светла-зялёных бяроз, бледна-зялёных і зеленавата-шэрых асін да цёмна-зялёных сосен і елак. Высокія горы — голыя шэрыя скалы, зрэдку пакрытыя зялёнымі плямамі кустоў і сухотных дрэў, а ў іх падножжа густа рознакаляровы зялёны лес. Паўсюль радасна спяваюць птушкі, на вуліцах скачуць і чырыкаюць верабейчыкі, скачуць чародкі шпакоў, у рачушках і азёрах — дзікія качкі, чайкі, рэдкія лебедзі ствараюць вясёлы гоман.

Вясна і ў Беларусі, і ў Нарвегіі прыгожымі размаітымі фарбамі і звонкімі радаснымі гукамі спявае гімн жыццю.

**Дзень незалежнасці.** 17 траўня 1814 г. — дзень абвяшчэння Эйдсвальскай канстытуцыі незалежнай нарвежскай дзяржавы (Эйдсвале — мястэчка на паўночны ўсход ад Хрысціяніі). З таго часу 17 траўня зрабіўся нацыянальным святам Нарвегіі, а сама канстытуцыя са зменамі і дапаўненнямі дзейнічае і цяпер. Але вайсковае ўмяшанне Швецыі прывяло да заключэння шведска-нарвежскай уніі, якую ўдалося скасаваць толькі пасля рэферэндуму ў 1905 г. Каралём Каралеўства Нарвегіі стаў Хокан VII, дацкі прынц па паходжанні. З гэтага часу Нарвегія стала поўнасцю незалежнай, але Дзень незалежнасці, як і раней, святкуецца 17 траўня.

Уся краіна — у нацыянальных сцягах рознага памеру — ад вялікіх да зусім малых — на ўсіх афіцыйных будынках, унутры

супермаркетаў і вялікіх магазінаў супраць кожнага аддзела, на большасці жылых дамоў, катэджаў і іншых уласных будынках. Не толькі ў сталіцы Осла і буйных гарадах, але і ва ўсіх гарадках, пасёлках, мястэчках, фермах насельніцтва ўрачыста адзначае гэтае свята, прычым без усякага нагадвання, прапаганды і тым больш ціску. Звычайна вельмі проста па-рабочаму, спартыўна апранутых у дзень 17 траўня людзей не пазнаць: большасць жанчын, а таксама і некаторыя мужчыны — у прыгожых нацыянальных строях, астатнія — жанчыны ў чыстых лепшых сваіх адзеннях, мужчыны ў касцюмах з гальштукамі і стужачкамі чырвонымі звонку і белымі ўнутры, якія прышпілены з левага боку.

У гарадах і мястэчках праходзяць народныя дэманстрацыі: ці адна агульная, ці папярэдні яшчэ дзве-тры асобныя: дзіцячыя, школьныя, спартыўныя. Не меншая колькасць людзей збіраецца, каб паглядзець на ўдзельнікаў дэманстрацый. Уражанне надзвычайнае! На чале калоны ідзе кіраўнік ці група кіраўнікоў паліцыі, потым шэраг маладых хлопцаў у спецыяльных строях у зеленавата-шэрых сарочках нясуць вялікія нацыянальныя сцягі, а за імі аркестр, які выконвае розныя маршавыя мелодыі. Апрача дырыжора, наперадзе група прыгожых стромкіх дзяўчат у элегантных строях пад музыку прадстаўляюць спецыяльныя мастацкія рухі з дапамогай адпаведных указак. Затым праходзяць розныя раёны горада, школы, ліцэі, каледжы, універсітэты, культурныя цэнтры і клубы шматлікіх напрамкаў (балетныя, бальных і народных танцаў, акрабатыкі, цыркавыя, музычныя, шахматныя, футбольныя, хакейныя, баскетбольныя, валейбольныя, дзіцячыя, ветэранаў і г. д.). Кожная група паказвае сваё майстэрства і дасягненні, прычым зноў на чале асобных падраздзяленняў нясуць яго сімвалічны знак, нацыянальныя і свае сцягі, ідзе самадзейны аркестр, сярод якога выканаўцы рознага ўзросту — ад пенсіянераў да зусім маладых хлопцаў і дзяўчат. Часам удзельнікі крычаць прывітанні, спяваюць песні. Сярод удзельнікаў шэсця шмат бацькоў з зусім малымі дзеткамі і нават у калясках — усе

нясуць невялічкія нацыянальныя сцягі. Цікавая спецыяльная вопратка ў выглядзе чырвоных штаноў з сімваламі дзяржавы ў маладых хлопцаў і дзяўчат — выпускнікоў розных спецыяльных каледжаў. І ў калонах, і сярод гледачоў сустракаюцца людзі іншых нацый: негры, арабы, в’етнамцы, японцы, інданезійцы, еўрапейцы і інш. Многія з іх таксама з нарвежскімі сцягамі.

Найбольш уражваюць жанчыны ў нацыянальных нарвежскіх строях — яны вельмі прыгожыя і жанчын робяць прыгажэйшымі і прывабнымі. Часцей гэтыя строі маюць такі выгляд: на белую сукенку надзета цёмная ці чырвоная камізэлька, на якую шырокім поясам прымацавана цёмнага (чорнага, цёмна-сіняга ці цёмна-шэрага) колеру святочная спадніца (тыпу беларускага андарака) з вышыванкамі. На плечы нярэдка накінута хустка, а на галаву — хусцінка. Наперадзе сукенка, камізэлька, пояс, якія ўпрыгожаны срэбранымі нацыянальнымі вырабамі. Нечым гэтыя строі нагадваюць многія нацыянальныя строі беларусаў.

Завяршае шэсце ці вайсковы аркестр, ці проста адзін-два паліцыянты.

Калі бачыш такое шчырае святкаванне незалежнасці краіны ўсім насельніцтвам, якое тым самым выказвае сваё надзвычай моцнае самавызначэнне, гонар за свой народ і дзяржаву, сэрца любога чалавека з розных куткоў зямлі напаўняецца павагай да гэтага народа і выказвае яму пажаданне поспехаў, новых дасягненняў і росквіту. А маё сэрца, апрача тых жа пачуццяў, яшчэ балюча шчаміла ад жалю, што няма ў беларусаў такой агульнай самасвядомасці, гонару і адданасці сваёй цудоўнай краіне.

**Настаўніца.** Адна настаўніца з Расіі скончыла Педагагічны інстытут замежных моў, прыехала ў Нарвегію з сынам. Тут праз некаторы час выйшла замуж за нарвежца, нарадзіла яшчэ двух дзетак. Вельмі энергічная, жвавая, добра авалодала нарвежскай мовай, атрымала працу настаўніка ў школе, скончыўшы спецыяльныя курсы. Жаліцца, што ў яе цяжкая праца. Справа ў

тым, што да дзетак тут адносіны, як да дарослых, сяброўскія, на роўных. На іх нельга крычаць, тым больш лаяць — усё трэба спакойна растлумачыць, пагутарыць, яны павінны адчуваць сябе вольнымі, не адчуваць ніякага прымусу, але заняць нечым так, каб ім было цікава. Усё гэта даецца вельмі цяжка, бо дзеці ў большасці неслухмяныя, самавольныя, адчуваюць сябе зусім самастойнымі, а некаторыя нават ганарлівымі. Наша настаўніца не-не ды сарвецца і прыкрыкне, а зрэдку і не зусім паважліва. Дырэктар школы аднойчы пачуў і зрабіў заўвагу ў досыць катэгарычным выглядзе: «Вы кіньце гэтыя Вашыя рускія савецкія звычкі!» Таму ёй увесь час прыходзіцца трымаць сябе ў руках, сачыць за сваімі паводзінамі і адносінамі да школьнікаў, а гэта не так лёгка.

**Пясчаная валейбольная пляцоўка.** Каля вялікага возера, на самам версе яго крутога берага, дзе мелася больш роўная тэраса, прывезлі некалькі машын дробненькага чыстага пясочку, выраўнялі і зрабілі тут зручную валейбольную пясчаную пляцоўку. Адразу за пляцоўкай цягнецца вуліца, па той бок якой размешчаны дамы, катэджы, палісаднікі, стаяць аўтамашыны. Аднойчы позна вечарам з боку возера падняўся моцны вецер, які дзьмуў усю ночку. Ён быў настолькі магутны, што ўзняў пясок з пляцоўкі і панёс праз дарогу на адзін з дамоў і на аўтамашыну, якая стаяла побач. Раніцаю, калі вецер сціх, гаспадары дома ўбачылі, што іх аўтамашына, якая ўчора была прыгожага сіняга колеру, стала стракатай і нейкай пашарпанай. Гаспадары пажаліліся на стваральнікаў пляцоўкі. Улады мястэчка адказалі: «Аўтамашына павінна стаяць у гаражы, а не на вуліцы і таму вінаваты Вы самі, уладальнікі аўтамашыны, а не арганізатары пляцоўкі і кіраўнікі мястэчка, якія далі дазвол на будаўніцтва пляцоўкі».

**У фермера.** Запрасілі у госці да фермера. Ён патомны фермер гадоў 60, яго жонка (ужо другая) рускамоўная жыхарка з

прыбалтыйскай краіны прыблізна на 25 гадоў маладзейшая за яго; у іх агульны сын — вучань 4-га класа. Тэрыторыя фермы раскінулася сярод гор з тыповым ледавіковым ландшафтам. Горы рознай формы: згладжаныя ў выглядзе паўкруглай спіны велізарнага дыназаўра, уся пакрытая лесам, багатым ягадамі і грыбамі; больш вострыя горы, усыпаныя зялёнымі плямамі кустоў і чэзлых дрэў; зусім голыя скалы, некалі абцёсаныя ледавіком. Паміж гор — лагчыны, тэрасы, на якіх балоты, неглыбокія азерцы, а мясцінамі — глыбачэзныя (да 100 м і болей) акруглыя ці слаба выцягнутыя азёры з чыстай крынічнай вадой блакітнага, а то амаль сіняга колеру. Робіць проста казачнае ўражанне. Азёры звычайна праточныя, звязаныя паміж сабой рачулкамі, у пашыраных і больш глыбокіх месцах якіх бачны стрэлачкі жвавых фарэлей. Межы фермы зроблены ў выглядзе агароджы з невялікіх валуноў. У нашага фермера плошча яго зямель займае не менш 5–6 км удаўжыню і 1–3 км ушырыню. Усе балоты меліяраваны, і на іх палях пасаджана трава для сена. Сенакос праходзіць 2–3 разы на год. На месцы некаторых былых балот некалі раслі магутныя сосны, астанкі ствалоў і каранёў якіх былі выкапаны. Яны звалены часова ў значную кучу. Зроблены аналіз па вугляродзе $C^{14}$ паказаў, што ўзрост лесу дасягае 6 тыс. гадоў. Гаспадар увесь час змагаецца за пашырэнне палёў травы шляхам асушэння балот, карчавання дрэў ці пнёў, разбурэння невялікіх скалістых гор і ачышчэння ад развалаў валуноў. Уся тэрыторыя фермы ўяўляе працяглы вялікі схіл, парушаны палямі травы. Чым далей угору, тым вышэй робяцца горкі, на якіх пасуцца авечкі (іх у гаспадара каля 70 і каля 140 малых авечак). Яны спрытна лазяць паміж валуноў і шчыпаюць траўку, якую таксама фермеры падсяваюць і ўгнойваюць. Тут авечкі пасуцца ўсё лета і восень.

Праз усю тэрыторыю фермы з глыбокага возера на высокай частцы гор уніз весела збягае і журчыць рачулка.

Супраць возера, якое належыць ужо суседняму фермеру, наш гаспадар паказаў невялікую пляцоўку, на якой бачна 5 рэштак былых фундаментаў ад хацін. Як ён паведаміў, тут

яшчэ ў 1706 г. жыў яго далёкі продак. Спачатку ён ажаніўся з жанчынай, якая была гадоў на 10–15 старэйшая за яго. Але дзетак не было. Калі яму споўнілася 60 гадоў, жонка памерла, і ён ажаніўся з маладой дзяўчынай, гадоў на 40 маладзейшай за яго, якая адарыла яго 6 дзеткамі, а сам памёр амаль у 100 гадоў. Вось з тых часоў надзел фермы пераходзіць ад аднаго да аднаго і, нарэшце, дайшла чарга і да нашага гаспадара, які вельмі любіць сваю зямлю, сваю працу і атрымлівае ад яе сапраўдную асалоду, не гонячыся за камерцыяй.

Бліжэй да больш нізіннай часткі тэрыторыі на беразе той рачулачкі, а тут ужо ручайка, стаіць катэдж гаспадароў. Гэта вельмі ўтульны трохпавярховы катэдж з верандай, на якой мы сядзелі, пілі, елі смачную размаітую ежу і пітво, якім нашы добразычлівыя гасцінныя гаспадары шчыра і сардэчна нас сустракалі. Дом мае ўсё неабходнае для нармальнага жыцця — электру, ацяпленне, каналізацыю. Кожны мае камп’ютар. Гаспадар вельмі адукаваны, добра ведае гісторыю краіны і раёна, апрача сваёй складанай гаспадаркі актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці, друкуе ў газетах свае погляды і прапановы па паляпшэнні фермерскіх гаспадарак і іншых пытаннях мясцовай камуны. Побач з домам багатыя падсобныя памяшканні: кароўнік, дзе гадуецца 16 малочных кароў і прыгожы магутны бык, розныя трактары, сельскагаспадарчыя машыны, некалькі легкавых аўтамашын і інш. Раней трымалі кабанчыкаў, кароў для малака. Вызывае здзіўленне, як можна такімі малымі сіламі так добра весці такую вялікую гаспадарку і трымаць яе ў ідэальным стане. З шчырай удзячнасцю і пажаданнямі ўсяго найлепшага пакінулі нашых сімпатычных фермераў.

**Мастачка.** У Нарвегіі людзям, якія панаехалі з розных краін і якія не ведаюць ці слаба ведаюць нарвежскую мову, цяжка знайсці працу. Многія згаджаюцца на любую працу, але стараюцца знайсці лепшую ці шукаюць магчымасці яшчэ як-небудзь зарабіць. Адна жыхарка Літвы працуе прыбіральш-

чыцай. У Літве яна атрымала мастацкую адукацыю. Апрача таго добра навучылася рабіць піражныя і пячы торты. Яна ўспомніла свае гэтыя здольнасці і вырашыла падзарабіць на продажы праз інтэрнэт тартоў, але не якіх-небудзь звычайных, а па-сапраўднаму мастацкіх. Яна выставіла многія формы розных тартоў на сваім сайце — у выглядзе замкаў, веж, аўтамабіляў, кветак і інш. А дзеля жарту зрабіла некалькі тартоў у выглядзе жаночых грудзей, мужчынскіх членаў, жаночых попак. Найбольшую папулярнасць атрымалі не першыя, а менавіта апошнія жартаўлівыя. Справа пайшла — пасыпаліся заяўкі, а за імі і з грашыма стала лепей…

**Дасканаласць роднасці.** Калі беларускамоўны ці рускамоўны чалавек гаворыць пра бабулю ці дзядулю, ён не можа без тлумачэння адразу вызначыць, чые гэта *бабушка* (бабуля, баба) па маці ці па бацьку. Тое ж тычыцца і *дедушки* (дзядулі, дзеда). Нарвежцы таксама могуць выказаць агульную роднасць без удакладнення, чые яны — маці ці бацькі — такімі словамі: bestemor — бабушка, bestefar — дедушка. Прабабушка вызначаецца як oldemor, а пра-прабабушка — trippoldemor. Але калі нарвежац адразу хоча падкрэсліць, чыя гэта *бабушка* (па маме ці па тату), ён адкажа дакладна: mormor (мурмур) — маміна мама, morfar — мамін тата; тое ж пра татавых бацькоў: farmor, farfar.

*2014*

*Травень 2013 — травень 2014 г., Менск*

## XXII Гарэцкія чытанні[1]

У сувязі з рамонтам будынка Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры XXII Гарэцкія чытанні — Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя — адбылася 26 чэрвеня 2014 г. у яго філіяле — Літаратурным музеі Петруся Броўкі. Канферэнцыя была прысвечана 100-годдзю Першай і 75-годдзю Другой сусветных войнаў. Адкрыла чытанні загадчыца музея Наталля Мізон. Затым прайшла прэзентацыя кнігі «Лісты жыцця і кахання» (Мінск: Тэхналогія, 2013, 124 с.) Радзіма Гарэцкага, якую вяла загадчыца Навукова-экспазіцыйнага аддзела Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Вольга Гулева. Пра кнігу паведамілі літаратуразнаўца Лідзія Савік і рэдактар выдавецтва «Тэхналогія» Зміцер Санько. З прывітальным словам да ўдзельнікаў чытанняў звярнуўся паэт Анатоль Вярцінскі. На канферэнцыі было заслухана 35 дакладаў, якія зрабілі прадстаўнікі розных гарадоў Беларусі (Менск, Гродна, Віцебск, Гомель, Полацк, Баранавічы, Беразіно, Барысаглебск і Смалявічы), а таксама магістрант кафедры спеваў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі з Кітая Хуан Яхуэй. Я зрабіў кароткі даклад «Гарэцкія ў гады Першай (1914–1918) і Другой (1939–1945) сусветных войнаў», які у больш поўным варыянце прапаную чытачам «Тэрмапілаў».

***2014***

## Гарэцкія ў гады Першай (1914–1918) і Другой (1939–1945) сусветных войнаў

19 ліпеня 1914 г. пачалася ***Першая сусветная вайна***, а ўжо 24 ліпеня Максім Гарэцкі, як разведчык групы 4, катэгорыі 7, трапіў на фронт і ўдзельнічаў у жорсткіх баях у Прусіі[2].

---

[1] Тэрмапілы. — 2015. — № 19.

[2] Гарэцкі Р. Браты Гарэцкія. — Мінск: Медысонт. 2008. — 344 с.

Асабліва страшны бой быў 27 жніўня пад Аленбургам, за які ён быў узнагароджаны Георгіеўскім крыжом IV ступені, аб чым даведалася дачка пісьменніка Галіна толькі праз 83 гады ў 1998 г. 25 кастрычніка пад Герытэнам М. Гарэцкі быў паранены. Яго паклалі ў шпіталь яўрэйскай абшчыны «Мішмэрэс хойлем» у Вільні, дзе медсястрой працавала Алаіза Пашкевіч (Цётка), якая прыносіла Максіму «Нашу Ніву». У адным з нумароў газеты ён прачытаў: *«Гарэцкі ранены. Наш вядомы пісьменнік М. Гарэцкі, якога фатаграфія была надрукавана ў № 37 "Нашай нівы", ранены ў нагу і цяпер лечыцца ў Вільні ў шпіталі»*. Самага старэйшага брата Івана таксама забралі ў армію як апалчэнца 1-га разраду. Спачатку ён служыў у Лепелі, затым у Віцебску, потым праз Оршу яго пагналі ў Менск, а адтуль у Вільню. Тут Іван адшукаў Максіма і наведаў яго разам з бацькам. Праляжаў Максім у шпіталі больш за два месяцы. Пачаў апрацоўваць свае франтавыя запісы — будучы твор «На імперыялістычнай вайне». Далі адпачынак на паўгода для папраўкі здароўя. Адразу пасля Новага года паехаў да бацькоў. Яму былі ўсе рады, і ён рад быў пабачыць родных і блізкіх. Але рана на назе гнаілася, балела, на перавязку трэба было ездзіць у Шамава. Таму настрой быў паганы, працавалася кепска — напісаў толькі апавяданне «Чарнічка», якое ўпершыню было надрукавана ў «Вольнай Беларусі» (1917).

Прабыў у хаце месяц і паехаў у Мсціслаў, а адтуль у Маскву, дзе працаваў чарцёжнікам. Накіравалі ў шпіталь у Ляфортава, а там трымалі, як у турме. Як арыштантаў пад аховай павялі на эвакуацыю ў другі горад, і тут Максіму пашанцавала ўцячы. Якраз у той час Іван прывёз з фронту палонных, знайшоў Максіма, убачыў яго прыгнечаным і раздражнёным, стараўся супакоіць брата і праводзіў на цягнік у Смаленск. Адтуль Максім падводай дабраўся да Мсціслава, дзе знаходзіўся воінскі начальнік, які даў накіраванне ў шпіталь Магілёва.

Перад тым як легчы ў шпіталь, вырашыў пабыць троху ў Багацькаўцы, дзе і пражыў з 3 красавіка да 20 траўня 1915

года. Рана ўсё гнаілася. Але параненая была не толькі нага, але і душа… Не ведаў, куды дзецца ад тых успамінаў пра вайну, з-за якіх не мог спакойна спаць: сніліся забітыя і параненыя салдаты, з якімі ён быў на фронце, успамінаў тых бязвінных ахвяр вайны, якіх прыслалі туды па злой людской волі, дзівіўся тым складаным псіхалагічным момантам, якія перажываў чалавек у розных, часта неспадзяваных выпадках вайсковай службы; ён сам нярэдка быў уражаны сваімі ўчынкамі. Складанасці і супярэчлівасці свету, жорсткасць і бязглуздзіца вайны, уплыў яе на лёс простага чалавека, разбурэнне маралі, увесь драматызм жыцця і смерці ў гэты знішчальны час поўнасцю займалі думкі Максіма. Ён адчуваў неабходнасць паказаць гэта ўсё ў новых творах яскравай антываеннай скіраванасці. І ў цэнтры ўсіх яго разважанняў — лёс беларускіх вяскоўцаў, беларускага народа, будучыня якога павінна быць светлай, вольнай і багатай.

Сіндром вайны так ахапіў яго, што ён не мог знайсці сабе месца. Думкі, думкі… Яны не давалі спакою ні ўдзень, ні ноччу. Нага ныла, а то і моцна балела. Троху кульгаў. Лячылі нагу і хатнімі сродкамі — канаплянай гарэлкай, але ўсё ж рана загойвалася марудна. Зноў ездзіў на падводзе на перавязку ў Шамава, а часам і пешшу дабіраўся. Многа чытаў, вывучаў нямецкую мову па самавучыцелі. Але не пісаць Максім не мог, асабліва пра вайну, — закончыў апавяданні «Літоўскі хутарок», упершыню надрукаваны ў Беларусі ў 1920 г. і «Дзёгаць» («Наша Ніва», 1915).

А вясна была прыгожая, сэрца зрэдку ахоплівала радасць — яно хацела жыць… Маладзіцы часта прыходзілі варажыць, прасілі пісаць лісты, некаторыя заляцаліся да сімпатычнага хлопца. Адна з іх — Лёкса — падабалася яму, але была замужам… Ды і ён тады быў сарамлівы, нясмелы.

Прыйшоў час ісці ў армію і Парфіру. Запісалі ў артылерыю, хаця ён прасіўся ў кавалерыю.

У другой палове траўня Максім паехаў у Магілёў. Зноў зашчаміла сэрца, што шмат людзей (у тым ліку і Парфір) пайшлі на бойню. Тры месяцы Максім праляжаў у шпіталі, дзе зрабілі аперацыю — хірург без наркозу шчыпцамі выцягнуў з раны асколак. Нудота ў шпіталі страшэнная, нават надумаў прасіцца на турэцкі фронт. Але прыйшоў загад эвакуіраваць усіх параненых у Маскву. Там яго накіравалі ў шпіталь Маскоўскага біржавога і купецкага таварыства.

Камісія прызнала Максіма здаровым і накіравала на фронт. З Масквы павезлі ў Пскоў, дзе ён пражыў тры тыдні. Начавалі ў фанерных футаралах ад аэрапланаў, дзе «мёрзлі як сабакі».

У канцы кастрычніка пагналі праз Старую Русу, Гомель, Жлобін, Бабруйск, Асіповічы да Урэчча, а адтуль пехатою ў Слуцк і далей — па 20 км у дзень — у сваю батарэю, куды дабраўся толькі 15 лістапада. Быў на пазіцыі, а ў студзені 1916 года паслалі ў Петраград у Паўлаўскае ваеннае вучылішча, пасля заканчэння якога (пачатак чэрвеня) накіравалі ў Іркуцк. Па дарозе на некалькі дзён заехаў у Малую Багацькаўку, пасля ў Смаленск да Парфіра, якога тут рыхтавалі да адпраўкі на фронт у якасці тэлефаніста. Якраз у гэты час Іван быў у часці, якая стаяла на пазіцыі на паўночным усходзе ад Баранавіч. Яны наступалі і выгналі немцаў з акопаў. У тым баі Івана параніла ў кісць левае рукі і раздрабіла костку безыменнага пальца. Парфіра таксама адправілі на фронт у 2-і грэнадзёрскі корпус у якасці тэлефаніста. Амаль праз месяц ён захварэў на крывавы мыт. Ляжаў з месяц, а потым яго накіравалі ў Маскву ў эвакуацыйны шпіталь (думалі, што ў яго сухоты), а затым — у Сімбірск.

Максіма паслалі ў Гжацк. Заехаў у Смаленск, дзе ў шпіталі ляжаў паранены Іван, якому Максім выпрасіў водпуск да 12 верасня. Дапамагаў па гаспадарцы, асабліва прыемна было разам з бацькам і Іванам касіць гарох. Пабыў два дні ў Гаўрылы ў Горках, купіў стужачку ў касу для Ганулькі: увесь час успамінаў, як яна плакала, праводзячы яго з дому. Яна так любіла сваіх братоў!

Праз Смаленск, Вязьму дабраўся ён да Гжацка, дзе тры месяцы чакаў адпраўкі на пазіцыю. Восень прыйшла сцюдзёная, няўтульная, з дажджом і снегам. Заняткі вайсковыя нудныя і пустыя. Чытаць няма чаго, пагаманіць няма з кім. Было сумна, нават хацелася на фронт. А думкі раптам паліліся на паперу, і ў творчым сэнсе атрымалася ў Максіма сапраўдная літаратурная «гжацкая восень». Ён напісаў апавяданні «Маці», «Хадзяка», «Генерал», «Амерыканец», «Прысяга», «Асілак», «Дзве сястрычкі», урывак з рамана «Крыж» — «На гаі»[1].

У канцы 1916 года раптам адправілі Максіма на фронт, нават заехаць дахаты не змог. Трапіў у раён пінскіх балот. Тут і лютаўскую рэвалюцыю 1917 года сустрэў. Максім бачыў, як у войску адбываліся змены: пачалося братанне, выбары ў салдацкія саветы… Вясною 1917 г. Максім захварэў на востры гастрыт, месяц быў у палявым шпіталі, потым эвакуіравалі ў Арол, а адтуль у Маскву, дзе праляжаў усё лета, а потым, ужо ўвосень, паехаў лячыцца ў Жалезнаводск. Так скончылася яго вайсковая служба.

Парфір рэвалюцыю сустрэў у Смаленску, дзе, як і Іван, працаваў каптэнармусам у батарэі.

Як было азначана ў працоўным спіску Максіма «На абавязковай вайсковай службе ў старой арміі да 1917 г.». У жніўні ў «Вольнай Беларусі» змешчаны артыкул «Доктар Францыск Скарына» М. Гарэцкага, а ўвосень напісаў апавяданне «Знібее сэрца» (надрукавана ў 1918 г.), «Габрыелевы алеі» (надрукавана ў 1918 г.), закончыў апавяданне «Зіма» (1918).

Гаўрыла з вялікім стараннем пачаў вучыцца ў Каморніцка-агранамічнай школе ў Горках. Хадзіў глядзець, як адпраўлялі ў армію навабранцаў, шкадаваў іх і думаў, што многія з іх, маладых і моцных, могуць загінуць. І сэрца сціскалася ад трывогі за братоў сваіх. Як і Максім, пачаў пісаць кароткія нататкі ў «Нашу Ніву». У газеце «Горецкий вестник» надрукаваў

[1] Усе творы надрукаваны ў 1917–1918 гг., толькі «Прысяга» ў 1920 г., а «Дзве сястрычкі» — у 1921 г.

артыкул, накіраваны супраць русіфікатарскіх думак рэдактара газеты, лідара кадэтаў, выкладчыка вучылішча С. Г. Цытовіча, і падкрэслена падпісаў яго «Сын маці Беларусі». У Горках Гаўрыла арганізаваў беларускі вучнёўскі гурток, які затым атрымаў назву «Беларуская секцыя вучняў Горацкіх сельскагаспадарчых школ», а з 1914 года — «Беларуская секцыя студэнтаў Горацкага сельскагаспадарчага інстытута», якая існавала да 1924 года. Як толькі была магчымасць, Гаўрыла наведваў сваю вёску. Надоўга можна было затрымацца ўлетку, падчас канікулаў. Многа працаваў па гаспадарцы, дапамагаў бацькам, што цягнулі ўсю цяжкую сялянскую работу без забраных на вайну сыноў.

Лютаўскую рэвалюцыю 1917 года Гаўрыла сустрэў у Горках. Большасць студэнтаў ахапіла радасць, знішчалі партрэты цара, генералаў. На вуліцы маніфестацыі. Некалькі дзён стаяў на пасту міліцыянерам. Заняткі адмянілі. Пайшоў пешшу дамоў. У двары — усё, як заўсёды. Аж да кастрычніка Гаўрыла быў адпушчаны, бо ў Горках панаваў тыфус. Выпісаў «Курс стэнаграфіі» па сістэме Ф. К. Габельсбергера і засвоіў яго.

Над дакументальна-мастацкай кнігай «На імперыялістычнай вайне» М. Гарэцкі працаваў многа гадоў, пачынаючы з 1914 г. У «Нашай думцы» у снежні 1920 г. надрукаваны ўрывак з запісак «На імперыялістычнай вайне»[1] — «Герой» і артыкул «Змагайцеся!» за подпісам *А. Мсціслаўскі*. У часопісе «Полымя» (№ 1 і 2) у 1925 г. твор апублікаваны пад назвай «На імперыялістычнай вайне». Многія апавяданні («Літоўскі хутарок», «Генерал», «На этапе», «Хадзяка» і інш.) былі выкарыстаны пісьменнікам у кнізе, якая ў канчатковым выглядзе была апублікавана ў 1926 г. Твор быў высока ацэнены тагачаснымі

[1] У тыя гады гэтую вайну называлі «Вялікая вайна». Улічваючы экспансіяніцкую палітыку вялікіх імперскіх дзяржаў Еўропы: Вялікабрытаніі, Францыі, Расіі, Германіі, Максім Гарэцкі прыняў больш правільную назву «Імперыялістычная вайна». На жаль, Версальскі мірны дагавор не ліквідаваў, а нават узмацніў імперскія імкненні дзяржаў, якія прывялі да новай сусветнай вайны — «Другой», а мінулую сталі зваць «Першай».

крытыкамі (М. Аляхновіч, М. Байкоў, Антон Адамовіч і інш.), а пазней і сучаснымі даследчыкамі (Н. Рандаў — ГДР, Д. Бугаёў, Алесь Адамовіч, М. Мушынскі, Т. Голуб і інш.).

* * *

***Другая сусветная вайна*** застала сям'ю Гаўрылы Гарэцкага ў горадзе Баравічы Наўгародскай вобласці, дзе яго прызначылі галоўным геолагам Мсцінскага інжынерна-геалагічнага раёна Ленінградскага праектнага ўпраўлення Галоўпрамбуда. Намячаўся каскад гідраэлектрастанцый на рэчцы Мста, каб забяспечыць энергіяй Ленінград. Вельмі хутка над горадам лёталі фашысцкія самалёты. Пачалі закрываць установы, звальняць людзей з працы. Ліквідавалі шэраг геалагічных экспедыцый. Без працы засталася і Ларыса. Гаўрылу мабілізавалі на абарончыя работы — ён быў прызначаны галоўным геолагам ва Упраўленне ваенна-палявога будаўніцтва Галоўабаронбуда Наркамата абароны — Чацвёртага, затым Дзясятага і, нарэшце, Другога ўпраўлення абарончых работ.

Праца праходзіла ў Калінінскай, Ленінградскай, Валагодскай абласцях, пад Масквой. За гэтую работу адразу пасля вайны Гарэцкі быў узнагароджаны медалямі «За участие в героической обороне Москвы», «За победу над Германией», «За доблестный труд в Великой Отечественной войне 1941–1945 гг.».

З Баравічэй вельмі многія ўжо эвакуіраваліся. Ларыса не ведала, што рабіць — ехаць ці яшчэ пачакаць. Не хапала грошай, каб пракарміць сям'ю. А тут яшчэ старэйшы сын Усяслаў захварэў на моцны плеўрыт. Нарэшце вырашылі выехаць разам з жонкаю супрацоўніка экспедыцыі Надзеяй Фамінічнай Чарнышовай і дзвюма іх дочкамі ў Іжэўск Удмурцкай АССР, дзе жыла яе сястра Марыя[1]. Сабралі сем'і геолагаў-вышукальнікаў, пасадзілі на адкрытыя грузавікі, каб ехаць да станцыі

[1] Гарецкий Р. Г. Военные годы в Удмуртии // Кормановские чтения. — Ижевск: Удмуртский ун-т, 2013. — Вып. 12. — С. 393–403.

Мга, а адтуль у таварных вагонах-цяплушках далей на ўсход. З Ларай ехалі яе бацькі, два сыны і пляменнік Сяргей (сын яе роднага брата, арыштаванага ў 1937 г.). На станцыі Мга наляцелі фашысцкія самалёты, бамбілі, але іх вагон застаўся цэлы. Толькі праз паўмесяца з рознымі прыгодамі і цяжкасцямі дабраліся да Іжэўска. Тут да вайны было 180 тыс. жыхароў, а з наплывам эвакуіраваных стала больш за 300 тыс. Карткі на прадукты давалі толькі тым, хто працуе. Па хлеб (па дарагой цане) трэба было стаяць у чарзе па 7–10 гадзін. Жанчыны з сем'ямі, нарэшце, аказаліся ў сяле Вавож, якое знаходзілася за 35 км ад чыгуначнай станцыі Ува, а тая — за 76 км ад Іжэўска. Надзю прызначылі старшым каморнікам раённага зямельнага аддзела, а Ларысу — загадчыкам кантрольна-насеннай станцыі. Усяслава ўладкавалі токарам на абарончы завод у Іжэўску, адначасова завочна вучыўся ў 9-м класе сярэдняй школы.

На будоўлі ваенных аб'ектаў праца была вельмі напружаная, умовы жыцця цяжкія, галодныя. Але Гарэцкі родным стараўся пісаць бадзёрыя лісты, падкрэсліваў, што добра харчуецца і адчувае сябе зусім здаровым і моцным. Тым не менш эканоміў грошы, адмаўляў сабе ў многім, каб дапамагчы дарагім сваім людзям, рэгулярна пасылаючы ім грашовыя пераводы, а зрэдку і пасылкі. На самай справе быў стомлены, але маральна моцны. Аптымізм, як заўсёды, нідзе і ніколі не пакідаў яго. Увесь час яго думка вярталася да любай Радзімы.

Хваляванняў і клопату ў Ларысы было процьма: як там Гурык жыве адзін, ці здаровы і жывы (асабліва калі доўга не было лістоў, а пошта працавала кепска); як здароўе старэйшага сына, які хварэў на плеўрыт, кепска харчаваўся і многа працаваў на заводзе; як пракарміць сям'ю і дастаць адзежу (асабліва ў лютыя маразы — да 30–50°), дзе купіць дэфіцытнай газы для лямпы (электрычнасці не было); як адолець справы, якія навальваліся (асабліва ўзімку) у вялікай колькасці, адабраць насенне ва ўсіх калгасах (і ў свой час апрацаваць яго); ці жы-

выя родныя, якія засталіся ў акупіраваных раёнах краіны; ці не забітыя пляменнікі Гаўрылы, якія пайшлі на фронт, і г. д.

Праз некаторы час да Ларысы з Надзеяй далучылася Туся (жонка брата) з дачкой Інай. Яны эвакуіраваліся з Запарожжа і доўга (паўтары месяцы) рухаліся на ўсход — праз Каўказ, Каспійскае мора, Ташкент, Арэнбург, Свярдлоўск — з тысячамі прыгодаў, непрыемнасцяў і цяжкасцяў. Стомленыя, хворыя ледзь дабраліся да Вавожа. Бамбёжкі і іншыя жахі, што зведалі ўцекачы, асабліва падзейнічалі на Іначку, якая ўвесь час вельмі кепска сябе адчувала.

Хлеба выдавалі па 200 грамаў на чалавека. Ратавала ўласная гаспадарка (агарод, парсюк), якой галоўным чынам займаліся дзед Восіп Іванавіч і Радзік. Вельмі дапамагло тое, што Туся паступіла працаваць бухгалтарам на маслазавод, адкуль нярэдка прыносіла адгон, які ўсе з прыемнасцю пілі. Але ўсё адно голад прывёў да таго, што ў Лары і асабліва ў Восіпа Іванавіча пачалі апухаць ногі. Яны стараліся менш есці, каб іншым дасталася болей, асабліва дзеткам. Бясконцае недаяданне, пастаяннае адчуванне голаду — цяжкае фізічнае і маральнае выпрабаванне для чалавека.

У канцы студзеня 1942 года Іначка захварэла на менінгіт. Паклалі яе ў бальніцу, і там яна неўзабаве памерла.

Пасля зімы многія паціхеньку хадзілі на калгасныя палі збіраць пакінутыя з восені рэшткі збожжавых зярнятак, бульбу ці турнэпс. Гэта аказалася вельмі небяспечна: ад збожжа, якое праляжала пад снегам, некаторыя моцна хварэлі і нават паміралі; міліцыя і спецыяльныя людзі лавілі «збіральнікаў» — «расхитителей государственной собственности» і аддавалі іх пад суд. Адна суседка — адзінокая маці атрымала за такую справу 10 гадоў, а яе двух малых дзетак адправілі ў дзіцячыя дамы, прычым у розныя.

Школьнікаў вельмі часта пасылалі «на бульбу»: сярпамі жалі авёс, капалі бульбу, збіралі сена, рыхтавалі ў лесе дровы для ацяплення школы (асабліва падабалася валіць вялікія елкі).

Настаўнік хіміі вучыў лупіць кару з ліпы, а потым плесці лапці. Радзім таксама сплёў пару лапцей, але насіць іх не прыйшлося, усё ж хапіла чаравікаў і ботаў.

Славік, які адзін жыў у Іжэўску, таксама галадаваў. Яго малодшы брат улетку некалькі разоў ездзіў да яго. Трэба было пешшу ісці каля 15 км да чыгункі, а потым яшчэ каля 8 км па шпалах да станцыі Вялікая Мажга, а адтуль ужо цягніком да Іжэўска. Ён набіраў у рукзак прысмакаў: бульбы і іншай гародніны, адзенне для брата. Аднаго разу за ім пагнаўся нейкі дзядзька, каб забраць рукзак, — ледзь уцёк… А тады шмат бадзялася нейкіх бяздомных людзей, якія не тое што за рукзак з ежай, але і за буханку хлеба маглі добра адлупцаваць, а то і забіць.

Ларыса радавалася, што Радзік — самы старанны чытач раённай бібліятэкі — за два гады перачытаў усе кнігі, якія там былі, у тым ліку вялікую колькасць рускай і замежнай класікі. І вучыцца стаў так добра, што сёмы клас скончыў на адны пяцёркі, атрымаўшы Пахвальную грамату.

Гаўрыла падтрымліваў родных не толькі лістамі, але рэгулярна прысылаў грошы — яны ўвесь час адчувалі яго прысутнасць. Некалькі разоў яму на пару дзён удалося прыехаць у Вавож. Для ўсіх гэта было сапраўднае свята.

У лютым 1942 года Г. Гарэцкага прызначылі начальнікам геалагічнага аддзялення праектна-вышукальнага бюро № 11 Гідрапраекта Галоўнага ўпраўлення лагераў прамысловага будаўніцтва НКУС — у пасёлак Сухі Лог Камышлоўскага раёна Свярдлоўскай вобласці. Тым самым ён пераехаў значна бліжэй да сям'і. Гаўрыла вырашыў перавесці Лару да сябе, што было не так проста, бо яе не хацелі адпускаць з працы, дзе неабходна было зрабіць каля 27 тыс. аналізаў насення. Набліжаліся аўральныя часы севу, і Лару пасылалі ў калгасы кіраваць і дапамагаць — 20 км мусіла ісці пешшу.

Нарэшце ў канцы чэрвеня 1942 года Ларыса здолела выехаць з Вавожа. Прыехаў па яе Гаўрыла, і спачатку на кані, затым

цягніком, на параходзе па рэчках Кама і Белая яны дабраліся да Уфы. Праз месяц Гарэцкага прызначылі галоўным геолагам Камска-Чусаўскага бюро № 12 Гідрапраекта Галоўпрамбуда, а Ларысу — туды ж інжынерам-грунтазнаўцам у лабараторыю. Зноў параходам яны пераехалі ў пасёлак Чунжына, які знаходзіцца на другім беразе шыбкай і прыгожай ракі Чусавой супраць горада Чусавы Молатаўскай (цяпер Пермскай) вобласці.

У сярэдзіне лістапада 1942 года Славіка мабілізавалі ў армію і паслалі ў Сарапул у ваеннае вучылішча, але ўжо праз месяц адазвалі, бо зноў абвастрыўся хранічны плеўрыт. Тады яго паслалі ў Маскву працаваць на аўтамабільны завод імя Сталіна (ЗІС), а там ён зваліўся і паламаў руку. Зноў бацькам новыя хваляванні… Яны вельмі сумавалі па родных, асабліва па сынах. Хацелася жыць разам, але абставіны не дазвалялі.

Каб падтрымаць вышукальнікаў, ім далі кавалак зямлі на бліжэйшай гары, але трэба было карчаваць пні, а на ўчастку Гарэцкага іх было каля 150. Асабліва дасталася Ларысе.

Гаўрыла Гарэцкі часта ездзіў у камандзіроўкі на магчымыя створы будучых гідраэлектрастанцый на рэках Чусавой, Косьва, Усьва, у пасёлкі Кумыш, Шырокбуд, горад Кізел.

У красавіку Гарэцкі тэрмінова падрыхтаваў матэрыялы па геалогіі гідратэхнічных збудаванняў, у прыватнасці Камскай гідраэлектрастанцыі, з якімі яго выклікаў начальнік Гідрапраекта С. Я. Жук спачатку ва Уфу, а затым і ў Маскву. Там павінны былі абмяркоўвацца на розных узроўнях перспектывы будаўніцтва шэрагу гідраэлектрастанцый і экспертыза іх праектаў.

Нарэшце 3 ліпеня 1943 года Ларыса ўзяла адпачынак і выехала па сына ў Вавож, да якога дабралася праз 7 дзён, а ў канцы гэтага ж месяца яны вярнуліся разам у Чунжына, дзе іх чакаў ужо і Гаўрыла. Упершыню за доўгі час яны зажылі разам маленькай асобнай сям’ёю. У тыя лета і восень бясконца ліў дождж, на вуліцы і асабліва ў гародзе — страшэнная гразюка, цяжка хадзіць, а тым больш працаваць. Радзіка паслалі на ле-

сапавал, а потым Гаўрыла змог забраць яго да сябе рабочым. Яны паехалі на створ Кумыш, адкуль да Чунжына спусціліся па рацэ Чусавой больш за 60 км на плытах. Уражанне было надзвычайнае — і ад нечаканых прыгод, якія здараліся, і ад сустрэч з апантанымі геолагамі ды рознымі цікавымі людзьмі, і ад хараства прыроды, прыгожых краявідаў: высачэзных сцен скал, аб якія білася нястомная буйная вада і аб якія незнарок стукаліся плыты (многа плытоў і барж і разбіваліся тут); магутных сосен і елак, якія караскаліся на самыя вяршыні гор; сіняга неба і ласкавых рэдкіх праменяў сонца, якое часта змянялася халоднай залевaю; смачных ягад і свежай юшкі… Мусіць, гэта падарожжа з бацькам стала для сына вырашальным у выбары будучай прафесіі.

Ларыса вельмі турбавалася, як накарміць сваіх мужчын. Усе многа працавалі, есці хацелася ўвесь час, а ежы не хапала. Вельмі часта прыходзілася есці смажаныя без алею рэдзьку, турнэпс ці шалупінне ад бульбы, нацёртыя на тарцы ці нарэзаныя дробнымі кавалачкамі. З чаем нярэдка замест цукру елі кашу з цукровых буракоў, якую мазалі на кавалачак хлеба. Гаўрыла і Лара нават пачалі прыпухаць ад недаядання.

Гаўрыла Гарэцкі тады, як і раней, думаў пра Беларусь, у якой марыў жыць і якой хацеў прысвяціць свае сілы, свой розум, свае веды дзеля яе росквіту і развіцця. Гэтае пачуццё да Радзімы падтрымлівала яго і ратавала ад нягодаў і цяжкасцяў, якіх ставала на ягоным шляху.

Яшчэ 9 ліпеня 1943 года С. Г. Каляснёў, прафесар Цімiразеўскай сельскагаспадарчай акадэміі, сябра Гарэцкага, паслаў ліст сакратару ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнку аб неабходнасці стварэння групы навукоўцаў для вызначэння заходняй мяжы СССР.

Пасля размовы П. К. Панамарэнкі з С. Г. Каляснёвым (12.VII.1943) у Гідрапраект Галоўпрамбуда НКУС СССР на імя яго начальніка генерал-маёра С. Я. Жука 25 лістапада 1944 года быў накіраваны ліст за подпісамі Прэзідэнта АН БССР К. В. Го-

рава і вучонага сакратара Прэзідыума АН БССР В. І. Шэмпеля: *«Президиум Академии наук Белорусской ССР просит Вас разрешить геологу Горецкому Гавриле Ивановичу, работающему в Вашей системе, принять участие в работе сессии Академии наук Белорусской ССР, созываемой в гор. Минске в январе 1945 года, по вопросам восстановления народного хозяйства Белорусской ССР»*.

Адказ ад С. Я. Жука быў адпраўлены 21 снежня 1944 г.: *«В ответ на Ваше письмо от 25.XI с. г. сообщаю, что тов. Горецкий Г. И. руководит геологическими изысканиями ряда крупных объектов, намеченных к строительству решениями ГОКО*[1]*. Исходя из этого, отпустить тов. Горецкого для участия в работе сессии Академии наук БССР, а тем более откомандировать его в Ваше распоряжение — не представляется возможным»*.

У сувязі з падрыхтоўкай да сесіі АН БССР у 1945 годзе камісія ў складзе А. Р. Жэбрака, А. К. Кедрава-Зіхмана і В. Н. Лубякі падрыхтавалі матэрыялы для выбараў у акадэмікі і члены-карэспандэнты, у якіх «в действительные члены по специальности геология» прапанавалася кандыдатура Гарэцкага Г. І.

У пачатку 1944 года Г. Гарэцкага прызначылі на пасаду намесніка галоўнага геолага Бюро інжынернай геалогіі Гідрапраекта і галоўнага геолага экспедыцыі № 5, якая знаходзілася ў пасёлку Васілёва (пазней Чкалаўск — радзіма В. П. Чкалава) на Волзе (Горкаўская вобласць). Але адразу пераехаць туды ён не змог, бо трэба было закончыць шматлікія працы на Урале, што вымагала бясконцых камандзіровак у геалагічныя партыі на Понышы, Шырокбудзе, Кізыле і інш.

Гаўрыла Гарэцкі ўжо не мог трываць настальгіі па Радзіме і напісаў заяву ў ЦК КП(б)Б з просьбай даць яму працу ў Беларусі, хаця Ларыса, адчуваючы небяспеку ад такога кроку, вельмі

[1] ГОКО — Дзяржаўны камітэт абароны ў СССР (30.VI.1941–4.IX.1945), надзвычайны найвышэйшы дзяржаўны орган у гады Вялікай Айчыннай вайны. Старшыня — І. В. Сталін.

нервавалася і лічыла, што і гэта рабіць яшчэ рана. У жніўні Гаўрыла праз Молатаўскі абкам партыі атрымаў ад аддзела кадраў ЦК КП(б)Б тэлеграму, у якой яго выклікалі ў Менск. Але выклік не быў узгоднены з С. Я. Жуком, які так і не даў згоды, бо хацеў, каб Гарэцкі пераехаў у Маскву і застаўся працаваць у Гідрапраекце. Магчыма, лёс зноў выратаваў Гаўрылу, бо ў канцы вайны і адразу ў пасляваенныя гады была чарговая дастаткова моцная хваля арыштаў былых «ворагаў народа».

Яшчэ да пераезду у Чкалаўск Гарэцкі паехаў у камандзіроўку ў Маскву, а перад гэтым атрымаў ліст ад Парфіра, які пісаў, што іх тата дужа хворы, слабы і можа хутка памерці. Гаўрыла дабіўся па хадайніцтве самога С. Я. Жука дазволу з’ездзіць у Багацькаўку паглядзець на свайго старэнькага татулю ў апошні раз.

У канцы лістапада 1944 года Гарэцкія разам з малодшым сынам з цяжкасцямі і нават прыгодамі (ледзь не затануў на Волзе параход, карму якога прарэзала крыга) праз 11 дзён дабраліся ад Чусавага да Чкалаўска.

З самага пачатку 1945 года Г. Гарэцкі быў у доўгатэрміновай камандзіроўцы ў Маскве. Паралельна са шматлікімі экспертызамі, заключэннямі, абмеркаваннямі геалагічных умоў пад розныя аб’екты гідратэхнічных збудаванняў (Поныш, Шырокае, Уфа на Урале, Акцюбінск у Казахстане, Выцегра ў Комі, Чкалаўск на Волзе і інш.) у Гідрапраекце, Гарэцкі пільна займаўся падрыхтоўкай да абароны дысертацыі, працаваў у бібліятэках Масквы з літаратурай па геалогіі Беларусі, уладкаваннем сыноў на вучобу. Славік працаваў токарам, фрэзероўшчыкам, а потым і майстрам на аўтамабільным заводзе (ЗІС — завод імя Сталіна, пазней ЗІЛ — завод імя Ліхачова). Бацька вельмі хацеў дапамагчы сыну паступіць на падрыхтоўчыя курсы ў якую-небудзь ВНУ, а малодшага сына вырашылі адправіць на вучобу ў Маскоўскі нафтавы тэхнікум на геолагаразведачнае аддзяленне. Для паездкі Радзіма трэба было атрымаць выклік ад Камітэта па справах вышэйшай школы.

16 лютага 1945 года ў Інстытуце геалагічных навук АН СССР (Масква) адбылася абарона дысертацыі Гарэцкага па тэме: «О роли местных географических условий в четвертичной истории на примере изучения Кольской и Туломской долин на Кольском полуострове». Старшыня вучонага савета акадэмік Д. С. Белянкін: «…мы имеем здесь действительно выдающееся явление. …мы присутствуем при редком случае превращения кандидатской диссертации в докторскую». Члены вучонага савета аднагалосна прагаласавалі за прысваенне навуковай ступені кандыдата навук і з лікам 15 з 17 — за ступень доктара. На жаль, ВАК зацвердзіў толькі першую пастанову, таму што не было трэцяга апанента, як належыць пры абароне доктарскай дысертацыі[1].

Аказалася, што геолагаразведачнага аддзялення ў Нафтавым тэхнікуме няма, і Радзім паступаў на аддзяленне «КИП — контрольно-измерительные приборы». Не было і месца ў інтэрнаце. Таму ён пайшоў да Славіка, які жыў у інтэрнаце аўтамабільнага завода. Апынуліся яны ў маленькім пакойчыку, які знаходзіўся ў падвальным памяшканні чатырохпавярховага цаглянага дома. У пакойчыку пад самым дахам мелася адно акенца, у якое відны былі толькі ногі людзей. Там ледзь-ледзь змяшчаліся тры жалезныя ложкі з рыпучымі спружыннымі сеткамі, якія прыкрывалі тоненькія ватныя матрацы. Каля кожнага ложка — па адной тумбачцы. Адзін ложак належаў ужо досыць сталаму, сіваватаму, спакойнаму і трохі мляваму інжынеру завода, другі — маладому моцнаму хлопцу-здаравяку з рудой шавялюрай, а трэці, які стаяў каля дзвярэй, — Славіку. Вось на ім браты ўдвух і спалі: матрац быў вузкі, таму частка цела апыналася на жалезнай сетцы, коўдры не хапала — і бок быў голы, а паварочвацца на другі бок лепш за ўсё было сінхронна. Асалоду ад сну малодшаму можна было атрымаць толькі тады,

[1] Праз год 13 мая 1946 г. Г. Гарэцкі на тым жа вучоным савеце паспяхова абараніў доктарскую дысертацыю.

калі Слаўка працаваў у начную змену, а старэйшаму — толькі ўдзень.

Жылі ў Маскве цяжкавата не столькі з-за жыллёвых умоў, колькі з-за пастаянных думак пра ежу. Усяслаў атрымліваў па картцы 500 грамаў хлеба, а Радзім — 350; раз на дзень таксама па картках маглі атрымаць у сталоўцы абед, які складаўся заўсёды з капуснага супу (у ім плавалі пара марожаных лісткоў капусты і, калі пашчасціць, адзін-два кавалачкі бульбы, таксама марожанай), на другое — зрэдку давалі яшчэ лыжачку якой-небудзь кашы ды шклянку несалодкага чаю.

Асабліва цяжкім днём была нядзеля, калі ўсе жыхары збіраліся ў пакойчыку. Да інжынера прыходзіла дачка — вельмі непрыгожая, прышчаватая, гадоў пад дваццаць. Інжынер увесь тыдзень збіраў ёй што-небудзь смачнае: хлеб, кавалачак каўбасы ці сыру, цукар, а то і цукерку. Позна ўвечары, а то і ўначы яны пачыналі есці, прычым громка чмякалі (асабліва дачка), а каўбаса і сыр пахлі так цудоўна, што выклікалі ў братоў магутнае слюнавыдзяленне. Руды асілак прыводзіў да сябе не менш ядраную, таксама рудаватую каханку — яны з ранняга вечара завальваліся ў ложак і так руплiва і гучна рыпелі ім да самага ранку, што астатняя чацвёрка таксама не спала.

Апрача таго, сістэматычна (звычайна раз на тыдзень) прарывала каналізацыйную трубу і з прыбіральні, якая знаходзілася побач з пакойчыкам, лілася вада разам з адходамі чалавечай жыццядзейнасці. Тады раскладвалі драўляныя насцілы, і жыхары раніцаю скакалі па іх, каб памыцца і зрабіць іншыя справы, прычым і тут, канечне, не абыходзілася без чаргі. На пару дзён, пакуль не ліквідуюць прарыў, да іншых пахаў, якіх у падвале і так было залішне далучаўся яшчэ больш моцны — чалавечы.

Па дарозе ў Чкалаўск Гарэцкі заехаў у Вавож і разам з бацькамі Ларысы вярнуўся з камандзіроўкі. Часовы ўздым пасля абароны дысертацыі зноў змяніўся сумам, што ахапіў сэрца Гаўрылы з-за многіх стратаў, ад хвалявання за стан і лёс

сыноў, родных… Не дадавала бадзёрасці і пастаяннае недаяданне. Увесь час свідравала думка аб тым, як хутчэй трапіць на Бацькаўшчыну, бо час так шыбка бяжыць, а магчымасцяў застаецца ўсё менш і менш. Толькі адданасць цікавай працы і падтрымка жонкі ратавалі…

З бязмежнай радасцю сустрэлі ўсе дзень перамогі: старэйшыя Гарэцкія — у Чкалаўску, а сыны — у Маскве. Такой шчырай радасці, такога цудоўнага салюту не было ніколі. Усю ночку Усяслаў і Радзім хадзілі па Маскве, да краёў запоўненай шчаслівымі людзьмі…

* * *

***Сям'ю Максіма Гарэцкага*** вайна застала ў г. Кіраў (вул. Свабоды, д. 109, кв. 2). Лёню ў хуткім часе прызвалі ў армію. Леаніла Усцінаўна працавала ў дзіцячым садзе. Каб неяк пракарміцца, яна збывала розныя старыя рэчы на барахолцы. Ад Лёні доўга не было лістоў, хваляваліся, з радасцю атрымалі лісты з Волхава і Ціхвіна. Галя вучылася ў Інстытуце ў Кіраве, заставалася вучыцца 1–1,5 месяцы і здаць дзяржаўныя экзамены, ужо скончыла практыку. Неспадзявана інстытут перавялі ў Яранск, які знаходзіцца ад чыгункі больш за 100 км. У Галі на пераезд няма ні грошаў, ні абутку. Прыйшлося шукаць працу на якім-небудзь заводзе, але не прынялі на ваенны завод, бо дачка «ворага народа». Нарэшце ўдалося ўладкавацца ў дзіцячым садзе.

У снежні 1943 г. Галю мабілізавалі на работы ў Смаленскую вобласць, а перад тым яна завочна скончыла інстытут. З цяжкасцю дабралася да Смаленска, а адтуль паслалі за 200 км у глухое мястэчка Ільіна ў школу-дзесяцігодку, дзе выкладала літаратуру ў 7–10-х класах. Умовы там вельмі цяжкія: святла няма, гасцініца брудная, купіць ні бульбы, ні малака немагчыма — ніхто не прадае, атрымлівае 400 г хлеба і посны абед (жыдкі суп з капустай і лыжка бульбы), кніжак і падручнікаў няма і г. д.

Галя пісала*: «30.I.44 г. Дарагі дзядзька Гурык! […] Я крыху абжылася ўжо тут, вярней, прывыкла да свайго становішча, як прывыкае к усяму кожны чалавек. Купіць нічога не магу да гэтага часу. Удалося памяняць у адной жанчыны на сернікі і мыла крыху бульбы. Народ тут і да вайны быў дужа непрыветлівы, хаця ў другіх раёнах Смаленскай вобл. вельмі ласкавы. Я сама бачыла гэта, калі праязджала праз Рудню, Веліж. Тут, мусіць, не вайна зрабіла іх грубымі, проста такі раён, бо чаму ж жыхары другіх пасёлкаў засталіся ласкавымі і добрымі. Гавораць тут з аканнем і дужа многа тут латышскіх слоў. […] Дысцыпліна тут выключна харошая. Вучні адносяцца з пашанай да ўсіх настаўнікаў»*.

Лёля вельмі непакоілася і перажывала за Лёню і Галю. 23.IV.1944 Леаніла Усцінаўна напісала ліст у Чусавы: *«Мае родныя! На руках у мяне паведамленне, што Лёня забіты 18 лютага г. г. і пахаваны ў лесе, 1 км паўднёвы ўсход ад вёскі Петрушы Шымскага р-на Ленінградскай вобласці. Апошні ліст быў ім напісаны 10 лютага з маленькай вёскі за Ноўгарадам і атрымала яго я як раз у дзень яго смерці»*. Гора для ўсіх Гарэцкіх было вялікае! 1.V.44 яна напісала: *«Дарагія Гурык і Лара! […] Вырас у мяне сын працавіты, мужны і поўны жыццёвае моцы. […] Абарвалася жыццё, няма ні мараў, ні суму, нічога, нічога. Дзве далёкіх магілы. Зарыта ў іх усё мае шчасце, ні на воднай не магу паплакаць. Чаму рок бязлітасна загубіў майго сына? Не ўбачыць ён ні сінявы неба, ні вясновае зелені. Усё кончылася»*.

Фронт каля Ільіна, дзе працавала Галя, быў недалёка. Яна пісала: *«23.V.44 г. Дарагі дзядзька Гурык! […] Сёння я чуць-чуць паспела адскочыць ад міннага асколка, праляцеў у трох кроках ад мяне. Значыцца не пара яшчэ, у гэтую мінуту яшчэ не суджана было загінуць. Бедны Лёня! Ваяваў тры гады, столькі перанёс, стаў такім вынослівым, крэпкім і ў адзін міг развітаўся з жыццём. Што зараз робіцца з мамаю, баюсь думаць»*. Галя рвецца выехаць з Ільіна, дзе ёй так цяжка жыць,

але яе не адпускаюць. Нарэшце ў чэрвені 1944 г. ёй даюць адпачынак, і яна спяшаецца да маці ў Кіраў. Тут ёй ўдалося прапісацца і паступіць на працу ў дзіцячы сад. Забалела горла — забаранілі быць настаўніцай, таму набрала прыватных урокаў. Са здароўем Лёлі стала зусім кепска, таму Галя ўвесь час пільна даглядала маці.

У пачатку сакавіка Г. Гарэцкі выехаў у камандзіроўку на Урал, у Чунжына і іншыя мясціны. Па дарозе змог заехаць у г. Кіраў да Леанілы Чарняўскай і прабыць у яе два дні. Пагаманілі, многа чытаў лістоў, рукапісаў. З Кірава ён пісаў:

*«6.III.45 г. Ст. Кіраў. № 2, Вечар.*

*[...] Я прачытаў 4 сшыткі Максімавае “Камароўскае хронікі”. У чацьвертым сшытку — кругабег Ганулькінае згубы. Я чытаў паўдня ўчора і цэлы дзень сёньня. Ніколі такімі жывымі не былі ўспаміны.*

*Я плакаў. Сьлёзы цяклі, як тады, у 1922 годзе. Ганулька мая, сястрычка-мучаніца, кветачка растаптаная. Дух баліць, цела млее, галаву цісьніць. Непапраўнае, неўзваротнае, самае дарагое...*

*І сталі могілкі ў рад: Ганулька, мама, Іван, Максім, Лёня, Валодзька... Як стаміўся дух».*

Апрача Лёні, у вайну загінулі сын Івана Віктар (1942 г.), сын Парфіра Уладзімір (1944 г.).

*2014*

## Новы погляд на гісторыю чалавецтва

У выдатнай захапляючай кнізе «Коллапс» (М.: Астрель: CORPUS, 2011) вядомага амерыканскага вучонага Джарэда Дайманда ў выніку шырокіх абагульненняў з многіх навук (геаграфіі, экалогіі, антрапалогіі, біялогіі, гісторыі і інш.) разглядаецца вельмі актуальнае пытанне, як і чаму адны грамадствы змаглі не толькі ацалець, але і мець поспех, а другія — прыйшлі да заняпаду і загінулі. Аўтар разгледзеў калапс шэрагу цывілі-

зацый галоўным чынам у напрамку пяці фактараў: адносіны грамадства да навакольнага асяроддзя; разбурэнне асяроддзя пражывання; змена клімату; варожасць суседзяў; сыход са сцэны гандлёвых партнёраў і саюзнікаў. Ён высветліў, што здарылася з востравам Пасхі; прасачыў, як сканала жыццё на астравах Піткэрн і Хенверсон у Ціхім акіяне; паказаў гісторыю пагібелі цывілізацыі майя і крах грэнландскай калоніі і інш. Цікавы разгляд і сучасных грамадстваў: генацыд у Руандзе, гісторыі Рэспублікі Гаіці і Дамініканскай Рэспублікі; Кітай — цяжкасці гіганта; праблемы Аўстраліі.

У чацвёртай частцы кнігі «Практычныя вынікі» Джарэд Даймонд, разважаючы на тэму «Чаму некаторыя грамадствы прымаюць рашэнні, якія прыводзяць да пагібелі» (глава 14), прыходзіць да аптымістычнага выніку: *«Мужество народов и их лидеров внушает мне надежду. Оно позволяет мне верить, что эта книга, посвящённая столь пессимистическому предмету, на самом деле оптимистична. Глубоко задумавшись над причинами прошлых неудач, мы [...] сможем скорректировать свой путь и увеличить наши шансы на успех» («Коллапс», с. 613).* Главу 15 «Буйны бізнес і навакольнае асяроддзе: розныя ўмовы, розныя вынікі» аўтар завяршае так: *«По-моему, то, что общество несёт ответственность за поведение крупного бизнеса, вселяет надежду, а не разочаровывает. Я не морализирую по поводу того, кто прав и кто виноват, достоин восхищения или презрения, кто хороший, а кто плохой. Мой вывод является скорее предсказанием, основанным на том, чему я был свидетелем. Бизнес меняется, когда общество требует изменений; общество поощряет бизнесменов за действия, которые от них ждут, или наказывает их. Предполагаю, что изменения общественного отношения к бизнесу станет важнейшим фактором, влияющим на отношение бизнеса к природе»* (с. 676).

Апошняя 16 глава кнігі прысвечана неабходнасці вырашэння асноўных экалагічных праблем, якія аўтар аб'яднае ў два-

наццаць груп (першыя чатыры групы звязаны з вычарпаннем прыродных рэсурсаў, наступныя тры — з абмежаваннем прыродных рэсурсаў, яшчэ тры — з негатыўным антрапагенным уплывам на навакольнае асяроддзе, апошнія дзве — з ростам насельніцтва. Ён прыходзіць да высновы, што няма альтэрнатывы вырашэнню экалагічных праблем: ні эканамічныя метады, ні новыя тэхналогіі, ні замена прыродных рэсурсаў іншымі, ні «зялёная рэвалюцыя» (рашэнне з харчаваннем), ні рост унутранага нацыянальнага прадукта і іншае не вырашаюць нашы праблемы. *«Таким образом, поскольку мы быстро движемся к катастрофе, нам предстоит так или иначе решать экономические проблемы уже в течение жизни нынешних детей и молодёжи. Единственный вопрос состоит в том, придётся ли выход из положения нам по нраву, либо проблемы будут решены путём войны, геноцида, голода, эпидемий и социальных потрясений. На протяжении истории человечества эти печальные явления возникали там, где случались экологические катастрофы, повышалось антропологическое давление на окружающую среду и, как следствие, возникали бедность и политическая нестабильность»* (с. 692).

Джэрад Дайманд выказвае такі погляд: *«Я осторожный оптимист. С одной стороны, я признаю серьёзность проблем, стоящих перед нами. Если мы не приложим усилия к их решению и если наши усилия не увенчаются успехом, то через несколько десятилетий мир вынужден будет жить по стандартам общества, находящегося в кризисе, а то ещё хуже. Именно по этой причине я решил посвятить себя убеждению людей, что к этим проблемам следует отнестись очень серьёзно, поскольку другого выхода просто нет. С другой стороны, мы сможем решить проблемы, если захотим. Вот почему мы с женой семнадцать лет назад решили произвести на свет детей — мы считаем, что у людей есть основания для надежды»* (с. 719).

Чытаючы гэтую хвалюючую думку і сэрца капітальную кнігу пра такі мудры погляд на гісторыю чалавецтва і на шляхі яе будучыні, нельга не згадзіцца з папярэджаннем аўтара пра неабходнасць вырашэння шматлікіх экалагічных праблем сучаснасці. На жаль, сучасныя адносіны чалавецтва да ўзнятых праблем усё больш змяншаюць нават «асцярожны аптымізм». Каб зусім не згубіць і мой ужо надта слабы аптымізм, не буду пералічваць тыя шматлікія адмоўныя сітуацыі і падзеі, якія шырока вядомы ў многіх сучасных краінах, у тым ліку ў нашай Беларусі і суседніх дзяржавах, і якія не даюць спакойна жыць.

*2014*

## «БНКА» — рэзервацыя беларусаў імя прафесара Леаніда Лыча[1]

Беларускі вядомы гісторык, доктар гістарычных навук, прафесар Леанід Лыч, пра якога я пісаў як пра выдатнага адраджэнца сучаснасці у сваёй кнізе «Жыццёвы меланж» (2013, с. 469–475), нядаўна надрукаваў брашуру «Нацыянальна-культурная аўтаномія беларусаў як варыянт захавання іх этнакультурнай самабытнасці» (Мінск: Кнігазбор, 2013. 24 с.).

У першай частцы брашуры Леанід Лыч справядліва б’е у набат пра тое, што ў выніку мэтанакіраванай палітыкі *«ненажэрнай русіфікацыі»* ідзе такая моцная згуба самабытнасці беларусаў, што *«горшага ўжо не бывае»*. Таму ён правільна прызывае, каб рабіліся *«нейкія крокі па прадухіленні смяротнага сыходу беларусаў са свету пад уздеяннем асімілятарскай палітыкі ўласнага дзяржаўнага чыноўніцкага апарату»*, бо прафесар прыйшоў у значнай ступені да рэальнага выніку, што *«варожыя беларускаму народу палітычныя рэжымы надзейна накінулі на яго кайданы русіфікацыі. Ён гіне, яго трэба тэрмінова ратаваць, а не спадзявацца на нейкі цуд»*. Леаніда Лыча

[1] Тэрмапілы. — 2015. — № 19.

непакоіць, *«хвалюе пасіўнасць самога народа, у тым ліку і яго інтэлігенцыі [...] толькі нейкая дзясятая частка яго здольная, мае схільнасць, шчырае жаданне да актыўнай стваральнай нацыянальна-культурнай дзейнасці. Гэта значыць, у яе можна залучыць прыкладна адзін мільён беларусаў»*.

Прафесар падкрэслівае відавочную сітуацыю, якая ўвесь час пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі, ужо больш за 20 гадоў вісіць у яе жыцці, *«што ўсталяваная на сёння бязмежнае панаванне ў Беларусі рускай культуры і мовы — падстава глядзець на нашу краіну як не на самастойную, мала чым адрозную ад Расіі, таму інкарпарацыя яе ў склад апошняй нават з поўнай стратай суверэнітэту не можа ўяўляцца якойсьці сур'ёзнай процізаконнай акцыяй . [...] Перагортваю, аналізую амаль ва ўсе часы бязрадасныя старонкі айчыннай гісторыі і не знаходжу на іх больш катастрафічнага для этнічнага выжывання беларусаў, як у нашыя дні. [...] у краіны на сёння няма больш сур'ёзнай для ўсенароднага абмеркавання праблемы, чым вызначэнне шляхоў этнічнага выжывання беларусаў»*.

Нельга не пагадзіцца з тымі разумнымі думкамі нашага вядомага гісторыка, якія я працытаваў і якія з'яўляюцца такімі злабадзённымі ў сучасным жыцці Беларусі. Л. Лыч лічыць, што *«Сёння нішто і ніхто як след не працуе на яго этнічнае выжыванне, не прапаноўвае нічога з таго, што магло б разглядацца ў якасці аднаго з варыянтаў выратавання тытульнага насельніцтва краіны ад канчатковай русіфікацыі»*. Гэтае сцвярджэнне нельга падтрымаць, бо многімі шмат чаго робіцца ў адзначаным напрамку, але, праўда, мусіць недастаткова. Дык што канкрэтна прапанаваў Леанід Лыч *«з уласнага і сусветнага досведу»*?

Яго спакутаваная душа і змучанае сэрца ад крыўды за сучасны стан беларушчыны так моцна паўплывалі на яго пастаянна думаючы мозг, што той быў ахоплены фантастычнымі летуценнямі і выдаў «на-гора» «геніяльную» думку — стварыць на *«спецыяльна адведзенай частцы тэрыторыі нашай краіны»*

рэзервацыю *«для рассялення беларусаў у роднай культуры і мове»*, якой ён прапанаваў назву — «Беларуская нацыянальна-культурная аўтаномія» ці «Літоўская нацыянальна-культурная аўтаномія Рэспублікі Беларусь». Аўтар ідэі падкрэсліў, што *«мне падабаецца нават сама абрэвіятура гэтай нацыянальна-культурнай адміністрацыйнай адзінкі»* — адпаведна БНКА і ЛНКА.

Леанід Лыч у падтрымку сваёй ідэі прывёў шэраг блізкіх з'яў у розных краінах свету (Яўрэйская аўтаномная вобласць Хабараўскага краю РСФСР, немцаў Паволжжа, Каталонія, Шатландыя і Паўночная Ірландыя, гагаузы Малдовы і інш.). Абарыгены Аўстраліі не растварыліся сярод прышлых аўстралійцаў толькі таму, што вымушана жылі ў рэзервацыі. Нядаўна парламент Аўстраліі абвясціў абарыгенаў «першымі аўстралійцамі». Як бачым, у Аўстраліі абарыгенаў выводзяць з рэзервацыі, а наш прафесар, наадварот, заганяе беларусаў у рэзервацыю. Затое ён піша: *«Вось і мільён беларусаў, калі па-гаспадарску абсталююцца на адведзенай яму палітычным кіраўніцтвам суверэннай Рэспублікі Беларусь тэрыторыі, можна дачакацца найлепшых часоў, захаваць сваё этнічнае "Я" і заслужыць сабе эпітэт "першыя беларусы", альбо "шчырыя", "сапраўдныя беларусы"»*. Можа і праўда, каб атрымаць такі гонар, згадзімся пасядзець у рэзервацыі?!

Аўтар больш падрабязна малюе «контуры магчымай БНКА», якая знаходзіцца *«на гістарычнай, этнічнай тэрыторыі народа, да якога яны гістарычна належаць»*. *«...Я не раз задумваўся, а што, каб з усіх дзевяці мільёнаў беларусаў адабраць з мільён незарусікаваных, свядома адданых прыродным культурна-моўным традыцыям чалавек і кампактна пасяліць на спецыяльна адведзенай тэрыторыі Беларусі, плошчай прыкладна 20 тыс. квадратных кіламетраў»*. Ён лічыць, што больш за ўсё для гэтага *«паслужаць прымежныя да Літвы і Латвіі тэрыторыі»*. Гэта значыць, што ў БНКА ён прапануе ўключыць амаль палову Віцебскай вобласці, яе паўночна-заходнюю

частку, прыблізна па лініі Полацк-Докшыцы, куды належаць Браслаўскі, Верхнядзвінскі, Расонскі, Мёрскі, Шаркаўшчынскі, Пастаўскі і іншыя раёны. Магчыма сюды далучыць яшчэ самыя паўночныя часткі Гродзенскай (Астравецкі, Ашмянскі, Смаргонскі раёны) і Мінскай (Мядзельскі раён) абласцей. Аўтар лічыць, што стварэнне БНКА — *«адзіны сродак выратавання беларусаў ад этнічнай смерці»*. *«Аўтаномія будзе знаходзіцца ў складзе Рэспублікі Беларусь, але толькі як спецыяльны нацыянальна-культурны раён. [...] Яе ўладныя структуры будуць пільна сачыць [...], каб на гэтай святой этнічнай беларускай дзялянцы ўсё да апошняй нітачкі было беларускім. [...] Што датычыць эканомікі, палітыкі, у гэтым павінна існаваць поўная тоеснасць паміж БНКА і Рэспублікай Беларусь. [...] Культурна-моўныя правы грамадзян БНКА максімальна павінны ўлічвацца сістэмай адукацыі [...] — стварэнне на тэрыторыі БНКА Беларускага нацыянальнага ўніверсітэта. [...] Існаванне ... аўтаноміі запатрабуе ўважлівага падыходу да развязвання вайсковага пытання [...] — стварыць выключна аднамоўныя, г. зн. беларускамоўныя аддзяленні, узводы, батальёны і іншыя тыпы невялікіх па колькасці салдат вайсковыя адзінкі. [...] Што датычыць аховы дзяржаўных межаў з Літвой і Латвіяй [...] — гэтая ганаровая місія павінна цалкам знаходзіцца ў руках беларусаў-аўтанамістаў...»*.

Цікавыя мары Леаніда Лыча, але наколькі яны рэальны. Таму ўзнікае шмат пытанняў. Як стварыць такую БНКА? Хіба сучаснае кіраўніцтва падтрымлівае такой сепаратызм? Ці паедуць нават самыя шчырыя беларусы ў рэзервацыю, як іх адшукаць і прапанаваць, хто гэтым павінен заняцца, а што рабіць з рускамоўнымі беларусамі тэрыторыі БНКА, якіх там прыблізна столькі ж, як і ў іншых раёнах Беларусі; апрача таго тут пражываюць этнічныя рускія, палякі, літоўцы, татары і інш. Л. Лыч у сваёй прапанове здзіўляе велізарнай адарванасцю ад рэальнага жыцця, такой юнацкай наіўнасцю, што можна далучыць яго да рэдкага тыпу фантастаў.

Калі Лыч сам задумаўся над рэальным стварэннем такой аўтаноміі, дык напісаў: *«Да фантастычнай для многіх маіх сучасных суродзічаў ідэі стварэння БНКА я прыйшоў даўно...»* А хіба і для яго самога тая ідэя не фантастычная? *«Калі б улады краіны прынялі мой варыянт адасаблення беларускамоўных грамадзян ад рускамоўных у мэтах вератавання беларускай нацыі ад русіфікацыі, яны, не задумваючыся, выдзелілі б дзеля гэтага, па вядомых прычынах, патрэбны кавалак зямлі ў Чарнобыльскай зоне...»* Вось гэта рэальныя разважанні: усіх «свядомых», «шчырых», «нацыяналістаў» — у радыеактыўную палесскую багну. Праўда, раён, выбраны прафесарам для БНКА, хоць і не чарнобыльскі, але таксама знаходзіцца ў зоне новай Беларускай АЭС, поўную бяспеку ад якой таксама гарантаваць нельга. Далей ён сцвярджае: *«На ўсе сто працэнтаў упэўнены, што сучаснае палітычнае кіраўніцтва і кроку не зробіць, каб хоць у чымсьці аслабіць сваю дзяржаўную палітыку русіфікацыі». «Ад часу майскага рэферэндуму 1995 года яшчэ ні разу не назіралася, каб улады паспрабавалі хоць штосьці карыснага зрабіць для беларускага нацыянальна-культурнага руху»*.

Прыклад Украіны паказаў, што любы сепаратызм, нават такі як стварэнне БНКА, ды яшчэ ў адносна невялікай краіне, як Беларусь, не прывядзе да добрых вынікаў. Нельга кідаць астатнюю частку Беларусі без мільёна шчырых беларусаў, якія па думцы Л. Лыча павінны з’ехаць у БНКА-рэзервацыю. Трэба больш актыўна разгарнуць працу такіх беларускамоўных патрыятычных арганізацый, як ТБМ, якая ўжо налічвае больш за 6 тыс. сяброў; Рада інтэлігенцыі, Згуртаванне беларусаў свету, Саюз беларускіх пісьменнікаў, Таварыства беларускіх школ і інш. Пашыраць праграмы тыпа шматграннай культурнай кампаніі «Будзьма беларусамі!» і г. д. Ствараць беларускамоўнае асяроддзе, змагацца за беларускамоўную адукацыю — магчыма, шляхам адкрыцця адпаведных недзяржаўных ліцэяў, школ

і нават нацыянальнага ўніверсітэта. Нягледзячы на афіцыйнае закрыццё Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа, ён паспяхова працуе. Ну, і адно з самых галоўных — неабходна, каб кіраўніцтва Беларусі стала сапраўды нацыянальным, якое імкнулася да стварэння поўнасцю незалежнай багатай еўрапейскай дзяржавы, спрыяла развіццю беларускай культуры, літаратуры, навукі, адукацыі, праводзіла разумную міралюбівую палітыку, эфектыўную эканоміку і г. д.

Мы ўжо згубілі вялізныя этнічныя тэрыторыі, дзе пражывалі спакон вякоў беларусы: Беласточына, Віленшчына, значная частка Смаленскай, Пскоўскай, Бранскай, Чарнігаўскай абласцей. Беларусам гэтых тэрыторый абавязкова патрэбна падтрымка метраполіі! Чаму не паставіць пытанне аб стварэнні беларускай аўтаноміі на прылеглай да Беларусі Смаленскай вобласці, тым больш, што жыхары шэрагу раёнаў нядаўна звярнуліся з такой прапановай і нават пачалі збіраць подпісы[1].

Калі раптам (хаця ўяўляецца гэта вельмі цяжка, амаль немагчымым) усё ж будзе калі-небудзь створана рэзервацыя беларусаў тыпа БНКА, *«якой яшчэ не было ў ніводнага народу свету»*, даць гэтаму культурна-адміністратыўнаму раёну імя прафесара Леаніда Лыча, як аўтара такой рэдкай, арыгінальнай і па-юнацку фантастычнай ідэі.

*2014*

## Кіраўнік дзяржавы здзівіў беларусаў[2]

Як вядома, пасля рэферэндуму 1995 года ў Беларусі дзве дзяржаўныя мовы: адна беларуская — мова тытульнай нацыі, другая руская — мова суседняй Расіі. За ўсе 20 гадоў кіраўнік дзяржавы амаль ніколі не размаўляў на мове свайго народа, а карыстаецца другой дзяржаўнай мовай. Толькі зрэдку, калі

---

[1] Народная Воля. — 2014. — 4 красавіка.

[2] Тэрмапілы. — 2015. — № 19.

трэба зняважыць дзеячаў з апазіцыі («пятай калоны»), ён гэта робіць па-беларуску: «спадары», «свядомыя». Усе жыхары краіны прызвычаіліся да такіх выступленняў свайго кіраўніка дзяржавы. І раптам 1 ліпеня 2014 года на ўрачыстым сходзе ў гонар Дня незалежнасці ўпершыню за многія гады А. Лукашэнка частку свайго выступлення зрабіў на беларускай мове. У «Народнай Волі» (3 ліпеня 2014 г.) у рубрыцы «Чулі?» карэспандэнт Ігар Марозаў адзначыў: *«Аляксандр Лукашэнка сапраўды прамаўляў па-беларуску. Дзе-нідзе няправільна ставіў націск, дзе-нідзе ўжываў няправільныя формы і калькі з рускай мовы, не здолеў давесці прамову па-беларуску да канца. Але беларуская мова з вуснаў кіраўніка беларускай дзяржавы нарэшце загучала. І гэта пахвальна, з'яўляецца добрым прыкладам для чыноўнікаў усіх рангаў»*.

Характэрна, што гэтае выступленне кіраўнік дзяржавы зрабіў напярэдадні прылёту У. Пуціна ў Менск на ўрачыстасці з нагоды 70-й гадавіны вызвалення ад гітлераўцаў і адкрыцця музея Вялікай Айчынай вайны. Валеры Карбалевіч дае такія разумныя тлумачэнні: *«[...] выступление А. Лукашенко на белорусском языке — это робкая попытка отгородиться, защититься, спрятаться от агрессивного напора с востока. Дескать, мы не совсем "русский мир", у нас есть даже свой язык. [...] надо было бы [...] избавляться от российской зависимости. Но проблема в том, что сегодня поддержка со стороны России, прежде всего экономическая — это единственный способ выживания белорусской социальной модели и нынешнего правящего режима.*

*Оказавшись в такой ловушке, А. Лукашенко пришёл к парадоксальному решению. Он пытается избавиться от российской угрозы, избежать повторения Крыма на пути более тесной интеграции с Россией. Дескать, Беларусь настолько близкий союзник РФ, что Москве нет необходимости повторять здесь украинский сценарий. В итоге никогда ранее не было такого активного военного присутствия России в Беларуси, как сейчас. [...] Готовясь к совместному параду, по*

*улицам Минска много дней перед торжествами ездила бронетехника под флагами России. В параде участвовали также российские зенитные комплексы, самолёты, вертолёты»[1].*

*2014*

## Два юбілеі на Купалле[2]

6 ліпеня споўнілася 150 гадоў з дня нараджэння Ефрасінні Міхайлаўны Гарэцкай — маці братоў Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх і маёй бабулі. Менавіта, дзякуючы яе высокай духоўнасці, ласкі, любові, яна змагла ўзгадаваць сваіх дзетак шчырымі, працавітымі, добразычлівымі людзьмі, якія палюбілі Бацькаўшчыну, яе народ, прыроду, родную мілагучную мову, імкненне да ведаў, да ўсяго прыгожага. Яе выдатныя беларускія песні і казкі, якіх яна ведала вялікую колькасць, назаўсёды запалі ў сэрцы сыноў, а крышталёвая паэзія беларускага фальклору дапамагала ўзняць у іх схільнасці да творчасці, да натхнення, што так спатрэбілася ім пазней у літаратуры і навуцы.

Пра сваю маці з вялікай цеплынёй і любоўю шмат пісаў і Максім Гарэцкі ў «Камароўскай хроніцы» (Мінск, Зб тв. Т. 4, 1986) і Гаўрыла Гарэцкі (Выбранае. Мінск: Беларускі кнігазбор, 2002). Я таксама апавядаў пра бабулю Багацькаўскую ў кнізе «Жыццёвы меланж» (Мінск: Беларускі кнігазбор, 2013).

Максім Гарэцкі разам з кампазітарамі Міколам Аладавым і Аляксандрам Ягоравым выдалі ў Інбелкульце зборнік «Народныя песні з мелодыямі» (1928), дзе змясцілі 318 песень Ефрасінні Міхайлаўны, пасля чаго яна стала шырока вядомай як самабытная народная спявачка, якую фалькларысты і кампазітары звалі Просяй Гарэцкай, і выкарыстоўвалі яе песні і балады ў многіх сваіх творах.

Мне вельмі было прыемна ўбачыць у газеце «Наша слова» (№ 28, 9 ліпеня 2014 г.) фота Ефрасіні Гарэцкай і словы пра яе

[1] Свободные новости плюс. — 2014. — 8 ліпеня.

[2] Тэрмапілы. — 2015. — № 19.

ў сувязі са 150-годдзем. Аўтар артыкула ўзгадвае унікальную баладу Просі Гарэцкай, *«змест якой дзіўна накладаецца на лёс братоў Гарэцкіх»:*

…Ды два брахнінькі гулялі,
Яны брусейна цісалі,
Святлічаньку будавалі.
Яны думалі — святліца,
Ажну цёмная цямніца…

Пра гэтую баладу пісалі выдатны беларускі этнамузыколаг Зінаіда Мажэйка і вядомы фалькларыст, літаратуразнаўца Арсень Ліс.

Трохі раней, 5 ліпеня, таксама амаль на Купалле споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння майго брата Усяслава, які 25 красавіка 2009 года пакінуў зямное жыццё, аб чым я ўжо пісаў у кнізе «Жыццёвы меланж» (2013). Памяць пра самага роднага мне чалавека, з якім мы разам прайшлі большую частку нашай маладосці і сталасці ў вялікім сяброўстве і падтрымцы, ніколі не пакіне мае сэрца і розум. З гонарам успамінаю яго выдатную працу ў якасці вядомага букварыста, педагога, галоўнага рэдактара часопіса «Начальная школа», члена-карэспандэнта Расійскай акадэміі адукацыі, доктара педагагічных навук, прафесара. Яго калегі выдалі кнігу «Опережая время. Избранные труды В. Г. Горецкого, воспоминания о его жизни и творчестве» (М., 2010. 288 с.). Пазваніў у Маскву, дзе яго сын Кірыл і дачка Алена разам з сем’ямі, у тым ліку ўнукам Максімам і ўнучкай Марыяй і праўнучкай Лідай адзначалі гэты юбілей.

Таму ў старажытнае народнае свята Купалле мне цёпла на сэрцы і ад таго, што ў гэтыя дні нарадзіліся мае самыя блізкія і дарагія бабуля і адзіны родны старэйшы брат.

*2014*

## Мой любімы паэт і дарагі сябар[1]

*(8 ліпеня споўніцца 40 дзён, як пайшоў з жыцця Генадзь Бураўкін)*

Яшчэ зусім нядаўна, у снежні 2013 г., з Генадзем і яго мілай жоначкай Юляй адзначалі ў мяне на кватэры дзень народзінаў маёй Галі і мой (а разам нам аж 150!). Вясёлыя, радасныя, бадзёрыя доўга сядзелі, шмат успаміналі мінулае, абмяркоўвалі сучаснасць і будучыню Беларусі. Генадзь Мікалаевіч шчыра і ўсхвалявана дзяліўся падзеямі свайго цікавага жыцця. Яшчэ ў час вайны ў дзяцінстве карнікі і паліцаі загналі жыхароў вёскі Шуляціна Расонскага раёна ў лазню і хацелі спаліць. Нечакана ўжо сівы немец зламаў запасныя дзверы на другім баку лазні, і яны змаглі ўцячы ў лес. З таго часу ён зразумеў, што ўсюды ёсць «людзі і звяры», а жыццё і людзей бачыць многакаляровым, адчувае разнастайную чалавечую сутнасць. Гэтае тонкае пачуццё людзей, прыроды, роднай краіны неабходна сапраўднаму паэту, якім ён стаў ад маці, Бога, неба і роднай зямелькі.

Гаварыў пра студэнцкія гады, сяброўства са студэнтамі журналісцкага і літаратурнага факультэтаў БДУ, асабліва з Рыгорам Барадуліным, што адбылося на ўсё жыццё, пра сваю хваробу (туберкулёз). З вясёлым гумарам Юля і Генадзь успаміналі сваё вяселле, калі маці Юлі катэгарычна была супраць такога «вясковага» зяця, але каханне перамагло і Юля збегла з дому праз акно да свайго любага. Стварылася выдатная сям’я, у якой цудоўныя сын Аляксандр, дачка Святлана і чацвёра ўнукаў. Потым была праца ў газетах, у тым ліку у «ЛіМе». У гэты час Генадзь Бураўкін разам з Анатолем Вярцінскім (а пазней і з Нілам Гілевічам) выратавалі абараніць Васіля Быкава ад несправядлівай крытыкі за яго аповесць «Мёртвым не баліць», сабраўшы каля шасці дзясяткаў подпісаў вядомых пісьменнікаў пад зваротам у ЦК Кампартыі Беларусі. Ледзь

[1] Тэрмапілы. — 2015. — № 19.

не выключылі Бураўкіна з партыі, але нечакана галоўны рэдактар «Праўды» Міхаіл Зімянін і Пётр Машэраў прапанавалі яму быць карэспандэнтам «Праўды», хаця з ЦК КПБ быў ліст супраць такога «агалцелага нацыяналіста і антысаветчыка». Як заўсёды ў сваім жыцці, і на гэтай пасадзе, Генадзь Мікалаевіч імкнуўся зрабіць карыснае для сваёй Бацькаўшчыны. Прынамсі дабіўся, каб на старонкі «Праўды» трапіў матэрыял Лявона Баразны і Зянона Пазняка ў абарону старой Нямігі з прапановай зрабіць культурна-экскурсійны куток Менска, а таксама супраць разбурэння будынка тэатра імя Янкі Купалы. У 1972 годзе Г. Бураўкін перайшоў на пасаду галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць», у якім друкаваў творы В. Быкава, У. Караткевіча, а таксама упершыню лісты з фронту Леаніда Гарэцкага (1972, № 9). У 1978 годзе Пётр Машэраў прапанаваў узначаліць Беларускае радыё і тэлебачанне, дзе працаваў на працягу 12 гадоў і зрабіў гэтыя сродкі масавай інфармацыі пасапраўднаму нацыянальнымі, прычым беларускае тэлебачанне ў тыя часы лічылася адным з найлепшых у Савецкім Саюзе. Цікава апавядаў пра Пятра Міронавіча, які ўвесь час давяраў і падтрымліваў Г. Бураўкіна і аднойчы яму сказаў: «Я не магу падтрымаць цябе ў справе беларушчыны афіцыйна з трыбуны, бо мяне тут жа здымуць. Але ты рабі справу. Чыноўнікі ведаюць, што ў цябе за спінай стаю я, і яны не асмеляцца табе замінаць». Машэраў, канешне, рабіў тое, што яму казалі з Масквы, але ён дапамог стварыць «Хатынь», паставіць помнікі Купале і Коласу ў Менску, падтрымліваў творчую інтэлігенцыю. Паколькі ўжо ў часы перабудовы на тэлебачанні і радыё паказвалі занадта шмат праўды пра краіну, у тым ліку пра БНФ, дэманстрацыі, давалі слова З. Пазняку і іншым апазіцыянерам, урадавыя чыноўнікі вырашылі пазбавіцца ад Г. Бураўкіна і паслалі яго ў «ссылку», прызначыўшы прадстаўніком Беларусі пры ААН у Нью-Ёрку (1990–1994 гады), дзе ён быў і ў час БССР, а затым і ў пачатку незалежнай Рэспублікі Беларусь. Я зноў нагадаў яму, каб пісаў успаміны.

Хаця ведалі мы адзін аднаго значна раней, але непасрэдна пазнаёміліся ўжо пасля яго вяртання ў Менск, калі амбасада Францыі адзначала Дзень незалежнасці ў Драздах. Мы неяк адразу адчулі ўзаемную сімпатыю, перайшлі на «ты» і пасябравалі.

Мне прыходзілася быць разам з Генадзем Бураўкіным на многіх літаратурных і іншых сустрэчах і пасяджэннях, асабліва часта ў Таварыстве беларускай мовы (у самыя цяжкія гады якога ён быў старшынёй), Рады беларускай інтэлігенцыі, Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» і інш. Мяне заўсёды ўражвала яго актыўнасць, прынцыповасць, прагнасць і красамоўнасць выступленняў. У творах і грамадскім жыцці ён заўсёды цвёрда стаяў на баку праўды, на пазіцыі сумленнасці і справядлівасці, не быў абыякавым, а яго выбуховыя супярэчнасці і рэзкая крытыка ўзнікалі ад сэрца і заўсёды былі не злыя, справядлівыя, а ён быў добразычлівы і адходлівы. Г. Бураўкін актыўна ўдзельнічаў у жыцці Саюза беларускіх пісьменнікаў як сябра Рады, у Грамадскай радзе тэлеканала «БелСат», ПЭН-клуба Беларусі.

Яго вялікія арганізацыйныя здольнасці добра адчуў, калі я разам з ім, а таксама Рыгорам Барадуліным і Анатолем Грыцкевічам былі сустаршынямі Аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні Усебеларускага з’езда за незалежнасць (2000 г.). Тады была вялікая небяспека аб’яднання Беларусі і Расіі і поўнай страты суверэнітэту краіны. Галоўным маторам у нашым Аргкамітэце быў менавіта Генадзь Бураўкін разам з кіраўніком рабочай групы на чале з журналістам Аляксандрам Старыкевічам.

Як адзін з самых блізкіх сяброў Васіля Быкава, Генадзь Бураўкін праз год пасля смерці нашага славутага пісьменніка і грамадскага дзеяча сабраў успаміны і выдаў кнігу «Наш Быкаў» (2004). Я быў вельмі ўдзячны Генадзю, што ён запрасіў і мяне даць успаміны.

Беларускі народ і многія яго прадстаўнікі шчыра віталі Генадзя Бураўкіна з юбілеем: 70-годдзе адзначылі ў перапоў-

ненай зале Палаца мастацтваў, а 75-годдзе — у будынку галерэі «Ў». Усе выказвалі вялікую падзяку за яго цудоўную паэзію, літаратурную дзейнасць, мужнасць, грамадзянскую пазіцыю на шляху нацыянальнага адраджэння Бацькаўшчыны. Толькі ўладныя структуры, падначаленыя ім дзяржаўныя газеты, часопісы, радыё і тэлебачанне не заўважылі юбіляра, а кіраўнік дзяржавы ў гэтыя дні сардэчна павіншаваў народнага артыста Расіі А. Разенбаума.

Генадзь Бураўкін — адзін з самых выдатных беларускіх паэтаў-лірыкаў. Усё, пра што ён пісаў, прайшло праз яго сэрца. Бліскучы журналіст, публіцыст, майстар перакладу. Ён поўнасцю адда637ны беларушчыне, усім сэрцам любіў сваю Бацькаўшчыну, родны народ і яго цудоўную мілагучную мову, з замілаваннем адчуваў прыгожыя беларускія краявіды і ўсю прыроду. Найбольшае натхненне да яго прыходзіла ў час сумна-філасофскай шматкаляровай беларускай восені. Яго паэзія сама просіцца да песні, таму шмат на яго словы атрымалася цудоўных хітоў («Завіруха», «Зачараваная» і інш.), а яго «Калыханка» стала любімай і ў дзяцей, і ў бацькоў, выхоўваючы сардэчныя пачуцці ў многіх пакаленняў жыхароў краіны. Якія мілагучныя песні на словы Г. Бураўкіна зрабіў Зміцер Вайцюшкевіч у сваіх дысках «Liryka» і «Варанок».

Пазней, у канцы 2013 года, мы з радасцю сустракаліся з Генадзем у Музеі гісторыі беларускага кіно на праглядзе пяці дакументальных музычна-антрапалагічных кінафільмаў у сувязі з 80-годдзем з дня нараджэння выдатнага этнамузыколага Зінаіды Мажэйка, на юбілеі вядомага паэта і перакладчыка Валера Стралко, на пасяджэннях ТБМ і Рады інтэлігенцыі, цёпла павіншавалі адзін аднаго з Новым 2014 годам.

Нечакана ў студзені 2014 года пазваніла Юля і агарошыла паведамленнем, што Генадзь у вельмі дрэнным стане ляжыць у бальніцы з жудасным дыягназам — анкалогія. Пачалася мужная і хвалюючая барацьба за жыццё, якая працягвалася хвалямі паляпшэння і страшэнных набліжэнняў да нябыту, з

адпаведным знаходжаннем то ў хаце, то ў бальніцы. Дапамагала пастаяннае дзяжурства Юлі, Аляксея, Святланы, падтрымка сяброў. Здолеў разам з Юляй даць інтэрв'ю ў сувязі са смерцю свайго даўняга сябра — Рыгора Барадуліна, якога лічыў беларускім паэтам № 1. Сам сказаў Юлі, што і яму засталося яшчэ месяцы два. 14.03. Юля дазволіла наведаць Генадзя. Я і мая Галя ўсяк стараліся перадаць хвораму бадзёрасць, веру ў паляпшэнне. З цяжкасцю сеў у ложку, пра многае пагаманілі, і ў яго вачах засвяцілася надзея ў пачатку лета зноў трапіць на сваю дачу, пабачыць лес і пачуць галасы птушак. І праўда, Генадзю стала лягчэй, нават сам без дапамогі ўстаў, зрабіў некалькі крокаў. Некалькі разоў перазвоньваліся, нават яшчэ 13.04. даведаўся, што на 101 годзе памерла яго маці Феадосія Бураўкіна. У дваццатыя дні красавіка пачаліся дзікія болі, зноў трапіў у рэанімацыю. Потым у такім жа цяжкім стане зноў у хаце. Пра яго апошнія дні жыцця, пра яго мужнасць і галоўнае свае жаданне паведаміў Сяргей Шапран (Новы Час, 6 чэрвеня 2014 г., Народная Воля, 13 чэрвеня 2014 г.). Папрасіў сваіх сяброў рыхтаваць сваю чарговую паэтычную кнігу «як чарговую, а не пасмяротную» і даў назву «Нагаварыцца з зоркамі». За тры дні да смерці ён з удзячнасцю ўбачыў сваю апошнюю кнігу. Уладзімір Някляеў сказаў: «Гэта было Вялікае Супакаенне, што жыццё пражыў, як належыць. Зрабіў у ім, што мог».

26 траўня пазваніла Юля і сказала, што Генадзь запрашае мяне і Галю, каб развітацца. Ён схуднеў, твар светлы, вочы чыстыя, але не свецяцца, як раней, жыццём. Рукі халодныя, бледныя. З цяжкасцю гаварыў, успамінаў майго бацьку, наша сяброўства. Перадаў мне свой апошні запавет: *«Доўга жыві і рабі не толькі за сябе, але і за мяне ўсё, што можаш, дзеля росквіту Беларусі, каб стала яна па-сапраўднаму беларускай, вольнай, самастойнай, багатай. Рабі нашу агульную справу далей»*. Потым раптам цвёрдым голасам: «Сядзем за стол, адзначым сустрэчу!» Юля дастала каньяк, разлілі чаркі, выпілі

за сустрэчу і развітанне. Пацалаваліся. Сэрца маё ныла ад жалю і гора…

30 траўня раніцаю пазваніла Юля: «Памёр Генадзь!» У гэты ж дзень у мяне сарваўся рытм сэрца, якое білася ледзь-ледзь, і я замест пахавання 31 траўня трапіў у кардыялогію Лечкамісіі. Першыя дні мне было так кепска, што я думаў: «Хутка зноў сустрэнемся з Генадзем недзе там, на небе». Але, відаць, ён нагадаў майму сэрцу свой запавет, і яно праз два тыдні, хоць і з мярцальнай арытміяй, але працягвае жыць.

Цяпер я лістаю і чытаю з дзясятак кніг Генадзя Бураўкіна, якія ён падараваў мне з вельмі цёплымі сяброўскімі аўтографамі, і атрымліваю сапраўдную асалоду. На адной з апошніх кніг «Лісты да запатрабавання» (2010) ён напісаў: *«Мілым сябрам Радзіму і Галі Гарэцкім, без якіх мне было б сумна і самотна на гэтай зямлі — ад шчырага сэрца»*. Дарагі Генадзь, каб ведаў ты, як нам без цябе самотна і сумна! Зноў упэўніваюся, што Генадзь Бураўкін — даўно народны паэт, класік беларускай літаратуры, выдатны дзяржаўны і грамадскі дзеяч, адзін з найлепшых прадстаўнікоў адраджэнскай нацыянальнай інтэлігенцыі. Ён застаецца з намі. Мы чуем яго. Ён навечна ўпісаны ў беларускую гісторыю, у роднае слова.

*2014*

## Юбіляр піша пра час ГУЛАГа[1]

Вядомаму беларускаму пісьменніку Віктару Карамазаву 27 чэрвеня 2014 года споўнілася 80 гадоў. Юбіляр у гэты дзень прапанаваў газеце «Народная Воля» «жменю старонак са сваёй новай, да канца яшчэ не напісанай кнігі». Гэтую жменю старонак ён назваў «Мае дзяды», дзе прывёў шэсць лістоў свайго дзеда Максіма Ладошкіна, вязня сталінскага ГУЛАГа, якія той пісаў да бацькі пісьменніка Халімона. У апошнім шостым лі-

[1] Тэрмапілы. — 2015. — № 19.

сце Максім дае Халімону кірунак: *«Пішы сямейную хроніку. Я пішу. Ужо ёсць тысяча пяцьсот старонак свайго мужыцкага роду. Тут ратунак зямлі і космасу. У радаводзе нашым, падобным на радавод усяго чалавецтва. Радавод верне людзям памяць, адказнасць за свой род, за гістарычнае мінулае, за шлях, якім ён ідзе, і гэтым верне згубленую душу, духоўнасць. Тут ёсць надзея, што зямля і космас не загінуць»*.

Далей ужо ад сябе Віктар Карамазаў піша: *«Дзіўныя нечаканыя супадзенні: Максім Ладошкін і Максім Гарэцкі — землякі-суседзі з пладаноснай амсціслаўска-чавускай нівы, абодва з моцных сялянскіх родаў-абшчын, настаўнікі па адукацыі і прыродным таленце, абодва прайшлі праз сталінскія лагеры, абодва там знайшлі аднолькавыя выйсці для сябе і для ўсіх: пісаць хроніку мужыцкага роду як адвечны духоўны шлях. З іх кожны сваю задуму змог рэалізаваць па-рознаму, бо ў кожнага былі свае магчымасці, умовы. Але не гэта самае цікавае, а тое, што адзін аднаго не ведаючы, адзін у Вішары, другі ледзь не ў суседняй Вятцы, на адным геаграфічным мерыдыяне, убачылі для беларусаў адзін і той жа шлях ратунку: я і мой род, мой род і я, усе мы разам — наш каўчэг ратунку. І абодва не давялі задуму да канца: абодвух спыніла сталінская мяжа.*

*Якая дзіўная паралельная, у адным напрамку хада!*

*Максім Гарэцкі: “Жаніўся Паўлюк Ваявода. Памерла Мар’ічка (2-я), радзіўся Раман. Нарадзіўся у Стахвана і Ганны сын Раман”.*

*Максім Ладошкін: “Ты, Халімон, нарадзіўся ад Сяргея, а Сяргей ад Марціна, а Марцін ад Івана, твайго прадзеда…”*

*Пра “Камароўскую хроніку” Максім васькавіцкі не ведаў. І не было ў яго ніякай пуцяводнай? Была — Біблія. Яе ён, як настаўнік царкоўнапрыходскай школы, ведаў выдатна.*

*“І блаславіў Бог Ноя і сыноў яго, і сказаў ім: пладзіцеся і памнажайцеся, і засяляйце Зямлю.*

*Сыны Іосіфа былі: Гамер, Магог, Мадай, Іван…*

*Сыны Гамера былі: Аскеназ, Рыфат, Фагарма.*

*Сыны Івана...”*

*За сям’ю пячаткамі хаваліся ад людзей Біблія, “Камароўская хроніка”, “Хроніка мужыцкага роду” дзеда Максіма.*

*[...] Бяжыць час. Прыходзяць і адыходзяць людзі. Час мяняе людзей, а людзі мяняюць час. Новы час вярнуў нам Біблію. Прыйшоў і час, які вярнуў нам Максіма Гарэцкага і яго “Камароўскую хроніку”. А я чакаю, калі, нарэшце, прыйдзе да мяне і “хроніка мужыцкага роду” майго дзеда Максіма. Ці трэба яе шукаць, мне да яе ісці?*

*[...] — Мне трэба ехаць на Вішару.*

*[...] Тым летам я паляцеў у Перм, каб ужо адтуль па Каме, Вішары даплысці да барака, у якім жыў і памёр амаль сорак гадоў таму Максім Ладошкін».*

У той жа дзень я патэлефанаваў Віктару Філімонавічу, сардэчна павіншаваў з яго слаўным юбілеем, пажадаў новых творчых дасягненняў і паведаміў, як моцна мяне ўсхваляваў яго нарыс пра дзеда Максіма. Яго вельмі зацікавіла маё жыццё на Беламорканале, мае намаганні па раскрыцці жыцця і лёсу братоў Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх у ГУЛАГаўскі час. Мы сустрэліся і доўга размаўлялі на гэтую сумную, але вельмі хвалюючую нас тэму. Ён паведаміў пра сваю паездку да «барака» свайго дзеда, якая на жаль, не прынесла поспеху, і пытаў: «Што яшчэ можна зрабіць?» Я раіў Віктару Філімонавічу змагацца і далей у пошуку справы яго дзеда і паказаў яму свае шматлікія заявы ў самыя розныя адпаведныя органы многіх гарадоў, у тым ліку нават Масквы. Ён згадзіўся з маёй прапановай і на развітанне пакінуў сваю кнігу «Выбраныя творы», якая была надрукавана ў серыі «Мастацкая літаратура» Беларускага кнігазбору, і ў якой ён змясціў эсэ «Чалавек і ўвесь народ», прысвечанае Максіму Гарэцкаму. Зрабіў прыемны аўтограф: *«Дарагому Радзіму Гаўрылавічу са шчырым прызнаннем, што духоўная веліч Гарэцкіх была мне, аднаму з беларусаў, святлом ратунку і надзеі на жыццёвых дарогах. З удзячнасцю — Віктар Карамазаў».*

* * *

Усхваляваны гаворкай пра ГУЛАГ, я прагледзеў не столькі шырока вядомы твор «Архіпелаг ГУЛАГ» Аляксандра Салжаніцына, як мала вядомыя нашаму чытачу кнігі «У капцюрох ГПУ» (1994) Францішка Аляхновіча і «Россия в концлагере» (2009) Івана Саланевіча, якія адносна нядаўна (у адзначаныя гады) былі перавыдадзеныя і якія былі апошнімі ў маім чытанні на гэтую балючую тэму. Важна падкрэсліць, што названыя кнігі былі першымі творамі, якія на дзясяткі гадоў выйшлі раней, чым «Архіпелаг ГУЛАГ» Салжаніцына, і якія яскрава паведамілі свету пра страшэнныя канцлагеры бальшавізму.

Успаміны Ф. Аляхновіча напісаны ў 1934 годзе, спачатку ён друкаваў іх на польскай мове ў віленскай газеце «Stowo», затым па-руску ў газеце «Возрождение» ў Парыжы, асобнай кніжкай па-польску ў Італіі на італьянскай мове, ва ўкраінскай газеце «Діло», у Рыа-дэ-Жанейра — на партугальскай мове. У канцы 1937 г. кнігі Ф. Аляхновіча ўбачылі свет і па-беларуску. З 1935 да 1937 г. кніга «У капцюрох ГПУ» выйшла на сямі мовах свету і карысталася вялікай папулярнасцю ў заходняй Еўропе і Амерыцы.

Максім Гарэцкі пазнаёміўся з Францішкам Аляхновіча яшчэ ў 1919 г. у Вільні, а пазней яны разам з іншымі вядомымі беларускімі дзеячамі актыўна ўдзельнічалі ў грамадскім жыцці, у прыватнасці ў працах Таварыства беларускай школы, дзе сталі ініцыятарамі скаўцкага руху ў Віленскай беларускай гімназіі . Ужо ў 1920 г. выйшла кніга «Гісторыя беларускай літаратуры» М. Гарэцкага, якая пазней была перавыдадзена чатыры разы (1921–1926 гг.), а апошняе выданне ў 1992 г. У той час М. Гарэцкі ў артыкуле «Аб беларускіх пісьменніках» (1921) адзначыў: *«У Менску не жывуць, а тлеюць не абласканыя міласцю ўсемагутных, але чужых да беларускага слова камуністаў-прышэльцаў такія беларускія таленты: паэт Янка Купала, навяліст Змітрок Бядуля, драматургі Ф. Аляхновіч,*

*Уладзіслаў Галубок, белетрыст і публіцыст Язеп Лёсік, таксама слабенькі беларускі камуніст і добры, моцны паэт Цішка Гартны»*.

У «Гісторыі беларускай літаратуры» М. Гарэцкі значнае месца адводзіць драматургу Францішку Аляхновічу, каротка паведамляе пра яго жыццё, дзейнасць і разглядае яго галоўныя творы. *«У 1910 г. ён, разам з нашым вядомым артыстам-танцорам І. Буйніцкім, выдатным рэвалюцыйным і грамадскім дзеячам і публіцыстам А. Бурбісам і іншымі асобамі ўжо творыць у Вільні беларускі нацыянальны тэатр. […] пазней выдаваў гуманітарны тыднёвік “Perkunas”, за артыкулы ў якім быў прыцягнены ў суд. Аляхновіч уцёк за граніцу… […] У 1912 годзе […] вярнуўся ў Вільню і з’явіўся да пракурора. Яго пасадзілі ў астрозе ў Вільні, у якім ён і сядзеў болей года. Вось у астрозе, у 1914–1915 гг. ён напісаў сваю першую п’есу “На Антокалі”. […] У 1916–1917 гг. Аляхновіч напружана працуе ў Вільні для беларускае культуры: супрацоўнічае ў газеце й выдавецтве, настаўнічае ў школе, ладзіць беларускія спектаклі, арганізуе трупу і шмат піша для беларускай сцэны (“На вёсцы”, “Бугрым Няміра”, “Манька”, “Калісь”, “Базылішк”). Калі з рэвалюцыяй пачалася ў Менску шырокая беларуская работа, а ў Вільні людзі мерлі з голаду, Аляхновіч нелегальна, з небяспекаю для жыцця, перайшоў фронт — і, абарваны, босы, з ранамі на нагах, пасля васьмідзённага падарожжа прыйшоў у Менск. Там ён паставіў свайго “Багрыма Няміру” і так споўніў яго ролю, што адразу здабыў вялікі поспех. Менскі беларускі тэатр ажыў. Тут жа Аляхновіч напісаў яшчэ колькі рэчаў (“Чорт і баба”, “Страхі жыцця”, “Дзядзька Якуб”). Пазней ён працуе то ў Менску, то ў Вільні…»* М. Гарэцкі высока ацэньвае творчасць Аляхновіча як вельмі разнастайную. *«Ён шырока ахоплівае сучаснае жыццё, […] сягае ў далёкую мінуўшчыну, па-мастацку апрацоўвае сюжэты з вуснай народнай паэзіі і г. д. Знаходзім у яго рэчы бытавыя, псіхалагічныя*

*і нават, так сказаць, філасофскія. Аднакава здольны ён і ў драме, і ў лёгкай камедыі...»*

Алесь Бяляцкі ў сваёй прадмове да кнігі Ф. Аляхновіча «У капцюрох ГПУ» (1994) адзначае: *«Адзін з найбольш драматычных перыядаў у жыцці Францішка Аляхновіча звязаны з яго прыездам у 1926 годзе ў Мінск на канферэнцыю па рэформе беларускага правапісу. Францішак Аляхновіч паверыў камуністам і вырашыў застацца ў Савецкай Беларусі, каб будаваць "Беларускі дом". На пачатку 1927 года яго беспадстаўна арыштоўваюць і кідаюць у турму. Яго абвінавачваюць у супрацоўніцтве з польскаю дэфензіваю, у прыналежнасці да контррэвалюцыйнай арганізацыі. Маскоўская калегія ГПУ завочна прысудзіла яго да дзесяці гадоў зняволення ў Салавецкіх лагерах»*.

Максім Гарэцкі ў лістападзе 1927 года, даведаўшыся пра арышт Францішка Аляхновіча, напісаў ліст-хадайніцтва: *«Во имя революционной справедливости, во имя чести человека, писателя, артиста, во имя хоть кое-каких заслуг в прошлом, во имя белорусской литературы и театра, из внимания советской Власти к престарелой матери, к маленьким детям — это дело нужно ещё раз тщательно пересмотреть»*[1]. Ён разумеў, што такі ліст — значная небяспека, але не напісаць яго не мог. 10 снежня 1928 года М. Гарэцкі разам з Якубам Коласам, З. Бядулем, В. Ластоўскім, С. Некрашэвічам, Я. Дылам, У. Галубком, Ф. Ждановічам, М. Грамыкам напісалі хадайніцтва ў абарону Аляхновіча.

Але намаганні беларускай інтэлігенцыі не дапамаглі, бо ўжо тады ўзмацнілася барацьба супраць любых праяў «антыкамуністычнай ідэалогіі і немарксісцкіх ухілаў», «буржуазнай нацдэмаўшчыны» і г. д. У 1930 годзе па распрацаванай ГПУ справе «Саюз вызвалення Беларусі» большасць падпісаўшых хадайніцтва (у тым ліку і М. Гарэцкі) самі трапілі ў

[1] Скалабан В. У. У імя беларускай літаратуры і тэатра: Невядомы ліст Максіма Гарэцкага // Літаратура і мастацтва. — 1996. — 26 студзеня.

«кіпцюры ГПУ», бо бальшавікі ператварылі Савецкі Саюз у сапраўдны «архіпелаг ГУЛАГ».

Алесь Бяляцкі напісаў пра далейшы лёс Аляхновіча: *«Сем гадоў па абсурдным абвінавачанні Францішак Аляхновіч адсядзеў у бальшавіцкай няволі, знаходзячыся да вынясення прыгавору ў мінскай турме, а потым — на Салаўках. Гэтаму часу і прысвечаныя ягоныя ўспаміны "У капцюрох ГПУ".*

*У 1933 годзе, дзякуючы хадайніцтву ўплывовых сваякоў у Польшчы, яго абменьваюць на Браніслава Тарашкевіча... [...] З таго часу, вярнуўшыся ў Вільню, Францішак Аляхновіч, як ён сам пісаў, "не пакідаю пісаць і гаварыць аб найстрашнейшым ворагу чалавецтва — аб бальшавізме". [...] Разам з прыходам Саветаў вынішчаецца нешматлікая віленская беларуская інтэлігенцыя, а 58-гадовы Францішак Аляхновіч, які пасля салавецкіх успамінаў быў для камуністаў злачынцам нумар адзін, хаваецца... [...] Пры нямецкай акупацыі Францішак Аляхновіч стаў рэдактарам "Беларускай газеты", якая выходзіла лацінкаю ў Вільні, уваходзіў у Віленскі Беларускі камітэт, які хоць нейкім чынам стараўся бараніць правы беларусаў у Вільні. Яго п'есы зноў увайшлі ў рэпертуар беларускіх тэатраў. У 1942 годзе ў Мінску адбылася прэм'ера яго дапрацаванае п'есы "На Антоклі".*

*[...] У 1943 годзе беларуская грамадскасць адзначала 60-годдзе "бацькі беларускага тэатра", як заслужана назвалі яго ў прэсе.*

*[...] Трэцяга сакавіка 1944 года ўвечары да яго прыйшлі наведвальнікі. Пэўны час яны спакойна размаўлялі ў кабінеце драматурга, а каля васьмі гадзін адтуль пачуўся стрэл. Жонка, калі прыбегла да яго, убачыла чалавека, які ўцякаў з хаты. Францішак Аляхновіч ляжаў за пісьмовым сталом з прастрэленай галавою. Апошнія яго словы былі: «Звані, звані».*

*Дасюль невядома, хто ўчыніў гэтае злачынства. Хутчэй за ўсё — чырвоныя дыверсанты. Францішак Аляхновіч, як і Вацлаў Іваноўскі і Уладзіслаў Казлоўскі, уваходзіў у лік асобаў,*

*вызначаных у Маскве на першачарговае знішчэнне. Але зрабіць гэта маглі і акаўцы, баевікі Арміі Краёвай, якія гэтаксама метадычна знішчалі беларускую інтэлігенцыю».*

Кніга «Россия в концлагере» ўпершыню была выдадзена ў 1936 годзе ў Балгарыі. Як адзначыў Анатоль Тарас у біяграфічнай даведцы да выдання 2009 года яна *«сразу стала бестселером. Книга принесла Солоневичу небывалый успех, огромную популярность и финансовую независимость. Её быстро перевели на английский, французский, немецкий, шведский, голландский, польский, японский и ещё 10 языков.*

*Это была первая книга о советских концлагерях. По глубине воздействия на читателя, яркости и силе отображения она превосходит все последующие публикации на "лагерные" темы, включая знаменитый "Архипелаг ГУЛАГ" Солженицина.*

*К тому же труд Солженицина написан ужасным языком, в нём нет литературных достоинств, зато много претензий автора на обладание истиной в последней инстанции. Солоневич выгодно отличается в этом плане от Солженицина: у него прекрасный литературный стиль, книга "Россия в концлагере" читается "взвхлёб", как хороший детектив».*

Мне асабліва цікава чытаць гэтую кнігу, бо яна прысвечана галоўным чынам канцлагеру ББК — будаўніцтву Беламорска-Балтыйскага канала. Іван Саланевіч разам з братам Барысам і сынам Юрыем былі арыштаваны, калі ў 1933 годзе ўжо трэці раз спрабавалі вызваліцца з «сацыялістычнага раю» і ўцячы ў Фінляндыю.

Івану і Барысу прысудзілі 8 гадоў «за связи со шпионами-иностранцами», «контреволюционную пропаганду» і «нелегальный переход границы». Юра атрымаў 2 гады. У жніўні 1934 года яны здолелі перайсці фінскую мяжу, збегшы з лагера і два тыдні прайшоўшы больш за 200 км па балотах і непралазных лясах. *«Этот побег стал европейской сенсацией».*

На ББК у сярэдзіне 1931 года трапіў Гаўрыла Гарэцкі, які быў арыштаваны ў ліпені 1930 года, асуджаны да расстрэлу з

заменай заключэннем у канцлагер тэрмінам на 10 гадоў. Яму пашанцавала, што быў узяты ў Геалагічны аддзел ББК, дзе авалодаў новай для сябе спецыяльнасцю інжынернай геалогіяй і ў кастрычніку 1934 года быў вызвалены (за ўдарную працу тэрмін зняволення быў значна скарочаны). Але пакінуць ББК яму не дазволілі. Ён змог прывезці сюды сваю сям'ю, тады я і мой старэйшы брат непасрэдна пабачылі многае з таго, што так выдатна апісаў Саланевіч. Тым больш, што мы былі сведкамі новых двух арыштаў бацькі: у кастрычніку 1937 года (выпусцілі праз 3 месяцы), а затым — у маі 1938 да чэрвеня 1939 г. Лёс сыноў «ворага народа» мы пазналі спаўна, а гэты «дамоклаў меч» вісеў над намі амаль да часоў перабудовы. Жудасныя малюнкі таго часу да гэтых дзён не-не ды ўсплываюць у памяці, асабліва цяжкія тыя, якія звязаны з апошнім зняволеннем Таты ў Мядзведжай Гары, калі ён ад здзекаў, голаду, бясконцых допытаў, катаванняў, карцараў, ледзь не пайшоў на самагубства, аб чым я ўжо друкаваў раней[1].

Іван Саланевіч главу 5 «БАМ — Байкала-Амурская магістраль» прысвяціў тым падзеям, якія ахапілі ББК у сувязі з загадам паслаць на будаўніцтва БАМ дзясяткі тысяч зняволеных, а таксама розных спецыялістаў, адміністратараў і інш. Як заўсёды тэрміновасць і абавязковасць выканання загаду выклікала нервовае напружанне, дзікую мітуслівую спешку, вялікую колькасць глупства, імітацыі, хлусні, жалезную бязлітаснасць, тысячы смярцей…

У архіве Г. Гарэцкага захаваўся яго ліст таго часу да брата Максіма ў Вятку. Прывяду вытрымкі з яго.

*«4 октября 1933 г.*

*Дорогой брат Максим!*

*Спешу написать тебе предупреждение, чтобы не ходил на вокзал в Вятке встречать меня, т. к. сегодня произошли важ-*

---

[1] Гарэцкі Р. Ахвярую сваім «Я» (Максім і Гаўрыла Гарэцкія). — Мінск: Беларуская навука, 1998. — 287 с.; Гарэцкі Р. Мой Тата // Полымя. — 2000. — № 3. — С. 221–270; Гарэцкі Р. Браты Гарэцкія. — Мінск: Медысонт, 2008. — 334 с.

*ные для меня события, изменяющие прежний план. Сегодня в 10 час. 30 мин. я должен был уехать на БАМ[1], уже в половине 8-го я был совершенно готов — все вещи мои были запакованы, все продукты на дорогу получены, все дела сделаны, со всеми я простился. В 9 час. с минутами я был уже со всеми вещами на вокзале. Мысленно я уже ехал, уже казалось мне, что подъезжаю к Вятке, что вот все встречаете меня (разрешение на свидание мне выдали, и я вёз его с собой), уже я говорил с вами, радовался встрече.*

*Покидать Медвежку мне очень не хотелось. Было грустно покидать ставшие для меня близкие места, дорогую работу и большие перспективы на интересные изыскания, где-то щемило ощущение безнадежности встречи с мамой, батьком, детьми, Ларой[2]. Но все же — ехал я бодрым, твердым. Радовала предстоящая встреча с тобой, с семьею твоей, а я рассчитывал увидеть и Лёлю, и Галю, и Лёню[3]. (Я и подарок вам вёз — печенья, рыбы и для тебя много махорки и папирос).*

*И вдруг, за час до отхода поезда, мне сказали, что я не еду, что по только что полученной телеграмме из Москвы я остаюсь для работы здесь. Можешь представить мою радость, граничащую с восторгом. Я почувствовал, будто возвратился домой, к родным. Так вот видите, какие бывают дела, какие неожиданные повороты в судьбе.*

*Вот я и тороплюсь предупредить вас, чтобы не ходили меня встречать. Срок мой уменьшается и уменьшается. Осталось*

---

[1] БАМ — Байкала-Амурская магістраль. Г. Гарэцкі, які быў у 1931 г. сасланы на Салаўкі, трапіў на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала, дзе авалодаў новай для яго спецыяльнасцю — геалогіяй і працаваў у пасёлку Мядзведжая Гара (Карэлія) інжынерам-геолагам. У 1933 г. яго хацелі паслаць на будаўніцтва БАМа, аб чым ён напісаў брату Максіму, які быў сасланы ў Вятку і з якім спадзяваўся пабачыцца па дарозе на ўсход, на што меў адмысловы дазвол.

[2] Лара — Ларыса Восіпаўна Парфяновіч-Гарэцкая (1902–1994) — жонка Гаўрылы Гарэцкага.

[3] Лёля — Леаніла Усцінаўна Чарняўская-Гарэцкая (1893–1976) — жонка Максіма Гарэцкага, Галя (н. 1921) — іх дачка, Лёня (1922–1944) — іх сын.

*только 1 год 10 ? месяцев, а учитывая зачёт рабочих дней — 1 год и 3 месяца»*.

Саланевічы родам з беларускай сям'і праваслаўных святароў і настаўнікаў Гродзеншчыны. Іван Лук'янавіч скончыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. Фізічна ён і яго брат Барыс былі сапраўднымі асілкамі, удзельнічалі ў чэмпіянатах, а Іван нават як барэц і гіравік перыядычна выступаў у цырку. Іван да канца жыцця меў праваслаўна-манархічныя перакананні і лічыў, што Расія павінна быць самадзяржаўнай манархіяй. Ён пісаў: *«Диапазон моих переживаний в советской России определяется тем, что я прожил в ней 17 лет… […] То, что я пережил в течение этих советских лет и то, что я видел на пространстве советских территорий, определило для меня невозможность оставаться в России»*. Вельмі актыўны і мэтанакіраваны, ён здолеў пакінуць бальшавіцкую Расію і жыў у розных краінах: Фінляндыі, Балгарыі, Германіі, Аргенціне, Уругваі. І. Л. Саланевіч выдаў кнігі «Диктатура импотентов», «Диктатура слоя», «Диктатура сволочи», «Народная монархия» і інш. У кнізе «Россия в концлагере» І. Саланевіч пісаў: *«Границы между лагерем и волей стираются всё больше и больше. В лагере идёт процесс относительного раскрепощения лагерников; на воле идёт процесс абсолютного закрепощения масс. Лагерь вовсе не изнанка, а просто отдельный и даже не очень своеобразный кусок советской жизни. Если мы представим себе лагерь несколько менее голодный, лучше одетый и менее интенсивно расстреливаемый, чем сейчас, то это и будет куском будущей России»*.

Іван Саланевіч вельмі любіў Расію, але не бальшавіцкую, да якой меў моцную нянавісць. Таму нават за мяжой ГПУ тройчы рабіла замах на яго жыццё. У лютым 1938 года ў рэдакцыю «Голоса России» на імя Саланевіча прыйшла пасылка, якую адкрыла яго жонка. Там была бомба, якая ўзарвалася і Тамара Уладзіміраўна Міхайлава загінула. Прыблізна ў гэты час бальшавікі расстралялі Ірыну, жонку брата Барыса, якая

знаходзілася ў канцлагеры на Далёкім Усходзе. Таксама быў расстраляны іх бацька Лук'ян Міхайлавіч (які быў арыштаваны як «отец врагов народа» і сядзеў у Енісейскім краі Сібіры) і яго чацвёрты сын Яўген. І. Л. Саланевіч незадоўга да смерці, а памёр ён 27 красавіка 1953 года ў Мантэвідэа, прадказаў непазбежны крах СССР, які «утонет в собственном шпионстве и предательстве». 20 ліпеня 1989 года І. Л. Саланевіч быў рэабілітаваны.

Як вядома, фашызм і бальшавізм — два найбольш крывавыя рэжымы чалавецтва, якія згубілі мільёны людзей, прычым другі нават у некалькі разоў перавысіў першы. Па-справядлівасці фашызм быў асуджаны ўсім грамадствам свету і афіцыйна забаронены. На жаль, дух бальшавізму ўсё яшчэ жыве ў Расіі і многіх краінах СНД, у тым ліку і ў Беларусі.

*2014*

## Суседзі нашых дач[1]

Нашы дачы аб'яднаны ў таварыства «Навука» і прытуліліся яны да крутога берага Дубраўскага вадасховішча, вакол якога раскінулася прыгожая зеляніна лясоў — галоўным чынам сасновых, месцамі бярозавых і зусім рэдкімі мясцінамі з магутнымі дубамі. Цудоўныя мясціны, якімі багата Лагойшчына і якія часта з гонарам завуць беларускай Швейцарыяй. У нашай краіне шмат такіх мясцін з прыгажэйшымі краявідамі. Гэты кавалак зямлі для дач ужо даўно выдзелілі Акадэміі навук БССР у сувязі з яе 50-годдзем спецыяльным указам ЦК КПБ за подпісам П. М. Машэрава.

У летні сезон 2014 г. недалёка ад нас мы пачулі і ўбачылі з дзясятак старожак з будаўнічай тэхнікай, раскурочаны лес, кавалак новай дарогі на бетонных плітах, шматлікія апоры для будучага высачэзнага плота… Сярод дачнікаў пайшлі чуткі,

[1] Тэрмапілы. — 2015. — № 19.

што будуецца вялікая пляцоўка для адпачынку грамадзян Беларусі і замежнікаў, на якой будуць паляўнічыя і рыбалоўныя хаткі, пясчаныя пляжы, спартыўныя аб'екты і г. д.

Газета «Наша Ніва» (№ 28 ад 30 ліпеня 2014 г.) нарэшце выкрыла сакрэтнае таямнічае будаўніцтва. Аказалася, што яшчэ 9 ліпеня 2012 года Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ з грыфам «для службовага карыстання» «Аб перадачы дзяржаве Катар зямельных участкаў для будаўніцтва рэзідэнцыі і паляўнічых вальераў». Шыкоўны падарунак кіраўнік дзяржавы зрабіў арабам «у арэнду на 99 гадоў». Усё гэта зроблена паціху, а таму невядома, які падарунак катарцы зробяць Беларусі ў адказ. У красавіку 2013 г. Мінаблвыканкам выдзеліў «участак для будаўніцтва і эксплуатацыі рэзідэнцыі» плошчай 25 гектараў.

У тым жа артыкуле Ягора Марціновіча ў «Нашай Ніве» паведамлялася, што катарцаў чакае цікавае суседства. Літаральна за сто метраў ад іх і берагам вадасховішча створаны дачны пасёлак садовага таварыства «Багут-2», старшыня якога — начальнік аддзела галоўнага ўпраўлення КДБ. Вялікае поле ў 48 гектараў паміж трасай і катарскім лесам для фермерскай гаспадаркі передана Пятру Сінкевічу — аднаму з уласнікаў гандлёва-забаўляльнага комплексу «Экспабел», прычым выдзелена на пажыццёвае карыстанне з правам перадачы ў спадчыну. Усе пералічаныя аб'екты пільна ахоўваюцца.

Праз хуткі час той жа аўтар у той жа газеце («Наша Ніва», № 32 ад 27 жніўня 2014 г.) змясціў артыкул «Лукашэнка здаў катарцам 4 тысячы гектараў пад Лагойскам», у якой падкрэсліў, што кадастравая цана зямлі — 7,5 млрд долараў, арабы штогод плацяць па 270 тыс. долараў.

*«Супрацоўніцтва з імі асабіста курыруе сын кіраўніка Беларусі Віктар Лукашэнка.*

*[…] Ізбішча, Пагост, Камена, Выгар, Леснікі… — агулам з дзясятак вёсак адчулі з'яўленне дзіўнага суседа. Жыхары паўночнай Лагойшчыны пачалі скардзіцца на дзіўнае суседства*

*яшчэ ў пачатку года. Новы гаспадар зямлі пачаў абгароджваць яе чатырохметровым плотам. Спачатку ад мясцовага насельніцтва закрылі лес, а пасля яшчэ і перагарадзілі раку Дзвіносу. Па ўсім перыметры развешаныя застрашальныя таблічкі: ‘‘Увага! Зямля арандаваная. Праход і праезд забароненыя’’. Калі нехта з мясцовых усё ж прабраўся ў забароненую зону, то ледзь уцёк. Кажуць, па няпрошаных гасцях нават стралялі.*

*Ахова катарскіх абшараў суворая. Яе набралі не з вяскоўцаў, як звычайна робяць у такіх сітуацыях, а возяць з Мінска. Адстаўнікі сілавых ведамстваў нібыта зарабляюць на такой працы вахтавым метадам па $2000 за месяц.*

*Тым часам у лесе новыя гаспадары расчысцілі месца пад верталётную пляцоўку і будаўніцтва базы, збіраюцца будаваць некалькі мастоў. А на першы эксперыментальны ўчастак ужо запусцілі аленяў. Калі яны прыжывуцца, можна будзе пачынаць вялікае катарскае паляванне. Але і цяпер грыбнікі часцяком чуюць стрэлы з лесу.*

*Яшчэ адзін вялізны кавалак новай катарскай зямлі знайшоўся ў цэнтры Лагойскага раёна, каля вёсак Юльянава і Завішынская. Адзін з бакоў надзела ідзе па беразе той самай Дзвіносы і ўпіраецца ў Плешчаніцкае вадасховішча.*

*І ў тым, і ў другім выпадку мясцовыя жыхары абураліся неспадзяваным суседствам, аднак зрабіць нічога так і не змаглі.*

*[…] Выдзяленне гэтай зямлі і яе далейшая забудова адбыліся без грамадскага абмеркавання».*

Зямлёй Беларусі кіраўнік дзяржавы распараджаецца, як асабістай — раздае яе ці замежнікам, ці чынавенству. Для астатніх жыхароў краіны выдаў указ, каб не адкрывалі новых дачных таварыстваў, а хто іх ўжо мае прадаваць можа толькі праз 5 гадоў.

*2014*

# На імперыялістычнай вайне

У 2014 годзе многія краіны адзначаюць сотую гадавіну Першай сусветнай вайны. Анатоль Вярцінскі ў газеце «Народная Воля» (2 верасня 2014 г.) надрукаваў артыкул «Сто гадоў таму», у якім, нагадаўшы пра шэраг мерапрыемстваў у Беларусі (мемарыяльны комплекс пад Смаргонню, краязнаўчыя чытанні ў Баранавічах, выстава ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі, выданне манаграфіі «Беларусь у Першай сусветнай вайне» Міхаіла Смальянава) звярнуў увагу *«на кнігу, якая так і называецца "На імперыялістычнай вайне. Запіскі салдата..." і аўтар якой Максім Гарэцкі быў сам на гэтай вайне, сам ваяваў, быў паранены, зведаў на ўласным вопыце яе жахі, яе нялюдскі, антынародны, ганебны сэнс»*. А. Вярцінскі прывёў шэраг вытрымак з кнігі, якія *«даюць уяўленне пра "Запіскі салдата", пра маральна-этычнае стаўленне іх аўтара да вайны. Яно, як бачым, адназначнае: вайна — праклён, гвалт, зло, злачынства супраць чалавечнасці. Горш за тое — татальнае аскаціньванне. "А ўсе — скаты двухногія. Хай жыве вайна — знішчэнне скатоў скатамі! Мы — не людзі, мы — быдла..." — сцвярджае ў хвіліну роспачы франтавік, салдат-"батарэец" Лявон Задума.*

*[...] Резонно задуматься: а во имя чего, во имя какой благородной цели люди убивали друг друга на той войне, справедливо названной мировой бойней? И надо ли бить по этому поводу в барабаны?*

*Выходзіць, кніга Максіма Гарэцкага надзвычай актуальная. "Не, не трэба!" — адназначна адказвае ён на пытанне гісторыка. "Не трэба біць з такой нагоды ў барабаны, трубіць у фанфары!" — сцвярджае пісьменнік-гуманіст, відавочца, сведка, удзельнік той, стогадовай даўнасці, вайны.*

*[...] На двары згаданы-загаданы сто гадоў таму ў франтавым акопе 2014 год. Ды нешта мала раю, райскага шчасця на зямной планеце. Ці не больш нечага інфернальнага, пякельнага.*

*У тым ліку гэтак званых “гарачых кропак”. Вунь колькі іх і там, і тут! Там, на далёкім Блізкім Усходзе (шматгадовая, бясконцая вайна), і тут, на сапраўды блізкім усходзе Украіны, дзе справакавалі вайну хворыя на імперскі сверб крамлёўскія “собиратели земель” і “защитники русского мира”. Недарэмна, выходзіць, Максім Гарэцкі назваў сваю кнігу менавіта так: “На імперыялістычнай вайне”».*

Анатоль Вярцінскі трохі пазней у той жа «Народнай Волі» (19 верасня 2014 г.) надрукаваў артыкул «“Сто гадоў таму”. Пастскрыптум». Ён піша:

*«Гэтымі днямі наведаў наш Нацыянальны музей гісторыі і культуры — дзеля выставы з незвычайнай, інтрыгуючай назвай “Рэчы паміж жыццём і смерцю”. Пераканаўся на ўласныя вочы, што прывезеная са Швецыі, са стакгольмскага Музея арміі ўнікальная ў сваім родзе выстава вартая, безумоўна, увагі, цікавая ў шмат якіх адносінах — і ў тэхнічных, і ў пазнавальных, і ў ідэйна-эстэтычных.*

*Пра якія менавіта “рэчы” ідзе размова? Што ўяўляюць сабой экспанаты выставы? Уся музейная зала запоўнена вялікім мноствам прадметаў салдацкага рыштунку, у прыватнасці франтавога жыцця-быцця. Выстава сапраўды, як паведамляецца ў анатацыі, “складаецца з тысячы дробных прадметаў, неабходных для выжывання ў акопах… Фота родных, лыжкі, карты для гульні, прылады для галення, музычныя інструменты, лекі, лісты з дому, словам, рэчы, якія сведчаць, што і на вайне ёсць будні, падчас якіх салдат гатуе, бавіць час, сумуе, жартуе, мыецца, паліць”. Стваральнікі выставы звяртаюць увагу і на такі характэрны момант: вайсковы рыштунак самых розных краін і розных войнаў XX стагоддзя, але гэта адны і тыя ж рэчы, якія сімвалізуюць усё тую ж агульначалавечую розніцу паміж жыццём і смерцю.*

*Прызнацца, калі знаёміўся з выставай, то не-не ды ўзнікала ўражанне, што адзін з галоўных яе ініцыятараў, калекцыянер-энтузіяст Турб’ёрн Ленскуг чытаў твор “На імперыялістыч-*

*най вайне" і прымаў да ведама, улічваў, адбіраючы для паказу экспанаты, салдацкі досвед Максіма Гарэцкага, яго акопны дзённік. Гіпатэтычна магчымая рэч. Ужо нават па той простай прычыне, што гуманны, антываенны пафас твора беларускага аўтара агульначалавечы, як і пафас выставы "Рэчы паміж жыццём і смерцю"»*.

Да 100-годдзя Першай сусветнай вайны выдавецтва «Беларуская навука» па маёй ініцыятыве выпусціла ў свет кнігу Максіма Гарэцкага «На імперыялістычнай вайне (Запіскі салдата 2-й батарэі N-скай артылерыйскай брыгады Лявона Задумы)». Укладанне і каментарыі зрабіла Тэрэза Голуб, а прадмову напісаў Міхась Мушынскі.

Тэрэза Голуб у каментарыі паведаміла, што друкуецца паводле першага поўнага выдання твора, які выйшаў у 1926 г. з улікам рукапісных дапаўненняў, зробленых аўтарам на старонках кнігі. Новае выданне ўлічвае ўсе дапаўненні і праўкі пісьменніка. М. Гарэцкі працаваў над творам на працягу 1914–1915, 1919–1920, 1925–1926, 1928 гг., друкуючы асобныя фрагменты ў пералічаныя гады, прычым на працягу ўсяго часу дапаўняў і змяняў тэкст. У 1928 г. М. Гарэцкі падрыхтаваў да друку «Зборнік апавяданняў», куды ён уключыў і дапрацаваны твор «На імперыялістычнай вайне», які не выйшаў у свет па віне «палітрэдактара»[1]. Т. Голуб прыходзіць да высновы: *«Дакументальна-мастацкія запіскі "На імперыялістычнай вайне" і аповесці "У чым яго крыўда?", "Меланхолія", "Ціхая плынь" успрымаюцца як часткі адной кнігі, выяўляюць пачатковы этап у ажыццяўленні грандыёзнай задумы пісьменніка: стварыць шырокае эпічнае палатно, разгарнуць падзеі вакол аднаго героя, адной сям'і, паказаць чалавека як творцу гісторыі і тое, як гісторыя ўплывае на станаўленне і фарміраванне асобы»*.

Міхась Мушынскі ў прадмове адзначыў: *«У "Запісках..." даволі поўна выяўлены ідэйна-эстэтычныя прынцыпы Гарэц-*

[1] Гарэцкі М. Ашуканы палітрэдактар // Полымя. — 1993. — № 2. — С. 110–116.

*кага як пісьменніка-рэаліста, які нязменна арыентаваўся на вострыя праблемы часу, на сацыяльныя, класавыя, маральна-этычныя канфлікты эпохі. Кнізе ўласцівы выразная сацыяльная скіраванасць, моцны антываенны пафас, бескампраміснае асуджэнне несправядлівай вайны, народны погляд на свет і чалавека.*

*У "Запісках салдата..." М. Гарэцкі паказаў сябе пісьменнікам глыбокай сацыяльнай думкі, тонкім, праніклівым псіхолагам-аналітыкам. Створаная амаль сто гадоў таму кніга не страціла свайго ідэйна-мастацкага і пазнавальнага значэння. Уражвае высокая эстэтычная культура Гарэцкага-пісьменніка, адметнасць аўтарскага почырку. Яно і зразумела: над творамі, напісанымі таленавітым мастаком слова, гады не маюць улады. Час здольны толькі глыбей высвеtліць іх патэнцыйныя ўнутраныя якасці.*

*[...] Закладзеныя аўтарам "Запісак..." плённыя традыцыі праўдзівага адлюстравання вайны, яе ацэнка з пункту гледжання народных інтарэсаў, глыбокае раскрыццё ўнутранага свету, думак, пачуццяў чалавека на вайне былі паспяхова прадоўжаны беларускімі пісьменнікамі наступных дзесяцігоддзяў. Творы, прысвечаныя падзеям вайны 1941–1945 гг., гераічнаму подзвігу савецкага народа ў барацьбе з фашысцкай Германіяй, узбагацілі не толькі айчыннае, але і сусветнае слоўнае мастацтва. Каштоўны вопыт М. Гарэцкага знайшоў свой працяг у вершах, паэмах і апавяданнях Я. Купалы і Я. Коласа, А. Куляшова і П. Панчанкі, П. Броўкі і П. Глебкі, К. Крапівы і М. Лынькова, а затым у творчасці новай плеяды таленавітых паэтаў, празаікаў, драматургаў, сярод якіх імёны В. Быкава, А. Адамовіча, Я. Брыля, У. Калесніка, І. Шамякіна, А. Макаёнка, А. Пысіна і іншых славутых майстроў слова».*

У верасні 2014 г. пабачыла свет кніга М. Гарэцкага «Родные корни: избранное» у перакладзе на рускую мову І. І. Кананец, якую выпусціў выдавецкі дом «Звязда». Гэта тая кніга, якую хацелі выдаць яшчэ да 100-годдзя з дня нараджэння пісьмен-

ніка, якую некалькі разоў уключалі ў план выдавецтва «Мастацкая літаратура» і якая нарэшце аж праз 20 гадоў выйшла ў свет. У кнізе змешчаны твор «На империалистической войне. Записки солдата 2-й батареи N-ской артиллерийской бригады Лявона Задумы». Аўтар прадмовы Міхась Кенька падкрэсліў: *«Среди высших достижений М. Горецкого в 1915–1926 гг. — произведения, в которых отражались впечатления участника войны: “Литовский хуторок”, “Генерал”, “Русский”, “На этапе”, записки “На империалистической войне”. В них автор выступает как гуманист, он протестует против убийства человека человеком, против превращения войны в игру судьбами миллионов простых людей, не имеющих друг к другу никакой вражды. Горецкий насмотрелся на то, что принесла бессмысленная бойня воюющим народам, убедился в безнравственности взаимного уничтожения народов, приобретений их материальной и духовной культуры. По своему антивоенному пафосу, отрицанию безжалостного уничтожения людей во имя чуждых им интересов записки “На империалистической войне” Горецкого стоят на уровне лучших мировых произведений о Первой мировой войне».*

* * *

Пасля першай публікацыі твора «На імперыялістычнай вайне» ў 1926 годзе вельмі хутка, у сувязі з арыштам М. Гарэцкага, гэтыя мастацка-дакументальныя запіскі разам з іншымі творамі пісьменніка былі надоўга забаронены.

Толькі ў 1973 годзе (амаль праз 50 гадоў пасля першага выдання) у другім томе двухтомніка «Выбраныя творы» (Мінск: Маст. літ.) былі апублікаваны запіскі «На імперыялістычнай вайне». Укладальнікі гэтага тома Дзмітрый Бугаёў і Барыс Сачанка. Да двухтомніка прадмову «Арыгінальны мастак» напісаў Дзмітрый Бугаёў, які даў станоўчую ацэнку дзейнасці пісьменніка: *«Максім Іванавіч Гарэцкі пакінуў прыкметны след у гісторыі нашай культуры. Асабліва значная роля належыць*

*яму ў развіцці літаратуры, у першую чаргу мастацкай прозы, а таксама драматургіі, публіцыстыкі, у галіне крытыкі і літаратуразнаўства»*. Пра дакументальна-мастацкую кнігу «На імперыялістычнай вайне» і іншыя творы пісьменніка пра вайну Д. Бугаёў адзначыў, што ўсе яны *«маюць ярка акрэслены антываенны характар». «Нянавісць да імперыялістычнай вайны, бессэнсоўнасць і бесчалавечная жорсткасць якой былі для яго добра зразумелыя...»*

У 1976 годзе твор быў апублікаваны на рускай мове ў перакладзе Льва Салаўя ў кнізе «Красные розы. Избранное» (Мінск: Маст. літ., тыраж 200 000 экз.). Ужо тады ў прадмове да кнігі Міхась Мушынскі змог даць сапраўдную ацэнку творчасці Максіма Гарэцкага: *«Максим Иванович Горецкий — выдающийся представитель белорусской литературы, самобытный художник слова, один из основоположников национальной прозы, талантливый критик и литературовед, педагог, неутомимый собиратель и пропагандист устного народного творчества. Диапазон творческой и общественной деятельности М. Горецкого необычайно широк, а вклад его в белорусскую культуру огромен»*.

Пра кнігу «На імперыялістычнай вайне» М. Мушынскі выказаўся так: *«Особое место в творческом наследии писателя занимает книга “На империалистической войне” (“Записки солдата...”), по праву стоящая у истоков белорусской художественно-документальной прозы. Написанная более полувека назад, эта книга в силу своих высоких идейных, эстетических достоинств воспринимается как явление сегодняшней литературы. “Записки солдата...” — это потрясающий документ, созданный очевидцем, который сумел свои личные впечатления, увиденное и пережитое претворить в факт художественно непреходящего значения. В этом произведении с наибольшей полнотой и яркостью выявлены основополагающие идейно-эстетические принципы творчества М. Горецкого, его кредо писателя-реалиста, неизменно ориентирующегося*

*на наиболее актуальные проблемы времени, на важнейшие социальные, классовые, нравственно-этические конфликты эпохи. Книга М. Горецкого сильна своей чёткой социальной направленностью, страстным антимилитаристским пафосом, бескомпромиссным осуждением несправедливой, антинародной войны. Она проникнута идеей защиты человека и человечности.*

*Беспощадная правда о войне и человеке на войне — вот доминирующее начало в "Записках солдата...". Здесь нет идеализации, приукрашивания.*

*[...] Постигая главное начало в человеке, испытуемом войной, Горецкий подчёркивал необходимость активно противостоять ужасам воины, верить в величие человека, благородство, нравственную стойкость!»*

На беларускай мове «На імперыялістычнай вайне» былі надрукаваны яшчэ некалькі разоў. У зборы твораў у чатырох тамах у томе 3 (Мінск: Маст. літ., 1985, тыраж 8000 экз.) змешчана гэтая кніга, якая выйшла пад рэдакцыяй М. І. Мушынскага. Падрыхтоўку тэкстаў і каментарыі выканала Т. С. Голуб.

Вельмі ўдалая кніга выйшла ў 1987 годзе ў выдавецтве «Юнацтва», у якой змешчаны і «Письма с фронта» яго сына Леаніда Гарэцкага. Нягледзячы на досыць значны тыраж (12 000 экз.) кніга хутка разышлася. Прадмова і ўкладанне М. Мушынскага, які адзначыў: *«Хоць кніга "На імперыялістычнай вайне", напісаная салдатам М. Гарэцкім ад імя салдата N-скай брыгады, і салдацкая перапіска Л. Гарэцкага належаць да розных жанраў — дакументальна-мастацкага і эпісталярнага — яны ўяўляюць сабой каштоўны дакумент эпохі. Тут у адпаведнасці з канкрэтнымі мэтавымі ўстаноўкамі і магчымасцямі жанру выяўлены многія характэрныя рысы тагачаснай рэчаіснасці, псіхалогіі людзей. Агульнае, што аб'ядноўвае "Запіскі..." і лісты, — гэта глыбокая праўдзівасць адлюстравання жыцця і паводзін чалавека ва ўмовах ваеннага часу. Мужная, бескампрамісная праўда і глыбокая павага да*

*чалавека як найвялікшай каштоўнасці з’яўляюцца вызначальным маральным прынцыпам і для аўтара “Запісак...” і для аўтара франтавых лістоў».*

У серыі «Беларуская проза» у выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла кніга «Максим Горецкий. Избранное: Повести, роман-хроника»: пер. с белорус. (Мінск: Маст. літ., 1989. 534 с. Тыраж 270 000 экз.). Гэта другая кніга, якая выдадзена на рускай мове ў перакладзе Ірыны Клімашэўскай, Льва Салаўя, Агея Гатава. Твор «На империалистической войне. (Записки солдата 2-й батареи N-ской артиллерийской бригады Лявона Задумы)» пераклала Ідалія Кананец. Складальнік, уступны артыкул «Талант многогранный, самобытный» і каментар зрабіў М. І. Мушынскі.

У 1995 г. у серыі «Бібліятэка беларускай класікі» выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла ў свет кнігу Максіма Гарэцкага «Творы: Апавяданні, аповесці». (Мінск: Маст. літ., 1995. 446 с. Тыраж 8000 экз.). Рэдактар Міхась Мушынскі. Укладанне з тэксталагічнай падрыхтоўкай Тэрэзы Голуб. Прадмова Міхася Кенькі. У кнізе надрукаваны твор «На імперыялістычнай вайне».

У 2003 годзе выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла ў свет у серыі «Беларуская проза ХХ стагоддзя» кнігу Максіма Гарэцкага «Прысады жыцця: Апавяданні, аповесці», укладанне якой выканала Тэрэза Голуб. Яна ў кнізе ўзнавіла тэкст, які М. Гарэцкі ў 1928 годзе падрыхтаваў да друку ў «Зборнік апавяданняў», але які так і не быў надрукаваны. Тэкст твора «На імперыялістычнай вайне» пісьменнік яшчэ тады дапоўніў і троху змяніў.

У 2009 годзе ў серыі «Мастацкая літаратура» «Беларускага кнігазбору» была выдадзена кніга Максіма Гарэцкага «Выбраныя творы». Укладальнікі Р. Гарэцкі і Т. Голуб, прадмова і каментар Т. Голуб. У раздзеле кнігі «Дакументальна-мастацкія творы» выйшлі і запіскі «На імперыялістычнай вайне». Т. Голуб у каментары паведаміла, што яны друкуюцца паводле

выдання: М. Гарэцкі. Збор твораў у 4 тамах. Т. 3. Мінск, 1985, з уключэннем апошняй часткі тэксту раздзела «Шпіталь».

Такім чынам, перад беларускім і рускім выданнямі гэтага 2014 года твор «На імперыялістычнай вайне» пасля рэабілітацыі Максіма Гарэцкага і яго творчасці выходзіў два разы ў перакладзе на рускую мову (1976, 1989) і 6 разоў па-беларуску (1973, 1985, 1987, 1995, 2003, 2009). Усе выданні поўнасцю разышліся.

* * *

6 кастрычніка 2014 г. ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва адбыліся чытанні «Беларуская літаратура, мастацтва, культура і Першая сусветная вайна», на якіх я зрабіў даклад «Максім Гарэцкі ў гады Першай сусветнай вайны».

7–8 кастрычніка ў НАН Беларусі прайшла Міжнародная навуковая канферэнцыя «Першая сусветная вайна ў народнай памяці і мастацкім адлюстраванні», урачыстае адкрыццё якой правялі намеснік старшыні СМ РБ А. А. Тозік і старшыня Прэзідыума НАН Беларусі У. Р. Гусакоў. Выступілі паслы Расіі, Сербіі, Вялікабрытаніі, Польшчы, Кітая, консул Румыніі і першы сакратар Пасольства ЗША. На пленарным пасяджэнні доктар філалагічных навук Міхась Тычына зрабіў грунтоўны даклад «Народ і вайна: адлюстраванне Першай сусветнай вайны ў беларускай літаратуры», у якім значную частку прысвяціў дзейнасці Максіма Гарэцкага і яго твору «На імперыялістычнай вайне».

У другую палову дня адбылося адкрыццё кніжнай выставы «Літаратура і дакументальныя матэрыялы аб Першай сусветнай вайне ў фондах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі», на якой былі прадстаўлены шматлікія матэрыялы ў выглядзе некаторых дакументаў, газет і галоўным чынам кніжнай літаратуры, у тым ліку і прац Максіма Гарэцкага розных гадоў.

Пасля выставы прайшла прэзентацыя выдання кнігі ўдзельніка вайны Максіма Гарэцкага «На імперыялістычнай вайне», якую вяла загадчык аддзела сацыякультурнай і інфармацыйнай дзейнасці ЦНБ імя Якуба Коласа Вольга Панаціна. Спачатку быў паказаны змястоўны фільм пра жыццё і дзейнасць Максіма Гарэцкага вытворчасці ЦНБ, а затым выступілі Міхась Мушынскі, Радзім Гарэцкі, Уладзімір Гніламёдаў, галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская навука» Георгій Кісялёў і Тэрэза Голуб.

Шмат добрых слоў я пачуў пра свайго дарагога дзядзьку Максіма.

* * *

28 лістапада ў Доме Масквы — прыгожым палацы, які пабудаваў мэр Масквы Ю. М. Лужкоў у падарунак мэрыі Мінска — прайшла прэзентацыя кнігі Максима Горецкого «Родные корни. Избранное» (пер. с белорус. И. И. Кононец; предисл. Михаила Кенько. Минск: Звязда, 2014. 352 с.). Нягледзячы на тое, што прэзентацыя адбылася ў Доме Масквы з нагоды рускамоўнага перакладу кнігі, сустрэча была поўнасцю беларускамоўнай, апрача ліста І. І. Кананец. Прысутнічала каля 50 чалавек. Сярод іх Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Ганна Запартыка, Кацярына Унучка, некалькі карэспандэнтаў (у тым ліку Марат Гаравы) і інш.

Прэзентацыя пачалася з паказу фільма пра жыццё і творчасць Максіма Гарэцкага вытворчасці ЦНБ імя Якуба Коласа і фрагмента аўдыяспектакля «На імперыялістычнай вайне» аўдыякнігі Алега Вінярскага. Вядучая Вольга Губская дала слова мне — я паведаміў пра гісторыю напісання і выдання твора «На імперыялістычнай вайне». Аўтар прадмовы Міхась Кенька апавядаў пра цяжкі шлях рукапіснага перaклада кнігі да яе выдання. Вольга Губская зачытала ліст Ідаліі Ігнатаўны Кананец «Слово переводчика к презентации книги М. Горецкого “Родные корни”». Гэты ліст перадала яе сяброўка, якая

присутнічала ў зале, таксама перакладчыца Ірына Давыдаўна Муфель.

«СЛОВО ПЕРЕВОДЧИКА К ПРЕЗЕНТАЦИИ КНИГИ М. ГОРЕЦКОГО “РОДНЫЕ КОРНИ”

*Уже более 10 лет мои переводы печатались в “Мастацкай літаратуры”, в “Лениздате”, в “Советском писателе” (Москва), в “Художественной литературе” (Ленинград), в журнале “Неман” и “Минск” — к тому времени как в апреле 1987 года я получила официальное — на фирменном бланке — письмо:*

*“Издательство «Мастацкая литаратура» готовит к выпуску в 1988 году классика белорусской литературы Максима Горецкого в переводе на русский язык. Деятельное участие в издании «Избранного» принимает дочь писателя Г. М. Горецкая... Выяснилось, что перевод повести «На империалистической войне», сделанный 10 лет тому назад, нас не удовлетворяет. В связи с этим издательство просит Вас сделать для нас новый перевод этого произведения... Книгу Горецкого высылаем.*

*С наилучшими пожеланиями — зав. редакцией литературы народов СССР Галина Андреевна Шарангович”.*

*К этому времени я уже знала и всей душой понимала и принимала Горецкого, но то, что мне поручат переводить классика, даже не снилось. Правда, было одно “но”: я узнала, что Галина Максимовна высказала крайнее недовольство, что перевод именно этой повести поручили женщине...*

*Жила Галина Максимовна в Ленинграде, но знакомиться с ней я не стала, хотя за работу взялась — с некоторым страхом, правда, но и со всей ответственностью и радостью. Всевозможные словари (даже редкий тогда Даль) заполнили письменный стол, связалась я с Артиллерийской академией, со священником Морского собора (он нужен был из-за христианских праздников), а по ходу работы вела разговоры и с другими нужными мне лицами.*

*Особенно боялась оценки моей работы дочерью Горецкого Галиной Максимовной — человеком очень образованным, бескомпромиссным, честным, писательницей, дорожащей не только каждым словом отца, но даже буквой.*

*Сдала я работу в издательство, а 2 февраля 1988 года получаю от Г. А. Шарангович письмо: "Рукопись «Избранного» Горецкого уже пошла в набор... Ваш перевод оценен редактором высоко, радует, что оценка Галины Максимовны совпадает с нашей. Можно только сожалеть, что в своё время не заказали Вам новый перевод «Виленских коммунаров» и «Тихого течения»... Галина Шарангович". Вот тут у меня стало отрадно на сердце, ибо мне довелось перевести самого Максима Горецкого!*

*Надо сказать, что переводилось нелегко: богатейший словарный запас (уточнение некоторых устаревших слов дал в послесловии сам Горецкий), нетеперешняя газетная лексика, особый стиль и строй языка, глубокая философия войны и чувств на войне и после нее и многое-многое другое. Ведь это поколение было брошено в пекло войны, и об этом сумел рассказать именно Горецкий.*

*Пришлось мне "воевать" и с редактором моего перевода... Она внесла около 100 (!) поправок, но всё мне пришлось оставить в первоначальном виде (ведь на прикроватной тумбочке в госпитале лежали не крупинки сахара, а кусочки, т. к. тогда сахар кололи щипчиками, сахарного песка в госпитале не было; "ойче" нельзя переводить как "папаша", так же как нельзя фразу "старик немного говорил по-польски" заменить фразой "старик изъяснялся по-польски" и т. п.), ведь нужно же понимать текст!*

*После выхода в свет "Избранного" я решилась познакомиться с Галиной Максимовной. Это знакомство переросло в дружбу: встречи у меня и у неё, дни рождения и обмен книгами и чуть ли не ежедневные телефонные разговоры, её письма, когда она уезжала в Минск, и подаренные ею книги*

*(четырехтомник Горецкого и добавочный к нему однотомник, книга “Рассказов” её матери, писательницы Леонилы Чернявской, книга её брата “Письма с фронта”, её собственная книга — и всё это с трогательными надписями и “вялікай удзячнасцю”).*

*Дружба наша продолжалась до ухода дочери М. Горецкого в дальний невозвратный путь... Я была бы намного беднее душой, если бы не моя дружба с Галиной Максимовной. Жила Галина Максимовна более чем скромно, но ни слова жалобы. И предложения от Союза писателей Белоруссии о каких-то деньгах, вполне ею заслуженных, начисто отвергались ею.*

*А спустя год «Мастацкая» заказала мне перевести повести, пьесу и рассказы Горецкого. С одобрения Галины Максимовны я назвала книгу “Родные корни”. Снова я окунулась в мир мыслей и чувств Максима Горецкого. С наслаждением, но и не без трудностей шёл перевод. Недаром в надписях на подаренных Галиной Максимовной книгах стоит “с большой благодарностью”. “Родные корни” прошли корректуру. Но республики развелись, и книга не вышла...*

*Более чем через 20 лет — 3,5 года тому назад — М. И. Мушинский написал мне письмо: “Руководители Республиканского фонда братьев М. и Г. Горецких — Радим Гаврилович Гарецкий и я, Михаил Мушинский — имели разговор с А. Н. Карлюкевичем, который согласился включить в издательский план сборник произведений Горецкого. От Вас требуется, уважаемая Идалия Игнатьевна, дать согласие на издание сборника и обговорить с директором издательства Карлюкевичем гонорар, тираж, время издания и др. Мушинский”.*

*Что и говорить, обрадовалась, написала Карлюкевичу, что в сентябре 2011 Максим Горецкий выйдет. Прошло 3,5 года... Горецкий, наконец, вышел, но большая часть произведений в книгу не включена (а обещали двухтомник). Вот так и получилось, что радости изданная книга мне не принесла.*

*А ведь у Горецкого всё, я думаю, интересует русского читателя. Субъективизм? Быть может. Но я люблю Мастера,*

*ставлю его творчество выше всех белорусских писателей. Классик белорусской литературы Горецкий трудно жил, трагически умер, а книга "Родные корни" с трудом и всего лишь в половинном объеме вышла в свет. Может, кому-нибудь следует подумать о судьбе писателя и его книг на русском языке?»*

Выступіў Адам Мальдзіс, які прапанаваў звярнуцца да выдавецтва «Звязда» з просьбай надрукаваць і другі том (як і планавалася), які ўжо падрыхтаваны да друку.

У канцы прэзентацыі паказалі фільм «Рускі» Віктара Аслюка (па апавяданні М. Гарэцкага), які нядаўна быў завершаны і яшчэ нідзе не быў на шырокім экране. Гэта — прэм'ера. Фільм вельмі актуальны (асабліва ў сувязі з падзеямі на Украіне). Акцёры размаўляюць на сваёй мове: беларус з войска рускага («рускі») і ўкраінец — аўстрыйскага войска («аўстрыяк»); яны нечакана сустрэліся, па-сяброўску прывіталіся, выпілі аўстрыякаву гарэлку, а калі разыходзіліся, «рускі» стрэльнуў і забіў яго.

*2014*

## «Дзве душы» М. Гарэцкага ў Германіі[1]

З вялікай радасцю ў газеце «Народная Воля» ад 10 кастрычніка 2014 г. прачытаў артыкул Лявона Баршчэўскага «Кніга Максіма Гарэцкага стала першай у рэйтынгу найлепшых кніг, выдадзеных па-нямецку», які, будучы ў Кракаве спецыяльна выбраўся ў Берлін, дзе ў памяшканні аднаго з шматлікіх клубаў *«адбылася прэзентацыя нямецкага перакладу знакавай беларускай кнігі — аповесці Максіма Гарэцкага "Дзве душы"»*. Кніга выдадзена з ініцыятывы Нямецка-беларускага таварыства і выдавецтва «Гугальц».

*«Гісторыя "раздваення душы" беларускага інтэлігента Ігната Абдзіраловіча ў час, калі Беларусь напярэдадні і*

[1] Тэрмапілы. — 2015. — № 19.




*Вокладка нямецкага выдання аповесці «Дзве душы» М. Гарэцкага*

*пасля абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі атрымала шанец з'явіцца на карце свету, прыцягнула нямецкіх выдаўцоў, якія не маюць ніякіх іншых сантыментаў, акрамя як імкнуцца выдаваць сапраўдную Літаратуру. Твор Максіма Гарэцкага, што ўпершыню выйшаў асобнай кніжкай у Вільні ў 1919 годзе і быў забаронены ў Савецкай Беларусі аж да 1990 года*[1]*, па сёння можа быць візітоўкай Беларусі і беларусаў як нацыі ва ўсім свеце. Думаю, што менавіта гэта выдатна зразумеў аглядальнік газеты "Die Presse" Томас Ротшыльд, які паставіў кнігу Гарэцкага на першае месца ў кастрычніцкім рэйтынгу найлепшых кніг, выдадзеных апошнім часам па-нямецку. Ну і тое, што вядучай згаданай прэзентацыі пагадзілася быць вядомая сучасная нямецкая пісьменніца Ірыс Ханіка […], таксама гаворыць само за сябе.*

*Яе партнёрам у гэтай імпрэзе выступіў вядомы перакладчык, журналіст, даследчык архіваў БНР Сяргей Шупа, які зрабіў вельмі грунтоўныя ўводзіны ў кантэкст часу і асобы класіка беларускай літаратуры, а таксама адказваў на няпростыя пытанні прысутных (якіх было некалькі дзясяткаў), у*

---

[1] Калі ўпершыню пасля рэабілітацыі М. Гарэцкага і яго твораў у Беларусі выйшлі «Выбраныя творы» (Мінск: Маст. літ., 1973) у двух тамах, у выданні газеты «Беларус» (Нью-Ёрк, 1975) быў надрукаваны «Выбраныя творы. Том трэці», як працяг двух тамоў менскага друку. У яго ўвайшлі некалькі апавяданняў і аповесць «Дзве душы». Грунтоўную прадмову «Шматпакутныя творы Максіма Гарэцкага» напісаў Станіслаў Станкевіч, які ацаніў гэтую аповесць як «найвышэйшае ідэйна-нацыянальнае і мастацкае дасягненне ўсёй творчасці Максіма Гарэцкага й вузлавы пункт у гісторыі новае беларускае літаратуры, як першы вялікапамерны й шырокамаштабны празаічны твор у ёй». Нават у зборы твораў М. Гарэцкага ў 4-х тамах (Мінск: Маст. літ., 1984–1986) яшчэ не была змешчана гэтая аповесць. Яна выйшла з друку ў кнізе пісьменніка «Творы» (Мінск: Маст. літ., 1990), якая з'явілася як бы працягам названага збору твораў. Гэта значыць, што пасля першага выдання аповесць убачыла свет толькі праз 70 гадоў.

*тым ліку праводзячы паралелі паміж 1919 годам і цяперашнім часам у Беларусі. Безумоўна, тыя, хто прыйшоў на прэзентацыю, даведаліся самае важнае пра жыццё Максіма Гарэцкага, які паклаў пачатак беларускай філасофскай прозе, быў выдатным выкладчыкам роднай літаратуры ў розных навучальных установах, пісаў свае творы ў неверагодна цяжкіх умовах, аж пакуль урэшце не быў знішчаны сталінскімі бандытамі далёка ад радзімы ў халодным лютым 1939 года*[1].

*Пераклад "Дзвюх душ" на нямецкую мову зрабіў, у супрацоўніцтве з Гундулай і светлай памяці Уладзімірам Чапегамі, яшчэ адзін легендарны чалавек. Норберт Рандау, які ў часы ГДР тры гады жыцця правёў у дзевяці (!) турмах гэтай "рабоча-сялянскай краіны", пасля, не маючы шанцаў вярнуцца на выкладчыцкую працу, заняўся перакладамі твораў з балгарскай і беларускай літаратур.*

*[...] На жаль, да выхаду апошняй сваёй працы — перакладу аповесці Гарэцкага — Рандау так і не дажыў, адышоўшы ў лепшы свет роўна год таму. Тым больш было вельмі прыемна пабачыць сярод прысутных на прэзентацыі ўдаву перакладчыка. Праца над перакладам "Дзвюх душ" у Норберта Рандау і мужа ды жонкі Чапегаў заняла некалькі гадоў.*

*[...] Трэба таксама адзначыць, што ў нямецкім выданні "Дзвюх душ" змешчаны аж два пасляслоўі, напісаныя сучаснымі нямецкімі перакладчыкамі: калі аўстрыец Марцін Полак падрабязна піша пра Максіма Гарэцкага і ўводзіць нямецкага чытача ў беларускую праблематыку, то Андрэас Трэтнер прысвячае свой тэкст акурат Норберту Рандау.*

*Кніга "Дзве душы" ў нямецкім перакладзе густоўна аформлена, выдадзена ў цвёрдай вокладцы (ау, беларускія выдаўцы!), а самае галоўнае, што яе можна знайсці ў найбольш папулярных кнігарнях Германіі — напрыклад, у знакамітым*

---

[1] На самай справе М. Гарэцкі быў расстраляны ў Вязьме 10 лютага 1938 г., а 1939 г. — гэта хлусня, якую выдумалі УНКУС, і на заяву дачкі пісьменніка паведамілі аб гэтым у паведамленні аб смерці.

*чатырохпавярховым берлінскім “Дусмане”. Пры гэтым кніга прадаецца зусім не па дэмпінгавым кошце — 20 еўра за асобнік.*

*Безумоўна, хочацца верыць у тое, што некалі ў школьных праграмах нашай краіны аповесць “Дзве душы” нарэшце зойме належнае месца».*

* * *

Значна пазней у газеце «Народная Воля ад 28 жніўня 2015 г. Марына Коктыш надрукавала планы Мікалая Пінігіна. Яна паведаміла: «Мастацкі кіраўнік Купалаўскага возьмецца яшчэ за складаны і некалі забаронены па ідэалістычных прычынах твор Максіма Гарэцкага “Дзве душы ”».

*2014*

## Выбары членаў НАН Беларусі[1]

13–14 лістапада 2014 года адбыліся выбары ў члены НАН Беларусі: у першы дзень акадэмікаў, а ў другі — членаў-карэспандэнтаў, а папярэдне аддзяленні навук выбралі кандыдатаў на гэтыя навуковыя званні. Па колькасці вакансій і завалаў кандыдатаў такіх выбараў на маёй памяці не было. На вакансіі акадэмікаў на Агульны сход НАН Беларусі вылучылі 24 кандыдата, з іх выбралі 16. Па 8 спецыяльнасцям вакансіі не былі заняты, прычым палова па аграрных навуках. Вакансій членаў-карэспандэнтаў было абвешчана 39. Ужо пры галасаванні ў Аддзяленнях навук па трох спецыяльнасцях не былі абраны кандыдаты ў члены-карэспандэнты, а на Агульным сходзе Акадэміі — аж 8. Усяго 11. Прычым сярод іх такія важныя спецыяльнасці як матэматычнае мадэляванне, механіка, геаэкалогія, анкалогія. Такім чынам НАН Беларусі папоўнілася 16 акадэмікамі і 28 членамі-карэспандэнтамі. Агульная колькасць прэтэндэнтаў на званне акадэмікаў было 39 членаў-карэспан-

[1] Тэрмапілы. — 2015. — № 19.

дэнтаў, а на званне членаў-карэспандэнтаў — 117 дактароў навук. Апрача таго ўпершыню за 15 гадоў былі выбраны замежныя члены НАН Беларусі: Антон Цайлінгер — фізік, прэзідэнт Аўстыйскай акадэміі навук, Цьяў Ван Мінь — хімік, прэзідэнт В'етнамскай акадэміі навук і тэхналогій і Аляксандр Асееў — фізік, старшыня Сібірскага аддзялення РАН, акадэмік і віцэ-прэзідэнт РАН.

Чаму такія вынікі? Як і заўсёды, дзейнічалі фактары агульначалавечага характару: канкурэнцыя навуковых школ, груповак, асобных кіраўнікоў і сяброў прэтэндэнтаў, зайздрасць, помста і г. д. Калі нехта хваліў кандыдатуру і агітаваў галасаваць «за», гэта было зразумела. Але калі прасілі галасаваць «супраць», гэта выклікала нейкае нядобрае пачуццё.

Мне здаецца, што галоўнымі матывамі такога галасавання з'явіліся іншыя прычыны. У значнай ступені вінавата рэфармаванне Акадэміі, якое пачалося ў 2000 г. і якое нярэдка было не надта разумным. Тады кіраўнік дзяржавы сваім указам у снежні 2000 г. вызваліў ад пасады выбранага ў траўні 1997 г. Агульным сходам прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі А. П. Вайтовіча і толькі праз 10 месяцаў прызначыў старшынёй Прэзідыума акадэміі М. В. Мясніковіча, былога кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. На чале Прэзідыума ён быў з кастрычніка 2001 г. і кіраваў 9 гадоў. Адразу на яго месца быў прызначаны доктар навук А. М. Русецкі, які на гэтай пасадзе не паспеў папрацаваць і двух гадоў. Зноў НАН Беларусі засталася на многія месяцы без кіраўніка Прэзідыума, пакуль 15 кастрычніка 2013 г. указам начальніка дзяржавы не быў прызначаны эканаміст-аграрнік акадэмік У. Р. Гусакоў. У выніку Дэкрэта і Указа Прэзідэнта дзяржавы Акадэміі навук прадпісана «принять меры по приведению Устава Национальной академии наук Беларуси в соответствие с данными нормативными правовыми актами Главы государства». Цяпер Агульны сход акадэміі амаль напалову разбаўлены высокімі дзяржаўнымі чыноўнікамі рознага рангу, членамі Нацыянальнага сходу, вучонымі неакадэмічных

устаноў; пабудавана паслухмяная вертыкаль навуковай адміністрацыі; НАН Беларусі прыбліжана да функцыі Міністэрства; усе кіраўнікі Прэзідыума НАН Беларусі прызначаюцца галавой дзяржавы, а розных акадэмічных устаноў — Прэзідыумам. Сваю выніковую думку і волю члены НАН Беларусі могуць выказаць пры выбарах акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў шляхам тайнага галасавання. М. В. Мясніковіч, будучы старшынёй Прэзідыума НАН Беларусі, нават прапанаваў такое галасаванне праводзіць адкрытым шляхам, але яго жаданне не прайшло, бо значная колькасць акадэмікаў напісала зварот супраць такой ідэі кіраўніку дзяржавы і яго Адміністрацыі. Таму М. В. Мясніковічу з вялікай цяжкасцю ўдалося быць выбраным членам-карэспандэнтам толькі ў самым канцы яго знаходжання «галоўным вучоным», як называў яго кіраўнік дзяржавы.

Пры правядзенні сёлетніх выбараў колькасць вакансій і спецыяльнасці былі абвешчаны без дастатковага шырокага абмеркавання, занадта кулуарна. Сярод кандыдатаў у члены НАН Беларусі было вылучана шмат членаў-карэспандэнтаў і дактароў навук, якія зусім нядаўна атрымалі гэтыя навуковыя званні і ступені. Некаторыя з іх прызначаны на кіруючыя пасады ў акадэміі толькі ў бліжэйшы час і як сапраўдныя вучоныя мала вядомыя, з’яўляюцца проста добрымі чыноўнікамі ці арганізатарамі. Даведкі пра навуковую дзейнасць кандыдатаў у члены акадэміі былі падрыхтаваны вельмі позна, дайшлі да выбаршчыкаў толькі непасрэдна перад тайным галасаваннем, што не давала магчымасці больш грунтоўна даведацца пра гэтых вучоных і ацаніць іх уклад у навуку.

Усё пералічанае і прывяло да такіх выбараў. Сярод неабраных большасць усё ж не заслугоўваюць шукаемага звання, але некаторыя аказаліся ў іх ліку зусім несправядліва.

*2014*

## Зямля — блакітная планета[1]

Яшчэ ў 1843 г. у «Отечественных записках» (Т. 27, № 4) геніяльны рускі паэт М. Ю. Лермантаў надрукаваў верш «Выхожу один я на дорогу…», у якім ёсць прарочыя словы:

Ночь тиха. Пустыня внемлет Богу.
И звезда с звездою говорит.

В небесах торжественно и чудно!
Спит земля в сиянье голубом…

У пачатку снежня 2014 г. мой калега па працы Герман Каратаеў звярнуў маю ўвагу на артыкул пра жыццё і дзейнасць нашага земляка ўраджэнца мястэчка Смалявічы Мінскай губерні (19 красавіка 1875 г.) Гаўрылы Ціхага, які стаў выдатным астраномам, астрафізікам, астрабатанікам, членам-карэспандэнтам АН СССР (1927), акадэмікам АН Казахскай ССР (1946) і Ганаровым членам АН БССР (1959). У артыкуле ўзгадваецца: «За открытие, посвящённое дисперсии света в межзвёздном пространстве, вошедшее в историю как явление Тихова-Нордмана, был удостоен престижной премии Парижской академии наук. И, кстати, именно наш земляк впервые установил, что Земля при наблюдении её из космоса должна иметь голубоватый оттенок!»

Толькі Юрый Гагарын, які 12 красавіка 1961 г. упершыню ажыццявіў палёт вакол Зямлі на караблі «Усход», пацвердзіў прадбачанні паэта і вучонага, што Зямля з космасу вельмі прыгожая і мае блакітны колер.

*2014*

[1] Тэрмапілы. — 2015. — № 19.

# Вершаванае віншаванне[1]

Калі табе ўжо за 80, у дзень нараджэння, з аднаго боку, з вялікім сумам адчуваеш, што час мільгаціць усё больш непрыкметна, але дзякуеш Богу, што дазволіў дажыць да такіх гадоў, а з другога боку — адчуваеш радасць, што прыходзяць шчырыя віншаванні ад сяброў, якіх, на жаль, усё менш вакол цябе, асабліва ахоплівае адчуванне сардэчнай дабрыні ад вершаванага віншавання ды яшчэ з ласкавым сяброўскім гумарам.

**Сакрэт-загадка**

*Майму слаўнаму сябру акадэміку Радзіму Гарэцкаму*
*у дзень ягоных народзінаў*

Гады бягуць — і ўсё шпарчэй, шпарчэй.
Глядзь — і яшчэ адзін «Зрабіў Радзіму ручкай»:
Бывай! І не шкадуй, а ўпрэгвайся ямчэй,
Каб лепш было далей цягнуць і болей зручна.

«Наконт каб лепш было — такой сабе бяды» —
Сказаў вучоны муж у роздуме глыбокім.
А вось чаму яны, як быў я малады,
Не беглі, як цяпер бягуць, — ажно з падскокам?

Тады ж нагрузкі ім я не даваў такой,
Як зараз — кожны дзень на кожную гадзіну.
Дык дзе ж сакрэт? Чаму з паклажаю цяжкой
Бягуць шпарчэй? Яшчэ і лыбяцца Радзіму.

Сакрэт-загадку гэту, як відаць,
І Акадэміі усёй не разгадаць

*7 снежня 2014 г.*

Нілілевіч

---

[1] Тэрмапілы. — 2015. — № 19.

## Усебеларускі кангрэс за незалежнасць[1]

У жніўні 2014 года мне патэлефанаваў старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў, паведаміў, што ён і яго намесніца Алена Анісім вырашылі выступіць ініцыятарамі правядзення Усебеларускага з'езда за незалежнасць і прасіў мяне, як аднаго з сустаршынь Усебеларускага з'езда за незалежнасць Беларусі, які паспяхова прайшоў у 2000 годзе, перадаць яму ўсе дакументы, якія захаваліся з часу падрыхтоўкі і правядзення таго з'езда. Я перадаў досыць шмат матэрыялаў, прапанаваў звязацца таксама з вядомым журналістам Аляксандрам Старыкевычам, які быў тады кіраўніком працоўнай групы. Я падтрымаў гэтую ідэю Трусава і Анісім, тым больш, што ў сакавіку 2012 года ўсе сустаршыні з'езда 2000 г. у газеце «Народная Воля» выказалі падтрымку прапанове Уладзіміра Някляева аб скліканні Усебеларускага з'езда за незалежнасць. Аднак з'езд не адбыўся. Сітуацыя ў нашай краіне не змянілася і актуальнасць такога з'езда была відавочнай. З'езд 2000 г. пасля Першага ўсебеларускага з'езда за незалежнасць, калі абвясцілі пра стварэнне БНР у 1918 годзе, быў у гісторыі Беларусі Другім. Я вельмі быў рад, што адбудзецца Трэці з'езд. Падрыхтоўка сапраўднага правамоцнага з'езда патрабуе шмат часу і намаганняў, аб чым пазней і паведаміў Старыкевіч («Новы Час», 12 верасня 2014, № 34). Таму ініцыятары пайшлі больш лёгкім шляхам: быў створаны Аргкамітэт па скліканні не з'езда, а толькі Усебеларускага кангрэса за незалежнасць. Апрача А. Трусава і А. Анісім у яго ўвайшлі Уладзімір Колас, Міхаіл Пастухоў, Уладзімір Арлоў і інш.

Я быў трохі расчараваны, але калі ў лістападзе ў час правядзення XII з'езда ГА «ТБМ імя Ф. Скарыны», прайшло пасяджэнне новаабранай Рады ТБМ, на якім абмяркоўваўся ўдзел ТБМ у Кангрэсе за незалежнасць, выступіў з яго падтрымкай, бо падзеі ва Украіне яшчэ больш абвастрылі гэтае пытанне.

---

[1] Тэрмапілы. — 2015. — № 19.

Мяне бянтэжыў тэрмін правядзення кангрэса, бо за такі кароткі час цяжка абмеркаваць праблемы і сабраць значную колькасць легітымна абраных дэлегатаў. Аднак я прыйшоў да высновы, што лепш так, чым зусім ніяк.

21 снежня 2014 г. ў кангрэс-холе бізнес-цэнтра «Вікторыя» прайшоў Усебеларускі кангрэс за незалежнасць. Карэспандэнт газеты «Наша слова» (24 снежня 2014 г., № 52) паведаміў пра гэта.

*«На кангрэс былі абраныя 72 дэлегаты. Прыбылі 63 асобы. Адносна невялікая колькасць дэлегатаў тлумачыцца тым, што да апошняга часу былі праблемы з памяшканнем, і арганізатары думалі праводзіць кангрэс на сядзібе БНФ, праз гэта колькасць дэлегатаў штучна была зведзена да мінімуму. Але кожны дэлегат быў вылучаны групай грамадзян. Беларусі ад 5 чалавек да 70.*

*[...] У дадатак да дэлегатаў было шмат гасцей і прадстаўнікоў прэсы.*

*У прэзідыум Кангрэса былі запрошаны Мечыслаў Грыб — былы кіраўнік Беларускай дзяржавы, які падпісаў Канстытуцыю 1994 года, былы віцэ-прэзідэнт Акадэміі Навук Беларусі, акадэмік Радзім Гарэцкі, ветэран вайны, 90-гадовы паэт і сябар ТБМ са Слаўгарада Фелікс Шкірманкоў і каардынатар аргкамітэта Кангрэса Алена Анісім.*

*Былі агучаны вітанні Кангрэсу ад Аляксандра Мілінкевіча, ад Партыі БНФ. Прадстаўнікі і лідары іншых нібы дэмакратычных і нібы беларускіх партый Кангрэс праігнаравалі.*

*На Кангрэсе быў прыняты Маніфест у абарону незалежнасці Беларусі.*

*[...] Па словах Алега Трусава, пасля прыняцця маніфеста аб незалежнасці галоўнай задачай з’яўляецца збор пад яго тэкстам не менш за 1 мільён подпісаў.*

*Сутнасць маніфеста — паказаць усяму свету, што існуе незалежная, суверэнная, нейтральная Рэспубліка Беларусь.*

*[…] Па прапанове А. Трусава, вырашана зрабіць Кангрэс за незалежнасць пастаянна дзейнай структурай. Ён будзе збірацца праз 3–4 месяцы і абмяркоўваць лёсавызначальныя пытанні краіны.*

*[…] Была прынята заява і сфармавана Рада Кангрэса, якая будзе дзейнічаць пастаянна. У яе ўвайшлі 17 чалавек, у тым ліку Мечыслаў Грыб, старшыня ТБМ Алег Трусаў, пісьменнік Уладзімір Арлоў, акадэмік Радзім Гарэцкі і іншыя. Каардынатарам Рады абрана Алена Анісім.*

*Кульмінацыяй Кангрэса стала ўрачыстае падпісанне Маніфеста ў абарону незалежнасці Беларусі. Першым Маніфест падпісаў былы кіраўнік Беларускай дзяржавы Мечыслаў Грыб, акадэмік Радзім Гарэцкі, дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га і 13-га скліканняў, іншыя знакавыя людзі Беларусі і ўсе ўдзельнікі Кангрэса, незалежна ад таго былі яны дэлегатамі ці гасцямі.*

*Кангрэс сваю задачу выканаў. Вуснамі дэлегатаў Кангрэса беларускі народ сказаў: ён за* ***Незалежнасць****.*

Рэдакцыя газеты «Народная Воля» (23 снежня 2014 г., № 100) так ацаніла Кангрэс: *«Якія б апраўданні ні гучалі, факт застаецца фактам: мерапрыемства нацыянальнага значэння правалілася. […] ствараецца ўражанне, што ўсё рабілася дзеля галачкі».*

* * *

Выступленне Радзіма Гарэцкага на Усебеларускім кангрэсе за незалежнасць.

ГАЛОЎНАЕ — ЗАХАВАЦЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

Амаль 15 гадоў таму, на стыку тысячагоддзяў, 29 ліпеня 2000 года адбыўся Усебеларускі з’езд за незалежнасць. Ён прайшоў у 10-ю гадавіну прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі (27 ліпеня 1990 г.). Сустаршынямі аргкамітэта

па падрыхтоўцы і правядзенні з’езда былі Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Радзім Гарэцкі і Анатоль Грыцкевіч. Кіраўніком працоўнай групы быў вядомы журналіст Аляксандр Старыкевіч. На жаль, выдатнейшыя паэты і грамадскія дзеячы Рыгор Барадулін і Генадзь Бураўкін пакінулі гэты свет. Прапаную ўшанаваць іх памяць! (Усе ўстаюць).

Падзеі апошняга часу ў жыцці Бацькаўшчыны выклікаюць вострую трывогу за яе будучыню. Фінансавы крызіс, дэвальвацыя рубля, слабасць эканомікі, продаж дзяржаўнай маёмасці (у тым ліку зямлі), паступовае набліжэнне міжнароднай ізаляцыі, дыскрымінацыя з боку чынавенства нацыянальнай культуры і беларускай мовы, экалагічныя і дэмаграфічныя праблемы ставяць пад пагрозу незалежнасць Беларусі. Таму ўсе сустаршыні падтрымалі прапанову Уладзіміра Някляева аб скліканні Усебеларускага з’езда за незалежнасць, якую ён выказаў у газеце «Народная Воля» за 2 сакавіка 2012 года. З’езд тады не адбыўся. Але актуальнасць яго правядзення не знікла. Нягледзячы на тое, што вырашылі правесці не з’езд, а толькі Усебеларускі кангрэс, выявіліся сур’ёзныя недахопы ў вылучэнні і прадстаўніцтве (усяго каля сотні дэлегатаў) і інш., я падтрымліваю кангрэс і жадаю поспехаў у яго працы.

Карысна будзе ўспомніць некаторыя моманты мінулага Усебеларускага з’езда за незалежнасць, які быў праведзены па ўсім канонам арганізацыі такіх мерапрыемстваў. На з’езд было вылучана каля 1500 дэлегатаў са 117 раёнаў Беларусі і яны прадстаўлялі розныя колы грамадства. Адмова ад удзелу амаль усіх палітычных партый (актыўна падтрымала партыя Зянона Пазняка) выключыла залішнія амбіцыйныя спрэчкі і толькі дапамагла поспеху з’езда. Быў прыняты «Акт незалежнасці Беларусі», які абвясціў незаконнымі любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту нашай дзяржавы. З’езд у значнай ступені ўяўляў аналогію і пераемнасць Першага Усебеларускага з’езда, калі ў 1918 годзе адбылося абвяшчэнне БНР, якое дазволіла Беларусі

стаць незалежнай дзяржавай у 1991 годзе. Таму некаторыя дэлегаты з’езд 2000 г. справядліва называлі «Другім Усебеларускім з’ездам за незалежнасць».

У той час была вялікая небяспека аб’яднання Беларусі і Расіі ў адну дзяржаву і страты суверэнітэту краіны. Была падпісана дамова пра стварэнне саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі. Мне тады на з’ездзе было даручана зрабіць асноўны даклад — «Незалежнасць Беларусі». Праглядаючы яго, я ўбачыў, што многія атрыбуты адносна суверэнітэту нашай краіны мала змяніліся, а некаторыя нават пагоршыліся. Суверэнітэт — гэта не толькі самастойнае кіраванне дзяржавай у яе ўнутраных справах і міжнародных зносінах, а складаны інтэгральны феномен: родная мова і нацыянальная культура, адукацыя і навука, эканоміка і народная гаспадарка. Сюды ж уваходзіць рознабаковая бяспека: харчовая, лекавая, фінансавая, інфармацыйная, ваенная, сацыяльная, экалагічная, дэмаграфічная і інш. І ўсё павінна вырашацца на карысць сваёй краіны, свайго народа.

Стан з беларускай мовай катастрафічны, ідзе магутная русіфікацыя народа. Трэба заўсёды помніць, што родная мова — найгалоўнейшы гарант дзяржаўнасці і незалежнасці краіны. Палітыка кіраўнікоў нашай дзяржавы, усёй адміністратыўна-чыноўнічай «вертыкалі» за апошнія 20 гадоў вядзе да сапраўднага генацыду беларускай нацыі. Выдатны прыклад у гэтым сэнсе — падзеі з Крымам і Усходняй Украінай. Як патлумачыў У. Пуцін пра дзеянні Расіі: «Расія гэта там, дзе гучыць руская мова». Нават кіраўнік нашай дзяржавы ўпершыню вымушаны быў сказаць аб неабходнасці падтрымаць беларускую мову, каб не згінула наша нацыя. А пра захоп Крыма ўсклікнуў: «Я в страшном сне представляю себе, что это могло произойти с Беларусью».

Выцісканне беларускай мовы з жыцця грамадства выклікае недастатковае развіццё самабытнай нацыянальнай культуры, якая патрабуе значна большай дзяржаўнай падтрымкі. З кожным годам можна назіраць інтэнсіўнае скарачэнне роднай

мовы ў дзіцячых садках, школах, гімназіях, каледжах. Неаднаразовыя намаганні грамадства так і не прывялі да стварэння беларускамоўнага ўніверсітэта. Калі глядзіш наша тэлебачанне, дык можа здацца, што ўжо жывеш у Расійскай імперыі.

Эканамічны стан Беларусі нядаўна яскрава высветліў кіраўнік дзяржавы: «галоўная пагроза ў нашай краіны ў эканоміцы». Міністр эканомікі Мікалай Снапкоў прызнаўся, што «уплыў падзей у расійскай эканоміцы на беларускую безумоўны. На дадзены момант наш ВУП прама ці ўскосна напалову залежыць ад Расіі». Адсюль эканамісты лічаць, што значная дэвальвацыя беларускага рубля непазбежна. Мы ўвайшлі ў чарговы фінансавы крызіс. З часу прызначэння М. У. Мясніковіча старшынёй Прэзідыума НАН Беларусі беларуская навука ў выніку бясконцых рэфармаванняў аказалася ў вельмі цяжкім крызісным стане, асабліва ў фундаментальных даследаваннях.

На жаль і іншыя атрыбуты незалежнасці Беларусі знаходзяцца ў небяспечным стане: палітычныя (Еўразійскі эканамічны саюз, з якога дзяржава-падпісант не можа выйсці без згоды іншых краін); ваенныя (ваенны саюз з Расіяй і некаторымі іншымі дзяржавамі, сумесныя беларуска-расійскія групоўкі ўзброеных сіл, беларуская ППА атрымлівае падмацаванне ад Расіі, удзел расійскіх вайсковых падраздзяленняў у вайсковым парадзе); лекавыя (жыхары краіны адчулі вялікія цяжкасці з набыццём шэрагу лекаў); дэмаграфічныя (за апошнія 20 гадоў колькасць насельніцтва Беларусі зменшылася на 1,2–1,3 млн чалавек, павелічэнне суіцыду — толькі за 11 месяцаў 2014 года 33 такіх выпадкі сярод моладзі — і інтэнсіўная эміграцыя) і г. д. Я ўжо не кажу пра стан з правамі чалавека, непразрыстыя сістэмы выбараў, экалагічныя парушэнні і інш.

У сувязі з такім станам мы можам зусім згубіць і нават сённяшні фармальны суверэнітэт, якім так ганарыцца кіраўнік дзяржавы. Як нядаўна сказаў Андрэй Іларыёнаў — былы саветнік прэзідэнта Расіі У. Пуціна: «Беларусь знаходзіцца ў першай чарзе на “ўз’яднанне”, на аншлюз».

Усім трэба зразумець гэтую страшную небяспеку для краіны, а для захавання і развіцця незалежнасці абавязкова патрэбна інтэгральнае, комплекснае нацыянальнае адраджэнне ва ўсіх пералічаных галоўных напрамках. Хачу нагадаць прарочыя словы вялікага Янкі Купалы, якія заўсёды трэба помніць і якія ён напісаў яшчэ ў 1919 г.: «…Толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу».

Незалежнасць Беларусі навечна! Няхай багата і шчасліва жыве народ нашай краіны паміж дружалюбных краін — суседзяў і свету. Жыве Беларусь!

*2014*

## Яго прызванне — навука і адукацыя[1]

Цудоўную пару маіх сяброў, шчаслівы шлюб якіх падыходзіў да «залатога», нечакана напаткала цяжкае выпрабаванне, якое перарасло ў сапраўдную бяду. Вядомы беларускі географ, доктар геаграфічных навук, лідар навуковай школы ў галіне глебазнаўства і геаграфіі глеб, заснавальнік меліярацыйнай геаграфіі, прафесар і загадчык кафедры глебазнаўства і геалогіі геаграфічнага факультэта БДУ Валерый Станіслававіч Аношка ў сакавіку 2014 года раптоўна адчуў сябе вельмі кепска і трапіў у Інстытут неўралогіі і нейрахірургіі. Безумоўна, з ім побач была яго поўнасцю адданая клапатлівая спадарожніца жыцця Ядвіга Іванаўна Аношка, якая старалася не пакідаць любага чалавека ні на хвіліну, усяк спрыяць яго выздараўленню і падтрымаць у цяжкія часы хваробы. З пачатку той вясны для іх і іхніх сяброў пачаліся дні вялікіх хваляванняў, жудаснага страху і светлай надзеі, маркоты і часовага супакаення… Розныя бальніцы і аперацыі змяняліся больш прыемным жыццём у сваёй кватэры і нават працай на факультэце, але канчатковага паляпшэння не адбылося… Самыя цяжкія дні насталі ў ліста-

[1] Тэрмапілы. — 2015. — № 19.

падзе–снежні, калі надзея паступова ўсё пакідала і пакідала розум і нават сэрца. Я тады амаль кожны дзень ездзіў на працу ў нашу лабараторыю Інстытута прыродакарыстання на вуліцу акадэміка Купрэвіча міма Інстытута неўралогіі і нейрахірургіі і кожны раз сэрца шчаміла ад жалю і магчымай незваротнай згубы, пажадаў у думках маім сябрам мужнасці і моцы. І праўда Валерый Станіслававіч мужна і цярпліва пераносіў усе пакуты цяжкай хваробы, не страчваў прытомнасць, нават трохі, як заўсёды жартаваў і супакойваў сваю дарагую Вісеньку (як ласкава зваў сваю любую), а схуднелая і стомленая Ядвіга Іванаўна ўжо амаль зусім не пакідала самага дарагога яе чалавека, была з ім і ў дзень, і ў ноч, і ўсяк старалася падбадзёрыць і палегчыць яго апошнія дні. А ў маёй памяці ўзнікалі розныя моманты нашага знаёмства і сяброўства.

* * *

Калі ў пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя мне пасля амаль 40-гадовага жыцця ў розных мясцінах Расіі ўслед за маім бацькам акадэмікам Гаўрылай Іванавічам Гарэцкім удалося вярнуцца ў свой родны Менск і паступіць у Інстытут геахіміі і геафізікі АН БССР, Ядвіга Іванаўна Аношка ўжо працавала ў інстытуце і займалася літалогіяй, мінералогіяй і геахіміяй ападкавых парод. Але я пазнаёміўся з ёй пазней, бо арганізаваная мной лабараторыя геатэктонікі спачатку знаходзілася не ў будынку інстытута, а ў памяшканні другога інстытута. Калі нас пазнаёмілі, мне спадабалася маладая энергічная супрацоўніца, якая размаўляла на добрай беларускай мове.

* * *

У 1977 годзе мяне прызначылі дырэктарам Інстытута геахіміі і геафізікі, і я больш дэталёва пазнаёміўся з усімі супрацоўнікамі, у тым ліку і з Ядвігай Іванаўнай, якая аказалася таленавітым геолагам з шырокімі цікавасцямі і ведамі, вельмі добразычлівая і таварыская, таму знаёмая з многімі людзьмі, была ў курсе ўсіх спраў (я нават пачаў з ёй раіцца, бо як жартам

звяртаўся — «Вы ўсё ведаеце»). Калектыў нашага інстытута ўсе значныя святы праводзіў разам. Асабліва цікавымі і запамінальнымі былі майскія сустрэчы Дня Перамогі, калі мы выязджалі ў геафізічную абсерваторыю ў Плешчаніцах, дзе добра адпачывалі: праводзілі спартыўныя спаборніцтвы, гульні ў валейбол і футбол і г. д. Часта Ядвіга Іванаўна прыязджала са сваім мужам Валерыем Станіслававічам. Я з вялікай прыемнасцю пазнаёміўся з гэтым лагодным чалавекам з разумнымі вачыма і добрым усмешлівым тварам. Мая дачка Вольга, яшчэ школьніца, неяк адразу адчула ласкавасць Ядвігі, пацягнулася да яе і стала называць «цёця Вiся», а мне потым гаварыла: «Які прыгожы муж у цёці Вісі».

* * *

Я разумеў, што трэба рыхтаваць не проста навуковыя кадры, але і навукоўцаў, здольных да арганізацыі навукі. Таму, калі ў адпачынак ішлі намеснікі дырэктара і вучоны сакратар інстытута, па чарзе прызначаў часова на іх месца каго-небудзь з супрацоўнікаў. Галоўным чынам гэта былі мужчыны, але аднойчы я папрасіў Ядвігу Іванаўну пабыць на пасадзе вучонага сакратара. А гэта ў інстытуце вельмі важная ключавая фігура, бо трэба хутка рэагаваць на розныя падзеі, пісаць бясконцыя адказы, рабіць усё разумна, умела і талкова, што на жаль не заўсёды атрымлівалася ў нашых мужчын. Пры Ядвізе Іванаўне я адразу адчуў надзвычайную палёгку: яна так добра складала розныя паперы і лісты і па-руску, і па-беларуску і вельмі пісьменна, што мне часта не прыходзілася правіць іх, а проста падпісваць. Праз хуткі час яна была афіцыйна зацверджана вучоным сакратаром інстытута і стала ў арганізатарскіх справах маёй «правай рукой».

* * *

У той час прэзідэнт АН БССР М. А. Барысевіч усяляк падтрымліваў мае намаганні ў развіцці і пашырэнні навук аб Зямлі

і па магчымасці вылучаў адзінкі і грошы на новых супрацоўнікаў і аспірантаў. Асаблівыя цяжкасці былі з моладдзю. Нам прыходзілася прымаць географаў і перавучваць іх на геолагаў. Я тады сабраў спісы ўсіх студэнтаў-беларусаў, якія вучыліся ва ўніверсітэтах і іншых ВНУ Масквы і Ленінграда і запрашаў па заканчэнні размяркоўвацца ў наш Інстытут, але такіх аказалася зусім мала. Каб наблізіцца выпускнікам геаграфічнага факультэта БДУ па адукацыі да геалогіі, мы з дапамогай праф. В. Ф. Якушка і В. С. Аношка дабіліся, што будуць рыхтаваць студэнтаў па спецыяльнасці «геамарфалогія», якая лічылася ў спісе геаграфічных навук, але патрабавала больш ведаў па геалогіі. Я разам з супрацоўнікам нашай лабараторыі Э. А. Ляўковым пачалі чытаць на геаграфічным факультэце курс «геатэктонікі». Я змог больш капітальна пазнаёміцца з Валерыем Станіслававічам. Таленавіты вучоны ў галіне геаграфіі і педагог, які карыстаецца вялікім аўтарытэтам сярод калег і студэнтаў. Галоўным у яго жыцці была навука і адукацыя, чаму ён аддаваў увесь свой час і сілы. Яркім паказчыкам гэтага былі шматлікія навуковыя манаграфіі, артыкулы, падручнікі і метадычныя дапаможнікі, над якімі ён вельмі інтэнсіўна працаваў і якія таму выходзілі ледзь не кожны год. Найбольш вядомымі яго манаграфіямі сталі працы па глебазнаўстве і геаграфіі глебаў, а затым меліяратыўным глебазнаўстве і міліяратыўнай геаграфіі і стаў заснавальнікам гэтага новага навуковага напрамку. Яго працы мелі не толькі глыбокія фундаментальныя дасягненні, але і практычныя, таму што былі прысвечаны геаграфічнаму прагназаванню, рацыянальнаму прыродакарыстанню, прапанаваны метадычныя рэкамендацыі па барацьбе з дэградацыяй меліяратыўных зямель Беларускага Палесся і г. д.

Што рэдка сустракаецца, гэтыя навуковыя якасці вучонага у Валерыя Станіслававіча супадалі разам з выдатнымі арганізацыйнымі здольнасцямі і таленавітай педагагічнай дзейнасцю. Ён амаль 25 гадоў умела ўзначальваў кафедру глебазнаўства і геалогіі, дзе пры яго ўдзеле было падрыхтавана больш за

500 студэнтаў-выпускнікоў. Выкладаў важную дысцыпліну «глебазнаўства і геаграфія глебаў» і выдаў па ёй тры падручнікі, вучэбныя насценныя карты па глебах свету і Беларусі, навучальныя дапаможнікі «Гісторыя развіцця глебазнаўства Беларусі» і «Гісторыя і метадалогія глебазнаўства», выконваў абавязкі рэктара Беларуска-Нарвежскай народнай вышэйшай школы і г. д. Ён прымаў удзел і ў падрыхтоўцы школьнікаў, склаўшы праграму па геалогіі, навучальнага дапаможніка па агульнай геаграфіі, арганізаваў і кіраваў камандай школьнікаў Беларусі на міжнародных алімпіядах па геаграфіі і інш.

* * *

Я са сваёй сям'ёй атрымаў новую кватэру на вул. Кульман недалёка ад Камароўскага рынку, і мы з Аношкамі сталі амаль суседзямі — іх кватэра знаходзіцца на вул. Харужай. Часта па-сяброўску тэлефанавалі адзін аднаму, каб даведацца як адчуванне, а то і па справах, пры неабходнасці сустракаліся. Абавязкова віншавалі з рознымі святамі, асабліва з Новым годам. Аднойчы даведаліся, што і яны, і мы з Галяй сустракаем Новы год адны і дамовіліся сустрэць разам. З вялікай радасцю ўбачылі ў нашай кватэры вясёлых і бадзёрых сяброў, якія ўнеслі дадатковую прыемнасць з развітаннем старога года і сустрэчы новага. Уздымалі розныя сур'ёзныя і жартаўлівыя тосты. Усім нам быў блізкі гумар, таму мы жартавалі, і смех не змаўкаў. Вылучаўся Валерый Станіслававіч, гумар якога быў асабліва цікавым, бо ўтрымліваў не проста жарт, але і нейкі дадатак то самаіроніі, то сяброўскай «з'едлівасці».

* * *

Асабліва хочацца адзначыць важную і ўдалую працу Валерыя Аношкі на працягу больш за 20 гадоў у якасці прэзідэнта Беларускага геаграфічнага таварыства, шматгранная і актуальная дзейнасць якога проста захапляла. Было праведзена больш за 40 канферэнцый на розныя тэмы, складзена і выдадзена

больш за 10 зборнікаў навуковых артыкулаў і інш. Разгарнулася краязнаўчая праца, вывучалася жыццё і творчасць вучоных-географаў беларусаў А. А. Смоліча, І. Д. Чэрскага, праведзены канферэнцыі ў памяць вядомага беларускага прыродазнаўца, вынаходніка і медыка Я. А. Наркевіча-Ёдкі і беларускага археолага і гісторыка У. З. Завіткевіча і інш. Значны ўдзел прымаў В. Аношка ў падрыхтоўцы да выдання «Нацыянальнага атласа Беларусі», будучы членам навукова-рэдакцыйнага савета.

* * *

Паступова Валерый Станіслававіч уцягнуў і мяне ў шэраг мерапрыемстваў Беларускага геаграфічнага таварыства. Я прымаў удзел у некаторых канферэнцыях; у вывучэнні жыцця і творчасці Аркадзя Смоліча, з якім сябравалі і супрацоўнічалі мае бацькі і асабліва Тата, а пазней і я пазнаёміўся і сустракаўся з яго жонкай і дочкамі; у даследаванні пра творчасць Якуба Наркевіча-Ёдкі і інш. У Тэзісах IV з’езда Геаграфічнага таварыства БССР (21–23 верасня 1989 г., Брэст) нават надрукаваў тэзісы свайго даклада «Праблемы вывучэння тэктонікі платформ». Памятаю, як разам дапамагалі энтузіясту-настаўніку гісторыі Барысу Шымуку ствараць музей Івана Чэрскага ў школе ў Свольным Верхнядзвінскага раёна. Тут у 1845 годзе ў фальварку Свольна Дрысенскага павета Віцебскай губерніі ў даволі багатага мясцовага шляхціча Дзяменція Іванавіча нарадзіўся сын, які пазней пісаў, што ён «сын ліцвіна». Асабліва ўспамінаецца наша паездка вялікага кола сяброў Таварыства геаграфіі на чале з дэканам геаграфічнага факультэта Іванам Іванавічам Пірожнікам і прэзідэнтам Таварыства Валерыем Станіслававічам Аношкам, калі мы ўрачыста на месцы, дзе некалі стаяў будынак фальварка, паставілі помнік у выглядзе вялікага валуна. Тут жа ў сувязі са 150-годдзем з дня нараджэння нашага вялікага земляка Беларускае геаграфічнае і Беларускае геалагічнае таварыствы (старшынёй апошняга ў той час ужо абралі мяне) правялі навуковую канферэнцыю.

Я ўдзячны Валерыю Аношку за тое, што ён уцягнуў мяне ў вельмі цікавую і карысную працу Беларускага геаграфічнага таварыства, што я нават быў абраны сябрам Геаграфічнага таварыства СССР, а пазней узнагароджаны Ганаровымі граматамі як гэтым таварыствам, так і Беларускім геаграфічным.

* * *

Беларуская геалагічная навука і служба ўсё больш адчувала недахоп маладых спецыялістаў геолагаў і таму я, стаўшы прафесарам геаграфічнага факультэта, не пакідаў намаганні, каб на нашым факультэце дазволілі выпускаць геолагаў па спецыяльнасці «геалогія, пошукі і разведка карысных выкапняў».

Нарэшце з падтрымкай дэкана факультэта Р. А. Жмойдзяка і вырашальнай дапамогай рэктара БДУ акадэміка Ф. М. Капуцкага, з якім мы былі разам у Аддзяленні хіміі і навук аб Зямлі АН Беларусі, удалося атрымаць у Міністэрстве адукацыі дазвол на адкрыццё такой спецыяльнасці, але рэктар паставіў умову, што толькі пры маёй згодзе адкрыць і стаць загадчыкам новай профільнай кафедры «дынамічнай геалогіі». Я прыняў такую ўмову і ў 1995 годзе стаў арганізатарам і загадчыкам гэтай кафедры. Мне вельмі прыемна, што загадчык кафедры «глебазнаўства і геалогіі» прафесар В. С. Аношка падтрымаў адкрыццё кафедры дынамічнай геалогіі, хаця б здавалася, што яна можа стаць у нейкім сэнсе «саперніцкай». Наадварот, мы вельмі дружна працавалі па падрыхтоўцы студэнтаў-геолагаў. Я імкнуўся, каб усе галоўныя прадметы па праграме, за аснову якой пры яе складанні мы ўзялі праграму геалагічнага факультэта Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, выкладалі лепшыя вучоныя нашага Інстытута геахіміі і геафізікі і БелНІДРІ. Але вольных адзінак для гэтага не хапала, таму я дамагаўся максімум фінансавання для выкладчыкаў па лініі «пазаштатных пасад». Такое фінансаванне было дэфіцытным і таму на геаграфічны факультэт рэктарат вылучаў толькі па строгім ліміце, львіную долю ад якога з’ядала мая кафедра і

таму ў іншых кафедраў геаграфічных напрамкаў выклікала незадавальненне. Мне было прыемна, што гэтую канфліктную сітуацыю добра разумеў В. Аношка і па магчымасці стараўся змякчыць яе, растлумачваючы сітуацыю ў падтрымку новай кафедры геалогіі.

* * *

Яшчэ акадэмік Гаўрыла Гарэцкі адразу па вяртанні ў Менск, а пазней я і некаторыя іншыя вучоныя навук аб Зямлі падымалі пытанне пра неабходнасць стварэння ў рамках АН Беларусі Інстытута геаграфіі. Для гэтага трэба, каб па спецыяльнасці «геаграфія» былі члены Акадэміі, што ніяк не атрымлівалася. І вось у 1994 годзе ўдалося дабіцца вылучэння на выбарах у НАН Беларусі адзінкі члена-карэспандэнта па «геаграфіі». Безумоўна, самым вядомым і перспектыўным географам у той час быў Валерый Станіслававіч Аношка, таму яго і вылучылі кандыдатам на атрыманне вучонага звання «члена-карэспандэнта» з надзеяй, што ён зможа ў будучыні стаць дырэктарам-арганізатарам Інстытута геаграфіі. Ён даў згоду, але пры галасаванні не набраў патрэбнай колькасці галасоў. Усе яго прыхільнікі, у тым ліку і я, стараліся падтрымаць яго і даць згоду на ўдзел у наступных выбарах. Але яго тыповая для беларусаў рыса характару — крыўдлівасць, да якой далучылася і ганарлівасць, не далі згадзіцца з нашай прапановай, хаця шансы былі амаль стопрацэнтныя. Так ён не стаў членам НАН Беларусі, як і Інстытут геаграфіі адсутнічае ў нашай краіны, а такі інстытут вельмі патрэбны.

* * *

Апантанасць навуковай працай у В. Аношка была настолькі моцная, што ён нават уразіў мяне ў час паляпшэння стану ў сваёй цяжкай хваробы. Я па тэлефоне сказаў яму, што ў мяне ёсць матэрыялы пра меліяратыўнае глебазнаўства, якім займаўся Беларускі навукова-даследчы інстытут сельскай і лясной

гаспадаркі ў канцы 20-х гадоў мінулага стагоддзя. Валерый Станіслававіч, які працягваў працаваць над гісторыяй развіцця глебазнаўства, так зацікавіўся, што хацеў у хуткім часе зайсці і пазнаёміцца з гэтымі матэрыяламі, нягледзячы на хваробу. Але 17 студзеня 2015 года Валерый Станіслававіч Аношка пакінуў гэты свет.

* * *

Імя Валерыя Станіслававіча Аношкі назаўсёды застанецца ў гісторыі навукі, педагагічнай і грамадскай дзейнасці не толькі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, якому ён прысвяціў усё сваё жыццё, але і ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны як выдатнейшага дзеяча на ніве навукі, адукацыі, шчырага патрыёта роднай Беларусі.

*2015*

## Актуальныя творы[1]

31 студзеня 2015 года ў Палацы мастацтваў адбылася прэзентацыя новых выданняў твораў славутага беларускага пісьменніка, крытыка, літаратуразнаўца, кінасцэнарыста, грамадскага дзеяча Алеся Адамовіча. У студзені месяцы споўнілася 20 гадоў штогадовай прэміі імя Алеся Адамовіча за найлепшую публіцыстычную кнігу года, якой ужо адзначаны творы 35 літаратараў. Да гэтай нагоды Саюз беларускіх пісьменнікаў і Беларускі ПЭН-цэнтр прымеркавалі вечарыну памяці Алеся Адамовіча і далучылі да яе прэзентацыю чатырох нядаўна ўбачыўшых свет найбольш вядомых яго твораў. У серыі «Мастацкая літаратура» Беларускага кнігазбору выйшлі «Выбраныя творы» (2012); у выдавецтве «Лениздат» Санкт-Пецярбурга — «Блокадная книга» (2014) з дадаткамі з архіўных матэрыялаў, створаная разам з Данііламам Граніным; у беларускім

[1] Тэрмапілы. — 2015. — № 19.

выдавецтве «Попурри» перавыдадзена кніга «Каратели» (2014) з ілюстрацыямі Арлена Кашкурэвіча; у Лондане, у выдавецтве «Glagoslav Publication» апублікавана «Khatyn» — «Хатынская аповесць» (2012).

Зала Палаца мастацтваў поўнасцю запоўнена. Вечар вёў **Міхась Скобла**, які ва ўступным слове адзначыў, што да гэтага часу няма збору твораў Алеся Адамовіча, хаця першы том быў выдадзены 20 гадоў таму. Галоўны рэдактар «Кнігазбору» **Кастусь Цвірка** паведаміў, што «Залатая калекцыя» кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор» папоўнілася 64-м томам — «Выбраныя творы». Грунтоўны ўступны артыкул напісаў сваяк Адамовіча Міхась Тычына, а ўкладанне і каментар зроблены дачкой пісьменніка — Наталляй. На погляд Цвіркі ў том увайшлі самыя важныя творы — «Хатынская аповесць», «Нямко», публіцыстыка, літаратуразнаўчыя артыкулы, лісты да розных асоб. Доктар філалагічных навук прафесар **Міхась Тычына** ўспомніў Алеся Адамовіча 21-гадовым юнаком, які тады ўразіў яго прагай да хуткасці (ён ганяў на матацыкле па вясковых дарогах). Алесь паспеў у жыцці і творчасці вельмі многае, чаго, магчыма, не паспелі іншыя нашы класікі. Адамовіч заўсёды спяшаўся, быў апантаны працай, стараўся знаходзіцца ў цэнтры падзей. У сваім руху ён не спыняўся ні на хвіліну. Міхась Тычына ў заключэнне выступу падзяліўся сваімі планамі, у якія ўваходзіць напісанне кнігі ўспамінаў пра Алеся Адамовіча.

**Наталля Адамовіч**, якая робіць усё магчымае для апрацоўкі сямейнага архіва, захавання спадчыны і ўшанавання памяці свайго бацькі, распавяла пра падрыхтоўку перавыдання «Карателей». Яно дапоўнена ўнікальнымі матэрыяламі. Арлен Кашкурэвіч яшчэ пры жыцці паспеў закончыць пасляслоўе. Наталля Адамовіч працуе над нататкамі і агульнымі сшыткамі Алеся Міхайлавіча, якія ён вёў пачынаючы з 1945 года і адкуль яна чэрпае каштоўную інфармацыю пра працу пісьменніка над творамі — ідэі, чарнавікі, урыўкі, не прапушчаныя ў друк савецкай цэнзурай. Новая глава «Дублёр» у перавыданні пры-

свечана Іосіфу Сталіну — у ёй моманты з біяграфій Сталіна і Гітлера, вытрымкі з судовых пасяджэнняў над карнікамі. Наталля напісала прадмову, дзе раскрыла гісторыю стварэння «Карателей».

Наталля Адамовіч таксама паведаміла, што амерыканскі выдатны гісторык Цімаці Снайдэр апублікаваў рэцэнзію на англамоўнае выданне «Khatyn»: «У беларускай літаратуры ёсць твор, які ўваходзіць у шорт-ліст найлепшых раманаў свету XX стагоддзя», якая выйшла ў прэстыжным брытанскім часопісе «Times Literary Supplement». Гэта выклікала скачок у продажы кнігі.

Папярэднія прамовы ўдзельнікаў змяніліся выступамі Таццяны Матфонавай, якая пад гітару выканала песню «Малітва» на словы Генадзя Бураўкіна, а Зміцер Бартосік праспяваў песні Уладзіміра Высоцкага і Булата Акуджавы ў перакладзе на беларускую мову Рыгора Барадуліна.

Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў **Барыс Пятровіч** нагадаў, што Алесь Адамовіч належыць да літаратурнага пакалення «шасцідзясятнікаў», і ён разам з Нілам Гілевічам і Іванам Навуменкам спрычыніўся да цэлага сузор’я маладзёнаў, якія сталі класікамі айчыннай літаратуры. Дзякуючы ім адбыўся своеасаблівы «залаты век» у беларускім прыгожым пісьменстве, і таму наша задача — захаваць памяць таго пакалення. Старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра **Андрэй Хадановіч** нагадаў, што Алесь Адамовіч спрычыніўся да адкрыцця Беларускага ПЭН-цэнтра і расказаў пра прэмію імя Алеся Адамовіча.

Пра творчасць Алеся Адамовіча, асаблівасці яго пісьменніцкага майстэрства, пра знаёмства з ім і ўспаміны паведамілі **Уладзімір Някляеў** і **Сямён Букчын**.

Вядучы Міхась Скобла, нагадаўшы, што Алесь Адамовіч акрэсліў жанр сваёй працы як «літаратура запечанай крыві», а кнігі, створаныя ім у супрацы з Янкам Брылём і Уладзімірам Калеснікам («Я з вогненнай вёскі»), з Даніілам Граніным («Блокадная книга») з’яўляюцца яскравым сведчаннем гэтаму,

даў слова мне, каб я распавёў, як стваралася апошняя кніга, бо сям'я Гарэцкіх зрабіла вялікі ўнёсак у напісанне гэтай кнігі.

«Блокадная книга» (2014) выйшла да 70-годдзя зняцця блакады Ленінграда. Пасля смерці Адамовіча было 7 выданняў, а з 2003 года выйшла 5 выданняў з годным тэкстам Д. Граніна «Гісторыя стварэння "Блокадной книги"». Як паведаміла Наталля Адамовіч, яна разам з рэдактарам «Лениздата» Наталляй Сакалоўскай зрабілі новы варыянт кнігі: кананічны тэкст, інтэрв'ю Адамовіча, тэксты яго нататнікаў, «Гісторыя стварэння "Блокадной книги"» і пра выпечку ромавых баб у час блакады для начальства. Я падкрэсліў, што Алесь Адамовіч у сваёй шматграннай дзейнасці перш-наперш выдатны вучоны-літаратуразнаўца, член-карэспандэнт НАН Беларусі. Калі ён пільна працаваў над кнігай пра жыццё і творчасць Максіма Гарэцкага «Браму скарбаў сваіх адчыняю…» (1980), часта наведваў жонку пісьменніка Леанілу Чарняўскую-Гарэцкую і іх дачку Галіну, якія тады жылі ў Ленінградзе. Тут ён старанна вывучаў архіў Максіма Гарэцкага і пачуў ад Галіны Максімаўны некалькі «пранізлівых» ленінградскіх гісторый часу блакады, якія былі такія ж жудасныя, як і з «Вогненнай вёскі» ці «Хатынскай аповесці». Гэтыя гісторыі так узрушылі Алеся Міхайлавіча, што ў яго ўзнікла думка аб рабоце над «Блакаднай кнігай». Галіна Гарэцкая пазнаёміла яго з Марыяй Гур'янаўнай Сцепанчук, якая адзін час жыла разам з Гарэцкімі ў камунальнай кватэры. Яна была першай блакадніцай, ад якой А. Адамовіч 5 красавіка 1975 г. зрабіў свой першы запіс. Пра гэта ён успамінае ў інтэрв'ю газеце «Литературная Россия» ад 12 сакавіка 1982 г. У той жа год аўтары падаравалі толькі што выдадзеную «Блокадную книгу» Галіне Гарэцкай з надпісам: «Той, благодаря которой родилась эта книга».

Я нагадаў і іншыя бакі дзейнасці Алеся Адамовіча: яго бясстрашную барацьбу за адкрыццё праўды пра Чарнобыльскую катастрофу, пра яго змаганне ў якасці народнага дэпутата СССР за дэмакратычныя змены ў жыцці нашых краін у

час перабудовы, пра яго выдатную працу кінематаграфіста і сцэнарыста (фільм «Ідзі і глядзі», сцэнарый «…Имя сей звезде Чернобыль»), барацьбу супраць «мірнага атама», ядзернай бомбы і знішчэння ўсяго, што можа забіць чалавецтва, яго яркую публіцыстыку і г. д. У гэтым сэнсе найбольш уражвае ягоная аповесць «Последняя пастораль», якая разам з кнігамі прэзентацыі і іншымі антываеннымі творамі Адамовіча як ніколі актуальна цяпер, калі адбываюцца жудасныя падзеі паміж Украінай і Расіяй, павялічваецца колькасць кропак з полымем ваенных канфліктаў, разгараецца тэрарызм, павялічваецца ўзбраенне і верагоднасць Трэцяй сусветнай вайны.

Вялікую ўдзячнасць трэба сказаць жонцы Алеся Адамовіча Веры Сямёнаўне, якая, на жаль, нядаўна пакінула гэты свет, і дачцэ Наталлі за самаадданую працу па ўшанаванні памяці пісьменніка, падрыхтоўцы яго твораў да перавыданняў, прагляду яго шматлікага архіва, з якога выдрукавалі шэраг новых запісаў, лістоў і г. д. Хочацца ўспомніць складзены імі першы пасмяротны зборнік «Прожито» Алеся Адамовіча (М.: Слово, 2001. 272 с.), у які ўвайшлі яго аўтабіяграфічныя апавяданні і аповесць «Vixi». Яны паспелі гэты зборнік падараваць Галіне Гарэцкай з такім надпісам: «Шаноўнай, мілай Галіне Максімаўне на добры ўспамін пра Алеся Адамовіча, пра Вашыя сустрэчы. Душэўна — Вера, Наталля Адамовіч. Кастрычнік 2001 г.». Другая кніга — Алесь Адамовіч «…Имя сей звезде Чернобыль» (Минск: Ковчег, 2006. 544 с., сост. Н. А. Адамович). У кнігу ўвайшлі раздзелы: з запісных кніжак, лісты, артыкулы, выступленні, сцэнарый «…Имя сей звезде Чернобыль», аповесць «Последняя пастораль».

Будзем чакаць выхаду новых твораў, запісаў, лістоў і нататак Алеся Адамовіча, якія, безумоўна, зробіць Наталля, і пажадаем ёй вялікіх поспехаў у гэтай высакароднай працы. Імя пісьменніка, яго творы і ўся спадчына заўсёды будуць жыць у Беларусі!

***2015***

# Славутыя паўстанцы[1]

10 лютага 2015 года ў Амбдасадзе Летувы адбылася прэзентацыя кнігі «Партрэты паўстання 1863–1865» (Ракаў, 2015. 128 с.) Камілы Янушкевіч і Язэпа Янушкевіча. Падрыхтавана да 150-годдзя страты Кастуся Каліноўскага і задушэння паўстання. На гэты ж час прыпадае і 175-годдзе з народзін самога правадыра-завадатара.

Вядомы беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, архівіст, археограф, тэкстолаг-крыніцазнаўца, кандыдат філалагічных навук Язэп Янушкевіч, які належыць да знакамітай сям'і братоў Янушкевічаў з прыгожага Ракава на Ісламчы — жывапісца Фелікса, скульптара Валяр'яна, фізіка — доктара навук Казіміра — вылучаецца, як і яго браты, надзвычайнай апантанасцю, шматграннымі цікавасцямі, мэтанакіраванасцю, цярплівасцю і інтуіцыяй. Дзякуючы гэтым якасцям, ён паспеў адшукаць шмат малавядомых ці забытых фактаў гісторыі нашай краіны, пра жыццё і творчасць яе дзеячаў. Ён аўтар каля паўтысячы розных публікацый у тым ліку і асобных выданняў.

Пра свае пошукі і здабыткі ў польскіх архівах, разгадкі архіўных таямніц, адшуканняў невядомых залацінак сярод тысяч старонак рукапісаў і друкаваных твораў, момантаў радасці і працяглых расчараванняў Янушкевіч вельмі шчыра распавёў у архіўным эсэ «У прадчуванні знаходак» (Мінск: Маладосць, 1994. 96 с.). Ён складальнік, аўтар прадмоў і каментарыяў да твораў У. Жылкі, К. Чорнага, Ф. Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, В. Ластоўскага і інш. Упершыню апублікаваў арыгінал «Пінскай шляхты» Дуніна-Марцінкевіча, дзённікі У. Караткевіча, Міхаіла Галубовіча, «Тастамент» А. Кіркора і інш. Напісаў пра творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, В. Ластоўскага і інш.

З прац апошняга часу трэба адзначыць яго актыўны ўдзел ў шыкоўным выданні Беларускага фонду культуры юбілейных кніг да 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча «Пан

[1] Тэрмапілы. — 2015. — № 19.

Тадэвуш, або Апошні наезд у Літве» (1998) і да 120-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа «Новая зямля» (2002) на польскай, беларускай і рускай мовах, а таксама як укладальнік з тэксталагічнай падрыхтоўкай, аўтар прадмовы і каментару ён удзельнічаў у найбольш поўным выданні твораў, лістоў Францішка Багушэвіча (Мінск: Беларуская навука, 2015. 445 с.) у серыі «Мастацкая літаратура» «Беларускага кнігазбору».

Удзельнікі паўстання 1863–1865 гадоў і асабліва яго кіраўнік, публіцыст, паэт, рэдактар газеты «Мужыцкая праўда» Кастусь Каліноўскі многія гады цікавілі Язэпа Янушкевіча. Ён адарыў шматлікіх чытачоў выдатнымі кнігамі пра Кастуся Каліноўскага і яго паплечнікаў, якія хвалююць душу, сэрца, памяць і выклікаюць вялікі гонар і шчырую ўдзячнасць тым героям, што ахвяравалі сваім жыццём дзеля свабоды польскага, беларускага і літувіскага народаў. Спачатку Янушкевіч надрукаваў «Лісты з-пад шыбеніцы» Кастуся Каліноўскага (1988), затым склаў і выдаў анталогію «Тварам да шыбеніцы» (Ракаў, 2013), пазней «Партрэты паўстання» (Ракаў, 2014), а цяпер «Партрэты паўстання 1863–1865» (Ракаў, 2015) на польскай, беларускай і літувіскай мовах. Да стварэння пералічаных кніг ён далучыў у якасці афарміцеля (як і раней да шэрагу твораў) сваю жонку, вядомага мастака-графіка Галіну Хінка-Янушкевіч, а ў якасці суаўтара апошняй кнігі — дачку, мастацтвазнаўку, аспірантку Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Камілу.

Вельмі самаадданая карпатлівая праца ў шматлікіх архівах бацькі і дачкі скончылася вялікім поспехам: 241 мужны, непахісны паўстанец вярнуўся з нябыту, і мы ўбачылі іх светлыя, прыгожыя абліччы, зірнулі ў іх разумныя, вольналюбівыя інтэлігентныя вочы, атрымалі кароткія звесткі пра іх жыццё і дзейнасць.

Невялікая, але ўтульная зала Амбасады Летувы запоўнілася многімі вядомымі дзеячамі. У прэзідыуме імпрэзы: амбасадар Эвалдас Ігнатавічус, злева ад яго Каміла Янушкевіч, справа — Язэп Янушкевіч. На першым радзе Галіна Хінка-Янушкевіч,

на трэцім — Казімір Янушкевіч з жонкай. Бард Лявон Валодзька выконвае гімн «Магутны Божа». Усе ўстаюць, многія падпяваюць. З уступным словам выступіў Эвалдас Ігнатавічус і перадаў слова для вядзення прэзентацыі Каміле Янушкевіч, якая расказала пра гісторыю ўзнікнення і рэалізацыі альбома. Штуршок дала магістарская, а цяпер і аспіранцкая праца Камілы «Фатаграфія Беларусі 19-га стагоддзя».

Першым слова атрымаў мастацтвазнаўца Валерый Буйвал, які высока ацаніў мастацкія якасці альбома. Васіль Зуёнак прыгожа прачытаў свой верш «Развітанне Каліноўскага». Галоўны рэдактар слыннага выдання «Беларускі кнігазбор» Кастусь Цвірка паведаміў пра ўдзел Язэпа Янушкевіча ў падрыхтоўцы шэрагу тамоў кнігазбору. Бард-спявак Лявон Валодзька праспяваў нізку «паўстанцкіх» песень, якія ён адмыслова падрыхтаваў да юбілею. Нагадаўшы цяжкі лёс нацдэма, «кіраўніка беларускага філіяла контррэвалюцыйнай арганізацыі “Працоўная сялянская партыя”» Гаўрылы Гарэцкага, Каміла выклікала для выступу мяне — «дзядзьку Радзіма — сына паўстанца Беларусі XX стагоддзя». Народны артыст прафесар Віктар Скарабагатаў, які стварыў творчы калектыў «Беларуская капэла», узнавіў оперы Станіслава Манюшкі і Антонія Генрыха Радзівіла, адкрыў імёны Рафала Вардоцкага і Восіпа Казлоўскага, пазнаёміў слухачоў з «Полацкім сшыткам» і «Вострабрамскай літаніяй» Язэпа Дзяшчынскага, выдатна праспяваў некалькі арый і песень. Вучаніца 8-га класа школы-каледжа мастацтваў імя Ахрэмчыка Вікторыя Янушкевіч цудоўна сыграла на флейце, якую нярэдка можна пачуць у музеі-галерэі братоў Янушкевічаў у Ракаве. Як заўсёды па-мастацку натхнёна прачытаў некалькі вершаў паэт Уладзімір Някляеў. У заключэнні Язэп Янушкевіч паведаміў пра захапляючую працу па стварэнні «Партрэтаў паўстання», якую асабліва яму прыемна было рабіць з дачкой, што такая праца «ў чатыры рукі» дазволіла выканаць задуму «сама бедна ў разы чатыры спарней». Ён падзякаваў усім спрыяльнікам,

якіх было нямала. Асаблівая падзяка Галіне, што падтрымлівае яго ўжо 32 гады.

Слухаючы Язэпа, я ўспамінаў, як у снежні 1971 года, амаль праз 40 гадоў, вярнуўся зноў на сваю Радзіму і атрымаў кватэру менавіта на вуліцы Каліноўскага. Я быў рад, што жыву на вуліцы, якая носіць імя нацыянальнага героя — змагара за волю роднага народа. З таго часу я цікавіўся гісторыяй паўстання, а слаўная постаць кіраўніка заўсёды жыла ў маім сэрцы. Я не разумеў, чаму дагэтуль няма помніка выдатнаму герою і нават звярнуўся да раённых улад з прапановай паставіць яго на нашай вуліцы. З акон дома, у якім мы жылі, раскрывалася чароўная панарама: шырокая балоцістая даліна малой рачулкі, адкуль па вечарах чулася вясёлае кваканне жабак, а далей — цёмназялёная сцяна лесу, галоўным чынам саснова-ялінавага з рэдкімі ўкрапваннямі белых пышнагаловых бяроз. Я любіў пасля працы пакоўзаць на лыжах. Узбіраўся на досыць высокую горку, дзе цяпер пабудаваны Усесвяцкі храм, і адтуль — уніз да рачулкі і лесу. На ўзвышшы ўяўляў, як мог цудоўна выглядаць на гэтым месцы помнік Каліноўскаму. Але і да гэтага часу яго ў Беларусі няма.

Мая дачка Вольга тады сябравала з Галяй Хінка, з якой яны вучыліся ў адным класе. Часта прыходзілі да нас. На рускамоўную Галю (маці ў яе руская, а бацька — беларус), як яна сама пазней казала, вялікае ўражанне зрабіла шчырая беларускасць маіх бацькоў з іх цудоўнай багатай беларускай мовай. Пазней сям'я Галі пераехала на вуліцу Каліноўскага ў суседні дом. З прыемнасцю наглядаў, як Галя старанна вучылася і стала прафесійнай мастачкай, якая так шчыра прыняла беларушчыну. Пазней я пазнаёміўся і пасябраваў з братамі-гуманітарыямі Янушкевічамі, і быў шчаслівы прывітаць Язэпа з такім цудоўным шлюбам з мілай Галінкай. Прайшло так многа гадоў нашага сяброўства, і зноў Кастусь Каліноўскі звёў нас разам на прэзентацыі іх унікальнай кнігі. Яны падарылі мне кніжку з надпісам, зробленым Язэпам:

Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі
Ніколі гарту не губляў,
Пад 90 — маладзецкі,
І пад 100 — такім трымаў!
У Радасьці — Вашыя Каміла і Язэп.

Прыемна было атрымаць ад маіх даўніх, але зусім маладых сяброў такую падтрымку ўжо досыць старому, але бадзёраму «дзядзьку Радзіму».

У студзені 2015 года я разам з маёй жонкай Галяй, Марыяй Міцкевіч і Міколам Люцко наведалі Хведара Нюньку ў Вільні і, канечне, пабылі на месцы пакарання Кастуся Каліноўскага, паклалі кветкі і схілілі галовы ў знак вечнай памяці і ўдзячнасці герою, дзень нараджэння якога нядаўна быў адзначаны.

*2015*

## «Імёны Свабоды»

11 сакавіка 2015 года ў галерэі «Ў» адбылася прэзентацыя новай кнігі «Імёны Свабоды» Уладзіміра Арлова. Яшчэ 10 гадоў таму У. Арлоў пачаў па Радыё Свабоды чытаць кароткія гісторыі пра найбольш выдатных дзеячаў, якія змагаліся за Свабоду, за вольнае жыццё, за незалежнасць нашай Бацькаўшчыны. Ужо ў 2007 годзе ў кніжцы серыі «Бібліятэка Свабоды XXI стагоддзя», кніжны праект якой стварыла Беларуская служба Радыё Свабоды пад кіраўніцтвам Аляксандра Лукашука, ён надрукаваў першае выданне кнігі «Імёны Свабоды». У 2012 годзе пабачыла свет «Імёны Свабоды. Аўдыёкніга». Цяпер прэзентавана выданне трэцяе, дапрацаванае і дапоўненае «Імёны Свабоды» (Радыё Свабода Еўропы / Радыё Свабоды. 2015. 668 с.). У гэтае выданне ўвайшлі 40 новых імёнаў нашых сучаснікаў, і таму колькасць усіх змагароў за Свабоду Беларусі ў кнізе дасягнула 300.

У выніку атрымалася ўнікальная кніга, для стварэння якой спатрэбіўся вельмі працаздольны, таленавіты аўтар, каб у

зусім кароткіх гісторыях, не больш за 2 старонкі, ёміста, трапна паказаць галоўныя рысы характару, творчасці, дасягненні кожнага з герояў кнігі. Гэта здолеў зрабіць Уладзімір Арлоў, які як бы кананізаваў абраных ім герояў — змагароў за Свабоду Бацькаўшчыны (безумоўна, іх было значна больш, тут ёсць суб’ектывізм выбару, але з большасцю можна пагадзіцца) і пабудаваў пісьмовы нацыянальны пантэон. Імёны, якія ўвайшлі ў яго, будуць жыць вечна разам з незалежнай Беларуссю.

Зала галерэі «Ў» была перапоўнена, шмат моладзі стаяла ўсцяж сцен залы. Уладзімір Арлоў вельмі добра падрыхтаваў прэзентацыю, умела сам вёў імпрэзу. Паведаміў пра стварэнне ўсіх выданняў кнігі, але размову галоўным чынам прысвяціў новым імёнам Свабоды — нашым сучаснікам, пералічыў іх усіх, нагадаўшы, кім яны былі. Затым, прачытаўшы вытрымкі пра некаторых новых герояў са сваёй кнігі, ён запрашаў да выступленні прысутных, якія мелі дачыненне да іх. Перыядычна песні на словы Рыгора Барадуліна і Генадзя Бураўкіна спяваў вядомы бард Змітрок Бартосік. З цікавымі дапаўненнямі і ўспамінамі пра выдатныя постаці падзяліліся Лявон Баршчэўскі, Алесь Трусаў, мастак Генадзь Мацур і інш.

Аўтар кнігі супыніўся на артыкулах, прысвечаных Максіму Гарэцкаму і яго жонцы таксама пісьменніцы Леаніле Чарняўскай. Таму як пляменніку даў слова мне. Я паведаміў наколькі цяжка пісаць такія кароткія і змястоўныя гісторыі, нагадаўшы, як У. Арлоў шмат разоў звяртаўся да мяне, каб атрымаць шэраг фактаў, якія былі ў нашым хатнім архіве. З вялікім сумам і адначасова з гонарам я ўзгадаў, што шмат новых імён былі маімі сябрамі, добрымі знаёмымі і калегамі, прытым амаль усе маладзейшымі за мяне. Перш-наперш я ўспомніў нашых выдатнейшых творцаў і грамадскіх дзеячаў, з якімі сябраваў многія гады і з якімі на мяжы тысячагоддзяў быў сустаршынёй Аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні Усебеларускага з’езда за незалежнасць — Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна і Анатоля Грыцкевіча. Хачу падкрэсліць,

што ўсе яны, як браты Анатоль і Валянцін Грыцкевічы — медыкі па адукацыі, стаўшы выдатнымі гісторыкамі, — вылечылі многіх беларусаў ад эпідэміі страшнай хваробы — манкурцтва. З дапамогай вядомага журналіста Аляксандра Старыкевіча, які быў кіраўніком рабочай групы, мы ўдала правялі гэты з'езд. Той час быў вельмі небяспечны для незалежнасці краіны, калі галоўны чыноўнік дзяржавы казаў, што ён гатовы на каленях паўзці, каб толькі трапіць у Расію, а прыхільнікі самастойнасці Беларусі лічыліся «ворагамі народа».

Я ўспомніў выдатнага вучонага філосафа Уладзіміра Конана, які настолькі быў апантаны навукай, што калі пісаў другі том сваёй унікальнай трылогіі «Гісторыя эстэтычнай думкі Беларусі» ён страшэнна баяўся, што не паспее закончыць гэтую кнігу. Справа ў тым, што Уладзімір Міхайлавіч так саслабеў і адчуваў набліжэнне смерці, і каб не губляць часу ні на сон, ні на яду — спаў па некалькі гадзін, часта за ўвесь дзень з'ядаў толькі кавалак хлеба, запіваючы стаканам кефіру, бо жыў адзін і ў магазін хадзіць не меў часу. Пра гэта я даведаўся толькі ў час развітання з ім перад пахаваннем. Уплыў яго беларушчыны на ўсіх быў такі вялікі, што выступоўцы з Аддзялення гуманітарных навук і яго інстытута развітальныя словы казалі толькі на беларускай мове, якую ад многіх кіраўнічых асоб я чуў упершыню.

Нагадаў Міхася Чарняўскага, з якім супрацоўнічаў па лініі сумежных навук археалогіі і геалогіі. Ён настолькі быў адданы сваёй роднай Бацькаўшчыне, што сваёй будучай жонцы Святлане Міхась сказаў: «Давядзецца выбраць, выберу не цябе, а — Беларусь». Такое я чуў толькі ад майго бацькі — Гаўрылы Гарэцкага, які ў 1944 годзе пісаў сваёй жонцы: «Я аддам усё за магчымасць займацца самаму даследаваннем Беларусі: самога сябе, каханне, сям'ю. [...] Не адкладаючы аддам усе свае апошнія сілы Ёй, самай найвялікшай, самай каханай. Адракуся ад сябе, ад блізкіх, родных, ад сэрца — і ўсё аддам Ёй!».

Сурма Уладзіміра Пузыні ўрачыста адкрывала ўсе з’езды беларусаў свету, якія праводзіла згуртаванне «Бацькаўшчына». Яго выдатны ўнёсак як сапраўднага народнага дудара у беларускую культуру, нацыянальнае адраджэнне ніколі не забудуць нашчадкі.

Вядомы даследчык «невядомых» старонак гісторыі Беларусі Віталь Скалабан, які актыўна ўдзельнічаў у «Гарэцкіх чытаннях», адкрыў шмат дакументаў у архіве пра братоў Максіма і Гаўрылу Гарэцкіх, быў вельмі дарагі мне, а яго творчая спадчына і дзейнасць заўсёды застанецца ў гісторыі Беларусі.

А колькі ўдзячных слоў можна сказаць пра Генадзя Грушавога, доктара навук, філосафа, педагога, які арганізаваў і кіраваў дабрачынным фондам «Дзеці Чарнобыля». Трэба было б яшчэ назваць многіх выдатных дзеячаў…

Прысутныя шчыра павіншавалі з 75-годдзем вядомага мастака Аляксея Марачкіна і пажадалі не спяшацца трапіць у кнігу «Імёны Свабоды». На развітанне атрымаў ад Уладзіміра Арлова кнігу «Імёны Свабоды» з прыемным аўтографам: *«Шаноўнай сям’і Гарэцкіх зычу свабоды ўва ўсіх яе ўвасабленнях. У. Арлоў 11.04.2015».*

***2015***

## 115-годдзе Гаўрылы Гарэцкага[1]

10 красавіка 2015 года споўнілася 115 гадоў з дня нараджэння Гаўрылы Гарэцкага. У гэты дзень Інстытут прыродазнаўства НАН Беларусі і Навукова-вытворчы цэнтр па геалогіі Мінпрыроды правялі «XXVI навуковыя чытанні, прысвечаныя 115-й гадавіне з дня нараджэння выдатнага вучонага ў галіне навук аб Зямлі Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага». Кіраваў чытаннямі дырэктар Інстытута прыродакарыстання акадэмік А. К. Карабанаў, які зрабіў уступнае слова, нагадаў галоўныя моманты

[1] Тэрмапілы. — 2015. — № 19.

навуковай дзейнасці вучонага і, як яго вучань, з удзячнасцю ўспомніў добразычлівасць і выдатныя педагагічныя здольнасці настаўніка, навуковая школа якога была вядома ў многіх краінах свету. Былі заслуханы чатыры грунтоўныя навуковыя даклады, а таксама ўспаміны сына юбіляра.

У гэтыя дні ў друку выйшлі артыкулы, прысвечаныя Г. І. Гарэцкаму: Э. Олінай «Тытанічны розум і Вялікая душа» («Наша слова», 8 сакавіка 2015 г.), групы акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў Інстытута прыродакарыстання на чале з А. К. Карабанавым «Волат беларускай навукі» («Веды», 13 красавіка 2015 г.), Р. А. Зінавай-Сярмяжка «Ён так любіў Беларусь» («Народная Воля», 14 красавіка 2015 г.).

17 красавіка 2015 года ў памяшканні Літаратурнага музея Петруся Броўкі прайшлі чарговыя XXIII Гарэцкія чытанні, прысвечаныя 115-годдзю з дня нараджэння Гаўрылы Гарэцкага і 95-годдзю першага выдання «Гісторыі беларускай літаратуры» Максіма Гарэцкага.

Адкрыла чытанні старшыня Аргкамітэта XXIII Гарэцкіх чытанняў дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч, прывітальнае слова зрабіў паэт Анатоль Вярцінскі. На пленарным пасяджэнні заслухана 6 дакладаў, на секцыйных — 25. Пра Г. І. Гарэцкага было зроблена два даклады: Радзіма Гарэцкага «Гаўрыла Гарэцкі — выхавальнік сыноў» і Розы Зінавай «На радзіме акадэміка Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага ў Малой (Меншай) Багацькаўцы (да 115-годдзя з дня нараджэння)».

23 красавіка ў чытальнай зале рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі адкрылася выстава «Я — сын твой, маці-Беларусь…» да 115-годдзя з дня нараджэння Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага. Вяла імпрэзу Вольга Панасіна, а пра саму выставу патлумачыў Віктар Свёкла. З успамінамі пра Гаўрылу Гарэцкага і яго дзейнасць выступілі акадэмік Аляксандр Карабанаў (геолаг), доктар навук Уладзімір Левашкевіч (геолаг); акадэмікі: Уладзі-

мір Агабекаў (хімік), Пётр Нікіценка (эканаміст); прафесар Ядвіга Яловічава (геолаг), кандыдат навук Таццяна Якубоўская (геолаг), літаратуразнаўца Лідзія Савік, пісьменнік Васіль Якавенка, галоўны рэдактар выдавецтва «Тэхналогія» Зміцер Санько, акадэмік Радзім Гарэцкі (геолаг).

*2015*

## Гаўрыла Гарэцкі — выхавальнік сыноў[1]

Жыццё Гаўрылы Гарэцкага склалася так, што сваіх двух сыноў ён увесь час не мог гадаваць непасрэдна, бо розныя абставіны (турма, камандзіроўкі, вайна) прымушалі не быць разам з сям'ёю, і тады адзіным сродкам выхавання заставалася толькі ліставанне. Выяўляецца, што ліставанне бацькоў з дзяцьмі (асабліва, калі яно рэгулярнае і даволі частае) таксама робіць вялікі ўплыў на дзяцей.

У 1930 годзе Гарэцкі быў арыштаваны і тады амаль на 5 гадоў пакінуў 6-гадовага Усяслава і 1,5-гадовага Радзіма. Злучэнне сям'і адбылося толькі ў самым канцы 1934 года на будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала ў пас. Мядзведжая Гара (Карэлія) і г. Мурманску (Кольскі паўвостраў).

Усяслаў пайшоў у пачатковую школу, Радзім яшчэ не. Абодва ад зняволеных крымінальнікаў атрымалі добрую «школу»: навучыліся брыдкаслоўю, паліць недакуркі, непаслухмянасці і разгільдзяйству. Улетку ў час белых начэй яны гублялі адчуванне дня і ночы і іх цяжка было загнаць дадому да самай поўначы.

Пяцігадовае жыццё тут было парушана новымі двума арыштамі працягласцю амаль на два гады. Гэта і бясконцыя камандзіроўкі рэдка дазвалялі бацьку быць разам з сынамі. Але нават такія кароткія сустрэчы рабілі значны ўплыў на сыноў.

Аднойчы, у гадавіну смерці маці Гаўрылы — Ефрасінні Міхайлаўны, — 4 сакавіка 1936 года, бацькі клічуць і клічуць

[1] Тэрмапілы. — 2015. — № 19.

дахаты малодшага сына, а ён не ідзе, бо вельмі цікава разгулялася кампанія такіх жа хлопчыкаў і дзяўчынак. Гаўрыла, які так любіў і шанаваў сваю маці, у гэты дзень быў вельмі самотны: успамінаў гады дзяцінства, дабрыню маці, яе песні, гараваў, што не змог паехаць на яе пахаванне (не адпусцілі)… Ён зноў і зноў выходзіў, каб паклікаць Радзіма і нарэшце прывесці дахаты. А той раптам вельмі раззлаваўся, што не даюць яму дагуляць са сваімі сябрамі ў такую цікавую гульню. Бацька ўзяў сына за руку і пацягнуў да ганка, а таго ўзяла такая злосць, што ён брыдка вылаяўся… Тут Гаўрыла не вытрымаў, схапіў яго, кінуў на ложак і першы раз у жыцці моцна адлупцаваў па мяккім месцы. А хлопец быў упарты — не крычаў, не плакаў, не прасіў прабачэння, вытрымаў усё моўчкі, хоць было не столькі балюча, як вельмі крыўдна. На наступны дзень сын напісаў бацьку першы свой ліст (у школу ён яшчэ не хадзіў, але пісаць вялікімі літарамі ўжо мог) і кінуў яго за куфэрак, каб бацька ўбачыў яго не адразу, а сам пабег з дома. Ліст быў кароткі: «Тата чорт і халера». Увечары Гаўрыла ласкава ўзяў сына на рукі, пасадзіў на калені і растлумачыў, што гэтая лаянка раней мела адпаведны сэнс і ўтрымлівала яшчэ адно, чацвёртае слова — «татарын», што з’явілася яно ў час мангольскага іга, а цяпер уяўляе бязглуздзіцу — вялікі здзек з жанчыны, а гэта значыць і з мамы, бабулі… Радзім усё зразумеў, і пасля гэтага каштоўнага ўрока больш ніколі не брыдкасловіў.

Зрэдку ў геалагічныя «паходы» ён браў з сабой Радзіма, дзе вучыў яго збіраць розныя прыгожыя каменьчыкі, кераміку і чарапкі з неалітавых стаянак, і цікава апавядаў пра іх паходжанне. З часам у школе і ў пасёлку адкрылі невялікія музеі, куды па прапанове бацькі Радзім перадаў некалькі нашых найбольш удалых знаходак, і ён вельмі ганарыўся, што ў музеях каля іх было напісана «Из коллекции Р. Горецкого».

Аднойчы ішоў з малодшым сынам па кірмашы. Радзік, як заўсёды, глядзеў пад ногі і спадзяваўся знайсці манетку, на якую можна будзе купіць якую-небудзь цукерку — падушачку

ці мандарынку. Раптам убачыў: у брудзе ляжыць стары падрапаны кашэль і з яго тырчаць не тое што дробныя манеткі, а добры пачак купюр. Ён вельмі ўзрадаваўся, ужо ўяўляў, колькі прысмакаў на іх можна купіць, падумаў, што значную частку грошай аддасць маці, якая (а ён гэта добра ведаў) не ўяўляла, як пракарміць сям'ю. Радзім радасна ўскрыкнуў і кінуўся да кашалька, каб падняць яго. Раптам перад яго носам мільгануў татаў бот, ад якога кашалёк паляцеў далёка ўбок, а сын пачуў сярдзіты голас таты: «Не тваё — дык і не бяры!». Радзіму так шкада было тых грошай, што ён нават у сне іх бачыў. Але гэта быў добры ўрок на ўсё жыццё…

Не паспелі ўсёй сям'ёю разам пажыць у г. Баравічы Наўгародскай вобласці, як праз паўгода пачалася вайна, якая на многа гадоў разлучыла і бацькоў, і сыноў. Гаўрылу Гарэцкага мабілізавалі на абаронныя работы, а Ларыса з сынамі эвакуіравалася ва Удмуртыю, дзе старшы сын застаўся ў Іжэўску, а малодшы з мамай і роднымі трапілі ў сяло Вавож. Вось цяпер найбольш і спатрэбілася ліставанне як сродак выхавання. Некаторыя прыклады такіх лістоў прывяду далей.

*«5/I.1942. Чарапавец.*

*Добры вечар, мой дарагі сын, мой любы Радзімка!*

*[…] Вітаю Цябе яшчэ раз, мой любы Радзімка, з Тваім чатырнаццатым годам. Каб гэты год прайшоў для Цябе шчасьліва і пасьпяхова. Каб усе Твае родныя былі жывы і здаровы, каб усім вам было што есьці, каб Ты рос вялікі і разумны.*

*Пачынаецца адказны год у Тваім жыцьці, калі Ты з хлопчыка ператвараешся ў юнака. Гэты год вельмі важны для фармаваньня чалавека. Памятай, мой дарагі Радзімка, што чалавек — сам каваль свайго шчасьця, сам — свой настаўнік, сам — стварыцель свайго характару. Дык старайся, мой дарагі хлопчык, ужо цяпер стаць самому сваім настаўнікам. Выпрацуй сабе правілы паводзін, запішы іх сабе ў кніжачку і цьвёрда іх трымайся. Старайся не раздражняцца, будзь спакойным, разважлівым. У характар Твой перайшло па спадчыне*

*шмат рысаў ад Тваіх продкаў, ад прадзеда, дзеда і бацькі. І першая такая рыса — парывістасьць. Усе Гарэцкія былі і ёсьць парывістыя людзі. І гэта часта ім шкодзіла. Старайся стрымаць сваю парывістасьць. Ніколі не рабі адразу тое, што Ты надумаешся рабіць раптоўна. Лепш адкладзі гэта на некаторы час, на 1–2 дні, або хоць на некалькі гадзін».*

На будоўлі ваенных аб'ектаў праца была вельмі напружаная, умовы жыцця цяжкія, галодныя. Але Г. Гарэцкі сваім родным (асабліва сынам) стараўся пісаць бадзёрыя лісты, падкрэсліваў, што харчуецца добра і адчувае сябе зусім здаровым і моцным. На самай справе быў вельмі стомлены, бо адмаўляў сабе ў многім, каб дапамагчы дарагім сваім родным, рэгулярна пасылаючы ім грашовыя пераводы, а зрэдку і пасылкі.

У лютым 1942 года Гарэцкага прызначылі начальнікам геалагічнага аддзялення праектна-вышукальнага бюро № 11 Гідрапраекта Галоўпрамбуда НКУС у пасёлак Сухі Лог Камышлоўскага раёна Свярдлоўскай вобласці.

*«30.IV.42. Сухі Лог.*

*Дарагі Славучок! [...] Вельмі шкода, што ў Цябе нічога ня выйшла з кватэрай (бо Ты парушыў правіла рускай прыказкі: «Куй железо, пока горячо») і з прымацаваньнем да спецгандлю. Ты б спытаўся, а якая ж даведка ім патрэбна? Схадзі яшчэ раз да самога начальніка і даведайся, якая папера ім патрэбна?*

*А з кватэрай адкладаць усё-ж-ткі не варт. Трэба шукаць, распытвацца, — не супакойвацца, пакуль не дасягнеш мэты. Жыць у другім паверсе («на палацях») дрэнна і небясьпечна для Твайго здароў'я, бо там угары найбольш мікробаў. Гэта добра, што Ты ходзіш у лазьню, сьпіш раздзеўшыся, харчуешся размеркавана, чытаеш кніжкі. Гэта — вялікае дасягненьне і радасьць. Будзе дужа добра, калі Ты перойдзеш на 8 г працы — дабівайся гэтага, бо Твой арганізм яшчэ вельмі кволы».*

У канцы ліпеня 1942 года Гарэцкага прызначылі галоўным геолагам Камска-Чусаўскага бюро № 12 Гідрапраекта, а Ларысу — туды ж інжынерам-грунтазнаўцам у лабараторыю.

*«3.VIII.42. Чусавы, пошта.*

*Дарагі Славік! Толькі што атрымаў Твой і Радзікаў ліст ад 22. VII. І я рад, і мама будзе дужа, дужа рада. Маладчына Ты, што запрасіў да сябе ў госьці Радзіка, добра яго карміў, клапаціўся аб ім. Нам, бацькам, німа большае радасьці, як адчуваць, што Вы любіце адін другога, што Вы такія "братаны заядлыя"».*

У сярэдзіне лістапада 1942 года Усяслава мабілізавалі ў армію і паслалі ў Сарапул у ваеннае вучылішча, але ўжо праз месяц адазвалі назад, бо зноў абвастрыўся хранічны плеўрыт. Тады яго паслалі ў Маскву працаваць на аўтамабільны завод імя Сталіна (ЗІС), а там ён зваліўся і паламаў руку. Бацькі хваляваліся, вельмі сумавалі па родных, асабліва па сынах. Хацелася жыць разам, але абставіны не дазвалялі…

*«1.І.1943. Чусавы. № 47. Надвечар.*

*Дарагі мой сын Радзім!*

*[…] Ужо цэлы месяц Ты стаў у лістох неакуратна падпісваць сваё імя: размашыста, нядбайна, развязна, як п'яны міністр. Ты прыгледзься сам да свайго подпісу, і Табе не спадабаецца. А лісты Твае добрыя, хоць і кароценькія. Малайчына Ты, што прачытаў "Вайну і мір", усе 4 тамы. І я чытаў гэты раман прыблізна ў Тваім узросьце, гэта троху ранавата. Ну, але калі-небудзь Ты перачытаеш усё ў другі раз».*

*«25.І.43. Чусавы. № 50. Вечар.*

*Дарагі мой, любы Радзімка!*

*Ад Цябе лісты робюцца ўсё карацейшымі і карацейшымі, любы Радзімка. Падпісвацца Ты стаў зусім дрэнна, нейкімі незразумелымі закарукамі, як важны губарнатар які. Я ўжо пісаў Табе, каб Ты больш так не падпісваўся. Старайся не псаваць свой подпіс, дарагі Радзімка. Я умею троху ўгадваць характар чалавека па яго пісьму (почырку), — і вось бачу, як апошнім часам пачаў псавацца Твой настрой і нават характар. Ты стаў неуважлівым, нецярплівым, рассеянным, неакуратным.*

*Табе вельмі сумна, часамі аж плакаць хочыцца, усё робіцца абыякавым, нецікавым, будзённым…*

*Старайся ў гэты час як можна лепей вучыцца, быць бадзёрым, моцным. Не сумуй. Не давай агортваць Цябе дрэнным думкам і настроям. Узрастай моцным. Чытай, думай над прачытаным, старайся зразумець прачытанае. І ніколі не чытай безуважна, абы толькі чытаць.*

*Пішы, дарагі сынуля, мне пра свае думкі, надзеі, лятуценьні, развагі. Можа і я Табе дапамагу чым-небудзь, добраю парадаю, успамінам, якім я сам быў у такім узросьце…*

*[…] Цалуем Цябе, лашчым, любы наш Радзімка. Цалуй і вітай родных*

*Твой тата».*

*«31.I.1943. Чусавы. № 13. Дзень.*

*Дарагі наш, любы Славучок!*

*[…] Мы радуемся і ганарымся Табою, што Ты адчуў смак да чытаньня, што Ты палюбіў кнігу. У кніжках усё самае лепшае, што ведае чалавецтва».*

У пачатку 1944 года Г. Гарэцкага прызначылі на пасаду намесніка галоўнага геолага Бюро інжынернай геалогіі Гідрапраекта і галоўнага геолага экспедыцыі № 5, якая знаходзілася ў пасёлку Васілёва (пазней Чкалаўск — радзіма В. П. Чкалава) на Волзе (Горкаўская вобласць). Але шматлікія працы на Урале, якія трэба было завершыць, прымушалі быць у бясконцых камандзіроўках.

Яшчэ з Чусавога бацька піша старэйшаму сыну.

*«9.I.44. Чусавы. № 3. Вечар.*

*Дарагі мой, любы мой, харошы хлопчык!*

*Атрымаў ад Цябе ліст, напісаны 1.I.44 г. па-беларуску. Ліст гэты быў для нас сапраўднай пацехай і радасьцю. Дзякуй Табе і за ліст, і за добрыя Твае пажаданьні. Мы шчасьлівы ўжо тым, што ў Цябе ўсё добра і што Ты сам стаў такі добры, рахманы, разважлівы, ласкавы, разумны. Жадаем Табе ў 44 годзе захаваньня Тваіх прыгожых імкненьняў, намераў, настрояў.*

*Мы рады, што Ты маеш лепшую, цікавейшую і больш адказную працу. Хоць Ты і шмат працуеш, але даражы гэтаю працаю, старайся ўсё рабіць, як мага лепш, уважліва, дакладна па-франтавому. Толькі абавязкова нармальна адпачывай і лепш харчуйся, — так як на Новы год».*

*«30.VII.44. Чунжыно. № 47. Нядзеля, раньне.*

*Дарагі мой Славучок! Любы мой, родны мой хлопчык! Мне вельмі хацелася б Цябе пабачыць, добра пагаманіць з Табою аб жыцьці, аб Тваёй будучыне, аб шчасьці. Але прыезд мой у Маскву адкладаецца на досыць доўгі час, мусіць месяцы на тры. Дык пагамонім троху праз ліст.*

*Як добра было б, каб Ты быў бліжэй да мамы, — прытуліла б мама галаву свайго сынулі, абшчапіла б Цябе, лашчыла б Цябе, песьціла, гаманіла, ласкавыя словы казала б, сэрца свае выказвала, добрую долю і вялікае шчасьце б Табе зычыла. Мама так Цябе бязмерна любіць, так Цябе шкадуе, клапоціцца аб Табе. Баліць яе сэрца за Цябе, за Твой лёс, за Тваю задачу ў жыцьці.*

*Дарагі мой сынуля! У хвіліны, калі Цябе агорніць сум, адчай, роспач, адзіноцтва, нявера ў сябе, — не заставайся падоўгу адзін. Ідзі тады да добрых прыяцелей, проста да добрых знаёмых, або да добрае кніжкі, да якой-небудзь лёгкай механічнай работы, занятку, да пісаньня лістоў мне. І гавары тады ў лістох усю праўду, пішы мне, як свайму таварышу, не саромся мяне, пішы самае чорнае.*

*І будзь пэвен, што ўсё дрэннае мінецца. Добрыя пачаткі Тваёй натуры перамогуць. У Табе многа добрага, харошага, прыгожага. І гэта харошае пераможыць усё злое, нядобрае, няцярплівае, эгаістычнае.*

*Будуць у Цябе дні вялікага, сонечнага, сьветазарнага шчасьця. І нават ня дні, а цэлыя паласы такога шчасьцлівага жыцьця. Ты будзеш любіць і Цябе будуць моцна любіць — таварышы, прыяцелі, другі, любая Твая дзяўчына.*

*Адкінь жа, мой дарагі, дарагі сыночак, дрэнныя думкі і настрой. У жыцьці так многа добрага, прывабнага, прыгожага, залатога, шчасьлівага. І Ты не апошні. Ты патрэбен, здольны, Ты будзеш моцным, умелым, здатным, загартаваным.*

*Чытай харошую літаратуру. Дастаеўскім вельмі не захапляйся, хоць ніхто так у сусьветнай літаратуры не ведаў чорных закуткоў чалавечае душы, як Дастаеўскі. Чытай Бальзака, Талстога.*

*У мяне ўсё добра. І.VIII. паеду ў камандзіроўку тыдні на два, але пісаць я Табе буду, і лісты Твае мне прывязуць на будаўніцтва. Цалую Цябе, мой родны, лашчу.*

*Твой тата».*

*«18.VIII. Створ Шырокаўскай гідрастанцыі. № 51. Раньне.*

*Дарагі мой Славунька! Любы мой сынуля! Я ўсё ў дарозе. Прыехаў вось цяпер на Шырокаўскае будаўніцтва. Учора быў тут, прабуду сёньня, а ўвечары паеду ў Кізел і назад у Чусавы.*

*[...] Калі-небудзь будзем мы зноў на Беларусі, паедзем з Табою і Радзікам вандраваць па нашай роднай краіне, будзем падарожнічаць па вялікіх пушчах, заначуем дзе-небудзь у густым лесе, а раніцою будзем заўзята шукаць баравікі, а раньнем сонечным наглядаць будзем надзвычайнае хараство арэшніку на пасеках, будзем зьбіраць арэхі-лузганцы.*

*З усяго майго жыцьця з найвялікшай прыемнасьцю ўспамінаю я дні, калі пасьвіў я коні на пасецы, калі васенняю раніцою хадзіў я па арэшніку, наглядаў чароўнае хараство арэхавых кустоў, шукаў арэхі, зьбіраў лузганцы, бачыў, як дасьпелым дажджчом сыплюцца яны на зямельку. Вось гэта, любы мой сынуля, і было сапраўднае шчасьце, залатое, непаўторнае...*

*І як жа мне хочыцца разам з Вамі, маімі хлапчанятамі, пахадзіць зноў па вольнай беларускай зямлі, па яе лясах, сенажацях, палёх...*

*[...] Бывай, дарагі мой, любы мой сыне!*

*Твой тата».*

* * *

13 мая 1946 года на вучоным савеце Інстытута геалагічных навук АН СССР Г. Гарэцкі аднагалосна абараніў доктарскую дысертацыю.

Скончыўшы ў 1946 годзе сярэднюю школу і атрымаўшы атэстат сталасці, Радзім пераехаў у Маскву да Славіка, які ўжо выехаў з інтэрната аўтазавода і зняў невялічкі пакойчык. Радзім паступіў вучыцца на геолагаразведачны факультэт Маскоўскага нафтавага інстытута імя акадэміка І. М. Губкіна, а Усяслаў — на эканамічны факультэт таго ж інстытута. Праўда, праз год ён перавёўся на факультэт рускай літаратуры і мовы Маскоўскага педагагічнага інстытута імя У. І. Леніна.

Усе намаганні Гаўрылы дзеля вяртання на Радзіму ніякага плёну не далі. Дазволу на пераезд у Мінск не было, ды і Лара раіла не спяшацца, праявіць асцярожнасць. Г. Гарэцкі застаўся працаваць у Гідрапраекце, працягваў інжынерна-геалагічныя даследаванні спачатку ў Гарадцы на Волзе, а ў 1947 годзе быў прызначаны намеснікам галоўнага геолага Сектара геалогіі Гідрапраекта і галоўным геолагам экспедыцыі № 8 у станіцу Раманаўскую на Доне Растоўскай вобласці. Такая хада падзей, магчыма, і выратавала Гаўрылу ад яшчэ аднаго зняволення. Пасля вайны рэпрэсіўная машына бальшавізму зноў разгарнула шырокамаштабную барацьбу з «ворагамі народа».

*«25.II.47. № 10.*

*Дарагія, любыя хлопчыкі!*

*Вельмі засмуціла нас хвароба Радзіка. Ой, як трэба берагчыся Табе, Радзімка. Застуды — Твая “ахілесава пята”, Твой страшны вораг, які можа прывесьці з сабою яшчэ шмат усякіх хвароб. Першае Табе правіла; не дапускай пацельня; не сьпяшайся, не бяжы шыбка, не паднімай цяжкае, не рабі нічога, ад чаго можаш спацець. Грып у Цябе зьявіўся таму, што Ты шыбка ішоў да Праўдзінска! Не паднімайся з ложка без пары — выляжыся.*

*Абодвум Вам, хлопчыкі, трэба палепшыць харчаваньне. Выдаткуйце тыя грошы, што ў Вас ёсьць, перш-на-перш на харчаваньне: купляйце на рынку крупы, масла. Адзежу я Вам не раіў бы зараз набываць, набудзем пазьней; а вось харчаваньне палепшанае — для Вас галоўнае. Не шкадуйце на гэта грошы. Дык кіруйцеся, мае любыя, такім правілам; усё для здароў'я і харчаваньня, адзеньне набудзем пазьней, Цалуем Вас моцна, моцна. Беражыцеся, падтрымлівайце сілы. Пішыце часьцей усю праўду.*

*Ваш тата».*

*«22.XII.48.*

*Дарагія мае хлопчыкі!*

*Родныя мае Славучок і Разімка!*

*Вітаю Вас з Новым годам, жадаю Вам здароўя, бадзёрасьці, сьветлага сьветаўспрыманьня, радасьці, маладосьці сонечнай, імклівай, нічым не азмрочанай.*

*Шчасьлівымі будзьце, мае арляняткі, сакаляткі. Навучыцеся разумець учынкі людзей і дараваць ім усё няпрыгожае, нядобрае. Ня крыўдзіцеся на людзей, толькі ўмовы робюць іх злымі. Ня будзьце патрабавальнымі да другіх, а толькі да сябе. Зразумейце і свае ўчынкі, навучыцеся кіраваць імі, узгадоўвайце самі сябе. Стрымлівайцеся, мае родныя. Нічога не рабіце пад уплывам хвіліны, настрою, бо па спадчыне да Вас перайшло шмат гарачае нецярплівасьці, выбуховасьці, настраёвасьці.*

*Выхоўвайце ў сабе, як садоўнікі, ўсё добрыя рысы, якія Вам здаюцца уласьцівасьцямі ідэальнага чалавека. І ніхай усё будзе ў Вас простым, натуральным. Вам непатрэбна штучнасьць, бо прырода надзяліла Вас вельмі добрымі якасьцямі.*

*І памятайце, што аснова посьпеху — праца, праца арганізаваная, сыстэматызаваная, упарадкаваная, мэтаімклівая, але праца творчая, натхненая, прыгрэтая ласкаю, захапленьнем, уздымам.*

*І ніколі ніхай не пакіне Вас захапленьне. Захапляйцеся ўсім: прыгажством жанчыны, паэзіяй, мастацтвам, тэатрам, навукаю, прыродаю, дружбай. Без захапленьня німа жыцьця. Заўсёды нешта і некага любіце.*

*Рыхтуйце Ваш малады, юнацкі дух да Вялікага Каханьня, якое прыдзе неспадзявана, раптоўна, дзіўнае як сонца і балючае, як рана. І ніхай квітнее пераможнае Каханьне, глыбокае, прыгожае, самахвярнае, няўміручае.*

*Дык будзьце-ж шчасьлівымі, мае хлопчыкі. Ніхай заўсёды дрыжыць Ваш дух пры словах паэзіі, пры гуках музыкі, пры ўсходзе сонейка, пры спагадлівым поглядзе любай.*

*Цалуем Вас, абыймаем, тулім.*

*Ваш тата».*

*«6.XI.49. Раманаўская.*

*Любыя мае, дарагія сынулі!*

*[…] Дзякуем за лісты. Пішыце троху часьцей. Не шкадуйце, калі спасьцігаць Вас будуць незадачы: гэта іспыт Вам, гэта падрыхтоўка ўздыму, набыцьцё спрактыкаваньня, перасьцярога і мабілізацыя. У жыцьцёвым рытме — гэта толькі часовы спад перад уздымам. Нават удзячны будзеце незадачы. Вы больш глыбока пазнаеце людзей, абставіны і саміх сябе.*

*А пройдзе хмара жыцьцёвая, зноў радуйцеся, красуйце, будзьце маладымі. Ніхай радасьць у Вас прыгае, дрыжыць, скача. Будзьце юнакамі ў час юнацтва. Працуйце сьвядома, для саміх сябе. Зразумейце галоўнае, сутнасць, і мэтад. Усё іншае будзе дасягнута логікай.*

*Беражыце здароўе. Сістэматычна лячыце малярыю ў Радзімкі, каб яна зноў не зьвярнулася вясною. А Ты, Славучок, сам сябе лячы; выпрацуй у сябе стаіцызм, супакоенасьць, раўнавагу. Ты — сам сабе лепшы доктар. Менш хадзі па чужых людзёх, больш сядзі ў хаце сваёй добрай і больш чытай, гамані аб лепшым з лепшымі».*

*«1.XII.49.*

*Мой любы Радзімка!*

*Вітаю Цябе з днём нараджэньня, дарагі сынуля!*

*Жадаю Табе перш-на-перш здароўя, каб не варочаліся да Цябе больш ні ангіны, ні малярыі, ні іншая якая хвароба.*

*Па-другое, каб ніколі не пакідалі Цябе жыцьцерадасьць, бадзёрасьць, каханьне да жыцьця, сакавітасьць і сьвежасьць успраманьняў.*

*І каб заўсёды любіў Ты працу, творчай каб была Твая праца, карыснай для краіны. Каб палюбіў Ты навуку для самой яе, а не для знадворных меркаваньняў — гонару, славы, стану.*

*[…] Будзь шчасьлівым, мой любы хлопчык, а калі спаткаюць Цябе няшчасьці, будзь мужным і стойкім у змаганьні.*

*Жадаю Табе поўнай сугучнасьці з часам, з найлепшымі ідэямі Вялікага Будаўніцтва.*

*Цалую Цябе, абыймаю, лашчу — і брата Твайго дзіўнага, харошага, нашага Славучку таксама.*

*Твой тата».*

*«15.XII.49. Ст. Раманаўская.*

*Мае харошыя, мае дарагія!*

*Пазнавайце мудрасьць навукі і мудрасьць жыцьця, арганізаванасьць быту, умельства скарыстоўваць разумна час як для працы, так і для адпачынку.*

*Усё гэта вельмі згадзіцца Вам у будучыні, ды і ў сучаснасьці.*

*Мы рады за Вас, за палепшаньне Вашага харчаваньня, быту, за больш сур'ёзныя, сапраўды студэнцкія, адносіны да заняткаў.*

*Беражыце толькі час, шкадуйце яго, ня бегайце дарма, без пільнай патрэбы, па знаёмых.*

*І лячыце Радзімку ад малярыі: не залечаная зараз бязсьледна гэта паганая хвароба прынясе Радзімку вялізарную шкоду. Ліквідуйце гэту погань да шчэнту. У нас усё добра, апрача*

*хваробы мамы, якая амаль ужо мінае. Цалую Вас пяшчотна, абыймаю, лашчу, абараняю ад усяго злога.*

*Ваш тата».*

У 1951 годзе Усяслаў заканчваў інстытут, і бацькоў хвалявала, куды хлопца размяркуюць на працу настаўнікам рускай мовы і літаратуры, пра што ішла паміж імі перапіска. Так, Гаўрыла з Раманаўскай пісаў у Маскву:

*«26.XI.50. Раманаўская.*

*Любыя нашы хлопчыкі, дарагія сынулі!*

*Учора і сёньня ў нас была хатняя нарада. І мы вырашылі грамадою, што Славучку ня трэба ехаць настаўнікам ні ў Малдавію, ні на Украіну.*

*Па-першае, рускую мову і літаратуру лепш выкладаць рускім. Па-другое, раз Славунька больш захапляецца дзіўнай лірыкай Лермантава і яго непараўнанай сьветлай прозай, чымся магутнай паэзіяй Пушкіна і найчысьцейшай, празрыстай прозай яго, — дык лепш і пачынаць Табе, наш родненькі хлопчык, ня з пушкінскай Малдавіі-Бесарабіі, не з краіны Палтаўскай сечы і ціхіх, поўных луною начэй, а з лермантаўскага паўночнага Каўказу, дзе пяшчотная прырода і зусім новы чалавек, зляпенец з шматлікіх рознанацыянальных продкаў, прыгожы, адчайны, вольны, сонечны, — чалавек, якога шукаў і любіў Лермантаў, жадаючы супроцьставіць яго Пячорыну».*

У 1951 годзе Радзім стаў ужо студэнтам-дыпломнікам, трэба было выбіраць месца дыпломнай практыкі. Гаўрыла хваляваўся за стан здароўя сына, бо апошнія гады той вельмі часта хварэў на ангіну, якая дала ўскладненне на сэрца. Таму бацька раіў сыну паехаць на працу ў больш цёплыя і спрыяльныя па клімаце раёны Прычарнамор’я ці Перадкаўказзя. Але самая высокая яго мара — каб сын паехаў на Беларусь. Калі бацька пакуль не можа працаваць на Радзіме, дык хоць сын няхай паедзе туды. Ён напісаў шэраг лістоў у розныя геалагічныя ўстановы Беларусі, а затым і сын паслаў туды лісты. Але ніякага адказу

не было… А сына тым часам настойліва запрашалі паехаць у Сібір, у тым ліку і такі выдатны вучоны, як член-карэспандэнт АН СССР К. Чэпікаў.

Вось што пісаў пра свае думкі і надзеі Гаўрыла:

*«23.III.5l.*

*Любыя мае хлапчаняты!*

*Стан здароўя Радзімкі і Вашае мамы непакоіць мяне вельмі. Аднавіць іх здароўе — гэта найпаважнейшая мэта сёлетняга году, якой трэба падпарадкаваць усё іншае.*

*Вось чаму я настойліва супроць практыкі Радзімкі на Абі. Табе, Радзімка, патрэбна сонейка, мора, ненапруджаная і кароткая праца ўлетку — з найбольшым і сыстэматычным адпачынкам, павольнаю хадою, роўным рэльефам. Сёлета Ты мусіш адпачываць як ніколі. Ты мусіш змагацца з хваробамі за самога сябе. Было б надта добра трапіць Табе сёлета ўвосень у дом адпачынку на Чорнамор'і, пад'есьці досыць фруктаў, прагрэцца, загартавацца.*

*Сёлетні год павінен стаць для Цябе пераломным — трэба спыніць усякія захворваньні. А лягчэй гэта зрабіць, калі Ты трапіш на поўдзень. Клопат аб Тваім, Радзімка, здароўі кіруе нашым вырашэньнем — параіць Табе ня ехаць на Обь».*

*«26.III.51. Раманаўская.*

*Любыя хлопчыкі!*

*Чэпікаў добры дасьледчык і харошы чалавек, і ён, канешне, шмат Табе дапаможа. Але думка, што Ты ня скора трапіш на Беларусь, гложа мяне. Ня згодзен я ні з довадамі мамы, ні з меркаваньнямі Самуся Калясьнёва, не падзяляю іх асьцярожнасьці… А таму зраблю яшчэ адну апошнюю спробу накіраваць Цябе на Беларусь: сёньня-ж напішу аб Табе ліст сакратару ЦК КП(б)Б тав. Патолічаву. Калі і гэта не дапаможа, ну тады Ты зусім вольны, і я нічога не буду шкадаваць.*

*Але зразумейце, мае любыя хлапчаняты, што адмаўленьне ў магчымасьці працы Радзіка на Беларусі — гэта поўнае разбурэньне маіх лятуценьняў… Я не магу з гэтым згадзіцца, пакуль не зраблю апошнюю спробу.*

*Дык Ты, Радзімка, афармляйся сабе да Чэпікава, але ведай аб маёй апошняй спробе…*

*Ваш тата».*

16 красавіка Гарэцкаму быў адпраўлены адказ за подпісам загадчыка аддзела цяжкай прамысловасці ЦК КП(б)Б, у якім паведамлялася, што «…планам размеркавання Міністэрства вышэйшай адукацыі выдзялення маладых спецыялістаў скончыўшых інстытут нафтавай прамысловасці ў 1951 г., для Беларускай ССР не прадугледжана».

*«10.IV.51.*

*Любыя мае хлопчыкі!*

*Як-раз сёньня, у дзень майго нараджэньня, прыйшла ласкавая маміна вітальная тэлеграма, дзіўны ліст і харошы, ласкавы ліст Радзімкі — № 9. Ось дзякуй Табе, мой дарагі сынуля, за пацеху, за мары, за лятуценьні. Ніхай бы яно так было! А мо і будзе? Пасылаю гэты Твой ліст маме. Такую вялікую радасьць прынесьлі сёньняшнія лісты ў нашу хату! Малайцы, і мама, і Радзімка!*

*Тэлеграма Славіка спачатку засмуціла нас. А потым мы агоўталіся. Бо Калужская вобласьць добрая і па клімату, і па людзёх, і па блізкасьці да Масквы. Можна б было Славучку паступіць у завочную асьпірантуру, калі гэта магчыма. Бяры, Славунька, толькі мінімум лекцый, каб мець больш вольнага часу на асьпіранцкія заняткі. Мы Табе будзем дапамагаць матэр'яльна, усебакова. Ну, а калі і ў завочную асьпірантуру Табе трапіць нельга, — ну, тады займайся сам, самастойна, па асьпіранцкай праграме, па ўсіх праграмах, якія рэгулярна дастаўляць Табе папрасі каго-небудзь з таварышоў.*

*Не сумуй, Славунчык, Ушынскі, Макарэнка, Песталоццы асьпірантамі ня былі, Талсты таксама. Працуй сам над сабою і над сваёй любай, педагагічнай працай, як працавалі яны. І радасьць будзе з Табою неадлучна.*

*Ну, а з Табою, мілы, любы сібірак, давай ужо памірымся, — хоць я і да гэтага часу супраць Сібіру, а за Краснадарскі край, поўдзень, Украіну, калі ўжо нельга трапіць на Беларусь.*

*Але за Твой цудоўны ліст — згодзен часткова і на Сібір — толькі беражы Ты там свае здароўе!*

*Цалуем Вас, абыймаем, лашчым, любім.*

*Буля, дзеда, тата».*

*«30.IV.51.*

*Дарагі мой, любы Славучок!*

*Кожнаму бацьку было б вялікім шчасьцем атрымаць ад сына такі выключны ліст, які напісаў Ты мне, — для мяне-ж гэта шчасьце падвойнае. Рад за Цябе, мой сынуля, ганаруся Табою, тваімі думкамі, жаданьнямі, імкненьнем, настроямі. Ідзі сваёй абранаю любаю сьцяжынкаю, ніхай ніколі не згасае зорка наперадзе — і лягчэй Табе будзе ісьці па жыцьцёваму шляху, часта цярністаму, і ня стомішся Ты, нават калі мэта Твая ўсё роўна заставацца будзе далекай, недасяжнай».*

А. Л. Яншын — тады толькі кандыдат геолага-мінералагічных навук, а пазней акадэмік, Герой Сацыялістычнай працы, выдатны вучоны сучаснасці[1], — з якім Радзім пазнаёміўся ў час летняй практыкі ў Казахстане, запрасіў яго на працу ў Інстытут геалагічных навук Акадэміі навук СССР, адну з найлепшых геалагічных навуковых устаноў краіны, а можа, і свету. Параіўшыся з бацькамі, сын даў згоду.

---

[1] Гарецкий Р. Г. Дорогой мой учитель и друг. — Москва: Наука, 2005.

Кіраўнік геалагічнага сектара інстытута, выдатны вучоны Мікалай Сяргеевіч Шацкі, які добра ведаў Г. І. Гарэцкага, адразу даў згоду на працу Радзіма, сказаўшы: «Я веру ў спадчыну: з сына такога бацькі павінен быць толк».

У 1955 годзе Г. Гарэцкага прызначылі на працу у філіял Гідрапраекта СССР, а ў 1956 годзе канчаткова перавялі туды. Гэта ўстанова знаходзілася ў горадзе Дзедаўск, прыблізна за 40 км ад Масквы.

Нягледзячы на цікавую працу, якой, як заўсёды, Г. Гарэцкі аддаваў увесь свой імпэт, дастаткова някепскі дабрабыт і спакой сям'і, думкі ўвесь час вярталі яго да Беларусі. Калі ж здзейсніцца мара ўсяго жыцця і задасца трапіць на Беларусь, працаваць для Радзімы? Ён вёў на гэтую тэму перапіску з Якубам Коласам, акадэмікам Паўлам Рагавым — сваім даўнім сябрам — і іншымі, якія прыкладалі шмат намаганняў, каб Гарэцкаму дазволілі вярнуцца на працу ў Акадэмію навук, але пакуль быў адмоўны адказ з ЦК КПБ.

Ды вера жыла і ніколі не пакідала Гаўрылу. На адбітках сваіх прац якія прэзентаваў сыну, ён пісаў: *«Любаму майму сынулі Радзіму — у знак будучай яго працы на гонях беларускае культуры і навукі»*, *«Любаму майму сынулю Радзімку — чарговы крок набліжэння да родных пastoраў Беларусі — ад бацькі»*.

Моцны станоўчы ўплыў бацькі і яго магутнай асобы сыны адчувалі не толькі да канца яго жыцця, але і ўвесь час пазней. Не ўсё, пра што марыў Гаўрыла Гарэцкі, здзейснілася. Жыццё і яго ўдзельнікі ўносілі свае шматлікія карэктывы. Старэйшы сын на ўсё жыццё застаўся ў Маскве, дзе стаў выдатным букварыстам і педагогам, членам-карэспандэнтам Расійскай акадэміі навук, прафесарам, членам Саюза журналістаў Расіі, шматгадовым галоўным рэдактарам часопіса «Начальная школа». Яго калегі і вучні пасля яго смерці (25.04.2009) выдалі

кнігу «Опережая время. Избранные труды В. Г. Горецкого, воспоминания о его жизни и творчестве» (М.: Начальная школа и образование, 2010. 288 с.).

Гаўрылу Гарэцкаму ўсё ж удалося вярнуцца на сваю любую Бацькаўшчыну, дзе ён апошнія дваццаць гадоў жыцця апантана працаваў і лічыў іх самым шчаслівым часам. Асабліва яму было радасна, што ён працуе ў адным інстытуце са сваім малодшым сынам, які і да гэтых дзён ўжо на працягу амаль 45 гадоў працуе ў НАН Беларусі.

*2015*

*Чэрвень 2014 — красавік 2015 г., Менск*

# Першы прэзідэнт Акадэміі навук суверэннай Беларусі

Прэзідэнт АН БССР Мікалай Аляксандравіч Барысевіч вырашыў запрасіць на працу ў Акадэмію навук беларусаў, якія па розных прычынах аказаліся ў іншых гарадах Савецкага Саюза і сталі дастаткова вядомымі сапраўднымі вучонымі. У снежні 1971 года ў Мінск прыехалі тры такія беларусы: загадчык аддзела экалагічнай фізіялогіі водных жывёл Інстытута АН УССР імя А. Кавалеўскага (г. Севастопаль), доктар біялагічных навук (1970), вядомы гідрабіёлаг Л. М. Сушчэня; загадчык лабараторыі Сібірскага фізіка-тэхнічнага інстытута, прафесар, загадчык кафедры Томскага ўніверсітэта, доктар тэхнічных навук, вядомы вучоны ў галіне тэхнічнай кібернетыкі і інфарматыкі А. Д. Закрэўскі; старшы навуковы супрацоўнік Геалагічнага інстытута АН СССР (г. Масква), доктар геолага-мінералагічных навук (1969), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1969), геолаг Р. Г. Гарэцкі.

М. А. Барысевіч патурбаваўся і наконт кватэр для новых супрацоўнікаў Акадэміі — праз ЦК КПБ у нядаўна пабудаваным доме на вул. Каліноўскага змясціліся іх сем'і ў адным пад'ездзе: я на 3-м паверсе, нада мной Л. Сушчэня, а яшчэ вышэй — А. Закрэўскі.

Л. М. Сушчэню прызначылі загадчыкам Аддзела заалогіі і паразіталогіі. Я стаў загадчыкам-арганізатарам Аддзела геатэктонікі Інстытута геахіміі і геафізікі АН СССР, А. Закрэўскі — загадчыкам лабараторыяй Інстытута тэхнічнай кібернэтыкі АН БССР. Ужо ў 1972 годзе ўсіх трох абралі членамі-карэспандэнтамі АН БССР: Сушчэню — па спецыяльнасці «заалогія», Закрэўскага — «тэхнічная кібернетыка», мяне — «геатэктоніка».

Пасля выбараў прэзідэнт АН Украіны В. Е. Патон запрасіў Л. М. Сушчэню на пасаду кіраўніка Інстытута гідрабіялогіі, што для Леаніда Міхайлавіча вельмі было спакусліва, але М. А. Барысевіч не згадзіўся з гэтым.

Хутка мы пазнаёміліся і паступова між намі ўзніклі адносіны сімпатыі і сяброўства. Сушчэня быў вельмі добразычлівы, прыветлівы, інтэлігентны, спакойны, упэўнены ў сабе чалавек, поўнасцю адданы навуцы. Яго жонка, Ніна Мікалаеўна Хмялёва — таксама навуковы супрацоўнік, для якой навука — галоўнае ў жыцці. Яна была прыгожай пышнай жанчынай з густымі цёмнымі закручанымі касой валасамі і вельмі выразнымі зеленавата-шэрымі вялікімі вачыма. Ад яе сыходзіла моцная аўра энергіі, мэтанакіраванасці, парывістасці.

Апошні мінскі перыяд жыцця і дзейнасці Л. М. Сушчэні і маёй праходзіў паралельна і ў значнай ступені быў падобным, хаця і былі разыходжанні ў поглядах, асабліва ў час перабудовы і пазней.

Перыядычна ў Сушчэні па розных прычынах збіраліся сябры, і яны падоўгу, часта да паловы ночы весяліліся — спявалі, танцавалі. Адбывалася так, як у вядомай песні «Эй, вы там, наверху!» Пугачовай. Нярэдка тое ж здаралася і ў мяне. Але мы ніколі не крыўдзіліся адзін на аднаго, разумелі жаданні нашых тады маладых патрэб. Наадварот, некалькі разоў яны запрашалі мяне з жонкай на дзень нараджэння Леаніда Міхайлавіча, а мы іх — на мой.

Дзякуючы падтрымцы Прэзідыума АН БССР і асабіста яго Прэзідэнта, Л. Сушчэня наладзіў працу аддзела заалогіі, значна пашырыў яго кадры, праводзіў семінары, абароны дысертацый, падтрымаў экспедыцыйныя работы ў розных раёнах не толькі БССР, але і Саюза, і г. д. Тым жа займаўся і я, ствараючы моцны аддзел геатэктонікі. Л. Сушчэня быў прызначаны старшынёй Беларускага нацыянальнага камітэта па праграме ЮНЕСКА «Чалавек і біясфера», а я стаў яго намеснікам. Ён узначаліў Навуковы савет АН БССР па праблемах біясферы, а я — членам бюро. Л. Сушчэня прызначаны старшынёй навуковага савета АН БССР па праблеме «Рацыянальнае карыстанне, узнаўленне і ахова рэсурсаў водных і наземных жывёл»…

Леанід Сушчэня і я ўдзельнічалі ў многіх арганізацыях і мерапрыемствах АН СССР. Ён быў абраны членам Савец-

кага камітэта МАБ — кіраўніком Праекта № 5 Праграмы ЮНЕСКА «Воздействие человека на экосистемы внутренних водоёмов и переувлажнённых земель». Мяне абралі членам Савецкага камітэта па Міжнароднай праграме геалагічнай карэляцыі (МПГК) і навуковым кіраўніком савецкай часткі праекта № 86 МПГК «Усходне-Еўрапейская платформа (паўднёва-заходні край)», а таксама членам Камісіі па міжнародных тэктанічных картах АН СССР, членам Міжведамаснага тэктанічнага камітэта АН СССР (а ў яго рамках — старшынёй Камісіі па тэктоніцы Беларусі і Прыбалтыкі).

У 1977 г. нам прапанавалі кватэры ў новым доме, пабудаваным дзеля супрацоўнікаў АН БССР, і мы зноў сталі суседзямі, пераехаўшы з вул. Каліноўскага на вул. Кульман: Л. Сушчэня і А. Закрэўскі — у пад'езд 3, а я ў пад'езд 4.

У 1978 годзе Л. Сушчэня ў складзе дэлегацыі АН СССР камандзіраваны на XIV Генеральную асамблею Міжнароднага Саюза аховы прыроды і прыродных рэсурсаў (г. Ашхабад), а ў 1979 (да яго 50-годдзя) яму прысвоена ганаровае званне заслужаны дзеяч навукі БССР, стаў акадэмікам-сакратаром аддзялення біялагічных навук АН БССР, абраны віцэ-прэзідэнтам Усесаюзнага гідрабіялагічнага таварыства пры АН СССР. У гэтым жа годзе ён быў абраны членам-карэспандэнтам АН СССР па спецыяльнасці «гідраэкалогія».

Троху раней у 1977 г. мяне абралі акадэмікам АН БССР па спецыяльнасці «геалогія» і прызначылі дырэктарам Інстытута геахіміі і геафізікі. Прэзідыум АН БССР вырашыў у канцы 70-х гадоў на базе Аддзела заалогіі стварыць Інстытут заалогіі і прызначыць дырэктарам Л. М. Сушчэню. Але выйшла больш складана, аб чым ён пазней паведаміў у сваёй брашуры «Автобиография-воспоминание»[1]. Далей прывяду ўспаміны Леаніда Міхайлавіча пра тыя падзеі.

[1] Сущеня Л. М. Автобиография-воспоминание (к 75-летию со дня рождения) — Мінск: Мэджик Бук, 2004. — 60 с.

*«Были подготовлены все обоснования, вопрос согласован во всех инстанциях, принято решение Президиума АНБ, отправлено в Президиум АН СССР, где тоже было поддержано. Осталась последняя инстанция Госкомитет СССР по науке и технике. Его решение было основанием для окончательного решения вопроса. Подошел срок, и меня вызвали на Коллегию ГКНТ. По удостоверению член-корр. АНБ пускали в здание без пропуска. Подошел к залу заседания, в коридоре перед ним толпились такие же ходоки, как и я. Дождался вызова. Вхожу. За длинным столом сидят члены коллегии во главе со знаменитым председателем Владимиром Алексеевичем Кириллиным. Объявляют вопрос. Меня приглашают за маленькую трибуну сбоку от председателя. Он объявляет: "Товарищ Сущеня, у вас три минуты. Докладывайте". Я начал излагать основные факты, но минуты через две Кириллин перебивает и говорит: "Товарищи члены Коллегии, вот тут мне аппарат передал справку: в АНБ уже имеется восемь биологических институтов, нужен ли нам там девятый институт?"*

*— Нет, — раздалось несколько голосов, — не нужен.*

*— Садитесь, тов. Сущеня, — сказал Кириллин.*

*На этом вопрос был исчерпан. Я вернулся в Минск и доложил результаты Н. А. Борисевичу. "Подождем", — сказал он. Ждать пришлось не очень долго. Через несколько месяцев Кириллин оставил свой пост и на смену ему пришел Г. И. Марчук. Н. А. Борисевич был в хороших отношениях с Гурием Ивановичем, позвонил ему, и решение было принято без моего повторного вызова. Так в 1980 году Отдел зоологии превратился в Институт зоологии АН БССР».*

Як кіраўнікі асобных навуковых арганізацый, мы былі наменклатурай ЦК КПБ і таму часта мелі справы з яго аддзелам навукі і асабліва з інструктарамі. Вось што ўспамінае Л. М. Сушчэня ў кнізе пра Пятра Пятровіча Прахарэнку[1] пра той час.

[1] Сущеня Л. М. Пётр Петрович Прохоренко в моей жизни // Академик Пётр Прохоренко. — Минск: Четыре четверти, 2012. — С. 49–52.

*«В 1977 г. Петр Петрович перешёл работать инструктором отдела науки ЦК КПБ. У меня появилась вторая опорная фигура в этом высоком органе. В отделе работал также В. И. Прокошин. Все они — выходцы из академии наук. Отношение к академии было очень доброжелательным. Этому способствовал и общий климат в ЦК КПБ при руководстве первого секретаря П. М. Машерова, который очень уважительно относился к академии наук.*

*Но не только работой жив человек. Нужна разрядка, нужен отдых. Времени для этого мало. При Дворце водного спорта на улице Сурганова была, а возможно, и теперь есть, неплохая сауна с выходом в открытый бассейн. Мы каждую субботу стали ходить в баню. Подобралась хорошая компания, человек восемь. В неё, кроме нас с Петром Петровичем, входили Р. Г. Гарецкий, В. К. Савченко, все будущие академики. Наслаждались водными процедурами, сидели в парилке, друг друга массажировали. Выходили обновленными, даже идти по земле становилось легче».*

80-я гады былі вельмі напружаныя і эфектыўныя ў нашых навуковых і навукова-арганізацыйных справах. Інстытут заалогіі і Інстытут геахіміі і геафізікі сталі аднымі з лепшых у АН БССР, шырока вядомымі не толькі ў Беларусі, але ва ўсім Савецкім Саюзе і за мяжой. На міравым узроўні працаваў шэраг навуковых школ па розных напрамках біялагічных і геалагічных навук. Нам давялося ўдзельнічаць і ўзначальваць многія праекты, канферэнцыі, у тым ліку ўсесаюзныя і міжнародныя, неаднаразова выязджаць у камандзіроўкі за мяжу.

У 1980 г. Л. М. Сушчэня быў абраны акадэмікам АН БССР па спецыяльнасці «заалогія», атрымаў вучонае званне прафесара па спецыяльнасці «гідрабіялогія». Пазней стаў прэзідэнтам Усесаюзнага гідрабіялагічнага таварыства пры АН СССР, атрымаў памятны медаль у сувязі з 10-годдзем стварэння Савецкага камітэта па праграме ЮНЕСКА «Чалавек і біясфера» і ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў. Я яшчэ ў 1978 г.

стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР, заслужаным дзеячам навукі, у 1980 г. прысвоена званне прафесара па спецыяльнасці «геатэктоніка», а на наступны год узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, узнагароджаны медалём Міністэрства геалогіі СССР «За заслуги в разведке недр. В ознаменование 100-летия образования службы», працаваў прафесарам геаграфічнага факультэта БДУ, членам Савецкага камітэта міжнароднай праграмы «Літасфера».

У 1983–1986 гг. Л. М. Сушчэня і я былі членамі рэдкалегіі пяцітомнай «Энцыклапедыі прыроды Беларусі». Гэтае выданне было ўнікальным і настолькі выдатным, што шэраг найбольш актыўных аўтараў і членаў рэдкалегіі вылучылі на Дзяржаўную прэмію БССР. Апрача ініцыятара стварэння энцыклапедыі Якава Якубоўскага, у спіс прэтэндэнтаў былі ўключаны Л. М. Сушчэня, які ўзначальваў матэрыялы па жывёлах, В. І. Парфёнаў — раслінны мір, я — геалогію. Сушчэня і я ў той час былі членамі Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне навукі і тэхнікі. Калі на камітэце абмяркоўвалася наша пытанне, мы на гэты час пакінулі залу. Аказалася, што выйшла пастанова аб тым, што Дзяржаўную прэмію БССР можна прысудзіць толькі адзін раз. Сярод калектыву прэтэндэнтаў ужо ёсць лаўрэаты: Парфёнаў (1972), Якубоўскі (1976), Гарэцкі (1978). Так мы перашкодзілі Леаніду Міхайлавічу атрымаць Дзяржаўную прэмію БССР, і яму на жаль, так і не давялося стаць лаўрэатам Дзяржаўных прэмій, хаця шэраг яго прац заслугоўвалі такой адзнакі.

1986 г. стаў годам вялікай катастрофы — аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Л. М. Сушчэня стаў членам аператыўнага штаба АН БССР па ацэнцы вынікаў аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі. Як мы, так і супрацоўнікі нашых інстытутаў, прымалі актыўны ўдзел у той нялёгкай справе. Л. М. Сушчэня разам з М. М. Пікулікам надрукаваў манаграфію «Животный мир и радиация» (1991). У 1989 г. ён быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга «за активное участие в

ликвидации последствий аварии на Чернобыльской атомной станции». Наступствы Чарнобыля адбіліся і на нашым здароўі — у мяне з'явіўся гіпертэрыоз, і я вымушаны пастаянна прымаць таблеткі, а Леанід Міхайлавіч нават рабіў аперацыю на шчытападобнай залозе.

У снежні 1990 г. Л. М. Сушчэня быў абраны правадзейным членам (акадэмікам) АН СССР па спецыяльнасці «экалогія». Яшчэ ў 1987 г. мяне вылучылі кандыдатам у акадэмікі АН СССР па спецыяльнасці «тэктоніка, сейсмалогія» (2 вакансіі). Тады як раз збіраліся выбіраць і дырэктара Геалагічнага інстытута АН СССР. Калі я дам згоду заняць гэтую пасаду, абяцалі, што мяне абавязкова выберуць у першую чаргу. Але я не мог схлусіць, што не збіраюся пераязджаць у Маскву. Некаторыя казалі, што дарма так сказаў. Тады вырашылі на адно месца выбраць В. Я. Хаіна — выдатнейшага вучонага шырокага профілю, а на другое — мяне. Але ў час выбараў акадэмік-сакратар нашага Аддзялення геалогіі, геафізікі, геахіміі і горных навук нечакана абвясціў, што другая адзінка дадзена спецыяльна пад В. Кейліса-Борака. Калі яго не выберуць, дык адзінка зусім прападзе. Я тады не дабраў 2 галасы. У сакавіку 1994 г. мяне выбралі ўжо ў Расійскую акадэмію навук, але не правадзейным, а замежным членам.

Яшчэ ў 1979 г. да 50-годдзя АН БССР спецыяльным загадам ЦК КПБ за подпісам П. М. Машэрава, у якасці выключэння, быў выдзелены досыць вялікі масіў зямлі на прыгожым крутым беразе Дубраўскага вадасховішча (недалёка ад Раўбіч) для дач супрацоўнікаў Акадэміі, і было створана садоўніцкае таварыства «Навука». У 1980–1990-я гады тут былі пабудаваны аднатыпныя двухпавярховыя дамы, якія паступова пачалі асвойваць іх гаспадары. Мы зноў аказаліся ў суседніх дачах. Першымі актыўнымі «садаводамі» былі Аркадзій Закрэўскі і яго вельмі працавітая разумная жонка Людміла Васільеўна. Я далучыўся да дачнага жыцця толькі ў пачатку 1990-х гадоў, і мы разам з маёй жонкай Галяй пасябравалі з Закрэўскімі. Леанід Сушчэня

чамусьці амаль зусім не ездзіў на дачу, дзе вельмі любіла быць Ніна Мікалаеўна Хмялёва. Яна не толькі патроху ўпарадкоўвала памяшканне і саджала розныя экзатычныя дрэвы і кусты, але і рабіла замеры ўсялякіх паказчыкаў экалагічнага стану нашых дачных участкаў, дзялілася з намі вынікамі, за што мы былі ёй вельмі ўдзячны, ведаючы ад яе пра зусім добрую экалогію. Нярэдка мы яе падвозілі на дачу і з дачы дадому, а ў працяглыя летнія вечары Ніна Мікалаеўна прыходзіла да нас, і мы ўтрох, частуючыся прыемным віном, размаўлялі на самыя розныя тэмы, у тым ліку слухаючы яе апавяданні пра іх сустрэчу, жыццё і працу з Леанідам Міхайлавічам.

У самым канцы 1950-х — пачатку 1960-х гадоў яна працавала ў Заалагічным інстытуце АН СССР у Ленінградзе, а ён — у Севастопальскай марской біялагічнай станцыі АН СССР (з 1962 г. Інстытут біялогіі паўднёвых мораў АН УССР), куды пераехаў з Мінска разам з жонкай Верай і дачкой. У той час у Мінску кіраўнік Сушчэні прафесар Г. Г. Вінберг арганізаваў канферэнцыю «Первичная продукция морей и пресных вод». Тут яны і пазнаёміліся. Хмялёва зрабіла на яго такое ашаламляльнае ўражанне, што як пазней мы жартавалі «Сушчэня ад Хмялёвай зусім захмялеў». Ніна Мікалаеўна ў адну з нашых вячэрніх сустрэч успамінала, як Леанід Міхайлавіч з таго часу проста закідаў яе поўнымі кахання лістамі, якіх у яе набралася пад некалькі соцень.

Леанід Сушчэня амаль на месяц пайшоў у цікавы навуковы рэйс на НДС «А. Кавалеўскі» у Міжземнае мора. З Верай адносіны зусім сапсаваліся і, нягледзячы на тое, што нарадзілася другое дзіця, яны развяліся. Ужо 28 снежня 1961 г. у ЗАГСе Выбаргскага раёна быў зарэгістраваны шлюб паміж Сушчэнем і Хмялёвай. А тут падышоў час Леаніду Міхайлавічу ісці ў рэйс на караблі «Михаил Ломоносов» па даследаванні трапічнай зоны Атлантычнага акіяна.

Амаль праз год Хмялёва пераехала ў Севастопаль, дзе працавала з Сушчэнем у адной лабараторыі. У пачатку 1963 г. у

іх нарадзілася дачка Вольга. Хмялёва настолькі глыбока была адданай навуцы, што іншыя бакі жыцця яе цікавілі значна менш. Таму сваю дачку яны аддалі маці Ніны Мікалаеўны ў Ленінград. У бабулі Вольга расла і ўзгадоўвалася аж да 8-га класа.

Ніна Мікалаеўна з удзячнасцю ўспамінала савецка-кубінскую марскую экспедыцыю ў Карыбскае мора і Мексіканскі заліў, бо гэты час быў адным з самых шчаслівых у іх жыцці, калі былі найцікавейшыя навуковыя даследаванні і жылі ў Гаване ў адным нумары гасцініцы, а затым у вялікім асабняку былога кубінскага дыктатара Батысты. У 1964 годзе ЦК КПСС і АН СССР вырашылі арганізаваць такую экспедыцыю. Начальнікам экспедыцыі быў прызначаны Л. М. Сушчэня як вядомы вучоны-гідрабіёлаг і добры арганізатар. Перад ад’ездам ён даведаўся, што ўдзельнікам экспедыцыі будуць плаціць на Кубе песа, які роўны долару. Сушчэня на гэта адказаў: «Но вы не хуже меня знаете, что песо далеко не доллар». Праз некаторы час яму аб’явілі: «Товарищ Сущеня, вы отстранены от должности начальника экспедиции. Вам предъявлено обвинение в “оскорблении валюты социалистической страны”». Але сітуацыя зноў змянілася. Вось як успамінае сам Леанід Міхайлавіч пра сваю размову ў аддзеле ЦК КПСС: *«“Поедете начальником берегового отдела советско-кубинской экспедиции. Желаю успеха”. Через пару дней я уже летел через океан в Гаванну. Всё закончилось благополучно, но я запомнил, чего может стоить неосторожно оброненное слово»* (Автобиография-воспоминание. 2004. С. 38). Пазней я здзіўляўся, наколькі Л. Сушчэня быў заўсёды вельмі асцярожны і стрыманы ў сваіх выказваннях і зразумеў, наколькі моцны ўплыў зрабіў на яго згаданы ім выпадак.

На вялікі жаль, Ніна Мікалаеўна Хмялёва цяжка захварэла, да апошняга дня змагалася з гэтай навалай і старалася працаваць, але ва ўзросце 68 гадоў пакінула нас назаўсёды. Для Л. М. Сушчэні гэта была жудасная згуба. Мы ўсе разам паха-

валі яе на Паўночных могілках, потым былі памінкі з цёплымі і шчырымі ўспамінамі: яна ўнесла так многа ў навуку, умела кіравала лабараторыяй у Інстытуце заалогіі, як доктар біялагічных навук і прафесар гідрабіялогіі ўзгадавала 12 кандыдатаў навук. Імя яе назаўсёды застанецца ў гісторыі навукі, а ў сэрцы Леаніда Міхайлавіча яна будзе жыць як светлы, яскравы, самы блізкі і любы чалавек.

* * *

Набліжалася перабудова. Апошнім прэзідэнтам Акадэміі навук, які быў абраны пры надзвычайным ціску ЦК КПБ на членаў акадэміі, быў акадэмік У. П. Платонаў, які змяніў М. А. Барысевіча. Але ён не вытрымаў цяжкасці часу станаўлення незалежнасці Беларусі, нечакана ў 1991 годзе з’ехаў за мяжу ў ЗША і Канаду. Акадэміяй кіраваў віцэ-прэзідэнт акадэмік А. В. Сцепаненка. У канцы красавіка 1992 года падышоў час выбараў новага прэзідэнта і ўсяго кіраўніцтва Акадэміі навук Беларусі, што, як і раней, адбывалася на сесіі Агульнага схода Акадэміі.

За гэты час у краіне адбыліся вельмі значныя перамены. У 1989 годзе ў Вільні прайшоў устаноўчы з’езд БНФ, створана Таварыства беларускай мовы, у 1990 годзе Вярхоўны Савет БССР прыняў закон аб мовах (адзіная дзяржаўная — беларуская), Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце БССР, створана Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». У 1991 годзе Вярхоўны Савет прыняў пастанову аб часовым прыпыненні дзейнасці КПБ-КПСС, наданні Дэкларацыі пра дзяржаўны суверэнітэт БССР статус канстытуцыйнага закона. У верасні гэтага года Вярхоўны Савет Беларусі пастанавіў змяніць назву БССР на Рэспубліку Беларусь, зацвердзіў дзяржаўны герб Пагоня і сцяг — бела-чырвона-белы, а 8 снежня кіраўнікі Беларусі, Расіі і Украіны падпісалі ў Віскулях (Белавежская пушча) пагадненне аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў (СНД).

Перад тым, як абвесціць пра выбары кіраўніцтва АН Беларусі па звычцы ўзгадняць тэрмін, колькасць прэтэндэнтаў і кандыдатуры з ЦК КПБ і Савета Міністраў звярнулася да тагачаснага кіраўніка дзяржавы Станіслава Шушкевіча і прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча. Тыя нечакана адказалі, што гэта справа Акадэміі навук, калі і каго выбіраць. Таму тыя выбары былі першыя і, як пазней аказалася, адзіныя поўнасцю вольныя і дэмакратычныя.

Як заўсёды ў час выбараў вельмі актыўны ўдзел у іх арганізацыі прымаў М. А. Барысевіч, які клапаціўся, каб кіраўнікамі Прэзідыума Акадэміі, яе інстытутаў і іншых арганізацый былі годныя вучоныя, і якія былі б даволі паслухмяныя да яго прапаноў. У гэты раз ён звярнуў увагу на Л. М. Сушчэню і мяне. Пачаў нас інтэнсіўна апрацоўваць (кожнага паасобку), каб мы далі згоду на вылучэнне ў прэзідэнты АН Беларусі. Праз некаторы час мы даведаліся пра гэта. Мы не дужа імкнуліся займаць такую пасаду, але Барысевіч так моцна націскаў і пераканаўча казаў пра неабходнасць згадзіцца для захавання АН Беларусі. Мы сустрэліся і дамовіліся, што той, хто стане прэзідэнтам прапануе ў віцэ-прэзідэнты другога. Да апошняга дня Барысевіч агітаваў кожнага з нас, быў вельмі супраць, калі я сказаў, што гатовы адмовіцца ад вылучэння на карысць Сушчэні. На конкурс вылучылі чатырох акадэмікаў (па алфавіце): Р. Г. Гарэцкі, А. П. Дастанка, І. І. Ліштван і Л. М. Сушчэня. Кожны з іх выступіў з праграмай сваёй будучай дзейнасці. Пасля галасавання абвясцілі, што ўжо ў першым туры найбольш галасоў атрымаў Л. М. Сушчэня, які і стаў прэзідэнтам АН Беларусі. Як пазней я даведаўся, што галоўную ролю тут адыграў Барысевіч, які ўжо ў апошні дзень перад выбарамі вырашыў гэтае пытанне на карысць Сушчэні, аб чым дапазна званіў сваёй камандзе (не менш 75 чалавек) членаў акадэміі, у асноўным фізікам і матэматыкам. Я думаю, што такі вынік найлепшы, і сярод прэтэндэнтаў найбольш годным менавіта быў Л. М. Сушчэня, у гэтым мы ўсе пераканаліся ў далейшым.

Ён быў не толькі выдатным вучоным, але спакойным, вытрыманым, асцярожным, здольным да кампрамісаў, разумным у рашэннях арганізатарам навукі. Таму я таксама быў задаволены вынікамі выбараў і шчыра павіншаваў яго.

На наступны дзень Л. М. Сушчэня ў віцэ-прэзідэнты прапанаваў мяне, у галоўнага вучонага сакратара — А. М. Ганчарэнку, які добра выконваў гэтую пасаду ў мінулым складзе Прэзідыума АНБ, што вельмі важна было і дзеля пераемнасці. Не хапала спецыяліста ў галіне фізіка-тэхнічных навук. Тады прапанавалі заняць пасаду віцэ-прэзідэнта А. В. Сцепаненку, тым больш, што ён меў такі значны вопыт у папярэднім Прэзідыуме акадэміі. Але ён катэгарычна адмовіўся, сказаўшы, што не хоча быць на такой пасадзе ў той час, калі, безумоўна, Акадэмія навук Беларусі будзе ліквідавана. Такія думкі зразумець было лёгка, бо сітуацыя ў краіне была вельмі цяжкая. Распад Савецкага Саюза прывёў да значных эканамічных і палітычных праблем. Суверэнная Беларусь мела процьму разнастайных праблем, яе станаўленне ішло нялёгка. Шмат разбуральных працэсаў наляцела і на Акадэмію навук. Сістэма фінансавання абрушылася. Навуковыя распрацоўкі згубілі заказчыкаў. Пачалася «ўцечка мазгоў». Шмат навуковых супрацоўнікаў мянялі сферу дзейнасці, моладзь не ішла ў навуку. Многія лепшыя спецыялісты мігрыравалі за мяжу. Цяжка было набываць навуковае абсталяванне, кнігі, часопісы. Другім віцэ-прэзідэнтам стаў генеральны канструктар па аўтамабільнай тэхніцы РБ Міхаіл Сцяпанавіч Высоцкі.

Наша Бюро Прэзідыума, якое складалася ўсяго з 4 чалавек, было вельмі працаздольным, дэмакратычным. Цудоўнай памочніцай у нас была Галіна Мікалаеўна Філімонава. У Прэзідыум уваходзілі пяць акадэмікаў-сакратароў аддзяленняў навук, намеснік прэзідэнта — кіраўнік справамі В. В. Максіменка, тры саветнікі (А. С. Махнач, І. Я. Навуменка, П. І. Яшчарыцын), а таксама ганаровы прэзідэнт АН Беларусі Барысевіч. Улічваючы яго вялікі ўклад у стварэнні АН БССР, тады вырашылі надаць

яму такую пасаду. Дарэчы М. А. Барысевіч, калі прыклаў галоўныя намаганні, каб абраць прэзідэнтам Л. М. Сушчэню, спадзяваўся, што той будзе паслухмяны ў яго прапановах і таму спачатку прыходзіў на пасяджэнні Бюро і націскаў на нас, каб мы праводзілі іх у жыццё. Гэтыя яго прапановы часта нам не падабаліся. Нарэшце Л. М. Сушчэня з нашай дапамогай рашуча давёў да яго разумення, што ганаровы прэзідэнт не член Бюро, а толькі член Прэзідыума. Праз некаторы час кіраўніцтва і апарат Прэзідыума і іншыя ўстановы пры Прэзідыуме працавалі дастаткова эфектыўна, без якіх-небудзь склок і скандалаў.

Л. М. Сушчэня, апрача агульнага кіраўніцтва, курыраваў Аддзяленне біялагічных навук (акадэмік-сакратар Л. У. Хатылёва), А. М. Ганчарэнка — Аддзяленне фізікі, матэматыкі і інфарматыкі (акадэмік-сакратар В. С. Буракоў), М. С. Высоцкі — Аддзяленне фізіка-тэхнічных праблем машынабудавання і энергетыкі (акадэмік-сакратар С. А. Астапчык), Р. Г. Гарэцкі — Аддзяленне хімічных і геалагічных навук (акадэмік-сакратар І. І. Ліштван), а таксама Аддзяленне гуманітарных навук (акадэмік-сакратар Г. М. Лыч), бо Бюро палічыла, што я з нас найбольш блізкі да гэтых навук.

Нам давялося працаваць у кіраўніцтве АН Беларусі ў часы двух перыядаў у жыцці краіны: прыблізна 2,5 гады (04.1992–07.1994) у дапрэзідэнцкай дзяржаве і амаль 3 гады (07.1994–05.1997) — пры першым Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Калі ў першы перыяд мы былі ў значнай ступені свабоднымі ў сваёй дзейнасці, дык у другі трапілі  пад пільны нагляд кіраўніцтва дзяржавы. Але мы з нашымі куратарамі ад Адміністрацыі Прэзідэнта РБ (А. М. Данілаў — пазней член-карэспандэнт АН Беларусі) і ад Савета Міністраў РБ (У. Русакевіч) заўсёды былі ў добрых адносінах і знаходзілі дастаткова нармальныя вырашэнні розных пытанняў.

Л. М. Сушчэня найбольш давяраў А. М. Ганчарэнку, таму ён у час сваіх камандзіровак часцей за іншых пакідаў яго ў якасці выконваючага абавязкі прэзідэнта акадэміі, а таксама разам

з ім ездзіў у шэраг краін (Кітай, Куба, Індыя). М. С. Высоцкі працаваў па сумяшчальніцтве генеральным канструктарам па аўтамабільнай тэхніцы РБ і быў у АН Беларусі значны час нават на паўстаўкі, таму жартавалі, што ў нас паўтара віцэ-прэзідэнта, а я занадта ўдзельнічаў у справах нацыянальнага адраджэння, што зусім было небяспечна, асабліва ў другую палову нашай працы.

Хаця ў Бюро Прэзідыума мы былі рознымі па поглядах, адносінах да стварэння суверэннай Беларусі, але шчыра адданымі навуцы, разумелі наша месца ў кіраўніцтве Акадэміяй. Таму мы заўсёды стараліся ўсё рабіць для паляпшэння працы і захавання Акадэміі навук, былі адкрыты адзін аднаму, без хітрыкаў гаварылі нашы погляды, звярталі ўвагу на агрэхі, не крыўдавалі і дабіваліся больш-менш агульнай найбольш правільнай думкі.

Апрача Галіны Мікалаеўны, нам дапамагалі ў шматграннай працы нашы памочніцы: у А. М. Ганчарэнкі — Наталля Мікалаеўна Малчанава, а ў мяне — Ларыса Аляксандраўна Лецка, якім мы вельмі ўдзячны. Яны да гэтага часу працуюць у Прэзідыуме — Н. М. Малчанава без перапынку, а Л. А. Лецка — часова. Калі мы і цяпер сустракаем іх, дык ўзнікаюць добрыя ўспаміны, і адчуваем узаемную сімпатыю.

Л. М. Сушчэня заўсёды быў за захаванне адзінства Расіі і Беларусі, таму да стварэння суверэннай Беларусі адносіўся скептычна і па сутнасці быў супраць. Я, наадварот, з самага пачатку падтрымліваў працэсы дэмакратызацыі і беларусізацыі нашай Радзімы (падтрымліваў БНФ, стаў членам Рады Таварыства беларускай мовы, удзельнічаў у стварэнні Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» і стаў яго прэзідэнтам) і г. д.

Тады быў час нацыянальнага адраджэння, галоўным момантам якога быў Закон аб мовах, які яшчэ Вярхоўны Савет БССР у 1989 годзе абвясціў адзінай дзяржаўнай моваі — беларускую.

Л. М. Сушчэня паходзіў з сям’і малазямельных і малапісьменных сялян беларусаў, з вёскі каля Баранавічаў. Тады гэта

была Польшча. Спачатку ён вучыўся ў польскай школе. Як пісаў Сушчэня ў брашуры «Автобиография-воспоминание» (2004): *«Польский язык остался у меня на всю жизнь. Конечно, я стремился закрепить его, поэтому и сейчас могу довольно свободно говорить на нём и даже писать с некоторой помощью словаря. […] Моя первая учительница русского языка (к сожалению, я забыл её имя) заронила зерно в благодатную почву. Тяга к прекрасному русскому языку осталась навсегда»* (с. 6–7). У 1957 г. на VI Сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў у Маскве ён нават быў руска-польскім перакладчыкам.

М. С. Высоцкі, калі скончыў школу і нават пазней, размаўляў толькі па-беларуску (як ён пазней прыкідваў гэты перыяд прыблізна цягнуўся 25 гадоў яго жыцця). Але ён патроху зусім перайшоў на рускую мову, і калі працаваў у Акадэміі, дык ўжо поўнасцю забыў родную мову.

У маім жыцці атрымалася так, што я ніколі не вучыўся беларускай мове, сорак гадоў пражыў у Расіі, і толькі пад уплывам свайго бацькі ва ўзросце прыблізна 20–25 гадоў пачаў пісаць і размаўляць па-беларуску і то галоўным чынам з бацькамі. Вярнуўшыся ў Беларусь, я з вялікім задавальненнем пачаў карыстацца роднай мовай. Таму я быў рады працэсам нацыянальнага адраджэння і беларусізацыі.

У Акадэміі навук Беларусі да такой палітыкі, як і ва ўсёй краіне, аднесліся па-рознаму — ад шчырай падтрымкі да рэзкага супраціву. Нават у нашым Бюро я і А. М. Ганчарэнка размаўлялі па-беларуску, Л. М. Сушчэня і М. С. Высоцкі — толькі па-руску. Калі я з падтрымкай Ганчарэнкі вельмі энергічна ўзяўся за правядзенне беларусізацыі ва ўсёй Акадэміі, дык Сушчэня і Высоцкі, хаця ў душы падтрымлівалі яе, знешне прытрымліваліся нейтралітэту. Але ў выніку беларуская мова загучала не толькі ў сценах Прэзідыума АНБ, але і ў многіх інстытутах, а таксама ў справаздачах і іншых дакументах. На жаль, працэс беларусізацыі быў кароткі (хаця і вельмі выніковы) і ўжо ў канцы нашай працы ў кіраўніцтве Акадэміі з

часу выбараў Прэзідэнта дзяржавы і асабліва рэферэндуму 1995 года і пачаткам афіцыйнага «двухмоўя», пачаўся працэс шалёнай русіфікацыі.

Тады мяне вельмі здзівіла адна юбілейная сесія, якая 27 студзеня 1997 г. адбылася ў АН Беларусі і была прысвечана 100-годдзю з дня нараджэння былога прэзідэнта АН БССР Васіля Феафілавіча Купрэвіча. Адкрыў сесію намеснік старшыні Савета Міністраў РБ У. Русакевіч, які курыраваў АН Беларусі. З дакладамі выступілі прэзідэнт АН Беларусі Л. М. Сушчэня, дырэктар Інстытута эксперыментальнай батанікі В. І. Парфёнаў. Усе яны даклады зрабілі на беларускай мове (акадэмікі, мусіць, упершыню). Даведаўся чаму. Аказалася, што з Адміністрацыі Прэзідэнта РБ быў такі нечаканы загад. Пазней я пажартаваў: «Як карысны для беларуса прымус, асабліва такі добры, як сёння». Л. М. Сушчэня згадзіўся са мной.

У час нашага кіраўніцтва АН Беларусі была даволі моцная небяспека ліквідацыі АН Беларусі: спачатку ад дзеячаў перабудовы, а пазней — ад першага Прэзідэнта РБ. З'явілася не зусім праўдзівая думка, што ў краінах Захаду няма дзяржаўных акадэмій навук, таму і ў Беларусі трэба ліквідаваць акадэмію, а яе інстытуты раздаць універсітэтам, ВНУ і міністэрствам. Асабліва падтрымлівалі такую ідэю многія прадстаўнікі і выхадцы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Сярод іх былі С. С. Шушкевіч — кіраўнік дзяржавы, М. І. Дзямчук — віцэ-прэм'ер Савета Міністраў, В. А. Гайсёнак — старшыня Дзяржаўнага Камітэта па навуцы і тэхналогіях РБ і інш. Прыйшлося праводзіць шматлікія асабістыя размовы, пасяджэнні, спрэчкі і г. д. Нарэшце, усё ж удалося неяк адбіцца.

А. Р. Лукашэнка таксама хістаўся ў неабходнасці захавання Акадэміі навук. Да таго ж у Беларусь прыехаў Прэзідэнт Казахстана Н. А. Назарбаеў, які выступіў на Агульным сходзе АН Беларусі ў прысутнасці Прэзідэнта РБ і паведаміў, што ён ліквідаваў АН Казахстана, аб'яднаў яе з Міністэрствам адукацыі і г. д. А. Р. Лукашэнку такія дзеянні свайго калегі

здаліся цікавымі і патрэбнымі. Усім нам, членам Прэзідыума АН Беларусі, і асабліва Л. М. Сушчэню прыйшлося прыкласці ўсе намаганні, каб такія падзеі не адбыліся ў Беларусі. Таксама з вялікімі цяжкасцямі нам удалося захаваць АН Беларусі.

У 1994 годзе Бюро Прэзідыума вырашыла абраць ганаровых і замежных членаў акадэміі. Апошнія такія выбары былі 35 гадоў таму. Далі згоду і сталі першымі ганаровымі членамі постсавецкай АН Беларусі Янка Брыль і Пімен Панчанка. Адмовіліся Васіль Быкаў і Ніл Гілевіч, праўда па розных прычынах[1]. Таксама адмовіўся наш зямляк выдатны геолагнафтавік, адзін з кіраўнікоў Сібірскага аддзялення РАН Андрэй Трафімук, які патлумачыў, што ён сапраўдны беларус, а таму не можа і не хоча стаць замежным членам АН Беларусі.

У 1995 годзе былі абраны замежнымі членамі АН Беларусі аж 9 вучоных Расіі, Украіны, Польшчы, а таксама Н. А. Назарбаеў і Бутрос Бутрос-Галі.

Бюро Прэзідыума планавала абраць і ганаровых членаў НАН Беларусі. Кандыдатурамі мы намецілі Ніла Гілевіча, Васіля Зуёнка і Віктара Скарабагатава, якія далі згоду і нават напісалі адпаведную заяву. Але час аўтаноміі і значнай «вольнасці» скончыўся. Супраць гэтых кандыдатаў нечакана выступілі М. А. Барысевіч і М. С. Высоцкі, якія ўсяляк падтрымлівалі ўсе дзеянні кіраўніка дзяржавы і яго адміністрацыі. Адміністрацыі Прэзідэнта РБ і Прэзідэнту не спадабаліся прапанаваныя намі кандыдатуры, і яны вырашылі наогул адмяніць выбары ганаровых членаў. Л. М. Сушчэню не засталося нічога, як ад імя Бюро і Прэзідыума згадзіцца з такім рашэннем.

Неяк я зайшоў у новую майстэрню Заіра Азгура на вул. Пуліхава. Ён мне пажаліўся, што заказаў у яго зусім мала, за званне акадэміка Акадэміі мастацтва СССР не плацяць. Я паведаміў пра гэта Л. М. Сушчэню, і наша Бюро Прэзідыума вырашыла прыняць членаў галіновых акадэмій былога СССР у

[1] Пра выбары ганаровых і замежных членаў АН Беларусі я ўжо пісаў у кнізе «Жыццёвы меланж» (Мінск: Кнігазбор, 2013. 648 с.)

склад АН Беларусі, каб іх маральна і матэрыяльна падтрымаць. Тады ж у 1995 годзе на Агульным сходзе чацвёра навукоўцаў былі абраны правадзейнымі членамі і адзін — членам-карэспандэнтам.

З прыходам рэжыму прэзідэнтскай ўлады ў кіраўніцтве з’явілася шмат людзей, якія мала разумелі ў дзейнасці навукі, такія як намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта РБ палкоўнік У. П. Замяталін ці віцэ-прэм’ер РБ В. Б. Даўгалёў. Асабліва строга яны кантралявалі прэсу, што адбілася і на змесце газет і часопісаў АН Беларусі. Шэраг кантралёраў на чале з Даўгалёвым неяк правяралі дзейнасць выдавецтва «Навука і тэхніка». Адной з вялікіх крамолаў адзначана выданне па-за планам многіх беларускамоўных кніг. Яны патрабавалі зняць з працы віцэ-прэзідэнта АН Беларусі, які курыраваў выдавецтва, а гэта быў Р. Г. Гарэцкі, і дырэктара выдавецтва Ф. І. Савіцкага. Даўгалёў на імя Л. М. Сушчэні напісаў адпаведны загад. Сушчэня ў адказ напісаў, што па статуце АН Беларусі віцэ-прэзідэнт можа быць выбраны толькі Агульным сходам акадэміі, тое ж і з яго пазбаўленнем з пасады.

Шмат сіл (асабліва Л. М. Сушчэню і мне) прыйшлося аддаць, каб захаваць маёмасць АН Беларусі. Кіраўнік справамі Адміністрацыі Прэзідэнта РБ Ціцянкоў вырашыў, што ў АН Беларусі занадта многа памяшканняў і таму трэба перадаць большую частку пад яго кіраўніцтва. Таксама трэба аддаць тыпаграфію і выдавецтва «Навука і тэхніка».

У гэты амаль трохгадовы час я са сваёй прыхільнасцю да беларушчыны аказаўся зусім у стане апазіцыі да ўлад і стала яшчэ больш відавочна, наколькі ўдала адбылося, што прэзідэнтам АН Беларусі быў абраны Л. М. Сушчэня, які працягваў і цяпер умела кіраваць акадэміяй. Л. М. Сушчэня па-сяброўску даводзіў мне, што яму за маю актыўную дзейнасць па лініі нацыянальнага адраджэння некалькі разоў ужо былі заўвагі ад кіраўніцтва дзяржавы і нават ад самога Прэзідэнта РБ. Пачуццё боязі, незадаволенасці з боку ўладаў дзяржавы прымусіла наша

Бюро размаўляць са мной на гэтую тэму і раіць кінуць маю дзейнасць на ніве адраджэння. На што я адказаў, што зрабіць такое я ніколі не змагу, але калі я вельмі шакірую Вас, дык гатовы напісаць заяву на звальненне. Нашы сяброўскія адносіны адзін да аднаго не дазволілі давесці да такога выніку. Іншы раз я бачыў, што члены Бюро некаторыя пытанні стараюцца абмеркаваць без мяне, але я разумеў іх і не крыўдзіўся.

У нас з Л. М. Сушчэнем былі розныя адносіны да суверэнітэту Беларусі. Калі я падтрымліваў незалежнасць Беларусі, дык Л. М. Сушчэня ў сваёй брашуры «Автобиография-воспоминание» (2004) пісаў: *«Наиболее почётным было включение меня в состав государственной делегации РБ в Москву (Кремль) для участия в подписании “Договора об образовании Сообщества Беларусь-Россия”. Я люблю Россию. Дай Бог, чтобы это сообщество жило»*. Гэта камандзіроўка ў Маскву адбылася ў 1996 г. У тым жа годзе ён прыняў удзел ва Усебеларускім народным сходзе ў якасці члена Прэзідыума і рэдакцыйнай камісіі.

Па ініцыятыве Б. Я Патона была створана Міжнародная асацыяцыя акадэмій навук СНД, і АН Беларусі заняла ў ёй годнае месца, а Л. М. Сушчэня быў абраны віцэ-прэзідэнтам МААН.

За час свайго прэзідэнцтва Л. М. Сушчэня на чале дэлегацый АН Беларусі быў у шматлікіх камандзіроўках у многіх краінах, быў абраны замежным членам Польскай акадэміі навук і Літоўскай акадэміі навук.

16 мая 1997 года Л. М. Сушчэня выступіў з заключным дакладам на Агульным сходзе АН Беларусі, у якім выказаў важныя прапановы пра тое, якой павінна быць у далейшым АН Беларусі, падкрэсліўшы, што «без живой науки цивилизованное государство не может существовать».

З гэтага часу Л. М. Сушчэня быў пераведзены на пасаду саветніка Прэзідыума АН Беларусі. Адначасова ён працягваў працу загадчыка лабараторыяй водных беспазванковых Інстытута заалогіі НАН Беларусі, галоўнага навуковага супрацоўніка

Інстытута праблем экалогіі і эвалюцыі РАН (па сумяшчальніцтве).

Члены нашага Бюро Прэзідыума АН Беларусі настолькі пасябравалі паміж сабой, што сустракаліся з нагоды дзён нараджэння кожнага з нас ці нейкага свята. У Л. М. Сушчэні як саветніка Прэзідыума побач з прыёмнай прэзідэнта Акадэміі быў кабінет. М. С. Высоцкі, А. М. Ганчарэнка і я заўсёды, калі павінен быць Агульны сход ці яшчэ якое-небудзь мерапрыемства, збіраліся ў Леаніда Міхайлавіча і нярэдка нават адзначалі нашу чарговую сустрэчу.

У сувязі з 70-годдзем НАН Беларусі Л. М. Сушчэня ў 1999 годзе быў узнагароджаны ордэнам Айчыны III ступені РБ. У гэтым жа годзе Л. М. Сушчэню споўнілася 70 гадоў і была выдадзена брашура ў серыі «Биобиблиография учёных Беларуси» — «Леонид Михайлович Сущеня (к 70-летию со дня рождения)». Тады ж Леанід Міхайлавіч падараваў мне сваю біябібліяграфію з такім надпісам: *«Дорогому Радиму Гавриловичу Гарецкому на добрую память о годах совместной работы и добрых человеческих отношениях. 08.09.99. Л. Сущеня».*

У траўні 1997 г. Прэзідэнт РБ па прапанове каманды Л. М. Сушчэні падпісаў указ пра АН Беларусі, і цяпер яна стала Нацыянальнай (НАН Беларусі). Я гэта прапанаваў зрабіць яшчэ ў 1992 годзе, але, відаць, час такі ў мысленні людзей не наступіў (бо адразу гэта лічылася «нацыяналістычнай»), хаця ўмовы тады былі больш спрыяльныя. Тады ж абмяркоўваліся кандыдаты ў прэзідэнты НАН Беларусі. Улады дзяржавы на чале з Прэзідэнтам РБ разглядалі кандыдатуры розных вучоных і ніяк не маглі канчаткова вырашыць, каго ж зрабіць прэзідэнтам НАН Беларусі і нарэшце Прэзідэнт РБ сказаў, што няхай самі выберуць «самого достойного». Такім апошнім нармальна абраным Агульным сходам прэзідэнтам НАН Беларусі стаў А. П. Вайтовіч (V.1997–XII.2000). Тады ж асабліва прыкметна стала, што пад уплывам агульнай сітуацыі ў краіне амаль зусім знікла родная беларуская мова з ужывання Прэзідыума

акадэміі, яе агульных сходаў, афіцыйных дакументаў. Было сорамна, калі на ўрачыстым сходзе ў Вялікім тэатры оперы і балета, прысвечаным юбілею, ад беларускіх дзеячаў (ні з вуснаў прэзідэнта дзяржавы, ні з вуснаў прэзідэнта акадэміі і інш.) не прагучала ніводнага беларускага слова. Прысароміў усіх прадстаўнік «старшего брата» віцэ-прэзідэнт РАН акадэмік У. Кудраўцаў, які зачытаў сваё прывітанне на беларускай мове.

Загадам Прэзідэнта РБ А. П. Вайтовіч быў датэрмінова вызвалены з гэтай пасады і толькі праз 9 месяцаў (XI.2001) старшынёй Прэзідыума НАН Беларусі прызначаны былы глава Адміністрацыі Прэзідэнта РБ М. У. Мясніковіч. Новы кіраўнік НАН Беларусі пачаў бясконцыя рэфармаванні акадэміі, прычым часта не зусім разумныя. У прыватнасці, гэта прывяло да ліквідацыі Інстытута геахіміі і геафізікі (2008)[1] і амаль поўнага выгнання геалагічных навук з НАН Беларусі.

Л. М. Сушчэня, будучы саветнікам Прэзідыума НАН Беларусі, шмат разоў звяртаўся да кіраўніцтва акадэміі з прапановамі, якія часта былі супраць рознай ломкі яе структуры, але з часам яго перасталі слухаць. Ён вельмі перажываў тую сітуацыю, што разам з узростам паўплывала на яго здароўе. Змяніліся і абставіны яго сямейнага жыцця — ён пераехаў на кватэру да сваёй грамадзянскай жонкі. Калі Л. М. Сушчэня ў 2004 годзе ў кафэ Інстытута праблем інфарматыкі ўрачыста адзначаў 75-годдзе, ён побач з сабой пасадзіў усіх паплечнікаў па Бюро Прэзідыума АН Беларусі разам з іх жонкамі. З Леанідам Міхайлавічам сядзела яго памочніца Галіна Мікалаеўна Філімонава, усім прысутным ён абвясціў, што яна афіцыйна стала яго жонкай. Трэба падкрэсліць, што іх каханне было вельмі шчырым. Нам было прыемна бачыць гэтую цудоўную пару. Мы радаваліся, што ў Леаніда Міхайлавіча такая клапатлівая, поўнасцю адданая яму жанчына. Яму проста пашанцавала, што ўжо ў сталым узросце, калі са здароўем было ўсё горш і

[1] Институт геохимии и геофизики — от создания до ликвидации (в документах) // Літасфера. — 2008. — № 2 (29). — С. 136–144.

горш, і патроху губляліся жыццёвыя сілы, Галіна Мікалаеўна дапамагала яму захаваць аптымізм, бадзёрасць духу і цягу да жыцця і дзейнасці. Л. М. Сушчэня ў брашуры «Автобиография-воспоминание» (2004) пісаў: *«Она держит меня на плаву, поддерживает и в радости, и в горе. Она больше меня переживала, когда у меня случился тяжёлый инфаркт миокарда. Я благодарен за это и ей, и своей судьбе»*.

У 2015 годзе Л. М. Сушчэня ўсё больш ляжаў, з цяжкасцю падымаўся з ложка. Калі я яго некалькі разоў наведваў у кардыялагічнай палаце бальніцы Лечкамісіі, ён быў зусім слабы, з цяжкасцю размаўляў. Галіна Мікалаеўна не пакідала яго, усяляк старалася аблегчыць яго апошнія дні. Яму вельмі хацелася дахаты — хуткая дапамога адвезла, а праз некаторы час у нядзелю 19 красавіка 2015 года мне пазваніла Галіна Мікалаеўна і скрозь слёзы ледзь сказала, што ў 16:20 Леанід Міхайлавіч памёр. 23 красавіка ў галоўнай зале Прэзідыума НАН Беларусі адбылося развітанне — выдатны вучоны, здольны арганізатар навукі, светлы чалавек Л. М. Сушчэня назаўсёды пакінуў гэты свет. Ад імя нашага былога Бюро Прэзідыума АН Беларусі развітальнае слова сказаў А. М. Ганчарэнка.

У заключэнні сваёй брашуры «Автобиография-воспоминание» (2004) Л. М. Сушчэня напісаў: *«...моя жизнь делится на два мотива: занятие наукой и администрирование в науке. Моя жизнь сложилась так, что слишком рано стал звучать второй мотив. И даже если скажут, что у меня получилось неплохо и то, и другое, я все равно буду сожалеть, что первый мотив ещё в расцвете жизни стал звучать все тише, и тише. Я от этого получил значительно меньше удовлетворения, чем от науки, когда осуществляешь удачную идею, и у тебя расправляются крылья.*

*[...] Я уже написал слово “удовлетворение” и теперь спрашиваю себя: получил ли я удовлетворение от своей жизни? Да, получил, но это относится к былым временам, а чем ближе к*

*концу жизни, тем оно меньше. Всё потихоньку уходит. Смысл многого теряется.*

*Но не буду нагнетать пессимизм. Пока человек жив, пока он ходит по земле на своих ногах, надо сохранять оптимизм. Надо благодарить Бога за то, что он дал мне эту жизнь, и что она во многом прошла так, что не было "мучительно больно"».*

***2015***

## Глыбока нацыянальны майстар вясковай прозы[1]

*(гадавіна па Анатолю Кудраўцу)*

13 траўня 2015 года, у гадавіну па Анатолю Кудраўцу, у кавярні Netto адбылася вечарына памяці выдатнага пісьменніка, публіцыста, рэдактара, а таксама прэзентацыя яго апошняй, ужо пасляжыццёвай кнігі «Зязюля пракукуе заўтра». Мемарыяльны вечар, арганізаваны сваякамі літаратара і Саюзам беларускіх пісьменнікаў, вёў старшыня СБП Барыс Пятровіч. Сярод шматлікіх выступоўцаў былі пісьменнікі, якія не толькі сябравалі з Анатолем Паўлавічам, але былі ў рэдкалегіі ці супрацоўнікамі часопіса «Нёман», дзе А. Кудравец многія гады (з 1978 г.) быў галоўным рэдактарам. Сяргей Законнікаў, Віктар Карамазаў, Генрых Далідовіч, Віктар Казько, Анатоль Вярцінскі, Алесь Пашкевіч, Ірына Шаўлякова, Сяргей Дубавец паведалі розныя асабістыя моманты сустрэч, падзей, нечаканых выпадкаў, размоў, якія ў іх былі звязаны з Анатолем Кудраўцом, а таксама некаторыя ацэнкі яго пісьменніцкага таленту, рэдактарскай здольнасці, яго характару і г. д. Блізкія (у тым ліку ўнучка Кудраўца з мужам і сімпатычным сынам Кастусём) успомнілі дзеда ў хатніх умовах.

[1] Тэрмапілы. — 2016. — № 20.

У выніку яскрава ўзнік партрэт гэтага выдатнага майстра беларускай прозы. Яго творчасці ўласцівы народнасць, глыбокае разуменне нацыянальнай сутнасці герояў яго твораў, асабліва вяскоўцаў. Гэта — сапраўдны народны празаік, які мае такія цудоўныя спалучэнні: рэдкая сціпласць, адсутнасць амбіцыёзнасці і ў той жа час пачуццё ўласнай годнасці. Анатоль Кудравец надзвычай надзейны сябра, чалавек бязмежнай дабрыні, заўсёды гатовы прыйсці на дапамогу, поўны вясковай мудрасці, вытрымкі. Побач з дабрынёй і мяккасцю ўражвала яго цвёрдасць у дасягненні справядлівасці, прычым тут ён здзіўляў сваёй нязломнай сілай, смеласцю, моцнай воляй і пастаянным імкненнем да чыстых маральных каштоўнасцяў. Вельмі лагодны клапатлівы ў сям'і, бязмерна любіў сваю ўнучку Анюту і не мог нарадавацца на свайго праўнука Кастуся.

Я выступіў з успамінамі пра наша супрацоўніцтва з Анатолем Кудраўцом у сувязі з публікацыямі ў «Нёмане». Пасля Чарнобыльскай катастрофы шэраг супрацоўнікаў Інстытута геахіміі і геафізікі АН Беларусі і я, як дырэктар, шмат займаліся праблемамі экалогіі, якія вельмі ўскладніліся пасля аварыі на АЭС. Асабліва я цесна супрацоўнічаў з выдатным гідрагеолагам Анатолем Кудзельскім. У № 3 за 1991 г. часопіса «Нёман» мы надрукавалі артыкул «Кукушка, кукушка, сколько жить нам на Белой Руси?», у якім аб'ектыўна намалявалі сумную карціну экалагічнай сітуацыі ў краіне. Мы былі вельмі ўдзячны галоўнаму рэдактару А. Кудраўцу за тую смеласць, дзякуючы якой ён надрукаваў артыкул, што змяшчаў вельмі шмат крытыкі на дзеянні ўладных структур. Артыкул выклікаў значную цікавасць, і за яго нам нават была прысуджана літаратурная прэмія часопіса «Нёман».

У тым жа годзе ў № 12 Анатоль Кудравец надрукаваў аповесць «Две души» Максіма Гарэцкага (перевод с белорусского В. Жиженко). Гэты твор доўгі час не дазвалялі выдаваць, і толькі ў часопісе «Полымя» (№ 7, 1989) ён упершыню выйшаў у савецкім друку. Па тэксце гэтай публікацыі і зроблены

пераклад. Шэраг літаратуразнаўцаў высока ацанілі аповесць і лічылі яе найбольш значным дасягненнем у беларускай прозе. Вось чаму А. Кудравец змясціў пераклад аповесці на рускую мову адразу пасля яе публікацыі ў «Полымі».

Анатоль Кудравец з вялікай падтрымкай і разуменнем важнасці праблемы абмеркавання экалагічнай і энергетычнай сітуацыі ў краіне надрукаваў у «Нёмане» (№ 9, 1993) артыкул «Осторожно с АЭС!» Р. Гарэцкага, А. Кудзельскага і Я. Петраева, у якім мы выступілі супраць прыняцця Саветам Міністраў РБ «атамнай» Энергетычнай праграмы без шырокага адкрытага абмеркавання. На наступны год у «Нёмане» (№ 7, 1994) як працяг на гэту тэму выйшаў мой невялікі дадатак «Ещё раз об АЭС».

У сувязі з рознымі публікацыямі ў «Нёмане» я даволі часта прыходзіў у рэдакцыю часопіса, дзе сустракаўся з заўсёды ветлівым, разумным, шырокіх поглядаў галоўным рэдактарам. Мяне спачатку трохі здзіўляла, што часопіс рускамоўны, а ўсё было прасякнута беларушчынай. Чулася толькі беларуская мова, абмяркоўваліся праблемы нацыянальнага адраджэння, ва ўсім адчувалася шчырае хваляванне за лёс Беларусі як менавіта беларускай краіны. Гэта выклікала яшчэ большае жаданне прыйсці ў рэдакцыю часопіса, параіцца, пагаманіць.

Вельмі своечасова Анатоль Кудравец арганізаваў у рэдакцыі часопіса «Нёман» круглы стол, які ў той час на пачатку пабудовы незалежнай дзяржавы Рэспублікі Беларусь быў вельмі актуальны і якому надаў такую задашлівую назву, як «Беларускі шлях». А. Кудравец аб’ёмна акрэсліў і галоўную мэту круглага стала: *«“шлях” — это… судьба белорусского народа, как она складывалась исторически и как сложилась, выткалась на кроснах времени. Значит, “шлях”. То, что имело начало, имело развитие и ищет продолжения. То, что прошли наши предки, и то, что должны пройти мы»*[1]. У рэдакцыі сабра-

[1] Белорусский шлях // Нёман. — 1993. — № 6, июнь. — С. 3–43.

лася дастаткова прадстаўнічае кола навукоўцаў, пісьменнікаў, грамадскіх дзеячаў і інш. Сярод іх быў і А. Р. Лукашэнка — дырэктар саўгаса «Гарадзец» Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці, народны дэпутат РБ. Завочна ў дыскусіі прынялі ўдзел С. С. Шушкевіч — старшыня Вярхоўнага Савета РБ і З. С. Пазняк — лідар БНФ і апазіцыі ў Вярхоўным Савеце РБ. Публікацыя матэрыялаў круглага стала выклікала шырокую цікавасць у грамадстве і адыграла значную ролю ў станаўленні поглядаў на той шлях, якім павінна далей пайсці наша краіна. Пасля яшчэ больш ясна акрэсліліся розныя групы людзей таго ці іншага напрамку. Публікацыю матэрыялаў завяршылі заключнымі словамі з выступлення доктара філасофскіх навук В. М. Конана: *«Как сказал некогда Максим Горецкий: все другие уже на горе. Мы пока ещё под горою. Но придёт время, и мы, наконец, взберёмся наверх. Хочется надеяться, что путь наш не на Голгофу»*.

Можна параіць прачытаць гэтую публікацыю. Яна выклікае значную цікавасць і цяпер, таму што застаецца не менш актуальнай і да нашага часу.

Анатоль Кудравец у апошні год жыцця склаў сваю новую кнігу «Зязюля пракукуе заўтра…», якая з дапамогай унучкі пісьменніка Ганны была выдадзена «Кнігазборам» (2014) у Бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка», вып. 54. У анатацыі адзначана: «У кнігу выдатнага майстра беларускай прозы Анатоля Кудраўца (1936–2014) увайшлі выбраныя апавяданні і аповесць, якія раскрываюць змястоўнае багацце, стылістычную каларыстыку і грамадзянскую актуальнасць яго прозы». Мілая ўнучка Анатоля Паўлавіча Анюта вядзе вялікую справу па захаванні памяці свайго любага дзеда і зараз актыўна ўдзельнічае ў падрыхтоўцы да выпуску ў свет яго ўспамінаў. Анатоль Кудравец вельмі любіў беларускія песні, некаторыя з іх у канцы імпрэзы выканала вядомая спявачка Таццяна Матафонава.

***2015***

# Шукаю цішыню[1]

Усе мы, людзі, адзін ад аднаго адбіраем цішыню і ўсюды робім шум рознай моцы. Суседзі нашай кватэры зверху часта нават з самага рання пачынаюць гучна сварыцца, удзень іх дзіця пілікае на раялі адну і тую ж мелодыю, а ўвечары доўга-доўга нешта перасоўваюць, тупаюць; суседзі з аднаго боку вельмі рана набіраюць ванну, удзень нешта гучна майструюць, а позна ўвечары, а то і ноччу зноў шуміць вада; суседзі з другога боку з ранку да вечара пранізліва крычаць па мабільніку, адчыняюць акно і пад гучную бяседу з анекдотамі і рогатам паляць папяросы.

Ад шуму гарадскога схавацца немагчыма, таму і цішыні тут не адшукаеш. З самага рання да позняга вечара чуеш разнастайны шум горада. Калі пад раніцу яшчэ моцна спіш, раптам чуеш гучны лай сабак, якіх выйшлі прагуляць шматлікія «сабачнікі», то рык аўтамабіляў, а яшчэ горш — іх звонкія гукі трывожнага сігналу. Заснуць зноў, калі ўставаць яшчэ рана, ужо амаль немагчыма. Значна горш, калі такое здараецца сярод ночы. Вось тады, каб зноў заснуць, не можаш прагнаць розныя думкі з працы, сямейных падзей, сяброўскіх адносін, круцішся з боку на бок, лічыш вярблюдаў з віртуальнага каравана, а то і ўстаеш пахадзіць, папіць вады… Некаторыя, каб пазбавіцца гэтых дробных непрыемнасцей сну, прымаюць снатворныя таблеткі, але, як кажуць, яны шкодныя.

Ёсць адзіны выхад часова зменшыць надакучлівы гарадскі шум, змяніўшы яго не на цішыню, што немагчыма, а на прыемныя гукі музыкі ці песні: можна пайсці на любы добры канцэрт, а яшчэ лепш, больш надзейна, у філармонію паслухаць скрыпку ці фартэпіяна, у хаце — уключыць магнітафон з запісам інструментальнай музыкі, а моладзь — часта слухае нават у транспарце праз слухаўкі добрыя песні і музыку. Але і тут не-не ды ўварвецца шум горада.

[1] Тэрмапілы. — 2016. — № 20.

Здаецца, што толькі на дачы ці яшчэ лепш — проста далёка ў вёсцы, ці ў лесе, на лузе ці ціхай рэчцы можна адшукаць цішыню, якая будзе дапаўняцца прыемнымі гукамі птушыных спеваў (а калі пашанцуе, дык і салаўінымі трэлямі), звонкіх крыкаў пеўняў, кваканняў жабаў, ветраных хваляў, якія выклікаюць цудоўны шумок дрэў і шэпт траў, журчання рэчкі ці ручая, срэбных нітак дажджу, а пры навальніцы нават магутныя грымоты пасля яскравых блікаў маланкі.

На жаль, і ў гэтых мясцінах ужо стала цяжка адшукаць цішыню з дабаўкай пералічаных прыемных гукаў. На дачы — амаль увесь дзень пранізліва шумяць газонакасілкі; прыязджаюць і ад’язджаюць аўтамабілі; нярэдка гаўкаюць сабакі; мяўкаюць кошкі; многія рамантуюць дамы — шум рознай моцы; некаторыя ўключаюць магнітафоны, якія гучаць на ўвесь дачны пасёлак, у другую палову дня і к вечару разам з дымам далятае пах і вясёлы гоман вакол шашлыку. Спадзяешся на позні вечар і ноч на свежым паветры, але то тут, то там кампанія моладзі ўключыць гучную музыку, крычаць песні, весела рагочуць, галдзяць, а пазней, асабліва на добрым падпітку, раздаюцца віскі дзяўчат і гагатанне хлопцаў, якія суправаджаюцца багатым брыдкаслоўем. Гэтая радасць быцця часта цягнецца да сярэдзіны ночы, а то і да раніцы.

Лепш за ўсё такую цішыню пашукаць у глухім лесе, але і там сустрэнеш аўтамашыну і магутныя крыкі-перагукванні: «Ау, дзе ты! Хадзі сюды!» Нарэшце ўпэўніваешся, што адшукаць поўную цішыню ў нашым свеце вельмі не проста.

* * *

Мусіць, толькі тады я адчую цішыню, калі назаўсёды закрыюцца мае вочы. Але ўжо цяпер адчуваю, што ў хуткім часе, калі маё цела пакіне душа, то будзе зноў сумаваць па шуме, прычым асабліва па разнастайным шуме гарадскім.

***2015***

## Помнік паэту[1]

28 жніўня 2015 г. у дзень нараджэння Генадзя Бураўкіна на Ўсходніх могілках адбылося адкрыццё помніка паэту. Сабралася каля 50 яго родных, сяброў, прыхільнікаў паэзіі і дзейнасці. Сустрэчу вёў кіраўнік Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч. Выступілі паплечнікі паэта: Анатоль Вярцінскі, Уладзімір Арлоў, Сяргей Законнікаў, Радзім Гарэцкі, Уладзімір Някляеў і інш. Падзяку ўсім, хто прыняў удзел у стварэнні помніка і прыйшоў на яго адкрыццё, выказаў сын Г. Бураўкіна Аляксей. Помнік зроблены вядомым беларускім скульптарам Алесем Шатэрнікам пры шматлікіх прапановах і пільным наглядзе Юліі Якаўлеўны. Помнік з шэра-рудаватага цёмнага граніту мае выгляд разгорнутай кнігі. З аднаго боку ў верхняй, больш светлай частцы — барэльеф, пад якім вялікімі літарамі надпіс «Генадзь Бураўкін», ніжэй — меншымі літарамі — «паэт», а ў самым нізе — «28.08.1936–30.05.2014». На другім баку — радкі з яго верша: «Ты, мой народ, мяне не папракнеш, я ўсё табе аддаў — жыццё і сілы…» Менавіта гэтыя словы сам паэт папрасіў напісаць на помніку, хаця многія вытрымкі з яго вершаў былі б тут дарэчы. Помнік ва ўсіх прысутных выклікаў поўнае ўхваленне — адчуваецца таленавітасць яго аўтара, які з дапамогай жонкі і дзяцей Генадзя Мікалаевіча змог перадаць галоўную сутнасць жыцця паэта.

Мне асабіста, хаця прайшло ўжо больш за год, як пайшоў ад нас Генадзь Бураўкін, не верыцца, што яго няма. Часта, як у натуры, чуецца, што па тэлефоне гучыць яго голас: «Радзім! Здароў…» — а далей ідзе наша, як заўсёды, цікавая шчырая гамонка на розныя тэмы, якія хвалююць нас абодвух, а такіх тэм процьма… Генадзь Бураўкін для мяне, як і для многіх, жывы… Я, як і раней, размаўляю з ім, раюся, дзялюся навінамі, якія, на жаль, не робяцца больш радаснымі, а, наадварот, павялічваецца колькасць сумных, цяжкіх, трывожных, нават

[1] Тэрмапілы. — 2016. — № 20.

жудасных, не толькі ў асабістым жыцці і на Бацькаўшчыне, але і ва ўсім свеце… Другі раз я з нейкай разгубленасцю і вялікім жалем разумею, што не будзе адказу ад майго сябра…

Успамінаю нашы сустрэчы на розных пасяджэннях, імпрэзах, але асабліва цікавых і працяглых у хаце за сталом. Ён узгадваў сваё жыццё, багатае рознымі падзеямі, нечаканымі і чаканымі выпадкамі, узаемаадносіны з многімі вядомымі дзеячамі і інш. З прыемнасцю размаўляў пра любоў да людзей, прыроды, Бацькаўшчыны, родных, што дазваляла яму ўздымаць сваю лірычную паэзію на такую вышыню, але асабліва ўспамінаў пра пачатак і розныя моманты свайго светлага кахання да мілай яго жоначкі Юлі… Не кожны можа так кахаць, як Бураўкін Генадзь… Я шмат разоў прасіў яго пачаць пісаць успаміны пра яго жыццё і дзейнасць, але ён усё адкладаў на больш позні час, калі вызваліцца, як яму здавалася, ад многіх сучасных спраў, ад якіх ніяк не мог пазбавіцца, бо не мог і адмовіцца ад іх, бо прымаў блізка да сэрца падзеі ў краіне, і канкрэтна ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў, ТБМ, Радзе інтэлігенцыі і інш.

Я лічу сябе шчаслівым, што быў сябрам Генадзя Бураўкіна. Думаю, што шмат людзей удзячны лёсу, што жылі ў той час, калі з намі быў ён, які мог сваім прыкладам паказаць, якім павінен быць сапраўдны патрыёт сваёй Радзімы, узняць у сэрцы і розуме многіх суайчыннікаў пачуццё хвалявання, роздуму, надзеі, ахвяравання лёсам краіны, мовы, культуры, адносін паміж сабой, задумацца пра сваю дзейнасць і г. д.

Мусіць, у самым прозвішчы — Бураўкін, якое ўтрымлівае і ўбірае галоўныя рысы продкаў, можна ўбачыць, што яно нясе такія якасці, як уздымаць «буру» ў душах, сэрцах і дзеяннях людзей. У той жа час паняцце «бурыць» абазначае «свідраваць» — пранікаць сваёй паэзіяй, учынкамі да самых глыбінь.

Генадзь Бураўкін здзіўляў шматграннасцю сваёй дзейнасці. Перш-наперш, ён адзін з найлепшых паэтаў-лірыкаў — класік і,

нягледзячы на адсутнасць афіцыйнага звання, па-сапраўднаму «народны паэт», як успрымаў яго беларускі народ.

Генадзь Бураўкін — аўтар выдатных песень (у тым ліку цудоўнай «Калыханкі» і шэрагу сапраўдных хітоў); журналіст і публіцыст найвышэйшага ўзроўню па актуальнасці тэматыкі і ўздзеянні на чытачоў; перакладчык і рэдактар (у тым ліку галоўны рэдактар часопіса «Маладосць»); дзяржаўны, палітычны і грамадскі дзеяч, які пакінуў у гэтых напрамках значны след ў Беларусі, і г. д. Дастаткова ўспомніць, што ён быў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР X і XI скліканняў, пастаянным прадстаўніком Беларусі ў ААН, Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом, старшынёй Дзяржтэлерадыёкампаніі (стварыў сапраўднае нацыянальнае тэлебачанне і радыё), членам Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў, старшынёй ТБМ, адным са старшынь Усебеларускага з’езда за незалежнасць і інш. Нягледзячы на такі велізарны ўнёсак у паэзію і жыццё краіны, на яго высокія пасады, Генадзь Бураўкін заставаўся вельмі простым, добразычлівым, абаяльным чалавекам. У той жа час ён быў вельмі прынцыповы, адстойваючы праўду, і трымаў годнасць і адпаведны гонар.

Галоўным у яго жыцці і дзейнасці заўсёды была шчырая любоў і адданасць Бацькаўшчыне, роднаму народу, што ніколі не пакідала яго пры любых рэжымах. Ён быў выдатным змагаром за нацыянальнае адраджэнне Беларусі — яе роднай мовы, культуры, літаратуры, дзяржаўнасці, незалежнасці.

Генадзь Бураўкін жыве сваёй неўміручай паэзіяй, подзвігам у імя Беларусі ў надзвычайнай шматграннай дзейнасці і будзе заўсёды жыць, пакуль жыве Беларусь, а яна будзе жыць вечна! Жыве Беларусь! Жыве Бураўкін!

*2015*

# Згуртаванню беларусаў свету «Бацькаўшчына» — 25

Разбуральны крызіс сацыялістычнай эканомікі Савецкага Саюза прымусіў пачаць працэс перабудовы, які пад уплывам нацыянальных адраджэнняў у рэспубліках пайшоў так інтэнсіўна, што выклікаў стварэнне незалежных дзяржаў, і гэтым поўны развал СССР. Кіраўнікі Расіі, Украіны і Беларусі ў Віскулях (Белавежская пушча) зафіксавалі развал Савецкага Саюза, каб захаваць хоць нейкае аб'яднанне былых рэспублік абвясцілі Садружнасць незалежных дзяржаў (СНД), якая жыве да сучаснасці. Гэты працэс падштурхнуў і Чарнобыль (1986)

У Беларусі таксама пачаўся даволі кароткі, але моцны перыяд нацыянальнага адраджэння:

1987 г. — Заснаванне Беларускага фонду культуры.

1988 г. — Мітынгі з нагоды дня памяці продкаў (Дзяды), памяці ахвяраў Курапатаў; стварэнне «Мартыралога Беларусі» і аргкамітэта Беларускага народнага фронту (БНФ).

1989 г. — Устаноўчы з'езд у Вільні БНФ «Адраджэнне» на чале з Зянонам Пазняком; Устаноўчы з'езд Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны на чале з Нілам Гілевічам і выхад у свет бюлетэня ТБМ «Наша слова» (№ 1).

1990 г. — Вярхоўны Савет БССР прымае Закон аб мовах — беларуская адзіная дзяржаўная; прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце БССР; 10.09–11.09 — ***Устаноўчая канферэнцыя Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына»***.

1991 г. — 25.08. — Дзень незалежнасці БССР, пастанова аб прыпыненні дзейнасці КПСС-КПБ у Беларусі; пастанова аб замене назвы БССР на Рэспубліку Беларусь, зацвярджэнне дзяржаўнага герба Пагоня і бел-чырвона-белага сцяга; 8.12. — стварэнне СНД.

У той жа час у Беларусі паступова стала вядома пра эміграцыю беларусаў (асабліва вельмі актыўную нацыянальна

свядомую паваенную), агульная колькасць якой дасягнула прыблізна 30 % усіх беларусаў свету.

Узнікла натуральнае імкненне пазнаёміцца з беларусамі замежжа і аб'яднаць намаганні шчырых беларусаў па стварэнні і развіцці незалежнай дэмакратычнай дзяржавы Беларусі, каб у беларускай супольнасці свету ўзнікла культурна-асветніцкая арганізацыя з мэтай актыўнай працы па інтэгральным адраджэнні мовы, культуры, адукацыі, эканомікі. Ініцыятыву праявіў пісьменнік Яўген Лецка, які запрасіў у аргкамітэт шэраг прыхільнікаў беларушчыны (Яўген Адамовіч, Алег Бембель, Валер Герасімаў, Радзім Гарэцкі, Лявон Казыра, Аляксей Кароль, Арсень Ліс, Вячаслаў Рагойша, Лідзія Савік, Барыс Стук і інш.).

10 верасня 1990 г. у Доме літаратара прайшла ўстаноўчая канферэнцыя Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

У газеце «Літаратура і мастацтва» (14 верасня 1990) на першай старонцы пад назвай ***«Прывітанне, "Бацькаўшчына"!»*** надрукавана кароткае, але ёмістае паведамленне: *«...На яе былі запрошаны прадстаўнікі ўсіх вядомых арганізатарам беларускіх зямляцтваў на тэрыторыі СССР, а таксама вядучых грамадскіх арганізацый Беласточчыны, госці са Злучаных Штатаў Амерыкі і Англіі. Пачалася канферэнцыя з таго, што навуковы супрацоўнік Інстытута кібернетыкі Акадэміі навук БССР А. Бураўкін прачытаў верш У. Караткевіча "Дзе мой край?". Удзельнікаў вітаў народны фальклорна-этнаграфічны ансамбль "Неруш".*

*Са справаздачай аб рабоце, праведзенай аргкамітэтам, і перспектывах на будучае выступіў старшыня аргкамітэта Я. Лецка. На канферэнцыі аб задачах згуртавання гаварылі народны дэпутат СССР В. Быкаў, акадэмік Р. Гарэцкі, вядомыя навукоўцы, госці. Утворана Рада Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". На першым пасяджэнні яе старшынёй выбраны Я. Лецка, першым намеснікам В. Рагойша. Прэзідэнтам згуртавання канферэнцыя выбрала В. Быкава».*

Тут жа надрукаваны два фотаздымкі: прэзідыум канферэнцыі з трох чалавек (злева направа) Л. Казыра, вядучы — Р. Гарэцкі, Я. Лецка; поўнасцю запоўненая зала.

Газета «Звязда» (12 верасня 1990 г.) адгукнулася на гэтую падзею артыкулам з такой жа назвай, але больш падрабязна паведаміла пра змест выступленняў, фундатараў-заснавальнікаў (15 устаноў) і г. д. 30 верасня 1990 г. Вячаслаў Рагойша ў газеце «Звязда» выступіў з артыкулам «Бацькаўшчына кліча!», у якім яскрава падкрэсліў галоўную мэту згуртавання беларусаў свету («уратаванне нацыі ад Чарнобыля духоўнага і Чарнобыля радыяцыйнага») і больш шырока асвяціў думкі і прапановы ў шматлікіх выступленнях і выказваннях дэлегатаў канферэнцыі.

Нягледзячы на многія цяжкасці жыцця ў тыя часы, шмат момантаў нават цяпер, праз 25 гадоў, успамінаюцца з цеплынёй і радасцю, і ўсе яны звязаны з нацыянальным адраджэннем, элементамі вольнасці і надзеяй на светлую будучыню. Цяжка ўявіць, што кіраўнік дзяржавы Станіслаў Шушкевіч усюды размаўляў па-беларуску, а кіраўнік урада Вячаслаў Кебіч на з’ездзе Таварыства беларускай мовы быў прыняты ў сябры ТБМ і абяцаў у наступным годзе выступіць на чыстай беларускай мове. У Акадэміі навук Беларусі першы і апошні раз адбыліся выбары Прэзідэнта і кіраўніцтва Акадэміі без усякага ўзгаднення і ціску ўладных і партыйных структур. Я тады стаў віцэ-прэзідэнтам АН Беларусі. Ізаляцыя краіны скончылася, і адкрыўся шырокі прастор у свет. Усё больш пазнавалі сваіх суайчыннікаў як у новых краінах СНД, так і ў далёкім замежжы.

19–20 снежня 1992 года ў Менску адбыўся Сход беларусаў блізкага замежжа, у якім больш за 200 дэлегатаў прадстаўлялі каля 2 мільёнаў нашых суродзічаў з неабсяжнай тэрыторыі былога Саюза, а цяпер краін СНД, а таксама Прыбалтыкі, Польшчы (Беласточчыны). Сход вітаў Старшыня Вярхоўнага Савета РБ С. Шушкевіч. Выступілі сябры Рады «Бацькаўшчы-

ны» (у тым ліку Р. Гарэцкі[1]), прадстаўнікі Беларусі (у тым ліку работнікі міністэрстваў) і шматлікія госці. Пра Сход у газеце «Звязда» быў надрукаваны шэраг паведамленняў.

Найбольшае дасягненне ў дзейнасці ЗБС «Бацькаўшчына» — Першы з'езд беларусаў свету (8–10 ліпеня 1993 г.), які быў праведзены разам з урадавымі арганізацыямі Беларусі. Гэта быў адзіны ў жыцці беларускай нацыі з'езд беларусаў свету такога рангу і маштабу. Пра яго ўжо шмат пісалі ў газетах, часопісах, успамінах. Надрукавана спецыяльная кніга «Першы з'езд беларусаў свету (8–10 ліпеня 1993 г., г. Мінск). Матэрыялы і дакументы» (Беларускае гістарычнае таварыства. Беласток, 1997. 335 с.).

Былі створаны аргкамітэт па падрыхтоўцы З'езда (сустаршыні: ад ЗБС — В. Быкаў, ад дзяржавы — міністр замежных спраў П. Краўчанка) і рабочая група пад кіраўніцтвам сябра Рады ЗБС Г. Сурмач. Трэба падкрэсліць, што правядзенне з'езда фінансавалася прыблізна напалову грамадскімі сіламі і дзяржаваю. Галоўная ідэя з'езда — нацыянальнае адраджэнне Бацькаўшчыны, а асноўная тэма — будаўніцтва незалежнай дзяржавы Беларусі.

З'езд прайшоў у Дзяржаўным тэатры оперы і балета, які быў прыгожа аформлены пад панаваннем нацыянальных сімвалаў і харугвай, спецыяльна падрыхтаванай Э. Агуновічам да з'езда. Зала была перапоўнена — прысутнічала больш за 1200 удзельнікаў, з іх прадстаўнікоў замежжа — 486 чалавек. Адкрыў з'езд уступным словам Васіль Быкаў, з прывітаннем выступілі кіраўнік краіны старшыня Вярхоўнага Савета РБ Станіслаў Шушкевіч і старшыня камісіі Вярхоўнага Савета па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны, старшыня Таварыства беларускай мовы народны паэт Ніл Гілевіч. Асноўныя даклады: віцэ-прэзідэнт АН Беларусі, сябра Аргкамітэта і Рады ЗБС Р. Гарэцкі ад сусветнай беларускай суполь-

[1] Выступленне «Беларусы павінны аб'ядноўвацца» надрукавана ў маёй кнізе «Жыццёвы меланж» (Мінск: Кнігазбор, 2003).

насці «Беларуская ідэя і адбудова беларускай дзяржаўнасці»; намеснік старшыні Савета Міністраў М. Дзямчук — ад урада РБ «Эканамічная сітуацыя і магчымасці выхаду з крызісу»; ад заходняй дыяспары Я. Запруднік (ЗША); справаздачны даклад старшыня Рады Я. Лецка «Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” на цярністым шляху яднання беларусаў свету».

996 дэлегатаў з Беларусі і замежжа Прэзідэнтам ЗБС «Бацькаўшчына» абрала Радзіма Гарэцкага, Вялікую Раду ў складзе 97 чалавек, рэвізійную камісію з 3-х чалавек. У выніку першага пасяджэння Вялікай Рады старшынёй Рады абрана Ганна Сурмач, старшынёй рэвізійнай камісіі — Ірына Жарская. Намеснікамі старшыні Рады абраны Антон Сабалеўскі, Ніна Загорская, Уладзімір Мамонька, Барыс Стук.

Шэраг сяброў ЗБС «Бацькаўшчына» (асабліва Л. Лыч) былі не задаволены, што я на пасаду старшыні Рады прапанаваў не Я. Лецку, а Г. Сурмач. Справа ў тым, што Г. Сурмач на працягу трох месяцаў, як кіраўнік рабочай групы па падрыхтоўцы і правядзенні з’езда, паказала сябе настолькі выдатным арганізатарам такога складанага мерапрыемства, што ўсе былі здзіўлены. Аб працы рабочай групы і Управы коратка, але ёміста напісана ў прадмове да кнігі «Першы з’езд…». Важна падкрэсліць, што Г. Сурмач дзеля працы ў ЗБС «Бацькаўшчына» кінула сваю вельмі цікавую і важную пасаду дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, а пасля бліскуча праведзенага з’езда стала шырока вядома не толькі ў Беларусі, але і замежжы. У той час усім сябрам Аргкамітэта (асабліва Управы і Рады) хапала напружанай працы ад рання да вечара. Я. Лецку адзін з беларусаў Аўстраліі запрасіў прыехаць на адзін месяц да іх. Я. Лецка звярнуўся да мяне за парадай пра паездку. Я параіў адкласці яе на больш позні час. Але Я. Лецка — адзін з галоўных асоб у ЗБС «Бацькаўшчына» — раптоўна для ўсіх за месяц да правядзення з’езда (у самы гарачы час) з’ехаў з Беларусі. Перад тым, як прапанаваць кандыдатуру Г. Сурмач на пасаду старшыні Рады, я параіўся з многімі (перш-наперш

з сябрамі Управы і Рады). За яе аднагалосна прагаласавала 97 чалавек Вялікай Рады.

Я. Лецку абралі ва Управу ЗБС «Бацькаўшчына», але ён быў пакрыўджаны, і хутка паміж ім і Г. Сурмач узнік канфлікт, які вельмі перашкаджаў працы Управы, а гэта прыводзіла да не зусім добрых учынкаў. Адзін з іх такі. Я. Лецку ва Управе даручылі працу са СМІ і інфармацыю пра дзейнасць ЗБС. Я вельмі хацеў адкрыць газету ці хаця б бюлетэнь. Для гэтай мэты беларусы ЗША прыслалі нам камп’ютар (тады для нас гэта рэдкасць), які Я. Лецка прыватызаваў, і за долары стаў выпускаць іх кнігі.

Ні газеты, ні бюлетэня, ні інфармацыі пра ЗБС «Бацькаўшчына» так і не атрымалася, да таго ж у хуткім часе рэзка змянілася і агульная сітуацыя ў дзяржаве.

Я не мог адмовіцца ад прапановы Васіля Быкава балатавацца ў прэзідэнты ЗБС «Бацькаўшчына», бо належаў да той даволі шматлікай кагорты шчырых беларусаў, якія марылі пра стварэнне незалежнай дэмакратычнай багатай еўрапейскай беларускай Беларусі. Хаця я быў вельмі загружаны па сваёй асноўнай працы ў Акадэміі навук, але не мог не ўдзельнічаць у многіх пералічаных раней грамадскіх справах: удзел ва ўстаноўчым з’ездзе БНФ, а затым у Калегіі радцаў БНФ пры сойме і ў ценявым кабінеце ўзначаліў міністэрства рэсурсаў, сябра Рады ТБМ, Беларускага фонду культуры, Беларускага экалагічнага таварыства, прэзідэнт Фонду імя братоў Луцкевічаў, ганаровы сябра Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў і інш.

Знаёмства з замежнымі дэлегатамі Першага з’езда асабліва Паўночнай Амерыкі зрабіла на мяне вялікае ўражанне — большасць з іх аказаліся блізкімі сваёй беларускасцю. З многімі з іх зблізіўся і нават пасябраваў, калі ў 1994 годзе разам са старшынёй Рады Згуртавання Ганнай Сурмач наведалі ЗША і Канаду, а затым прынялі ўдзел у 21 сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі. Хочацца ўзгадаць сустрэчы з такімі выдатнымі дзеячамі беларускай эміграцыі як Вітаўт і

Зора Кіпелі, Янка і Надзя Запруднікі, Антон Шукелойц, Ала Орса-Рамана, Расціслаў Завістовіч, Васіль Мельяновіч, Вера і Вітаўт Рамукі, Вера і Мікола Прускі, архіепіскап Мікалай, Мікола Ганько, Раіса Жук-Грышкевіч, Івонка Сурвіла, айцец Аляксандр Надсан, Юля і Павел Андрусішыны, Вольга і Масей Сяднёвы і многія іншыя.

Апошняй значнай падзеяй перыяду нацыянальнага адраджэння было прыняцце 15 сакавіка 1994 г. Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь на 13-й сесіі Вярхоўнага Савета РБ пад старшынствам Мечыслава Грыба.

Ужо 10 ліпеня 1994 г. быў выбраны першы Прэзідэнт РБ А. Р. Лукашэнка. Сітуацыя ў краіне (асабліва пасля сумнага рэферэндуму 1995 года і паправак да Канстытуцыі РБ у 1996 годзе) рэзка змянілася — атрымаўся паварот у савецкае мінулае, адмоўныя адносіны да нацыянальнага адраджэння, незалежнасці і г. д. Улады Беларусі пачалі праводзіць падзел беларускай грамадскасці на «чэсных» і «нячэсных», «нашых» і «не нашых», што закранула і многія суполкі беларусаў за мяжой (асабліва ў СНД).

Падышоў час правядзення II з’езда беларусаў свету (25–28 ліпеня 1997 г.). Прадстаўнікі Адміністрацыі прэзідэнта (палкоўнік С. Посахаў) і Савета Міністраў (У. Русакевіч) пры сустрэчы з кіраўнікамі ЗБС патрабавалі, каб з’езд прайшоў у поўным прэзідэнцкім кірунку (двухмоўе, вяртанне савецкіх сімвалаў, аб’яднанне з Расіяй і г. д.). Хаця ЗБС не палітычная міжнародная супольнасць беларусаў, а культурна-асветніцкая, і яе задачы — спрыянне нацыянальнаму адраджэнню Беларусі, яе мовы, культуры, духоўнасці і маралі, гістарычнай памяці, аднаўленню дзяржаўнасці, незалежнасці. Мы не згадзіліся з такімі прапановамі і тым самым замест падтрымкі (не толькі фінансавай) атрымалі шматлікія перашкоды з дазволам на пражыванне і г. д. Правядзенне Другога з’езда беларусаў свету патрабавала ад кіраўніцтва ЗБС вялікіх намаганняў і значнай вытрымкі.

З’езд усё ж прайшоў 25 ліпеня 1997 года, але больш сціпла і з меншай колькасцю дэлегатаў (асабліва з боку беларусаў далёкага замежжа, якія не захацелі ехаць у Беларусь з такім новым рэжымам). Дзякуючы адмысловым дзеянням віцэ-прэм’ера У. Замяталіна (другога палкоўніка — «ідыёлага» дзяржавы), ад якога павінны былі атрымаць канчатковы дазвол на памяшканне, змаглі правесці пасяджэнне Вялікай рады толькі ў 18:30. Тэма з’езда вельмі актуальна — «Праблемы захавання беларускай прысутнасці ў свеце». Калі прывітальнае слова Васіля Быкава ўдзельнікі з’езда прынялі з вялікай удзячнасцю, дык зварот Прэзідэнта РБ А. Р. Лукашэнкі, які зачытаў намеснік міністра культуры, выклікаў шум, крыкі нязгоды з шэрагам яго выказванняў. Шмат прысутных пазналі больш дэмакратычную парламенцкую краіну і цяжка ўспрымалі дыктатарскую і дэмагагічную прэзідэнцкую. Шэраг прапрэзідэнцкіх выступленняў таксама выклікалі нязгоду. Прэзідэнтам ЗБС «Бацькаўшчына» зноў быў абраны Р. Гарэцкі, а старшынёй Рады — Г. Сурмач.

У апошні дзень з’езда — 28 ліпеня — Прэзідэнт РБ (праз С. Посахава) па сваім спісе запрасіў каля 80 прадстаўнікоў дыяспары, а ад кіраўніцтва ЗБС — Прэзідэнта і старшыню Рады. На сустрэчы прысутнічалі многія кіраўнікі ўладных структур РБ. Прэзідэнт РБ гаварыў аб сваёй увазе да дыяспары, абяцаючы ёй усялякую дапамогу, і ў зняважлівай форме абвінаваціў апазіцыю і кіраўніцтва ЗБС у фанатычным нацыяналізме, што яны заклікаюць да крыжовага паходу на РБ, сцэнарый якога напісаны даўно і робіцца «за зялёненькія» і г. д. Шэраг прадстаўнікоў Латвіі (В. Піскунова), Кіргізіі (Н. Міронава), Малдовы (А. Лапацьева), Мурманска (С. Дашчынскі), Польшчы (Я. Сычоўскі), Харкава (В. Самуйленка), Таліна (Н. Савінава) падтрымалі такі выступ, а прадстаўнікі Літвы (Ю. Мартынене, А. Давідзюк), Аўстраліі (Антух Мікалай), ЗША (Д. Пацэвіч), наадварот, абаранялі кіраўніцтва ЗБС.

Выступленне прэзідэнта РБ і асабліва яго заключнае слова прадстаўнікі ўлад і большасць дэлегатаў з’езда сустракалі

апладысментамі. У заключным слове гучалі нават пагрозы: «Конечно, поверьте, у меня хватило бы власти, чтобы поставить на место Гарецкого и Сурмач. Но я не хотел это делать с какими-то, знаете, диктаторскими замашками. Хотел, чтобы вы сами приехали в страну и убедились, кто есть кто и что здесь происходит. Вы убедились? Убедились!» (Апладысменты). Далей прыблізна так: «Сегодня вы говорите — большинство, кто разбирается, кто ближе живёт к Беларуси — “не трэба нам такая организация”. Давайте подумаем, как до родного края собрать. Давайте создадим организацию, которая будет действовать в общих интересах. И мы создадим, как бы ни противились этому гарецкие, позняки и борщевские» (Апладысменты). Ён адразу пакінуў залу сустрэчы. Мае намаганні атрымаць слова не мелі поспеху. Я тады прымусіў каманду тэлебачання праслухаць і запісаць мой кароткі выступ, у якім растлумачыў сапраўдныя задачы ЗБС, зафіксаваныя ў статуце. Яны сумленна запісалі, але ў навінах па TV не паказалі.

Паміж Другім і Трэцім з’ездамі беларусаў свету і напрамкі дзейнасці, і інтэнсіўнасць не змяніліся і не зменшылася, хаця сітуацыя ў краіне для гэтага стала яшчэ больш цяжкая і мала спрыяльная.

Тады самай небяспечнай для Беларусі стала праблема захавання незалежнасці. А. Лукашэнка ўсяляк імкнуўся здзейсніць поўную інтэграцыю з Расіяй і стаць на чале адзінай саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі. Дастаткова ўзгадаць некаторыя цытаты з яго выказванння ў і падзей таго часу. «Беларусь для меня — пройденный этап!» «Это будет такой союз, которого не видел мир». «Белорусы — это русские, только со знаком качества». «Объединение наших народов — дело святое». У 1998 г. была падпісана дэкларацыя аб аб’яднанні Беларусі і Расіі ў Саюзную дзяржаву. 1999 год стаў кульмінацыяй працэсу аб’яднання. «Я предложил Борису Ельцину, чтобы он стал президентом Союза, я согласен занять место вице-президента». «Мы можем создать мощнейшую империю, могучую и силь-

ную». 8 снежня 1999 года ў Маскве быў падпісаны Дагавор аб стварэнні Саюзнай дзяржавы.

Па ініцыятыве грамадскасці адбыўся Усебеларускі з’езд за незалежнасць, быў прыняты Акт незалежнасці Беларусі, які абвясціў незаконнымі любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту нашай краіны.

Націск улад на ЗБС, якое падтрымлівала барацьбу за незалежнасць, не памяншаўся, і ў 1999 г. абвясцілі, што пачала працаваць як альтэрнатыва «Бацькаўшчыне» Міжнародная асацыяцыя «Святло Радзімы», якая па выказваннях М. Мясніковіча, С. Посахава павінна правесці Кангрэс суайчыннікаў пад патранажам дзяржавы. Управа ЗБС даслала канцэпцыю III з’езда беларусаў свету, галоўная тэма якога «Беларусь і беларусы на мяжы тысячагоддзяў», а час правядзення 5–6 ліпеня 2001 г. (роўна праз 4 гады пасля папярэдняга з’езда, згодна статута ЗБС). Намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігіі і нацыянальнасцей сп. Іван Яновіч у якасці адказу надрукаваў у газеце «Голас Радзімы» артыкул, у якім абвінаваціў нас у тым, што III з’езд — гэта «палітычная акцыя», якая спецыяльна праводзіцца перад прэзідэнцкімі выбарамі, каб «узмацніць напружанасць у грамадстве». Абвясціў, што Дзяржкамітэт ужо рыхтуе Кангрэс суайчыннікаў у 2002 г. У артыкуле давалася рэкамендацыя ігнараваць III з’езд, да чаго пазней далучыліся беларускія пасольствы ў некаторых краінах.

І ў гэты раз «камедыя» з памяшканнем зноў паўтарылася, але нарэшце дабіліся дазволу правесці з’езд у Доме літаратара. Да III з’езда ЗБС «Бацькаўшчына» выдала спецыяльную кнігу (на беларускай і англійскай мовах) «Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы». На з’ездзе прысутнічалі 139 дэлегатаў і 35 гасцей з краін замежжа; 144 дэлегаты і 157 гасцей з Беларусі. Некаторыя ўдзельнікі II з’езда беларусаў свету пасылалі толькі вітанне III з’езду, таму што вымушаны былі эмігрыраваць у іншыя краіны. Сярод іх Васіль Быкаў прыслаў вітанне з Франкфурта-на-Майне (Германія), Ганна Сурмач ад імя суполкі

«Скарына» (Чэхія), стаўшы старшынёй гэтай суполкі. Таму справаздачны даклад аб дзейнасці ЗБС «Бацькаўшчына» рабіў выконваючы абавязкі старшыні Рады Валерый Герасімаў.

Пазней удалося надрукаваць кнігу «Другі і Трэці з'езды беларусаў свету. Матэрыялы і дакументы» (уклад. А. Макоўская. Мінск: Бел. кнігазбор, 2004. 372 с.). Таму я не буду нагадваць пра змест і аўтараў галоўных дакладаў, выніковых дакументаў і іншых матэрыялаў, а супынюся на некаторых момантах. Нармальнай працы ЗБС «Бацькаўшчына» перашкаджалі не толькі адмоўныя адносіны кіраўніка дзяржавы і ўсіх уладных структур, што ледзь не прыводзіла да ліквідацыі ЗБС, але і амаль непрымірымыя спрэчкі, амбіцыйныя паводзіны ў самім кіраўніцтве ЗБС, асабліва ў Малой Радзе і Управе. З самага пачатку майго прэзідэнцтва ЗБС «Бацькаўшчына» такія адносіны склаліся паміж Ганнай Сурмач і Яўгенам Лецкам. На змяншэнне гэтых канфліктаў прыходзілася траціць шмат сіл. Не зусім проста прайшлі выбары кіруючых органаў ЗБС «Бацькаўшчына». Сябры Управы прапанавалі мне заставацца прэзідэнтам, але я адмовіўся, бо гэта быў бы трэці тэрмін, а я не хацеў парушаць наш статут, па якім гэту пасаду можна займаць толькі два. Параіўшыся з шэрагам сяброў Управы і Рады, я прапанаваў кандыдатуру вядомага гісторыка прафесара Анатоля Грыцкевіча, які даў згоду. На канчатковым абмеркаванні нечакана вылучыў сваю кандыдатуру сябра Управы вядомы літаратуразнавец, прафесар Іван Саверчанка. Пасля спрэчак кандыдаты атрымалі вельмі блізкую колькасць галасоў, але Саверчанка перамог толькі на 2 галасы (а ўсіх было 18 сяброў Управы). Ён настолькі быў упэўнены ў сваёй перамозе, што гэта стала заўважна ў яго паводзінах. На жаль, тады адбыліся не зусім карэктныя выказванні агітуючых за розныя кандыдатуры. Прэзідэнтам ЗБС «Бацькаўшчына» быў абраны Анатоль Грыцкевіч, а старшынёй Рады — Алена Макоўская.

Ужо ў 2002 годзе У. Пуцін прапанаваў кіраўніку нашай дзяржавы, каб Рэспубліка Беларусь увайшла ў склад Расійскай

Федэрацыі нават не ў якасці аўтаномнай рэспублікі, а абласцямі. Пасля такой прапановы Прэзідэнт РБ ператварыўся з інтэгратара ў «незалежніка» і пачаў гаварыць мовай БНФ (а за ім і дзяржаўныя СМІ), абвінавачваючы Расію ў «імперскасці». Але адносіны да ЗБС «Бацькаўшчына» заставаліся без асаблівых змен. ЗБС, як і Скарынаўскі навукова-асветны цэнтр, былі пазбаўлены памяшкання. Тым не менш ЗБС працягвала актыўную працу.

16–17 ліпеня 2005 года у Міжнародным адукацыйным цэнтры (Менск) прайшоў IV з’езд беларусаў свету. Удзел прынялі 144 дэлегата з Беларусі і 134 — з замежжа. Прысутнічалі прадстаўнік Мінюста і Камітэта па справах рэлігіі і нацыянальнасцяў, а таксама пасол ЗША Джордж Крол, першы сакратар амбасады Польшчы Марыуш Семаковіч і прадстаўнік амбасады Францыі Лауры Трэгерэ. Адкрыццё з’езда пачалося з выканання гімна ЗБС «Бацькаўшчына», які першы раз прагучаў на III з’ездзе і які быў у апрацоўцы Вячаслава Кузняцова ўзяты са старажытнага «Полацкага сшытка», знойдзенага Адамам Мальдзісам, і распрацаваны Віктарам Скарабагатавым. З прывітальным словам на беларускай мове выступіў Джордж Крол. Асноўныя даклады зрабілі: старшыня[1] ЗБС «Бацькаўшчына» Анатоль Грыцкевіч, Янка Запруднік (ЗША), Алег Гардзіенка, Аляксей Кароль, Вітаўт Кіпель (ЗША), Леанід Злотнікаў. Справаздачны даклад зрабіла старшыня Рады ЗБС Алена Макоўская. Новым кіраўніком ЗБС «Бацькаўшчына» быў абраны вядомы беларускі мастак і грамадскі дзеяч Аляксей Марачкін, старшынёй Рады пераабрана Алена Макоўская, а яе намеснікамі Ніна Шыдлоўская, Валеры Герасімаў і Барыс Стук.

18–19 ліпеня 2009 года ў будынку Міжнароднага адукацыйнага цэнтра адбыўся V з’езд беларусаў свету. Удзел у ім прынялі 252 дэлегаты з 18 краін свету. Яшчэ раней была зроблена прапанова аб заснаванні новага Міжнароднага гра-

[1] Указам Прэзідэнта РБ назву «прэзідэнт» павінен мець толькі адзін чалавек, а ўсе іншыя — «кіраўнік ці старшыня».

мадскага аб'яднання «Беларускі Дом», якая фактычна замяняла ЗБС «Бацькаўшчына», і ў той жа час яно павінна быць унітарным прадпрыемствам «Беларускі Дом» з усімі правамі юрыдычнай асобы, якая ведае фінансавым забеспячэннем. Управа ЗБС не пагадзілася з гэтай прапановай і вырашыла захаваць самастойнасць «Бацькаўшчыны», кіраўніком прапанаваць Алену Макоўскую, а старшынёй Рады Ніну Шыдлоўскую. Увечары 17 ліпеня адбылося пасяджэнне Вялікай Рады, на якой абмеркавалі праекты выніковых дакументаў, кандыдатуры на пасаду кіраўніка і старшыні Рады ЗБС, сяброў Вяліккай Рады і Управы. Мне, як аднаму са сустаршынь аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні з'езда, давялося весці пасяджэнне. Найбольш гарачыя спрэчкі выклікала абмеркаванне кіраўніка ЗБС і старшыні Рады, бо было прапанавана некалькі кандыдатур. Я агучыў прапанову Управы, і гэтыя кандыдатуры былі падтрыманы, бо Алена Макоўская і Ніна Шыдлоўская ўсю працу ЗБС «Бацькаўшчына (асабліва ў сувязі з дыяспарай беларусаў) паміж IV і V з'ездамі па падрыхтоўцы і правядзенні апошняга ўзялі на сябе. Таму іх добра ведалі ўсе сябры ЗБС, ацаніўшы іх выключныя якасці як адказных і актыўных кіраўнікоў Згуртавання. На самым з'ездзе кіраўніком МГА ЗБС «Бацькаўшчына» амаль аднагалосна (два дэлегаты ўстрымаліся) была абраная Алена Макоўская, старшынёй Рады — Ніна Шыдлоўская, намеснікамі старшыні — Валеры Герасімаў і Барыс Стук.

З прывітальнымі словамі па-беларуску выступіў амбасадар Швецыі ў Беларусі Стэфан Эрыксан, Міністр культуры Павел Латушка і ўпаўнаважаны па справах рэлігіі і нацыянальнасцяў Леанід Гуляка. Быў заслуханы аудыязварот старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы. Асноўная тэма з'езда — «Нацыянальная ідэнтычнасць беларусаў у сучасным свеце: праблемы захавання і развіцця». Даклады па гэтай тэматыцы зрабілі Аляксей Марачкін, Наталля Гардзіенка, Янка Запруднік, Алег Рудакоў. Справаздачны даклад аб дзейнасці ЗБС «Бацькаўшчына» зрабіла старшыня Рады Алена Макоўская. Працавалі тры секцыі:

«Сродкі нацыянальнай ідэнтыфікацыі беларусаў у Беларусі і свеце (мова, літаратура, мастацтва, друк і г. д.), «Магчымасці ўзаемадзеяння метраполіі і дыяспары ў захаванні нацыянальнай ідэнтычнасці і культурнай спадчыны беларусаў», «Беларуская ідэнтычнасць у еўрапейскім кантэксце». Быў прыняты шэраг выніковых дакументаў: Праграма «Беларусы ў свеце» (2009–2013), выніковая рэзалюцыя па тэме з'езда, зварот аб стварэнні дзяржаўных органаў і ўстаноў па справах беларускай дыяспары, зварот аб прыняцці закона «Аб беларусах замежжа», зварот «Беларуская мова — аснова незалежнасці Беларусі», зварот аб святкаванні 600-годдзя Грунвальдскай бітвы і інш.

23–24 ліпеня 2013 года ў Міжнародным адукацыйным цэнтры імя Ёганэса Раў адбыўся VI з'езд беларусаў свету. Прысутнічала 239 дэлегатаў і 95 гасцей з 21 краіны замежжа і самой Беларусі. Былі прадстаўнікі амбасадаў Украіны, ЗША, Польшчы і Нідэрландаў, а таксама 14 прадстаўнікоў дзяржаўных устаноў. Галоўная тэма «Беларуская нацыя ва ўмовах глабалізацыі: выклікі і магчымасці». З'езд віталі міністр культуры Барыс Святлоў, прадстаўнік праваслаўнай канфесіі протаіерэй Сяргей Гардун і ад каталіцкай канфесіі айцец Яўген Усопшын. Шмат вітанняў прыйшло ад дзеячаў беларускага замежжа. З асноўнымі дакладамі выступілі Алена Макоўская («Актуальныя праблемы ўзаемадачынення дыяспары і метраполіі»), Наталля Гардзіенка («Беларускае замежжа: сучасны стан, праблемы, перспектывы»), Алеся Кіпель («Гістарычнае параўнанне і дасведчанне змены хваляў і пакаленняў беларусаў у Амерыцы»), Алег Рудакоў («Перспектывы развіцця беларускага патрыятызму ў адрыве ад метраполіі»). Справаздачны даклад пра дзейнасць ЗБС «Бацькаўшчына» зрабіла Ніна Шыдлоўская.

Працавала тры секцыі: «Магчымасці ўнутраных сіл Беларусі і дыяспары па ўмацаванні нацыянальнай ідэнтычнасці», «“Новая” і “старая” эміграцыя: супраца на карысць нацыянальнага развіцця», «Культурная спадчына беларускага замежжа». Былі арганізаваны выставы, прысвечаныя 20-годдзю Першага

з’езда беларусаў свету; выстава аб спадчыне беларускай эміграцыі на захадзе. Увечары адбыўся цудоўны канцэрт, у якім выступілі беларускія калектывы і салісты з замежжа.

Была прынята выніковая рэзалюцыя дэлегатаў VI з’езда беларусаў свету, у якой падкрэслівалася, што «нацыянальная ідэнтычнасць — апірышча развіцця беларускага народа», «мова — найважнейшая аснова нацыянальнай самабытнасці, галоўны фактар захавання беларускай нацыі і дзяржавы», «каб бела-чырвона-белы сцяг і старажытны герб “Пагоня” быў уключаны ў пералік нацыянальных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь» і інш. Прыняты выніковыя дакументы: Праграма «Беларусы замежжа» (2013–2017), заявы «аб захаванні гістарычна-культурнай спадчыны», «аб транслітарацыі найменняў беларускіх геаграфічных аб’ектаў», «аб акце добрай волі» (вызваліць палітзняволеных) і інш.

Усе дэлегаты ўпэўніліся ў добрай працы кіраўніцтва «Бацькаўшчыны» і таму аднагалосна пераабралі кіраўніком ЗБС Алену Макоўскую, старшынёй Рады — Ніну Шыдлоўскую, намеснікамі старшыні — Валерыя Герасімава і Барыса Стука.

Нягледзячы на станоўчае і даволі спакойнае правядзенне VI з’езда беларусаў свету, але ведаючы жорсткія адносіны ўлад да ўсякай беларушчыны (у тым ліку і да «Бацькаўшчыны»), Лявон Баршчэўскі ў «Народнай Волі» (26 ліпеня 2013 г.) надрукаваў у рубрыцы «Незашораным вокам» артыкул «Ці дажыве Згуртаванне беларусаў свету як легальная арганізацыя да наступнага з’езда?».

Тым не менш ЗБС «Бацькаўшчына» працягвае вельмі актыўна працаваць у самых разнастайных напрамках. Асабліва трэба адзначыць рэгулярнае выданне інфармацыйнага бюлетэня «Беларусы ў свеце», стварэнне ў 2004 годзе серыі «Бібліятэка “Беларусы ў свеце”», у якой ужо выдадзена амаль тры дзясяткі кніг, а ў 2008 годзе падсерыі «Людзі Беларусі»; шырокую куль-

турніцкую кампанію «Будзьма беларусамі»; беларускамоўную рэкламную камунікацыю «Аднак!»; розных праектаў па выданні календароў і г. д.; стварэнне «Цэнтра камплектавання і вывучэння дакументацыйнай спадчыны беларускага замежжа» (разам з Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва); удзел у шматгранным жыцці беларусаў свету і інш.

Уплыў дзейнасці ЗБС «Бацькаўшчына» на нацыянальнае адраджэнне Беларусі і развіццё беларушчыны ва ўсім свеце надзвычайнае, і таму наша Згуртаванне будзе мацнець і пільна працаваць, пакуль на свеце жывуць беларусы, а гэта значыць вечна!

*2015*

## Хроніка паваеннай беларускай эміграцыі[1]

У сярэдзіне верасня 2015 г. Анатоль Сідарэвіч — вядомы гісторык, палітолаг, грамадскі дзеяч — ад імя Янкі Запрудніка перадаў мне і Нілу Гілевічу цудоўны падарунак: вельмі цікавую, змястоўную кнігу слыннага дзеяча беларускай эміграцыі «Па гарачых слядах мінуўшчыны. Мае лісты 1952–1959 гг.». (Мінск: Лімарыус, 2015. 572 с.), якую мы атрымалі з вялікай прыемнасцю, радасцю і ўдзячнасцю. Мы ўспомнілі незабыўныя сустрэчы ў Беларусі, калі Янка Запруднік досыць часта змог наведваць Менск. Яго актыўны ўдзел у працы Згуртавання беларусаў свету, асабліва ў час Першага з'езда беларусаў свету, а потым вялікая падтрымка наступных з'ездаў у больш цяжкія для згуртавання прэзідэнцкія часы, пастаяннае сяброўства ў Вялікай радзе ЗБС «Бацькаўшчына» зблізілі нас. Прыемна ўразіла больш цеснае знаёмства з Янкам Запруднікам, яго жыццём і дзейнасцю: шырока адукаваны доктар гісторыі, грамадскі і палітычны дзеяч, шматграннага таленту (гісторык, журналіст, публіцыст, паэт і празаік, рэдактар і архівіст, арганізатар і

[1] Тэрмапілы. — 2016. — № 20.

інш.), поўнасцю адданы роднай Беларусі і беларушчыне. Наша знаёмства перарасло ў сапраўднае сяброўства.

Я ад свайго імя і Ніла Гілевіча перадаў праз e-mail Янку Запрудніку нашу агульную падзяку за яго кнігу, высока ацаніўшы яе і па змесце, сутнасці, значэнні і пажадаўшы працягнуць яго цікавы эпісталярый. 21 верасня 2015 г. мы атрымалі адказ: *«Дарагія і шаноўныя сябры Радзім і Ніл! Сардэчная падзяка вам за шчодры водгук на маю кнігу “Па гарачых слядах мінуўшчыны”. Прыемна чуць словы, якія дадаюць вытрываласьці ў працы. Абдымаю. Шчыра ваш — Янка Запруднік»*.

Янка Запруднік 17-гадовым юнаком апынуўся ў паваеннай Нямеччыне, хутка далучыўся да эміграцыйнай беларускай грамады, сярэднюю адукацыю атрымаў у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. У канцы жніўня 1954 г. з дыпломам гісторыка скончыў Лювэнскі ўніверсітэт у Бельгіі. Далей праца ў беларускай рэдакцыі радыё «Вызваленне» (сучасная «Свабода») у Мюнхене, сябра рэдакцыі тыднёвай газеты «Бацькаўшчына» і ў сакавіку 1957 г. пераезд у ЗША, дзе працягваў працу на радыё «Вызваленне» і ў газеце «Бацькаўшчына». У Нью-Ёрку абараніў дысертацыю, стаў доктарам гісторыі, актыўна займаўся разнастайнымі справамі (галоўным чынам беларускімі), выдаў шэраг кніг пра дзейнасць беларусаў у эміграцыі і г. д.

Нягледзячы на тое, што «вольнага часу» заўсёды не ставала, Янка Запруднік, які жыў па прынцыпе «Жыць да стомы», адразу пачаў пісаць лісты, прычым пад капірку, таму што разумеў — копіі патрэбны як дакумент эпохі, у якой ён жыве. Ён адзначыў: *«Галоўным зместам лістоў былі арганізацыйныя ініцыятывы, выдавецкія праекты, грамадскія справы, палітычныя падзеі й погляды, культурніцкія мерапрыемствы ды, зразумела, абмен сяброўскімі й сямейнымі навінамі»*[1].

*«Пры геаграфічнай раскіданасьці й палітычнай растрэсенасьці таго часу ліставаньне разам з прэсай было галоўным*

---

[1] Запруднік Я. Па гарачых слядах мінуўшчыны. — Мінск, 2015. — С. 11

*спосабам “трымацца за рукі”, каб не разгубіцца»*[1]. *«Што такое — ліст? […] Гэта дакумэнт, у якім зафіксаваны факты, патрэбы, просьбы, жаданьні, пачуцьці, погляды, аб’ектыўныя й суб’ектыўныя аспекты індывідуальнага й калектыўнага быту»*[2].

Першыя сорак лістоў з 1948–1954 гадоў Янка Запруднік змясціў у кнізе «Дванаццатка. Дакументальная аповесць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Велікабрытаніі й Бельгіі (1946–1954 гг.)» (Нью-Ёрк, 2002). Яшчэ ў 2005 годзе ён падараваў мне гэтую кнігу з прыемным аўтографам: *«Вельмі паважанаму й дарагому вялікаму сыну Бацькаўшчыны, прадаўжальніку слаўнае сямейнае традыцыі служэньня Беларусі Радзіму Гарэцкаму з найлепшымі пажаданьнямі і глыбокай пашанай — Янка Запруднік. Мінск, 15 ліпеня 2005 г.»*.

Як адзначыла Валянціна Трыгубовіч у сваёй прадмове, у кнігу ўключаныя толькі беларускамоўныя лісты. Пісаныя па-француску, па-англійску ды па-польску засталіся некранутыя ў архіве аўтара. Яна ж падкрэсліла значэнне кнігі: *«Лісты Янкі Запрудніка пашыраюць наша ўяўленьне пра паваенную беларускую эміграцыю, даюць магчымасьць глыбей зразумець людзей і матывы, якімі яны кіраваліся, імкнуўшыся да самарэалізацыі ды адданага служэньня Бацькаўшчыне, змаганьня за яе незалежнасьць. Колькасна невялікая й незаможная, у параўнаньні з іншанацыянальнымі дыяспарамі, беларуская грамада здолела зрабіць для станоўчага іміджу сваёй радзімы неверагодна шмат. Шчырасьць, ахвярнасьць ды глыбокая вера ў сваё прызначэньне спрыялі пасьпяховай працы гэтых нязломных патрыётаў»*[3].

Я думаю, што гэта кніга Янкі Запрудніка ўяўляе сапраўдную «Хроніку паваеннай беларускай эміграцыі», якая створана на базе ліставання — найлепшай дакументальнай формы. Гэта —

[1] Запруднік Я. Па гарачых слядах мінуўшчыны. — Мінск, 2015. — С. 10.

[2] Тамсама. — С. 12.

[3] Тамсама. — С. 8.

выдатны пачатак «Хронікі…», прысвечаны вельмі цяжкаму часу халоднай вайны паміж Захадам і Усходам, што спрыяла спадзяванням беларускай эміграцыі вярнуцца ў вольную Беларусь, а гэта ў сваю чаргу патрабавала трымацца разам раскіданым па розных краінах беларусам. З другога боку, усплывалі праблемы прыстасавання жыцця на новых месцах пасялення, пытанні перспектыў тэрміну эміграцыі і г. д.

Будучая «Хроніка паваеннай беларускай эміграцыі» нагадала мне «Камароўскую хроніку» Максіма Гарэцкага, у якой аўтар на комплекснай дакументальнай аснове (лісты з вёскі, успаміны вяскоўцаў, мясцовыя гісторыі і інш.) на прыкладзе жыхароў вёскі Камароўкі, цэлых сялянскіх родаў у той мясцовасці даў сямейную, затым вясковую хроніку жыцця і, нарэшце, хранікальную эпапею беларускага сялянскага народнага жыцця.

Вельмі хацелася, каб Янка Запруднік не абмяжоўваўся толькі 50-мі гадамі жыцця і дзейнасці паваенных беларускіх эмігрантаў, а працягнуў бы гэтую хроніку ў сапраўдны «раманхроніку», надрукаваўшы свае лісты да іншых і лісты да яго ў шматлікія гады эміграцыі да сучаснага часу.

* * *

23 верасня 2015 г. у бібліятэцы галерэі «Ў» адбылася прэзентацыя кнігі «Па гарачых слядах мінуўшчыны. Мае лісты 1952–1959 гг.». Янкі Запрудніка, якую вялі Наталля Гардзіенка і Валянціна Трыгубовіч. Н. Гардзіенка пазнаёміла прысутных са зместам кнігі і дала слова В. Трыгубовіч, якая нядаўна прыляцела з Нью-Ёрка і больш падрабязна паведаміла пра гісторыю стварэння кнігі: яна рэдагавала кнігу і напісала прадмову. В. Трыгубовіч падзялілася пра свае сустрэчы з Янкам Запруднікам, якому на наступны год споўніцца 90 гадоў. Нягледзячы на такі салідны ўзрост, ён адчувае сябе добра, кожны дзень робіць зарадку, далёкія прагулкі, пільна працуе; шчаслівы ў сям’і разам з мілай жонкай Надзеяй Кудасавай. Спадар Янка

кожны дзень тэлефануе свайму самаму даўняму сябру, таксама выдатнаму дзеячу беларускай эміграцыі Вітаўту Кіпелю, які адчувае сябе слабавата і зусім не выходзіць з хаты, але выдаў кнігу ўспамінаў «Жыць і дзеіць» (2015). На маё пытанне, ці збіраецца Янка Запруднік працягваць свае хранікальныя лісты, спадарыня Валянціна адказала, што ён пакуль не паведамляе пра дальнія планы, а збіраецца выдаць лісты сяброў тых жа часоў да яго. У Я. Запрудніка гатовы зборнік яго вершаў, але пакуль выдаваць яго не збіраецца.

Наталля Гардзіенка так дасканала падрыхтавала прэзентацыю, што давала слова толькі тым, хто папярэдне падрыхтаваў выступы. Гэта былі цікавыя паведамленні Валерыя Герасімава — сябра Рады і ўправы Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» з успамінамі пра дзейнасць Янкі Запрудніка ў якасці сябра Вялікай Рады ЗБС «Бацькаўшчыны» і ўдзелу ў падрыхтоўцы і правядзенні з'ездаў беларусаў свету. Выступіла дырэктар выдавецтва «Лімарыус» Марына Шыбко і расказала, як рыхтавалася да выдання кніга. Ганна Запартыка паведаміла пра знаёмства з Янкам Запруднікам і пра яго архіў ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. У заключэнні вядомая спявачка Тацццяна Матафонава выканала адну з любімых песень спадара Янкі і беларускай эміграцыі «Мая Беларусь», а таксама беларускі варыянт паланэза «Развітанне з Радзімай» Міхала Клеафаса Агінскага.

Усім прысутным былі раздадзены тэксты Янкі Запрудніка «Прывітальнае слова ад аўтара кнігі»: *«Паважаныя спадарыні й спадары, дарагія сяброўкі й сябры!*

*Хоць мы з вамі жывём далёка адны ад адных, я цешу сябе наступнай думкай: філёзафы прызналі, што **прастора** ў сваёй сутнасьці — гэта ня рэч і не адчуваньне, а толькі **прадукт псыхалёгіі**. Значыцца, спараджае прастору **думка**. Дык **думкаю** мы яе сёньня й зьнішчаем. У гэты мамэнт мы з вамі **разам**. Разам у імя Бацькаўшчыны.*

*Мне вельмі прыемна, што з дапамогаю сяброў-супрацоўнікаў мы здолелі завяршыць наш працаёмкі выдавецкі праект у форме кнігі маіх лістоў. У іх адлюстраваны пэрыяд нашай гісторыі, мала ведамы на Бацькаўшчыне. Рэч у тым, што наша гістарычная прастора шмат шырэйшая, чымся прастора геаграфічная. Гістарычная прастора ўключае ў сябе долю й нядолю нараджэнцаў Беларусі па цэлым сьвеце. Гісторыю гэтых людзей трэба ведаць, бо ў ёй шмат павучальнага для сёньняшняга дня, асабліва ў сэнсе культурнага й нацыянальнага самасьцьверджаньня беларусаў. Прыклад замежных суродзічаў, асабліва ў пэрыядзе пасьля Другой сусьветнай вайны, варты таго, каб азнаёміцца зь ім бліжэй. Ён будзе стымуляваць наш сёньняшні адраджэнскі рух, нашу нацыянальную годнасьць. З такой мэтай і выдадзена мая кніга.*

*Пры гэтай нагодзе хачу яшчэ раз шчыра падзякаваць тым, хто працаваў над ейным выхадам у сьвет — шаноўным Валянціне Трыгубовіч, Марыне Шыбко, Натальлі Гардзіенцы ды аўтару вокладкі спадару Вадзіму Ногу. Дзякую таксама кіраўніцтву "Бацькаўшчыны" за арганізацыю гэтай імпрэзы і ўсім, хто на яе прыбыў.*

*Жыве Беларусь!»*

***2015***

## Аляксей Кароль — кароль беларушчыны

25 верасня з 14:00 да 16:00 у Палацы мастацтваў адбылося развітанне з Аляксеем Каралём, сэрца якога спынілася ў суботу, 12 верасня 2015 года. Роўна год таму Аляксей Сцяпанавіч меў аперацыю на лёгкіх у Навукова-даследчым інстытуце анкалогіі і радыялогіі ў Бараўлянах і прайшоў курс хіміятэрапіі, але праз 6 месяцаў яго зноў схапіла хвароба. Яго сын Сяргей разам з сям'ёй (у тым ліку і ўнукам) ужо працаваў у Сінгапуры. Таму Аляксей Кароль і яго жонка Вольга напрыканцы чэрвеня 2015 года паехалі да сына, і там ён пачаў лячэнне ў

вядомым Нацыянальным анкалагічным цэнтры. Дачка Ірына ў дзень перадсмяротнай шпіталізацыі Таты таксама прыляцела ў Сінгапур. Аляксей быў шчаслівы ў апошнія дні жыцця сярод сваёй цудоўнай сям'і. Усяго 3,5 месяца не дажыў да 70-годдзя.

Зала Палаца мастацтваў была перапоўнена. Сярод прысутных было шмат вядомых асоб беларускай Беларусі. Каля урны з прахам і выразным партрэтам Аляксея Сцяпанавіча Караля, патанулых у вянках і кветках, сядзелі жонка Вольга Мікалаеўна, дзеці Ірына і Сяргей разам з іншымі роднымі, да якіх падыходзілі і выказвалі шчырыя спачуванні. Вядучым на развітанні быў вядомы журналіст Аляксандр Старыкевіч. Аляксей Кароль — шматгранная таленавітая асоба: навуковы супрацоўнік — гісторык, кандыдат гістарычных навук, дакументаліст-архівіст, палітычны і грамадскі дзеяч, палітолаг, журналіст, рэдактар і інш.

Аляксей Сцяпанавіч быў добразычлівы, разважлівы, сціплы, абаяльны, светлы чалавек, вакол якога заўсёды згуртоўвалася шырокае кола сяброў і паплечнікаў. Ён шмат зрабіў для славы роднай Беларусі і як гісторык выдаў манаграфіі і артыкулы пра Першую расійскую рэвалюцыю 1905–1907 гадоў, пра Другі з'езд РСДРП, пасляваенную акупацыю Германіі ў 1945–1947 гадах, вярнуў нам добрае імя Усевалада Ігнатоўскага і некаторых іншых «нацдэмаў» мінулага стагоддзя, даследаваў праблемы станаўлення беларускай дзяржаўнасці, нацыянальнай палітыкі, сучасныя палітычныя працэсы; быў адным з заснавальнікаў Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», адным з заснавальнікаў Партыі народнай згоды і Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная грамада); быў заснавальнікам і галоўным рэдактарам незалежнай газеты «Згода» (1992–2006), пазней і да апошняга часу — галоўным рэдактарам газеты «Новы Час».

Адыход Аляксея Караля ў іншы свет — вялікая згуба для Беларусі, аб чым з жалем і слязьмі выказваліся шматлікія (каля 15) выступоўцы, якія дзяліліся ўспамінамі пра сумесныя

справы ў розных напрамках яго дзейнасці, пра яго цудоўныя чалавечыя якасці, асабістыя памятныя сустрэчы і падзеі і інш. Пра плённую палітычную і грамадскую дзейнасць Аляксея Караля яскрава сказаў М. Грыб; ад імя беларускіх журналістаў спачуванне выказала Ж. Ліцвіна, падкрэсліўшы яго выдатную працу таленавітага журналіста; А. Анісім перадала спачуванне ад Таварыства беларускай мовы, Мінская гарадская арганізацыя якога была заснавальнікам «Новага Часу». У. Някляеў узгадаў пра свае сяброўства з Аляксеем яшчэ з часоў вучобы ў адной школе ў Смаргоні і прачытаў верш, прысвечаны сябру; Алесь Пашкевіч ад Саюза беларускіх пісьменнікаў выказаў спачуванне і шчырую ўдзячнасць за культурна-асветніцкі праект Саюза і «Новага Часу» ў рэгулярнай публікацыі «Літаратурнай Беларусі».

Ніхто з шматлікіх выступоўцаў не ўспомніў значную працу Аляксея Караля ў Згуртаванні беларусаў свету «Бацькаўшчына», таму я ўжо ў самым канцы развітання папрасіў слова. Як былы прэзідэнт ЗБС «Бацькаўшчына» і сучасны сябра Малой і Вялікай Рады, я выказаў шчырае спачуванне ад імя ЗБС «Бацькаўшчына» і наш глыбокі смутак, аб чым раней было надрукавана ў інфармацыйным бюлетні «Беларусы ў свеце». У верасні 1990 года ў Менску было заснавана ЗБС «Бацькаўшчына», у арганізацыйны камітэт якога разам з ініцыятарам Яўгенам Лецкам і іншымі ўваходзілі Аляксей Кароль і я. Менавіта з гэтага часу мы пазнаёміліся і потым удзельнічалі ў працы Згуртавання да апошніх дзён. Асабліва шмат намаганняў давялося прыкласці пры арганізацыі і правядзенні Першага з’езда беларусаў свету ў 1993 г. — найбольш выдатнай падзеі ў жыцці сучаснай беларускай супольнасці ўсяго свету. З таго часу Аляксей Кароль на кожным з’ездзе (а іх прайшло ўсяго шэсць) аднагалосна выбіраўся сябрам Малой і Вялікай Рады ЗБС «Бацькаўшчына», на некалькіх першых — нават ва Управу. Асабліва яскрава А. Кароль выявіў свае здольнасці ў рэдакцыйнай камісіі і таму, пачынаючы з Другога з’езда, яго заўсёды

прызначалі старшынёй камісіі. Усе дакументы з’ездаў (у тым ліку розныя звароты, заявы, рэзалюцыі) удала выпрацоўвала Рэдакцыйная камісія на чале з Аляксеем Каралём.

Памятаю, як у газеце «Народная Воля» (18 верасня 2002 г.) прачытаў паведамленне «Напад на Аляксея Караля» аб тым, што каля ўласнага дома быў збіты намеснік нядаўна заснаванай Аб’яднанай сацыял-дэмакратычнай партыі Аляксей Кароль. Напад на яго адбыўся ў яго пад’ездзе каля 23:00, калі ён вяртаўся з Вільнюса, дзе сустракаўся з літоўскімі калегамі. Удар па галаве цяжкім прадметам выклікаў страту прытомнасці на 15 хвілін — медыкі выявілі страсенне мозгу. Праз 4 месяцы 17 студзеня 2003 года ў 19:30 такім жа чынам недалёка ад пад’езда майго дома быў збіты і я, калі вярочаўся ад Ніла Гілевіча, аб чым пазваніў жонцы. Атрымаў страсенне сярэдняй цяжкасці, некалькі ран на галаве, зламаны нос. Вось так адзін за адным мы трапілі ў лік так званых «недабіткаў» (па трапным выказванні Адама Мальдзіса, які быў адным з першых, хто атрымаў аналагічны прафесійны напад за сваю працу па развіцці мовы, культуры, незалежнасці Беларусі).

У студзені 2004 года ў газеце «Новы Час» А. Кароль разам з некаторымі супрацоўнікамі рэдакцыі ўзяў у мяне інтэрв’ю ў сувязі з 75-годдзем Акадэміі навук Беларусі і апублікаваў яго пад назвай «Зацугляная наша навука», а ўжо ў сакавіку 2004 ў газеце «Згода» А. Кароль надрукаваў інтэрв’ю са мной у новай «серыі сустрэчаў у рэдакцыі з выбітнымі беларусамі», у якой першым госцем выбралі мяне. Інтэрв’ю Аляксей Кароль браў вельмі спагадліва, зацікаўлена, задаваў дужа трапныя пытанні.

Галоўная рыса ў жыцці і дзейнасці Аляксея Караля — гэта шчырая любоў да Бацькаўшчыны, яе прыроды, людзей, мовы, гісторыі, мара пра незалежную дэмакратычную, багатую еўрапейскую краіну. Ён — сапраўдны Кароль беларушчыны і сучаснага нацыянальнага адраджэння. Імя Аляксея Караля будзе жыць у памяці ўсіх беларусаў свету!

***2015***

## Замест сэрца — палымяны матор

Раптам успомніў, што калі быў юнаком, дык часта чуў, а, мусіць, і сам спяваў разам са сваімі сябрамі на дэманстрацыях папулярную ў Савецкім Саюзе песню:

…Мы рождены, чтоб сказку сделать былью,
Преодолеть пространствао и простор.
Нам Сталин дал стальные руки-крылья,
А вместо сердца — пламенный мотор!

Адышоў у нябыт Савецкі Саюз, а разам з ім і гэтая песня, і я ўжо ніколі не думаў, што раптам успомню яе.

Вось у снежні 2015 года, калі мне стукнула ўжо 87 гадоў, вельмі вопытны кардыёлаг Людміла Віктараўна Кавалёва, якая даўно наглядае за маім сэрцам вырашыла паставіць мне холтар, які даў выразны паказчык, што сэрца мае (асабліва ў час сну) вельмі рэдка «плюхае» — да 25–30 разоў у хвіліну, а то і на нейкі момант-секунду супыняецца. Дактары цвёрда вырашылі — трэба дапамагчы майму «матору» і паставіць электракардыястымулятар. Так я зноў трапіў у кардыялагічнае аддзяленне Лечкамісіі, нязменнай загадчыцай якой з’яўляецца Алена Мікалаеўна Губар. З ёй я першы раз сутыкнуўся роўна 15 гадоў таму, калі старэйшы ў Беларусі кардыёлаг акадэмік Георгі Іванавіч Сідарэнка, паслухаўшы мяне, са здзіўленнем адзначыў («у яго інфаркт, а ён з ім бегае па горадзе») і накіраваў мяне да сваёй любімай вучаніцы. Калі ў чалавека такі «салідны» ўзрост, дык што ні год, дык якая-небудзь «юбілейная» з’ява ці сустрэча.

Ужо 22 снежня цвёрдыя рукі з упэўненымі рухамі кардыёлага Сяргея Аляксандравіча Сівака ўціснулі ў левы бок грудзей «матор» — электракардыястымулятар, ад якога да сэрца праз вены працягнуў электроды, і забілася маё сэрца ў іншым, больш энергічным і бадзёрым рэжыме. А пад самы Новы 2016

год адпусцілі мяне дахаты, і я яшчэ больш адчуў, што будзьма жыць, бо ў мяне «замест сэрца — палымяны матор».

*2015*

## Бацька і сын — дзеячы, прасякнутыя беларушчынай

*(Яўхім і Вітаўт Кіпелі)*

З вялікай цікавасцю, амаль без перапынку не проста прачытаў, а «праглынуў» дзве кнігі ўспамінаў выдатных беларускіх дзеячаў — бацькі і сына — Яўхіма Кіпеля «Эпізоды» (Мінск: Лімарыус, 2013. 388 с.) і Вітаўта Кіпеля «Жыць і дзеіць. Успаміны» (Мінск: выдавец Зміцер Колас, 2015. 442 с.). Мне асабліва цікава было чытаць гэтыя ўспаміны, бо іх жыццёвы шлях быў вельмі блізкі да лёсу многіх беларускіх інтэлігентаў таго часу, у тым ліку і асабіста нашай сям'і. Іх лёс яшчэ больш быў незвычайным у сувязі з тымі неверагоднымі падзеямі і прыгодамі, якія ім прыйшлося перажыць у час акупацыі Беларусі ў Другую сусветную вайну, а пазней — у паваеннай эміграцыі. А жыццёвыя сітуацыі часта былі такія нечаканыя, небяспечныя для жыцця, што іх удзельнікі траплялі то ў стан здраднікаў, то закладнікаў, знаходзячыся на грані смерці, то раптам новае вызваленне і свет надзеі. Толькі воля, любоў да жыцця, мужнасць, аптымізм, імкненне да ведаў і дабра, каханне, адданасць Радзіме, беларускасці ратавалі многіх. Успаміны Кіпеляў напісаны вельмі добрай, па-сапраўднаму мастацкай прыгожай беларускай мовай і чытаюцца, як прыгодніцкія аповесці, часта аздобленыя амаль фантастычнымі падзеямі.

Леў Талстой некалі прадказаў, што ў будучыні пісьменнікі будуць «не сочинять, а только рассказывать то значительное или интересное, что им случалось наблюдать в жизни». Вось і ўспаміны Яўхіма і Вітаўта Кіпеляў, мусіць, набліжаюцца ці ўжо і належаць да такога тыпу літаратуры. Таму яны, ня-

гледзячы на суб'ектыўнае ўспрыманне, даводзяць да чытача рэальна праўдзівыя падзеі, якія адбыліся з самімі аўтарамі, з іх знаёмымі, асяроддзем, і даюць многа таго, што звычайна не прачытаеш у творах жанру «сацрэалізму». Далей я звярну ўвагу на некаторыя малавядомыя моманты, якія я не ведаў, ці мяне ўразілі.

Як большасць беларускіх інтэлігентаў мінулага стагоддзя, Яўхім Кіпель нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Трапіўшы ў 1920 годзе ў Менск, дзе хутка пачалася беларусізацыя, ён адразу далучыўся да нацыянальнага адраджэння, якому быў верны ўсё сваё жыццё. Яго праца ў Інбелкульце, Беларускай акадэміі навук, аспірантуры БДУ і іншых установаў рэзка абрываецца арыштам у 1930 годзе як «мацёрага нацынал-дэмакрата».

Цікавыя звесткі Яўхім Кіпель прыводзіць і пра сваё жыццё да арышту. Тут можна даведацца пра яго вучобу ў Глуску, калі ўжо тады ён адчуў праявы барацьбы з беларускай мовай шляхам апалячвання і русіфікацыі. Далей ідуць успаміны пра спробы стварэння беларускай арміі, абвяшчэння БССР (Смаленскі камуністычны з'езд: *«Гэты з'езд камуністы выстаўляюць як голас беларускага народу, а прадстаўнікоў беларускага народу на гэтым з'ездзе толькі і было 60–70 чалавек вайскоўцаў-чырвонаармейцаў ды каля 10 чалавек беларускіх эсэраў»*, а *«людзей у залі было тры, а можа чатыры сотні чалавек, толькі невядома было, хто з іх дэлегаты, а хто госці»*). Смаленск — беларускі горад. Коратка, але ёміста аўтар апавядае пра беларускі нацыянал-дэмакратычны рух; «Беларускую хатку» — сядзібу нацыянальнай палітычнай арганізацыі моладзі, а затым Аб'яднанне беларускіх студэнтаў, у якіх ён прыняў актыўную дзейнасць і якія бальшавікі разагналі, абвінаваціўшы іх у нацыяналізме; новыя часопісы «Полымя» і «Наш край». З успамінаў можна даведацца пра стварэнне Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, прафесараў і студэнцкае жыццё, працу Інбелкульта і Беларускай акадэміі навук, а таксама пра многіх вядомых беларускіх дзеячаў, з якімі

Я. Кіпель сустракаўся, сябраваў, разам працаваў. Ён не толькі выказаў свае ўражанні пра іх, але паведаў пра іх паводзіны, учынкі, жыццё і лёсы, прычым не толькі пра станоўчых асоб, але і пра адмоўных. Я. Кіпель напісаў аб тым, якім ведаў Янку Купалу. Ён адзначыў: *«Вялікую ўвагу зварочваў Янка Купала на літаратурнае ўзгадаванне моладзі. Многа перабывала ў яго маладых паэтаў, ён іх прымаў і даваў парады. Асабліва быў ён высокае думкі аб маладым паэту Дубоўку. Ён часта казаў: "Я толькі Дзяржавін, а наш Пушкін — гэта Дубоўка"»* (с. 87)[1].

Кіпель пакінуў цікавыя ўспаміны пра Андрэя Александровіча, Язэпа Лёсіка, У. Пічэту, В. Ластоўскага, З. Жылуновіча, С. Некрашэвіча, А. Смоліча, М. Азбукіна, Я. Бялькевіча, С. Вальфсона і інш.

Яўхім Кіпель ведаў і братоў Гарэцкіх. Ён пісаў: *«У 1926 годзе Гаўрыла Гарэцкі апублікаваў сваю манументальную працу "Народны прыбытак Беларусі", што паклала пачатак беларускай эканамічнай навуцы»* (с. 65). У Менску ў 1927 годзе ў Яўхіма і Марыі Кіпеляў нарадзіўся сын Вітаўт, а ў 1928 годзе ў сям'і Гаўрылы і Ларысы Гарэцкіх з'явіўся на свет сын Радзім.

Яўхім Кіпель, як і браты Гарэцкія, у 1930 годзе быў арыштаваны, калі пачаліся масавыя арышты і спробы фабрыкацыі працэсу па так званай контррэвалюцыйнай арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі» (СВБ), якой ніколі не існавала. Пачаліся допыты, здзекі, правакацыі. *«Нас кармілі так, каб не памерлі з голаду, есці хацелася заўсёды. Нам не дазвалялі праходак, не вадзілі ў лазню, не змянялі бялізны, не дазвалялі атрымліваць перадачы і не давалі газетаў»* (с. 134). Асаблівую ўвагу следчыя звярнулі на вядомых беларускіх дзеячаў, каго хацелі паставіць на чале СВБ. Пасля А. Цвікевіча, А. Смоліча, Я. Лёсіка, якія вытрымалі ўсе пакуты і не пайшлі на кампрамісы, далейшы выбар прыйшоўся на акадэміка С. Некрашэвіча, які спрабаваў здзейсніць самагубства. *«Аднойчы, калі яго выпус-*

[1] Старонкі да цытат узяты з кнігі Я. Кіпеля (2013) ці з кнігі В. Кіпеля (2015). З апошняй кнігі яны абазначаны падкрэсліваннем.

*цілі ў прыбіральню, ён кінуўся ўніз з другога паверху і паламаў ногі. Яго паклалі ў турэмную бальніцу і доўга лячылі»* (с. 138).

Падобная сітуацыя адбылася з народным камісарам земляробства Беларусі З. Прышчэпавым, якому чэкісты меркавалі на працэсе ролю правакатара. *«Але Прышчэпаў наважыў ухіліцца ад гэтай ролі. Для гэтага ён зрабіў з падштанікаў і ніжняе сарочкі вяроўку. Уначы зачапіў вяроўку за паравы радыятар, прымацаваны да сталі, стаў на прымацаваную да сцяны койку, усадзіў галаву ў пятлю і адпіхнуўся. Вяроўка парвалася, і ён грымнуўся на падлогу. Самазабойства не ўдалося»* (с. 138). Толькі спроба Я. Купалы ўчыніць самагубства, а пазней смерць У. Ігнатоўскага ў выніку самастрэла канчаткова перашкодзілі правесці адкрыты працэс над «нацдэмаўцамі».

СССР ператварыўся ў краіну турмаў[1].

Яўхіма Кіпеля, як і многіх іншых нацыянал-дэмакратаў, прывезлі ў Маскву (Лубянка, Бутырская турма), дзе завочна асудзілі і направілі ў Валагодскую турму, а там *«падрыхтавалі вялікі этап у Сібір, гэты этап назвалі акадэмічным, бо тут была выключна інтэлігенцыя. [...] для нас, беларусаў, была вялікая неспадзёўка — да нас далучылі нашага славутага паэта Уладзіміра Дубоўку. [...] Калі нас вялі з турмы на вакзал для пасадкі ў вагоны, я праціснуўся да Дубоўкі, пачаў з ім гутарку. Але не паспеў я закончыць фразы, як атрымаў у спіну удар прыкладам. Я ўпаў. Двое чэкістаў накінуліся на Дубоўку ды пачалі біць яго прыкладамі. Дубоўкаў твар быў увесь у крыві, кроў пацякла па барадзе, і яго, збітага ўшчэнт, адцягнулі і забралі з калоны. Магчыма, Дубоўку дасталося яшчэ за тое, што ён выглядаў панічом. Ат жа Дубоўка быў вельмі карэктны і цярплівы. Я ж атрымаў яшчэ колькі пінкароў і папярэджанне, што прыстрэляць, калі хоць раз раскрыю рот у калоне. Гэта было маё апошняе спатканне з вялікім беларускім Паэтам»* (с. 147).

---

[1] У СССР было каля 13 тысячаў турмаў, не лічачы турэмных будынкаў на тэрыторыі канцлагераў (American Friends of ABN. 1952. N 1. P. 6).

Па дарозе этап падзялілі, і дзясятку нацдэмаў павезлі ў Вятку, а праз два месяцы з вяцкай турмы Я. Кіпеля і іншых адправілі ў Налінск. Разам з ім тут былі М. Азбукін і М. Улашчык. У 1933 годзе жонка Я. Кіпеля Марыя разам з сынам Вітаўтам таксама прыехала ў Налінск. Трошкі пазней мая маці Ларыса Гарэцкая разам з сынамі Усяславам і Радзімам паехала ў пас. Мадзведжая Гара (Карэлія) да свайго мужа Гаўрылы Гарэцкага, які трапіў на Салаўкі, на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала[1].

Такім чынам Вітаўт Кіпель і я правялі наша «советское счастливое детство» сярод зняволеных і высланых.

Выдатны беларускі паэт Уладзімір Жылка быў у той жа групе, але месцам яго высылкі быў Уржум, таму ён толькі некалькі дзён пабыў у Налінску, каб трапіць да доктара, бо быў вельмі хворы на сухоты. З часам да зусім хворага паэта прыехала яго жонка Рыма, якая пражыла з ім няпоўныя тры тыдні, а *«потым кінула хворага Жылку і перайшла жыць да чэкіста»* (с. 162), а іх дачку аддала ў дзіцячы дом. У сакавіку 1933 года Жылка памёр. Яго пахаваў сасланы разам з ім настаўнік слуцкай школы Іван Сасіновіч, які перадаў Яўхіму Кіпелю рукапіс паэмы Жылкі «Тастамэнт». Гэта апошняя паэма Жылкі, нягледзячы на пераезды, ператрусы, была захавана сям’ёй Кіпеляў. Вітаўт Кіпель успамінае: *«Прыехалі мы ў Менск у апошнія дні чэрвеня 1942 году. [...] і ўжо як прыехалі ў Менск — то яны зь бацькам вырашылі, што найлепш будзе гэта [“Тастамэнт”] аддаць у рэдакцыю газэты, калі там выдаецца баларуская газета, і надрукаваць. [...] Калі ён прыйшоў у рэдакцыю, там сустрэў Адамовіча, зь якім быў знаёмы яшчэ з 20-х гадоў. Яны абняліся, расцалаваліся, бацька даў яму Жылкаў “Тастамэнт”, і гэты твор быў надрукаваны празь некалькі тыдняў у “Беларускай газэце”»* (с. 82–84). Гэтая паэма надрукавана і ў серыі «Мастацкая літаратура» «Беларускага кнігазбору»[2].

---

[1] Гарэцкі Р. Браты Гарэцкія. — Мінск: Медысонт, 2008. — 344 с.

[2] Жылка У. Выбраныя творы. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 1998. — 358 с.

У 1935 годзе па сканчэнні тэрміну ссылкі Яўхім Кіпель разам з сям'ёй прыехаў у Вятку, куды сабралі ўсіх нацдэмаў, раскіданых па Вяцкім краі. Тут ужо былі Адам Бабарэка, Антон Адамовіч, Максім Гарэцкі, Мікола Улашчык і інш. Большасці працягнулі тэрмін ссылкі, але Кіпелю дазволілі самому выбраць месца, апрача гарадоў абласнога значэння. Ён выбраў *«Арол (усё ж бліжэй да Беларусі)»* (с. 168). 30 снежня 1935 года позна ўвечары чатыры энкавэдысты ў форме прыйшлі да Кіпеляў, да 5 раніцы грунтоўна ўсё абшукалі *(«...небяспека, відаць, мінула: шукалі ў тых мясцінах, дзе "Тастамэнт" Жылкі не ляжаў. Пранесла?»)* (с. 172). Я. Кіпеля прысудзілі *«на пяць гадоў ізаляцыі ў працоўных папраўчых лагерах»* (с. 173). Ён трапіў на будаўніцтва Байкала-Амурскай магістралі (БАМ), у яе сталіцу — горад Свабодны.

*«Падарожжа гэтае было даўгаватае і цяжкае: праз Іркуцк, паўз возера Байкал, уздоўж Амуру, на паўгалодным пайку, без дастатку паветра, у смуродзе, мільёнах вошаў і блашчыц — усё гэта спрычынілася да таго, што чалавек шэсць памерлі, не даехаўшы да канцавога пункту»* (с. 178). Я. Кіпель быў накіраваны ў хімічны аддзел цэнтральнай даследчай лабараторыі. Чыталі лекцыі аб лагернай дысцыпліне. *«Першае, што нам убівалі ў галаву, — гэта прынцып: у лагеры памылак не бывае, ёсць шкодніцтва, якое караецца адразу расстрэлам. Гэтаксама ўсякае злачынства, звязанае з парушэннем лагернае дысцыпліны, караецца расстрэлам. Не караюцца расстрэлам толькі крадзяжы. Дзеля гэткага стаўлення, відавочна, крадзяжы ў лагеры працвіталі. Кралі ўсё, што ляжала незамкнутае: адзежу, коўдру, бушлаты. Я дык усю адзежу насіў на сабе і бадай ніколі не разуваўся, каб не ўкралі вайлакоў»* (с. 180). *«За час майго побыту ў СКОЛПе (Свободненский комендантский особый лагерный пункт) была расстраляна блізу сотні спецыялістаў»* (с. 182).

На пачатку 1938 года Я. Кіпеля і двух хімікаў арыштавалі і звінавацілі ў шкодніцтве (давалі няправільныя вынікі аналі-

зу вады) — гэта абазначала расстрэл. Але было праведзена расследаванне, якое паказала, што аналізы правільныя, а гэта ўратавала ад расстрэлу. Трубаправоды раз'ядала вада звонку і падземная, якую ніхто не аналізаваў. Калі пракладалі трубы, Кіпеля яшчэ не было ў лагеры, гэтая акалічнасць зноў ўратавала яго, а па гэтай справе расстралялі 15 чалавек, у тым ліку і двух калег-хімікаў. Калі Кіпель прасядзеў два месяцы ў ізалятары, яго выклікаў следчы і прапанаваў даваць інфармацыю аб гутарках і настроях у лабараторыі. Кіпель адмовіўся, і таму яго перавялі *«на калону суровага рэжыму № 48, званую штрафной»* (с. 185). Гэты раздзел сваіх успамінаў аўтар назваў «Савецкая катарга», бо тут ён перажыў столькі цяжкасцяў, здзекаў, голаду, што толькі цудам застаўся жыць. Многія не вытрымлівалі такога жыцця: *«...калечыў сябе, каб быць знятым з калоны. Людзі адбівалі пальцы, пілі мыла, рэзалі вены. Частай з'явою былі самагубствы»* (с. 186). Нарэшце, 31 снежня 1940 года Яўхім Кіпель быў вызвалены — пасяліцца ў Арле, дзе жыла яго сям'я, і многіх іншых гарадах не дазволілі. Дазвол атрымаў толькі на Мцэнск. З вялікімі прыгодамі дабіраўся да Мцэнска, дзе працу не знайшоў, пасяліўся на Браншчыне — у сяле Кульнева — тут застала яго вайна. Затым жыў разам з сям'ёю ў Арле, які захапілі немцы, а потым усё ж ім удалося ў чэрвені 1942 года прыехаць у Менск.

Яўхім Кіпель адразу далучыўся да групы беларускіх дзеячаў, якія *«...мелі нейкую ўладу і нам можна было зусім свабодна працаваць у школьніцтве, у друку, у шмат якіх сацыяльных праграмах»* (с. 203). Ён атрымаў працу ў навуковым аддзеле, які быў пры Беларускай народнай самапомачы. Апошняя кантралявала ўсе сферы нацыянальна-грамадскага жыцця. Нацыянальная інтэлігенцыя працавала супольна, аддана для Беларусі, хаця і існаваў падзел на ўсходнікаў і заходнікаў. Было арганізавана беларускае школьніцтва, выдавалася некалькі газет, пачало працаваць выдавецтва школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі (выпушчана 24 кнігі, у тым ліку «Бе-

ларускі лемантар» Пятра Кіселя — тры выданні, «Беларускі правапіс» Антона Лёсіка, «Беларуская граматыка» Браніслава Тарашкевіча і інш.). У 1943 годзе была створана беларуская адміністрацыя, на чале якой стаў папулярны прафесар Вацлаў Іваноўскі, які ў хуткім часе быў забіты невядома кім. *«Працаваць было нялёгка. Кожнага дня маглі падстрэліць»* (с. 211).

*«Беларуская адміністрацыя ў форме Беларускай Цэнтральнай Рады (БЦР) была зарганізаваная ў снежні 1943 — студзені 1944 году. Я ўвайшоў у БЦР як загадчык пададдзелу навукі ў аддзеле асветы, навукі і культуры».* (с. 212). Кіраўніком БЦР стаў прафесар Радаслаў Астроўскі.

Вырашылі ў чэрвені правесці Другі Усебеларускі кангрэс, на які вылучылі каля 800 дэлегатаў. *«Дзень 27 чэрвеня 1944 году ўспамінаецца мне ўрачыстым, па-сапраўднаму святочным: ў Менску пачалі хадзіць трамваі, упрыгожаныя нацыянальнымі бел-чырвона-белымі сцягамі, на вуліцах шмат руху, усюды ва ўстановах людзі з правінцыі, багата моладзі — бальшыня ва ўніформах СБМ».* (с. 216). Яўхіма Кіпеля аднагалосна абралі старшынёй Кангрэса, заступнікамі — Івана Касяка і Васіля Рагулю. *«Мы прааналізавалі тагачасны палітычны стан Беларусі, падлічылі страты, якія нам да таго часу зрабілі бальшавікі і палякі, грунтоўна разгледзелі стан нашага руху і яшчэ раз давялі, што беларускі нацыянальны рух жыве. […] Незалежнасць Беларусі была абвешчаная ў 1918 годзе. Нашу тагачасную дзейнасць мы разглядалі як прадаўжэнне дзейнасці на платформе 25 сакавіка. Аднак мы імкнуліся сказаць тое, што яшчэ не сказана БНР, не выказаў наш палітычны рух да 1944 году: стаім на Акце Незалежнасці і парываем з усім, што ад нашага імя рабілася ў міжчасе. На ўвесь голас мы заявілі, што беларускі народ не прызнае ні маскоўскіх, ні польскіх, ні якіх іншых пастаноў адносна беларускай зямлі і беларускага народу. На Другім Кангрэсе мы яшчэ раз пацвердзілі волю нашага народу да адраджэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў этнаграфічных межах. […] Другі Кангрэс паказаў, што ад*

*свае ідэі — ідэі адраджэння незалежнай Беларусі — беларускі народ не адмовіўся.*

*[…] Усёй сваёй працаю, прапробленай пры немцах, мы можам ганарыцца, бо наша дзейнасць мела ўплыў на прававы стан Беларусі ў Савецкім Саюзе.*

*[…] На пяты дзень пасля заканчэння Кангрэсу мы змушаныя былі пакінуць нашу сталіцу Менск і эвакуявацца».* (с. 217–218).

Шмат прыгод і небяспечных момантаў Яўхім і Марыя Кіпелі перажылі ў час эміграцыі ў Германіі, але ўвесь час яны думалі пра Беларусь і заставаліся адданымі беларускасці. Таму Я. Кіпель трымаўся думкі, што беларусы павінны стварыць адзіны палітычны цэнтр беларускай эміграцыі, шукаючы кампрамісы і пагаднення. Аднак *«…беларускія эмігранты палітычна раз'ядналіся. У нас утварылася два варожыя палітычныя лагеры: "крывічы" і "зарубежнікі", ці (я прыхільнік больш дакладнае тэрміналогіі) лагер БНРаўцаў і лагер БЦРаўцаў. Я асабіста належыў і належу да групы БЦР»* (с. 232). Я. Кіпель разам са сваімі аднадумцамі *«зарганізавалі Беларускую народную партыю (1946–1947) ды згуртавалі сваіх прыхільнікаў у некалькіх беларускіх лагерах»* (с. 231), а разам з Сымонам Жамойдам выдаваў часопіс «Беларуская воля», выкладаў у беларускіх гімназіях (у тым ліку і ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы).

Шмат пазней, калі Яўхім Кіпель успамінаў сваю дзейнасць у час акупацыі і эміграцыі, даваў ёй такую ацэнку: *«І вось цяпер, блізу 15 гадоў пазней, я ўважаю, што рабілі мы правільна, не даючы затаптаць у беларускай эміграцыйнай прэсе ва ўнісон з саветамі нацыянальны беларускі ўздым, які быў у масах у часе вайны. Не было захаплення немцамі, не было ўхвалення іх праграмаў, а быў беларускі дух у працы, каб дасягнуць нацыянальнага адраджэння.*

*Гэтаксама былі памылковыя прапольскія сантыменты ў значнай часткі "крывіцкай" плыні, бо разлічваць на дапамогу Польшчы ў адбудове Незалежнай Беларусі трэба з вялікімі*

*засцярогамі, а не энтузіязмам. Гісторыя сведчыць, што палякі ніколі не затрымаюцца выгадна дамовіцца з Расіяй за кошт Беларусі»* (с. 233).

У 1949 годзе Яўхім і Марыя Кіпелі пераехалі ў ЗША, дзе адразу заняліся грамадска-нацыянальнай працай, якая была «вельмі задавальняючая»: *«...ужо ў сярэдзіне 50-х гадоў беларускае арганізацыйнае жыццё ў ЗША было наладжанае»* (с. 235). Свае «Эпізоды» Яўхім Кіпель заканчае такімі словамі: *«Нацыянальнымі патрэбамі я кіраваўся ў 20-х гадах (хоць улада часта нас і ламала), выключна беларускай думкай кіраваўся ў гадах 40-х — беларусы павінны былі задэманстраваць свае палітычныя імкненні, сваю прысутнасць — і з вялікай прыемнасцю дэмаскаваў савецкі рэжым у гадах 50–60-х. Ці мы будзем прыкладам маладзейшым — не ведаю, але шчыра хачу ім сказаць: мы па жыццёвым шляху ішлі з Беларуссю»* (с. 237).

На фотаздымках, прыведзеных у кнізе, ёсць здымак «Магіла Яўхіма і Марыі Кіпеляў на беларускіх могілках Св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рывары». На шэрым паліраваным камені ніжэй крыжыка агульнае прозвішча *КІПЕЛЬ*, злева — імя *Марыя*, справа — *Яўхім*, пад першым гады 1904–1992, пад другім — 1898–1969, унізе купалаўскі радок — *Я ад вас далёка, бацькоўскія гоні*.

* * *

Як вельмі правільна падкрэсліў Янка Запруднік у прадмове да кнігі Вітаўта Кіпеля, яна *«адзначаецца ляканічным апавядальным стылем» [...], дынамізмам аповеду, лёгкасьцю чытаньня, гэта — сапраўдны падзейны калейдаскоп». [...] Выдатную работу прарабіў рэдактар кнігі Сяргей Шупа, падзяліўшы аповед на кароткія падразьдзелы і даўшы ім загалоўкі, што значна павысіла чытабельнасьць кнігі»* (с. 3).

Тыя цяжкія і небяспечныя падзеі, якія прыйшліся да часу нашага дзіцячага жыцця і юнацтва (рэпрэсіі, вайна, бежанства), моцна паўплывала на нас, адняўшы шматлікія радасці дзяцін-

ства і маладосці, зрабіўшы нас даволі рана дарослымі, якія адказны і за сябе, і за блізкіх родных, і сяброў. Таму мне блізкія і зразумелыя ўспаміны В. Кіпеля пра ягоныя дзіцячыя і юнацкія гады, асабліва ў час яго жыцця ў Савецкім Саюзе, а вось сітуацыя ў акупіраваным Менску, куды ён трапіў з бацькамі ў многім здзівіла мяне, бо я пра яе чытаў у шэрагу ўспамінаў савецкіх дзеячаў, дзе дзейнасць беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі — змагароў за беларушчыну — несправядліва давалася ў адмоўным свеце, як пасобнікаў немцаў.

У верасні 1942 года Вітаўт паступіў у 29 народную школу ў 7-ы клас. Дырэктарам быў Пётра Кісель, які зрабіў атмасферу ў школе беларускай, а вучні *«ўдзельнічалі амаль ва ўсіх гарадзкіх мерапрыемствах беларускай грамадзкай накіраванасьці. […] Часта на ўрокі настаўнікі прыносілі часопіс "Беларуская школа", у гэтым часопісе былі партрэты Гітлера, іх як бы не заўважалі — ніхто ніколі ні славечка пра іх не казаў.*

*[…] Нямецкага прапагандыскага ціску ў школе не адчувалася — партрэтаў Гітлера нідзе не вісела. Над уваходам у школу — гэта быў такі франтон — часам вісеў адзін беларускі сцяг. І за той год, што я вучыўся ў 29-й школе, немцаў там і блізка не было, хоць нямецкія машыны ўвесь час прыязджалі ў шпіталь — старую бальніцу на вуліцы Горкага»* (с. 94–96).

У лютым 1943 года пачалі ствараць Саюз беларускай моладзі (СБМ) са сваім будынкам — штабам СБМ. Вітаўт уступіў у СБМ, бо *«…стараўся быць дзе праходзіла нешта беларускае»* (с. 97). 22 чэрвеня ў гарадскім тэатры ладзілася ўрачыстасць з нагоды стварэння СБМ. Вітаўт выпадкова не пайшоў, бо заняты быў тэрміновымі хатнімі справамі. А ў тэатры адбыўся выбух і загінула 13 СБМаўцаў, у тым ліку старэйшы сын Кушаля і Арсенневай — Яраслаў. На іх пахаванне на Вайсковых могілках прыйшло некалькі сот чалавек. Тады ж В. Кіпель скончыў народную школу і ўлетку знайшоў працу (*«браў каня і вазіў гліну»*). Зарабіў чатыры мяшкі солі, якая дарага цанілася — *«З маім заробкам — сольлю — мы "разбагацелі"»* (с. 99).

Выбух у тэатры, а ў канцы верасня 1943 года забойства генеральнага камісара Беларусі Вільгельма Кубэ ўсялілі ў людзей страх. Немцы пачалі актыўна вывозіць моладзь у Нямеччыну, пачаліся аблавы, *«паляваньні на моладзь сталіся штодзённай з'явай»* (с. 100). Але пад канец 1943 года была створана Беларуская цэнтральная рада (БЦР). *«Гэтую падзею ацэньвалі як стварэньне беларускага ўраду, хоць было паўнютка і скептыцызму — мала хто верыў, што немцы дазволяць паўнацэнны беларускі ўрад»* (с. 100). У тым жа годзе немцы дазволілі адчыніць 4-гадовую настаўніцкую семінарыю, прагімназію і фельчарскую школу. Вітаўт паступіў у настаўніцкую семінарыю, дзе ён *«сутыкнуўся з Зорай — маёй будучай жонкай»* (с. 101). Дырэктар семінарыі Антон Саломенік выступіў з лекцыяй з правіламі і, у прыватнасці, сказаў: *«...у семінарыі вы будзеце гаварыць толькі па-беларуску. У беларускай мове, кажа, ёсьць свае асаблівасьці, свая лексыка, свае націскі, і мы будзем гэта вельмі строга дапільноўваць»* (с. 102), — і дадаў, што тут нельга вітацца *«гуттен морген»*, а толькі *«дабрыдзень»*. Гэты адданы беларус, прафесійны педагог, як і П. Кісель, зрабіў на В. Кіпеля вялікі ўплыў. На жаль, немцы за сувязь з партызанамі расстралялі і П. Кіселя, і А. Саломеніка.

У хуткім часе Вітаўт перайшоў у прагімназію, бо настаўнікам быць не збіраўся. Там сярод выкладчыкаў быў Антон Адамовіч, які вітаўся ў класе воклічам «Жыве Беларусь!», і клас у адказ: «Жыве!». У сярэдзіне чэрвеня 1944 года выдалі дыпломы аб заканчэнні прагімназіі, а троху раней прымалі прысягу СБМ (галоўным чынам кніжка Ластоўскага пра дзесяць запаведзяў беларуса) *«25 сакавіка 1944 году на пляцы Волі была вялікая дэманстрацыя — пляц быў поўны, прыйшлі дзесяткі тысяч людзей. З балькона выступіў бургамістр Анатоль Філіпавіч Комар. А моладзь — чалавек 100–150 — пайшла на Вайсковыя могілкі і там каля магілы Ігнатоўскага прымалі прысягу»* (с. 108).

Вітаўт Кіпель апавядае пра некаторыя асаблівасці ў Менску таго часу. Акупацыйны рэжым адчуваўся ў тым, што па вуліцах хадзілі жаўнеры са зброяй, але ў параўнанні з Арлом зусім мала. Шыльды былі па-нямецку і па-беларуску, а ў нямецкіх установах толькі па-нямецку. Асяроддзе ў асноўным было беларускае. У беларускай установе атрымлівалі картачкі і плацілі падаткі. Паліцыі было шмат, і была яна беларускамоўная, хадзілі ў чорнай форме і на пілотках у іх была Пагоня. *«Гэта была рэальная ўлада»* (с. 109). *«Час ад часу ў горадзе можна было спаткаць палявую жандармерыю — яны былі ў касках, а на грудзях бляхі ў форме паўмесяца. Гэтыя былі небяспечныя». […] У Менску было СД … галоўная будова СД была насупраць Чырвонага касцёла. […] каля будынку СД заўсёды стаялі двачтры нямецкія жандары з кулямётамі напагатове»* (с. 110).

*«Зь нямецкімі вайскоўцамі кантактаў бадай што й не было, дый зь немцамі наагул, хіба што былі кантакты ў адміністрацыі. А на “народным” узроўні — пад базары немцы прыходзілі, але ўваход на базар немцам быў забаронены, і беларускі паліцай мог арыштаваць немца на базары. Перад уваходам на базар стаялі вялікія шыльды з абвесткамі па-беларуску і па-нямецку, дзе пісалася, што далей немцы ісьці не могуць. Таму немцы, калі нешта хацелі прадаць, прыходзілі і станавіліся за поўквартала ад базару, да іх падбягаў які-небудзь хлапец, пытаўся, што яны хочуць прадаць або купіць. Пераважна немцы куплялі сала і масла»* (с. 111).

*«Публічных пакаранняў я ў Менску ня бачыў, хоць ад сьведкаў чуў, што вешалі. […] Казалі, у 1941-м вешалі палонных на Камароўцы. Зора бачыла, як у верасні 1941 году ад радыёзаводу да плошчы Якуба Коласа на два бакі на слупах віселі савецкія палонныя»* (с. 117). *«Яўрэі жылі ў гета, і іх кожны дзень ганялі на працу. […] Я ніколі ня бачыў, каб калёну вялі беларускія паліцаі. […] У народзе антысемізму не было… была сімпатыя да іх — каб даць ім паесьці, ці дзіцёнка вывесьці ў Заходнюю — ім дапамагалі. […] Пра лягеры палонных ведалі — невялікія*

*лягеры былі ў самым горадзе, а пра Трасьцянец не было нават і чуваць. […] Казалі, што ёсьць вялікія лягеры палонных, але далёка»* (с. 118–120).

*«Усюду хадзілі рублі і маркі. […] Маркам аддавалі перавагу (гэта былі ня райхсмаркі, а спецыяльныя маркі для ўсходніх абшараў), бо за гэтыя маркі можна было нешта купіць і ў немцаў»* (с. 120).

*«Ва ўстановах і канторах мова была беларуская — гэта ніхто не аспрэчваў. Усе надпісы былі па-беларуску. Прыходзіш у кіно купляць білет у касе — касірка гаворыць па-беларуску, тое самае ў тэатры. Тэатар уважаўся цэнтрам беларускасьці. На базары была трасянка, працэнтаў на 75 беларуская — расейскія словы ўстаўляліся, але пераважалі беларускія. […] Расейскай мовы было значна менш, чым цяпер, ніяк нельга сказаць, што яна панавала, дый у трасянцы расейскага элементу было менш.*

*[…] мату сэксуальна-вульгарнага я ніколі ў Менску ня чуў, і для мяне гэтая розніца з Арлом была вельмі яскравая і выдавочная. У Арле мат-перамат — гэта было нармальна, мянчане не мацюгаліся. […] Мая думка такая, калі мат, “сквернословие” прыйшлі ў Беларусь пасьля вайны» […] Менск пасьля Арла рабіў уражаньне арганізаванага гораду, у якім наладжана жыцьцё. Кідаліся ў вочы кіёскі, дзе можна было купіць газэту. […] У кіёсках прадаваліся беларускія і расейскія газэты»* (с. 123–124).

*«Кіно было вельмі папулярнае. Фільмы мяняліся часта. […] Амаль усе фільмы былі перакладзеныя па-беларуску — у кадры ішлі субтытры. […] Вельмі папулярны быў і тэатр. […] Тэатр быў жывы, дзейны, ставілася шмат п’есаў, п’есы мяняліся, былі спэктаклі і дзённыя, і вечаровыя. […] У канцы 1943 ці пачатку 1944 году пусьцілі ў Менску трамвай»* (с. 125–126).

*«Сакавік сьвяткаваўся шырока толькі адзін раз — у 1944 годзе. […] Досыць папулярнае сьвята было 1 травеня, бо адчынялася фабрыка-кухня непадалёк ад Чырвонага касьцёла,*

*і тым, хто ўдзельнічаў у дэманстрацыі, давалі бясплатна абед па талёнчыках. На 1 травеня была дэманстрацыя працоўных — і ў 1943-м і ў 1944-м — і я ўдзельнічаў абодва разы. Гэтае сьвята мала адрозьнівалася ад савецкіх часоў, розьніца была ў тым, што цяпер давалі паесьці і што ўсюды былі беларускія транспаранты»* (с. 128).

*«Савецкія бамбёжкі былі памятныя і моцныя, асабліва травеньская бамбёжка 1943-га году, якая нарабіла і панікі. [...] Пасьля травеня 1943-га бамбёжкі бывалі частавата. Савецкая авіяцыя бамбіла вакзал, вайсковыя аб'екты, майстэрні, склады. Бамбёжкі ўвайшлі ў штодзённае жыцьцё рэальнымі непрыемнымі эпізодамі. Цярпела і цывільнае насельніцтва, людзі гінулі, былі паховіны. [...] ...пра Усходні фронт людзі гаварылі з боязьзю: што будзе з намі, калі вернуцца нашы?»* (с. 130–131).

27 чэрвеня 1944 года адбыўся Кангрэс, а ўжо 29 чэрвеня *«раптам па абедзе прыязджае машына, а ў машыне спадар Антон Шукелойць, я яго троху ведаў, часам бачыліся: "Зараз жа зьбірайце, што ёсьць — выязджаем!" [...] ... выезд на эміграцыю зь Менску я заўдзячваю толькі Антону Шукелойцю — у гэтыя дні пасьля кангрэсу мы маглі разгубіцца і застацца.*

*[...] І мы паехалі. Хто б мог падумаць, што зь Менскам мы разьвітваемся зноў — аж на 47 гадоў...»* (с. 132–134).

Большасць беларусаў, трапіўшы ў паваенную эміграцыю ў Заходнюю Еўропу[1], стараліся прыстасавацца да новага жыцця, не паддацца песімізму, аб'яднацца і перш-наперш вывучыць нямецкую і іншыя замежныя мовы. У Берліне выходзілі газеты «Раніца» і «Беларускі работнік», пазней апошні зліўся з «Раніцай», і яны выходзілі двойчы на тыдзень. Потым пачаліся бамбёжкі, і Кіпелі падаліся далей на захад, а калі адбылася капітуляцыя Германіі, яны аказаліся ў амерыканскай

[1] Выдатным дадаткам да ўспамінаў Вітаўта Кіпеля з'яўляецца кніга Зоры Кіпель «Дні аднаго жыцця...»: Успаміны, артыкулы, дзённікі. — Мінск: Зміцер Колас, 2010. — 936 с.

зоне акупацыі. Зноў прыйшлося перажыць шмат цяжкасцяў. У прыватнасці, удалося запісацца польскімі грамадзянамі, каб пазбегнуць выдачы ў Савецкі Саюз. Аляксандр Русак атрымаў дазвол заснаваць Беларускі камітэт, усё лета 1945 года сцягваў беларусаў у Рэгенсбург, і калі набралася тысяча чалавек, беларусам выдзелілі асобнае селішча, першым камендантам якога быў Янка Станкевіч, а затым хутка абралі Францішака Кушаля.

Вітаўт Кіпель тут з верасня да снежня 1945 года вучыўся ва ўкраінскай гімназіі, а ў тым жа месяцы была адчынена беларуская гімназія, у якой гісторыю выкладаў Антон Адамовіч, беларускую мову і літаратуру — Аўген Каханоўскі (Калубовіч), геаграфію — Аляксандр Орса, фізіку — Парфіры Трысмакоў (да вайны працаваў у Беларускай акадэміі навук, і ўжо ў гімназіі гаварыў вучням пра электроніку і вылічальныя машыны, хаця пра гэта тады ніхто яшчэ нічога не чуў), анатомію — Аляксандр Багдановіч — доктар медыцыны, нямецкую мову — Іна Рытыр, англійскую мову — Марыя Станкевіч (маці Юркі і жонка Янкі Станкевіча), французскую мову — Наталля Арсеннева. *«...Беларуская гімназія імя Янкі Купалы на чужыне была салідная навучальная ўстанова. Яна падрыхтавала дзесяткі маладых людзей для далейшага шляху ў адукацыйным працэсе — да ўніверсітэту. Бесспрэчна, тагачасны беларускі нацыянальны актыў быў і дальнабачны і вельмі адказны: арганізацыя і вядзенне беларускіх школаў, улучна зь беларускімі гімназіямі — сьведчаньне адданасьці і ахвоты служыць Беларусі заўсёды і ўсюды і рыхтаваць адукаваныя кадры нацыянальнае інтэлігенцыі».* (с. 166).

У ліпені 1946 года беларусаў з Рэгенсбурга перавялі ў вёску Міхельсдорф, дзе ў адрозненне ад ранейшага лагер быў толькі для беларусаў. Была мачта з беларускім сцягам, беларуская паліцыя, царква, скаўцкія курсы, гімназія. Вёска была ад горада Кам за 2–3 км, таму сувязь з ім была шчыльная. Жыццё ў лагеры было актыўнае: спорт, скаўцкія дружыны (кіраўніком скаўтаў выбралі Вітаўта), тэатральна-харавая група, палі-

тычныя вечары, паэтычныя сустрэчы — выступалі Сяднёў, Арсеннева і інш.

У сакавіку 1948 года В. Кіпель скончыў гімназію імя Янкі Купалы, і атрымаў дыплом. Дырэктар гімназіі доктар Орса прапанаваў Вітаўту Кіпелю паступаць у Цюбінгенскі ўніверсітэт. Разам з ім паехалі Зора Савёнак, Оля Харытончык і Галіна Ганчарэнка. Цюбінген у французскай акупацыйнай зоне, а дазволу на пераезд не давалі — прыйшлося пешкі кіламетраў пад дваццаць нелегальна прайсці мяжу паміж зонамі. Ва ўніверсітэт можна было трапіць толькі ад імя польскай арганізацыі, у якой была квота для палякаў. Хаця гэтыя беларусы па дакументах лічыліся польскімі грамадзянамі, але паступаць у якасці палякаў яны адмовіліся, што выклікала буру гневу. Толькі праз французскага палкоўніка з вайсковай адміністрацыі, якому Вітаўт шчыра і горача паведаміў пра іх мару быць карыснымі беларускай справе, і які паверыў яму, пазваніў віцэ-рэктару ўніверсітэта, яны былі запісаны студэнтамі і адміністрацыя зарэгістравала новую арганізацыю — Беларускае студэнцкае згуртаванне.

Грашовая рэформа ў Германіі ў чэрвені 1948 году, якая ўзмацніла нямецкую марку і дала пачатак нямецкаму эканамічнаму адраджэнню, змяніла іх лёс: Ганчарэнка і Харытончык вырашылі эміграваць у Амерыку, а Зора запісалася ў Бельгію, каб паступіць у Лювэнскі ўніверсітэт.

Вітаўт, які вучыўся на медыцынскім факультэце, вельмі хацеў стаць геолагам. Зора напісала ліст з Бельгіі, што ў Лювэне яшчэ квота не запоўненая. У чэрвені 1949 года закончыўся перыяд жыцця В. Кіпеля ў Нямеччыне, а ў верасні 1949 года пачаліся заняткі на геалагічным факультэце. Тут зноў у нашых лёсах атрымалася супадзенне: я ў 1946 годзе таксама паступіў на геалагічны факультэт Маскоўскага нафтавага інстытута, які закончыў у 1952 годзе, а Вітаўт Кіпель — у 1953 годзе (працяг вучобы быў розны — у мяне 5,5 гадоў, у яго — 4 гады).

Вітаўт Кіпель актыўна працаваў у Саюзе беларусаў Бельгіі. Пад восень 1950 года кіраўніцтва Беларускага студэнцкага згуртавання запрасіла ў Бельгію з Нямеччыны кампазітара Міколу Равенскага з мэтай арганізаваць студэнцкі хор. Каля 20 студэнтаў (у тым ліку і Вітаўт) далучыліся да хору. Была створана танцавальная група, якой кіравалі Люба Рагуля і Зора Савёнак. Пачаліся канцэрты, якія праходзілі па ўсёй Бельгіі і карысталіся вялікім поспехам. У канцы 1952 года Равенскі пачаў хварэць — у яго быў рак лімфатычных сасудаў. *«У лютым 1953 году яго паклалі ў шпіталь, і мы з Зорай былі апошнія, хто яго бачыў жывога, гэта было 8 сакавіка, быў прыгожы вясновы дзень. Мы зайшлі да яго, ён чуўся вельмі добра, быў у бадзёрым настроі, гаварыў, жартаваў, рабіў пляны»* (с. 198). Назаўтра ён памёр.

Большасць беларусаў паваеннай эміграцыі марылі вярнуцца на Бацькаўшчыну, і калі памёр Сталін, спадзяваліся, што ў Беларусі ўсталюецца дэмакратыя. Але *«…мы паступова пачыналі прыходзіць да думкі, што перамены ў СССР — справа далёкай будучыні, […] станавілася рэальнасьцю думка пра тое, што, відаць, давядзецца заставацца на Захадзе»* (с. 211).

Пасля сканчэння ўніверсітэта В. Кіпель запісаўся на дактарат. Тэма да доктарскай распрацоўкі — трэба прааналізаваць розныя віды слюдаў, што дасць магчымасць пошукаў радовішчаў літыю. Лепш за ўсіх такія аналізы рабілі ў Швецыі — ён паехаў туды на стажыроўку. Там і ў Капенгагене (Данія) з цікавасцю пазнаёміўся з шэрагам беларусаў. 29 кастрычніка 1955 года ў Геалагічным інстытуце Вітаўт Кіпель паспяхова абараніў дактарат, пасля чаго адбылася невялічкая цырымонія: *«мяне павіншавалі прафесары, студэнты і віцэ-рэктар біскуп Літ, мне ўручылі дыплём [доктара навук], герб універсітэту, і ўсе разышліся»* (с. 222). Я ў гэты час таксама працаваў у Геалагічным інстытуце АН СССР (г. Масква), але не паступаў у «дактарат» і абараніў дысертацыю толькі ў 1960 годзе.

Вітаўта Кіпеля запрашалі працаваць ва ўніверсітэт ці ў Інстытут нафты, *«…але я з выбарам працы не спяшаўся. На парадку дзённым было ажаніцца з Зорай, а яна цьвёрда вырашыла перабрацца ў Амерыку»* (с. 223). Яны дамовіліся, што ў 1956 годзе ажэняцца, а вяселле будуць спраўляць у Амерыцы. Першай у ЗША выехала Зора, а Вітаўт пачаў афармленне на выезд, што было досыць не простай справай. Але 22 снежня 1955 года самалёт з В. Кіпелем таксама прызямліўся ў аэрапорце «Айдлвайлд» (цяперашні Кенэдзі).

* * *

У Амерыцы 25 лютага 1956 года адбылося вяселле Вітаўта і Зоры. *«Мы з Зорай гасьцей не запрашалі, бо мы былі "новыя" і шмат не ведалі. Сваіх знаёмых запрасілі бацькі — было чалавек 100–150. Праходзіла ўсё паводле амерыканскага звычаю — з аркестрам, сьцягамі, надзьмутымі каляровымі шарыкамі. Беларускасць вясельлю задавалі свацьця і сват — Лідзія Рыгораўна Янушкевіч і Сымон Жамойда»* (с. 232).

Сям'я Кіпеляў на наступны год папоўнілася дачкой Алесяй, а яшчэ праз год — сынам Юрам.

Шмат цяжкасцей В. і З. Кіпелі перанеслі з пошукам працы і атрыманнем амерыканскага грамадзянства, прычым без другога нельга было знайсці сталую працу. Падзараблялі рознай выпадковай аказіяй. Нечакана ўдалося атрымаць працу ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы ў Славянскім аддзеле, дзе даручылі дапамагчы ў пошуку беларускай бібліяграфіі для ўкладання славянскіх слоўнікаў. *«Ясная справа, што я згадзіўся і дапамог (мая першая праца ў гуманістыцы!)»* (с. 244). Пазней В. Кіпелю прапанавалі працу ў Навуковым аддзеле. *«Дзіўна, як бывае ў жыцьці: то працы не было, у кішэні ні капейкі, а тут раптам аж дзьве працы!»* (с. 245).

Вітаўт Кіпель вырашыў заставацца ў бібліятэцы. У 1962 годзе ён скончыў бібліятэчны факультэт. Працуючы ў Навуковым аддзеле, ён пачаў рэкамендаваць для агляду геалагічную

літаратуру ўсяго свету, пася브раваў з прафесарамі нью-ёркскіх каледжаў і ўніверсітэтаў, ведаў зацікаўленні геалагічных факультэтаў, бываў на бібліятэкарскіх канферэнцыях. В. Кіпель стаў сябрам Амерыканскага геалагічнага таварыства, Таварыства геолагаў Бельгіі, Таварыства спецыялістаў бібліятэкараў, Асацыяцыі даследчыкаў славяназнаўства і галоўнае — змог больш увагі аддаваць дзейнасці Беларускага інстытута навукі і мастацтва. З часам і Зора Кіпель скончыла бібліятэчны факультэт і пачала працаваць у Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы спачатку ў аддзеле каталагізацыі, а потым — у Славянскім аддзеле.

Кіпелі набылі хату ў мястэчку Радэрфорт — *«...гэта ўніверсітэцкі гарадок з добрай школьнай сістэмай, з выдатнай камунікацыяй у Нью-Ёрк — ехаць 25–30 хвілін. Дом быў дзьвюхкватэрны: на першым паверсе пасяліліся мае бацькі, што нам было вельмі на руку, а на другім і трэцім — мы.*

*Дом быў вялікі — разам 16 пакояў, тры гаражы, вялікі падвал (абшалёваны дрэвам) і надбудоўкай над гаражамі. На наступныя 39 гадоў гэты дом для нас станецца выдатным сямейным месцам, добрым складам для беларускіх друкаваных матэрыялаў, "гатэлем" для дзесяткаў беларускіх гасьцей, афіцыйным адрасам БІНіМу і іншых беларускіх арганізацыяў. Юрка Станкевіч запачаткаваў і добрых гадоў дзесяць трымаў у тым доме друкарню "Пагоня", якая выпусціла каля дзесятка школьных падручнікаў.*

*Некаторыя нашы сябры пражывалі ў доме тыдні, месяцы»* (с. 251). Далей ідзе пералік імён сяброў колькасцю больш за пяцьдзясят (сярод іх ёсць і мае прозвішча).

Падышлі 1980-я гады. *«І я быў перакананы — так думала і Зора — што прыйшоў час выйсьці на пенсію і поўнасьцю аддацца кнізе "Беларусы ў ЗША" і наагул пачаць актыўней працаваць у беларусістыцы. Напрыканцы 1984 году я вырашыў, што выйду на пенсію ў 1985 годзе — што я і зрабіў.*

*Ведаю, што за 25 гадоў працы ў Навуковым аддзеле я замовіў больш за сотню тысячаў новых публікацыяў, упарадкаваў геалагічныя калекцыі (найбольш — каля 120 тысяч тамоў), прычыніўся да разбудовы тэматыкі навуковых калекцыяў ды пасьпяхова абслугоўваў многія тысячы чытачоў»* (с. 265).

У Славянскім аддзеле Кіпелі рабілі цікавыя беларускія выстаўкі: *«...прысвечаныя 450-годзьдзю беларускага друку — трывала блізу году, і асаблівым посьпехам карыстаўся рэклямны плякат з партрэтам Скарыны на 5-м авэню. Былі таксама выстаўкі, прысьвечаныя беларускай лацінцы, Купалу, Коласу, Літоўскаму статуту, выстаўляліся таксама паасобныя кнігі Ніны Ватацы, Ларысы Геніюш, Уладзіміра Жылкі, маладнякоўцаў і інш.»* (с. 266).

Цікавыя сустрэчы ў Кіпеляў былі з многімі землякамі — беларусамі, як эмігрантамі, так і тымі, хто прыязджаў з Беларусі.

Даволі шырока вядома выдатная праца Вітаўта Кіпеля і яго калег (Вітаўта Тумаша, Янкі Запрудніка, Зоры Кіпель і інш.) у Беларускім інстытуце навукі і мастацтва (БІНіМ), дзе Кіпель адразу быў выбраны ва ўправу, а затым скарбнікам, а ў сакавіку 1982 года — старшынёй БІНіМа. Асабліва вялікае значэнне мелі выданне кніг і літаратурнае серыі («Між берагамі» Наталлі Арсенневай, «500 гадоў Скарыніяны» Вітаўта Тумаша, творы Алеся Салаўя, «У пошуках праўды — апавяданні і аповесці» Аляксандры Саковіч,  «Міжагнёўе» Міхася Кавыля і інш.); бібліяграфічнае серыі («Бібліяграфія: Купала і Колас на Захадзе» і інш.), серыі «Да гісторыі беларускай эміграцыі» («Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне 1945–1950» Ян Максімюк,  «Дванаццатка» Ян Запруднік, «Беларусы ў ЗША» Вітаўт Кіпель і інш), выданне «Запісаў БІНіМ», англійска-беларускі слоўнік, «Курапаты» Зянона Пазняка і інш. В. Кіпель супрацоўнічаў і з энцыклапедычнымі выданнямі, што значна пашырала веды пра беларускую эміграцыю і Беларусь.

Дзейнасць Вітаўта Кіпеля здзіўляе сваёй шматграннасцю, інтэнсіўнасцю і адданасцю беларушчыне. Ён арганізоўваў

мастацкія выстаўкі, навуковыя канферэнцыі, беларускія фестывалі, удзельнічаў у амерыканскіх, польскіх, украінскіх канферэнцыях, выступаў у праграмах на амерыканскім радыё, супрацоўнічаў з амерыканскімі скаўтамі, разам з БАЗА і яго кіраўніком А. Шукелойцам дапамагаў арганізаваць і ўдзельнічаў у беларускіх дэманстрацыях і г. д. В. Кіпель актыўна працаваў у палітычным (пераважна рэспубліканскім) руху — належаў да ўправы Нацыянальных рэспубліканскіх клубаў у Вашынгтоне, пару гадоў узначальваў Федэрацыю рэспубліканскіх клубаў у Нью-Джэрсі і быў рэдактарам рэспубліканскае газеты нацыянальнасцей штата Нью Джэрсі. *«Яшчэ адна амерыканская арганізацыя, у якой мне давялося дзеіць і чатыры гады быць старшынёй — гэта Этнічная дарадчая рада пры губернатары штату Нью Джэрзі»* (с. 368). У рамках праекта «этнічнага» Кліўленда В. Кіпель выдаў кніжку «Беларусы ў Кліўлэндзе». *«Будучы ў Этнічнай радзе, трэба было ўваходзіць і ў іншыя структуры. Так я быў адным з дырэктароў Міжнароднага інстытуту гораду Джэрсі Сіты — гэта лібэральная арганізацыя, бадай найстарэйшая ў ЗША, якая дапамагае імігрантам. [...] У 1982 годзе мне быў нададзены тытул Ганаровага грамадзяніна гораду Кліўлэнду»* (с. 377–378).

* * *

У апошняй главе кнігі «Вяртанне ў Беларусь» Вітаўт Кіпель піша, што *«...наш “паварот на Бацькаўшчыну” — гэта міжнародная канферэнцыя, прысвечаная Вялікаму Княству Літоўскаму ў Рыме 30 красавіка — 4 травеня 1990 году»* (с. 396). З Амерыкі на ёй прысутнічалі і выступілі з дакладамі Янка Запруднік, Вітаўт і Зора Кіпелі. У далейшым яны часта наведвалі Беларусь. З радасцю ўвайшлі ў жыццё Бацькаўшчыны, пасябравалі з многімі адраджэнцамі сучаснасці, разам з імі шчыра перажывалі розныя сітуацыі ў лёсе Беларусі. Шчырыя беларусы метраполіі і замежжа нарэшце змаглі разам змагацца за незалежнасць краіны, за развіццё яе культуры і г. д.

Ужо на наступны год ў Менску адбыўся кангрэс Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Удалося з'ездзіць у Вільню, Зора змагла сустрэцца са сваёй раднёй на Глыбоччыне. *«Усяго мы пабылі ў Менску пяць дзён, было вельмі цікава. Для нас былі сапраўды важнымі знаёмствы зь людзьмі, з новай атмасферай, якая існавала тады на Бацькаўшчыне»* (с. 411).

У канцы чэрвеня 1993 года ў Гародні адбылася канферэнцыя «Рым-IV». *«На мяне канферэнцыя зрабіла велізарнае ўражаньне. Скажу шчыра: па памерах такой беларускай канферэнцыі мне наведваць не даводзілася. […] Беларусаў былі сотні, гэта было ў беларускім горадзе, былі шмат дзесяткаў дакладаў на беларускую тэму. Беларускія выстаўкі, эстрада, тэатр — Беларусь навуковая рэпрэзентавалася ў поўнай моцы. У часе канферэнцыі былі дадзеныя ганаровыя доктараты Гродзенскаму ўніверсітэту — мне нумар першы — я яго захоўваю і ганаруся. […] Калі праходзіла адкрыццё канферэнцыі, я сядзеў за сталом прэзыдыюму разам з Радзімам Гарэцкім, і я яму кажу: мы сядзім цяпер на канферэнцыі, а нашыя бацькі разам сядзелі ў іншым месцы — ён пасьмяяўся, жарт быў на месцы»* (с. 413–414). А ўжо ў ліпені 1993 года прайшоў Першы з'езд беларусаў свету, пра які шмат пісалася. Кіпелі і Янка Запруднік пасля сталі пастаяннымі і вельмі актыўнымі ўдзельнікамі наступных з'ездаў беларусаў свету.

Да Першага з'езда беларусаў свету Вітаўту Кіпелю ўдалося з дапамогай Аляксандра Лукашука і Сяргея Шупы ў выдавецтве «Беларусь» (Менск) надрукаваць тыражом 5000 экзэмпляраў кнігу «Беларусы ў ЗША». Ён падарыў мне кнігу, зрабіўшы такі аўтограф: *«Радзіму Гарэцкаму: з асаблівым пачуцьцём, успамінамі далёкіх-далёкіх часоў, калі нашыя бацькі хадзілі не па сьцежках Бацькаўшчыны, а далёка-далёка за яе межамі, ды ў адзнаку будучага бліжайшага. З пашанай і сяброўскімі пачуцьцямі кнігу гэтую падпісвае Вітаўт Кіпель. Менск, ліпень 1993»*.

У далейшым мы даволі часта сустракаліся на розных мерапрыемствах. У верасні 1994 года ў Таронта мы ўдзельнічалі ў 21-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, а перад гэтым я некаторы час жыў у іх гасцінным доме пад Нью-Ёркам. У тым жа годзе Кіпелі былі ў нашай хаце ў Менску, фотаздымак нас у час таго наведання Зора Кіпель прывяла ў сваёй кнізе «Дні аднаго жыцця…» (2010). У лютым 1996 года мы прынялі ўдзел у навуковых чытаннях, прысвечаных Ф. Скарыну, што праходзілі ў Празе. Здымак Кіпеляў разам з Васілём Быкавым і мной маецца як у кнізе Вітаўта, так і кнізе Зоры. У невялічкім раздзеле «Радзім Гарэцкі» Вітаўт Кіпель напісаў: *«Дарэчы, з Радзімам Гарэцкім і ягонай жонкай Галяй у нас скалаліся прыяцельскія адносіны: мы былі ў іх гасьцьмі — шмат "аднаўлялі ў памяці", дзе мы бывалі, калі нашы сем'і выселілі зь Менску. Я так рады быў атрымаць ад Радзіма падпісаны ім "Жыццёвы меланж" і іншыя кнігі, што перачытваў ...вяртаўся ў мінулае ...не адзін раз! Дзякую, Радзім і Галя!»* (с. 423).

Вітаўт Кіпель заканчвае сваю цікавейшую кнігу такімі словамі: *«Жорсткая рэальнасьць паказвае: выкіньце з галавы думку аб перасяленьні ў Менск, аб працы там. Добра, што хоць бы "дазваляюць" глядзець на Беларусь! А шкада — мы яшчэ шмат чаго маглі б зрабіць карыснага для Бацькаўшчыны. Розумам гэта цяжка ахапіць — чаму эмігрантам нельга працаваць у Беларусі для Беларусі!? Але так ёсьць. І тым ня менш аддавацца роспачы няма патрэбы. Можна прадаўжаць жыць і дзеіць, як жылося і дзеілася да гэтага часу: працаваць для Беларусі па-за Беларусьсю. Гэтак і будзе!*

*Па-за Беларусьсю, для Беларусі»* (с. 430).

***2016***

## Гаўрыла Гарэцкі і Мікалай Улашчык

У гэтым 2016 годзе споўніліся розныя юбілейныя даты двух вядомых беларускіх дзеячаў: 50-годдзе вяртання на Беларусь эканаміста, дэмографа, географа, геолага, археолага акадэміка Гаўрылы Гарэцкага і 110-годдзе з дня нараджэння гісторыка, археографа, археолага, этнографа, краязнаўца, літаратара Мікалая Улашчыка. Іх лёсы як беларускіх дзеячаў з кагорты нацыянальных адраджэнцаў у многім падобны, але яны належаць да тых «шчасліўцаў», якія хоць і прайшлі ўсе кругі гулагаўскага пекла, але ў адрозненне ад многіх не былі расстраляны, а засталіся жыць і паспелі яшчэ шмат зрабіць адзін для геалогіі, а другі — для гісторыі роднай Беларусі.

Абодва родам з працавітых сялянскіх сем’яў — Гаўрыла (10 красавіка 1900 г.) з вёскі Малая Багацькаўка на Мсціслаўшчыне, а Мікола (14 лютага 1906 г.) з вёскі Віцкаўшчына на Міншчыне (20 вёрст ад Менска). Мілагучная родная мова, прыгожыя краявіды, добрыя людзі з іх душэўнымі песнямі, казкамі, паданнямі запалі ў іх сэрца як самае дарагое на ўсё іх жыццё. Прыродныя здольнасці, цяга да ведаў дазволілі Г. Гарэцкаму ў 20-гадовым узросце не толькі атрымаць сярэднюю школьную адукацыю, але закончыць Горацкае каморніцка-агранамічнае вучылішча, стаць землямерам-аграномам і паступіць у 1920 годзе на эканамічны факультэт Пятроўскай (Ціміразеўскай) сельскагаспадарчай акадэміі (г. Масква). М. Улашчык таксама 19-гадовым юнаком пасля заканчэння ў Менску школы другой ступені для дарослых паступіў у 1924 годзе на сацыяльна-гістарычнае аддзяленне педагагічнага факультэта БДУ. Вялікі ўплыў на сталенне Гаўрылы, у тым ліку і на яго беларускасць, аказаў старэйшы за яго на 7 гадоў брат Максім. Таксама значную ролю ў інтэлектуальным сталенні Мікалая мела старэйшая на 4,5 гады яго сястра Ніна, якая ў 1921 годзе паступіла на этнолага-лінгвістычнае аддзяленне БДУ. Дарэчы разам з ёй студэнтам гэтага аддзялення быў Янка

(Іван Кандратавіч) Бялькевіч, за якога пазней Ніна выйшла замуж. Тады ж студэнткай БДУ была і Юля Восіпаўна Бібіла (10.01.1897–4.12.1974) — вядомы беларускі бібліёграф, якая ўсё жыццё сябравала з сям'ёй Улашчыкаў.

У Менск Гаўрыла Гарэцкі з сям'ёю пераехаў у пачатку 1927 года, дзе яго прызначылі дырэктарам-арганізатарам Беларускага навукова-даследчага інстытута (БНДІ) сельскай і лясной гаспадаркі імя У. І. Леніна пры СНК БССР. Да гэтага часу яму прыйшлося перажыць шмат розных падзей. Яшчэ студэнтам правёў выдатную працу ў якасці кіраўніка арганізаванай ім Беларускай культурна-навуковай асацыяцыі студэнтаў Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі, а ў 1922 годзе першы раз арыштаваны і пасаджаны ў турму на Лубянцы, трапіўшы ў прадстаўнікі «вальнадумнай інтэлігенцыі» (галоўным чынам прафесараў і пісьменнікаў), якую У. І. Ленін вырашыў выслаць за мяжу. Толькі ў выніку працяглай размовы з кіраўніком ДПУ НКУС РСФСР В. Р. Мянжынскім ён не быў высланы ў Германію, а адпушчаны на далейшую вучобу. Тады ж Гарэцкі атрымаў жудасны ўдар лёсу — згубу роднай сястры Ганны, якая трапіла пад трамвай, калі несла яму перадачу. У 1923 годзе Гаўрыла аб'яднаўся ў вялікім каханні на ўсё жыццё са студэнткай агранамічнага факультэта Ларысай Парфяновіч родам з Беластока, а праз год у іх з'явіўся першы сын — Усяслаў. Як лепшы вучань выдатнейшых эканамістаў А. В. Чаянава, М. Д. Кандрацьева, А. А. Рыбнікава, А. Ф. Фартунатава, ён быў пакінуты ў аспірантуры Навукова-даследчага інстытута сельскагаспадарчай эканоміі пры Ціміразеўскай (Пятроўскай) акадэміі і адразу пачаў працу над важнай манаграфіяй «Народны прыбытак Беларусі» («Национальный доход Белоруссии»). Затым была праца ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі сельскай і лясной гаспадарцы ў Горках, дзе ён быў дацэнтам, загадчыкам кафедры сельскагаспадарчай эканоміі і эканамічнай геаграфіі, членам Праўлення акадэміі. З друку выйшлі шэраг манаграфій, артыкулаў. Г. Гарэцкі быў абраны

членам Інбелкульта, а ў 1926 годзе ён разам з С. Некрашэвічам быў у паспяховай камандзіроўцы ў Польшчы, Германіі і Даніі, а праз год зноў на працягу 3-х месяцаў працаваў у тых жа краінах. БНДІ сельскай і лясной гаспадаркі стаў адным з лепшых інстытутаў такога напрамку і па прапанове акад. М. І. Вавілава зрабіўся прыкладам для іншых рэспублік. У канцы 1928 года Г. Гарэцкі быў абраны ў акадэмікі Беларускай акадэміі навук (БАН), стаўшы ў лік першых яе членаў-арганізатараў. Тады ж яго сям'я папоўнілася другім сынам — Радзімам. У гэты і наступныя паўтары гады Г. Гарэцкі аддана працаваў у навуцы — выйшла з друку манаграфія «Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы (Нацыянальны склад насельніцтва Заходняй Беларусі)» і шэраг капітальных артыкулаў; у навукова-арганізацыйнай і грамадскай дзейнасці — у якасці загадчыка кафедры штандорта і члена Акадэмічнага савета БАН, а таксама сябра іншых саветаў, камісій, камітэтаў; на дзяржаўным напрамку — як член Цэнтральнага выканаўчага камітэта (ЦВК) БССР. Гаўрыла Гарэцкі і яго брат Максім, які вярнуўся з Горак у Менск і працаваў спачатку ў Інбелкульце, а затым у БАН, сябравалі з многімі выдатнымі адраджэнцамі-аднадумцамі: Янкам Купалам, Якубам Коласам, Аркадзем Смолічам, Сцяпанам Некрашэвічам, Уладзімірам Дубоўкам, Язэпам Лёсікам і інш.

Мікалай Улашчык яшчэ ў школьныя гады адчуў значную цікавасць да гісторыі, а будучы студэнтам — канчаткова вырашыў стаць даследчыкам-гісторыкам. Асаблівы ўплыў на яго самавызначэнне зрабілі заняткі і лекцыі такіх выдатных вучоных і выкладчыкаў як М. Доўнар-Запольскі, Д. Даўгяла, У. Ігнатоўскі, У. Пічэта, В. Друшчыц. Гэтаму садзейнічаў і яго актыўны ўдзел у краязнаўчай працы. Ён стаў сакратаром універсітэцкага краязнаўчага гуртка, удзельнічаў у археалагічных і краязнаўчых экспедыцыях БАН на Банцараўскае гарадзішча, на Мазыршчыну, Тураўшчыну, Полаччыну. Ён пазнаёміўся з вядомымі археолагамі К. Палікарповічам, Лядунскім, Дубінскім.

Улашчык разам са сваімі сябрамі арганізавалі краязнаўчыя паездкі ў розныя мясціны Беларусі і Украіны.

Ужо ў 1925 годзе М. Улашчык пачаў працаваць у Дзяржаўнай бібліятэцы, што дазволіла яму карыстацца кнігамі па гісторыі, культуры мінуўшчыны Беларусі і іншых краін. Ён быў прызначаны не толькі бібліятэкарам, але і сакратаром Беларускай кніжнай палаты. Дырэктарам бібліятэкі і кіраўніком палаты быў І. Б. Сіманоўскі — вельмі інтэлігентны высокаадукаваны дзеяч, які скончыў Сарбону, ведаў некалькі моў, заўсёды размаўляў па-беларуску, поўнасцю адданы бібліятэчнай справе. Ён меў вялікі ўплыў на маладога студэнта Улашчыка, імкнуўся, каб той *«стаў больш цывілізаваным»* (с. 396)[1]. Загадчыцай беларускага аддзела была Ю. В. Бібіла. М. Улашчык прыняў актыўны ўдзел у стварэнні «Летапісу беларускага друку» Ён выдаў навуковую публікацыю пра беларускі друк 1927–1928 гадоў. Улашчык з усёй шчырасцю далучыўся да кола беларусаў — адраджэнцаў нацыянальнай культуры, стаў свядомым дзеячам, прасякнутым беларушчынай.

Бальшавіцкая рэпрэсіўная «каса», якая ўжо знішчыла мільёны сваіх і чужых жыхароў, працягвала няшчадна касіць лёсы, а то і галовы пад кіраўніцтвам «самага вялікага і мудрага правадыра ўсіх народаў свету». Асаблівыя пікі гэтых дзеянняў прышліся на 30-я гады мінулага стагоддзя ў сувязі з палітыкай калектывізацыі, а потым індустрыялізацыі (барацьба з «нацдэмамі» і іншымі «ворагамі народа»), а потым у час Другой сусветнай вайны — і так да смерці Сталіна ў 1953 годзе. Страх, дэмагогія, хлусня, даносы, самагубствы ахапілі ўсю самую буйную па памерах краіну свету — СССР. Бязлітасная «каса» рэпрэсій моцна зачапіла беларускі народ, яго інтэлігенцыю, у тым ліку і шматлікія сем’і Улашчыкаў і Гарэцкіх. У выніку многія «ворагі народа» і іх сем’і былі высланы, змянілі месца

[1] Улашчык М. Выбранае. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2001. — 608 с. У далейшым цытаты ўзяты з гэтай кнігі.

жыхарства і нейкім цудам нават засталіся жывымі, але значная колькасць адразу пасля арышту ці пазней была расстраляна.

Сярод дзеячаў культуры Беларусі (літаратараў, літаратуразнаўцаў, мовазнаўцаў і інш.) у тым ліку многіх найбольш выдатных спецыялістаў Інбелкульта, Беларускай акадэміі навук, БДУ і іншых устаноў былі расстраляны (В. Ю. Ластоўскі, Б. А. Тарашкевіч, Я. Ю. Лёсік, С. М. Некрашэвіч, М. І. Гарэцкі, А. А. Бабарэка, І. І. Замоцін, П. А. Бузук, А. А. Смоліч, М. І. Каспяровіч і інш.). Самагубствам скончылі жыццё У. Ігнатоўскі, М. Галадзед, А. Чарвякоў. Янку Купалу выратавалі дактары пасля таго, як ён зрабіў сабе харакіры.

* * *

У ліпені 1930 года Максім і Гаўрыла Гарэцкія былі арыштаваныя[1]. Першы быў асуджаны 10 красавіка 1931 года па справе «Саюза вызвалення Беларусі» (СВБ), а другі — 30 траўня 1931 года па справе «Беларускага філіяла Працоўнай сялянскай партыі» (ПСП) — да вышэйшай меры пакарання (расстрэлу) з заменай гэтага пакарання заключэннем у канцлагер тэрмінам на 10 гадоў. Г. Гарэцкага выключылі з складу акадэмікаў Беларускай акадэміі навук і цяплушкай адправілі ў Салаўкі. Праз некаторы час яго ўзялі на працу ў Геалагічны аддзел Беламорска-Балтыйскага камбіната (ББК) у пас. Мядзведжая Гара, дзе ён упарта пачаў авалодваць новай спецыяльнасцю — інжынернай геалогіяй, і хутка малады акадэмік-эканаміст зрабіўся юным геолагам. Наступіў сумна вядомы пік рэпрэсій 1937 года, калі раней асуджаных, але ўжо вызваленых, зноў арыштоўвалі. У канцы кастрычніка забралі Гаўрылу Гарэцкага, а ў пачатку лістапада — Максіма. Г. Гарэцкага, як найбольш «злачыннага элемента» адаслалі на разбор справы ў Маскву, а ў гэты час

[1] У 1930 г. Г. І. Гарэцкі быў узнагароджаны ўрадам БССР ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР, аб чым стала вядома толькі ў 90-х гадах мінулага стагоддзя — гл. Куценко А. Н., Смирнов Н. Д. Ордена Советских республик. — Донецк, 1996. — С. 267.

ва ўрочышчы Сандармох (аналаг беларускіх Курапат) каля Мядзведжай Гары толькі за адзін тыдзень было рассраляна 1111 чалавек з Белбалтлага. У пачатку снежня Гаўрылу Іванавіча нечакана вызвалілі, што, магчыма, звязана са зменай Г. Ягоды на М. Яжова ці з 20-й гадавінай ВЧК-ГПУ-АГПУ-НКУС, якую шырока адзначалі ў Савецкім Саюзе.

Максіма Гарэцкага па пастанове «Тройки УНКВД Смоленской области» расстралялі ў г. Вязьме 10 лютага 1938 года, а Гаўрылу 8 траўня зноў арыштавалі. Г. Гарэцкага разам з вялікай групай зняволеных прысудзілі да расстрэлу, але як важную фігуру — «нямецкага і польскага шпіёна» — адправілі ў Маскву, дзе ён зноў трапіў на Лубянку і ў Бутырку. У яго справе значылася, што ён не толькі сам працаваў на польскую і нямецкую разведку, але і завербаваў такіх вядомых людзей, як кіраўнікі БССР М. М. Галадзед і А. Р. Чарвякоў. Калі параўналі лічбы, дык выходзіла, што ён іх завербаваў пасля таго, як гэтыя людзі былі ўжо мёртвымі (адзін скончыў жыццё самагубствам 21 чэрвеня 1937 года, а другога расстралялі ў чэрвені 1937 года). Адразу было відаць, што абвінавачванне надуманае і сфабрыкаванае. Гарэцкага адправілі назад у Мядзведжую Гару з прапановай вызваліць. Групу зняволеных, у якую спачатку ўваходзіў і Гарэцкі, тым часам расстралялі ва ўрочышчы Сандармох. Каб не тыя акалічнасці, што прымусілі паслаць Г. Гарэцкага ў Маскву, і не чарговая замена аднаго наркама НКУС на другога (М. Яжова на Л. Берыю), вельмі верагодна, што сярод расстраляных быў бы і Гарэцкі.

Перанесці многія цяжкасці і пакуты Г. Гарэцкаму дапамагалі не толькі жыццяздольнасць, аптымізм, але і вялікае каханне да жонкі. Яно было крыніцай нязломнасці духоўнай сілы і веры ў неператожнасць жыцця.

* * *

Мікалай Улашчык улетку 1930 года адбываў у Ленінградзе вайсковыя зборы, але і тут 16 чэрвеня быў арыштаваны па міфічнай справе СВБ. Перад гэтым яго звольнілі з працы ў бібліятэцы, як чалавека «кулацкага» паходжання, а яшчэ раней, узімку, яго бацькі і брат Павел з сям'ёй разам з іншымі заможнымі аднавяскоўцамі былі сасланы ў Котлас Архангельскай вобласці. М. Улашчык 10 красавіка 1931 года быў асуджаны на 5 гадоў высылкі ў г. Налінск Вяцкае губерні. Разам з ім адбывалі ссылку супрацоўнікі Інбелкульта географ і краязнавец Мікалай Азбукін, працаўнік асветы Яўхім Кіпель. М. Улашчык зрабіў спробу ўцячы на Захад, але ў ліпені 1932 года быў затрыманы і 10 чэрвеня 1933 года быў асуджаны, а ў верасні змешчаны ў лагер строгага рэжыму ў Марыінску (цяпер Кемераўская вобласць) — сталіца лагераў Сібіры, а потым — у Суслава. У лютым 1935 года ён быў вызвалены і вырашыў ехаць у Ташкент, бо на Беларусь шлях зачынены (былых зняволеных хутка зноў забіраюць), таму трэба было ехаць ў такую *«мясціну, дзе цябе ніхто не ведае, але і там жыць не больш, чым год, і так увесь час, каб на месцы не паспелі прыгледзецца і падаць матэрыялы ва "ўстанову"»* (с. 407). У Ташкенце М. Улашчык па розных прычынах не змог знайсці якую-небудзь працу і паехаў у Менск, дзе пабачыўся з сёстрамі Нінай, Вольгай, маці.

У 1930 годзе І. К. Бялькевіч быў абвінавачаны ў нацыяналізме і высланы за межы Беларусі — чатыры гады працаваў на лесапавале ў Марыйскай АССР. У 1935 годзе пераехаў у Азова-Чарнаморскі край, дзе выкладаў рускую мову і літаратуру ў Натальеўскай сярэдняй школе і школах Марыупаля (тады Жданава). Яго сям'я заставалася ў Менску.

З Менску Улашчык паехаў у Вятку (Кіраў). Там адбывала высылку шмат знаёмых беларусаў (з пачатку М. Гарэцкі і Н. Чарнушэвіч, а з 1934 года — М. Азбукін, Я. Кіпель,

А. Аніхоўскі, А. Бабарэка, А. Адамовіч і інш.). Падыходзіў час заканчэння тэрміну высылкі, але раптам А. Бабарэку і А. Адамовічу дабавілі яшчэ па два гады, а Аніхоўскага арыштавалі. М. Улашчык тэрмінова з'ехаў у Горкі, а адтуль у Іванава, дзе ўдалося ўладкавацца выкладчыкам гісторыі Іванаўскага тэхнікума сувязі. Тут ён атрымаў ліст з Ленінграда ад універсітэцкага сябра Сяргея Шутава, які запрашаў да сябе ў госці. *«Пасля шасці гадоў блуканняў, няўпэўненасці, небяспекі і самай элементарнай галадухі трапіў ва ўмовы, калі ўсе беды нібы засталіся недзе далёка…»* (с. 438). Тут М. Улашчык пазнаёміўся з фізіёлагам з Ленінграда Наталляй Маркаўнай Шамарынай, якая пазней стала яго жонкай.

М. Азбукін пераехаў ва Ульянаўск і запрасіў туды М. Улашчыка, які пачаў працаваць выкладчыкам геаграфіі на рабфаку. У канцы 1937 года тут таксама пачаліся арышты «ворагаў народа». Затым была школа ў Дзергачах і ў Саратаве, а ў 1939 годзе М. Улашчык уладкоўваецца ў Ленінградзе ў жонкі. Тут ён працаваў у школе і займаўся здачай экзаменаў па аспіранцкім мінімуме.

Перад гэтым яго сястра Ніна Мікалаеўна, якая жыла ў Менску разам са сваёй старой маці і двума дзеткамі — Усяславам і Людмілай, таксама была арыштавана. М. М. Улашчык у раздзеле «Мемуары» сваёй кнігі ўспамінаў: *«Ніну ў канцы 1937 — пачатку 1938 гг. выклікалі некалькі разоў і ўсё вучылі правакатарскай дзейнасці, як трэба трымаць сябе на рабоце, на каго звярнуць найбольш увагі, што пісаць, але і калі з гэтага нічога не выйшла, то перайшлі да пагрозаў: пасадзім самую. Адзін раз пасля "размовы" яе не пусцілі дамоў, і яна начавала, пэўна, у падвале (знакамітым мінскім падвале). Праз тыдзень-другі яе паклікалі ізноў і ўжо не выпусцілі. Праз пяць месяцаў па арт. АСА далі пяць гадоў і паслалі на Калыму. Тэрмін канчаўся ў лютым 1943 г. Зразумела, што ў той час з Калымы не пускалі нікога, давялося пачакаць яшчэ тры гады.*

*Значыцца, пяць гадоў Ніне далі за тое, што не хацела пісаць даносы»* (с. 370).

Толькі пачалася вайна, як 7 ліпеня 1941 года М. Улашчыка зноў арыштавалі і ён трапіў у вялізную турму ў Златавусце. *«Восень 1942 г. Мне зусім кепска, хворы халерай ці халерынай»* (с. 140). Ад непамернай працы і голаду ён зусім знясілены, хворы на дыстрафію, адкрытую форму туберкулёзу — але цудам выжыў. У гэты час акадэмік Л. А. Арбелі, дырэктар Інстытута фізіялогіі, віцэ-прэзідэнт АН СССР па просьбе сваёй сакратаркі Н. І. Міхельсон — сяброўкі Наталлі Улашчык, звярнуўся да Л. Берыі, каб пры разглядзе справы М. Улашчыка ўлічылі яго выдатныя здольнасці навукоўца і педагога. 28 лістапада 1942 года яго вызвалілі. З цяжкасцю дабраўшыся да Бугульмы (Татарстан) да старэйшага брата Івана і малодшай сястры Вольгі, якая выхадзіла Мікалая і вярнула да жыцця. Увесну 1943 года М. Улашчык паехаў ў Казань да жонкі Наталлі, а ў канцы гэтага года — у аспірантуру Інстытута гісторыі АН СССР. У снежні 1947 года М. Улашчык пасьпяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму «Падрыхтоўка сялянскай рэформы 1861 года ў Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай губернях». Па рэкамендацыі акадэміка У. І. Пічэты, які падтрымліваў М. Улашчыка і ў час аспірантуры, яго прынялі выкладчыкам на кафедру гісторыі ўсходніх і заходніх славян Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Але праз год яго звольнілі, а ў снежні 1950 года зноў, ужо чацвёрты раз, арыштавалі: прысуд — пазбаўленне волі тэрмінам на 8 гадоў. У красавіку 1951 года яго выслалі ў Сіблаг, у той жа Марыінскі лагер — пасёлак Суслава Кемераўскай вобласці, дзе 20 гадоў таму адбываў першы арышт. Толькі 25 сакавіка 1955 года М. Улашчыка датэрмінова вызвалілі, а ўжо ў верасні ён пачаў працаваць у Інстытуце гісторыі.

Мікалай Улашчык працягнуў працу па аграрнай гісторыі Літвы і Заходняй Беларусі. У 1965 годзе выйшла з друку яго грунтоўная манаграфія «Предпосылки крестьянской реформы 1861 года в Литве и Западной Беларуси», якая была асновай

яго доктарскай дысертацыі, паспяхова абароненай у сакавіку 1964 г. Адначасова Улашчык пачаў цікавейшую працу па старажытных летапісах.

* * *

Мікалай Улашчык і Гаўрыла Гарэцкі даволі часта сустракаліся ў сярэдзіне 60-х гадоў мінулага стагоддзя у пас. Дзедаўск пад Масквой, дзе тады жылі мае бацькі. Тады я ўпершыню пазнаёміўся з Мікалаем Мікалаевічам, аб чым я ўжо пісаў[1]. М. Улашчык падараваў названую манаграфію з такім аўтографам: *«Гаўрылу Іванавічу Гарэцкаму ў знак вялікай пашаны 26.ІІІ.1966 г. Улашчык»*. Трохі пазней Г. Гарэцкі атрымаў яшчэ адно выданне з серыі «Памятники средневековой истории народов Центральной и Восточной Европы» ў перакладзе на рускую мову, «Хроніка Быхаўца» — *«адзін з найбуйнейшых і прыкметнейшых помнікаў старабеларускага пісьменства»* (с. 12). М. Улашчык зрабіў такі падарункавы надпіс: *«Гаўрыле Іванавічу Гарэцкаму пры спатканні ў Дзедаўску 22.V.66 г. Улашчык»*.

Нягледзячы на тыя пакуты, якія яны перанеслі як «ворагі народа» і някепскія ўмовы працы і жыцця ва ўстановах Масквы, абодва шчыра адданыя Бацькаўшчыне выдатныя яе сыны, мелі самую вялікую мару — як хутчэй вярнуцца на Радзіму, дзе можна яшчэ больш плённа працаваць на ўсю сілухну дзеля яе росквіту.

Гаўрыла Гарэцкі пасля поўнай рэабілітацыі ў 1958 годзе і аднаўлення ў званні акадэміка АН БССР у 1965 годзе, быў на наступны год залічаны старшым навуковым супрацоўнікам Лабараторыі геахімічных праблем АН БССР (па сумяшчальніцтве), а ў 1969 годзе, атрымаўшы кватэру, пераехаў з сям’ёю ў

---

[1] Гарэцкі Р. Апантаны слуга Кліо // Улашчык М. Выбранае. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2001. — С. 532–534; Жыццёвы меланж: публіцыстычныя артыкулы, лірычныя замалёўкі, мініяцюры, эсэ. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — С. 70–72.

Менск. У 1971 годзе быў заснаваны Інстытут геахіміі і геафізікі АН БССР, і Г. І. Гарэцкі быў залічаны загадчыкам аддзела палеагеаграфіі антрапагена. У снежні 1971 года з Масквы ў Менск пераехаў і малодшы сын Радзім Гарэцкі, які быў прызначаны загадчыкам аддзела геатэктонікі таго ж інстытута.

Мікалаю Улашчыку ніяк не ўдавалася пераехаць у Беларусь, але, працуючы ў Маскве, ён жыў толькі Радзімай і таму ведаў усё, што там адбывалася. Асабліва яго цікавіла культура, літаратура, навука. Ён сачыў за новымі кнігамі, вёў вялікую эпісталярную дзейнасць са шматлікімі выдатнымі беларускімі пісьменнікамі, навуковымі і грамадскімі дзеячамі.

Мікалай Улашчык яшчэ ў 1958 годзе ў лісце да Ю. В. Бібілы пісаў: *«Перад маім прыездам у Мінску была Галя Гарэцкая. Мае хочуць назад у Ленінград (жонка з Ленінграда), а я лепш [бы] паехаў у Мінск, хоць мяне ніхто не кліча туды»* (с. 478).

У Менску я зноў з вялікай прыемнасцю сустракаўся з Мікалаем Мікалаевічам, калі ён па прыездзе сюды часта прыходзіў у госці да майго Таты. Заходзіла да маіх бацькоў і Ніна Улашчык, мілавідная, разумная жанчына з выразнымі зеленаватакарымі вачыма і яснай мілагучнай беларускай мовай. Шмат было размоў пра мінулае, пра многія праблемы сучаснасці, перш за ўсё звязаныя з Беларуссю. У прыватнасці, некаторы час вельмі часта і нават усхвалявана абмяркоўвалі пытанні пра беларускія слоўнікі, у тым ліку і пра «Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны» Янкі Бялькевіча. Таму я зацікавіўся гэтай тэмай і пазней напісаў пра **краёвыя слоўнікі жывой народнай беларускай мовы**.

У сувязі з 50-годдзем АН БССР (1 студзеня 1979 года) рэдакцыйная калегія штогодніка «Беларуская лінгвістыка» (адказны рэдактар М. Р. Суднік) звярнулася да шэрагу выдатных беларускіх вучоных і *«папрасіла іх выказаць свае думкі адносна таго, як яны ўяўляюць сабе задачы далейшага развіцця беларускага мовазнаўства. Што канкрэтна, на іх погляд, трэ-*

*ба было б зрабіць у галіне беларусістыкі ў бліжэйшы час?»*[1]. Акадэмік Г. І. Гарэцкі адказаў: *«Першае маё пажаданне такое. Трэба паставіць даследаванне жывой прыроднай беларускай лексікі XIV–XVIII стагоддзяў. Менавіта народнай, не кніжнай. За першакрыніцы ўзяць летапісы тыпу Баркулабаўскага, Быхаўца, айкітабы, лісты, акты, успаміны, фальклор, хатнія запісы і г. д.*

*Другое пажаданне. Трэба шырэй паставіць укладанне мясцовых слоўнікаў жывой беларускай мовы, запісваючы толькі арыгінальныя словы, каб вычарпальна сабраць залаты фонд скарбаў беларускай лексікі.*

*Трэцяе пажаданне. Варта шырока даследаваць сучасныя лексічныя працэсы жывой беларускай мовы. Трэба вывучаць, як змяняецца лексічны склад беларускай мовы ў розных сацыяльных асяроддзях і ў розных геаграфічных зонах уплыву суседніх моў. Трэба прасачыць у самых тонкіх нюансах, як змяняецца беларуская лексіка сярод сялян, рабочых, інтэлігенцыі, навучэнцаў, студэнтаў, артыстаў, навуковых працаўнікоў і г. д.*

*Чацвёртае пажаданне. Трэба скласці слоўнік найбольш пашыраных лексічных памылак у сучаснай беларускай мове, каб захаваць чысціню беларускай мовы, і вуснай і пісьмовай, папярэдзіць шырокія колы ад пагрозы засмечвання і магчымай дэструкцыі беларускай мовы»*[2].

Гаўрыла Гарэцкі пад уплывам брата Максіма так шчыра палюбіў родную мову, глыбока яе разумеў, тонка адчуваў самыя дробныя нюансы гаворак розных рэгіёнаў і частак Беларусі, і па нават мала адметных адрозненнях мог сказаць, адкуль родам той ці іншы грамадзянін. Яшчэ ў 1918 годзе, калі Максім жыў у Смаленску і да яго прыехаў Гаўрыла, яны вельмі пільна працавалі над стварэннем «Руска-беларускага слоўніка», які ў канцы

[1] Жыццё патрабуе // Беларуская лінгвістыка. — 1979. — Вып. 15. — С. 3.
[2] Тамсама. — С. 5–6.

года выйшаў з друку[1]. У тым жа годзе у Смаленску жыў Янка Купала з жонкаю. Гаўрыла ўспамінае[2], што *«Купала досыць часта запрашаў Максіма ў госці, брат і мяне браў з сабою. Хоць і цяжка жылося ў той час, але Уладзіслава Францаўна заўсёды была выключна гасціннай і жыццярадаснай.*

*[...] Купала і брат гаварылі пра беларускую літаратуру, этнаграфію, гісторыю, пра беларускія слоўнікі І. І. Насовіча і У. М. Дабравольскага, які жыў тады ў Смаленску. Самаадданая дзейнасць Насовіча і Дабравольскага па складанню беларускіх слоўнікаў вельмі падабалася Купалу і брату. Бытавая неўпарадкаванасць і страшэнная беднасць славутых беларускіх словазнаўцаў не спынілі іх актыўнай творчай працы да канца жыцця...»*

Першым навуковым даведнікам па лексіцы беларускай мовы ў сярэдзіне XIX ст. быў «Словарь бѣлорусского нарѣчія» («Слоўнік беларускай мовы») І. І. Насовіча[3], апублікаваны ў 1870 годзе. Над укладаннем гэтага слоўніка жывой народнай мовы І. І. Насовіч працаваў 16 гадоў. У слоўнік уключана больш за 30 тысяч слоў жывой беларускай мовы. Аўтар слоўніка і далей збіраў лексічны матэрыял, які апублікаваны ўжо пасля пад назвай «Дадатак да беларускага слоўніка» (1881). Факсімільнае выданне «Слоўніка беларускай мовы» разам з

---

[1] Другое выданне слоўніка [Браты М. і Г. Гарэцкія. Маскоўска-беларускі слоўнік. Выданне II (З папраўкамі і вялікімі дадаткамі). — Вільня, 1920] я атрымаў ад Ніла Гілевіча з такім надпісам: *«Дарагі Радзім Гаўрылавіч! Даведаўшыся з нашай размовы, што ў Вас, Сына і Пляменніка аўтараў Маскоўска-беларускага слоўніка, няма яго Другога выдання, я ўжо не мог спаць спакойна і зразумеў, што калі гэтую (найкаштоўную ў маёй бібліятэцы) кніжку не падарую Вам — я пamру ад пакутаў сумлення. Таму — прыміце! Ад сэрца — Ніл Гілевіч. 30.10.02»*. Мая падзяка — бязмерная, якая ўсхвалявала мяне аж да слёз.

[2] Гарэцкі Г. Вобраз Янкі Купалы ў маім успрыманні // Успаміны пра Янку Купалу. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1982. — С. 45–53.

[3] Іван Іванавіч Насовіч — беларускі філолаг, этнограф, фалькларыст, лексікограф — нарадзіўся 26 верасня 1788 года ў сяле Гразавіц былога Быхаўскага павета (цяпер Чавускі раён) Магілёўскай губерні ў сям'і праваслаўнага святара. Пасля выхаду на пенсію ў 1843 годзе вярнуўся ў Мсціслаў, дзе 25 ліпеня 1877 года памёр. Пахаваны ў Мсціславе на могілках Тупічэўскага манастыра.

дадаткам убачыла свет у 1983 годзе ў сувязі з 200-годдзем з дня нараджэння І. І. Насовіча.

Наступная грунтоўная праца ў галіне дыялектычнай лексікаграфіі — «Смаленскі абласны слоўнік» (1914), у якім сабрана народная лексіка Смаленшчыны і ўсходняй Беларусі і які належыць Уладзіміру Мікалаевічу Дабравольскаму — беларускі і рускі этнограф, фалькларыст, краязнавец, лексіко граф (11.08.1856, сяло Краснавецкае Пачынкаўскага раёна Смаленскай вобласці ў сям’і чыноўніка — 07.05.1920 трагічна загінуў на Смаленшчыне).

У 20-х гадах мінулага стагоддзя працэс беларускага нацыянальнага адраджэння атрымаў новы імпульс, які ажыццяўляўся партыйна-дзяржаўным кіраўніцтвам БССР пры актыўным удзеле інтэлігенцыі і шырокай падтрымцы насельніцтва. Важна падкрэсліць, што яно вылілася ў палітыку беларусізацыі. У лютым 1921 года Наркамзем асветы БССР стварыў Навукова-тэрміналагічную камісію, а ўжо на наступны год на базе камісіі быў створаны Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт)[1]. З самага пачатку пытанні мовазнаўства займалі адно з вядучых месцаў. У лютым 1925 года слоўнікавая камісія была ператворана ў камісію па ўкладанні слоўніка жывой беларускай мовы (старшыня С. М. Некрашэвіч, сакратар — М. Я. Байкоў). Была складзена «Інструкцыя да збірання слоўніка-тэрміналагічнага матэрыялу ў беларускай мове», якая была разаслана акруговым і мясцовым краязнаўчым арганізацыям. Агульная колькасць асоб, якія прымалі ўдзел у зборы слоўнага матэрыялу даходзіла да 2500 чалавек — у большасці гэта настаўнікі, студэнты, аграномы, вучні. Інбелкульт працаваў не толькі па падрыхтоўцы поўнага слоўніка жывой беларускай мовы, а ў пачатку 1926 года пачаў работу па ўкладанні краёвых слоўнікаў у акруговых краязнаўчых таварыствах.

---

[1] Інстытут беларускай культуры / калектыў аўтараў. — Мінск: Навука і тэхніка, 1993. — 255 с.

Найбольш паспяхова такую працу праводзіў Мікалай Іванавіч Каспяровіч (22.05.1906–26.12.1937) — беларускі краязнавец, лексікограф, мастацтвазнавец і літаратуразнавец. Ён быў прызначаны навуковым сакратаром Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інбелкульце і сакратаром краязнаўчага часопіса «Наш край». Яшчэ раней як сакратар Віцебскага акруговага таварыства краязнаўства М. І. Каспяровіч не толькі сам збіраў народныя словы і выразы ў час шматлікіх службовых паездак, але арганізаваў мясцовую інтэлігенцыю на збор слоўнага матэрыялу. Ужо у 1927 годзе ён змог выдаць «Віцебскі краёвы слоўнік» — першы з серыі краёвых слоўнікаў, запланаваных Інбелкультам. У слоўніку змешчана 9703 словы, зафіксаваныя ў 591 населеным пункце былой Віцебскай акругі. Слоўнік уключаў і агульнабеларускія словы, але пераважалі словы дыялектныя. М. І. Каспяровіч працягваў і далей гэтую працу і як дадатак выдаў «Слоўнічак уласных найменняў», які налічвае 290 мужчынскіх і жаночых беларускіх мясцовых імён з рускімі адпаведнікамі. Свой вопыт ён абагульніў у інструкцыі «Як сабраць і ўкласці слоўнік мовы свайго раёна» (1928).

Такога тыпу слоўнік, які адлюстроўвае лексіку толькі аднаго раёна, быў зроблены Мікалаем Васільевічам Шатэрнікам (11.09.1890–2.12.1934) — беларускім мовазнаўцам і педагогам. Займаючыся краязнаўчай работай, ён уклаў і выдаў «Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны» (1929), у які ўваходзіць галоўным чынам лексіка вёскі Старына Чэрвеньскага раёна, дзе нарадзіўся і вырас аўтар, а таксама 35 населеных пунктаў з раёнаў былога Ігуменскага павета. Слоўнік змяшчае 9000 слоў, сярод якіх ёсць агульнанародныя, але пераважаюць гаворкі Чэрвеншчыны.

У 1927–1928 гадах па таму ж метаду, што і «Віцебскі краёвы слоўнік», пачаў збірацца «Слоўнік Мозыршчыны», які ўжо паступіў у слоўнікавую камісію, але выдаць яго ў свой час не змаглі, і яго рукапіс загінуў у час Другой сусветнай вайны.

Вельмі паспяхова праходзіла падрыхтоўка краёвага слоўніка Калініншчыны, які павінен адлюстраваць лексіку жывой народнай мовы насельніцтва былой Калінінскай акругі. Гэтай ра-

ботай кіраваў Іван Кандратавіч Бялькевіч, яшчэ адзін выдатны беларускі мовазнавец — самаадданы працаўнік на ніве роднай культуры, які ўнёс значны ўклад у беларускую лексікаграфію.

Янка Бялькевіч нарадзіўся 6 сакавіка 1883 года ў вёсцы Варонічы Слонімскага павета Гродзенскай губерні ў беднай сялянскай сям'і. У 1909 годзе скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю, пасля чаго працаваў загадчыкам чатырохкласнай школы ў вёсцы Бракава на Слонімшчыне. У 1915 годзе з набліжэннем фронту Я. Бялькевіч быў эвакуіраваны на Саратаўшчыну, а ў 1919 годзе вярнуўся на радзіму і працаваў загадчыкам Вароніцкай беларускай школы, інспектарам беларускіх школ Слонімскага павета. У жніўні 1920 года Бялькевіч пераведзены ў Мінск загадчыкам беларускага аддзела Народнага камісарыята асветы БССР і па сумяшчальніцтве працуе настаўнікам 36 гарадской школы і загадчыкам вячэрняй школы № 2 па ліквідацыі непісьменнасці.

У верасні 1925 года Бялькевіч, паспяхова скончыўшы ўніверсітэт, пры размеркаванні выбіраў працу дырэктара нядаўна адкрытага Мсціслаўскага педагагічнага тэхнікума. Адначасова па даручэнні слоўнікавай камісіі Інбелкульта ўзначаліў укладанне краёвага слоўніка Калініншчыны, на тэрыторыі якой і знаходзіўся Мсціслаў. Ён умела арганізаваў збор слоўнікавага матэрыялу, далучыўшы да гэтай справы ўсіх краязнаўцаў, студэнтаў, мясцовых настаўнікаў, і ўжо праз год ён меў больш за сто пастаянных карэспандэнтаў. У вольны час сам з імпэтам ездзіў у многія месцы, каб запісаць новыя словы. К канцу 1926 года картатэка будучага слоўніка налічвала больш 15 тысяч лексічных адзінак.

У верасні 1927 года Іван Кандратавіч пераехаў ў Менск, працаваў у Інбелкульце сакратаром аддзела гуманітарных навук, а пазней — вучоным спецыялістам слоўнікавай камісіі. Ён працягваў працу па стварэнні краёвага слоўніка, атрымліваючы спісы мясцовых слоў ад сваіх карэспандэнтаў, а сам выбіраў дыялектычныя словы з фальклорных запісаў, зробленых на Магілёўшчыне, а таксама з мастацкіх твораў пісьменні-

каў — ураджэнцаў Магілёўшчыны. Апантаны мовазнаўствам і асабліва краёвым слоўнікам Бялькевіч у думках ужо бачыў яго заканчэнне, прычым улічыў усе недахопы выдадзеных слоўнікаў і, напрыклад, даў не проста пераклады беларускіх слоў на расійскую мову, а іх тлумачэнне ў беларускай жа мове. Апрача таго ён друкаваў шэраг артыкулаў, прысвечаных пытанням культуры беларускай літаратурнай мовы.

З 1948 да 1955 года І. К. Бялькевіч — загадчык навучальнай часткі вучэбнага пункта «Азоўсталь», з 1955 да 1958 года быў інжынерам-метадыстам Марыупальскага філіяла Данецкага вячэрняга будаўнічага тэхнікума. Увесь час ён не спыняў работы над слоўнікам і ў 1959 годзе завяршыў яго. На вялікі жаль, убачыць гэты слоўнік надрукаваным Бялькевічу не давялося — 18 кастрычніка 1960 года Іван Кандратавіч раптоўна памёр, так і не атрымаўшы дазволу вярнуцца на Радзіму.

Пасля смерці Бялькевіча асаблівае хваляванне ахапіла ўсіх Улашчыкаў, а затым і Гарэцкіх у сувязі з выданнем слоўніка Бялькевіча.

Яшчэ ў 1960 г. Мікалай Улашчык у лісце да сястры пісаў: *«Нина. Вчера звонил Слава [Бялькевіч]. Сообщил о смерти Янки [Бялькеіча]. [...] Слоўник Янки остался неизданным. Крапива одервенел и не захотел ничего сделать. Судник, директор Института, признал, что работа сделана как следует, но тоже отступился. [...] Я был так ошеломлён известием о смерти, что о слоўнике вспомнил только сегодня. Вообще нужно сказать Славе, чтобы он привёз рукопис сюда. Я уже раньше был в Институте языка, здесь и разговаривали в отношении издания, но мне сказали, что у них нет возможностей. Думаю, что сейчас, когда автора нет в живых, одно из основных препятствий отпадает. Буду долбить начальство, требовать издания. Из-за этого следует походить, так как это единственный реальный памятник человеку»*[1].

[1] Скарыніч: літаратурна-навуковы гадавік. — Вып. 7. — Москва: Советский писатель, 2008. — С. 197.

З таго часу Мікалай і Ніна Улашчыкі разам з яе сынам Усяславам і дачкой Людмілай Бялькевічамі пачалі вялікую працу па падрыхтоўцы слоўніка І. К. Бялькевіча да друку і яшчэ больш складаныя намаганні пра яго выданне. Звароты М. Улашчыка ў розныя інстытуты, выдавецтвы канчаліся адмоўна. Трэба было атрымліваць водзывы, падтрымкі, тлумачыць значную вартасць слоўніка, размаўляць з многімі ўплывовымі людзьмі. 9 кастрычніка 1965 г. ён піша Ніне:

*«Трыццаць год таму ў Суславе сустрэўся з князем Галіцыным, а ўчора былі са Славай у графа Талстога. Сустрэча атрымалася вельмі добрай. Мы перадалі яму аўтабіяграфію Янкі, твае запісы, складзеную намі са Славай біяграфію і артыкул у “ЛіМе”. Ён абяцаў даць афіцыйны водзыў аддзела філалогіі Інстытута славяназнаўства, затым перагаварыць з акадэмікам Вінаградавым, каб той даў водзыў ад Інстытута мовы Акадэміі Навук СССР, і затым напісаць артыкул для “ЛіМа” з запытам, чаму няма да гэтага часу адказу на артыкул Лапава і Германовіча. З другога боку, яшчэ раз сказаў, што будзе вельмі карысна, калі з такой жа просьбай выступіць Саюз пісьменнікаў, і таму, калі спатрэбіцца маё ўмяшальніцтва ў гэту справу, то прышлі тэлефон Глебкі. А ўвогуле, даведайся, як гэта зрабіць, як прайсці да Броўкі, каб атрымаць водзыў.*

*[…] Вялікім плюсам у гэтай справе з’яўляецца тое, што ў 1968 г. у Празе будзе чарговы з’езд філолагаў-славістаў. Да гэтых з’ездаў звычайна і падганяецца выданне капітальных прац.*

*[…] Пры ўсіх абставінах трэба мець рукапіс у найбольшай гатовасці, бо такая вялікая і цяжкая для выдання кніга будзе яшчэ доўга рыхтавацца да набору тады, калі пытанне аб выданні будзе вырашана станоўча».*

З часам да справы выдання слоўніка далучыўся і Гаўрыла Гарэцкі. 24 студзеня 1966 г. М. Улашчык піша сваёй сястры:

*«Сёння са Славаю мы былі ў Гарэцкага. Ён жыве км за 30 ад Масквы ў невялічкім рабочым пасёлку. Спаткаў ён нас надзвычайна ветліва і абяцаў зрабіць усё, што зможа, пагаварыць з прэзідэнтам і Крапівою. У яго нават захавалася фатаграфія, дзе ты з Галубоўскаю сядзіш, а над вамі стаяць Сапунянкі. Максім Гарэцкі назваў тое фота "Чатыры багародзіцы"».*

*[...] Мне трэба было б спаткацца тут з Броўкам, або, на горшы выпадак, з Глебкам. Калі можаш, даведайся, калі яны будуць тут».*

Жонка Бялькевіча Ніна Мікалаеўна Улашчык і сын Усяслаў Іванавіч Бялькевіч прарабілі вялікую працу па падрыхтоўцы слоўніка да выдання. Разам з навуковымі рэдактарамі слоўніка (М. В. Бірыла і А. А. Крывіцкі) і рэдактарскай групай выдавецтва «Навука і тэхніка» яны правялі зверку матэрыялаў слоўніка з картатэкай у спрэчных і няясных выпадках, дапоўнілі асобныя артыкулы ілюстрацыямі, удакладнілі даведачны апарат у артыкулах, вычытвалі і вывяралі падрыхтаваны да надрукавання машынапіс слоўніка і карэктуру. Ніне Улашчык дапамагалі ў гэтым бібліёграф Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна Юлія Восіпаўна Бібіла і дачка Людміла Іванаўна Бялькевіч.

Слоўнік Бялькевіча па плане Інбелкульта і самога выканаўцы павінен быў адлюстраваць лексіку жывой народнай мовы насельніцтва Калініншчыны, гэта значыць былой Калінінскай акругі. Таму першапачатковая назва працы — «Краёвы слоўнік Калініншчыны». Але пазней сам аўтар ахапіў населеныя пункты больш шырокай тэрыторыі, змяніўся адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел БССР і таму ў рукапісе Бялькевіч даў назву сваёй працы «Дыялектычны слоўнік усходняй часткі Беларускай СССР». Канчатковая назва «Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны» па той прычыне, што па сучасным адміністрацыйным падзеле *«месцазнаходжанне пераважнай большасці населеных пунктаў, у якіх збіраўся слоўны матэрыял, дае ўсе падставы лічыць, што слоўнік, укладзены Бялькевічам, адлю-*

*строўвае лексіку жывой народнай мовы насельніцтва ўсходняй часткі сучаснай Магілёўскай вобласці, што гэта рэгіянальны слоўнік іменна ўсходняй Магілёўшчыны, а не ўсходняй часткі Беларусі, як першапачаткова лічыў яго сам аўтар»*[1].

Слоўнік змяшчае каля 20 000 слоў. У ім даволі многа слоў агульнабеларускіх, якія замацаваліся і ў літаратурнай мове на правах нормы. Але большасць — гэта дыялектычныя словы featured рознага тыпу. Слоўнік выпускаецца ў свет такім, якім яго завяршыў укладальнік. Толькі ў мэтах скарачэння аб'ёму працы выключаны пры рэдагаванні артыкулы пра словы некаторых груп.

Пазней М. М. Улашчык пісаў пра ролю сястры Ніны: *«Каб не яна, "Слоўнік" Бялькевіча так і ляжаў бы. Пшанічны — Крапіва і жывому Бялькевічу наўрад ці саступіў бы. Яна ўсю сваю пэнсію на друкаванне [рукапісу] машыністцы аддала. Хадзіла па дапамогу ў Акадэмію Навук, да Крапівы — няма грошай! А з выдаваннем колькі тлуму было! Пісалі і Прэзідэнту [НАН], і Пілатовічу, пакуль наважыліся друкаваць. А сястру абавязалі адразу выкупіць сто экземпляраў. Усіх затое адарыла — і радню, і знаёмых, і швагерак, і пляменнікаў, і ўнукаў»*[2].

Гаўрыла Гарэцкі таксама прыкладаў няпростыя намаганні па выданні слоўніка Бялькевіча. Шмат разоў размаўляў па гэтай справе з прэзідэнтам АН БССР М. А. Барысевічам, К. Крапівою, П. Броўкам і інш. У 1970 годзе слоўнік нарэшце быў надрукаваны і Улашчыкі падаравалі гэтае выданне, зрабіўшы такі аўтограф:

*«Дарагім і паважаным Гарэцкім Ларысе Восіпаўне і Гаўрылу Іванавічу на добры ўспамін пра аўтара і з вялікай падзякай за дапамогу ў клопатах пра надрукаванне слоўніка, за Вашу прыхільнасць і добразычлівасць.*

*17.IX.1970 год Н. Улашчык, Л. Ивановская, Улашчык».*

---

[1] Германовіч І. К., Лапаў Б. С. І. К.Бялькевіч і яго слоўнік // Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. — Мінск: Навука і тэхніка, 1970. — С. 5–12.

[2] Каўка А. Будам жыць! — Менск; Масква: БГАКЦ, 1998. — С. 143–144.

Мікалай Улашчык у лісце ад 21 верасня 1970 года пісаў Г. А. Каханоўскаму: *«[…] У Мінску выйшаў слоўнік Бялькевіча. Здабывайце яго скарэй, бо тыраж у тысячу экз. Збіраюся ў Мінск, але гэты год цяжкі, і невядома, калі траплю туды»* (с. 494).

* * *

У лісце да Сяргея Шутава ад 13 красавіка 1972 года Мікалай Улашчык паведамляў: *«Меня продолжают звать в Минск, хотя не очень определённо куда. Сказал, что при таком положении следовало бы из меня сделать хотя бы члена-корреспондента. Соглашаются, но никто, конечно, не думает, что это возможно. Между прочим, сын Горецкого переехал в Минск и при последних выборах стал членом-корреспондентом. Но это геолог и притом лауреат. Сам Гаврила Иванович получил Государственную премию, и с ним там считаются»*[1].

Яшчэ ў 1973 годзе акадэмікі АН БССР П. У. Броўка і Г. І. Гарэцкі напісалі ліст на імя прэзідэнта АН БССР з просьбай вылучыць доктара гістарычных навук М. М. Улашчыка ў члены-карэспандэнты АН БССР. Яны пісалі: *«М. М. Улашчык з'яўляецца выдатным савецкім гісторыкам, даследаванні якога прысвечаны пераважна гісторыі Беларусі і Літвы XVI–XIX стагоддзяў. […] Вельмі вялікія дасягненні мае М. М. Улашчык у галіне вывучэння археаграфіі і гістарычных першакрыніц. Выключнае значэнне набыла манаграфія М. М. Улашчыка "Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода", якая найбольш поўна асвятляе як гісторыю развіцця гістарычнай навукі, так і гісторыю культуры Беларусі. Шмат зрабіў М. М. Улашчык у адшуканні, даследаванні і выдрукаванні беларускіх летапісаў — яго навуковая заслуга ў гэтай справе непараўнальная…»* Гэтую манаграфію аўтар прэзентаваў Г. Гарэцкаму з аўтографам:

[1] Русь–Литва–Беларусь: проблемы нацинального самосознания в историографии и культурологии. — М., 1997. — С. 269.

*«Гаўрылу Іванавічу Гарэцкаму, выдатнаму сыну Беларускай зямлі. 1.ІІ.73. Улашчык».*

Ніл Гілевіч, з якім Мікалай Улашчык таксама меў перапіску, успамінаў: *«Чалавек энцыклапедычных ведаў па гісторыі Беларусі і нязломнай вернасьці ідэалам БНР, ён любіў родную зямлю і родную мову такой пяшчотнай сыноўскай любоўю, якая сустракаецца сярод людзей не часта, і ён хацеў сваімі ведамі і сваёй любоўю дзяліцца з землякамі, з беларускай моладзьдзю. Іншымі словамі, ён вельмі хацеў вярнуцца на радзіму і працаваць тут, у Інстытуце гісторыі АН БССР. І падзяліўся гэтай мараю са мной (напэўна, дзяліўся і з іншымі). І я пайшоў, са згоды Мікалая Мікалаевіча, у Акадэмію, да акадэміка-сакратара аддзяленьня грамадзскіх навук, вядомага лінгвіста Мікалая Бірылы з просьбай, каб ён дапамог станоўча вырашыць гэтае пытаньне. […] Акадэмік-сакратар нават не стаў слухаць мае довады і аргументы. "Не, не, не, яго ў нашу акадэмію не возьмуць!" […] Ну, канешне, у такіх вучоных Беларусь патрэбы не мае. Зь дзьюх зусім ясных прычын: па-першае, ён сапраўдны вучоны-гісторык, а па-другое, сапраўдны, зь вялікай літары Беларус. Ні такі, ні такі Інстытуту гісторыі Акадэміі навук Беларусі не патрэбен»*[1].

На гістарычны факультэт БДУ не толькі на сталую працу, а нават на асобныя выступленні М. Улашчыка ўсемі сіламі не дапускаў прафесар Лаўрэнцій Абэцадарскі, загадчык кафедры гісторыі СССР. М. Улашчык у лісце Эрнесту Ялугіну ад 23 сакавіка 1979 года піша: *«Дарагі Эрнест Васільевіч. На некаторыя Вашы запытанні магу даць адказ, на другія — не. Пра Абэцадарскага. Гэта быў чалавек, упэўнены, што гісторык павінен быць фальсіфікатарам. Ён лічыў, што калі факты "добрыя", то іх можна скарыстаць, а калі "кепскія", то або выкідаць іх, або перарабляць на "добрыя". Калі фактаў няма,*

---

[1] Гілевіч Н. Збор твораў: у 23-х т. — Т.23. — Вільня: Наша Будучыня, 2008. — С. 198–199.

*то гісторык павінен выдумаць іх. Так ён і зрабіў (як мне вядома) два разы ў падручніках па гісторыі.*

*[...] Было і яшчэ. Прызідыум Акадэміі навук СССР кожны год вызначае супрацоўнікаў, якія павінны ехаць у розныя месцы і чытаць ва ўніверсітэтах лекцыі, звычайна, пра свае апошнія, яшчэ неапублікаваныя працы. На 1973 і 1974 гг. мне было загадана ехаць у Беларускі ўніверсітэт. Абодва разы ўніверсітэт у нейкай нервовай форме адмовіўся мяне прыняць, прычым у 1974 г. гэта здарылася пасля ліста Абэцадарскага, у якім было напісана, што лекцыя мая прызначана на панядзелак, і таму просяць прыехаць у нядзелю. У мяне быў білет на самалёт, калі ўночы прыйшла фотатэлеграма, каб я не ехаў. Не магу сказаць дакладна, што гэта зрабіў Абэцадарскі, але гэта цалкам у яго натуры.*

*[...] Магу дадаць, што гадоў шэсць назад мяне выклікаў прэзідэнт Барысевіч, прапануючы пераехаць у Мінск. Я згадзіўся, але калі паклікалі Ігнаценку (дырэктара Інстытута гісторыі), то той у самай рэзкай форме адмовіўся ўзяць мяне. Прэзідэнт тлумачыў яму, што мне даецца адзінка і кватэра з фондаў Акадэміі, што гэта на інтарэсах інстытута ніяк не адзавецца, але Ігнаценка сказаў, што браць мяне не хоча.*

*Прабаваў угаварыць начальнікаў, што пры Акадэміі трэба стварыць Археаграфічную камісію, якая будзе вывучаць, дзе якія знаходзяцца матэрыялы па гісторыі Беларусі і чаго яны варты, але і тут упёрся ў сцяну. А тут усе дзівяцца: чаго гэта я рыпаюся, бо адносяцца да мяне як не трэба лепш. Але і гэта не бяда. Бяда з падручнікам па гісторыі Беларусі ("История БССР"), што склалі прафесары з універсітэта. Думаю, Вы ведаеце яго. Абэцадарскі быў фальсіфікатарам, але хітрым, у яго нашчадкаў няма і таго».*

І. М. Ігнаценка быў дырэктарам Інстытута гісторыі АН БССР у 1969–1975 гадах, змяніўшы яго на гэтай пасадзе П. Т. Петрыкаў (1975–1988) таксама вельмі адмоўна ставіўся да пераходу М. М. Улашчыка ў АН БССР. У лісце ад 17 мая 1977

года да Г. І. Гарэцкага М. Улашчык піша: *«З вялікім спазненнем даведаўся, што Радзіма Гаўрылавіча абралі акадэмікам. Вітаем ад усяго сэрца і яго, і вас. Былі чуткі, што Петрыкаў стаўся чл.-кар. Ён заходзіў нядаўна ў наш інстытут, можа, чакаў прывітанняў, але ніхто пра гэта не ведаў, і ніхто нічога не сказаў»* (с. 496).

6 лістапада 1980 г. Мікалай Улашчык у лісце да Алеся Адамовіча выказаў цікавыя думкі пра Максіма Гарэцкага: *«Шаноўны Аляксандр Міхайлавіч. Прачытаў Вашу кнігу пра Максіма Гарэцкага. Падобнай кнігі ў беларускім літаратуразнаўстве, пэўна, не было і няма. Чытаючы яе, у мяне ўзнікла шмат думак, шмат успамінаў, пра якія і пішу зараз Вам.*

*Я ведаў Гарэцкага, але здалёк, гэта значыцца, на літаратурныя тэмы з ім ніколі не гаварыў. Творы яго чытаў усе (уключаючы "Дзве душы"), але глядзеў на Максіма Іванавіча не столькі як на пісьменніка, сколькі як на гісторыка літаратуры, бо ўпершыню пазнаёміўся з гісторыяй свае літаратуры па кнізе Гарэцкага. Думаю, што ў гэтым сэнсе не быў выключэннем.*

*Зараз, успамінаючы 20-я гады, часам спасылаюся на тое, што быў занадта маладым, каб разумець тое ці іншае з'явішча (маё жыццё ў Мінску скончылася ў 1930 г.), але ж Гарэцкі быў сталым і мудрым чалавекам у 20 гадоў, і гэта маючы асветы каморніцкія курсы. Дык якую ж сілу павінен быў мець чалавек, каб у такім веку напісаць публіцыстычныя творы, не кажучы пра мастацкія, а ў 25 гадоў стварыць гісторыю літаратуры. У каго з высокаасвечаных людзей (якіх у той час было так мала) магла ўзнікнуць падобная думка. Ведама, нельга ўлічыць, што зрабіла "Гісторыя" Гарэцкага ў сэнсе разумення гісторыі свае культуры, але зрабіла яна вельмі многа.*

*Ізноў-такі, думаю, што не ў аднаго мяне ўзнікаюць падобныя думкі і не адзін я павінен падзякаваць Вам за гэту кнігу, у якой Вы паказваеце Гарэцкага ва ўвесь рост.*

*Між іншым, разважаючы пра Гарэцкіх, узнікае нават нейкае біялагічнае пытанне: як здарылася, што ў адной сям'і*

*ўрадзілася столькі талентаў ды яшчэ і такіх (Гаўрыла Іванавіч — выключная з'ява не толькі ў навуцы, а пра іх сястру Ганну калісь гаварылі, што яна была больш таленавітай, чым браты).*

*[...] Галоўным творам (так пішаце Вы), які пісаў Максім Іванавіч, была гісторыя яго вёскі, паказаная праз гісторыю сямей. У 1926 г. я пачаў пісаць гісторыю сваё вёскі (20 км ад Мінска, каля ст. Фаніпаль) і скончыў яе праз 50 гадоў. Кніга павінна была выйсці напрадвесні гэтага года пад грыфам Інстытута этнаграфіі, але хтосьці з Госкомиздата палічыў, што не так напісана анатацыя, і кнігу выключылі з плана».*

Да гэтага часу М. Улашчык прэзентаваў Г. Гарэцкаму дзве вялікія кнігі «Полное собрание Русских летописей» з такімі аўтографамі: *«Гаўрыле Іванавічу Гарэцкаму — чалавеку і вучонаму. Помнік нашай культуры. 13.VII.80»*.

Мікалай Улашчык у 1979 годзе скончыў пісаць гісторыю сваёй вёскі Віцкаўшчына. *«Гэтую гісторыю я пачаў пісаць студэнтам у 1926 г. і скончыў праз 50 гадоў»* (с. 504). Нягледзячы на даволі невялікі памер у 9 аркушаў, кнігу самаўпраўна выкраслілі з плана выданняў на 1980 год выдавецтва «Наука» ў Маскве. Аўтар звяртаўся ў АН БССР да П. Броўкі і іншых, але справа не рухалася.

Ён піша В. А. Чамярыцкаму ў лісце ад 18 сакавіка 1986 года: *«Тузаюся са сваёю вёскаю. З Мінска прапанавалі, каб прыслаў на водзыў у Інстытут гісторыі, гэта значыцца смаркачу Петрыкаву»* (с. 519). У лісце ад 26 чэрвеня 1986 г. У. А. Калесніку ён піша: *«Я ўключыў верш у сваю кнігу пра вёску, але кніга вось ужо шэсць гадоў як выключана з плана па той прычыне, што на яе "не павінна быць попыту" і што, значыцца, дзяржава панясе страту. У адным з самых вялікіх выдавецтваў свету ("Навука") шэсць гадоў ідзе калатня за 9 аркушаў. Дзе такое яшчэ можа быць? [...] Пра сябе. Мне скончылась зімою 80. Выступленне па тэлебачанню было (так думаю) развітаннем з бацькаўшчынаю. Усю вясну праляжаў у бальніцы, можа,*

*захочуць пакласці ізноў, але не дамся. Буду сядзець дома пад наглядам клапатлівага сына. Штогод прыязджаў у Мінск, жыў у сястры, пасля Каралішчавічах, у гэтым годзе невядома, ці змагу прыехаць, клічуць на новыя даследаванні. Шансы ў мяне невялікія»* (с. 521–522).

Апошняя кніга, якую Мікалай Улашчык падараваў з аўтографам: *«Ларысе Восіпаўне і Гаўрылу Іванавічу Гарэцкім. 13.IX.85»* была манаграфія — Н. Н. Улащик. «Введение в изучение Белорусско-литовского летописания» (М.: Наука, 1985).

Выдатная гісторыка-этнаграфічная кніжка «Была такая вёска» (1989), якая ўяўляе сабой сапраўдную энцыклапедыю жыцця роднай вёскі, выйшла з друку ўжо пасмяротна, бо 14 лістапада 1986 г. Мікалай Мікалаевіч назаўсёды пакінуў гэты свет. Яго пахавалі на Міцінскіх могілках у ваколіцах Масквы.

Увесну наступнага года прах М. Улашчыка перавезлі ў Менск і перапахавалі на Чыжоўскіх могілках побач з жонкай, памерлай у 1985 г. На перавезеным з Падмаскоўя цёмна-шэрым валуне — надмагіллі Мікалая Улашчыка — выбіты Купалавы словы: «Мне сняцца сны аб Беларусі».

*2016*

## Ніл Гілевіч — волат беларускай культуры і літаратуры[1]

Мае блізкае знаёмства з Нілам Гілевічам, якое пазней перарасло ў сапраўднае сяброўства, пачалося ў дні, калі ў 1993 годзе адзначаўся 100-гадовы юбілей з дня нараджэння Максіма Гарэцкага. Выдатны паэт і дзяржаўны дзеяч Ніл Гілевіч высока цаніў асобу Максіма Гарэцкага як «вялікага дзеяча беларускай культуры», сам прымаў актыўны ўдзел у святкаванні. У Горках у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі адбыліся другія Гарэцкія чытанні, дзе мы зрабілі даклады; у Палацы культуры

[1] Тэрмапілы. — 2016. — № 20.

прайшоў рэспубліканскі ўрачысты вечар, які адкрыў Ніл Гілевіч; бралі ўдзел у адкрыцці мемарыяльнай дошкі; мы разам абрэзалі чырвоную стужку на адкрыцці музея Максіма Гарэцкага ў Малой Багацькаўцы. Ва ўсіх гэтых падзеях актыўны ўдзел прымаў Янка Брыль, з якім спачатку Ніл Гілевіч, а трохі пазней і я шчыра пасябравалі, прычым па прапанове старэйшага за нас Івана Антонавіча мы нават перайшлі на «ты» — як ён казаў: «сяброўства люблю на роўных».

Мы з вялікай радасцю часта сустракаліся на розных літаратурных вечарах, нарадах, прэзентацыях, іншых імпрэзах, прымалі ўдзел у штогадовых Гарэцкіх чытаннях, тэлефанавалі адзін аднаму. З прыемнасцю ўспамінаю нашу вандроўку ў Крынічнае на Нёмане на 80-годдзе Янкі Брыля, калі я з жонкай Галінай, з Нілам Гілевічам і яго Нінай Іванаўнай — усе чацвёра нечакана прыехалі на маіх «Жыгулях». Колькі было радасці, жартаў, добрых сардэчных слоў у гонар юбіляра!

Як заўсёды ў жыцці, станоўчыя старонкі павінны чаргавацца з адмоўнымі. У 1988 годзе пакінуў нас мой любы Тата, акадэмік Гаўрыла Гарэцкі. Сардэчная ўдзячнасць мая за падтрымку ў маім горы Нілу Гілевічу і Янку Брылю бязмерная, а ўсхваляваныя і шчырыя словы апошняга выклікалі ў мяне слёзы некаторага супакаення.

24 ліпеня 2003 года Ніла Гілевіча напаткала вялікае гора — пасля цяжкай пакутнай хваробы памерла Ніна Іванаўна.

5 верасня 2003 года гэты свет пакінула і жонка Янкі Брыля Ніна Міхайлаўна — цудоўная, вельмі разумная жанчына з вялікім гумарам, светлай душой і любячым сэрцам. Гора Івана Антонавіча было невыносным, але ён трымаўся мужна. Пахаванне адбылося на досыць далёкіх могілках «Калодзішчы», бо вялікаму майстру прозы і выдатнаму грамадзяніну Беларусі не дазволілі пахаваць жонку на Кальварыі ці іншых больш блізкіх могілках. Ніл Гілевіч і я шчыра спачувалі свайму старэйшаму сябру, выказалі наш сардэчны сум і боль у сваіх развітальных словах.

Не прайшло і тры гады, як 25 ліпеня 2006 года зноў мы мелі вялікую згубу — пайшоў у іншы свет наш дарагі Янка Брыль, не дажыўшы 10 дзён да 89 гадоў. Класіка беларускай літаратуры па яго просьбе хавалі з хаты, каля якой прайшоў і жалобны мітынг. Сабралася чалавек 500. Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч першае слова даў Нілу Гілевічу, другім выступаў я… Тут і на Каладзішчанскіх могілках гучала шмат шчырых цёплых развітальных слоў. Цела Янкі Брыля паклалі побач з Нінай Міхайлаўнай. Зноў у нас шчаміла сэрцы…

* * *

Найпрыгажэйшая Лагойшчына («беларуская Швейцарыя») не толькі натхняла самага выдатнага паэта Бацькаўшчыны Янку Купалу на шэдэўры сваёй творчасці, але стала месцам нараджэння і другога аднаго з найлепшых паэтаў сучаснасці — Ніла Гілевіча. Унікальная асоба ў беларускай культуры і літаратуры, ён зрабіў значны ўклад у самыя разнастайныя напрамкі: паэзія і проза, публіцыстыка і пераклад, літаратуразнаўства і крытыка, гісторыя беларускай літаратуры і фалькларыстыка, журналістыка і рэдактарства, педагогіка і навука, дзяржаўная і грамадская дзейнасць.

***Ніл Гілевіч*** — літаратар, які мае ў сваёй універсальнай творчасці самую шырокую палітру літаратурных родаў і жанраў: у мастацкай паэзіі — лірыка кахання, філасофская, грамадзянская, дзіцячая, казкі, загадкі, вершы, паэмы, раман, сатыра і гумар, песні, экспромты; у прозе — аповесці, апавяданні, абразкі, эсэ, эцюды, замалёўкі, мініяцюры, штрыхі да партрэтаў, успаміны, дзённікавыя запісы, ліставанне; у драматургіі — камедыі, драмы, трагедыі; у публіцыстыцы — артыкулы, прамовы, нататкі, нарысы, інтэрв’ю; у перакладзе (больш дасканала — перастварэнні) — з балгарскай, рускай, украінскай, польскай, славенскай, сербскай, харвацкай, лужыцкай, македонскай, славацкай, чэшскай (каля 400 паэтаў

і пісьменнікаў славянскага свету); у літаратуразнаўстве і крытыцы — гісторыя беларускай паэзіі, літаратурны працэс, моўнае майстэрства, мастацкі пераклад, народнасць літаратуры, рэцэнзіі, водгукі, прадмовы і прадмоўкі; у фалькларыстыцы — песенная творчасць беларускага народа, апавядальныя і мудраслоўныя жанры беларускай народнай творчасці (у тым ліку пяць тамоў беларускага фальклору ў сучасных запісах); у рэдактарстве — літаратурны кансультант у газеце «Звязда», рэдактар альманаха «ДаляглядЫ», газеты «Наша слова», член рэдкалегіі «Библиотеки поэта» (СССР), розных энцыклапедый, часопісаў «Маладосць», «Полымя», савецка-балгарскага «Дружба», «Арфей» (Балгарыя) і інш. Гэта шматгранная літаратурная дзейнасць Ніла Гілевіча справядліва ацэнена: народны паэт Беларусі (1991) — апошні, хто працаваў да 2016 года, Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Купалы (1980), лаўрэат Міжнароднай прэміі імя Хрыста Боцева (1988), прэмія Івана Франка (2007), ордэн Кірыла і Мефодзія I ступені, ордэн Югаслаўскай зоркі са стужкай, ордэн князя Яраслава Мудрага.

***Ніл Гілевіч*** — вядомы навуковец і педагог — кандыдат філалагічных навук (1963), прафесар (1978), заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1980), лектар на філалагічным факультэце БДУ (на працягу 25 гадоў любімы настаўнік узгадаваў значную колькасць удзячных вучняў, многія з якіх сталі вядомымі дзеячамі навукі і адукацыі). Нездарма Ніла Гілевіча запрашалі заняць пасаду дырэктара Інстытута мастацтваў, этнаграфіі і фальклору АН БССР і рэктара Мінскага інстытута культуры.

***Ніл Гілевіч*** — адзін з самых працавітых і пладавітых пісьменнікаў Беларусі (стварыў больш за 80 кніг). Толькі ён з беларускіх майстроў прыгожага пісьменства сам на працягу 10 гадоў склаў Збор твораў у 23 тамах, прычым і выдаў амаль усе тамы за свой кошт. Шэраг літарататараў (нават сяброў) не разумелі яго намер. Таму на т. 1 ён зрабіў мне такі аўтограф: *«Вельмішаноўнаму Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму — са спадзяваннем, што вялікі працаўнік з працавітага роду Гарэц-*

*кіх мой рызыкоўны (у нашай правінцыі) крок зразумее. З усёй шчырасцю — Ніл Гілевіч. 24.IV.04»*. Я падтрымаў, бо выбраць на ўласны погляд найлепшае з велізарнай сваёй спадчыны надрукаванага і рукапіснага лепш за аўтара ніхто не зможа. Тым больш, што поўны збор твораў Ніла Гілевіча, які калі-небудзь, безумоўна, будзе выдадзены, будзе складаць больш за 50 тамоў. Толькі чалавек вялікай волі і мужнасці, працавітасці і мэтанакіраванасці, нягледзячы на розныя хваробы, асабліва моцнае пагаршэнне зроку, змог здзейсніць такую, здавалася б, зусім непасільную задуму. Гэта — унікальны подзвіг творцы. Я думаю, што Ніла Гілевіча прымусіла не проста жаданне пры жыцці ўбачыць збор твораў сваіх, а адказнасць перад роднай Беларуссю і яе народам, каб перадаць сваю любоў да зямлі, да Бацькаўшчыны, да людзей краіны, усяліць у іх сваю непахісную веру ў неўміручасць цудоўнай беларускай мовы, у вечнасць беларушчыны, натхніць усіх грамадзян на змаганне стварыць сапраўдную Беларусь.

***Ніл Гілевіч*** — вядомы дзяржаўны і грамадскі дзеяч. Першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР (1980–1989), якім ён стаў па прапанове П. М. Машэрава. Колькі сіл, энергіі, часу аддаў паэт на гэтай пасадзе ў змаганні супраць русіфікацыі, за нацыянальную культуру, самасвядомасць, справядлівасць, прыняцце ў члены Саюза сапраўдных беларускіх пісьменнікаў і г. д. У той жа час атрымаў шматлікую колькасць заўваг і папрокаў (нярэдка ў грубай форме) ад ідэолагаў ЦК КПБ (асабліва Івана Антановіча), непаразуменняў і ад шэрагу пісьменнікаў і нават сяброў. А тады быў складаны перыяд жыцця краіны, у тым ліку страшная Чарнобыльская катастрофа і радасны пачатак перабудовы.

З 1990 да 1996 год Ніл Гілевіч быў старшынёй Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета РБ па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны і стаў членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета. 27 ліпеня 1990 года была прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце БССР і дзяржаўнасці беларускай мовы.

Гэты дзень абвешчаны дзяржаўным святам РБ. Дзякуючы апантанай працы і настойлівасці Камісіі Вярхоўны Савет прыняў Закон аб культуры, Закон аб адукацыі, Закон аб бібліятэках. Важна падкрэсліць, што ў першым законе было пацверджана, што на развіццё культуры і мастацтва выдзяляецца 3 % ад агульнай сумы бюджэту БССР, а ў другім — «беларуская мова з'яўляецца мовай навучання і выхавання ў дашкольных, пачатковых, сярэдніх, прафесіянальных і вышэйшых навучальных установах». Па дакладзе старшыні Камісіі быў прыняты Закон аб назве дзяржавы, Закон аб Сцягу (бел-чырвона-белы) і Закон аб Гербе (Пагоня). Не ўдалося прыняць прапановы Камісіі аб назве сталіцы — Менск, аб дзяржаўным гімне РБ — «Магутны Божа» (верш Н. Арсенневай, музыка М. Равенскага). Ніл Гілевіч актыўна ўдзельнічаў у складанні і абмеркаванні Канстытуцыі незалежнай Беларусі, асабліва калі вырашалася пытанне адзінай дзяржаўнай беларускай мовы і калі ён «на апошняй ноце стрыманасці» пракрычаў словы за родную мову. Ніл Гілевіч быў супраць прэзідэнцкай формы кіравання дзяржавай, бо лічыў, што для Беларусі — гэта шлях пагібельны. Ён узгадаў Аляксея Талстога, які ў сваёй «Истории государства Российского…», маючы на ўвазе Пятра І, пісаў, што пры нашым узроўні культуры і грамадскай маралі можна атрымаць такога «бацьку з палкай»… Праз два гады менская газета «Свабода» дала нататку пад загалоўкам «Ніл Гілевіч як у ваду глядзеў».

Па лініі грамадскай дзейнасці Ніл Гілевіч быў сябрам аргкамітэта БНФ «Адраджэнне» (праўда выступіў з прапановай замяніць у назве слова «фронт» на слова «рух»), а пазней заняўся стварэннем Таварыства беларускай мовы (ТБМ) і 27 чэрвеня 1989 года на Установчым з'ездзе выбралі Раду ТБМ (58 чалавек). Старшынёй стаў Ніл Гілевіч. ТБМ пачала не толькі актыўную працу на ніве беларушчыны, якая працягваецца і цяпер, але тады ўсе дэпутаты, якія склалі апазіцыю БНФ, былі вылучаны ў Вярхоўны Савет суполкамі ТБМ. У той жа час быў створаны Беларускі ПЭН-цэнтр (прэзідэнт В. Быкаў,

старшыня Р. Барадулін). Ніл Гілевіч вельмі перажываў, што яго не запрасілі ў гэтую літаратурную арганізацыю. На жаль, ужо тады паміж лепшымі самымі блізкімі яго сябрамі Р. Барадуліным, В. Быкавым, Г. Бураўкіным (і нават ім не зусім зразумела па якіх прычынах) прайшлі нейкія трэшчыны-разломы, якія з часам, нягледзячы на боль і смутак з-за гэтага ў кожнага з іх, не самкнуліся, а ўсё пашыраліся.

***Ніл Гілевіч*** — адзіны прадстаўнік творчай інтэлігенцыі Беларусі, якому грамадства так выдатна адзначыла яго 70-гадовы юбілей. Ён адбыўся ў Чырвоным касцёле. Сабралася такая вялікая колькасць людзей (не менш 1500), што многія не змаглі ўціснуцца ў памяшканне. Імпрэзу вельмі натхнёна вёў пробашч Уладзіслаў Завальнюк. Усё было надзвычайна ўрачыста, шчыра, пранікнёна, адчувалася нешта боскае. Паэт сядзеў на алтары і выглядаў як сапраўдны святы. Свае вершы чытаў з амвона. Многія вядомыя дзеячы ацанілі яго як вялікага творцу беларускай літаратуры і выдатную асобу ў грамадскім жыцці краіны. Пазней Ніл Сымонавіч сам адзначыў, што быў шчаслівы, бо ніколі раней не чуў пра сябе столькі добрых слоў, якіх яму хопіць на ўсё жыццё.

* * *

Такія рысы характару Ніла Сымонавіча, у значнай ступені тыповыя для беларусаў, асабліва інтэлігенцыі шляхецкага густу, як вялікая крыўдлівасць разам з разважлівасцю, якая нярэдка пераходзіла ў нерашучасць і няўпэўненасць, і ў той жа час з некаторымі якасцямі ганарыстасці і нават невялікай долі амбіцыйнасці, прыносілі яму шмат цяжкіх перажыванняў, якія выліваліся ў рэзкія змены настрою, а другі раз нават у зніжэнне творчых імкненняў. Адначасова другія якасці яго характару, такія як любоў да жыцця, упартасць, працавітасць, мэтанакіраванасць, аналітычны склад розуму, асалода ад сваёй творчай працы і самае галоўнае — бязмерная адданасць Бацькаўшчыне, для росквіту якой гатоў быў пакласці ўсё сваё

жыццё, усім ахвяраваць для вялікай мары дайсці да беларускай Беларусі — ратавала яго ад несправядлівасці, здрады, ад дзікіх спраў улад, шматлікіх чыноўнікаў, іх хлусні, дэмагогіі, двудушша, правакацыі і шмат іншых адмоўных з'яў, якімі так багата заўсёды было наша жыццё.

* * *

Нілу Сымонавічу Гілевічу вельмі пашчасціла ў асабістым жыцці — узнікла вялікае каханне з Нінай Іванаўнай Кавалёвай, яго аднакурсніцай па філалагічным факультэце БДУ. Гэта было па-сапраўднаму боскае аб'яднанне дзвюх палавінак па фізіялогіі, духу, марах… Сам Ніл Сымонавіч адзначаў, што Ніна Іванаўна ўразіла яго многімі цудоўнымі якасцямі: непаказная інтэлігентнасць, сціпласць, рэдкая душэўная шчодрасць, чыстая і прыгожая душа, жывы аналітычны розум, жыццёвая мудрасць, адчуванне слова, пачуццё гумару, эстэтычны густ, сапраўдная патрыётка Беларусі, беларускай мовы, культуры. Ніна Гілевіч была для свайго мужа самай любай жанчынай, вернай, вельмі надзейным сябрам, спадарожнікам у клопатах і нягодах, лепшым дарадчыкам у творчасці і жыцці, клапатлівай гаспадыняй хаты і яго жыцця.

Я ўспамінаю, калі мы ехалі з Нінай Іванаўнай наведаць Ніла Сымонавіча ў санаторый «Гарадзішча», дзе ён праходзіў рэабілітацыю пасля інфаркту, і, калі мы сядзелі побач на 70-гадовым юбілеі паэта ў Чырвоным касцёле Сымона і Алены, як яна хвалявалася і перажывала за свайго дарагога Ніла, колькі добрых слоў пачуў я пра яго, колькі шчырага непакою і клопату!

24 ліпеня 2003 года Ніла Гілевіча напаткала вялікае гора — пасля цяжкай пакутнай хваробы памерла Ніна Іванаўна. Яе адыход у іншы свет быў для Ніла Сымонавіча такім страшэнным ударам, ад якога ён ужо ніколі не мог адысці. Таму Ніна Іванаўна да апошняй хвіліны жыла ў яго сэрцы, прысутнічала ў яго жыцці, ён раіўся з ёю, атрымліваў добрыя парады, яна дапамагала пераадолець усе цяжкасці.

Яшчэ пры Яе жыцці Ніл Гілевіч здаў у друк лірычны раман «…І плямы на табе няма» (2003), які прысвяціў Жанчыне, якую кахаў і цаніў, якой быў вельмі ўдзячны і без якой *«не зрабіў бы і палову таго, што зрабіў — і ў літаратуры, і ў навуцы, і ў грамадскай дзейнасці»*. Але калі гэтую кніжку ў тым жа годзе ён падараваў, дык на ёй ужо зрабіў такі жахлівы аўтограф: *«Дарагім сябрам Радзіму Гаўрылавічу і Галіне Рыгораўне на ўспаміны пра Ніну Іванаўну, якая любіла Вас. Ніл Гілевіч. 2003»*. Гэты лірычны раман стаў тым падмуркам самага магутнага неразбуральнага помніка, які пабудаваў Ніл Гілевіч сваёй любай Жанчыне, склаўшы цыкл «Памяці Ніны» з дзесяці кніг. Прыблізна праз год ён апублікаваў вельмі шчымлівую кніжку «На флейце самоты» (2004) — лірычныя мініяцюры ў жанры класічнага японскага верша «танка», якія чытаеш з вялікім хваляваннем і спачуваннем. Адчуваецца, што яна жыве ў сэрцы аўтара, што пасля гэтай страты яму проста жыць не хочацца, але нават на тым свеце яна будзе ў яго душы.

Да астатку дзён
Па самы апошні ўздых,
На гэтай зямлі
Ты — светач душы маёй.
І там будзеш ім, і там…

Трэцяя кніга — «Разумная дзевачка: Маленькая аповесць пра адно дзяцінства» (2005). Тады ж быў апублікаваны «Дыялектычны слоўнік» (2005) з падзагалоўкам «Лексіка. Фразеалагізмы. Прыказкі, прымаўкі, пагаворкі. Параўнанні». Матэрыялы для слоўніка Ніна Гілевіч збірала ўсё жыццё, але падрыхтаваць яго да выдання не паспела, што зрабіў рэдактар Слоўніка славуты беларускі пісьменнік Ніл Гілевіч. Наступная кніга Ніны Гілевіч «Таямніцы роднага слова: З назіранняў над мовай і стылем твораў беларускай мастацкай літаратуры» (Мінск: Про-Хрысто, 2006. 128 с.). Рэдактар-складальнік Ніл Гілевіч, які падрыхтаваў кнігу да друку. У кнізе змешчаны

артыкулы пра асаблівасці мовы і стылю Я. Купалы, К. Чорнага, М. Лынькова, Я. Брыля, У. Караткевіча, В. Адамчыка, І. Пташнікава і інш. Мне асабліва прыемна было прачытаць глыбокі па змесце артыкул «Да пытання пра жанрава-стылёвую адметнасць алегарычных абразкоў Максіма Гарэцкага “Скарбы жыцця”». Ніл Гілевіч на кнізе зрабіў дарчы надпіс: *«Дарагі Радзім Гаўрылавіч, калі б не горкі лёс, Н. І. напэўна б напісала пра творчасць М. І. Гарэцкага цэлую кнігу такога кшталту, як змешчаны тут эскіз, — яна вельмі яго любіла, і цаніла, і — разумела… Рэдактар — Ніл Гілевіч. 29.1.2006»*.

Ніл Сымонавіч у 2007 годзе падрыхтаваў і надрукаваў у выдавецтве «Про-Хрысто» яшчэ дзве кнігі Ніны Гілевіч: «Слова — роднае, жывое, свабоднае: Узоры жывой народнай мовы ў вуснах беларускай вёскі 1960-х — 1970-х гадоў» і «Гісторыя народа — у яго мове: Сацыяльна-эканамічная лексіка ў беларускай мове XV–XVII стст.: фрагменты даследавання». У той жа год Ніл Гілевіч выдаў кнігу, якую назваў быкаўскім выразам — «Добры анёл беларускасці: Штрыхі да партрэта Ніны Іванаўны Гілевіч» (Мінск: Про-Хрысто, 2007. 144 с.). Некалі Васіль Быкаў на тытульным лісце сваёй кнігі «Праўдай адзінай» зрабіў такі дарчы надпіс: «Мілай Ніне Іванаўне Гілевіч, добраму анёлу беларускасці, са шчырасцю і павагай. В. Быкаў. 4.V.85». Кніга Ніла Гілевіча — шчырая хвалюючая споведзь пра самага блізкага любага чалавека. Яна была таленавітым педагогам, мовазнаўцам, якая ўсё жыццё аддана служыла роднаму слову, беларушчыне і Беларусі. Зноў у якасці ўкладальніка і рэдактара Н. С. Гілевіч выдаў кнігу «Апавядае беларуская вёска» (Мінск: Про-Хрысто, 2008), у якой ён узяў з дыялектычнага архіва Ніны Іванаўны Гілевіч успаміны пра перажытае ў 1960–1970-я гады, выбраў аповеды пра сямейныя гісторыі, розныя здарэнні і прыгоды, якія яна запісала ў 1965–1973-х гадах непасрэдна з вуснаў вяскоўцаў розных раёнаў Беларусі. Нарэшце Ніл Гілевіч у якасці ўкладальніка выдаў кнігу «Едзь ты ў Хрунзю!»: Вусныя аповеды Ніны Іванаўны Гілевіч у запісе іх першага слухача» (Мінск: Про-

Хрысто, 2013. 48 с.). Дзякуючы выдатнаму помніку — цыклу «Памяці Ніны», зробленаму паэтам як найсветлы гімн любві і вернасці, зорка Ніны Іванаўны Гілевіч будзе свяціць вечна!

Успамінаю, як у той час стварэння гэтага цыкла Ніл дрыжачым голасам, амаль са слязьмі неяк узгадаў момант, калі Ніна Іванаўна ляжала ў бальніцы, дык жалобна прасіла яго, каб хоць на адну гадзіну зноў пабыць у роднай хаце.

— Дык ты ж не зможаш узняцца нават на адну ступеньку па лесвіцы.

— Змагу — толькі адвязі да хаты. Хоць трошачку яшчэ раз пабыць там…

Так шкадую, што не выканаў яе просьбы.

* * *

Яшчэ з дзяцінства ў сэрца Ніла Гілевіча глыбока ўвайшла шчырая любоў да роднай зямлі, яе прыроды, людзей, цудоўнай беларускай мовы, таму змаганне за беларускасць, любую Бацькаўшчыну, мара «дайсці да беларускай Беларусі» — сталі галоўным матывам усяго яго жыцця як сапраўднага волата беларушчыны. 15-гадовым юнаком ён напісаў верш «Першая клятва (Родная мова)». Вось некаторыя радкі з яго.

Як ты дарага мне, мая родная мова!
Мілагучнае, звонкае, роднае слова!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
А задумае вораг з чужога далёкага краю
Адабраць у мяне, знішчыць родную мову маю —
Не дазволю.
                    Не дам.
                              Не прадам.
                                        Не змяняю.
І да смерці за волю яе пастаю!

З таго часу роднае слова стала галоўнай тэмай жыцця Ніла Гілевіча, яго літаратурнай і грамадскай дзейнасці. У кожнай кнізе паэзіі, прозы, публіцыстыцы пісьменнік з гонарам і болем

гаворыць пра беларускую мову. А колькі душэўных сіл прыклаў ён у абарону мовы на розных дзяржаўных і грамадскіх пасадах!

Сваю любоў да беларускай мовы, вялікі гонар за адну з самых прыгажэйшых, багатых, старажытных славянскіх моў і адначасова боль і горыч за яе прыніжэнне шматлікімі чужакамі-прышэльцамі, за здраду ёй многімі беларусамі пісьменнік выказаў у кнізе «Любоў прасветлая: Роздумы ў вершах і прозе аб роднай мове. Лірыка-публіцыстычная хроніка: 1947–1995». (Мінск: Навука і тэхніка. 1996. 544 с.). Аўтар падкрэслівае, што *«гісторыя дае нам, беларусам, яшчэ адзін — несумненна апошні — шанц, каб мы канчаткова і назаўсёды сцвердзілі сябе як самастойны свабодны славянскі народ у суверэннай, незалежнай, дэмакратычнай беларускай дзяржаве»* і дадае, што павінна быць *«непахісная вера, што яму, вялікаму і магутнаму роднаму слову, жыць вечна»* (с. 5).

* * *

Паэту характэрна трывога за чалавека, якая выклікае сум і смутак у яго душы, ён вельмі заклапочаны, што многае ў жыцці не мяняецца да лепшага, а застаецца такім жа, а іншы раз робіцца горшым. Ён шчыра перажывае, за розныя недарэчнасці, якія часта здараюцца нават з самым прыгожым, здавалася, моцным. Як яму хочацца выратаваць усё прыгожае! Ужо ў вершы «Пры дарозе» ў яго першай кнізе вершаў «Песня ў дарогу» (1957) ён пісаў пра прыгожую параненую грушу:

І яшчэ не ўспела груша
Гора выплакаць слязьмі, —
Па галіне хтось бяздушна
Пераехаў калясьмі.

Прыпыніўся я ля дрэва,
Паглядзеў і гавару:
— Пацярпі крыху, здаецца,
Я прыйшоў яшчэ ў пару.

Будзеш ты ізноў прыгожай!
Страшны боль твой я уйму.
Мне краса твая тут, можа,
Больш патрэбна, чым каму.

Пазней у 1993 годзе Ніл Гілевіч пісаў:

Не рві сабе сэрца, паэце!..
Пачуў я — ці гэта быў сон?
Як многа змянілася ў свеце
З тых бурна ўзвіхураных дзён.

Не рві сабе сэрца, паэце!
Зноў голас трывожны, як звон.
Нішто не змянілася ў свеце
З тых горка аплаканых дзён[1].

* * *

Шмат паэтычных твораў розных жанраў Ніл Гілевіч прысвяціў дзецям («Сцяжок на мачце», «Сіні домік, сіні дом», «Зялёны востраў», «Дождж-грыбасей» і інш.). Яны склалі нават асобны том 6. Асобна стаіць раман у вершах «Родныя дзеці», на стварэнне якога паэт аддаў 12 гадоў натхнёнай працы, і які стаў адным з самых папулярных твораў паэзіі. «Родныя дзеці» былі надрукаваны ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1995 годзе асобнай кніжкай спецыяльна для старэйшага школьнага ўзросту, а пазней у томе 2 «Збору твораў» (1999), томе 3 «Збораў у 32 тамах» (2008) і «Выбраныя творы» (2009). Многія лірычныя вершы Ніла Гілевіча настолькі мілагучныя і напоўненыя музыкай, што шмат беларускіх кампазітараў напісалі на іх музычныя творы, а некаторыя з іх сталі шырокавядомымі песнямі.

---

[1] Гілевіч Н. І чую я голас…: выбраныя вершы, 1954–2008. — Мінск: Про-Хрысто, 2009. — 176 с.

* * *

У 90-я гады мінулага стагоддзя, калі востра стаялі пытанні пра дзяржаўнасць, незалежнасць краіны, змаганне за мову, культуру, гісторыю. Ніл Гілевіч выдаў шэраг зборнікаў, якія ўяўлялі яго рэакцыю на палітычныя падзеі таго часу: «Незалежнасць» (1991), «Жыта, сосны і валуны» (1992), «Талісман» (1994), «Ёсьць зямля» (1997) і інш. Адначасова ён выдаў «Новую кнігу паэзіі» — «На высокім алтары» (1994), у якой у вершах цудоўнай лірыкі вынес на сімвалічны Парнас свае шчырыя пачуцці болі і гневу, веры і надзеі, кахання і захаплення, пяшчоты і замілавання, тугі і расчаравання. У той час Ніл Гілевіч часта ўдзельнічаў у розных з'ездах, нарадах, пасяджэннях, дзе заўсёды выступаў вельмі даходліва, грунтоўна і пераканаўча. Ён быў бліскучы аратар з гучным голасам, выразным вымаўленнем, сапраўдным артыстызмам.

Перад'юбілейныя (80-годдзе) яго гады былі для Ніла Гілевіча поўныя душэўнага смутку, але і пладавітыя: каб заглушыць бязмерны боль і роспач ад згубы любай Жанчыны ён прымушаў сябе працаваць і ў дзень, і ў ноч. Апрача цыкла з дзесяці кніг «Памяці Ніны» Ніл Гілевіч выдаў шэраг зборнікаў: «Сказ пра залатое пёрка» (2005), «Запісы з дзённікаў розных гадоў» (2006), «Толькі мы самі: Публіцыстыка 1995–2005» (2007), «Мой тэстамэнт» (2006), «Бунт непрыкаянай музы» (2007), «У ноч на Пакровы: новыя вершы» (2008), «І чую я голас…: выбраныя вершы, 1954–2008» (2009), «Выбраныя творы» (2009), «Замова ад страху: новая кніга паэзіі» (2009), «Дзверы ў гісторыю: Новая кніжка сатыры і гумару. 1995–2010» (2010).

* * *

Я вельмі ўдзячны Нілу Гілевічу за тое, што ён заўсёды паважаў і высока цаніў творчасць і дзейнасць Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх. Ён шмат разоў узгадаваў Максіма Гарэцкага як класіка беларускай літаратуры. У зборніку «Мой тэстамэнт»

(2006) Ніл Гілевіч, для якога галоўным тастаментам з'яўляюцца мова, народ, Беларусь, змясціў свой верш, прысвечаны памяці Максіма Гарэцкага і напісаны яшчэ ў 1974 годзе:

Дзе вы, дбайныя рупліўцы песень родных?
Мы сягоння ў працы побач быць маглі б.
Маладых яшчэ скасілі вас нягоды,
Адарваўшы ад бацькоўскіх гнёзд-сяліб.
Але вера, што калісьці вас натхняла
У вялікаснай сяўбе і на жніве, —
Тая вера не памеркла, не сканала:
Тая вера, тая вера ў нас жыве!

Ніл Гілевіч выступаў на ўрачыстых мерапрыемствах, прысвечаных юбілею Максіма Гарэцкага, на шэрагу Гарэцкіх чытанняў. У томе 16 «Збору твораў у 23 тамах» (2009) ён надрукаваў два эсэ «Велічыня першага раду (Максім Гарэцкі)» (1993), «Ён ведаў свой народ, як мала хто іншы» — Слова на V Гарэцкіх чытаннях (1996), «Прывітальнае слова на XI Гарэцкіх чытаннях» (2003).

Ніл Гілевіч да 80-годдзя Гаўрылы Гарэцкага прысвяціў яму вялікі верш «Акадэміку Г. І. Гарэцкаму» (1980), які змясціў у томе 2 «Збору твораў» (1999). Трэба адзначыць, што як гэты верш, так і прысвечаны памяці М. Гарэцкага, ён змясціў у 1-м томе «Збору твораў у 23 тамах» (2003). Ён выступіў на навуковай канферэнцыі ў НАН Беларусі да 100-годдзя Г. Гарэцкага, а ў «Запісах…» (2006) некалькі разоў успамінае пра наведванне Г. І. Гарэцкага ў яго кватэры. Раздзел «Неўпарадкаваныя нататкі. 1980–2002» («Толькі мы самі…», 2006) утрымлівае эсэ «Апошні з магікан» (2006) Ніла Гілевіча, прысвечанае Г. Гарэцкаму.

Ніл Сымонавіч заўсёды вельмі ўважліва адносіўся і да маіх артыкулаў і кніг, большасць з якіх я яму прэзентаваў. Праз некаторы час ён званіў і выказваў сваю думку. Памятаю, як ён пахваліў мае кнігі: «Браты Гарэцкія», «Гавриил Иванович

Горецкий» (па замове Расійскай Акадэміі навук), «Жыццёвы меланж». Асабліва яго ўзрушыла кніга «Лісты жыцця і кахання», ад якой «адарвацца не змог, пакуль не закончыў. […] Якое неверагоднае каханне! Якая дабрыня! Я ў захапленні…» Шчыра мяне павіншаваў. Адгукаўся і на мае артыкулы, прычым выказваў свае заўвагі, што было мне асабліва карысна.

* * *

Апошні 23 том Збору твораў (2008), які аўтар абазначыў як «абрыс пройдзенага шляху ў святле адной мары» і ў якім ён успамінаў пра свой жыццёвы шлях, стараючыся аб'ектыўна даць яму ацэнку і падсумаваць сваю дзейнасць, Ніл Гілевіч падараваў мне на дзень майго 80-годдзя з такім цёплым дарчым надпісам: *«Слаўны, шаноўны, дарагі Радзім Гаўрылавіч. Я бязмежна ўдзячны лёсу за тое, што падарыў мне такога вернага сябра і паплечніка ў Вялікім змаганні за Бацькаўшчыну. Віншую з высокім юбілеем. Зычу здароўя табе і моцы духу на доўгія-доўгія гады! Сардэчна абдымаю — Ніл Гілевіч. 4.12.08»*. Гэта быў для мяне найлепшы падарунак ад нашага найвыдатнейшага народнага паэта і патрыёта Беларусі, сяброўствам з якім я вельмі ганаруся.

Ніл Сымонавіч у апошняй частцы тома падкрэсліў некаторыя самыя важныя падзеі ў сваім жыцці:

*«У маім жыцьці было некалькі сапраўды шчасьлівых дзён. Першы — калі пасля трох гадоў нямецкай акупацыі, жыцьця пад пастаянным страхам сьмерці, я сустракаў у ліпені 1944-га "нашых" ("Нашы ідуць! Гэй-гэй! Нашы ідуць!"), разумеючы, што вайну перажыў, ацалеў, не загінуў. Другі — калі ўлетку 1946-га ўбачыў у часопісе "Бярозка" свой першы надрукаваны верш. Трэці — калі ўступіў у шлюб з каханай дзяўчынай. Чацьверты — калі нарадзіўся сын. Быў і яшчэ адзін дзень — чатыры гады назад, калі 26 студзеня 1990 года быў прыняты Закон аб мовах, паводле якога беларуская мова абвяшчалася адзінай*

*дзяржаўнай у Беларусі. […] І вось, нарэшце, беларуская мова запісана як адзіная дзяржаўная ў Канстытуцыі суверэннай незалежнай Беларусі. Надышоў і гэты Доўгачакана Вялікі дзень. Сталася самае радаснае, самае запаветнае, аб чым марылі многія пакаленьні верных сыноў і дачок Беларусі. Свая дзяржава — і свая дзяржаўная мова! Па Канстытуцыі! Па асноўным Законе краіны! Нікому больш не кланяемся, нікога не баімся! Самі сабе гаспадары! І роднае слова таксама будзе ад гэтага часу гаспадарыць паўсюль і скрозь — па ўсёй Беларусі! Ад гэтага часу — і на вечныя векі!»*

На жаль самыя галоўныя мары Паэта, як ужо не першы раз адбылося ў гісторыі Беларусі, не здзейсніліся. Таму Ніл Гілевіч гэтаму 23 тому даў падзагаловак «Між роспаччу і надзеяй», а замест прадмовы такія пранізлівыя словы:

Між роспаччу і надзеяй
пражыў усё сваё сьвядомае жыцьцё —
ад маладосьці да старасьці.
Між роспаччу і надзеяй жыву-дажываю і сёння.
І роспачы, на вялікі жаль, усё больш і больш.
Але надзея застаецца…

*Ліпень 2003 г.*

* * *

Сваё 80-годдзе Ніл Гілевіч адзначыў у хаце. Усе недзяржаўныя газеты (асабліва «Народная Воля») апублікавалі шчырыя віншаванні, цікавыя артыкулы пра жыццё, творчасць і дзейнасць народнага паэта Беларусі. Адгукнулася газета «Звязда» і часопіс «Полымя», у якім надрукаваны вялікі артыкул прафесара Мазырскага ўніверсітэта былой студэнткі паэта Т. С. Нуждзіной. Астатнія дзяржаўныя часопісы і газеты (нават «Літаратура і мастацтва»), а таксама кіраўніцтва дзяржавы «не заўважылі» юбілей. Але беларускі народ не забыў свайго

Пісьменніка, Настаўніка, Навукоўца, Дзеяча-волата беларушчыны. Тэлефон званіў бесперапынна — тэлефанавалі сябры, знаёмыя і незнаёмыя людзі з розных месцаў Беларусі. Усе шчыра жадалі здароўя, доўгіх гадоў, натхнення, новых твораў і выказвалі вялікую ўдзячнасць за тое, што так шмат зрабіў дзеля літаратуры, культуры, навукі, адукацыі, Бацькаўшчыны і ўсяго беларускага народа.

Ніл Гілевіч быў здзіўлены, але вельмі задаволены, калі даведаўся, што ў Цэнтральнай бібліятэцы ў гонар яго юбілею зроблена выстаўка.

* * *

З 2012 г. Ніл Сымонавіч бачыў толькі цені і ўжо не мог чытаць — артыкулы з газеты ведаў толькі праз сястру Святлану, ды слухаў навіны з прыёмніка. Аперацыю дактары і ён разам з імі баяліся рабіць у сувязі з хваробай сэрца і дыябетам. Але з часам вырашылі дазволіць, але ён не адважыўся, думаючы, што поўнасцю аслепне. Я таксама раіў рызыкнуць, бо горш не будзе. Ніл страшэнна перажываў, што не дарабіў да друку некалькі тамоў, ды і іншыя задумы раіліся ў думках. Нарэшце, у кастрычніку аперацыя прайшла задашліва. У тыя дні ён казаў, што «больш вершаў пісаць не будзе, бо ўсё, што хацеў, ужо сказаў, а гвалціць сябе на нешта новае не хоча». Але ўжо ў снежні, калі Ніл Сымонавіч пазваніў, каб павіншаваць мяне з днём нараджэння, дык і я шчыра павіншаваў яго з вершамі, якія з прыемнасцю прачытаў і якія мне спадабаліся, бо ў іх зноў з’явіліся і імпэт, і гумар, і сатыра, і філасофскія роздумы. Ён быў вельмі рады, пачуўшы, што вершы мне спадабаліся, а я таксама ўзрадаваўся, што мой сябра зноў адчуў значны ўздым ад таго, што ўбачыў свет пасля аперацыі.

Нягледзячы на значны ўзрост, з якім прыходзіць усё больш розных хвароб, а з імі і фізічная слабасць, Ніла Гілевіча не пакідалі светлы розум, добрая памяць, мужнасць, аптымізм, пачуццё гумару. Ён упарта працягвае творчую працу, без якой

проста не можа існаваць. Яго жыццю, узяўшы на сябе клопат пра быт, дапамагаюць родныя: мілыя жанчыны — сястрычка Святлана і пляменніца, сын Сяргей і інш.

Ніл Гілевіч сабраў свае эпіграмы і выдаў кнігу «Эпіграмы. 1958–2012» (Мінск: Кнігазбор, 2015. 112 с.). Аўтар прадмовы Міхась Скобла справядліва адзначыў: *«І вось нарэшце чытацкім набыткам робіцца айчынная аўтарская кніга эпіграмаў. Яе аўтар — народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. [...] ...Ніл Гілевіч ніколі не хаваўся ў вежу са слановай косці ад надзённых і балючых праблемаў, заўсёды даваў адпор тым, каго Янка Купала назваў "ворагамі беларушчыны". [...] З выхадам гэтай кнігі на беларускім Парнасе з'явіўся яшчэ адзін сад. Калючы і страхотлівы... Сад эпіграмаў»*. Сам аўтар у аўтографе так сказаў пра сябе: *«Дарагі Радзім Гаўрылавіч, сведчу гэтай кніжачкай, што паслухмяным, ціхім і безабаронным хлопчыкам я ніколі не быў. З любоўю — Ніл Гілевіч. 14.5.15»*.

Ніл Сымонавіч уважліва праглядаў свае шматлікія запісы, накіды, дзённікі розных гадоў і выбіраў адтуль невялічкія мініяцюры, якія апрацоўваў у серыю «У віры быцця (Запісы розных гадоў)» і рэгулярна друкаваў у газеце «Народная Воля», рабіў падборкі дзеля часопіса «Верасень», беластоцкага часопіса «Тэрмапілы». Дарэчы, нам было вельмі прыемна, што мы (Вярцінскі, Гілевіч, Гарэцкі) сустрэліся на старонках гэтага часопіса са сваімі творамі. Затым Ніл Гілевіч выдаў кнігу «У віры быцця: новая кніга эсэістыкі» (Мінск: Кнігазбор, 2015. 184 с.; Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 60). У дарчым надпісе мне ён абазначыў: *«...маё набалелае за доўгія гады жыцця і змагання»*. І праўда, запісы прасякнуты бязмежным болем за лёс роднай мовы, літаратуры, культуры — самага дарагога для яго і яшчэ шматлікіх сапраўдных беларусаў. Ідзе інтэнсіўная іх згуба. Гэтую страшную праўду жыцця многія стараюцца не заўважаць, а то і схаваць ці нават падтрымаць, а таму ў свядомых беларусаў так

балюча на сэрцы, а душа крычыць ад такой жудасці і выказвае шчырую падзяку аўтару за яго праўдзівыя мастацкія словы. Адначасова пісьменнік увесь час заклікае не губляць надзею і змагацца за стварэнне беларускай Беларусі.

23 лютага 2016 года Ніл Гілевіч надрукаваў у «Народнай Волі» асабліва выдатную падборку, складзеную з дзевяці мініяцюр. Першая мае назву «Дык жа і без вайны гінем!» — гэтай думкай прасякнута ўся падборка. Ён піша: *«Кожны дзень сто разоў чую: "Каб толькі не было вайны!" [...] Заклапочанасць зразумелая. Канечне ж, у Беларусі павінен панаваць мір. [...] Дык чаму я вынес у загаловак гэтыя страшныя словы "і без вайны гінем"? Бо гінем, дарагія мае, гінем. Не як насельніцтва, не як жыхары нашай адвечнай тэрыторыі, а — як беларусы. Як нацыя, як народ. Калі не возьмемся ратаваць сябе — загінем. Бо народ жыве, пакуль жыве яго мова. "Памерла мова ў вуснах народа — памёр і народ" (К. Ушынскі). Не разумець гэтага могуць толькі прымітыўныя недарэкі і тупіцы. Будзем глядзець праўдзе ў вочы: нашу мову свядома душаць, вынішчаюць. Падкрэсліваю: свядома. У сваіх эгаістычных мэтах.*

*[...] Вось так, шаноўныя. Гінем і без вайны. Гінем як нацыя. Як народ. Ну, а жыхары застануцца. Але ўжо іншым імем...»*.

Тым не менш той аптымізм, які ён выказаў у заключэнні інтэрв'ю прэс-службы Саюза беларускіх пісьменнікаў («Народная Воля», 13 кастрычніка 2015 г.), у яго сэрцы заўсёды жыў: *«Будзем аптымістамі, іншага не дадзена. Будзем верыць у нашу праўду, у нашу перамогу»*.

* * *

Калі мы забраліся на 80-ы паверх нашага жыцця (спачатку я, затым — Ніл Гілевіч, а праз 1,5 месяцы — Анатоль Вярцінскі — сябра Ніла са студэнцкіх гадоў, а цяпер і мой), даволі часта сустракаліся на кватэры ў Ніла Сымонавіча ў больш маладыя гады па розных нагодах, а цяпер там жа абавязкова адзначалі дні нараджэння кожнага з нас. Ніл Гілевіч увесь

час сядзеў у хаце, стараўся працаваць, мала рухаўся і таму прыкметна слабеў — у сярэдзіне 2013 года мы ўбачылі яго з кійком, бо яму моцна балелі ногі, і ён нават баяўся зваліцца. А як устаць, калі ён шмат часу быў адзін у хаце? Безумоўна, да яго прыходзілі родныя, шматлікія сябры, знаёмыя… У самым канцы сакавіка 2015 года Ніла Гілевіча паклалі ў бальніцу Лечкамісіі для прафілактычнага агляду. Я наведаў яго, добра пагаманілі. Я яго павіншаваў з прэміяй часопіса «Дзеяслоў», якую ён атрымаў за кнігу «У віры быцця: новая кніга эсэістыкі». Ён быў бадзёры, някепска выглядаў, сардэчна развіталіся. У пачатку чэрвеня Сяргей Нілавіч звазіў Ніла Гілевіча на магілкі да Ніны Іванаўны. Пазней, 30 верасня, А. Вярцінскі і я, як заўсёды, адзначылі разам з роднай сястрой Святланай і стрыечнай Ірынай Уладзіміраўнай дзень нараджэння Ніла Гілевіча, а 18 лістапада — 84-годдзе Анатоля Ільіча. Да нас далучыўся паэт Эдуард Акулін, якога Ніл Гілевіч вельмі любіў і з якім таксама сябраваў. Вельмі добра паразмаўлялі на розныя тэмы. Толькі гаспадар хаты адчуваў сябе кепска, быў вельмі слабы і зусім мала еў — жаліўся, што цяжка глытаць. У снежні мой дзень нараджэння адклалі, бо Ніла Сымонавіча паклалі ў бальніцу Бараўлян, каб зрабіць аналіз на анкалогію печані. Чакаць вынікі даволі доўга, таму ён адпрасіўся да хаты. Але мы не сустрэліся, а паспелі толькі пагаманіць па тэлефоне, бо і я трапіў у бальніцу, каб паставіць кардыястымулятар. Павіншаваўшы адзін аднаго з Новым годам і пажадаўшы здароўя, мы яшчэ працягнулі трошкі размову, бо ён усё ж узгадаў старую думку, якая хвалявала яго.

Размова наша была на тэму, якую мы з Нілам распачыналі ўжо некалькі гадоў узімку: «Трэба дажыць да вясны!» Ён не мог забыць тыя пахаванні, на якіх яму даводзілася быць у халодныя зімнія дні. На яго неверагодна цяжкае ўражанне рабілі гучныя ўдары аб века труны мерзлыя кавалкі зямлі — ён аж затыкаў вушы, каб не чуць такія развітальныя гукі. І сумна дадаваў,

што ні ў якім выпадку не хоча ўявіць сябе ў такім стане, бо калі пачуе гэтакі грукат над сабой, дык не толькі ўздрыгне, а проста перавернецца ад жудасці, хоць будзе ўжо і не жывы. Хачу толькі чуць над сабой цёплы ласкавы пясочак. Таму і сабе, і мне пажадаў абавязкова дажыць да вясны…

* * *

15 студзеня 2016 года сабраліся ў Ніла Сымонавіча, каб разам сустрэць па-старому Новы год і адзначыць два дні нараджэння — мой (яшчэ снежаньскі мінулагодні) і Эдуарда Акуліна (7 студзеня гэтага года). Ніл мне прызнаўся, што ў яго аналізы дрэнныя — анкалогія ў печані. Нечакана прыйшоў Мікола Сымонавіч, а за гаспадыню, як заўсёды, была Святлана Сымонаўна. Шчыра і зацікаўлена размаўлялі на розныя тэмы, у тым ліку і пра будучыя юбілеі гэтага года — 85-годдзе Ніла Гілевіча і Анатоля Вярцінскага, 80-годдзе Міколы Гіля. Эдуард Акулін папрасіў першых двух юбіляраў даць інтэрв’ю, каб змясціць іх у часопісе «Верасень». Яны на гэта згадзіліся. Ніл Сымонавіч быў усцешаны новай грунтоўнай манаграфіяй Тамары Нуждзінай «Ніл Гілевіч: маштабнасць таленту і веліч асобы» (Мінск: Про-Хрысто, 2015) і з гонарам паказаў яе нам. Мы былі рады, што Ніл Сымонавіч працягваў даволі пільна працаваць. Але ён жаліўся на значную слабасць, і нас дужа непакоіла, што за такім святочным сталом з рознымі прысмакамі ён амаль нічога не еў не толькі з-за адсутнасці апетыту, але і цяжкасці глытання. Мікола Гіль на развітанне пакінуў брату тры экзэмпляры верша «Тры волаты», якія пазней дайшлі і да нас. Верш мае прыпіс: «Пад час запозненай сустрэчы Старога Новага года ў слаўнай кампаніі».

Гляджу на трох сяброў-волатаў —
І сціскаецца з жалю сэрца:
Не цьмянее з часам золата,
Ды сам час — пад ногі каберцам.

Крывіцкага духу сейбіты —
Гарэцкі, Гілевіч, Вярцінскі.
Рабунак д'ябальскі здзейснены —
Без каня, без сядла, без пікі!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Не змеем — часам бязлітасным
Знясілены сябры-волаты.
Да ў Бога не просяць літасці —
Аб Беларусі іх клопаты.

Волаты духам не зломлены —
Глядзяць з-пад рукі ўдалеч пільна.
Вераць: моладзі рух вызвольны
Здзьме сон з Беларусі магільны!

У другую палову студзеня і большую частку лютага Ніл Гілевіч так кепска сябе адчуваў, што мог хадзіць толькі з дапамогай спецыяльнай перасоўкі, больш сядзеў ці ляжаў, адчуваў болі ў паясніцы. На прапановы Вярцінскага і маю наведаць яго, што-небудзь дапамагчы адказаў адмоўна. Думаў, што ачуняе і тады пакліча нас да сябе. І праўда, 24 лютага Ніл Гілевіч прызначыў у 12:15 нам сустрэчу. У яго па чарзе ўвесь час былі сястра і пляменніца, якія і адчынілі нам дзверы. Ніл сядзеў на канапе, выглядаў нават лепш, чым калі мы бачылі яго ў апошні раз. Мы не толькі добра паразмаўлялі на розныя тэмы мінулага і сучаснага, але выпілі па чарачцы каньяку і закусілі салам і беконам ад куркі. Прыемна, што і гаспадар не адмаўляўся ні ад пітва, ні ад ежы. Ніл Гілевіч трымаўся вельмі мужна і, нягледзячы на зусім цяжкі стан, працаваў. Як раз у гэты дзень у «Народнай Волі» з'явілася яго выдатная падборка з запісаў «У віры быцця», якую мы вельмі хвалілі. Ніл з прыемнасцю слухаў гэта, ён быў рад нашай гамонцы, але праз гадзіну вельмі стаміўся — мы сардэчна развіталіся.

На жаль, Ніл Сымонавіч адчуваў сябе ўсё горш. Калі я блізка да 25 сакавіка пазваніў яму, каб даведацца пра яго адчуванне,

павіншаваць са святам і паведаміць некаторыя навіны, спытаў: «Ты можаш гаманіць ці пазваніць пазней?» Ён ледзь адказаў зусім слабым голасам і ўзрадаваўся маёй прапанове: «Лепш пазней, лепш пазней».

29 сакавіка 2016 г. у 20:20 пазваніў мне Сяргей Нілавіч і паведаміў страшную (хаця на жаль і чаканую) вестачку: зусім нядаўна адышоў у іншы свет Ніл Гілевіч. Раніцаю паклалі ў Лечкамісію, а ўвечары сэрца супынілася. Як адзначыла сястра Святлана — нарадзіўся ўвечары і памёр увечары. Сяргей казаў, што прыблізна ў 18:30 ён схіліўся да бацькі, які ўвесь час быў беспрытомны, і звярнуўся да яго: «Бацька! Гэта я, твой сын». У адказ — маўчанне. Сяргей зноў: «Отец! Я твой сын». Раптам голас бацькі: «Ціха!» Сяргей Нілавіч узрадаваўся, што Тата ачуняў, і выйшаў з палаты. Праз 10–15 хвілін званок ад доктара: «Ніл Гілевіч памёр». Гэта было ў 18:55.

31 сакавіка родныя ў хаце развіталіся са сваім дарагім Нілам Сымонавічам, каб назаўтра канчаткова, ужо разам з яго сябрамі, прыхільнікамі яго творчасці, беларускім народам пахаваць на Кальварыйскіх могілках. Сяргей Нілавіч запрасіў Анатоля Вярцінскага і мяне далучыцца да родных. Прыходзілі шматлікія родзічы з вянкамі і кветкамі, сядзелі, паціху пра нешта размаўлялі, успаміналі добрае і сумнае мінулае, выпадкі з нябожчыкам, сум і гора былі ў хаце…

Ніл ляжаў у труне вельмі бледны, як быццам спіць, але нейкі зусім супакоены, таму што ведаў — зрабіў для Бацькаўшчыны ўсё, што мог. Нам здавалася, што ён дае нам апошні свой запавет: «Дарагія сябры, працягвайце той шлях, у якім вы так падтрымлівалі мяне, рабіце ўсё магчымае для беларушчыны, дэмакратыі, незалежнасці і не губляйце аптымізму, бо “І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы да Беларусі!”».

* * *

1 красавіка развітацца з Нілам Гілевічам у Свята-Петрапаўлаўскі сабор прыйшлі тысячы людзей, усе газеты (нават многія дзяржаўныя) далі вялікія раздзелы пра апошняга народнага паэта Беларусі, выдатнага навукоўца, педагога, палітычнага і грамадскага дзеяча. Газета «Літаратурная Беларусь» № 4 (116) — 29 красавіка 2016 — № 17 (482) напісала:

*«Паэт, празаік, выкладчык, перакладчык, філолаг, этнограф, палітык, грамадскі дзеяч — Ніл Сымонавіч Гілевіч, як і ўласціва чалавеку-эпосе, нацыянальнаму прароку, быў рознабакова адораным творцам.*

*[...] Былі ўскладзеныя кветкі і вянкі ад імя розных інстытуцый і арганізацый: Саюза беларускіх пісьменнікаў, Беларускага ПЭН-Цэнтра, Таварыства беларускай мовы, ЗБС «Бацькаўшчына», Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Пасольства Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і многіх іншых.*

*[...] Жалобную службу на беларускай мове правялі тры святары: а. Георгій Латушка, а. Юры Залоска і клірык Свята-Духава сабора а. Сергій Гардун. Пасля заканчэння малітвы настаяцель Свята-Петра-Паўлаўскага сабора протаіерэй Георгій Латушка зачытаў спачувальныя лісты ад Мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі і Мітрапаліта Філарэта, ганаровага Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі.*

*З развітальнымі словамі на грамадзянскай паніхідзе выступілі старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч, акадэмік Радзім Гарэцкі, палітыкі і грамадскія дзеячы Станіслаў Шушкевіч, Пётр Краўчанка, пісьменнікі Анатоль Вярцінскі, Віктар Казько, старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў, дэкан філалагічнага факультэта БДУ, прафесар Іван Роўда, дырэктар Інстытута літаратуразнаўства імя Янкі Купалы Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Іван Саверчанка.*

*Развітанне і грамадзянская паніхіда працягнуліся на Кальварыйскіх могілках. Каля труны выступілі Сяргей Законнікаў, Уладзімір Арлоў, Генрых Далідовіч, Аляксей Каўка, Эдуард Акулін, Вячаслаў Рагойша, старэйшы з пляменнікаў Ніла Гілевіча Валер Маслаў. Першы намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч зачытаў спачувальныя тэлеграмы ад Часовага Паверанага ў справах Каралеўства Вялікабрытанія ў Рэспубліцы Беларусь, Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларусаў Расіі, ад Саюза пісьменнікаў Швецыі, ад Героя Украіны, паэта Дмытра Паўлычкі.*

*Пад гімн "Магутны Божа" сотні чалавек правялі Ніла Сымонавіча ў апошні шлях...»*

* * *

Калі назаўсёды пакідае цябе сябар, сэрца ахоплівае сум і нуда, адчуваеш нейкі боль (нават чалавек, які ніколі не звяртаўся да кардыёлагаў), а ад душы, якая таксама найбольш чулая да такой згубы, адвальваецца нябачны кавалак і замест яго з'яўляецца пустэча, якую бачыш вакол твайго зямнога асяроддзя. Калі твой сябар, які пайшоў ад цябе ў іншы свет, быў вялікай асобай, згуба якога не толькі тваё гора, а бяда для ўсяго народа, усёй краіны, дык гэта такая жудасная падзея адчуваецца ўдвайне. Чым даўжэй жывеш, тым большую колькасць перажываеш аналагічных страт. Так і цяпер сядзіць у маёй душы бязмернага памеру падвойная пустэча — і сяброўская, і грамадзянская. Яна не зменшылася і пасля саракавін, у час якіх можна было пачуць і ад самых блізкіх родных, і ад сяброў такія шчырыя словы любові, падзякі за дабрыню, дапамогу, сяброўства, вялікую паэтычную творчасць (асабліва раман «Родныя дзеці», як сучасны працяг коласаўскай «Новай зямлі»), цудоўную публіцыстыку, яркія гумар і сатыру, навуковую і педагагічную дзейнасць, працу ў Вярхоўным Савеце БССР (незалежнасць, дзяржаўныя сімвалы, закон аб адзінай дзяржаўнай беларускай мове і інш.), Таварыства беларускай мовы

і г. д. Усе жадалі, каб душа Ніла Гілевіча трапіла ў самае лепшае боскае месца на нябёсах, зноў аб’ядналася са сваёй каханай жанчынай Нінай Іванаўнай. Спадчына і імёны такіх вялікіх творцаў, як Ніл Гілевіч, а таксама нядаўна пакінуўшых нас перад гэтым Васіля Быкава, Янкі Брыля, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна будуць жыць вечна, як вечна будзе жыць і наша родная Беларусь!

*2016*

*Красавік 2015 — травень 2016 г., Менск*

# Аповесць «Дзве душы» Максіма Гарэцкага ў тэатры[1]

У газеце «Народная Воля» (10.04.2014) быў надрукаваны артыкул Лявона Баршчэўскага пра прэзентацыю ў Берліне кнігі Максіма Гарэцкага «Дзве душы», якая стала першай у рэйтынгу найлепшых кніг, выдадзеных па-нямецку. На гэта звярнуў увагу Мікалай Пінігін, а прачытаўшы аповесць, быў вельмі ўражаны яе зместам і мовай. Ён вырашыў па гэтым творы Максіма Гарэцкага паставіць спектакль «Дзве душы».

У жніўні 2015 г. у газ. «Народная Воля» прачытаў пра прэм’еры Купалаўскага тэатра: *«Мастацкі кіраўнік Купалаўскага возьмецца яшчэ і за складаны і некалі забаронены па ідэалагічных прычынах твор Максіма Гарэцкага “Дзве душы”»*. У верасні пазваніў, а затым разам з Вольгай Губскай[2] сустрэліся з рэжысёрам-пастаноўшчыкам мастацкім кіраўніком тэатра Мікалаем Пінігіным і загадчыцай літаратурна-драматургічнай часткі Вольгай Бабковай. Я перадаў галоўныя выданні твораў Максіма Гарэцкага (у тым ліку аповесць «Дзве душы»), шэраг літаратуразнаўчых прац пра творчасць М. Гарэцкага, а таксама свае кнігі «Браты Гарэцкія» і інш. Я ўзгадаў, што пасля першага выдання ў 1919 годзе аповесць ўбачыла свет толькі праз 70 гадоў. Пералічыў шэраг сучасных выданняў, у тым ліку і пераклад на нямецкую мову. Шчыра падзяліліся думкамі пра будучы спектакль, выказалі свае меркаванні пра гэты твор і дамовіліся аб магчымым супрацоўніцтве праз В. Губскую.

Ужо 25 красавіка 2016 г. мяне разам з жонкай запрасілі на апошнюю генеральную рэпетыцыю новага спектакля, дзе прысутнічалі адказныя прадстаўніцы з Міністэрства культуры і НАН Беларусі.

---

[1] Тэрмапілы. — 2017. — № 21.

[2] Вольга Губская — кандыдат філал. навук (дысертацыя па творы «Віленскія камунары» М. Гарэцкага), літаратуразнаўца, вывучае жыццё і творчасць Максіма Гарэцкага.

Добра зроблена праграма спектакля ў выглядзе брашуры з вокладкай, дзе на крывава-чырвоным фоне драўляная лыжка і срэбраны відэлец са шляхецкім гербам. На беларускай і англійскай мовах прыведзены звесткі пра Максіма Гарэцкага (1893–1938) з яго аўтографам *«Найдаражэйшай за ўсё на свеце ёсць воля. Воля — змысл нашага зямнога існавання. М. Гарэцкі»* і некалькімі фотаздымкамі пісьменніка, яго хаты і вокладак яго твораў; пра «Дзве душы»; пра твор «Адвечным шляхам» Ігната Абдзіраловіча (псеўданім Ігната Канчэўскага), пералік артыстаў (а ўсіх у пастаноўцы задзейнічана каля 40 чалавек); інсцэніроўка Уладзіслава Ахроменка і Максіма Клімковіча, рэжысёр-пастаноўшчык Мікалай Пінігін, сцэнаграфія і касцюмы Барыс Гарлаван, кампазітар Андрэй Зубрыч, харэограф Наталля Карчэўская, стварэнне відэакантэнту Сяргей Тарасюк.

На наступны дзень адбылася прэм’ера спектакля, на якую я зноў быў запрошаны разам з жонкаю і В. Губскай. Кіраўніцтва тэатра (М. Пінігін, В. Бабкова і інш.) адразу пазнаёмілі нас з намеснікам прэм’ер-міністра РБ Наталляй Іванаўнай Качанавай, якая курыруе ідэалагічную сферу краіны — культуру, літаратуру, адукацыю, інфармацыю інш. Мікалай Мікалаевіч хваляваўся за ўражанне і ацэнку спектакля не толькі гледачамі, але і адказнымі прадстаўнікамі кіруючых улад, ад якіх залежалі вынікі нягласнай цэнзуры і канчатковага дазволу пастаноўкі ў існуючым выглядзе. Галоўная місія ў гэтым сэнсе была адведзена мне, што я і стараўся рабіць і ў час перад пачаткам спектакля, і ў перапынак, і па заканчэнні. Галоўнае, што ўсе жанчыны з кіраўніцтва згадзіліся з такімі ацэнкамі аповесці і адпаведна сцэнарыя спектакля: 1) твор Максіма Гарэцкага — першая ў беларускай літаратуры аповесць, у якой раскрыта сутнасць бальшавізму і дадзена прадбачанне найбольш магчымай будучыні Беларусі; 2) актуальнасць матэрыялу для сучаснасці, асабліва ў сувязі з незалежнасцю дзяржавы.

Перад аўтарамі інсцэніроўкі і рэжысёрам-пастаноўшчыкам стаяла цяжкая праблема: як увасобіць такі складаны і широка-

маштабны твор у адным спектаклі. Яны справядліва вырашылі зрабіць гэта шляхам своеасаблівых пункціраў — у выглядзе 32 асобных найбольш важных сцэн, выкінуўшы шэраг даволі шматлікіх і цікавых эпізодаў і падзей. Таму я хваляваўся, ці зразумеюць гледачы, асабліва моладзь, якая была далёкая ад тых часоў і падзей і якая складала значна большую колькасць прысутных у поўнай зале. Але рэакцыя ўсіх гледачоў была вельмі адэкватная і эмацыйная. Спектакль захапіў гледача: нягледзячы, што многія сцэны паказваюць жудасныя падзеі таго часу па жорсткасці, забойствам, бязглуздзіцы, і таму выклікалі не проста цяжкасці ўспрымання, злосць і нават брыдоту да гвалтаўнікоў, але і значныя эмоцыі шкадавання, пяшчоты да асобных пакрыўджаных персанажаў. Як прызнаўся Сяргей Дубавец у сваім фэйсбуку, што ён тройчы плакаў на спектаклі.

Закончылася пастаноўка. Гледачы стоячы шчыра плёскалі артыстам, якія па чарзе зноў і зноў выходзілі на сцэну. Многім падзякавалі кветкамі. Мікалая Пінігіна сустрэлі асабліва моцнымі авацыямі. Ён выклікаў на сцэну інсцэніроўшчыкаў спектакля. Я ўзяў у маёй Галі вялікі букет чырвоных руж, падышоў да сцэны і падаў Пінігіну. Той паклаў букет на падлогу сцэны, павярнуўшы ў бок залы прыгожыя ружы і ўсхваляваны прадставіў мяне як роднага пляменніка Максіма Гарэцкага, былога віцэ-прэзідэнта НАН Беларусі. Усе плёскалі — я ўдзячна схіліў галаву. Узрушаны Мікалай Мікалаевіч раптам саскочыў са сцэны да мяне, і мы шчыра, з удзячнасцю адзін аднаму абняліся. Ён аддаў мне букет белых ружаў, які быў у яго, зноў лёгка ўскочыў на сцэну, а я перадаў букет Гале.

Усе пайшлі да выхада. Праз пару радоў ад нас па другі бок ад прахода паднялася і віцэ-прэм’ер Н. І. Качанава. Убачыў яе вельмі ўсхваляванай і нават узбуджанай спектаклем. Я быў рады такой станоўчай рэакцыі чыноўніцы высокага рангу. Зноў яшчэ абмяркоўвалі і дзяліліся ўражаннямі. Шчыра развіталіся задаволеныя. Мікалай Пінігін і кіраўніцтва тэатра былі рады такому выніку першай прэм’еры «Дзвюх душ».

* * *

Першым грунтоўную рэцэнзію на спектакль даў Вячаслаў Ракіцкі пад назваю «“Дзьве душы” як парад беларускай неўміручасьці» ўжо на наступны дзень. Высока ацаніўшы ўсіх стваральнікаў спектакля, а таксама ігру большасці акцёраў, адзначыўшы, што ў турэмнай «фотасесіі» магчыма б хапіла архіўнага фотаздымка самога М. Гарэцкага, аўтар рэцэнзіі падкрэсліў, што рэжысёр Мікалай Пінігін заявіў *«сваю тэатральную інтэрпрэтацыю вяршыні беларускай філязофскай прозы, доўгі час камуністамі забароненай аповесці расстралянага зноў жа камуністамі аўтара. Трагічнае “двудушша”. Тэатар робіць мастацка-гістарычны аналіз амбівалентнасьці беларусаў як нацыі, у якой злучыліся, суіснуюць — калі ў згодзе, калі канфліктна — сялянскасьць і шляхетнасьць, праваслаўе і каталіцызм, прарасейскія і празаходнія ўсьведамленьні, дзе ўвесь час змагаецца за сваё права на існаваньне беларушчына, дзе прага да волі і нацыянальная годнасьць змагаюцца з пакорлівасьцю і комплексамі непаўнавартасьці. “Двудушша” — галоўная адметнасьць нацыянальнага характару. Адвечнае і, выглядае, бясконцае самавызначэньне людзям, якія тут жывуць, наканаванае гісторыяй, геаграфіяй, рэлігіяй. Менавіта такі патас новага спэктакля купалаўцаў»*.

В. Ракіцкі выдаў такую *«“крамольную” думку, што гэтая інсцэніроўка лягчэй адаптавалася б на кінаэкране, чым у тэатры»*. Ён справядліва адзначыў, што Мікалай Пінігін — стваральнік нацыянальнага тэатра ў абставінах незалежнай Беларусі. *«Таму на галоўнай сцэне дасьледуецца гістарычны шлях да гэтай незалежнасьці, адшукваюцца ў ім вытокі і прырода беларускай ментальнасьці, прычыны паразаў на шляху да незалежнай, дэмакратычнай эўрапейскай Беларусі»*.

Андрэй Данько у газеце «Наша Ніва» (4 мая 2016) адгукнуўся рэцэнзіяй «А куды яны ідуць? Вялікі Пінігін паставіў “Дзве душы” вялікага Гарэцкага». Станоўча ацаніўшы спектакль

і параўнаўшы сюжэт аўтара аповесці і сцэнарый спектакля, ён адзначыў шэраг не зусім удалых «дадумванняў», якія, па яго думцы, пагаршаюць п'есу. Мне здаецца, што некаторыя з іх заслугоўваюць увагі і на іх у далейшым не кепска было б адрэагаваць.

Асабіста мне спектакль «Дзве душы» спадабаўся, бо ў ім захавалася галоўная думка і мэта аповесці. Можна толькі здзіўляцца, як усе стваральнікі і ўдзельнікі спектакля змаглі так хутка і якасна адолець такую нялёгкую задачу. Некаторыя моманты мне не зусім зразумелыя ці маглі б быць лепшымі. Напрыклад, навошта мамцы Маланні (жонцы памерлага салдата-мужа), якая памяняла свайго сына Васілька на панскага Ігналіка, дадаваць яшчэ адзін вялікі грэх: яна як быццам з'яўляецца маткай і Іры Сакавічанкі — дачкі ляснічага. Ігнат Абдзіраловіч даведаўся ад Маланні, што Іра яго родная сястра, і ён як быццам таму і не ажаніўся з ёй. Але гэта не робіць яго вобраз больш нерашучым «двудушным», а наадварот, змяншае гэтую яго сутнасць. Мусіць, калі б на турэмнай «фотасесіі» былі б паказаны фотаздымкі такіх выдатных беларускіх дзеячаў, расстраляных бальшавікамі, як Вацлаў Ластоўскі, Алесь Смоліч, Сцяпан Некрашэвіч, Браніслаў Тарашкевіч і іншых, уражанне было б яшчэ больш моцнае.

* * *

**Вытокі стварэння аповесці «Дзве душы».** Максім Гарэцкі ў сваёй творчасці заўсёды імкнуўся да праўдзівасці, у значнай ступені нават да дакументальнасці, таму ён часта ў свае творы ўключаў падзеі, якія сам перажыў, адчуў іх сэрцам, разгледзеў і ацаніў розумам, і якія такім чынам нярэдка рабіліся аўтабіяграфічнымі. Героі аповесці «Дзве душы» жывуць у розных мясцовасцях і ў тых рэальных абставінах, агульных і асабістых падзеях, якія перад гэтым адбыліся ў жыцці самога аўтара.

У ліпені 1913 года М. Гарэцкі скончыў Горы-Горацкае каморніцка-агранамічнае вучылішча, атрымаў званне «земля-

мера-агранома» і паехаў на каморніцкую службу ў Віленскую губерню. Тут ён надрукаваў адно за адным шэраг апавяданняў, а таксама публіцыстычны артыкул «Наш тэатр», а на наступны год выйшаў першы зборнік апавяданняў «Рунь». 3 ліпеня 1914 года пісьменнік пайшоў на абавязковую ваенную службу, а ўжо 19 ліпеня пачалася Першая сусветная вайна, і ён стаў разведчыкам. М. Гарэцкі 24 ліпеня трапіў на фронт, у Прусіі ўдзельнічаў у жорсткіх баях, быў узнагароджаны Георгіеўскім Крыжам IV ступені, а 25 кастрычніка быў паранены. Ляжаў у шпіталі ў Вільні, пабыў у бацькоў у Багацькаўцы. Потым паехаў у Мсціслаў, Маскву, зноў у Мсціслаў, адтуль накіравалі ў шпіталь Магілёва, дзе зрабілі аперацыю без наркозу, выцягнуўшы з раны асколак. Адтуль накіравалі ў Маскву, а затым — зноў на фронт праз Гомель, Бабруйск пад Слуцк, дзе стаяла яго батарэя, і далей — на пазіцыі. У студзені 1926 года паслалі ў Петраград у Паўлаўскае ваеннае вучылішча, па заканчэнні якога накіравалі на службу ў Іркуцк, а адтуль — у Гжацк. У канцы 1916 года — зноў на фронт, у раён пінскіх балот. У лютым 1917 года М. Гарэцкі захварэў на востры гастрыт, ляжаў у палявым шпіталі, а потым усё лета ў Маскве, а адтуль ужо ўвосень паехаў лячыцца ў Жалезнаводск.

З лістапада 1917 года М. Гарэцкі ў Смаленску працаваў у газеце «Известия Смоленского Совета депутатов». У сувязі з Кастрычніцкай рэвалюцыяй вучылішча ў Горках закрылі, і Гаўрыла Гарэцкі прыехаў да брата. Тут яны склалі «Руска-беларускі слоўнік», які ўлетку 1918 года выйшаў з друку. Тады ў Смаленску жыў Янка Купала з жонкаю, якія часта сустракаліся з братамі Гарэцкімі. Яны былі сведкамі страшэнных людскіх пакутаў, якія прынесла рэвалюцыя і бальшавіцкі рэжым: масавыя расстрэлы «представителей имущих классов» — бязвінных урачоў, настаўнікаў, гарадавых, студэнтаў, фінансістаў, афіцэраў і інш. (іх спісы друкаваліся ў смаленскіх газетах), бясчынствы ў вёсках, дэмагогія, хлусня, хамства, страх… Разабрацца ва ўсёй гэтай блытаніне было цяжка, у многіх

прадстаўнікоў інтэлігенцыі «душа дваілася»… Менавіта тут, у Смаленску, М. Гарэцкі па свежых уражаннях ад тых трагічных падзей задумаў, а хутчэй за ўсё, і пачаў пісаць аповесць «Дзве душы»[1]. У 1919 годзе М. Гарэцкі пераехаў у Вільню, дзе ў 13 нумарах «Беларускай думкі» з 20 чэрвеня да 24 ліпеня была надрукавана аповесць «Дзве душы», а троху пазней, у тым жа годзе, яна выйшла асобным выданнем.

З параўнання жыццёвых падзей самога пісьменніка і аднаго з галоўных герояў аповесці Ігната Абдзіраловіча ў вобразе апошняга можна пазнаць шмат агульных рыс, а яго жыццёвыя сітуацыі маюць дакументальны і ў значнай ступені аўтабіяграфічны характар. Месца дзеяння герояў аповесці добра знаёмае: Горкі на Мсціслаўшчыне, беларуская вёска, Вільня, Масква, Жалезнаводск на Каўказкіх Мінеральных Водах, Магілёў, Смаленск і інш.

* * *

**Творы М. Гарэцкага ў тэатры і кіно.** Нягледзячы на тое, што пісьменнік напісаў 10 драматычных абразкоў і адну п’есу «Жартаўлівы Пісарэвіч», творы Максіма Гарэцкага ў сваёй большасці прайшлі міма тэатра і асабліва кіно. Тым не менш многія лічылі, што яго творы не толькі драматургіі, а некаторыя аповесці і апавяданні проста просяцца на экран і сцэну. Асабліва на гэтую тэму яскрава выказаўся публіцыст Барыс Тумар, адказваючы на пытанне рэдакцыі газеты «Наша Ніва» (№ 23 ад 22 чэрвеня 2007 г.) «Які твор беларускай літаратуры варта экранізаваць?» Ён адказаў: *«Гарэцкі. Час здымаць паводле Гарэцкага. Кароткі мэтраж паводле апавяданняў “У лазні” — сапраўдны шэдэўр, і, канечне, “Дзве душы” і “Віленскія камунары”. Гэта матэрыял для оскараўскіх сцэнараў. Грандыёзны гістарычны кантэкст — нараджэнне беларускай нацыі, эўрапейская рэвалюцыя — і натуралізм пачуццяў.*

[1] Илькевич Н. Н. Душа двоилась: Повесть, рождённая в Смоленске. — Смоленск: Библиотека журнала «Край Смоленский», 1997. — 36 с.

*Гарэцкі лёгкі для экранізацыі, бо быў як майстрам і эпічнага паказу эпохі, і эпізоду. [...] У той жа час сюжэты Гарэцкага не закрытыя, яны лёгка надаюцца на пашырэнне і развіццё. Фільмы паводле Гарэцкага сталі б сэнсацыяй»*.

Яшчэ ў 1913 годзе М. Гарэцкі надрукаваў публіцыстычны артыкул «Наш тэатр» («Калядная пісанка», Вільня), у якім яскрава акрэсліў мэты, задачы і ролю нацыянальнага тэатра. Ён падкрэсліў, што *«Тэатр наш павінен стаць Храмам Нашага Адраджэння»*. Тады ж у газеце «Наша Ніва» пісьменнік апублікаваў «кароткі жалобны абразок» — так аўтар вызначыў жанр першай п'есы — «Атрута». Янка Брыль успамінаў: *«"Атруту" ставілі ў той час, ва ўсе давераснёўскія гады, па ўсёй Заходняй Беларусі, і ў вёсках, і ў гарадах»*[1].

М. Гарэцкі меў намер паспрабаваць напісаць сцэнар і для кіно. Такая думка з'явілася ў яго ў час задумы пісаць «Віленскія камунары». Юрка Гаўрук[2] успамінаў: *«Як вы думаеце: ці мне лепш пісаць раман, ці рабіць сцэнарый? Яго надзвычайна цягнула яшчэ да кіно. Гарэцкі добра адчуваў драматычнасць сітуацый, і матэрыял ён бачыў у сцэнарным варыянце. Памятаю, гаворка была прыблізна такая. Усё ж лепш пісаць раман. Чаму? Кінасцэнарый — жанр спецыфічны, які патрабуе супрацоўніцтва з рэжысёрам»*.

У сярэдзіне лютага 1992 года лаўрэат прэміі камсамола Беларусі і Магілёўшчыны, лаўрэат Усесаюзных аглядаў і фестываляў самадзейнай мастацкай творчасці народны тэатр Краснапольскага раённага Дома культуры паставілі спектакль «Стогны душы» па аднаактных п'есах Максіма Гарэцкага «Салдат і яго жонка», «Свецкі чалавек», «Атрута» і маналогу «Стогны душы» ў пастаноўцы рэжысёра, заслужанага работніка культуры Беларусі Валянціна Ермаловіча[3]. Спектакль кары-

---

[1] Пасля лемантара // ЛіМ. — 1981. — 2 студзеня.

[2] Гаўрук Ю. Сустрэчы ў Горках і ў Мінску // Максім Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы. — Мінск: Маст. літ., 1984. — С. 75–79.

[3] Валянцін Ермаловіч (1925–2004) — родны брат вядомага гісторыка Міколы Ермаловіча.

стаўся значным поспехам. Шэраг газет змясцілі падрабязныя рэцэнзіі. На наступны год у сувязі з 75-годдзем народнага тэатра Краснапольскага Дома культуры 20–23 мая адбыліся «Тэатральныя вечарыны», у час якіх былі паказаны некалькі спектакляў, у тым ліку і «Стогны душы». У 1993 годзе Народны тэатр юнага гледача Бялыніцкага раённага цэнтра культуры паставіў літаратурна-музычную кампазіцыю па творы «Скарбы жыцця» М. Гарэцкага. Рэжысёр-пастаноўшчык З. Бялык, хормайстар Т. Чайкоўская, музычны кіраўнік В. Халадцоў. Словы ад аўтара чытаў В. Ермаловіч.

Да 90-годдзя Максіма Гарэцкага Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы паставіў драматычны абразок «Салдат і яго жонка» ў выдатным выкананні Марыі Захарэвіч і Генадзя Гарбука. Я гэтую пастаноўку бачыў у Доме літаратара на ўрачыстым юбілейным вечары. Гледачы ў поўнай зале былі ў захапленні. З цікавасцю глядзелі драматычны абразок і па тэлебачанні, калі яго некалькі разоў уключалі ў праграмы.

У 1994 годзе Валянцін Ермаловіч арганізаваў народны тэатр драмы пры Магілёўскім гарадскім цэнтры культуры і вольнага часу, дзе ў траўні 1998 года паказаў пастаноўку «Стогны душы» М. Гарэцкага па п’есах «Салдат і яго жонка», «Свецкі чалавек» і драматычнай аповесці «Антон». Пазней пад назвай «Тэатр Валянціна Ермаловіча» згуртавалася тэатральная група галоўным чынам са студэнтаў Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. Куляшова разам з дэканам Яраславам Клімуцем, які стаў загадчыкам літаратурнай часткі. 25 траўня 2000 года ў Гарадскім доме культуры В. Ермаловіч як рэжысёр-пастаноўшчык паставіў драму ў 5-ці карцінах «Жартаўлівы Пісарэвіч». У праграме адзначана, што ў спектаклі выкарыстана аповесць «Дзве душы» М. Гарэцкага і архіўныя матэрыялы з кнігі «Ахвярую сваім “Я”…» Радзіма Гарэцкага . На прэм’еру запрасілі і мяне. Вялікая зала не змясціла ўсіх жадаючых, некаторыя нават глядзелі спектакль стоячы. Сцэнарый пастаноўкі ўключаў не толькі цяжкі лёс сям’і бежанцаў Алеся Пісарэвіча з

Заходняй Беларусі, якая акупавана немцамі, ва ўсходнюю частку і Смаленшчыну, дзе ўладу захапілі бальшавікі (узяты з п'есы «Жартаўлівы Пісарэвіч»), але і «барацьбу дзвюх ідэяў: бальшавіцкай, абаронцам якой з'яўляецца Карпавіч, і плыні беларускага адраджэння — прадстаўнік Мікола Канцавы (узяты з аповесці "Дзве душы")». Рэакцыя гледачоў, асабліва моладзі, якой і было найбольш, вылучалася ўважлівасцю, усхваляванасцю, эмацыйнасцю, разуменнем таго, што адбывалася на сцэне. Шмат апладысментаў. Па заканчэнні гледачы стоячы многа разоў выклікалі на сцэну артыстаў, а потым Валянціна Ермаловіча, Яраслава Клімуця і нават мяне…

У 2014 годзе рэжысёр Віктар Аслюк на «Беларусьфільме» зняў мастацкую стужку «Рускі» паводле аднайменнага апавядання Максіма Гарэцкага. Фільм вельмі актуальны, асабліва ў сувязі з падзеямі ва Украіне.

* * *

**Ацэнка аповесці, галоўныя асаблівасці і значэнне.** Пасля выхаду аповесці «Дзве душы» з друку яна атрымала прыхільныя водгукі і некаторыя крытычныя заўвагі. Антон Луцкевіч назваў аповесць *«першай беларускай аповесцю — беларускай не толькі па мове, але і па змесце»*[1]. Ён адзначыў, што пісьменнік найбольш блізка да рэальнага адлюстраваў жыццё Беларусі ў пачатку бальшавіцкага перавароту, раскрыў яго ўпершыню, як і *«духоўнае хараство барцоў за беларускую нацыянальную ідэю»*. З. Бядуля адзначыў *«арыгінальны склад малявання чалавечай душы»*, дасканаласць паасобных *«штрыхоў рэвалюцыі і беларускага адраджэння»*[2], самабытнасць стылю. Антон Адамовіч падкрэсліў, што аповесць «Дзве душы» *«з'яўляецца першым узорам дадзенага жанру ў беларускай літаратуры»*. Ён піша пра значэнне М. Гарэцкага *«як першага пісьменніка*

---

[1] Наша Ніва. — 1920.

[2] Беларусь. — 1920. — 28 мая.

*выключна празаіка ў нашай літаратуры, як першага пісьменніка-псыхолёгіста, як першага стварыцеля вялікіх рэчаў у гэтай літаратуры, [...] як выяўляльніка пануючага тыпу эпохі беларускага адраджэння»*[1].

Станіслаў Станкевіч у прадмове «"Шматпакутныя творы" Максіма Гарэцкага» адзначыў: *«...вялікая аповесьць Максіма Гарэцкага "Дзьве душы", якую з гледзішча на шырокую маштабнасьць адлюстраваньня рэчаіснасьці, можна назваць раманам». [...] Аповесьць "Дзьве душы" — гэта найважнейшае ідэйна-нацыянальнае й мастацкае дасягненьне ўсяе творчасьці Максіма Гарэцкага й вузлавы пункт у гісторыі новае беларускае літаратуры, як першы вялікапамерны й шырокамаштабны празаічны твор у ёй. Аповесьць гэтая найбольш поўна вызначае ідэйны профіль і ейнага аўтара»*[2].

Пасля рэабілітацыі М. Гарэцкага і выхаду аповесці «Дзве душы» яе ацэнка крытыкамі была ці негатыўнай (А. Семяновіч, Н. Перкін), ці наогул станоўчай, але з сур'ёзнымі агаворкамі і заўвагамі (Д. Бугаёў, Алесь Адамовіч). Пазней ужо значна больш высокую ацэнку аповесці давалі І. Чыгрын, У. Калеснік, П. Васючэнка, А. Макарэвіч і інш. Найбольш сур'ёзна разгляд аповесці «Дзве душы» зрабіў Міхась Мушынскі ў сваёй капітальнай манаграфіі. Ён піша: *«Вось гэтыя бясконцыя і бессэнсоўныя забойствы і ўзаемазнішчэнні — кроў за кроў і смерць за смерць — і склалі, паводле аўтарскіх уяўленняў, змест сацыялістычнай рэвалюцыі. [...] Пранікнёная пісьменніцкая думка тут сягала ў будучыню, прадчувала трагедыю заўтрашніх дзён. [...] Здольнасць М. Гарэцкага прадбачыць вялікія грамадскія катаклізмы і трагедыю народа выявілася тут вельмі выразна. [...] Імкненне да праўды і справядлівасці па-ранейшаму жыло ў душы Абдзіраловіча, але ён бачыў, што*

---

[1] Адамовіч А. Максім Гарэцкі. Спроба манаграфіі аб творчасці // Узвышша. — 1928. — № 1–6.

[2] Гарэцкі М. Выбраныя творы. Т. 3. Апавяданьні і аповесць «Дзьве душы» // Беларус. — Нью-Ёрк, 1975. — 160 с.

*“красамоўная лухта” і “мана” становяцца нормай грамадскага жыцця»*. М. Мушынскі робіць такое заключэнне: *«Разгляд аповесці “Дзве душы” дае ўсе падставы зрабіць выснову, што такога ж праўдзівага, па-грамадзянску смелага твора, звернутага да тэмы Кастрычніка на Беларусі, тэмы трагедыі беларускага народа, няма ў нацыянальнай літаратуры»*[1].

Альгерд Бахарэвіч у электроннай серыі 23.12.2011 даў роздум «Максім Гарэцкі. Дзьве душы», у якім так выказаўся: *«...вобраз дзьвюх душаў, створаны Гарэцкім — трапны і універсальны, а калі гаворка ідзе пра беларускі нацыянальны характар, актуальны да сёньня: “раздваеньне асобы зрывае нам дах”, дзьве Беларусі, два аблічча, два народы:[...] Менск і Мінск, два сьцягі, два гербы, дзьве мовы, два варыянты далейшага шляху, зь якіх насамрэч ня спраўджваецца ніводзін. Нават на самае простае пытаньне — заўсёды два адказа: “ня ведаю” і “ня памятаю”. Дзьве душы. Шызафрэнія. [...] Аповесьць “Дзьве душы” — той вялікі крок наперад, які зрабіла беларуская проза, перад тым як на дзесяцігодзьдзі замерці ў позе летаргічнага лётаса; шкада, але пасля Гарэцкага ды яшчэ Мрыя тэкстаў такой складанасьці ў ёй не будзе ажно да першых Быкаўскіх твораў. [...] Абдзіраловіч наважыўся ня быць ні становчым, ні адмоўным — вось у чым “злачынства” Гарэцкага перад сваімі сучасьнікамі і сваімі будучымі крытыкамі і катамі. Наважыўся быць сам па сабе. [...] Тым ня менш абедзьвюм душам аўтар дазваляе выказацца напоўніцу, дае ім слова, дзе толькі можна. “Нудна ўрозьні, посна разам” — як гэта знаёма. Праз колькі дзесяцігодзьдзяў пасля Гарэцкага пра тое самае скажуць героі Сартра і Камю, скажуць не чатырма словамі, а цэлай чарадою тоўстых раманаў»*.

[1] Мушынскі М. Падзвіжнік з Малой Багацькаўкі: жыццёвы і творчы шлях Максіма Гарэцкага. — Мінск: Беларус. навука, 2008. — 510 с.

* * *

Нягледзячы на тое, што аповесць «Дзве душы» напісана на аснове падзей вельмі кароткага часу рэвалюцыі і бальшавіцкага рэжыму і надрукавана ў 1919 годзе, у ёй на дзіва выразна, дасканала, прадбачліва апісана найбольш магчымая будучыня Беларусі, лёс яе народа, культуры, мовы. Нават адзначана верагодная часовая падтрымка нацыянальнаму адраджэнню ад кіраўнікоў бальшавіцкага ўрада, што пазней адбылося ў час «беларусізацыі» у пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя на чале з нацыянал-камуністамі А. Чарвяковым і М. Галадзедам. Аўтар нават даў назву гэтай з’яве — «нацыянальны бальшавізм». Але ён толькі невялічкая адліга для супакаення адраджэнцаў, бо галоўная сутнасць рэжыму — рэпрэсіі, гвалт, «чразвычайка», ГУЛАГ, а каб троху ўпрыгожыць дзейнічае дэмагогія ў выглядзе двудушша: з аднаго боку, ідэі камунізму (роўнасць, братэрства — як у хрысціянстве), а з другога — хлусня, тэрор, сілавыя структуры. Цікава, што пісьменнік, які меў дар празарліўцы, прыводзіць выраз «вінцік» (пазней ім карыстаўся «правадыр усіх народаў» у СССР).

У «Дзвюх душах» Максім Гарэцкі прадбачыў не толькі ўласны лёс, але і будучыню Беларусі, нават усёй Расіі і падначаленых ёй рэспублік. У гэтым сэнсе яго твор можна параўнаць з раманам «Бесы» Фёдара Дастаеўскага, які накіраваны супраць сацыялістычных, атэістычных поглядаў. Пісьменнік у «Бесах» паказаў, як у душах рэвалюцыянераў узнікае бесаўска-нігілістычная і атэістычная калізія, таму ён заклеймаваў рускі рэвалюцыйны рух. Дастаеўскі прадбачыў, што рэвалюцыйны рух прыводзіць да шантажу, правакацый, авантурызму, тэрарызму, бо ён зыходзіць з ідэй, што мэта апраўдвае сродкі. З часам думкі такога ж сэнсу выказаў У. Ленін.

Вельмі важна падкрэсліць актуальнасць «Дзвюх душ», бо сучаснасць у многіх галоўных момантах мае шмат агульнага з той былой сітуацыяй, асабліва ў сувязі з праблемамі неза-

лежнасці Беларусі, пабудовай еўрапейскай дэмакратычнай дзяржавы з моцнай эканомікай і вольным, нацыянальна свядомым грамадствам.

* * *

16 чэрвеня 2016 г. у філіяле Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры «Літаратурны музей Петруся Броўкі» адбыліся XXIV Гарэцкія чытанні. Я вельмі ўдзячны выдатным дзеячам беларускай дыяспары ў ЗША Янку і Надзеі Запруднікам, якія наведалі чытанні, а спадар Янка сказаў прывітальнае слова. Ён з цікавасцю і ўвагай выслухаў выступленне Вольгі Бабковай пра спектакль «Дзве душы» па аднайменнай аповесці Максіма Гарэцкага ў Купалаўскім тэатры. 28 чэрвеня ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. Пушкіна адбылася прэзентацыя кнігі «Кантакты: сіла прыцягнення Бацькаўшчыны» (Да 90-годдзя Янкі Запрудніка), што ўбачыла свет у серыі «Бібліятэка “Бацькаўшчыны”» (Мінск: Кнігазбор, 2016). Падзякаваўшы прысутным і асабліва выступіўшым за віншаванні, Янка Запруднік выказаў галоўнае ўражанне ад наведвання Беларусі: *«У апошні час шмат кажуць пра дзве душы беларуса, ці пра яе дваістасці. Я, прыехаўшы сюды праз тры гады, пачаў думаць. Душа беларуса мае два аспекты. Адзін — пакутніцкі, другі — надзейны. Пакутніцкая душа, прыехаўшы сюды, адчувае боль, таму што яна не чуе музыкі беларускай мовы з вуснаў маладых дзетак. Але душа адпорная на цяжкасці, ёсць аспект надзеі ў ёй, і ён трымае нас пры працы, пры намаганнях, пры надзеі, што гэтыя намаганні недарэмныя».*

***2016***

# Росквіт Акадэміі навук Беларусі[1]

Беларуская акадэмія навук (БАН) была створана ў снежні 1928 года і існуе пад рознымі назвамі ўжо амаль 90 гадоў. Найбольшага росквіту яна набыла ў той час, калі прэзідэнтам Акадэміі навук БССР на працягу амаль 18 гадоў (май 1969 — сакавік 1987 года) быў Мікалай Аляксандравіч Барысевіч.

Мой бацька, Гарэцкі Гаўрыла Іванавіч, нягледзячы на самы малады ўзрост (28 гадоў) за ўвесь час існавання акадэміі, быў у шэрагу першых акадэмікаў БАН і зацверджаны па спецыяльнасці «эканаміст-географ». Але ўжо ў 1930 годзе трапіў у ГУЛАГ. Галоўная яго мара — вяртанне на Бацькаўшчыну і праца ў Беларусі. Нягледзячы на поўную рэабілітацыю ў 1958 годзе, усе намаганні Г. І. Гарэцкага на зварот не атрымліваліся як былому «ворагу народа». Тое ж самае адбывалася і са мной, як сынам «ворага народа». Нарэшце, у 1965 годзе Г. І. Гарэцкі быў адноўлены ў званні акадэміка, але ўжо па спецыяльнасці «геалогія». Толькі ў 1969 годзе ён канчаткова змог пераехаць у Менск. М. А. Барысевіч з вялікай павагай аднёсся да Г. І. Гарэцкага, на той час самага старэйшага члена акадэміі, і ўсяляк падтрымліваў яго ў выкананні навуковых планаў.

Прэзідэнт АН БССР праз майго бацьку даведаўся аб маім існаванні, а яму як раз на той час прыйшла думка запрасіць на працу ў Акадэмію навук беларусаў, якія па розных прычынах аказаліся ў іншых гарадах Савецкага Саюза і сталі дастаткова вядомымі сапраўднымі вучонымі. У канцы 1970 — пачатку 1971 года Мікалай Аляксандравіч патэлефанаваў мне, а потым мы з ім сустрэліся. Ён мяне ўразіў сваёй энергіяй, рашучасцю, шчырым жаданнем зрабіць Акадэмію навук БССР больш моцнай, пашырыць і адкрыць новыя навуковыя напрамкі. Асабліва мне спадабалася, што ён хоча ўмацаваць навукі аб Зямлі (і перш-наперш геалагічныя навукі), а таксама некаторыя і біялагічныя навукі. Адначасова паабяцаў вырашыць праблему

[1] Тэрмапілы. — 2017. — № 21.

з кватэрай і з пытаннем працы ў адным інстытуце бацькі і сына (так званай «семейственностью»), якая не вельмі ўхвалялася.

У тыя гады большасць людзей і асабліва вучоныя імкнуліся жыць у Маскве, дзе было значна лепш з харчаваннем, магазінамі, бытам, чым у іншых гарадах Саюза, а навуковыя ўстановы па якасці і магчымасцях былі ў сваёй большасці таксама лепшымі. Геалагічны інстытут АН СССР, у якім я працаваў ужо каля 20 гадоў, быў лепшым не толькі ў СССР, а мусіць, і ў замежжы. У мяне былі вельмі добрыя перспектывы і навуковага, і кар'ернага росту. Калектыў супрацоўнікаў быў выдатны, мяне ўсе добра ведалі, бо мне прыйшлося ўпарта займацца не толькі навукай, але быць і намеснікам сакратара камсамола, і старшынёй мясцкама, і сакратаром партбюро, і нават дэпутатам Маскварэцкага райсавета. Калі даведаліся пра прапанову пераехаць у Менск, мой навуковы настаўнік і непасрэдны кіраўнік Аддзела рэгіянальнай тэктонікі акадэмік А. Л. Яншын (а я быў яго намеснікам па аддзеле) выказаўся супраць, такое ж стаўленне да гэтага было і ў дырэкцыі Інстытута (дырэктар акадэмік А. В. Пейве намякаў, што хацеў мяне бачыць сваім намеснікам), ну а большасць супрацоўнікаў і сяброў глядзелі на мяне, як на нейкага дзівака (а некаторыя нават называлі «вар'ятам»).

Памятаю, калі я прыехаў у Менск, Мікалай Аляксандравіч вельмі ўважліва мяне прыняў у Прэзідыуме АН БССР, выклікаў машыну і павёз мяне на вуліцу Каліноўскага ў новы дом. Паказаў мне розныя кватэры (усе яны былі стандартныя) і шырокім жэстам прапанаваў: «Выбірайце, якая спадабалася». Мяне зноў станоўча ўразіў М. А. Барысевіч такімі клапатлівымі адносінамі. Я стаў загадчыкам-арганізатарам Аддзела геатэктонікі Інстытута геахіміі і геафізікі АН БССР. У 1972 годзе мяне абралі членам-карэспандэнтам АН БССР.

Наш Інстытут тады знаходзіўся ў будынку разам з Інстытутам фізікі АН БССР, памяшкання для майго будучага аддзела не было, таму М. А. Барысевіч вылучыў два вялікіх пакоі ў

новым будынку, які быў спецыяльна пабудаваны для толькі што створанай Лабараторыі электронікі, якая праз два гады ў 1973 годзе стала Інстытутам электронікі АН БССР. Мікалай Аляксандравіч паехаў са мной у Лабараторыю электронікі, пазнаёміў з яе загадчыкам — маладым доктарам фізіка-матэматычных навук Уладзімірам Антонавічам Піліповічам, затым дырэктарам Інстытута электронікі (з 1977 года член-карэспандэнт, а з 1980 — акадэмік, мой сябар).

Тады, як і цяпер кіруючыя чыноўнікі ўсіх рангаў дужа любілі рэарганізацыю розных бакоў жыцця — ад простага побыту насельніцтва да народнай гаспадаркі, ад эканамічных праблем да навукі, культуры і адукацыі і г. д. (але ўсё пад эгідай палітыкі і ідэалогіі). Кожны раз успамінаўся неўміручы байкапісец Іван Крылоў з яго байкай пра музыкантаў: «А вы, друзья, как ни садитесь…» У 1963 годзе Інстытут геалагічных навук АН БССР быў перададзены ў сістэму Геалкама СССР (з 1970 года атрымаў назву Беларускі навукова-даследчы геолагаразведачны інстытут — БелНДГРІ). У акадэміі засталася невялічкая па складзе супрацоўнікаў Лабараторыя геахімічных праблем, якой кіраваў будучы віцэ-прэзідэнт АН БССР К. І. Лукашоў, які з 1971 года стаў першым дырэктарам новага Інстытута геахіміі і геафізікі.

У той час фінансаванне і навуковыя кадры былі поўнай прэрагатывай Прэзідыума АН БССР, які праз Аддзяленні навук вылучаў інстытутам працоўныя адзінкі і на іх фінансы. За гэтым працэсам асабліва ўважліва і строга сачыў сам Прэзідэнт АН БССР, прычым ён так дасканала ведаў склад навуковых супрацоўнікаў усіх устаноў АН БССР, ды і наогул усёй рэспублікі, што проста прыходзілася здзіўляцца такой памяці. Не адзін раз прыходзілася размаўляць з М. А. Барысевічам, каб адкрыць адзінку для таго ці іншага спецыяліста — у гэтых пытаннях ён быў заўсёды вельмі строгі і нават жорсткі. Асабліва часта мне прыйшлося з гэтай нагоды сустракацца, калі М. А. Барысевіч у 1977 годзе катэгарычна прапанаваў мне стаць дырэктарам Інстытута геахіміі і геафізікі (тады ж мяне абралі і акадэмікам

па спецыяльнасці «геалогія»). Трэба асабліва падкрэсліць адну важную і прынцыповую пазіцыю М. А. Барысевіча як кіраўніка АН БССР (што зусім адсутнічала ва ўсіх кіраўнікоў наступных гадоў і да сучаснасці) — ён у першую чаргу адразу прымаў дырэктараў устаноў акадэміі, ды і акадэмікам і членам-карэспандэнтам ніколі не адмаўляў у гэтым.

Толькі М. А. Барысевіч — выдатная асоба ў АН БССР — здолеў і сам працаваць як таленавіты вучоны, кіраўнік вядомага навуковага напрамку, і адначасова арганізаваць гарманічнае развіццё шырокага профіля навук і вывесці АН БССР на сталае і годнае трэцяе месца пасля АН СССР і АН УССР.

У тыя часы розныя пытанні пра пасаду члена КПСС звычайна вырашаліся без узгаднення з той асобай, якой гэта тычылася — усё залежала ад ЦК КПБ, КПСС і Савета Міністраў СССР і БССР. Толькі потым канчатковае рашэнне даводзілася да зацікаўленай асобы (у выніку адмовы можна было застацца без партбілета, што было раўназначным атрыманню «волчьего билета»). Так, у 1975 годзе, калі я яшчэ быў толькі загадчыкам аддзела Інстытута геахіміі і геафізікі і членам-карэспандэнтам, але актыўна ўдзельнічаў у розных навуковых акадэмічных і міністэрскіх праектах Масквы, мяне добра ведаў міністр геалогіі СССР акад. А. В. Сідарэнка. Ён прапанаваў мне стаць дырэктарам Беларускага навукова-даследчага геолагаразведачнага інстытута, а перад гэтым атрымаў станоўчую падтрымку ва ўсіх неабходных кіраўнікоў ЦК і СМ. Ён абяцаў мне розныя ільготы, выгоды, хуткі кар’ерны ўздым і г. д. Нягледзячы на шматлікія размовы са мной, я катэгарычна адмаўляўся. Тады я звярнуўся і да М. А. Барысевіча, які адразу прыняў мой бок і перагаварыў з кіраўнікамі БССР (і ў першую чаргу з А. Т. Кузьміным), і я змог далей працаваць у АН БССР. Цікава адбылося з самім акад. А. В. Сідарэнкам — ён у тым жа годзе быў абраны віцэ-прэзідэнтам АН СССР. Пазней, калі ён прыехаў у Менск і я яго сустракаў у групе прадстаўнікоў АН БССР, ён дакорліва паглядзеў на мяне і сярдзітым голасам выказаў не-

задавальненне: «Вы своим упрямством очень подвели меня». Я тады аджартаваўся: «Я прадчуваў, што Вы хутка будзеце на чале навук аб Зямлі ў АН СССР, і таму вырашыў застацца ў АН БССР, каб працаваць пад Вашым кіраўніцтвам». Ён засмяяўся, і мы «памірыліся».

У сярэдзіне 1970-х гадоў Прэзідэнт АН БССР разам з іншымі кіраўнікамі акадэміі дабіліся важнай пастановы ЦК КПБ (1-ы сакратар П. М. Машэраў) і Савета Міністраў БССР (старшыня Ц. Я. Кісялёў), якія добра ставіліся да М. А. Барысевіча і звычайна ішлі насустрач яго прапановам. Было вырашана пабудаваць прафілакторый у раёне Ракава для супрацоўнікаў Акадэміі, а таксама пачаць будаўніцтва Акадэмгарадка ў раёне Сляпянкі, дзе планавалася змясціць шэраг інстытутаў, у тым ліку і Інстытут геахіміі і геафізікі.

Праз некаторы час мы з прыемнасцю карысталіся выгодамі нашага прафілакторыя — у нас на чале з Мікалаем Аляксандравічам склалася добрая каманда «лыжнікаў», у якую ўваходзілі Уладзімір Платонаў, Уладзімір Піліповіч, Радзім Гарэцкі. Іншы раз да нас далучаўся яшчэ хто-небудзь. Звычайна ў студзені мы бралі адпачынак і з насалодай каталіся на лыжах. Апрача таго, часта сустракалі там і «стары» Новы год.

М. А. Барысевіч марыў стварыць Акадэмгарадок не горшы, чым ужо існуючы ў Сібірскім аддзяленні АН СССР, таксама з суседствам БДУ і жыллёвым масівам для супрацоўнікаў АН БССР і інш. Для будынка Інстытута геахіміі і геафізікі існаваў праект звычайнай шматпавярховай каробкі. Я звярнуўся да Мікалая Аляксандравіча, што патрэбны будынак больш арыгінальны. Ён адразу згадзіўся і даў загад распрацаваць новы праект, што і было зроблена. Гэта былі сучасныя збудаванні, якія складаліся з будынкаў двух інстытутаў (ІГіГ і ІБОХ) і блока агульнага прызначэння, дзе змяшчалася вялікая зала для пасяджэнняў, бібліятэка, сталовая, медпункт і інш. Будаўніцтва ў мяне і маіх памагатых адымала шмат сіл, але нягледзячы на наш пільны нагляд за будаўнікамі, націск на іх з боку кіраўні-

цтва АН БССР, у тым ліку і самога прэзідэнта, у тэрмін здачы будынак, з майго погляду, меў яшчэ шмат недахопаў. Тым не менш была прызначана вельмі салідная камісія па прыёмцы будынку, за чым сачылі прадстаўнікі ЦК КПБ і СМ. Досыць хутка ўсе члены камісіі падпісалі гэты акт, толькі я адзін адмовіўся. На мяне пачаўся націск з розных бакоў: будаўнікі абяцалі ліквідаваць усе недахопы хутка і яшчэ ў лепшым выглядзе, чым запланавана, і нават пабудаваць кернасхоў[1]; запрашалі на абеды і ў іх лазню-парылку, на што я адмаўляўся; высокія чыноўнікі з ЦК КПБ і СМ пужалі мяне рознымі пакараннямі па партыйнай і службовай лініі. Справа ў тым, што наш будынак мог сарваць выкананне дзяржаўнага плана будаўніцтва БССР. Я тады звярнуўся да М. А. Барысевіча, паказаў яму недахопы будаўніцтва, і ён пагадзіўся са мной. Мяне зноў абараніў Мікалай Аляксандравіч ад магчымых вялікіх непрыемнасцяў. Яшчэ некалькі гадоў з дапамогай будаўнікоў, а больш сваімі сіламі даводзілі будынак інстытута да ладу.

Мой бацька Г. І. Гарэцкі ў сваёй лабараторыі вывучаў валуны, якія вельмі цікавыя не толькі з навуковага боку, але з'яўляюцца часткай прыроды, важным аб'ектам гісторыі і культуры беларускага народа. Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч пісаў:

Дзе па роднай зямлі ні крочыў —
Скрозь — ад Прыпяці да Дзвіны —
Перш за ўсё мне ласкалі вочы
Жыта, сосны і валуны.

У апошнія гады пачалося знішчэнне валуноў на шчэбень і інш. Г. І. Гарэцкі заклікаў найбольш значныя валуны аб'явіць помнікамі прыроды, а на тэрыторыі Акадэмгарадка стварыць музей (эксперыментальную базу) валуноў. М. А. Барысевіч падтрымаў гэтую ідэю, і ў 1980 годзе Прэзідыум АН БССР прыняў пастанову аб будаўніцтве побач з Інстытутам геахіміі

[1] Керн — парода (у выглядзе слупка), здабытая са свідравіны.

і геафізікі спецыяльнага корпуса Геалагічнага музея, а за ім на плошчы 6 га Эксперыментальнай базы ледавіковых валуноў[1]. На месцы апошняй было балота і вялікі сметнік, ад якога ішоў смурод і была небяспека для здароўя. Па нашым заказе — зрабіць базу валуноў у выглядзе геаграфічнай карты Беларусі і шматлікімі celebrated розными раздзеламі геалогіі і культуры — інстытут «Белдзяржпраект» распрацаваў праект базы, а пазней і праект будынка Геалагічнага музея, але апошні так і не ўдалося здзейсніць. Спецыяльная група супрацоўнікаў ІГіГ не толькі вывучала валуны, але сваімі сіламі прывезла больш за 2000 валуноў (некаторыя з іх 15–16 т) з усёй Беларусі. Некалькі пад'ёмных кранаў аўтабазы АН БССР прыйшлося рамантаваць, а магутныя грузавікі аўтазавода прайшлі добрае выпрабаванне, аб чым мне ўдалося дамовіцца з М. С. Высоцкім.

Памятаю, як я з пытаннем пра базу валуноў прыязжаў да М. А. Барысевіча ў санаторый «Аксакаўшчына», дзе ён папраўляў здароўе. Мы з ім не толькі шмат гутарылі на гэтую тэму, але пайшлі на прагулку, знайшлі валун, які прэзідэнт АН БССР адабраў для музея. Ён і цяпер стаіць пад № 1 каля вялікага валуна пры ўваходзе з боку інстытута. Я хацеў зрабіць надпіс каля валуна аб гэтым, але Мікалай Аляксандравіч забараніў.

Дырэктар Аддзела навук аб Зямлі ЮНЕСКА В. Шыбрава, які наведаў інстытут у чэрвені 1988 года, быў вельмі ўражаны музеем валуноў і прапанаваў нам абавязкова па заканчэнні стварэння музея звярнуцца да яго, і ён упэўнены, што такі выдатны і адзіны ў свеце музей валуноў будзе ўзяты пад эгіду ЮНЕСКА. У кнізе ганаровых наведвальнікаў ён напісаў: «Ваши работы произвели на меня колоссальное впечатление, особенно отражённые в трудах института. Надеюсь на наше дальнейшее плодотворное сотрудничество в рамках международных программ ЮНЕСКО».

[1] Прыйшлося даць менавіта такую назву, бо для стварэння музея трэба было прасіць дазвол з Масквы.

Пазней я зноў атрымаў шмат непрыемнасцяў ад розных кіруючых чыноўнікаў ЦК КПБ, Савета Міністраў, Мінгарвыканкама, якія некалькі разоў прысылалі камісіі на чале з даволі высокімі асобамі, у тым ліку і мэра Менска. Галоўная прэтэнзія — як гэта я пасмеў захапіць у горада такую значную плошчу пад нейкае «глупства», а тут можна было б пабудаваць некалькі высотных будынкаў для жыхароў. Нават аднойчы прапанавалі вызваліць тэрыторыю ад валуноў. Мае «гарачыя» лекцыі пра навуковую і культурную значнасць музея валуноў усё ж выратавалі яго, а разам з ім і мяне ад магчымых вымоў.

Цяпер Парк камянёў мае статус помніка прыроды рэспубліканскага значэння, знаходзіцца ў падпарадкаванні Першамайскага райсавета і з'яўляецца ўнікальным музеем ў свеце. Нават не зусім пабудаваны, музей карыстаецца цікавасцю ў шматлікіх экскурсій, а для мясцовых жыхароў з'яўляецца адным з любімых месцаў для адпачынку.

Каб лягчэй было пазнаёміцца з музеем валуноў, мы выдалі некалькі буклетаў аб ім, а потым нават кніжку на беларускай і рускай мовах «Ледавіковыя валуны Беларусі: Эксперыментальная база вывучэння валуноў» (Мінск: Навука і тэхніка, 1993. 159 с.). В. Ф. Вінакураў зрабіў шмат публікацый і дакладаў пра музей, а таксама пра валуны — помнікі прыроды.

Важнай была дапамога М. А. Барысевіча па ўдасканаленні Плешчаніцкай геафізічнай абсерваторыі, а затым і будаўніцтве больш сучаснай і дасканалай на Нарачы. Яны ўвайшлі ў сусветную сетку такіх абсерваторый. Тут мы змаглі праводзіць шэраг міжнародных і ўсесаюзных канферэнцый. Цудоўныя мясціны, добрыя ўмовы жылля і атрымання геолага-геафізічных матэрыялаў спрыялі творчаму працэсу геолагаў і геафізікаў не толькі з Беларусі, але і з Расіі, Украіны і іншых краін, якія працавалі тут. Цяпер гэта самастойная арганізацыя — Цэнтр геафізічнага маніторынгу.

Не заўсёды М. А. Барысевіч падтрымліваў мяне. Так, у 1981 годзе ўзнікла сур'ёзная праблема выбару: мяне выклікаў

да сябе сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі А. Т. Кузьмін і паведаміў, што ў ЦК і СМ як у Менску, так і ў Маскве вырашана перавесці мяне на працу рэктарам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, прычым дадаў, што мне гэта вельмі выгодна (больш высокі аклад, стану дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, членам ЦК і інш.), а ў выпадку адмовы — не толькі кар'ерны рост закрыты, але дай Бог утрымацца дырэктарам Інстытута. Тым не менш я адмовіўся і спадзяваўся, што за мяне заступіцца Прэзідэнт АН. Але М. А. Барысевіч адмовіўся гэта зрабіць і сказаў, што супраць агульнай нашай «alma mater» адукацыі і навукі ён пайсці не можа. Досыць працяглыя размовы ў ЦК КПБ не пераканалі «ўпартага беларуса». Мяне актыўна падтрымаў мой бацька і нават патэлефанаваў А. Т. Кузьміну: «Вельмі прашу Вас пакінуць майго сына ў акадэміі — ён больш вучоны, а не арганізатар». Нарэшце Аляксандр Трыфанавіч зразумеў нас, абараніў мяне ад магчымых сур'ёзных непрыемнасцяў, і я зноў абышоўся толькі спалохам.

М. А. Барысевіч не любіў, калі яму ў нечым пярэчаць, і лічыў, што ва ўсіх яго рашэннях яго прыхільнікі павінны не спрачацца з ім, а толькі падтрымліваць. Я не заўсёды быў згодны з ім, і тады ён быў не задаволены і нават злаваўся, бо любіў больш паслухмяных. Відаць таму ён, сказаўшы мне і майму бацьку, што хоча мяне зрабіць віцэ-прэзідэнтам АН БССР, вырашыў прызначыць іншага акадэміка, але не ўлічыў, што ў многіх ёсць яшчэ адна якасць — здрада. З часам так яно і выйшла — Мікалай Аляксандравіч вельмі перажываў гэта і нават жаліўся мне.

З часам мы наладзілі навуковую працу інстытута, прывялі ў парадак як інтэр'ер будынка, так і яго наваколле (не толькі зусім блізкае, але і недалёкі лясны масіў), прычым да нас прыязджаў М. А. Барысевіч, каб ацаніць нашу працу — увогуле застаўся задаволены, але і даў шэраг каштоўных прапаноў.

Толькі дзякуючы магутнай падтрымцы М. А. Барысевіча, ужо ў пачатку 1980-х гадоў удалося стварыць буйную наву-

ковую ўстанову: ў Інстытуце геахіміі і геафізікі працавала 370 чалавек (у тым ліку 170 навуковых супрацоўнікаў — з іх 14 дактароў, 71 кандыдат навук), сфармавалася 7 самабытных навуковых школ па галоўных напрамках геалагічных навук, шырока вядомых у СССР і замежжы; супрацоўнікі адзначаны Дзяржаўнымі прэміямі СССР — 3 і БССР — 3, прэміяй Ленінскага камсамола БССР і інш.; выконваліся многія міжнародныя навуковыя праграмы, вырашаліся ўсесаюзныя праблемы і г. д.

У інстытуце быў шырокі комплекс аналітычных даследаванняў па вывучэнні горных парод, мінералаў, вод, газаў, глебы, раслін, выкапнёвых рэштак з дапамогай шматлікіх метадаў і навуковай апаратуры; працаваў кабінет карт геалагічнага зместу; аддзел навукова-тэхнічнай інфармацыі і выдання навуковых прац; бібліятэка; дзейнічала аспірантура і вучоны савет па абароне дысертацый; геалагічны музей; інстытуцкі радыёвузел і інш. Існаваў строгі парадак: у агульнай раздзявальні ўсе супрацоўнікі абавязкова распраналіся, курылі ў асобных месцах, усюды было шмат кветак, шыльды і інфармацыя пра лабараторыі (на беларускай мове); рэгулярна вывешвалася насценная газета; дошка з партрэтамі лаўрэатаў Дзяржаўных прэмій, пераможцаў конкурсаў навуковых прац; працавала саўна з басейнам, пакой для спортзаняткаў з адпаведнымі прыладамі і г. д. Аб'ядноўваў калектыў удзел у агульных адзначэннях розных свят, самадзейнасці, экскурсіях і інш.

У кнізе ганаровых наведвальнікаў Інстытута можна прачытаць «современный, продуманно организованный институт, какому могут позавидовать московские институты», «созданы условия, близкие к идеальным», «так красиво оформлено помещение института и по деловому организованы научно-исследовательские работы», «институт… широко известен в стране и за рубежом», «уникальный музей валунов» і г. д.

Пасля гібелі П. М. Машэрава, смерці Ц. Я. Кісялёва першым сакратаром ЦК КПБ стаў М. Н. Слюнькоў, які вельмі адмоўна ставіўся да М. А. Барысевіча. Гэтаму яшчэ і спрыяла Чарно-

быльская катастрофа, да якой у іх былі супрацьлеглыя адносіны і шляхі вырашэння сітуацыі. У красавіку 1987 года па прапанове ЦК КПБ (а яна тады фактычна была абавязковай) М. А. Барысевіч, які хацеў і далей працаваць Прэзідэнтам АН БССР (і таму яго кандыдатура на выбарах абмяркоўвалася Агульным сходам акадэміі) не набраў неабходнай колькасці галасоў. Прэзідэнтам АН БССР быў абраны акадэмік У. П. Платонаў. Гэты апошні, які доўгі час быў самым любімым вучнем і сябрам М. А. Барысевіча, сваёй здрадай нанёс яму моцны ўдар, які ён цяжка перажываў. Далей М. А. Барысевіч быў пастаўлены ў такія ўмовы, што яму прыйшлося з’ехаць на працу ў Маскву. Толькі мужны «партызанскі» характар Мікалая Аляксандравіча дазволіў яму перанесці гэтыя падзеі без інфаркту ці інсульту.

Ніхто з наступных кіраўнікоў Акадэміі навук Беларусі не разумеў разнастайную фундаментальную і прыкладную сутнасць геалагічных навук (цікавіліся толькі карыснымі выкапнямі) і таму не падтрымлівалі іх развіццё ў акадэміі. М. А. Барысевіч вялікую ўвагу аддаваў не толькі сваім любімым фізіка-матэматычным навукам, але і «рэгіянальным» навукам (гісторыі, мове, літаратуры, мастацтву, фальклору, навукам аб Зямлі, батаніцы, заалогіі і інш.), якія ў першую чаргу тычацца Беларусі (безумоўна, з сусветным улікам), якія дасканала могуць развіваць толькі вучоныя нашай краіны.

Геалагічныя навукі ў АН Беларусі атрымалі знішчальны разгром у час кіраўніцтва акадэміяй М. У. Мясніковічам, калі Інстытут геахіміі і геафізікі і іншыя геалагічныя ўстановы былі перададзены міністэрству прыроды разам з іх памяшканнямі, у тым ліку і будынак Інстытута, апрача аднаго блока. Гэты працэс працягнуўся і далей. У Беларусі зусім няма інстытутаў геалагічнага профілю[1]. Сучаснае кіраўніцтва НАН Беларусі поў-

[1] У кастрычніку 2016 года міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя выдаў пастанову аб стварэнні Інстытута геалогіі — філіяла «НВЦ па геалогіі». Улічваючы яго галоўнае прызначэнне, больш правільна яго трэба было б назваць Інстытутам мінеральнай сыравіны.

насцю перадала будынак былога Інстытута геахіміі і геафізікі Мінпрыродзе. Шматлікія вольныя пакоі Цэнтр для фінансавай падтрымкі перадаваў у арэнду. Цяпер некалі «прыгожае памяшканне» не пазнаць — гэта «прахадны двор», па якім ходзяць апранутыя ў паліто ці футры людзі (большасць належаць арандатарам, не маючым адносін да геалогіі) і працаваць у якім вельмі непрытульна. Асабліва крыўдна і цяжка бачыць такі сучасны стан геалагічных навук і будынка Інстытута геахіміі і геафізікі, для станаўлення і развіцця якіх я аддаў столькі сіл. Я адчуваю сябе пушкінскім старым, які застаўся ля разбітага карыта, і ўспамінаю незабыўны час росквіту АН БССР і яе Прэзідэнта — выдатнейшага дзеяча Мікалая Аляксандравіча Барысевіча.

*2016*

## Пра навуку на Новы год[1]

Звычайна на Новы год вучоныя ўздымаюць два пытанні: у якім стане навука, а таксама *што* і *як* зроблена за мінулы час. Але самае галоўнае пытанне: што трэба зрабіць, каб падняць на належны ўзровень беларускую навуку, без якой нельга пабудаваць краіну з перадавой эканомікай, багатай народнай гаспадаркай і развітай культурай?

На жаль, за апошнія дзесяцігоддзі навука ў Беларусі трапіла пад адміністрацыйна-камандны дыктат, у выніку якога апынулася ў крызісным стане: фундаментальныя навукі, якімі галоўным чынам павінна займацца Нацыянальная акадэмія навук, у значнай ступені заменены прыкладнымі, сама акадэмія ператворана ў навукова-практычную карпарацыю і г. д.

Чаго хочацца пажадаць на будучыню?

Трэба не забывацца, што задачы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і наогул навукі — гэта атрыманне новых ведаў,

[1] Тэрмапілы. — 2017. — № 21.

выпрацоўка прапаноў па выкарыстанні новых тэхналогій і пошук шляхоў рэалізацыі гэтых прапаноў. Неабходна развіваць фундаментальныя навукі, якія павінны фінансавацца з бюджэту. Дарэчы, у 1990 годзе фінансаванне беларускай навукі складала 2,3 % ад аб'ёму валавога ўнутранага прадукту, а цяпер знізілася да 0,26 %. Як любіць казаць гаспадар дзяржавы, ніжэй за плінтус… Думаю, што трэба поўнасцю адкінуць думку аб пераводзе інстытутаў, якія ствараюць фундаментальныя веды ў галіне базавых і рэгіянальных навук, ва ўніверсітэты і міністэрствы. Маё пажаданне: аднавіць у НАН Беларусі кірунак геалагічных навук, якія перададзены ў Мінпрыроды, а там зрабіць Інстытут мінеральных рэсурсаў.

Неабходна асаблівую ўвагу звярнуць на развіццё рэгіянальнай навукі — гісторыі, мовы, літаратуры, мастацтва, фальклору, навукі аб зямлі і іншых, якія могуць глыбока распрацоўваць толькі вучоныя нашай краіны! Трэба спыніць стварэнне навукова-практычных цэнтраў, якія галоўным чынам толькі імітуюць навуковую дзейнасць. Неабходна прыняць меры, каб прываблівац моладзь да навуковай дзейнасці, перш за ўсё — нармальнай зарплатай. Безумоўна, патрэбна дэмакратызацыя Акадэміі навук, неабходна вярнуць большасць ранейшых палажэнняў у Статут НАН Беларусі, у прыватнасці, выбарнасць кіраўнікоў акадэміі розных узроўняў, у тым ліку і старшыні Прэзідыума НАН Беларусі.

І апошняе: вялікае пажаданне, каб у Нацыянальнай акадэміі навук беларуская мова не адчувала сябе як чужаземка, а была сваёй, роднай.

З надыходзячым Новым годам!

*2016*

## 2017 год — Год памяці ахвяр бальшавізму[1]

Вядомы гісторык Ігар Кузняцоў у двух нумарах газеты «Народная Воля» (31 студзеня і 1 лютага 2017 г.) надрукаваў артыкул «Большевистский террор (забвению не подлежит…)». Ён у чарговы раз нагадаў пра масавае знішчэнне «контррэвалюцыйных элементаў», якое прывяло да стварэння расстрэльнай «прамысловасці», калі смяротнае пакаранне стала бытавой з’явай.

Скарочаныя назвы карных органаў — ОГПУ-НКВД-МГБ-КГБ — прыводзілі мільёны людзей у жах, а прозвішчы іх карнікаў (Дзяржынскі, Ягода, Яжоў, Берыя і многіх іншых) выклікалі страх і нянавісць. Кожны савецкі грамадзянін з непакоем чакаў начны стук у дзверы, бо ведаў, што могуць прыйсці «кампетэнтныя» людзі, зрабіцьператрус і забраць у «чорны воран». Мне давялося ў дзіцячыя і школьныя гады быць сведкам такіх начных наведвальнікаў тры разы: калі арыштоўвалі майго бацьку ў Менску і Мядзведжай Гары (Карэлія), а таксама роднага дзядзьку Сяргея Восіпавіча Парфяновіча ў Запарожжы. Нягледзячы на тое, што я меў зусім мала гадоў, тыя падзеі нанеслі маёй душы моцную рану, якую я адчуваў усё жыццё, і нават цяпер, у свае 88 гадоў, шрам ад яе не дае мне спакою.

Крывавы тэрор супраць уласнага народа праводзіўся пад кіраўніцтвам бальшавіцкай зграі на чале з Леніным і Сталіным, якія, дзякуючы спрытнай дэмагогіі і хлусні, доўгі час умудраліся хаваць праўду ад грамадства. Толькі ў час хрушчоўскай адлігі і асабліва ў час перабудовы сталі вядомы многія факты бальшавіцкага тэрору, хаця шмат якіх застаюцца яшчэ сакрэтнымі.

Ігар Кузняцоў паведамляе, што паводле афіцыйных даных у БССР у 1920–1940-я гады было рэпрэсавана больш за 600 тысяч чалавек (а паводле падлікаў незалежных даследчыкаў — звыш паўтара мільёна). Як цяпер вядома, у тыя гады толькі ў

[1] Тэрмапілы. — 2017. — № 21.

Менску было больш за дзесяць месцаў масавых расстрэлаў (Курапаты, раёны Камароўскага рынку, Лошыцы, Дражні, Сляпянкі, Масюкоўшчыны і інш.), а па ўсёй рэспубліцы іх налічвалася не менш за сорак.

1937 год — пік бальшавіцкага тэрору. Асабліва трагічны дзень у гісторыі беларускага народа — 29 кастрычніка 1937 года, калі за адну ноч сталінскія каты расстралялі больш за сотню выдатных прадстаўнікоў творчай, тэхнічнай і дзяржаўнай інтэлігенцыі. За ўвесь час існавання БССР да 1953 года ў Беларусі было знішчана звыш паловы прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі. А колькі яшчэ раней рэпрэсавана і выслана за межы Беларусі — у тым ліку і мой родны дзядзька — класік беларускай літаратуры Максім Гарэцкі, якога расстралялі 10 лютага 1938 года ў Вязьме. Безумоўна, каб не гэтыя згубы, цяпер мы жылі б у іншай, больш багатай, цывілізаванай, беларускай Беларусі.

З 1937 года прайшло 80 гадоў. Ігар Кузняцоў і яго калегі справядліва прапануюць 2017 год абвясціць Годам памяці ахвяр бальшавіцкага тэрору, а таксама спецыяльна адзначыць памяць ахвяр 29 кастрычніка 1937 года. Я поўнасцю падтрымліваю гэтую вельмі своечасовую ініцыятыву. Патрэбны помнікі ўзгаданым суайчыннікам у месцах іх масавых расстрэлаў, як гэта зроблена ахвярам Другой сусветнай вайны; у імя будучыні неабходна асэнсаваць трагічнае мінулае, усім адчуць за гэта адказнасць; на дзяржаўным узроўні асудзіць бальшавіцкі тэрор, правесці грамадзянскае пакаянне і іншыя дзеянні, каб такая з’ява больш ніколі не спасцігла народ. Свой вялікі артыкул Ігар Кузняцоў заканчвае вельмі правільнымі словамі: «…без принятия на себя этого в самом деле тяжелейшего груза ответственности за прошлое у нас не будет никакой национальной консолидации и никакого возрождения».

*2017*

# 500-годдзе беларускага кнігадрукавання[1]

6 жніўня 2017 года ўвесь культурны, асабліва беларускі, свет будзе адзначаць найвялікшую дату ў гісторыі нашай краіны: 500-годдзе беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання, калі Францішак Скарына адгарнуў новую старонку нашай культуры, зрабіўшы кнігу даступнай шырокаму колу грамадства — у чэшскай Празе надрукаваў першую Біблію на рускай мове. Шэраг дзеячаў у галіне культуры, навукі, мастацтва, у тым ліку і я, звярнуліся да грамадства і ўладных структур з прапановамі па ўшанаванні памяці Францішка Скарыны. Я хачу звярнуць увагу толькі на адну вельмі важную і яскравую прапанову: наданне Нацыянальнаму аэрапорту «Мінск» імя Францішка Скарыны, што адразу павысіла б імідж нашай культуры ў свеце. Людзі з розных краін ведалі б, што ў нас ужо на пачатку XVI стагоддзя на старабеларускай мове друкавалі кнігі, быў створаны Статут Вялікага Княства Літоўскага — самы дасканалы на той час у Еўропе збор законаў і інш. Пасажыры аэрапорта даведаліся б не толькі пра савецкае мінулае нашай краіны, але і пра багатую самабытную культуру. На жаль, в. а. дырэктара Дэпартамента па авіяцыі І. В. Марозава адказала, што наша прапанова «адмоўна адаб'ецца на тэрмінах і кошце работы па маштабнай мадэрнізацыі, якая звязана з будаўніцтвам другой узлётна-пасадачнай паласы і наступным капітальным рамонтам дзейнай». Нам не зразумела, як дадатак «імя Францішка Скарыны» да назвы аэрапорта перашкодзіць мадэрнізацыі — наадварот, яна сведчыць, што гэта цяпер самы час.

Створаны Грамадскі аргкамітэт па правядзенні свята, які распрацаваў вялікую праграму канкрэтных мерапрыемстваў (у тым ліку святкаваць Дзень друку 6 жніўня). Вельмі прыемна адзначыць, што гэту выдатнейшую падзею ў гісторыі нашай краіны вырашана правесці на дзяржаўным узроўні.

***2017***

---

[1] Тэрмапілы. — 2017. — № 21.

# 100 гадоў Усебеларускаму з’езду 1917 года[1]

Першая сусветная вайна, рэвалюцыя прывялі да развалу Расійскай імперыі, што спрыяла нацыянальнаму самавызначэнню народаў, у тым ліку і беларускага. У кастрычніку 1917 года ў Менску была створана Вялікая Беларуская рада, якая разам з Цэнтральнай беларускай вайсковай радай і Беларускім выканаўчым камітэтам Заходняга фронту звярнулася з адозвай да беларускага народа — прыслаць 5 снежня 1917 года дэлегатаў у Менск на Усебеларускі з’езд. Адначасова Беларускі абласны камітэт пры Усерасійскім савеце сялянскіх дэпутатаў у Петраградзе таксама прапанаваў «надзвычайны беларускі з’езд». Беларуская народная грамада ў Маскве, распрацаваўшы сваю схему арганізацыі ўлады ў Беларусі, збіралася правесці выбары ў Беларускую краёвую думу, але пазней далучылася да працы менскага і петраградскага цэнтраў. Краёвае арганізацыйнае бюро, якое ўтварылася ў лістападзе 1917 года ў Менску, таксама выступіла ініцыятарам Усебеларускага з’езда ў самым канцы снежня.

Нарэшце галоўная праца па падрыхтоўцы да з’езда сканцэнтравалася ў Вялікай Беларускай радзе (Менск) і Беларускім абласным камітэце (Петраград), паміж якімі разгарнуліся вострыя спрэчкі і саперніцтва. Калі першая прапанавала накіраваць дэлегатаў 5 снежня ў Менск, дык другая — паміж 10 і 15 снежня ў Рагачоў. У атмасферы недаверу і ўзаемнай падазронасці ў Менску і Петраградзе сустракаліся прадстаўнікі зацікаўленых бакоў, каб выпрацаваць супольны план падрыхтоўкі з’езда. Дзеля агульнанацыянальных інтарэсаў паступова намячалася збліжэнне іх пазіцый. Калі з месцам правядзення з’езда — сталіца Беларусі Менск — дамовіліся, дык наконт пачатку «абласнікі» (петраградцы) цвёрда настойвалі толькі на 15 снежня. Яны адцягвалі пачатак з’езда, бо спадзяваліся атрымаць ад бальшавіцкіх улад фінансавую падтрымку, якой

[1] Народная Воля. — 2017. — 23 чэрвеня.

вельмі не хапала для правядзення з’езда. 2 снежня СНК пад старшынствам У. І. Леніна пастанавіў выдзеліць Беларускаму абласному камітэту 50 тыс. рублёў для арганізацыі з’езда. Такі крок бальшавікоў тлумачыцца складанымі палітычнымі абставінамі. У Берасці пачыналіся мірныя перамовы выхаду Расіі з вайны. Бальшавіцкі ўрад падкрэсліваў сваю прыхільнасць да дэмакратычных прынцыпаў, праводзіў палітычныя манеўры з мэтай расколу ў сялянскай і нацыянальнай дэмакратый, пасварыць «радаўцаў» і «абласнікоў», але пакуль што не насмеліваўся скончыць з беларускай праблемай сілавымі метадамі.

5 снежня 1917 года ў Менск пачалі з’язджацца прадстаўнікі арганізацый па запрашэнні Вялікай Беларускай Рады, а 7 снежня было ўжо 500 чалавек з вырашальным голасам і 200 — з дарадчым. Многія дэлегаты патрабавалі не цягнуць з афіцыйным адкрыццём з’езда да 15 снежня, а зрабіць гэта ўжо ўвечары 7 снежня. У Менскім гарадскім тэатры паміж 20 гадзінамі 45 хвілінамі 7 снежня і першай гадзінай ночы 8 снежня пачалося пасяджэнне, якое адкрыў урачыстымі словамі С. Рак-Міхайлоўскі, якія закончыў воклічам: «Няхай жыве вольная Беларусь!» Дэлегатаў уразілі беларускія гімны ў выкананні хору, апранутага ў нацыянальныя строі. 9 снежня быў выбраны прэзідыум у складзе 15 чалавек на чале з С. Рак-Міхайлоўскім. Ганаровымі старшынямі з’езда выбралі рэвалюцыянера-народніка А. Бонч-Асмалоўскага і акадэміка Я. Карскага. Пачалося фармаванне секцый і камісій.

З прыездам ў Менск Беларускага абласнога камітэта і яго прыхільнікаў узнікалі вострыя канфлікты, якія прыводзілі амаль да расколу. Але перамаглі цяжкія крокі насустрач у імя агульнанацыянальнага адзінства. 14 снежня з’езд выбраў новы прэзідыум на чале з Я. Серадой. Для аператыўнага разгляду палітычных пытанняў была сфарміравана Рада з’езда ў складзе 60 чалавек. Ад 5 да 17 снежня мандатная камісія (старшыня П. Крачэўскі) выдала 1872 мандаты, у тым ліку 1167 — з правам вырашальнага голасу і 705 — з правам дарадчага.

Перамовы ў Берасці без удзелу беларусаў выклікалі небяспеку ў захаванні цэласнасці тэрыторыі Беларусі, і таму неабходна было закласці асновы дзяржаўнасці. 15–17 снежня на з'ездзе разгарнуліся вельмі вострыя спрэчкі: «радаўцы» выступалі за абвяшчэнне Беларусі незалежнай рэспублікай, «абласнікі» — толькі ў складзе федэратыўнай Расіі. Нарэшце выпрацавалі кампрамісную формулу, па якой умацоўваецца права на самавызначэнне Беларускай рэспублікі, утвараецца орган краёвай улады ў асобе Усебеларускага Савета сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў — аўтаномнае кіраванне ў агульнарасійскай супольнасці народаў і краёў. Паколькі лінія бальшавікоў на раскол правалілася, яны ноччу з 17 на 18 снежня 1918 года ўзброенымі салдатамі на чале з п'яным начальнікам Менскага гарнізона М. Крывашэіным і членам СНК Заходняй вобласці і фронту Л. Рэзаўскім гвалтоўна разагналі з'езд, а членаў прэзідыума і некаторых дэлегатаў нават арыштавалі (дасканала і глыбока ўсе гэтыя падзеі разгледзеў Станіслаў Рудовіч у кнізе «Час выбару: Праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 годзе» (Мінск: Тэхналогія, 2001. 201 с.).

Усебеларускі з'езд 1917 года — першы ў гісторыі агульнанацыянальны форум беларусаў, які дазволіў атрымаць аўтаномную сістэму кіравання краем. Ён стаў падмуркам абвяшчэння 25 сакавіка 1918 года нацыянальнамі дэмакратамі-адраджэнцамі аб утварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі як вольнай і незалежнай дзяржавы. Стварэнне ў 1918 годзе БНР — першай незалежнай беларускай дзяржавы — вялікае свята беларусаў усяго свету, якому на наступны год будзе 100 гадоў. Калі не адбыўся б Усебеларускі з'езд 1917 года, не была б абвешчана БНР. Толькі дзякуючы апошняй, 1 студзеня 1919 года ўзнікла БССР, на базе якой у 1991 годзе была створана суверэнная Рэспубліка Беларусь. Улічваючы вялікае значэнне ўсіх пералічаных падзей, беларуская грамадскасць адзначае іх, асабліва стварэнне незалежнай БНР і яе 100-годдзе, таму гэтую дату як вялікае свята павінна падтрымаць і кіраўніцтва

дзяржавы РБ, якое ўвесь час падкрэслівае, што яно змагаецца за незалежнасць Беларусі, бо сапраўдным падмуркам гэтаму з'яўляецца БНР.

У 1922 годзе ў віленскім тыднёвым часопісе «Беларускі звон» ад 1 верасня з'явілася апавяданне «Усебеларускі з'езд 1917 года», падпісанае псеўданімам *Я. С.* Толькі пасля вяртання імя і твораў рэпрэсаванага пісьменніка стала вядома, што аўтар гэтага апавядання — Максім Гарэцкі, якое было зноў апублікавана ў кнізе «Творы» (Мінск: Мастацкая літаратура, 1990. С. 128–132). У «Спісе маіх твораў», зробленых у ліпені 1928 года, М. Гарэцкі пазначыў «Усебеларускі з'езд 1917 года» як адзін з пунктаў плана да аповесці «Дзве душы». Аўтар тады меў намер перапрацаваць гэты твор.

Максім Гарэцкі вельмі праўдзіва і дасканала асвяціў шэраг яркіх падзей і агульны настрой з'езда. Пісьменнік у той час жыў у Смаленску і лічылася, што ён на з'ездзе не прысутнічаў. Але адкуль М. Гарэцкі так падрабязна мог ведаць пра тыя падзеі, як быццам сам іх бачыў. Магчыма, мела рацыю Зоська Верас, якая сцвярджала, што як быццам на з'ездзе бачыла сярод прысутных Максіма Гарэцкага, аб чым у 2010-м годзе паведаміў Уладзімір Содаль, які спаслаўся на адзін з лістоў Зоські Верас да яго, дзе яна ўзгадвала пра Усебеларускі з'езд 1917 года.

*2017*

## Найстарэйшы пісьменнік Беларусі[1]

8 траўня 2017 года ў Менску на 98-м годзе жыцця памёр знакаміты паэт, празаік, публіцыст, перакладчык Мікола Якаўлевіч Аўрамчык.

З Міколам Аўрамчыкам я пазнаёміўся яшчэ ў канцы 1970-х гадоў, калі ён працаваў загадчыкам аддзела паэзіі часопіса «Маладосць». Я ведаў пра яго трагічны лёс, які двойчы

---

[1] Тэрмапілы. — 2017. — № 21.

прыводзіў яго на мяжу жыцця і смерці, але абодва разы ён нейкім цудам уваскрос. У канцы чэрвеня 1942 года радавога Волхаўскага фронту Аўрамчыка камандуючы здаў разам з усім падраздзяленнем у палон, і ён да канца красавіка 1945 года трапіў у пекла Рурскіх шахтаў. Вызваліла яго англійскае войска, і Мікола апынуўся ў руках СМЕРШа, якія не выканаўшых загад Сталіна «не здавацца ў палон, а канчаць жыццё самагубствам», звычайна расстрэльвалі, але тут пакінулі яму жыццё і зусім слабага адправілі ў савецкае падзямелле — шахты Данбаса, дзе ён зноў, як зняволены ваеннапалонны, быў у голадзе, здзеках, невыносных умовах. Увесну 1946 года працягнуў вучобу ў Менску.

Мяне Мікола Якаўлевіч уразіў сваёй высокай чалавечай годнасцю, надзвычайнай добразычлівасцю, жыццярадаснасцю, шчырасцю адносін да аўтараў часопіса «Маладосць», асабліва да маладых паэтаў, радасцю за поспехі сваіх калег і найбольш вучняў, поўнай адсутнасцю зайздрасці. Але Мікола Аўрамчык і сам пільна працаваў, выдаў шэраг кніг, у якіх паэт апавядаў пра сваю любоў да Бацькаўшчыны, пра вайну і сваё жыццё, каханне, роздум пра гістарычны лёс народа і г. д. За кнігу «Сустрэча былых канагонаў» (1963) ён атрымаў Літаратурную прэмію імя Янкі Купалы, а пазней стаў заслужаным работнікам культуры Беларусі (1980).

У 1980 годзе Мікола Аўрамчык звольніўся з працы і паехаў пажыць у Ялту, каб падлячыць лёгкія, якія ўвесь час турбавалі паэта пасля таго, як надыхаліся вугальным пылам Рура і Данбаса.

Ён напісаў раман «У падзямеллі» (1986) і аповесць «Палон» (1989), у якіх на аўтабіяграфічнай аснове праўдзіва паведаміў пра жудасныя цяжкасці такіх пачуццяў як ганьба, страх, голад, нуда па Бацькаўшчыне, жаданне скончыць усе мукі самагубствам, і ў той жа час — пра малыя, але выратавальныя радасці, успаміны і надзеі; важна, што аб'ектыўна паказаў — сярод «сваіх» ёсць «звяры», а нават сярод «чужых» ёсць «людзі».

У штольнях Рура і Данбаса крапежныя сосны нагадвалі яму беларускую сасну, родную Беларусь, што падмацоўвала яго сілы — менавіта там ён напісаў выдатны верш «Беларуская сасна». Як адзначыў Пімен Панчанка: *«У многіх паэтаў ёсць адзін верш, у якім нібыта сканцэнтравана ўся сутнасць і асаблівасць іх паэзіі. [...] У М. Аўрамчыка такім вершам я назваў бы "Беларускую сасну"... Тут усё хораша: і думка, і сюжэт, і вобразнасць. Адразу адчуваеш і гордасць за сваю працу, лірычнага героя, і любоў да роднай Беларусі з баравымі соснамі. Але галоўнае — верыш шчыраму даверліваму голасу паэта»*.

Мікола Аўрамчык пакінуў вельмі цікавыя ўспаміны, эсэ пра многіх пісьменнікаў, дзяржаўных дзеячаў, ён зрабіў шмат перакладаў на беларускую мову з розных іншых моў. Шчырыя, сардэчныя адносіны да родных, сяброў, пісьменнікаў, Аўрамчык часта перадаваў праз жанр прысвячэння. З вялікай удзячнасцю і гонарам успамінаю, што і я трапіў у пералік вершаў Міколы Якаўлевіча з прысвячэннем. 7 снежня 1998 года мне споўнілася 70 гадоў і атрымалася так, што шэраг установаў і згуртаванняў, у якіх я працаваў ці ўдзельнічаў у іх справах, вырашылі адзначыць 70-годдзе. Такога больш ніколі ў мяне не было. Але самая выдатная і незабыўная юбілейная сустрэча адбылася 18 снежня ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы, якую арганізавалі Ядвіга Юльянаўна Раманоўская і Жанна Казіміраўна Дапкюнас. Вяла сустрэчу Людміла Сцяпанаўна Давыдоўская. Вось тады Мікола Аўрамчык падараваў мне дзве свае кнігі: «Запрашэнне да роздуму» (1994) і «Анкета» (1990). На першай ён зрабіў надпіс: *«Дарагому Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму — на добры ўспамін. 7.XII.98. Мікола Аўрамчык»*. На другой ён пад сваім вельмі прыгожым фотаздымкам напісаў: *«Дарагому Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму — у дзень яго 70-годдзя, па-сяброўску, шчыра. Мікола Аўрамчык. 7.XII.98»*. На форзацы кнігі сваёй рукой напісаў верш «Род акадэмікаў», які прысвяціў мне і які я пазней надрукаваў у кнізе «Акадэмік

Гаўрыла Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы. Да 100-годдзя з дня нараджэння».

***Род акадэмікаў***

*Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму*

Мо таму, што ў Малой Багацькаўцы
Як бы добра ні працапаў народ,
А ўсё роўна мала багацця меў, —
Нарадзіўся акадэмікаў род.

Як на баравіне праўдзівікі
Пасярэдзіне верасоў густых,
Вылюднелі ў вёсцы на дзіва ўсім
Два крамяныя родныя браты.

Большы з іх, згодна дару божага,
Апярэджваючы хаду падзей,
Словамі пісьменства прыгожага
Зачароўваў і захапляў людзей.

Лад не званне даў ганаровае
Акадэміка за гэта яму, —
Пакаранне вынес суровае,
Расстраляў, спярша кінуўшы ў турму.

З сілай волі і з цвёрдай мэтаю
Акадэмікам стаць і меншы змог…
Волата і асілка гэтага
Не зламалі ні ссылкі, ні астрог.

Ён умеў адшукваць радовішчы,
Ён нямала каналаў збудаваў,
Гідравузлоў і вадасховішчаў,
Акадэміка-сына ўзгадаваў.

Каб не толькі свае дый бацькавы
Сын задумы ажыццяўляў мудрэй,

А таксама і ў справах дзядзькавых
Мог пляменнік з годнасцю весці рэй.

*7.XII.1998*[1]

Паміж Міколам Аўрамчыкам і Нілам Гілевічам было даўняе і шчырае сяброўства, і раптам разыграліся вельмі гарачыя спрэчкі з-за аўтарства знакамітай паэмы «Сказ пра Лысую гару». Памятаю, як Ніл чакаў падтрымкі ад Янкі Брыля, але той маўчаў. Неяк у мяне з ім зайшла гаворка на гэтую тэму. Янка мне адказаў, што Мікола яго такі ж добры сябар, як і Ніл, і таму ён не хоча сварыцца ні з тым, ні з тым — няхай разбіраюцца самі. І прывёў прыклад яго калектыўнай творчасці над кнігай «Я з вогненнай вёскі», якую пісалі не два, а тры пісьменнікі. І калі кніга выйшла з друку, дык усе яе аўтары вырашылі проста спаліць свае рукапісы, каб не было ніякіх непаразуменняў паміж імі ні пры жыцці, ні пасля, каб аматары (а такіх было шмат) не разбіралі, як, колькі і якую частку хто з аўтараў напісаў.

На светлую памяць выдатнейшы беларускі пісьменнік, змагар за беларушчыну, настаўнік маладых паэтаў, сардэчны і шчыры чалавек, дарагі мой сябар Мікола Якаўлевіч Аўрамчык, як бы на развітанне, пакінуў мне «Выбраныя творы» з серыі «Мастацкая літаратура» «Беларускага кнігазбору» (2015), надпіс на кнізе прадыктаваў сваёй любай дачцэ Святлане Мікалаеўне: *«Дарагому Радзіму Гаўрылавічу з глыбокай павагай і сяброўскімі пажаданнямі ўсяго найлепшага ў жыцці і ў працы. 20.05.16 г.».* Сам зрабіў толькі подпіс — *«М. Аўрамчык»*. Мая ўдзячнасць — бязмерная. Імя Міколы Аўрамчыка і яго таленавітыя творы будуць жыць вечна ў гісторыі беларускай літаратуры!

*2017*

---

[1] Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы. Да 100-годдзя з дня нараджэння / укл. Р. Г. Гарэцкі, Р. А. Зінава; пад рэд. Р. Г. Гарэцкага. — Мінск: Тэхналогія, 2000. — 420 с.

# Славуты беларус з Прапойска (Слаўгарада)[1]

У адной з найпрыгажэйшых мясцін Беларусі, там, дзе р. Проня ўпадае ў р. Сож, у горадзе Прапойску ў 1926 годзе нарадзіўся Фелікс Уладзіміравіч Шкірманкоў — ветэран вайны, геолаг, паэт, грамадскі дзеяч. 15-гадовым юнаком ён пайшоў змагацца з фашысцкай зграяй, а потым, ужо танкістам, сустрэў перамогу ў Чэхіі. Пасля вайны Фелікс служыў у вайсковай частцы ў Львове. Тут у яго жыцці адбыліся дзве лёсавызначальныя падзеі: ён сустрэў Веру Васільеўну Ёжыкаву (дачку яго камандзіра-маёра), якая нарадзілася ў 1928 годзе ў Пензе, і ўзаемнае каханне з якой стала яскравай зоркай на ўсе гады; рамантык па натуры, ён атрымаў самую цікавую прафесію геолага, аб якой марыў з юнацкіх гадоў. У 1951 годзе, каб па-сапраўднаму адчуць поўнае зліццё з дзікай прыродай, праверыць свае сілы і мужнасць, вырашылі па дамове на тры гады паехаць у геалагічную партыю аж у Магадан, але суровы край з яго прыгожымі хрыбтамі, тайгой, прага пошукаў багатых пахаваных зямных скарбаў, знаёмствы з套 рознымі людзьмі зачаравалі іх так, што яны дапрацавалі там да пенсіі — да 1979 года.

У той жа час паэтычная душа геолага Фелікса Шкірманкова шчыра адгукалася на ўсё ўбачанае, і ён пачаў пісаць вершы, апавяданні, якія з’явіліся ў газеце «Охотско-эвенская правда», а пазней у абласных і нават рэспубліканскіх газетах. Так на Калыме нарадзіўся пісьменнік, які пісаў па-руску, але беларус, які памятаў сваю Бацькаўшчыну, не забыў родную мову і нават зрэдку самі сабой з’яўляліся вершы на беларускай мове. Цікавая чалавечая натура: пасля вяртання на Радзіму — у Слаўгарад — Фелікс Шкірманкоў ніяк не мог пазбавіцца ад настальгіі па Поўначы, на што пайшло не менш пяці гадоў, у гэты час яго вершы прасякнуты ўспамінамі і нават тугой па тых часах. Калі быў на Поўначы, перыядычна яго душу сціскала настальгія па Радзіме.

[1] Тэрмапілы. — 2017. — № 21.

Я з Феліксам Уладзіміравічам сустракаўся на розных нарадах, сустрэчах: кангрэсах дэмакратычных сіл Беларусі, нарадах Беларускага экалагічнага саюза, з'ездах Таварыства беларускай мовы і інш. Мы ведалі адзін пра аднаго, але неяк не давялося больш зблізіцца. Нарэшце, на Усебеларускім кангрэсе за незалежнасць (21 снежня 2014 года) мы абодва былі запрошаны ў прэзідыум. У выніку кангрэса быў прыняты Маніфест у абарону незалежнасці Беларусі, які мы ўрачыста падпісалі. Мне давялося выступіць з дакладам, а Шкірманкоў зрабіў кароткі выступ, які закончыў сваім вершам на тэму дня і які прачытаў вельмі выразна, прыгожа, артыстычна.

Фелікс Шкірманкоў ужо стаў шырока вядомай асобай: сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў, які выдаў каля трыццаці зборнікаў; сябра Слаўгарадскай раённай суполкі БНФ, Слаўгарадскага аддзялення Таварыства беларускай мовы і інш.

Значны рэзананс атрымала сустрэча Лукашэнкі з ветэранамі вайны ў Слаўгарадзе ў верасні 2015 года. Як пазней паведаміў сам Шкірманкоў, яшчэ а 8 гадзіне раніцы да яго прыйшлі кіраўнікі раёна і прапанавалі яму ад імя жыхароў прывітаць прэзідэнта, які прыедзе ў Слаўгарад. Супрацоўнікі КДБ двойчы прыходзілі, каб удакладніць, пра што ён будзе пытаць Лукашэнку. Пасадзілі пяць ветэранаў, з якіх двое «фіктыўныя». Прэзідэнт па чарзе падыходзіў да ўсіх, паціскаў руку. Слова далі толькі Шкірманкову, які прывітаў госця па-беларуску. Той таксама адказваў на беларускай мове і, як заўсёды на «ты». Ветэран, які па ўзросце быў значна старэйшы, вырашыў адказваць на «ты». Ён папрасіў кіраўніка дзяржавы адмяніць дарожны падатак для інвалідаў вайны, якіх засталося зусім мала. Той абяцаў, але і праз значны час усё было «глуха, як у танку».

Нягледзячы на тое, што ў 2016 годзе Фелікс Шкірманкоў адзначыў 90-годдзе, ён застаўся такім жа актыўным грамадзянінам, якога хвалявалі ўсе сучасныя і магчымыя будучыя падзеі ў свеце і асабліва ў роднай Беларусі. Як у паэта, усе пачуцці,

што ўзнікалі ў яго, найбольш яскрава выказваліся ў вершах. Яго не пакідалі ўспаміны, прычым яны часта, як у чалавека, большую частку жыцця пражыўшага ў асяроддзі рускай мовы, усплывалі ў рускамоўных вершах. Хаця і цяпер яго вельмі турбаваў стан беларускай мовы, ён у сваіх вершах як бы ўвасобіў так званае «двухмоўе» ў Беларусі. Фелікс Уладзіміравіч у прадмове да новай кнігі адзначыў: *«Я не магу патлумачыць, што кожны раз уплывала на выбар мовы, але вершы не былі антаганістамі. Мне падалося тады, што іх можна аб'яднаць пад адным дахам — вокладкай новай кнігі. Так яны, на мой погляд, маглі б засведчыць прыгажосць абедзвюх моў. Так нарадзіўся рукапіс гэтай кнігі — "Сяброўскі дуэт: развіажанні"»* (Мінск, 2017. 120 с.).

Аўтар падараваў мне чарговае прыгожае выданне серыі яго кніг, якую выпусціла выдавецтва «Чатыры чвэрці» з аўтографам: *«Шаноўнаму Радзіму Гаўрылавічу з самымі сардэчнымі зычаннямі моцы фізічнай і духоўнай, плёну ў працы, сямейнага цяпла і паразумення.*

*Дай Бог, каб мова наша ў Дзяржаве на такім жа месцы, як у гэтым зборніку.*

*Ф. Шкірманкоў. 3 лютага 2017 г.».*

Кніга пачынаецца вершам «Сяброўскі дуэт», які напісаны ў зусім новым арыгінальным жанры сапраўднага «двухмоўя» — чаргаванне радка па-беларуску з радком па-руску:

Мне лёсам так наканавана:
Вдали от мест родных пожить
І ў рускамоўным асяроддзі
Родной язык свой сохранить.

Далей — 42 вершы на беларускай мове, 35 — на рускай.

Паэта хвалююць падзеі вайны, адносіны да сапраўдных ветэранаў; з вялікай удзячнасцю піша пра творчасць Анатоля Вярцінскага, Генадзя Бураўкіна, Ніла Гілевіча, якая натхняе нас

і будзе жыць вечна; выказвае шчырую любоў да Радзімы, да сваіх землякоў; напамінае пра аварыю ў Чарнобылі і гаворыць пра тое, каб магутны «мірны» атам зноў не прывёў да бяды; успамінае пра калымскую школу жыцця, якой удзячны, і г. д. У вершы «Споведзь» піша:

Суровы нораў Калымы
У сваім без прыдумкі малюнку
Быў школай мужнасці ў жыцці
Па справядліваму рахунку.

Там я пазнаў дабро і зло,
Сяброў надзейных, запраданцаў,
Каго там толькі не было —
Ад велічынь да самазванцаў.

Паэт разумее непазбежнасць таго, як «імклíва час бяжыць», як многа перажыў таго, што «па-людску жыць мне замінала», але з гонарам адзначае:

Але я гэта перажыў,
Сваёй сцяжынкай далей крочыў
І пра жыццё як ёсць казаў,
З яе на шлях хлусні не збочыў.

Другая кніга з той жа серыі, якая выйшла ў 2017 годзе на беларускай і рускай мовах «Ты осталась со мной…» і якую ён прыслаў мне з такім чуллівым надпісам: *«Шаноўны Радзім Гаўрылавіч, прыміце, калі ласка, гэтую кніжачку-рэквіем маёй незабыўнай, дараванай мне Богам палавінцы, пакінуўшай мяне 2 снежня 2016 года, дарыўшай мне шчасце чыстага кахання семдзесят гадоў, шэсць месяцаў і адзін дзень… Ф. Шкірманкоў. 15.04.2017 г.».*

12 верасня 2008 г. ён пісаў жонцы:

Зоранька ясная, зоранька чыстая,
Шчодрае сэрца тваё.

Ты як крыніца святая, празрыстая,
Поўніш мне шчасцем жыццё.

З Элай Дзвінскай, якая напісала артыкул пра гэтую кнігу «Ад яе сыходзіла дабрыня, ласка, цяпло» («Наша слова». 3 траўня 2017 г.) Фелікс Шкірманкоў падзяліўся некаторымі ўспамінамі, пачуццямі і думкамі: *«[...] Ніколі мы не сказалі адзін аднаму крыўднага, абразлівага слова. У нас не было падзелу на “тваё” і “маё”, а ўсё было НАША — агульнае і недзялімае...*

*Калі мы адзначалі 65 гадоў сумеснага жыцця, у Свята-Петра-Паўлаўскім храме вёскі Лясное, нас павянчаў айцец Георгій. Святар, які набліжае людзей да веры, культуры і годнасці, уручыў нам памятны абраз-складзень. Гэты абраз стаіць зараз на стале ля майго ложка.*

*Калі яна пакінула мяне, у душы застаўся боль, які нічым немагчыма суцішыць. Я буду годна пераносіць гэты боль да скону. Але я застаўся тут на зямлі яшчэ для важнага задання. Я супакойваюся, разумеючы, што мне даравана жыццё для праслаўлення светлай памяці той, што паслана была, каб я пазнаў шчасце вернага кахання. Я павінен расказаць нашым нашчадкам пра шчасце, якое яна мне дарыла ўсе гэтыя семдзесят гадоў, шэсць месяцаў і адзін дзень.*

*У шаноўнага ветэрана і паэта, акрамя каштоўнага жыццёвага досведу, застаўся вялікі скарб: сын і дачка, чацвёра ўнукаў і пяцёра праўнукаў».*

Успомнілася вялікае каханне Ніла і Ніны Гілевічаў — Ніна Іванаўна для Ніла Сымонавіча была светлым анёлам ва ўсіх жыццёвых праявах. Яе адыход у іншы свет быў такім страшэнным ударам, ад якога ён ужо ніколі не змог адысці. Ніл Гілевіч як помнік у яе гонар надрукаваў цыкл кніг «Памяці Ніны». Я сваё эсэ «Семікніжжа — помнік у гонар добрага анёла» закончыў такім абзацам: *«“Гори, гори, моя звезда...” — гэтымі бессмяротнымі словамі верша і раманса канчае апошнюю кнігу*

*семікніжжа Ніл Сымонавіч, паставіўшы на самую вяршыню піраміды ўшанаванне памяці сваёй адзінай любай Жанчыны, і таму зорка Ніны Іванаўны будзе свяціць вечна!»*[1].

Фелікс Уладзіміравіч Шкірманкоў кнігай «Ты осталась со мной…» таксама ўзвёў непарушны помнік *«сваёй адзінай, якая падаравала шчасце ўзаемнага кахання»* — ён будзе вечным прыкладам не толькі іх дзецям і ўнукам, а ўсяму юнацтву, якое шукае і жадае мець сапраўднае шчасце.

Вялікае пачуццё кахання на працягу больш 65 гадоў было ў маіх бацькоў — Гаўрылы і Ларысы Гарэцкіх, што ратавала іх ад цяжкага і трагічнага лёсу пакутнага XX стагоддзя. У маёй кнізе «Лісты жыцця і кахання»  гэта асвятляецца праз іх багатае ліставанне[2].

Вельмі пажадана, каб пералічаныя кнігі дайшлі да нашага маладога пакалення, каб нагадаць важнасць і сур’ёзнасць такога пачуцця ў жыцці чалавека, як вялікае каханне, якое грунтуецца не толькі на фізічным паяднанні з каханым чалавекам, але і духоўным, бо апошняе дазваляе захаваць гэтае цудоўнае пачуццё да канца жыцця.

***2017***

***Травень 2016 — травень 2017 г., Менск***

[1] Гарэцкі Р. Жыццёвы меланж. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — С. 269–273.

[2] Гарэцкі Р. Лісты жыцця і кахання. — Мінск: Тэхналогія, 2013. — 124 с.

## Праект «Раскадзіраваць Беларусь»

У межах праекта «Раскадзіраваць Беларусь» ***Анастасія Зелянкова*** і ***Аляксандр Старыкевіч*** звярнуліся да акадэміка Радзіма Гарэцкага, які разважае пра беларусаў, а таксама пра тое, што перашкаджае нам жыць добра, хто ў гэтым вінаваты і як тое можна змяніць.

**«Вось гэты анекдот пра беларуса, якога саджалі на цвік, а ён усё цярпеў — гэта дакладна пра нас»**

— Я ўжо і сам не ведаю, у якім мы стане. Здавалася б, і дзяржаўнасць наша сягае некуды ў стагоддзі, але ўсё ніяк сябе не адчуем паўнавартаснымі. Да гэтага часу многія лічаць, што мы ледзь не з савецкай улады сталі дзяржавай. І нават сам народ прызвычаіўся, што ён такі забіты. І гэтая непаўнавартаснасць сядзіць у нас увесь час.

Анекдот пра беларуса, якога саджалі на цвік, а ён усё маўчаў і цярпеў, бо думаў, што так і трэба — гэта дакладна пра нас. Гэта выпрацоўвалася ў нас стагоддзямі, як адна магчымасць выжыць.

**«Нашы далёкія продкі былі зусім іншымі»**

З боку Славеніі і Славакіі па рэках на нашы землі прыйшлі славяне, якія ўжо ў VIII стагоддзі стварылі плямёны: крывічы на Падзвінні і Верхнім Прыдняпроўі, дрыгавічы — на правабярэжжы Прыпяці, радзімічы — у басейне ракі Сож. Назовы гэтыя — патранімічныя, ад першапродкаў: Радзіма, Драгавіта, Крыва. Як і вяцічы — ад Вяткі. Плямёны славян складалі смелыя, упэўненыя ў сябе людзі.

Ужо ў канцы X стагоддзя крывічы стварылі нашу першую дзяржаву — Полацкае княства, якое найвышэйшай магутнасці дасягнула ў часы кіравання Усяслава Чарадзея (1044–1101). Тады ў Полацку быў збудаваны Сафійскі сабор, які падкрэсліваў яго роўнасць з Ноўгарадам і Кіевам. Каралеўства Літовія з цэнтрам у Наваградку ўзнікла пры каралю Міндоўгу,

які быў каранаваны ў 1253 г. Да сучаснасці ідзе спрэчка пра паходжанне назвы *Літва*. Яшчэ ў XIII ст. у Хроніцы прускага біскупа Хрысціяна гаворыцца, што яно ідзе ад імя старэйшага сына прускага караля Вудавута Літво, які атрымаў ва ўладанне зямлю над Нёманам і Бугам, прычым аўтар Хронікі лічыў першапачатковую Літву славянскай краінаю. Такой думкі прытрымліваецца шэраг гісторыкаў. Усе валадары Літоўскай дзяржавы былі славянскага роду. Ад імя легендарнага прашчура люцічаў падтрымлівае назву Літоўскай дзяржавы Язэп Лёсік, які лічыў, што племя люцічы, люцікі — ад слова *люты*, што значыць смелы, храбры, а да ворага — жорсткі, люты. Таму нярэдка і празываліількамі, або ваўкамі, а пазней так узгадвалі дзеянні Усяслава Чарадзея. У Беларусі шмат месцаў з назвамі, блізкімі да гэтых слоў. Вацлаў Ластоўскі пісаў: *«Край, заняты люцічамі, сьпершпачатку зваўся Лютвай, а пазней Літвой»*. У той час сучасныя літоўцы туліліся ў Жмудзі, якая была нявольнічай правінцыяй Літоўскай дзяржавы. Цікава адзначыць, што Жамойць не раз паўставала супраць Літвы. У час паўстання ў 1263 г. загінуў сам заснавальнік Літоўскага княства Міндоўг.

Калі да Літоўскай дзяржавы з поўдня далучылася тэрыторыя каралеўства Русія на чале з каралём Данілам Галіцкім, яе назва змянілася на Вялікае Літоўска-Рускае, а Жамойць Міндоўг нават аддаў нямецкаму ордэну. Так жа паступілі Гедзімін і Ягайла, што сведчыць аб тым, што валадары Вялікім княствам Літоўска-Рускім не былі жмудзінамі і таму не вельмі шанавалі сваю Жамойцкую зямлю. Толькі пасля адабрання Жамойці ад немцаў Вітаўтам княства атрымала поўнае імя — Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае (ВКЛ). У 1295 г. дзяржаўным гербам ВКЛ стала «Пагоня», якая была ва ўсіх ваяводствах, што падкрэслівала магутнасць і сутнасць нашай сярэднявечнай дзяржавы і яе жыхароў — «ліцвінаў». Жамойць мела свой герб у выглядзе чорнага мядзведзя. У 1323 г. сталіцай дзяржавы ВКЛ стала Вільня, якая ўжо ў 1387 г. атрымала

магдэбургскае права. ВКЛ вылучалася адсутнасцю жорсткай тыраніі, набліжэннем да рэлігійнай і этнічна-культурнай талерантнасці, адносна дэмакратычным ладам і г. д. Менавіта ў ВКЛ Францішак Скарына надрукаваў першую кнігу на «літоўскай» (старабеларускай) мове, 500-годдзе беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання будзем адзначаць 6 жніўня 2017 г. Вялікае значэнне мелі вядомыя тры Статуты ВКЛ — вяршыні заканадаўчых актаў таго часу, напісаныя на дзяржаўнай старабеларускай мове.

Магутная дзяржава ВКЛ дазволіла нашаму народу вытрымаць двухсотгадовую крыжацкую экспансію (спынена ў 1410 г. перамогаю пад Грундвальдам) і небяспечную мангола-татарскую навалу.

**«Ва ўкраінскіх вёсках дагэтуль завуць нас “ліцвінамі”. І гэта сядзіць у іх галовах! А ў нас не сядзіць»**

Беларус усё праспаў у шапку. Увесь час, што б ні здарылася, мы пакуль прачнёмся, ужо нехта ў нас нешта перахапіў. Як з той жа назвай «ліцвіны», «Літва». Памятаю, я яшчэ калі геолагам гадоў 10–20 таму ездзіў па ўкраінскіх вёсках, што на мяжы Беларусі, простыя людзі, пачуўшы, адкуль я, казалі: «А-а, дык вы ліцвіны. Раз вы з таго боку Прыпяці». Да гэтага часу яны нас лічаць ліцвінамі. І гэта сядзіць у іх галовах! А ў нас чамусьці не сядзіць.

Мы так лёгка пра ўсё гэта забываемся. І пра ВКЛ, і пра тое, што Статут быў напісаны на старабеларускай мове, і пра БНР. Мы з гэтага боку нейкія вельмі сціплыя. Я б нават сказаў занадта сціплыя.

У самым пачатку 1990-х гадоў я і шэраг пісьменнікаў, і гісторыкаў разам надрукавалі заяву пра гвалтоўную перадачу Вільні і Віленскага краю па дамове паміж Расіяй і Літвой без удзелу беларусаў, і таму прапанавалі гэтую спрэчную нацыянальна-тэрытарыяльную праблему вырашыць такім чынам:

зрабіць Вільню свабодным горадам (літоўска-беларускім) — агульным і адкрытым для ўсіх.

**«Далейшыя падзеі гісторыі прывялі да значнай згубы самасвядомасці, мовы, дзяржаўнасці…»**

Калі Масковія вызвалілася ад мангола-татарскага іга, маскоўскія князі (пачынаючы ад Івана III) пачалі збіраць усе праваслаўныя землі. Многія гарады і воласці ўсходу і поўначы ВКЛ былі акупаваны, там рабавалі захопленыя землі, насельніцтва бралі ў палон. Іван IV Жахлівы спустошыў Мсціслаўшчыну, Магілёў, Віцебск, спаліў Тураў і нават захапіў Полацк. Перыядычна войска ВКЛ атрымлівала перамогі (як у бітве пад Воршай у 1514 г. на чале з гетманам Астрожскім; бітве на рацэ Вуля). Агрэсія маскоўцаў прымусіла ВКЛ аб'яднацца з Польскім Каралеўствам — у 1569 г. была падпісана Люблінская унія, у выніку якой была створана новая дзяржава — Рэч Паспалітая, а частка зямель ВКЛ адышла да Польшчы. Пазней адбылося заключэнне Берасцейскай царкоўнай уніі — адбылося аб'яднанне праваслаўя і каталіцтва ў адну канфесію (грэка-каталіцкую, або ўніяцкую). У набажэнстве ўніяты выкарыстоўвалі беларускую мову, што прывяло да яе пашырэння — у XVIII ст. уніятамі сталі 75 % насельніцтва Беларусі.

Канфедэрацыя ВКЛ і Польшчы ўмацавала іх абараназдольнасць, але войны працягваліся — і з Масковіяй, і Швецыяй. Пры маскоўскім цары Аляксеі Міхайлавічы з 1654 да 1667 г. без перапынку ішла агрэсія, у выніку якой зусім сціраліся беларускія гарады, вёскі разам з насельніцтвам (53 % жыхароў страціла Беларусь). У час Паўночнай вайны (1700–1721) паміж Расіяй і Швецыяй, якая праходзіла на тэрыторыі Беларусі, загінуў кожны трэці беларус.

Стварэнне Рэчы Паспалітай спрыяла польскаму ўплыву — паланізацыі, пад якую ў першую чаргу падпалі беларускія магнаты і шляхта, шмат з якіх перайшлі ў каталіцкую веру, а ў 1696 г. сойм Рэчы Паспалітай прыняў пастанову, што дзяр-

жаўныя дакументы ў ВКЛ павінны складацца не на беларускай, а на польскай мове. Несупадзенне інтарэсаў ВКЛ і Польшчы прывяло да крызісу і аслаблення дзяржавы Рэчы Паспалітай. Расія, Прусія і Аўстрыя правялі тры падзелы Рэчы Паспалітай, у выніку якіх спачатку ўсходняя частка Беларусі, потым — цэнтральная, а нарэшце — уся тэрыторыя была захоплена Расійскай імперыяй. Дзяржаўная незалежнасць беларусаў была страчана. Да паланізацыі беларусаў далучылася моцная русіфікацыя. Патрыёты Бацькаўшчыны змагаліся за незалежнасць, але паўстанні былі жорстка задушаны (з дапамогай А. Суворава ў 1794 г. на чале з Тадэвушам Касцюшкам; вызвольнае паўстанне 1830–1831 гг.; 1863–1864 гг. на чале з Кастусём Каліноўскім). Беларуская зямля стала «Северо-Западным краем» з рускім чынавенствам, рускай школай, праваслаўнай царквой. Унію гвалтоўна скасавалі расійскія ўлады ў 1839 г. Беларусь ператварылася ў калонію царскай імперыі. Беларусы вымушаны былі шукаць лепшае жыццё на чужыне — не менш паўмільёна сялян ад'ехалі ў Сібір.

**«Імкненне да нацыянальнага адраджэння, незалежнасці, не знікла ў беларускага народа і на мяжы XIX–XX стст. Рэвалюцыйна-дэмакратычны і нацыянальны адраджэнскі рух набраў сілы»**

У сувязі з падзеямі рэвалюцыі 1905–1907 гг. была створана першая беларуская палітычная партыя — Беларуская сацыялістычная грамада, пачала выдавацца газета «Наша Ніва» — сімвал беларускага нацыянальнага адраджэння («нашаніўскі» этап у гісторыі Беларусі). Гэта быў час станаўлення сучаснай беларускай нацыянальнай ідэі, новай беларускай літаратуры, сучаснай беларускай мовы.

У Першай сусветнай вайне 1914–1918 гг. на беларускай зямлі загінуў кожны пяты жыхар, больш за 1,5 млн сталі бежанцамі. Крах Расійскай імперыі адкрыў перспектыву адраджэння дзяржаўнасці ў Беларусі.

У снежні 1917 г. у Менску адбыўся Усебеларускі з’езд — першы ў гісторыі агульнанацыянальны форум беларусаў, які стаў падмуркам абвяшчэння 25 сакавіка 1918 года нацыянальнымі дэмакратамі-адраджэнцамі аб утварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) — першай незалежнай беларускай дзяржавы. Гэтаму вялікаму святу беларусаў усяго свету на наступны год будзе 100 гадоў. Калі не адбыўся б Усебеларускі з’езд 1917 года, не была б абвешчана БНР, а толькі дзякуючы апошняй, 1 студзеня 1919 года ўзнікла БССР, на базе якой у 1991 годзе была створана суверэнная Рэспубліка Беларусь. Улічваючы вялікае значэнне ўсіх пералічаных падзей, беларуская грамадскасць адзначае іх, асабліва стварэнне незалежнай БНР і яе 100-годдзе, таму гэтую дату як вялікае свята павінна падтрымаць і кіраўніцтва дзяржавы РБ, якое ўвесь час падкрэслівае, што яно змагаецца за незалежнасць Беларусі, бо сапраўдным падмуркам гэтаму з’яўляецца БНР.

У працы з’езда ўдзельнічалі 1872 дэлегаты з усіх рэгіёнаў Беларусі. Лінія бальшавікоў на раскол правалілася, тады ноччу з 17 на 18 снежня ўзброенымі салдатамі на чале з п’яным начальнікам Менскага гарнізона М. Крывашэіным гвалтоўна разагналі з’езд. Але з’езд паспеў абраць Раду з’езда і Выканаўчы камітэт, якія ў сакавіку 1918 г. Раду з’езда пераўтварылі ў Раду БНР, а 25 сакавіка Рада БНР выдала III Устаноўчую грамату, дзе БНР была абвешчана незалежнай дзяржавай у межах зямлі, дзе жыве і мае лічбавую перавагу беларускі народ. Больш 10 за краін прызналі БНР, былі зацверджаны ў якасці дзяржаўных беларуская мова, герб Пагоня, бел-чырвона-белы сцяг, гімн, часовая Канстытуцыя БНР і інш.

**«Пік бальшавіцкага тэрору супраць уласнага народа прыйшоўся на 1937–1938 гады, таму ўсім трэба падтрымаць ініцыятыву гісторыка Ігара Кузняцова і яго аднадумцаў — абвясціць 1917 год Годам памяці ахвяр бальшавізму»**

Вядомы гісторык Ігар Кузняцоў у двух нумарах газеты «Народная Воля» (31 студзеня і 1 лютага 2017 г.) надрукаваў артыкул «Большевистский террор (забвению не подлежит…)». Ён у чарговы раз нагадаў пра масавае знішчэнне «контррэвалюцыйных элементаў», якое прывяло да стварэння расстрэльнай «прамысловасці», калі смяротнае пакаранне стала побытавой з'явай. Кожны савецкі грамадзянін з непакоем чакаў начны стук у дзверы, бо ведаў, што могуць прыйсці «кампетэнтныя» людзі, зрабіцьператрус і забраць у «чорны воран».

Крывавы тэрор супраць уласнага народа праводзіўся пад кіраўніцтвам бальшавіцкай улады, якая, дзякуючы спрытнай дэмагогіі і хлусні, доўгі час умудраліся хаваць праўду ад грамадства. Толькі ў час хрушчоўскай адлігі і асабліва ў час перабудовы сталі вядомы многія факты бальшавіцкага тэрору, хаця шмат якія застаюцца яшчэ сакрэтнымі. 1937 год — пік бальшавіцкага тэрору.

З 1937 года прайшло 80 гадоў. У імя будучыні неабходна асэнсаваць трагічнае мінулае, усім адчуць за гэта адказнасць; **на дзяржаўным узроўні асудзіць бальшавіцкі тэрор, правесці грамадзянскае пакаянне і іншыя дзеянні, каб такая з'ява больш ніколі не спасцігла народ**. Свой вялікі артыкул Ігар Кузняцоў заканчвае вельмі правільнымі словамі: *«…без принятия на себя этого в самом деле тяжелейшего груза ответственности за прошлое у нас не будет никакой национальной консолидации и никакого возрождения»*.

* * *

**«Бальшавіцкія кіраўнікі з Маскоўскага крамля гандлявалі беларускімі землямі, зыходзячы са сваіх палітычных сітуацый»**

У 1918 г. бальшавіцкая Расея і Германія дзялілі беларускую тэрыторыю пры падпісанні Брэсцкай дамовы. Вынікі Рыжскай мірнай дамовы 1921 г. Савецкай Расіі і Польшчы прывялі да ўключэння Заходняй Беларусі ў склад Польшчы. Беларускае

насельніцтва зноў трапіла пад моцную паланізацыю. У Савецкай Беларусі засталося толькі шэсць паветаў былой Менскай губерні. У 1924 г. Масква вярнула ў БССР шэраг паветаў Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерняў са складу РСФСР, у якую яшчэ ў 1919 г. вайшла велізарная этнічна беларуская тэрыторыя. У 1926 г. Масква часткова вярнула ў БССР некалькі паветаў Пскоўскай і Гомельскай губерняў. Пасля падпісання ў Маскве пакта Молатава-Рыбентропа — савецка-нямецкая дамова пра ненападзенне і сакрэтныя пратаколы пра падзел сфераў уплыву (жнівень 1939 г.) 1 верасня 1939 г. пачалася Другая сусветная вайна: фашысцкая Германія напала на Польшчу, а савецкія войскі захапілі тэрыторыю Заходняй Беларусі (у тым ліку Вільню і Беласток). Але ўжо ў кастрычніку 1939 г. Сталін перадаў Вільню і Віленскі край Літве. 14 лістапада 1939 г. у склад БССР увайшла Заходняя Беларусь, а беларускія змагары за нацыянальнае вызваленне (Браніслаў Тарашкевіч, Антон Луцкевіч і інш.), якія сядзелі ў польскіх турмах, потым трапілі ў савецкія турмы і былі расстраляны. У час вайны Беларусь стала закладніцай дзвюх таталітарных сістэм — сталінскай бальшавіцкай і гітлераўскай фашысцкай. У Другую сусветную вайну загінуў кожны трэці жыхар Беларусі.

У апошнія месяцы перад заканчэннем вайны ішлі спрэчкі пра мяжу паміж Польшчай і БССР у Беласточчыне, прычым вайскоўцы Арміі Краёвай, часта пераапранутыя пад партызан, хадзілі па вёсках з пытаннем «хто вы — беларусы ці палякі?» Калі адказ быў «беларусы», забівалі цэлымі сем’ямі. Іх мэта — паказаць, што на Беласточчыне зусім мала беларусаў, і таму яна польская. Каб супакоіць польскі ўрад, створаны ў Лондане, і падтрымліваючых іх Вялікабрытанію і ЗША, у жніўні 1945 г. СССР перадаў Польшчы са складу БССР 17 раёнаў тэрыторыі Беларусі разам з Беластокам і 2 раёны Брэсцкай вобласці.

Беларусь — адзіная краіна-пераможца, якая ў выніку вайны панесла тэрытарыяльныя страты.

**«Пасля вайны да беларусаў адносіліся, як да чукчаў»**

— Я дагэтуль месцам свайго нараджэння пішу «Менск» — так па-беларуску напісана ў мяне ў пасведчанні. Калі я ўжо ў Маскве атрымліваў свой пашпарт, пашпартыстка маё прозвішча перапісала адтуль. У выніку ў мяне і маіх бацькоў і брата розныя прозвішчы — яны па-руску «Горецкие», а я «Гарецкий».

Я, калі потым з Расіі прыехаў сюды жыць, заўважыў, што ў вельмі многіх беларусаў, якім пасля вайны сталі выдаваць пашпарты, дата нараджэння ў дакуменце не супадала з рэальнай датай. Запісвалі, як хацелі. Мяне гэта вельмі здзівіла. Пасля вайны да нас адносіліся, як да чукчаў. Для расійскіх чыноўнікаў тыя ўсе былі на адзін твар. І каб зэканоміць час і грошы, чукчаў нават не фатаграфавалі, а ўклейвалі ім у пашпарт адзін і той жа фотаздымак — «всё равно одна морда».

Прыкладна тое ж было і з беларусамі тут. І гэта беларусы зноў спакойна праглынулі.

Бальшавіцкая палітыка, скіраваная на зліццё нацый у адзіны «савецкі народ», прывяла да страшэннай русіфікацыі. Беларуская мова ўжо трапіла ў Чырвоную кнігу. Разам з моваю туды трапілі і беларусы, бо без мовы няма і народа. Рэспубліка інтэнсіўна губляла нацыянальныя людскія рэсурсы: моладзь адпраўлялі на лесанарыхтоўкі ў Карэлію і Комі, на асваенне цалінных земляў Казахстана, будаўніцтва Байкала-Амурскай магістралі і іншыя сібірскія будоўлі, выпускнікі беларускіх ВНУ накіроўваліся ў розныя раёны Саюза, шмат трапіла і нават загінула ў Афганістане і г. д.

* * *

Трэба адзначыць: гістарычна склаўся такі лёс, што беларускаму народу наканавана быць аднаму з самых раскіданых па ўсім свеце. Кожны трэці беларус (а можа нават і другі) жыве за межамі сваёй Бацькаўшчыны. Цяпер беларусы рассеяны па ўсіх кантынентах Зямлі. Калі б беларусы натуральна жылі на сваёй этнічнай тэрыторыі, ды не разбуральныя войны, у

выніку якіх загінуў кожны чацвёрты, трэці, а то і другі чалавек, ды не падзелы тэрыторыі, то цяпер было б не менш за 30 млн беларусаў.

**«Перабудова прывяла да развалу СССР, кароткага па часе, інтэнсіўнага нацыянальнага адраджэння, стварэння незалежнай Рэспублікі Беларусь, якая стала прэзідэнцкай з аўтарытарным рэжымам»**

Бальшавіцкая савецкая сістэма прывяла да глыбокага гаспадарчага крызісу. Апошні прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў (з сакавіка 1985 г.) вымушаны быў пачаць перабудову каманднa-адміністрацыйнай эканомікі і савецкага грамадства, каб ратаваць Саюз. Але «працэс пайшоў…» Змяншэнне бальшавіцкага дэспатызму выклікала ўздым нацыянальнай самасвядомасці народаў СССР, у тым ліку і беларускага. Чарнобыльская катастрофа, якая паставіла на парадак дня выжыванне беларускай нацыі, яшчэ больш раскрыла заганы бальшавіцкай ўлады, поўнай залежнасці ад кіраўніцтва Масквы.

Узніклі нефармальныя аб’яднанні моладзі («Талака» і інш.), сталі вядомымі злачынствы ў «Курапатах», былі створаны «Мартыралог Беларусі», Аргкамітэт БНФ, у чэрвені 1989 г. у Вільні адбыўся ўстаноўчы з’езд БНФ, на чале якога стаў Зянон Пазняк (з вялікай падтрымкай Васіля Быкава), і інш. Беларускі рух пашыраўся, але і камуністычныя ўлады ўсяляк пераследавалі ўдзельнікаў руху. Пачалася барацьба дзвюх плыняў — нацыянальна-адраджэнскай і бальшавіцкай, прычым у абедзвюх былі свае дадатковыя напрамкі і змены. У 1989 г. утворана Таварыства беларускай мовы (ТБМ) на чале з Нілам Гілевічам. Абставіны прымусілі Вярхоўны Савет (ВС) рэспублікі 26 студзеня 1990 г. прыняць закон «Аб мовах БССР», а 1 верасня 1990 г. дзяржаўнай мовай Беларусі стала беларуская. У 1990 г. створана Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» (прэзідэнт Васіль Быкаў). На выбарах у Вярхоўны Савет 1990 г. народнымі дэпутатамі сталі прадстаўнікі БНФ на чале з

Пазняком і дэмакратычны клуб на чале з Шушкевічам, але 86 % дэпутатаў складалі камуністы. Старшынёй ВС абралі сакратара Палітбюро ЦК КПБ Мікалая Дземянцея, яго намеснікам — Станіслава Шушкевіча, а старшынёй Савета Міністраў БССР стаў член Палітбюро ЦК КПБ Вячаслаў Кебіч. Пад уплывам пазбаўлення ад камуністычных рэжымаў суседніх краін БНФ узяў кірунак на дзяржаўную незалежнасць Беларусі. 12 чэрвеня 1990 г. у Маскве абвешчана Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце РСФСР, а 27 ліпеня ВС у Мінску прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце БССР у складзе савецкай федэрацыі.

Шматлікія члены КПСС пакінулі яе рады. Узнікаюць новыя партыі: у 1990 г. — Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі (НДПБ), Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі (АДПБ), у 1991 г. — Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (БСДП), Беларуская сялянская партыя (БСП), Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць.

Гарбачоў у 1991 г. спрабаваў ўратаваць СССР, агітуючы падпісаць новае саюзнае пагадненне. 19 жніўня 1991 г. частка бальшавіцкага кіраўніцтва ў Маскве (ГКЧП) абвясціла захоп улады. Кіраўніцтва КПБ (у тым ліку і М. Дземянцей) падтрымала путчыстаў, БНФ актыўна выступіў супраць. 21 жніўня дэмакратычныя сілы Расіі на чале з Барысам Ельцыным перамаглі путчыстаў. 25 жніўня Надзвычайная сесія ВС БССР надала сілу закона Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР і прыпыніла дзейнасць КПБ–КПСС на тэрыторыі Беларусі; Дземянцей падаў у адстаўку, а 17 верасня новым старшынёй ВС БССР абралі Шушкевіча, замест БССР дзяржава атрымала новую назву — Рэспубліка Беларусь (РБ), абвешчаны дзяржаўным нацыянальным бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня». 8 снежня 1991 г. кіраўнікі Беларусі, Расіі і Украіны ў Белавежы падпісалі пагадненне аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў (СНД), каб замест СССР, які зусім ліквідуецца, падтрымаць агульную сувязь, а ў Беларусі нават

засталося расійскае войска, ВС РБ дэнансаваў Саюзны дагавор 1922 года — СССР знік з палітычнай карты свету.

Беларусь стала парламенцкай рэспублікай; нас, прыхільнікаў незалежнасці дзяржавы, ахапіла эйфарыя і ўпэўненасць у яе беспаваротным дэмакратычным развіцці. Але ўлада ў Беларусі заставалася ў руках Кебіча і былой партыйнай наменклатуры, якія былі ў разгубленасці, бо не ведалі, як самастойна весці палітыку і гаспадарку, і таму цягнуліся да цеснага супрацоўніцтва з Расіяй.

Я, добра адчуўшы ў сваім жыцці жорсткасць і моц бальшавіцкай сістэмы і КПСС, ніяк не чакаў, што яны могуць так проста знікнуць. Але ўзгадваючы шматпакутную гісторыю нашага народа, я, хоць таксама быў у захапленні ад пачуцця волі і новага стану незалежнасці краіны, чамусьці хваляваўся за тое, каб не страціць дасягнутага становішча і зноў не трапіць у савецкае мінулае. Таму ў сваіх выступленнях таго часу (на ўстаноўчай канферэнцыі Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» 10 верасня 1990 г. ; на сходзе, прысвечаным Дню абвяшчэння Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР 26 ліпеня 1991 г.; выступленні на сходзе, прысвечаным 3-й гадавіне Дня незалежнасці Рэспублікі 24 ліпеня 1993 г. і інш.) я падкрэсліваў: *«Мы павінны ўсвядоміць, што гэта, магчыма, апошняе адраджэнне — ці яно будзе, ці змарнее зусім, а з ім загіне беларушчына. [...] Адраджэнне павінна быць інтэгральным: яно датычыцца не толькі роднай мовы, нацыянальнай культуры, навукі і адукацыі, але вымагае аднаўлення эканомікі і палітыкі. [...] На аснове сусветнага вопыту неабходна распрацаваць эканамічную мадэль развіцця Беларусі, патрэбна весці сваю больш незалежную эканамічную палітыку. У кіруючых уладах павінны працаваць сапраўдныя прафесіяналы — патрыёты Бацькаўшчыны, а не былыя і сучасныя наменклатуршчыкі»*.

З другога выступу: *«І вось цяпер зноў гісторыя дала нам шанец рэальна стварыць незалежную беларускую дзяржаву.*

*Першыя нясмелыя крокі да яе мы ўжо зрабілі, але гэта толькі пачатак. Я мару і спадзяюся, што не толькі нашы ўнукі і праўнукі, але, можа, і мы самі, калі прыкладзём адпаведныя намаганні, дажывём да вольнай, дэмакратычнай, самастойнай, магутнай і багатай беларускай Беларусі».*

БНФ быў незадаволены прарасійскай палітыкай беларускага кіраўніцтва і таму патрабаваў адстаўкі Кебіча і прыняцця новага выбарчага закона, але гэта патрабаванне не прынялі. БНФ прапанаваў правесці па гэтых пытаннях рэферэндум, што падтрымалі ўсе апазіцыйныя партыі, апрача Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, якая старалася быць у згодзе з пракамуністычнымі сіламі. Каб абараніць суверэнітэт Беларусі ад Расіі была спроба амаль усіх палітычных партый і рухаў аб’яднацца ў Антыкрызісны камітэт, але ён хутка распаўся.

У сакавіку 1992 г. была створана Партыя нацыянальнай згоды на чале з Генадзем Карпенка, якая падтрымлівала беларусізацыю і незалежнасць дзяржавы.

У той час важныя падзеі адбываліся і ў Акадэміі навук. Апошнім прэзідэнтам Акадэміі навук, які быў абраны пры надзвычайным ціску ЦК КПБ на членаў акадэміі быў акадэмік У. П. Платонаў, які змяніў М. А. Барысевіча. Але ён не вытрымаў цяжкасці часу станаўлення незалежнасці Беларусі, нечакана ў 1991 годзе з’ехаў за мяжу ў ЗША і Канаду. Акадэміяй кіраваў віцэ-прэзідэнт акадэмік А. В. Сцепаненка. У канцы красавіка 1992 года надышоў час выбараў новага прэзідэнта і ўсяго кіраўніцтва Акадэміі навук Беларусі, што, як і раней, адбывалася на сесіі Агульнага схода Акадэміі. Перад тым, як абвясціць пра выбары кіраўніцтва АН Беларусі па звычцы ўзгадняць тэрмін, колькасць прэтэндэнтаў і кандыдатуры з ЦК КПБ і Савета Міністраў звярнулася да тагачаснага кіраўніка дзяржавы Станіслава Шушкевіча і прэм’ер-міністра Вячаслава Кебіча. Тыя нечакана адказалі, што гэта справа Акадэміі навук, калі і каго выбіраць. Таму тыя выбары былі першыя і, як пазней аказалася, адзіныя поўнасцю вольныя і дэмакратычныя.

Л. М. Сушчэню абралі Прэзідэнтам АН Беларусі. Ён быў не толькі выдатным вучоным, але спакойным, вытрыманым, асцярожным, здольным да кампрамісаў, разумным у рашэннях арганізатарам навукі.

На наступны дзень Л. М. Сушчэня ў віцэ-прэзідэнты прапанаваў мяне, у галоўнага вучонага сакратара — А. М. Ганчарэнку, які добра выконваў абавязкі на гэтай пасадзе ў мінулым складзе Прэзідыума АНБ, што вельмі важна было і дзеля пераемнасці. Не хапала спецыяліста ў галіне фізіка-тэхнічных навук. Тады прапанавалі заняць пасаду віцэ-прэзідэнта А. В. Сцепаненку, тым больш, што ён меў такі значны вопыт у папярэднім Прэзідыуме акадэміі. Але ён катэгарычна адмовіўся, сказаўшы, што не хоча быць на такой пасадзе ў той час, калі, безумоўна, Акадэмія навук Беларусі будзе ліквідавана. Такія думкі зразумець было лёгка, бо сітуацыя ў краіне была вельмі цяжкая. Распад Савецкага Саюза прывёў да значных эканамічных і палітычных праблем. Суверэнная Беларусь мела процьму разнастайных праблем, яе стварэнне ішло нялёгка. Шмат разбуральных працэсаў наляцела і на Акадэмію навук. Сістэма фінансавання абрушылася. Навуковыя распрацоўкі згубілі заказчыкаў. Пачалася «ўцечка мазгоў». Шмат навуковых супрацоўнікаў мянялі сферу дзейнасці, моладзь не ішла ў навуку. Многія лепшыя спецыялісты мігрыравалі за мяжу. Цяжка было набываць навуковае абсталяванне, кнігі, часопісы. Другім віцэ-прэзідэнтам стаў генеральны канструктар па аўтамабільнай тэхніцы РБ М. С. Высоцкі.

Нам давялося працаваць у кіраўніцтве АН Беларусі ў часы двух перыядаў у жыцці краіны: прыблізна 2,5 гады (04. 1992–07.1994) у дапрэзідэнцкай дзяржаве і амаль 3 гады (07.1994–05.1997) — пры першым Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Калі ў першы перыяд мы былі ў значнай ступені свабоднымі ў сваёй дзейнасці, дык у другі трапілі ў звычайны стан — пад пільны нагляд кіраўніцтва дзяржавы. Але мы з нашымі куратарамі ад Адміністрацыі Прэзідэнта РБ (А. М. Данілаў — пазней

член-карэспандэнт АН Беларусі) і ад Савета Міністраў РБ (У. Русакевіч) заўсёды былі ў добрых адносінах і знаходзілі дастаткова нармальныя вырашэнні розных пытанняў.

У час нашага кіраўніцтва АН Беларусі была даволі моцная небяспека ліквідацыі АН Беларусі: спачатку ад дзеячаў перабудовы, а пазней — ад першага Прэзідэнта РБ. З'явілася не зусім праўдзівая думка, што ў краінах Захаду няма дзяржаўных акадэмій навук, таму і ў Беларусі трэба ліквідаваць акадэмію, а яе інстытуты раздаць універсітэтам, ВНУ і міністэрствам. Асабліва падтрымлівалі такую ідэю многія прадстаўнікі і выхадцы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Сярод іх былі С. С. Шушкевіч — кіраўнік дзяржавы, М. І. Дзямчук — віцэпрэм'ер Савета Міністраў, В. А. Гайсёнак — старшыня Дзяржаўнага Камітэта па навуцы і тэхналогіях РБ і інш. Прыйшлося праводзіць шматлікія асабістыя размовы, пасяджэнні, спрэчкі і г. д. Нарэшце, усё ж удалося неяк адбіцца.

А. Р. Лукашэнка таксама хістаўся ў неабходнасці захавання Акадэміі навук. Да таго ж у Беларусь прыехаў Прэзідэнт Казахстана Н. А. Назарбаеў, які выступіў на Агульным сходзе АН Беларусі ў прысутнасці Прэзідэнта РБ і паведаміў, што ён ліквідаваў АН Казахстана, аб'яднаў яе з Міністэрствам адукацыі і г. д. А. Р. Лукашэнку такія дзеянні свайго калегі здаліся цікавымі і патрэбнымі. Усім нам, членам Прэзідыума АН Беларусі, і асабліва Л. М. Сушчэню прыйшлося прыкласці ўсе намаганні, каб такія падзеі не адбыліся ў Беларусі. Таксама з вялікімі цяжкасцямі нам удалося захаваць АН Беларусі.

У справе аб'яднання беларусаў свету і незалежнасці Беларусі вялікае значэнне меў Першы з'езд беларусаў свету, які ў ліпені 1993 г. наладзіла ЗБС «Бацькаўшчына» разам з урадавымі арганізацыямі. Галоўная тэма з'езда гучала ў агульным дакладзе «Нацыянальная ідэя і адбудова беларускай дзяржаўнасці», які давялося зрабіць мне. Упершыню беларусам усяго свету ўдалося сабрацца разам, каб асэнсаваць сябе ў кантэксце сваёй прысутнасці ў свеце, абмеркаваць шляхі да сапраўднай

незалежнасці, дзяржаўнага будаўніцтва і нацыянальнага адраджэння. Тады мы з надзеяй глядзелі ў будучыню і нам здавалася, што гэты з'езд толькі пачатак магутнага адраджэння, але ў хуткім часе ўбачылі, што гэта яго апагей, бо далей падняліся сілы, якія пачалі рухаць краіну ў савецкае мінулае.

4 лютага 1993 г. ВС Беларусі ратыфікаваў дагавор аб скарачэнні стратэгічных узбраенняў і вывазу ядзернай зброі ў Расію. Беларусь станавілася нейтральнай дзяржавай. ВС РБ не даў згоду на рэферэндум, а посткамуністычны блок аб'яднаўся ў «Народны рух Беларусі», які падтрымліваў і ўрад Кебіча; пачалася шалёная кампанія супраць БНФ і далучэнне да Расіі. ВС РБ 26 студзеня 1994 г. значнай большасцю галасоў зняў з пасады старшыні Шушкевіча, чаму вельмі паўплывала яго абвінавачанне ў прыватызацыі дзяржаўных сродкаў на суму 100 долараў дзеля пакупкі «скрынкі цвікоў» для будаўніцтва сваёй дачы. З гэтым дасягненнем працы Камісіі па выкрыцці злачынстваў выступіў яе старшыня Аляксандр Лукашэнка. Новым старшынёй ВС РБ абралі генерала міліцыі Мечыслава Грыба.

Візіт у Менск прэзідэнта ЗША Біла Клінтана ў студзені 1994 г. падтрымаў незалежнасць Беларусі сваім выступам у зале АН Беларусі, сустрэчамі з Шушкевічам, Пазняком, наведваннем «Курапат». У сакавіку 1994 г. была прынята новая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, паводле якой краіна абвяшчалася дэмакратычнай, прававой і суверэннай дзяржавай, але прэзідэнцкай (прэзідэнт мае поўны кантроль за выканаўчай уладай).

Перад гэтым прайшлі спрэчкі пра ўвядзенне пасады прэзідэнта. Да прэзідэнцкай дзяржавы вельмі імкнуліся прасавецкія сілы, якія былі ўпэўнены, што В. Кебіч пры падтрымцы камуністычнай большасці і Расіі, атрымае гэтую пасаду. Дэмакратычная апазіцыя лічыла лепшым пакінуць парламенцкую дзяржаву, а калі не атрымаецца, вылучыць толькі адзінага кандыдата. Як быццам, той жа думкі прытрымліваўся і БНФ. Аднак яшчэ ў сярэдзіне 1993 г. БНФ арганізаваў сярод сваіх

сяброў палітычную партыю з той жа назвай і з тым жа кіраўніком З. Пазняком і вырашыў весці перадвыбарчую кампанію самастойна. 1 сакавіка 1994 г. ВС РБ прагаласаваў за прэзідэнцкую дзяржаву.

15 сакавіка 1994 г. пачалася прэзідэнцкая перадвыбарчая кампанія, у якую ўключыліся В. Кебіч, А. Лукашэнка, С. Шушкевіч, З. Пазняк, В. Новікаў (ад камуністаў), Г. Карпенка, А. Дубко (старшыня калгасу і Савета калгасаў Беларусі). Кебіч і Лукашэнка выступалі за саюз з Расіяй і змагаліся паміж сабой, каб даказаць, хто больш «інтэгратар». Першы актыўна выкарыстоўваў «дзяржаўны рэсурс». Другога («змагара з карупцыяй») падтрымлівалі так званыя «маладыя ваўкі» (Д. Булахаў, В. Ганчар, А. Лябедзька і інш), якія спадзяваліся, што Лукашэнка зможа скінуць Кебіча і даць ім высокія пасады ў дзяржаве. Выбаршчыкам так надакучыў камуніст і кіраўнік Кебіч, што яны галасавалі за іншага, абы толькі «супраць Кебіча». На жаль, дэмакратычныя сілы не аб'ядналіся. Карпенка, як вядомы вучоны, выдатны кіраўнік гарвыканкама Маладзечна, стаў папулярным палітыкам і меў шматлікіх прыхільнікаў. Але Карпенка ў час рэгістрацыі меў толькі 108 354 подпісаў, з якіх сапраўднымі палічылі 93 472. Адначасова з 78 дэпутатаў ВС РБ, якія падпісаліся за яго, 14 дэпутатаў адклікалі свае подпісы, і ён не меў патрэбных 70. Справа ў тым, што Карпенка, калі даведаўся аб малой колькасці подпісаў за яго ўключэнне ў спіс кандыдатаў, быў упэўнены, што яго падтрымалі дэпутаты (тым больш, што ў законе не прапісана магчымасць адклікання подпісаў). Таму на ўгаворы нашага Бюро Прэзідыума АН Беларусі (мы з ім сябравалі як з членам-карэспандэнтам АН Беларусі) парупіцца пра збор подпісаў, ён нічога не рабіў. Тым часам дэпутаты БСДГ на чале з Алегам Трусавым адклікалі свае подпісы за Карпенку. Апошні напісаў заяву на пасяджэнні Цэнтральнай выбарчай камісіі аб тым, што здымае сваю кандыдатуру («… трэба падлічваць і карыстацца толькі чыстымі галасамі. Брудныя ж выкідаюць на сметнік»).

Шушкевіча падтрымлівала як раз БСДГ, а Алег Трусаў быў кіраўніком яго ініцыятыўнай групы.

Пазняк яшчэ з 1990 г. меў моцны ценявы кабінет, які актыўна працаваў у розных напрамках нацыянальнага адраджэння, у тым ліку эканамічных (быў распрацаваны шэраг законаў; я разам з В. Масквічом прадставілі «Закон аб нетрах»). Сярод 20 давераных асобаў на выбарах былі Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Радзім Гарэцкі (ужо віцэ-прэзідэнт АН Беларусі) і інш.

23 чэрвеня 1994 г. прайшлі выбары першага Прэзідэнта РБ. Удзельнічала каля 79 % выбаршчыкаў. Ні адзін з кандыдатаў не набраў больш за палову галасоў. Таму быў другі тур, у якім удзельнічалі А. Лукашэнка (каля 45 % галасоў) і В. Кебіч (17 %). З. Пазняк набраў каля 13 %, С. Шушкевіч — 10 %, А. Дубко — 6 %, Новікаў — 4 %. У другім туры (10 ліпеня) перамогу атрымаў А. Лукашэнка, які і стаў першым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. Такім чынам, зноў быў згублены шанц, аб якім мы марылі, і ў гэтым самі былі вінаватыя. За Пазняка і Шушкевіча разам было аддана больш галасоў, чым за Кебіча, і пры адзіным кандыдаце ў другі тур прайшоў бы ён. Мне, як і многім, думаецца, што самую большую магчымасць як адзіны прэтэндэнт меў Карпенка. Як ужо шмат разоў было, у палітыкаў перамагаюць амбіцыі…

Беларусь, як і большасць іншых рэспублік СССР, стала прэзідэнцкай дзяржавай. Амаль усе новыя прэзідэнты, якія былі ўзгадаваны бальшавіцкай сістэмай, адчулі сябе «малымі Сталінымі» і пачалі будаваць «вертыкальную структуру», набліжаную да савецкай, на вяршыні пірамiды якой знаходзіцца прэзідэнт і адзінаначальна кіруе аўтарытарным рэжымам. Метады дасягнення такога самыя разнастайныя, але большасць з іх нелегітымныя і нават злачынныя, гэта — дэмагогія, фальсіфікацыя, карупцыя, выхаванне падначаленых, якія абараняюць уладу, і г. д.

Канстытуцыя Беларусі 1994 г. па словах Лукашэнкі давала яму «царские полномочия». Праз два гады шляхам рэферэнду-

му была прынята новая Канстытуцыя (1996 г.), якая перадала Прэзідэнту ўсю ўладу ў дзяржаве. Нарэшце, рэферэндум (17.X.2004) зняў пункт пра выбары прэзідэнта не больш, чым на два тэрміны, а дазваляе балатавацца неабмежаваную колькасць разоў. Фактычна ні адзін закон без згоды Прэзідэнта не можа быць прыняты, а яго ўказы абавязковыя для дзяржавы нават тады, калі яны не адпавядаюць Канстытуцыі. Такім чынам А. Лукашэнка ўжо 25 гадоў, як сапраўдны адзіны гаспадар, кіруе Рэспублікай Беларусь. Ён да канца мінулага стагоддзя цвёрда трымаў курс на інтэграцыю з Расіяй, нават заключыў Саюз Беларусі і Расіі, падпісаў «Дэкларацыю аб яднанні двух народаў», гатовы быў адразу гэта выканаць, калі Б. Ельцын зробіць яго «віцэ-прэзідэнтам» агульнай дзяржавы. На той час тых апазіцыянераў, якія стаялі за незалежнасць Беларусі, лічыў «ворагамі народа». Але небяспека згубы незалежнасці была настолькі рэальнай, што грамадства правяло Усебеларускі з’езд за незалежнасць. Калі прэзідэнтам Расіі стаў У. Пуцін, ён прапанаваў А. Лукашэнку ўваходжанне Беларусі ў Расійскую Федэрацыю цалкам ці асобнымі абласцямі. Гэта настолькі напужала нашага прэзідэнта, што ён можа згубіць прэзідэнцтва, і тамуársткова загаварыў словамі апазіцыі, у прыватнасці наконт незалежнасці дзяржавы. Але іншыя моманты яго кіраўніцтва засталіся тымі ж.

**«Беларусі і нават усяму чалавецтву пагражае экалагічная небяспека»**

У прыродзе ўсё ўзаемазвязана, і чалавек, як частка прыроды, таксама поўнасцю падначалены ёй. Тым не менш, тэхнагенныя дзеянні чалавека сталі ўпоравень з прыроднымі геалагічнымі працэсамі. Экалогія — навука ўсёабдымная: яна датычыцца і да ўсяго чалавецтва, усяго зямнога шара і закранае кожнага з нас, бо парадак у доме патрэбен усюды — як цалкам на Зямлі, так і ў асобнай краіне, у кожнай хаце, кожнай сям’і. Праблемы экалогіі — пабудова нашага зямнога дома — стала праблемай

нумар адзін для ўсяго чалавецтва, якому неабходна не проста выжыць і захавацца, але і развівацца.

Яшчэ ў 1993 г. я звярнуў увагу на экалогію ў артыкуле «Праблемы развіцця Беларусі ў кантэксце экалагічнай бяспекі», які надрукаваў у кнізе «Шляхам адраджэння» (Мінск: Беларускі кнігазбор, 1997). На жаль, тыя праблемы экалогіі, пра якія я пісаў амаль 25 гадоў таму, не паменшыліся, а значна ўзраслі. Самае галоўнае — вынікі Чарнобыльскай катастрофы, якія кіраўнікі дзяржавы ў значнай ступені ігнаруюць, а сапраўдную сітуацыю, аб якой казалі В. Б. Несцярэнка, І. М. Нікітчанка, Ю. Банджэўскі, засакрэчваюць. Чарнобыль нічому не навучыў, і па загадзе гаспадара дзяржавы будуецца Астравецкая АЭС, прычым на тэрыторыі, якая з’яўляецца найбольш прывабнай для адпачынку і турызму (у тым ліку і міжнароднага) і магла б даваць вялікі прыбытак. Тут відавочна палітычнае рашэнне, іншыя прапанаваныя пляцоўкі, якія з розных меркаванняў, нават цікавейшыя, былі адхілены.

Большасць краін пераходзіць на нетрадыцыйныя метады энергетыкі, якія звязаны з сонечным светам, біямасай, ветрам, вадой, прылівамі, перападамі ціску ў трубах з нафтай, газам, а таксама з геатэрмальнай энергіяй, пошукамі вадароднай энергетыкі і інш. Інтэнсіўныя даследаванні ў гэтых напрамках прыводзяць да хуткага змяншэння цаны такіх вырабаў.

Значную небяспеку ўяўляе апраменьванне ад радону і шматлікіх прадуктаў яго радыеактыўнага распаду. Радонавыя анамаліі часцей за ўсё звязаны з глыбінным паходжаннем і таму нярэдка прыстасаваны да зон разломаў зямной кары. Яны значна ўплываюць на экалагічныя ўмовы жыцця чалавека і яго гаспадарчай дзейнасці. У многіх краінах пабудаваны радонавыя карты рознага маштабу. У Беларусі таксама вывучаюцца праблемы радонавай бяспекі, але іх трэба пашырыць і правесці радонавую здымку.

Экалагічныя праблемы ў Беларусі шматгранны: шырока вядомы дэстабілізацыя прыроды ў Салігорскім раёне і шэра-

гу іншых прамысловых цэнтраў, інтэнсіўная вырубка лясоў; знішчэнне сельскагаспадарчых угоддзяў; пытанні са звалкамі; забруджванне рэк, азёр, глебы, грунтавых вод і інш.

Вядомы амерыканскі вучоны Джорэд Даймонд у кнізе «Коллапс» (2011), у апошняй 16 главе, прысвечанай неабходнасці вырашэння асноўных экалагічных праблем, якія аўтар аб’ядноўвае ў дванаццаць груп (першыя чатыры групы звязаны з вычарпаннем прыродных рэсурсаў, яшчэ тры — з негатыўным антрапагенавым уплывам на навакольнае асяроддзе, апошнія дзве — з ростам насельніцтва). Ён прыходзіць да высновы, што няма альтэрнатывы вырашэнню экалагічных праблем: ні эканамічныя метады, ні новыя тэхналогіі, ні замена прыродных рэсурсаў іншымі, ні «зялёная рэвалюцыя» (рашэнне з харчаваннем), ні рост унутранага нацыянальнага прадукта і інш. не вырашаюць нашы праблемы. *«Таким образом, поскольку мы быстро движемся к катастрофе, нам предстоит так или иначе решать экологические проблемы уже в течение жизни нынешних детей и молодёжи. Единственный вопрос состоит в том, придётся ли выход из положения нам по нраву, либо проблемы будут решены путём войны, геноцида, голода, эпидемий и социальных потрясений. На протяжении истории человечества эти печальные явления возникали там, где случались экологические катастрофы, повышалось антропогенное давление на окружающую среду и, как следствие, возникали бедность и политическая нестабильность»* (с. 692).

Экалагічнае асяроддзе фарміруецца касмічнымі выпраменьваннямі, сонечным ветрам, месцазнаходжаннем у дадзены момант Сонечнай сістэмы ў Галактыцы і «дыханнем» Зямлі. Апошняе характарызуецца атмасфернымі з’явамі, землятрусамі, паводкай і іншымі фактарамі, якія мы добра адчуваем. Але ёсць яшчэ адзін фактар — змены ў часе і ў прасторы геафізічных палёў. Гэтыя палі (магнітнае, гравітацыйнае, радонавае, радыеактыўнае, электрамагнітнае і інш.) практычна магчыма адчуваць толькі з дапамогай апаратуры. Але іх уздзеянне на

арганізм чалавека, асабліва ў спецыфічных геалагічных умовах (геапатагенныя зоны) велізарнае.

Вельмі небяспечныя праблемы звязаны з касмічнымі з’явамі: магчымымі сутыкненнямі нашай планеты з каметамі, астэроідамі; развіццё «чорных дыр»; азонавымі дзіркамі; ідэямі каланізацыі Месяца, Марса і здабычы там карысных выкапняў, шмат з якіх на Зямлі хутка могуць быць вычарпаны; забруджваннем космасу чалавекам і інш.

**«Экалагічныя праблемы, стан чалавецтва і асабліва апошнія падзеі яго развіцця выклікаюць вялікую тугу па наасферы»**

Людзі з першых дзён свайго існавання марылі аб шчаслівым мірным жыцці, але для большасці яно не надыходзіла. Каб супакоіць свой дух, людзі сталі верыць у лепшае, замагільнае жыццё. Змяняліся сацыяльныя сістэмы, з’яўляліся новыя філасофскія погляды, новыя тэорыі развіцця чалавецтва. Ужо ў пачатку ХХ стагоддзя французскі філосаф і матэматык Эдуард Леруа вылучыў новы этап эвалюцыйнага развіцця біясферы — наасферу, гэта значыць сферу чалавечага розуму. Пазней вялікі натураліст акадэмік У. Вярнадскі распрацаваў цэласнае вучэнне пра біясферу і вышэйшую стадыю яе эвалюцыі — наасферу і шчыра верыў, што яна прыйдзе. Мой навуковы настаўнік, выдатнейшы прыродазнаўца акадэмік А. Яншын[1] далей удасканаліў гэтае вучэнне і таксама спадзяваўся, што час калектыўнага чалавечага розуму, наасферы, ужо блізкі.

Аднак, азіраючыся на гісторыю чалавецтва і ўспрымаючы сучасны яе стан (тэрарызм, масавае перасяленне народаў — шматлікая міграцыя людзей, рэлігійнае супрацьстаянне, дыктатарскія і імперскія імкненні, гонка ўзбраенняў, карупцыя, дзікае расслаенне на багатых і бедных і г. д.), чамусьці зусім

---

[1] Гарецкий Р. Г. Академик А. Л. Яншин — дорогой мой учитель и друг. — М.: Наука, 2005. — 192 с.

не бачна набліжэння такога часу. Чым больш павялічвалася насельніцтва на Зямлі, чым больш людзі разумелі законы прыроды, рабілі выдатныя вынаходніцтвы і адкрыцці ў тэхніцы, развівалі навуку, культуру, літаратуру і тым самым, здавалася, набліжаліся да мірнага светлага наасфернага жыцця, тым больш, наадварот, станавілася ахвяр і не столькі ад натуральнага быцця людзей, колькі ад насільнага знішчэння адно аднаго. Надзея на наасферу ўсё змяншаецца. Але туга па ёй жыве… Ці наступіць яна? Для гэтага неабходны максімальныя намаганні ўсіх людзей Зямлі.

**«Што пераможа — поўны песімізм ці асцярожны аптымізм — у далейшым развіцці Беларусі».**

Сучасны стан большасці сітуацый у Беларусі выклікае вялікі сум і песімізм. Перш-наперш гэта тычыцца беларускай мовы, якую ўлады амаль поўнасцю ігнаруюць. Яшчэ Якуб Колас казаў, што калі кіраўніцтва рэспублікі загаворыць на роднай мове, дык і насельніцтва будзе ёй карыстацца. Ні прэзідэнт, ні яго чыноўніцкая вертыкаль (нават міністры культуры, інфармацыі, адукацыі) выступаюць звычайна (ці больш) па-руску. СМІ Беларусі, што асабліва важна тэлебачанне — таксама рускамоўнае. Па віне ўладных структур родная мова даведзена амаль да поўнага заняпаду. Без роднай мовы не можа існаваць і тым больш развівацца нацыянальная культура, адукацыя, многія напрамкі навукі. Без мовы гіне нацыя, а з ёй дзяржаўнасць і суверэнітэт. Каб з беларускай краінай не здарылася такая катастрофа, кіраўніцтва дзяржавы на чале з прэзідэнтам павінны звярнуць сваю галоўную ўвагу на родную мову — карыстацца ёй хаця б на 50 % (калі у нас «двухмоўе») і абавязкова шырока ўкараняць беларускую мову ва ўсе сферы жыццядзейнасці краіны. Праблема роднай мовы вельмі важна ў сувязі з сучаснымі імперскімі амбіцыямі Расіі. У. Пуцін не здарма сказаў, што дзе руская мова, там Расія, там «рускі мір». Прыклад не толькі слоў, але і дзеянняў мы ўсе ўжо ўбачылі ў

Крыму, ва Усходняй Украіне. Толькі мова можа захаваць нашу дзяржаву суверэннай.

Я ўспамінаю размову наконт мовы з Васілём Быкавым, які ўжо тады быў поўным песімістам, пра захаванне і тым больш пашырэнне беларускай мовы, аб чым гаварыў з такім хваляваннем, страшэнным сумам і гаркатой.

У апошні час радуе пашырэнне розных грамадскіх арганізацый і значнага кола беларусаў (асабліва моладзі) па зацікаўленасці і карыстанню беларускай мовай: ТБМ з многімі раённымі і абласнымі суполкамі, ЗБС «Бацькаўшчына», якія стварылі праекты «Будзьма беларусамі», «Не маўчы па-беларуску», «Мова нанова» (Г. Лабадзенка), «Чытаем па-беларуску з Welcom» і інш. Вялікую справу па тлумачэнні важнасці роднага слова ва ўсіх напрамках працягваюць недзяржаўныя газеты: «Народная Воля», «Наша слова», «Наша Ніва», «Свободные новости плюс», «Новы Час» і інш. Вось гэтыя падзеі моцна змяншаюць песімізм і пераконваюць не толькі сэрца і душу, але нават і розум у пачуцці асцярожнага аптымізму.

Ужо 25 гадоў кіраўнік нашай дзяржавы, а за ім яго чынавенства (пад уздзеяннем страху) з гонарам кожны год паўтараюць, як заклінанне — у нас стабільнасць. На самай справе гэтая аснова эканомікі дзяржавы ператварылася ў сапраўдны застой. Але жыццё прымушае рабіць рэформы як палітычныя, так і эканамічныя, хоць і слабыя, і часцей няўдалыя, але з часам да іх выканання вымушаны будуць прыцягнуты новыя лепшыя спецыялісты, і таму ёсць надзея на нейкую сапраўдную мадэрнізацыю.

Нягледзячы на такія шматлікія адмоўныя падзеі ў нашай краіне, цяжкі стан жыцця, на расслаенне насельніцтва на малую колькасць багатых і ўсё больш шматлікіх бедных і інш., я трымаюся яшчэ ў кагорце асцярожных аптымістаў і ўспамінаю апошнія выказванні Ніла Гілевіча. Ужо зусім хворы ён як запавет казаў Анатолю Вярцінскаму і мне: *«Дарагія сябры, працягвайце той шлях, на якім вы так падтрымлівалі мяне, рабіце ўсё магчымае для беларушчыны, дэмакратыі, незалеж-*

*насці і не губляйце аптымізму. Будзем аптымістамі, іншага не дадзена. Будзем верыць у нашу праўду, у нашу перамогу. І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы да Беларусі!»*

*2017*

## Праўда пра вайну і асабліва пра яе пачатак

Успамінаю, як мой брат Усяслаў і я сустракалі ў Маскве Дзень Перамогі. Радасць была бязмернай.

10.V.45 я напісаў у Чкалаўск карталюшку з віншаваннем з заканчэннем Вялікай Айчыннай вайны і пра салют у гонар Перамогі.

*«Дарагія родныя! […] Учора быў салют Перамогі. Славік і я таксама паехалі паглядзець салют. Людзей было так шмат, што ў метро на "пл. Свярдлова" цягнік не супыняўся, і мы сышлі на "Новакузнецкай", дзе было настолькі шматлюдна, што адну жанчыну ледзь не задавілі. Мы спазняліся і таму пабеглі ў бок цэнтра. Як толькі выйшлі з М, мы трапілі як быццам пад нейкі купал (салют ужо пачаўся). Тысячы пражэктароў прарэзалі ўсё неба ва ўсіх напрамках праменнямі самых розных каляроў. Стала светла як у дзень. На аэрастатах у паветра паднялі два вялікія партрэты Сталіна, якія пераліваліся срэбрам, і некалькі сцягоў, асвечаных пражэктарамі. Ракеты ўзляталі ў неба — зялёныя, чырвоныя, белыя. Храм Васілія Блажэннага і Крэмль асвяцілі бела-сінімі праменнямі. Было дужа прыгожа. Пасля салютаў паляцела шмат самалётаў у некалькі радоў. Яны пушчалі асвятляльныя ракеты то па адной, а то цэлымі пачкамі (праўда, яны дужа шыбка гаслі). Народу была такая маса, што да Краснай плошчы і не дабрацца. Усе пеялі песні, скакалі, чапляліся за машыны, сядзелі на крышах тралейбусаў, трамваяў. Людзі абдымаліся, цалаваліся, вайскоўцаў падкідвалі ўгару. Радасць была бязмерная. Але кругом ездзілі машыны хуткай дапамогі з пацярпеўшымі.*

*Цалую. Ваш Радзік».*

Сталін у сакавіку 1946 года абвясціў: «В результате немецкого вторжения Советский Союз безвозвратно потерял в боях с немцами, а также благодаря немецкой оккупации и угону советских людей на немецкую каторгу ***около семи миллионов*** человек».

Пасля вайны рэпрэсіўная машына бальшавізму зноў разгарнула свае шырокамаштабную барацьбу з «ворагамі народа». Для Сталіна «братья и сёстры», да якіх ён звяртаўся ў часе вайны, каб яны ратавалі краіну ад фашысцкіх акупантаў, сталі зноў звычайнымі «винтиками». Пад кіраўніцтвам «самага мудрага», «самага чалавечнага» пачаў з яшчэ большай інтэнсіўнасцю раскручвацца рэпрэсіўны механізм па папаўненні ГУЛАГа: былыя палонныя, жыхары акупаванай фашыстамі тэрыторыі, былыя «ворагі народа», што адбылі свой тэрмін, ды многія іншыя трапілі ў лагеры. Пачаліся новыя гучныя працэсы: барацьба з касмапалітамі, «ленинградское дело», «дело врачей-вредителей» (галоўным чынам габрэйскай нацыянальнасці) і г. д.

5 сакавіка памёр Сталін. Наступіў пераломны момант для Савецкага Саюза і асабліва для лёсу рэпрэсіраваных. Масква была перапалохана: людзі проста не маглі сабе ўявіць, як яны будуць жыць без Сталіна. Не столькі шкадавалі яго як чалавека і асобу, колькі з жахам думалі: «А што цяпер будзе, а што будзе з намі?» Культ асобы так улез у душы і нават розум людзей, што яны ўжо не ўяўлялі, як можна жыць без гэтага чалавека. Мяне, як члена Бюро камсамола інстытута, разам з іншымі камсамольцамі мабілізавалі на кругласутачнае дзяжурства ў інстытуце — баяліся правакацый. Некаторыя працаўнікі, асабліва дзяўчаты, нават плакалі, прыгаворваючы: «А што ж цяпер будзе?..» Але некаторыя людзі ведалі ці здагадваліся пра ролю Сталіна, пра той таталітарызм, які ўсталяваўся ў Саюзе, і таму вялікіх шкадаванняў не адчувалі, але ўсе хваляваліся за далейшы лёс краіны. Тысячы масквічоў і прыезджых кінуліся на развітанне з нябожчыкам — вуліцы, плошчы запоўніў на-

тоўп. Каб накіраваць у патрэбнае рэчышча людскую рэчку (а яна хутчэй была падобная да людской селі, якая стрымгалоў імчыцца з гор), грузавымі машынамі перагароджвалі вуліцы, але людская стыхія пераварочвала машыны і рухалася наперад. Загінула каля 1500 чалавек… І мёртвы Сталін працягваў забіваць людзей.

М. С. Хрушчоў звярнуўся да савецкага народа з вялікім дакладам, у якім раскрыў сталінскія злачынствы — надышла так званая хрушчоўская адліга, пачалася рэабілітацыя «ворагаў народа» і вяртанне многіх тысячаў людзей з ГУЛАГа. Хрушчоў у 1961 годзе абвясціў: «Война унесла ***два десятка миллионов*** жизней советских людей». У 1965 годзе Брэжнеў паведаміў, што загінула «***свыше двадцати миллионов*** человек». У 1990 годзе Гарбачоў даў такую лічбу: «Война унесла ***почти 27 миллионов*** жизней советских людей». Вось такія савецкая статыстыка і лозунг — «никто не забыт…» Праўда паступова перамагала хлусню і адкрывала сакрэты КДБ.

Журналіст Сяргей Баймухаметаў паведаміў апошнія звесткі на гэты конт і пра цяжкі пачатак вайны («Свободные новости плюс», 27. VI. 2017). 14 лютага 2017 года на слуханнях у Дзяржаўнай думе РФ з дакладам выступіў дэпутат Мікалай Зямцоў: *«Согласно рассекреченным данным Госплана СССР, потери Советского Союза во Второй мировой войне составляют* ***41 миллион 979 тысяч****, а не 27 миллионов, как считалось ранее. Это — без малого одна треть современного населения Российской Федерации. Безвозвратные потери в результате действия факторов войны — более 19 миллионов военнослужащих и около 23 миллионов гражданского населения… почти 42 миллиона человек»*.

Гітлераўская Германія згубіла 7,3 мільёны салдат і мірных жыхароў.

За 17 дзён вайны гітлераўцы захапілі Балтыку, Беларусь, Заходнюю Украіну і падышлі да Кіева. Чаму так здарылася? Савецкія гісторыкі тлумачылі раптоўнасцю нападу і перава-

гай фашыстаў у жывой сіле і тэхніцы. Але гэта — звычайная бальшавіцкая хлусня. Шмат было самых розных сігналаў (прычым і вельмі дакладных) пра пачатак нападу, але Сталін лічыў іх правакацыямі. На пачатку вайны колькасць вайсковай тэхнікі была такая: нямецкіх танкаў — 4000, савецкіх — 14 000; нямецкіх самалётаў — 5000, савецкіх — 10 000; нямецкіх гармат і мінамётаў — 42 000, савецкіх — 59 000. 11 снежня 1941 года Гітлер у рэйхстагу паведаміў, што з пачатку вайны і да 1 снежня было ўзята ў палон 3 806 860 савецкіх салдат і афіцэраў.

Як цяпер стала вядома, яшчэ перад вайной камандны склад савецкай арміі — ад лейтэнантаў да маршалаў — трапіў пад навалу страшэнных рэпрэсій. Усе камандзіры былі дэмаралізаваны: яны сваіх начальнікаў баяліся больш за немцаў. Афіцэры былі спаралізаваны страхам рэпрэсій. Страх не даваў ім магчымасці ўзяць на сябе адказнасць за якое-небудзь самастойнае рашэнне без загаду зверху. А загадаў ніякіх не было, і яны проста адступалі. Некаторыя камандзіры, адчуваючы безвыходнасць абставін, нават стралялі сабе ў скронь.

Сталін у першыя дні вайны ўпаў у прастрацыю і схаваўся на сваёй Кунцаўскай дачы. Праз некалькі дзён ён зрабіў спробу дамовіцца з Гітлерам. Як у жніўні 1953 года намеснік начальніка разведупраўлення НКУС Павел Судаплатаў напісаў у тлумачальнай запісцы: *«Примерно числа 25–27 июня 1941 года я был вызван в служебный кабинет бывшего наркома внутренних дел Берии. […] Необходимо неофициальным путём выяснить, на каких условиях Германия согласится прекратить войну против СССР и приостановит наступление немецко-фашистских войск… Устроит ли немцев передача Германии таких земель, как Прибалтика, Украина, Бессарабия, Буковина, Карельский перешеек. Если нет, то на какие территории Германия допонительно претендует».*

Са зваротам да народа «братья и сёстры» Сталін выступіў толькі 3 ліпеня 1941 года, калі немцы ўжо захапілі Менск.

У кнізе «Как кончаются войны» В. Я. Субоціна шмат ёсць праўды пра трагедыю адступлення савецкіх войскаў у пачатку

вайны. Ён тады служыў на заходняй мяжы ў якасці стралка сярэдняга танка. Іх полк сталі бамбіць адразу, і яны пакінулі казармы і пераехалі ў суседні лес, дзе стаялі без адзінага выстралу, чакаючы каманды зверху, а яе ўсё не было. Адчуўшы, што немцы абыходзяць іх з усіх бакоў, калонай пацягнуліся да Цярнопаля, а ён ужо гарыць і заняты немцамі. Пасля моцных бамбёжак полк распаўся на асобныя групы. *«Мы попали в общий поток отступающих войск, так же, как и мы, растеряных, ничего не понимающих. Шли под бомбёжками. […] Шепетовка — старая граница. А старая граница укреплена […] только видели вдали пылающее зарево. Так и прошли старую границу, ничего не заметив. […] Почти четыре миллиона пленных за полгода войны! Но ведь пленных могло быть и больше. Был день, когда мы с немцами шли рядом. В одном направлении — на восток. Они шли по параллельной с нами дороге. Иногда можно было их видеть. Пехота двигалась колоннами. Много солдат ехало в машинах, впереди и сзади мотоциклы. Отдельно — танки. Так они и прошли. На нас не обратили внимания. То есть понимали, убедились, что воевать, стрелять в них мы не будем. […] Ведь среди нас дни отступления я их почти не видел и не слышал. […] А я уверен, если бы каждый командир приказал занять оборону, мы бы дали бой и не пустили немца так далеко».*

На жаль, гісторыя часцей за ўсё слаба ўлічваецца новымі пакаленнямі, і падзеі, блізкія да тых, якія ўжо былі і раней, зноў паўтараюцца з тымі ці іншымі зменамі. Большасць былых рэспублік СССР, у тым ліку і Беларусь, сталі прэзідэнцкімі дзяржавамі.

***2017***

# XXV Гарэцкія чытанні

22 чэрвеня 2017 года ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбыліся ўжо юбілейныя XXV Гарэцкія чытанні, прысвечаныя літаратурнай і навуковай дзейнасці братоў Гарэцкіх (у сувязі з абвяшчэннем 2017 года Годам навукі). Адкрыў канферэнцыю і ўступнае слова зрабіў новы дырэктар музея Дзмітрый Яцкевіч, а з прывітаннямі звярнуліся вядомы пісьменнік і дзеяч на ніве культуры Анатоль Бутэвіч і галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» Святлана Воцінава. Я выступіў з інфармацыяй аб тым, што адбылося з часу мінулых чытанняў. Найбольш значныя падзеі: у серыі «Залатая калекцыя беларускай літаратуры», том 12 выйшлі «Творы» Максіма Гарэцкага (Мінск, 2016. 932 с.); Ярмоленка Тамара Уладзіміраўна паспяхова абараніла кандыдацкую дысертацыю на тэму «Творчасць Максіма Гарэцкага: праблематыка і паэтыка»; прайшлі XXVIII навуковыя чытанні, прысвечаныя памяці акадэміка Г. І. Гарэцкага. Я паведаміў пра тыя падзеі, якія выклікалі вялікі рэзананс: першая звязана з домам у Горках, дзе была кватэра М. Гарэцкага, якая была знесена ў сувязі з «дажынкамі»; другая — спрэчная прапанова пра перанос музея-сядзібы М. Гарэцкага з Малой Багацькаўкі ў Мсціслаў.

На пленарным пасяджэнні першы даклад зрабіў Міхась Мушынскі, які выказаў думку аб вывучэнні дынастый у гісторыі беларускай культуры і навукі. Радзім Гарэцкі паведаміў пра навуковую дзейнасць свайго бацькі акадэміка Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага спачатку ў галіне эканомікі (эканамічнай геаграфіі, а таксама дэмаграфіі), а пазней у галіне геалогіі (геалогіі антрапагена, неатэктонікі, палеагеаграфіі), якой авалодаў з нуля і стаў акадэмікам па спецыяльнасці геалогія. Тамара Тарасава разгледзела манаграфію «Гісторыя беларускай літаратуры» Максіма Гарэцкага як першую спробу станаўлення беларускага тэарэтычнага літаратуразнаўства. Сяргей Запрудскі

зрабіў грунтоўны аналіз «Практычнага расійска-беларускага слоўніка» М. Байкова і М. Гарэцкага ў кантэксце беларускай лексікаграфіі 1920-х гадоў.

Працавалі дзве секцыі: першая пад кіраўніцтвам Таісы Грамадчанка і Алены Гурскай і другая — пад кіраўніцтвам Вольгі Губскай і Зоі Траццяк.

23 чэрвеня 2017 года пад кіраўніцтвам дырэктара Дзяржаўнага музея беларускай літаратуры Дзмітрыя Яцкевіча ў Магілёве на базе Музея гісторыі Магілёва прайшоў круглы стол, у якім прынялі ўдзел каля 20 чалавек. З Менску на чале з Яцкевічам спецыяльным аўтобусам прыехала група дзеячаў, сярод якіх старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп, старшыня Таварыства аховы помнікаў Антон Астаповіч, дацэнт філалагічнага факультэта БДУ Міхась Кенька і інш. Удзельнікі круглага стала наведалі Малую Багацькаўку і Літаратурны музей імя Максіма Гарэцкага, абмеркавалі шэраг розных праблем і асабліва пытанне музеефікацыі літаратурных мясцін.

У выніку працы XXV Гарэцкіх чытанняў і круглага стала ў Магілёве была прынята наступная **Рэзалюцыя**.

**Рэзалюцыя**

XXV Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Гарэцкія чытанні» (Мінск, 22 чэрвеня 2017 года) і круглага стала, прысвечанага пытанням музеефікацыі літаратурных мясцін (Магілёў, 23 чэрвеня 2017 года)

Удзельнікі круглага стала віталі рашэнне ўладаў Мсціслаўскага раёна аб захаванні Літаратурнага музея імя Максіма Гарэцкага ў в. Малая Багацькаўка, беручы пад увагу значнасць асоб Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх, якія там нарадзіліся, і ў сувязі з гэтым важнасць захавання дадзенага гістарычнага асяроддзя.

У выніку канферэнцыі і круглага стала былі вынесены наступныя прапановы:

Прапанова І.

1. Выдаць зборнік матэрыялаў канферэнцыі «XXV Гарэцкія чытанні» (матэрыялы здаць да 17.07.2017).

2. Стварыць аргкамітэт па святкаванні 125-гадовага юбілею класіка беларускай літаратуры, навукоўца, педагога і асветніка Максіма Гарэцкага (1893–1938).

3. Прыцягнуць увагу грамадскасці да 125-гадовага юбілею класіка беларускай літаратуры, навукоўца, педагога і асветніка Максіма Гарэцкага (1893–1938) і абвясціць 2018 год Годам Максіма Гарэцкага. Распрацаваць план мерапрыемстваў, прысвечаных 125-годдзю з дня нараджэння Максіма Гарэцкага, у тым ліку ў краінах, дзе пражываў М. Гарэцкі (Літва, Латвія, Расія і інш.), з удзелам дыпламатычных прадстаўніцтваў РБ і беларускіх суполак.

4. Арганізаваць шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных 125-годдзю з дня нараджэння пісьменніка, ва ўстановах культуры і адукацыі; адкрыць часовыя экспазіцыі выданняў твораў М. Гарэцкага, кніг і публікацый, прысвечаных яго жыццю і творчасці.

5. Арганізаваць шэраг літаратурных вандровак па мясцінах, звязаных з жыццём і творчасцю Максіма Гарэцкага з абавязковым наведваннем Літаратурнага музея імя Максіма Гарэцкага ў в. Малая Багацькаўка Мсціслаўскага раёна для вучняў сярэдніх школ Магілёўскай вобласці, студэнтаў філалагічных спецыяльнасцяў ВНУ рэспублікі.

6. Распачаць у найбліжэйшы час падрыхтоўку і здзяйсненне фундаментальнага выдання творчай спадчыны Максіма Гарэцкага ў выглядзе Збору твораў, а таксама адпаведнае выданне аднатомнага энцыклапедычнага даведніка «Максім Гарэцкі».

7. Мясцовым уладам арганізаваць семінар пад эгідай Нацыянальнага агенцтва па турызме з удзелам мясцовых турыстычных кампаній з мэтай пракладання турыстычнага маршруту праз в. Расна, г. Горкі, г. Мсціслаў, в. Малая Багацькаўка і інш. і актыўнай яго рэкламы.

8. Выдаць да юбілейнай даты паштовую марку і канверт.

Прапанова ІІ.

Падтрымаць на ўсіх узроўнях ініцыятыву стварэння музея А. Адамовіча ў в. Глуша Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці.

1. Стварыць апякунскі савет з прадстаўнікоў мясцовых уладаў, грамадскасці, музейнай супольнасці для кантролю за расходаваннем сродкаў на стварэнне музея А. Адамовіча ў в. Глуша Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці.

2. Мясцовым уладам арганізаваць святкаванне 90-годдзя з дня нараджэння Алеся Адамовіча ў верасні 2017 года. Установе «Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры» ў межах святкавання арганізаваць часовую экспазіцыю.

*2017*

## Гаўрыла Гарэцкі — эканаміст і геолаг

У ліпені 1924 года Г. Гарэцкі скончыў эканамічны факультэт Ціміразеўскай (Пятроўскай) акадэміі і быў прыняты ў аспірантуру Навукова-даследчага інстытута сельскагаспадарчай эканомікі, дзе пачаў пісаць манаграфію «Народны прыбытак Беларусі (Национальный доход Белоруссии)». Адначасова ён выкладаў эканамічную геаграфію ў Камуністычным універсітэце нацыянальных меншасцяў Захаду на беларускім аддзяленні. На наступны год Гарэцкі пераехаў у Горкі, дзе працаваў дацэнтам, загадчыкам кафедры эканамічнай геаграфіі Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі. У 1926 г. выйшла з друку яго вялікая манаграфія пра народны прыбытак Беларусі і артыкулы «Сельская гаспадарка Гомельскай губерні» і «Население Гомельской губернии». У апошніх ён пераканаўча даказаў, што Гомельшчына найбольш блізка да Беларусі, а не да Расіі і Украіны, а гэта паспрыяла яе ўключэнню ў склад БССР. Улетку Гарэцкі выязджаў у экспедыцыю,

дзе праводзіў эканамічны профіль у Маскоўскай вобласці і Беларусі, пра які напісаў вялікі раздзел «Экономический профиль Петровско-Разумовское — Дурыкино» і які выйшаў у манаграфіі Г. И. Горецкий, С. М. Малышев, А. А. Рыбников «Экономическое влияние Москвы на организацию сельского хозяйства области» (1927). А. В. Чаянаў у прадмове да кнігі адзначыў навізну метаду Г. І. Гарэцкага і значную перспектыву для «обследования ещё неизученных пространств».

У пачатку 1927 г. Гаўрылу Гарэцкага ўрад БССР прызначыў дырэктарам-арганізатарам Беларускага навукова-даследчага інстытута (БНДІ) сельскай і лясной гаспадаркі імя У. І. Леніна пры СНК БССР у Менску. Менавіта цяпер, у 2017 г. — 90-годдзе гэтага Інстытута. Гарэцкі распрацаваў статут, структуру новага інстытута, напрамкі дзейнасці, праграму даследаванняў і план працы, прычым усё гэта падначаліў таму тыпу народнай гаспадаркі, які быў выяўлены пры вывучэнні нацыянальнага прыбытку Беларусі. Чарвякоў, Галадзед і іншыя кіраўнікі ўхвалілі ўсе дакументы. Гарэцкі вылучыў новыя прынцыпы арганізацыі даследчай работы: 1) навуковыя ўстановы павінны быць створаны не па галінах сельскагаспадарчай навукі, а па галінах с.-г. вытворчасці; 2) навуковыя ўстановы павінны быць спецыялізаванымі. Усе навуковыя напрамкі сельскай і лясной гаспадаркі былі сканцэнтраваны ў БНДІ, які меў 5 вялікіх аддзелаў: сельскагаспадарчай эканомікі і аграрнай палітыкі, раслінагадоўлі і прыкладной батанікі, жывёлагадоўлі і прыкладной заалогіі, меліярацыі і культуры балот, лясной гаспадаркі. Пры аддзелах існаваў шэраг галіновых (цэнтральная бульбяная, балотная, тарфяная, лясная, раслінагадоўчая, аховы раслін, лекавых раслін, свінагадоўчая, буйных рагатых жывёл і інш.), раённых (Горацкая, Віцебская, Тураўская, Палеская, Барысаўская, Магілёўская, Мінская і інш.) станцый; спецыяльных даследчых станцый (4 лясных, гідрамеліяратыўнай, меліяратыўна-гідратэхнічнай і інш.), навуковыя кабінеты, лабараторыі (цэнтральна-хімічная і інш.), бюро сялян-даследчыкаў.

Гарэцкаму з цяжкасцю, але задалося дамагчыся пры інстытуце адкрыць аддзел «Белгеафізіка», які меў геафізічную абсерваторыю, метэаралагічную станцыю. Аддзел займаўся і іншымі геафізічнымі даследаваннямі (зямны магнетызм, сейсмалогія і інш.) Гаўрыла Іванавіч меркаваў, што ў далейшым на базе аддзела павінен быць створаны Гідраметэаралагічны інстытут. БНДІ выдаваў на беларускай мове штомесячны часопіс «Сельская і лясная гаспадарка Беларусі», які шырока рассылалі як у БССР, так і за яе межамі.

У Інстытут перайшла сельскагаспадарчая секцыя Інбелкульта і таму паміж інстытутамі была заключана дамова *«ў мэтах канцэнтрацыі, планавага развіцця і ўзаемнай сувязі навуковых доследаў прыроды, гаспадаркі і культуры Беларусі»*. Гарэцкага тады ўвялі ў склад Прэзідыума Інбелкульта і Навуковай Рады як правадзейнага члена з правам рашаючага голасу. Да працы ў БНДІ Гарэцкаму задалося прыцягнуць значную колькасць самых вядомых прафесараў, шэраг з якіх пазней былі абраны акадэмікамі.

У канцы 1927 г. Інбелкульт разам з БНДІ сельскай і лясной гаспадаркі і Наркаматам асветы па заданні Дзяржплана СССР распрацавалі пяцігадовы план развіцця навукова-даследчай працы на 1928/29–1932/33 гады. Ужо праз два гады Інстытут стаў адной з самых буйных навуковых устаноў, якую высока ацанілі не толькі ў БССР, але і ва ўсім Саюзе. Некалькі разоў у Менск прыязджаў выдатны вучоны М. І. Вавілаў, які меў тут Беларускае аддзяленне Усесаюзнага інстытута прыкладной батанікі і новых культур. Вавілаву вельмі спадабаўся БНДІ, кірунак яго працы і сам кіраўнік. Абодва дырэктары падтрымлівалі працы інстытутаў. Сістэма даследчай дзейнасці БССР была прынята за аснову рэканструкцыі даследчай справы ўсяго СССР, а на базе БНДІ выраслі два ўсесаюзныя інстытуты і шэраг беларускіх навукова-даследчых інстытутаў.

На VIII Усебеларускім з’ездзе Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў (1927) Г. Гарэцкага абралі кан-

дыдатам у члены Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР, а на наступным з’ездзе (1929) — членам ЦВК БССР.

Гаўрыла Гарэцкі вельмі многа працаваў у самых розных напрамках: навукова-арганізацыйных, грамадскіх, навуковых. Яго абіралі членам Савета Беларускага цэнтральнага саюза сельскагаспадарчых і прамысловых таварыстваў (Белсельсаюза), членам Прэзідыума Камітэта па хімізацыі народнай гаспадаркі пры СНК БССР, у Цэнтральнае бюро краязнаўства пры Інбелкульце, эканамічную секцыю Навуковага таварыства пры БДУ, Камісію перспектыўнага планавання Дзяржплана БССР, у Цэнтральнае Бюро секцыі навуковых працаўнікоў БССР і г. д.

Г. Гарэцкі актыўна ўдзельнічаў у пасяджэннях СНК БССР, сесіях ЦВК і інш. Ён выступаў з дакладамі і ўздымаў пытанні пра неабходнасць стварэння «Беларускага Цэнтральна-Прамысловага раёна, з цэнтрам у Менску», геаграфічнага размяшчэння прамысловасці, пашырэння геалагічных даследаванняў і пошукаў мінеральнай сыравіны (у тым ліку агранамічных руд), будаўніцтва навуковых устаноў і г. д.

У тыя гады Г. Гарэцкі зрабіў шэраг вельмі грунтоўных і цікавых прац у галіне дэмаграфіі. Па матэрыялах сваіх камандзіровак у Польшчу, Германію і Данію (1926, 1927 гг.) ён напісаў манаграфію «Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы (Нацыянальны склад насельніцтва Заходняй Беларусі)» (1928) на беларускай мове з вялікім рэзюмэ па-англійску. Ён вызначаў сапраўдныя этнічныя межы Беларусі і асабліва дасканала — заходнюю. Праца зацікавіла грамадскасць, і яе аўтар быў запрошаны прачытаць лекцыі ў Кембрыдж.

У часопісе «Полымя» (1929, № 5) Г. Гарэцкі надрукаваў цікавы артыкул «Нацыянальныя асаблівасьці насельніцтва БССР і беларускага насельніцтва СССР паводле перапісу 1926 г.». У дачыненні да насельніцтва ўсяго СССР аўтар зрабіў такую сумную выснову: *«...беларусы перажываюць працэс асіміляцыі выключнай моцы, які ставіць беларусаў на ўзровень (у гэтых адносінах) да найбольш “някультурных” нацыянальнасьцяў*

*СССР, што стаяць на грані ўжо фізычнага зьмяншэньня і выміраньня (камчадалы, асьцякі і да т. п.)».*

14 кастрычніка 1928 года ў газетах Беларусі была апублікавана пастанова ЦВК і СНК БССР «Аб рэарганізацыі Інстытута беларускай культуры ў Беларускую акадэмію навук». Пачалося абмеркаванне структуры і кірунку дзейнасці БАН. Г. Гарэцкі напісаў адпаведную запіску «Аб арганізацыйных прынцыпах будаўніцтва Акадэміі навук», у якой адзначыў, што БАН павінна сканцэнтраваць і планаваць усю навукова-даследчую працу; складацца не толькі з кафедраў, але і з інстытутаў як комплексных, так і спецыяльных; уключаць навуковыя дысцыпліны не толькі ў галіне культуры і прыроды, але і ў галіне тэхнікі і гаспадаркі і інш. 26 снежня 1928 года шэраг вядомых вучоных БССР спачатку былі абраны спецыяльнай камісіяй, а затым пастановай СНК БССР былі зацверджаны ў званні членаў БАН. 1 студзеня 1929 года, у дзень 10-годдзя БССР і кампартыі рэспублікі, урачыста правялі ўстаноўчы сход БАН. Гаўрыла Гарэцкі таксама быў у ліку першых акадэмікаў-заснавальнікаў БАН, прычым самы малады (28 гадоў) за ўвесь час існавання Акадэміі навук Беларусі.

Стварэнне БАН прыйшлося на 1929 — год «вялікага пералому», калі Савецкі Саюз ператварыўся ў «архіпелаг ГУЛАГ». Незадаволенасць выклікала і БАН, якая здавалася бальшавікам занадта нацыянальнай. Пачаліся ганенні супраць «нацдэмаў». У 1930 годзе па інспіраваных АДПУ справах «Саюз вызвалення Беларусі» (СВБ) і «Беларускі філіял працоўнай сялянскай партыі» з БАН было арыштавана 33 вучоных, што склала амаль 1/3 усяго складу акадэміі, якая ў той час налічвала каля 100 навуковых супрацоўнікаў. Па першай справе Максіма Гарэцкага асудзілі да 5 гадоў высылкі ў Вятку, а Гаўрылу Гарэцкага — да вышэйшай меры пакарання (расстрэлу) з заменай гэтага пакарання заключэннем у канцлагер тэрмінам на 10 гадоў. Яго ў цяплушцы давезлі да Кемі на беразе Белага мора — сталіцы СЛОНА (Салавецкага лагера асобага назначэння), а пазней у

Мядзведжую Гару на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала. Вось так скончылася праца акадэміка Г. Гарэцкага ў галіне эканомікі.

Як я даведаўся ўжо ў 90-х гадах мінулага стагоддзя з кнігі «Ордена Советских республик» Куценко А. Н., Смирнов Н. Д. (Донецк, 1966. С. 267) у 1930 годзе Г. І. Гарэцкі быў узнагароджаны ўрадам БССР ордэнам Працоўнага Сцяга БССР, аб чым ён сам так ніколі і не даведаўся. Тады ордэн змянілі на ордар — і ўзнагароджаны выдатны акадэмік адразу стаў зняволеным «нацдэмам» — «ворагам народа».

Дзейнасць Гарэцкага як эканаміста высока ацэньваў не толькі ўрад БССР, але і шэраг калег. Так, вядомы вучоны, палітычны і грамадскі дзеяч Аркадзь Смоліч, які таксама быў арыштаваны па справе «СВБ» даў паказанні пра Гарэцкага: *«[...] Г. И. Горецкий является сторонником и проповедником самых быстрых темпов индустриализации БССР, самых больших размеров капитальных вложений, как в индустрию, так и в сельское хозяйство, так как таким путём Белоруссия наиболее быстро может ликвидировать свою экономическую отсталость. [...] Умел он достаточно широко и своевременно поставить вопрос о развитии исследовательского дела и о его финансировании. По его плану и под его руководством была открыта при БАН первая в СССР кафедра теории штандорта[1] народного хозяйства. Будучи хорошо знакомым с условиями и особенностями сельского хозяйства БССР, Г. Горецкий в последние годы усиленно подчёркивал необходимость организации научной работы и капитального строительства, исходя из перспектив генплана. В этом отношении он опережал всех известных мне экономистов БССР. Для практической работы он нередко выставлял положения, которые только впоследствии стали насущнейшими плановыми установками».*

[1] Штандорт — навука аб рацыянальным размяшчэнні вытворчасці.

Пра манаграфію «Народны прыбытак Беларусі (Национальный доход Белоруссии)» Г. Гарэцкага сучасны вядомы эканаміст Віталь Бусько адзначыў:

*«…Гарэцкі быў прыхільнікам збалансаваных гандлёвых сувязей Беларусі з тымі краінамі, з якімі гэта эканамічна выгадна. І сёння ў нашай краіне гэтаксама востра стаіць пытанне выбару найбольш выгадных гандлёвых партнёраў, збалансаванага спалучэння сувязей з Усходам і Захадам»*[1].

Дырэктар Інстытута эканомікі НАН Беларусі акадэмік П. Г. Нікіценка і ст. навуковы супрацоўнік гэтага Інстытута В. М. Бусько так ахарактаразавалі манаграфию: *«Названная выше работа Гавриила Ивановича Горецкого была первой монографией в республике, в которой давалось комплексное описание хозяйственной специфики нашей страны, показывалось, что по отдельным показателям Беларусь не только не отставала, но и опережала Россию. Некоторые выводы учёного не потеряли своей актуальности и сегодня. Работа эта свидетельствовала о склонности Горецкого к глубоким исследованиям, о его большой эрудиции и способности к фундаментальным обобщениям. По предмету, который исследовал, он изучил труды практически всех наиболее известных экономистов Запада и России, смело вступал в полемику с признанными авторитетами, пытался решать самые актуальные экономические проблемы, что вставали перед республикой. Характерно, что предисловие к монографии написал крупнейший специалист в области экономики сельского хозяйства профессор А. А. Рыбников»*[2].

Пра працы, у якіх сцвярджалася неабходнасць уключэння Гомельшчыны ў склад БССР, акадэмік П. Г. Нікіценка і В. М. Бусько падкрэслілі: *«О практической ценности иссле-*

---

[1] Бусько В. Хацелася Радзіме памагчы… // Полымя. — 1998. — № 10. — С. 215.

[2] Никитенко П. Г., Бусько В. Н. Они были первыми академиками-экономистами Беларуси. — Минск: Право и экономика, 2001. — С. 36.

*дований Горецкого можно исходить по использованию его доводов Госпланом БССР при разработке докладной записки в правительство республики, в которой обосновывалась целесообразность включения Гомельщины в состав БССР. Уже в первой солидной экономической работе Гавриил Иванович показал себя как учёный, который поднимал глубинные проблемы для решения задач хозяйственного строительства республики»*[1].

Яны так ацанілі дзейнасць Г. І. Гарэцкага: *«Гавриил Иванович Горецкий занимался экономическими вопросами не более как пять лет. Однако он оставил яркий след в истории нашей экономической науки. Многие высказанные им положения сохраняют актуальность и сегодня. Например, необходимость развития рыночных отношений как важнейший фактор экономического роста, важность для экономики Беларуси внешнего рынка, творческое использование мирового опыта хозяйствования с учётом особенностей республик, при разработке стратегии — опора на направления эволюционного развития страны, выяснение конкретных приоритетов в экономической политике и другие»*[2].

* * *

У Мядзведжай Гары Г. Гарэцкаму пашанцавала: недалёка ад яго барака знаходзілася Геалбаза, куды 19 верасня 1931 года ён з вялікім хваляваннем звярнуўся. Пасля размовы з галоўным геолагам А. М. Гурэевым і інжынерам-геолагам У. С. Токаравым (абодва вольнанаёмныя) Гарэцкага ўзялі з выпрабавальным тэрмінам на працу памочнікам малодшага тэхніка Варвары Гулінай — як пажартаваў Гурээў: «Будете помВар». Так былы акадэмік-эканаміст ступіў на яшчэ невядомую сцежку новай спецыяльнасці — геалогія. Гарэцкі працаваў з ранку да позняга вечара, ды так паспяхова, што яго ў канцы верасня перавялі

[1] Никитенко П. Г., Бусько В. Н. Они были первыми академиками-экономистами Беларуси. — С. 33.

[2] Тамсама. — С. 44.

навукова-тэхнічным супрацоўнікам Геалбазы, а яшчэ праз паўгода — старшым інжынерам-геолагам. 1931 год стаў пачаткам, а канал ББК — калыскай геалагічнай дзейнасці Г. І. Гарэцкага.

Ужо ў 1933 годзе Гарэцкі напісаў першыя тры самастойныя справаздачы і першую друкаваную працу па геалогіі — артыкул «Геологическая характеристика Водораздельного канала» (часопіс «За качество», дадатак да газеты «Перековка»).

У кастрычніку 1934 года Г. Гарэцкі быў вызвалены: за добрую працу тэрмін заключэння быў значна скарочаны. Яго адпусцілі на зусім кароткі час з'ездзіць да бацькоў у Малую Багацькаўку і забраць сям'ю, але раілі застацца працаваць на ББК. Яго прызначылі на пасаду начальніка Туломскай інжынерна-геалагічнай партыі, а затым — старшага інжынера-геолага Туломбуда. Тут праводзіліся інжынерна-геалагічныя вышуканні пад Ніжне-Туломскую ГЭС, Кольскі канал і Верхне-Туломскую ГЭС.

Гарэцкія пасяліліся каля Мурманска — у пасёлку Кола (на беразе Кольскага заліва). Доўга жылі ў бараку — былой стайні, кожнае стойла якой было перароблена на маленечкія пакойчыкі. Атрымалі два: у адным начавалі маці і бацька Ларысы і малодшы сын, у другім — Лара, Гаўрыла і старэйшы сын.

У пачатку 1935 года ад Парфіра прыйшоў ліст з жудаснай весткай: 4 сакавіка ў 2 гадзіны дня пасля аперацыі грыжы памерла маці — Ефрасіння Міхайлаўна. Але ні Гаўрылу, ні Максіма на пахаванне маці не адпусцілі.

У лютым 1937 года Гарэцкія пераехалі ў пасёлак Мурмашы — бліжэй да будаўніцтва ГЭС. На працы ў ББК Гаўрыла Іванавіч адразу зацікавіўся археалогіяй, а ў 1937 годзе ўжо змог надрукаваць у Маскоўскіх выданнях два артыкулы пра неалітычныя стаянкі Кольскага перашыйка і ў г. Кемі (Карэлія). Тады ж Гарэцкага прызначылі старшым геолагам аддзела даследаванняў Волгабуда, і ён з сям'ёй пераехаў пад Рыбінск, дзе меркавалася правесці геалагічныя працы пад стварэнне Рыбінскага мора і будаўніцтва ГЭС. Там жылі нядоўга, каля

паўгода, бо Гарэцкага раптам выклікаў начальнік будаўніцтва Рапапорт і паведаміў, што з Масквы паступіў загад, каб усіх, хто некалі быў асуджаны па артыкуле 58–6 (шпіянаж), безадкладна звольніць. Ён параіў Гарэцкаму вярнуцца назад у Мядзведжую Гару і паступіць зноў на працу ў сістэму Гідрапраекта, на якую гэты загад не распаўсюджваўся. Ён напісаў пісульку, каб Г. Гарэцкаму далі накіраванне ў Мядзведжую Гару.

Але там ужо ў кастрычніку 1937 года Г. Гарэцкі быў арыштаваны, але ў пачатку снежня нечакана вызвалены. Аднак 8 траўня 1938 года за Гарэцкім зноў прыехаў «чорны воран», а выпусцілі толькі праз 1 год і 8,5 мес. — 22 чэрвеня 1939 года. Гэта быў самы цяжкі арышт, калі зноў асудзілі да расстрэлу, а бясконцымі допытамі, здзекамі, голадам, карцарамі, катаваннямі многіх даводзілі да самагубства. Гаўрыла быў на мяжы таго ж.

Як былога «ворага народа», Г. Гарэцкага нідзе не прымалі на працу. Ён на працягу больш месяца пісаў запыты амаль у 30 месцаў, нават ездзіў у некаторыя гарады — станоўчага адказу не было. Каб не губляць час, ён апрацоўваў геалагічныя матэрыялы, якія назбіраў раней. Паслаў шэраг артыкулаў у друк. Вельмі цікавы сярод іх «Доледниковая кора выветривания на Кольском полуострове» (часопіс «Природа»), у якім упершыню была апісана новая з’ява ў геалагічнай гісторыі раёна.

Нарэшце ў жніўні прыйшла тэлеграма ад галоўнага інжынера будаўніцтва Салікамскага гідравузла (СГУ) Н. С. Сіманава з запрашэннем на працу старшым геолагам Геалагічнага аддзялення 1-га раёна СГУ НКУС (пас. Ніжняе Мошава пад Салікамскам Пермскай вобласці). Праз 10 месяцаў Гарэцкі быў пераведзены на пасаду галоўнага геолага. Праца была цікавая, вельмі адказная. Тут ён пазнаёміўся з вядомымі вучонымі з АН СССР Г. Ф. Мірчынкам, М. С. Шацкім, П. І. Прэабражэнскім і інш., партыя якіх працавала ў тых жа раёнах. Тут Гарэцкі даведаўся і пра смерць сваіх братоў: Івана — ў Ленінградзе і Максіма — у пас. Важаэль (Комі АССР).

У снежні 1940 года Г. Гарэцкага перавялі ў Баравічы Наўгародскай вобласці, прызначылі галоўным геолагам Мсцінскага інжынерна-геалагічнага раёна для пабудовы на рэчцы Мста каскада гідраэлектрастанцый, каб забяспечыць энергіяй Ленінград. Але праз паўгода пачалася вайна. Гарэцкага мабілізавалі на абарончыя работы — ён быў прызначаны галоўным геолагам ва Упраўленне ваенна-палявога будаўніцтва Галоўабаронбуда Наркамата абароны і працаваў у Калінінскай, Леніградскай, Валагодскай абласцях, пад Масквой. Праца была вельмі напружаная, умовы жыцця цяжкія, галодныя. Сям'я Гарэцкіх была эвакуіравана ва Удмурцію, у Іжэўск і раённы пасёлак Вавож. У ліпені 1942 года Г. Гарэцкага прызначылі галоўным геолагам Камска-Чусаўскага бюро № 12 Гідрапраекта Галоўпрамбуда ў пас. Чунжына на р. Чусавой, якая ўпадае ў р. Каму. У гэтым раёне трэба было правесці інжынерна-геалагічныя вышуканні пад шэраг гідраэлектрастанцый. У Чунжына змаглі прыехаць Ларыса Восіпаўна з малодшым сынам. Г. Гарэцкага начальнік Гідрапраекта С. Я. Жук часта выклікаў у Маскву для абмеркавання пабудовы шэрагу гідраэлектрастанцый і экспертызы іх праектаў. Ён тут сустракаўся са старшым сынам, якога перавялі на працу на аўтамабільны завод імя Сталіна (ЗІС), па магчымасці наведваў Ленінскую і іншыя бібліятэкі, у якіх збіраў матэрыял па геалогіі Беларусі. У пачатку 1944 года Г. Гарэцкага прызначылі на пасаду намесніка галоўнага геолага Бюро інжынернай геалогіі Гідрапраекта і галоўнага геолага экспедыцыі № 5, якая знаходзілася ў Чкалаўску (радзіма Валерыя Чкалава) на Волзе ў Горкаўскай вобласці. Шматлікія працы на Волзе і мінулыя на Урале вымагалі бясконцых камандзіровак ў розныя геалагічныя партыі. Былі доўгатэрміновыя камандзіроўкі ў Маскву, у час якіх Гарэцкі пачаў пільна займацца падрыхтоўкай дысертацыйнай працы.

16 лютага 1945 года ў Інстытуце геалагічных навук АН СССР адбылася абарона кандыдацкай дысертацыі Г. І. Гарэцкага на тэму «О роли местных географических условий в четвертичной

истории на примере изучения Кольской и Туломской долин на Кольском полуострове». Праца дысертанта так была высока ацэнена апанентамі і членамі вучонага савета, што яны не толькі аднагалосна прагаласавалі за прысваенне ступені кандыдата геолага-мінералагічных навук, але, прызначыўшы яшчэ трэцяга апанента, працягнулі абарону на атрыманне вучонай ступені доктара навук — галасаванне было станоўчым з лікам 15 — «за», 2 — «устрымаліся». На жаль, ВАК зацвердзіў толькі першую пастанову вучонага савета.

13 траўня 1946 года Г. Гарэцкі прапанаваў вучонаму савету Інстытута геалагічных навук АН СССР новую працу «Неогеновые и четвертичные отложения района Средней Камы между устьем Вишеры и городом Боровском» на саісканне вучонай ступені доктара геолага-мінералагічных навук, за якую ўсе 34 члены вучонага савета прагаласавалі станоўча.

Навуковая і навукова-арганізацыйная дзейнасць Г. Гарэцкага як эканаміста, так і геолага выклікае здзіўленне і павагу яго вялікім талентам, працаздольнасцю і мэтанакіраванасцю. За зусім кароткі час ён змог стварыць шэраг выдатнейшых навуковых манаграфій, а ўсяго за 4 гады як дырэктар-арганізатар БНДІ сельскай і лясной гаспадаркі наладзіць працу ўстановы і ўзняць яе на такі ўзровень, што Інстытут стаў прыкладам для інстытутаў аналагічнага напрамку ўсяго СССР. З канца 1931 года Г. Гарэцкі самавукам пачаў авалодваць новай спецыяльнасцю і навукай — геалогіяй. Прыблізна праз 13 гадоў ён змог абараніць кандыдацкую дысертацыю (1945), а на наступны 1946 год — доктарскую. Умовы для таго, каб стаць вучоным у галіне геалогіі былі зусім неспрыяльнымі: да X.1934 быў у Беламорска-Балтыйскім папраўча-працоўным лагеры АДПУ; X–XII.1937 — арыштаваны; 8.V.1938–22.VI.1939 — арыштаваны, прысуджаны да расстрэлу; VII.1941–II.1942 — на абарончых работах.

Далейшая дзейнасць і жыццё геолага Г. Гарэцкага даволі добра вядома. Ён правёў інжынерна-геалагічныя вышуканні

шматлікіх аб’ектаў: каналаў, гідравузлоў, гідраэлектрастанцый, вадасховаў, водаправодаў, сістэм абвадненняў і арашэння і інш. Гарэцкі працаваў не толькі як спецыяліст вытворчасці, але як вучоны-геолаг. Таму ён збіраў і апрацоўваў велізарны фактычны матэрыял. У выніку ён выдаў шэраг капітальных буйных манаграфій, якія з’явіліся падмуркам для стварэння новай навукі — палеапатамалогіі. Г. Гарэцкі атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР — «За работы по палеопотамологии, строению аллювия и прарек Русской равнины в антропогене».

Больш 15 гадоў (з 1967 г.) Гарэцкі быў старшынёй Камісіі АН СССР па вывучэнні чацвярцічнага перыяду і савецкай секцыі Міжнароднай асацыяцыі па вывучэнні чацвярцічнага перыяду (INQA), а з 1982 года — ганаровы член Камісіі і INQA. У Беларусі ён быў адноўлены ў званні акадэміка АН БССР па геалогіі (1965), стварыў Беларускую антрапагенавую камісію; выдатную школу геолагаў-чацвярцічнікаў, вядомую не толькі ў СССР, але і ва ўсім свеце; надрукаваў некалькі глыбокіх па змесце манаграфій і шматлікіх артыкулаў і г. д. Г. Гарэцкі атрымаў званне «Заслужаны дзеяч навукі БССР», Дзяржаўную прэмію БССР, шэраг ордэнаў і медалёў і інш. Гаўрыла Гарэцкі як вучоны ў галіне эканомікі (эканамічнай геаграфіі, а таксама дэмаграфіі), так і ў галіне геалогіі (геалогіі антрапагена, неатэктонікі, геамарфалогіі; а таксама ў археалогіі, геаграфіі, палеагеаграфіі) — яскравы прыклад поўнай адданасці навуцы пры любых жыццёвых умовах.

***2017***

## У гонар 90-годдзя Вітаўта і Зоры Кіпеляў

Напярэдадні Сёмага з’езда беларусаў свету 14 ліпеня 2017 года ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» па ініцыятыве Наталлі Гардзіенкі (намеснік дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва) адкрылася выстава, прымеркаваная да 90-годдзя выдатных дзеячаў беларускай эміграцыі ў ЗША Вітаўта і Зоры Кіпеляў. Зала была перапоўнена. Сярод прысутных былі два былыя міністры замежных спраў Пётр Краўчанка і Сяргей Мартынаў, ксёндз — дэкан Менскага касцёла Святога Сымона і Святой Алены Уладзімір Завальнюк, Анатоль Бутэвіч, Алег Трусаў, Вінцук Вячорка і яго маці Аляўціна Сямёнаўна, шмат іншых грамадскіх дзеячоў, а таксама некаторыя прадстаўнікі — дэлегаты дыяспары, прыехаўшыя на з’езд.

Выставу адкрыў дырэктар мастацкай галерэі Павел Сапатка. Наталля Гардзіенка вяла імпрэзу і пазнаёміла з унікальнымі дакументамі бацькоў Вітаўта і Зоры і іх саміх, якія перададзены і захоўваюцца ў БДАМЛіМ. Дачка юбіляраў Алеся Кіпель паведаміла пра сваіх бацькоў, іх складаны лёс, шчырае каханне, ахвярную дзейнасць на шляху беларушчыны. Вітаўт прыехаць па стане здароўя ўжо не мог, але працуе над новай кнігай. Алеся падкрэсліла: *«Мама ўжо больш за 14 гадоў таму адышла, але тата заўсёды думае: “Як бы Зора параіла?”»*. Алеся паказала размову са сваім бацькам перад ад’ездам — мы ўбачылі, што Вітаўт выглядае добра, гадоў на 20 маладзейшым сапраўднасці, ясным голасам цікава размаўляў пра сваё і Зоры жыццё, што іх асабліва збліжаў нацыянальны фактар, прывітаў усіх удзельнікаў з’езда. Вельмі яскрава і артыстычна выступіў намеснік старшыні Рады ЗБС «Бацькаўшчына» Валер Герасімаў, які справядліва падкрэсліў пра юбіляраў: *«Яны беларусы не па пашпарце, яны беларусы па духу»*.

Я таксама выступіў і нагадаў пра падабенства лёсаў Вітаўта і майго: нарадзіліся ў Менску, сыны «нацдэмаў» з Інбелкульта,

арыштаваных у 1930 годзе; сыны «ворагаў народа»; жылі ў высылцы ў Расіі; у вайну — у эвакуацыі, адкуль ён на Захад, а я — на Усход. Пасля вайны ён стаў геолагам у Бельгіі, я — Расіі. Пазней сталі на шлях нацыянальнага адраджэння і нарэшце сустрэліся на міжнародных канферэнцыях і з'ездах беларусаў свету і шчыра пасябравалі.

*2017*

## VII з'езд беларусаў свету

15–16 ліпеня 2017 года ў Менску у Міжнародным адукацыйным цэнтры імя Ёганса Рау прайшоў VII з'езд беларусаў свету ЗБС «Бацькаўшчына», галоўная тэма якога «Беларуская нацыя, беларуская дзяржаўнасць, беларускае замежжа — вынікі сучаснасці і стратэгія развіцця». Яшчэ да пачатку з'езда Анатоль Вярцінскі ў «Народнай Волі» (14 ліпеня 2017 г.) надрукаваў выдатны верш «Беларусам свету», эпіграфам якога зрабіў вядомы заклік Янкі Купалы:

Час склікаці нам граманду
На вялікую нараду,
На вялікі сход!

Вось як яскрава гучаць нават вытрымкі з верша Анатоля Вярцінскага:

Як і калісь, яны
менавіта летам
зноў збіраюцца разам —
Беларусы свету. […]

Раскідала нядоля
па ўсім свеце белым.
А хацелася б быць ім
непадзельным цэлым. […]

Так, турбота адна ў іх
ва ўсіх беларусаў свету,
не была каб краіна
нейчай разменнай манетай. […]

Выглядае: з усіх людзей
мы не горшыя
ў свеце людзі.
І жыве надзея з надзей,
што жыве Беларусь
і жыць будзе!

У з’ездзе прынялі ўдзел 228 дэлегатаў, з якіх 115 дэлегатаў — прадстаўнікі беларускага замежжа з 20 краін. Як вядома, за мяжой жыве 3,5–4 млн беларусаў (гэта значыць, што амаль кожны трэці, а можа і другі беларус жыве па-за сваёй краінай). Яны жывуць у 73 краінах свету, арганізаваныя суполкі ёсць у 26 з іх: Згуртаванне «Бацькаўшчына» ўвесь час імкнулася да сумеснага супрацоўніцтва ўсіх беларусаў свету для развіцця нацыянальнай культуры, адукацыі, навукі, эканомікі і пабудовы моцнай еўрапейскай незалежнай Беларусі, бо сярод беларускай дыяспары шмат шчырых прыхільнікаў такога супрацоўніцтва, шмат выдатных дзеячаў. На жаль, кіраўніцтва дзяржавы Беларусі да гэтага часу вельмі слаба ўдзельнічае ў азначаным напрамку, нягледзячы на тое, што ў 2014 годзе прыняты закон «Аб беларусах замежжа», які застаецца больш дэкларатыўным.

З’езд пачаўся ўступнымі словамі кіраўнікоў Аргкамітэта: акадэміка Радзіма Гарэцкага, а затым старшыні ЗБС «Бацькаўшчына» Алены Макоўскай і старшыні Рады Ніны Шыдлоўскай. Паколькі мой выступ не быў пазней надрукаваны, я прывожу яго.

*Шаноўныя гаспадары, дарагія сябры!*

*Дазвольце мне ад імя Аргкамітэта сардэчна павіншаваць Вас з выдатнай падзеяй — Сёмым з’ездам беларусаў свету!*

*2017 год — год важнейшых юбілеяў у тысячагадовай гісторыі нашай краіны: 1) 500-годдзе беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання, калі вялікі асветнік Францішак Скарына выдаў першую кнігу на старабеларускай мове; 2) 100-годдзе Усебеларускага з'езда 1917 года — першага ў гісторыі агульнанацыянальнага форума беларусаў, які стаў падмуркам абвяшчэння 25 сакавіка 1918 года Беларускай Народнай Рэспублікі — першай незалежнай беларускай дзяржавы, дзякуючы якой у 1919 годзе ўзнікла БССР, а на яе базе ў 1991 годзе была створана суверэнная Рэспубліка Беларусь; 3) 80-годдзе піка бальшавіцкага тэрору супраць уласнага народа ў 1937 годзе, калі толькі ў Беларусі было рэпрэсавана звыш паўтара мільёна чалавек, прычым толькі ў Менску было дзесяць месц расстрэлаў тыпу Курапатаў, а па ўсёй краіне — каля сарака. 2017 год — год памяці ахвяр бальшавізму.*

*Цяпер перад усімі беларусамі, як у метраполіі, так і ў замежжы (а там не менш 30 % беларусаў), неабходная патрэба — аб'яднанне дзеля важнейшай мэты: не толькі захаванне незалежнасці Беларусі, але далейшая пабудова суверэннай, дэмакратычнай, вольнай, багатай, нацыянальнай дзяржавы з перадавой эканомікай, высокай культурай, навукай, адукацыяй, самасвядомымі жыхарамі, якія карыстаюцца цудоўнай беларускай мовай.*

*Будзем з аптымізмам глядзець на нашу будучыню, шырока разгортваць сваю дзейнасць і як казаў вялікі Янка Купала:* ***«Жыве Беларусь!»***

Нягледзячы на тое, што час правядзення з'езда супаў са «Славянскім базарам», на якім прысутнічалі Прэзідэнт РБ і кіраўнікі дзяржаўных улад, на нашым з'ездзе неспадзявана і ўпершыню на такім высокім узроўні прысутнічаў міністр замежных спраў Уладзімір Макей, намеснік міністра культуры Васіль Чэрнік, а таксама як і на шэрагу мінулых з'ездаў старшыня камітэта па справах рэлігіі і нацыянальных меншасцяў

Леанід Гуляка. Усіх прыемна здзівіў Макей, які выступіў на добрай беларускай мове і з вялікай пашанай і прыхільнасцю да беларускай дыяспары. У прыватнасці, ён падкрэсліў: *«...што аб'ядноўвае ўсіх нас, тое, што з'яўляецца нябачнай, але вельмі трывалай повяззю. Гэта любоў да Беларусі, да яе культуры, традыцый, духоўнай спадчыны [...] Па рознай інфармацыі, ад трох да чатырох мільёнаў беларусаў-суайчыннікаў пражывае за мяжой — гэта мяккая, як кажуць дыпламатыя, але і адначасова вялікая і магутная сіла, здольная прасоўваць інтарэсы народа Беларусі, мацаваць незалежнасць дзяржавы. Мы ўсе розныя. У кожнага з нас свой погляд на жыццё, на развіццё нашай краіны. [...] Але кожны з нас можа штосьці зрабіць для нашай галоўнай мэты — умацавання незалежнасці нашай дзяржавы. Гэта патрабуе ад нас аб'яднання перад знешнімі і ўнутранымі выклікамі»*.

Таксама па-беларуску выступіў намеснік міністра культуры Васіль Чэрнік, які казаў пра неабходнасць яшчэ больш цеснага супрацоўніцтва ў галіне культуры.

Прэс-сакратар міністэрства замежных спраў заставаўся на з'ездзе ўвесь час, каб выслухаць і па-магчымасці даць тлумачэнні па многіх заўвагах і прапановах, якіх даволі шмат гучала ад дэлегатаў і гасцей з'езда. Ён абяцаў, што ўсе прапановы ў далейшым будуць улічаны ў працы міністэрства замежных спраў і кіраўніцтва дзяржавы.

Для мяне прыемнай навіной з'явілася, што за мяжой, асабліва ў ЗША, існуе даволі шмат розных суполак сучасных эмігрантаў, якія маюць не толькі свой бізнес, але праводзяць разнастайныя мерапрыемствы на беларускай мове, падтрымліваюць суайчыннікаў і нават некаторыя праекты ў Беларусі.

Наогул у зычлівай абстаноўцы шматлікія пытанні знаходзілі паразуменне, хаця і былі даволі гарачыя спрэчкі.

Хвалюючая падзея адбылася, калі на VII з'езд беларусаў свету прывезлі прах княгіні Магдалены Радзівіл, які беларуская супольнасць Швейцарыі перадала парафіі святых Сымона

і Алены, яго прывёз намеснік старшыні Асацыяцыі беларусаў Швейцарыі Аляксандр Сапега. Урачыста урна з прахам была прывезена Аляксандрам Сапегам і пробашчам парафіі ксяндзом-магістрам Уладзіславам Завальнюком для развітання ўдзельнікаў з’езда, што шчыра зрабіла большасць з іх у знак вялікай удзячнасці за вялікія справы княгіні на карысць Беларусі. На з’ездзе быў аднагалосна прыняты зварот да мітрапаліта Кандрусевіча і ўладаў сталіцы аб размяшчэнні парэштказ княгіні Магдалены Радзівіл у Чырвоным касцёле ў Мінску.

У час з’езда працавалі тры секцыі: 1) Беларуская дзяржаўнасць: станаўленне, рэаліі, перспектывы; 2) Беларуская дыяспара і Беларусь: стратэгія ўзаемадзеяння ў сучасных умовах; 3) Беларуская мова і культура — аснова нацыянальнай дзяржаўнасці. Працавала цікавая выстава «За пчалою Скарыны: друкаваная спадчына беларускай эміграцыі на Захадзе». Яе аўтар Наталля Гардзіенка на падставе фондаў БДАМЛіМа.

У выніку з’езда былі прыняты вельмі важныя рэзалюцыі (выніковая «Справа захавання і ўмацавання незалежнасці Беларусі — справа ўсіх беларусаў»; «Беларуская мова — аснова беларускай нацыі і падмурак дзяржаўнасці Беларусі»), тры звароты і перспектыўныя прапановы да дзяржаўнай стратэгіі «Беларусь — дыяспара» на перыяд да 2025 года.

Аднадушна прайшлі выбары кіруючых органаў ЗБС «Бацькаўшчына: кіраўніком Згуртавання абрана Алена Макоўская, у склад Вялікай рады — па 50 прадстаўнікоў з Беларусі і суполак беларускага замежжа. На пасяджэнні Вялікай рады старшынёй Рады абрана Ніна Шыдлоўская.

*2017*

## 27 ліпеня 2017 года

Яшчэ напярэдадні адчуў уздым, бо набліжалася адно з самых галоўных святаў у навейшай гісторыі Беларусі — Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь, калі 27 ліпеня 1990 года Вярхоўны савет БССР 12 склікання абвясціў Дэкларацыю «Аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР». Да гэтага свята беларускі народ ішоў праз вялікія пакуты і цяжкія намаганні. Успомніў, як мне прыйшлося выступаць на афіцыйных сходах, якія былі прысвечаны першым гадавінам Дня незалежнасці і якія праходзілі ў Вялікай зале Беларускай кансерваторыі, прычым звычайна было два выступы: ад урада і ад грамадскасці. Першы рабіў прэм'ер-міністр ці яго намеснік, а другі — я. Канешне, па змесце яны сур'ёзна разыходзіліся, а таму адна палова залы, галоўным чынам з вядомых прадстаўнікоў розных слаёў насельніцтва больш шчыра плёскала першаму, а другая — другому. Але як тут, так і па ўсёй краіне ўрачыста з уздымам адзначалі гэтае ўсенароднае свята.

Пасля путчу «сілавікоў» у Маскве 19–21 жніўня 1991 года і яго ліквідацыі 25 жніўня сабралася пазачарговая сесія Вярхоўнага Савета БССР, на якой было прынята рашэнне пра спыненне дзейнасці КПБ, замест Мікалая Дземянцея старшынёй ВС быў абраны Станіслаў Шушкевіч, дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце надалі статус канстытуцыйнага закона. 19 верасня 1991 года на чарговай сесіі ВС быў прыняты закон аб назве дзяржавы (замест БССР — Рэспубліка Беларусь), зацверджаны сімвалы беларускай дзяржавы: герб Пагоня і бела-чырвона-белы сцяг. Тады была не толькі слабая надзея, але многім даволі цвёрда здавалася, што Дзень незалежнасці і ўсе прынятыя законы застануцца назаўсёды, а гэтае светлае свята ўрачыста будзе адзначацца ўсім народам разам з уладамі дзяржавы, уздыме самасвядомасць беларусаў, іх гонар за сваю дэмакратычную, незалежную, еўрапейскую дзяржаву.

Але сітуацыя ў краіне рэзка змянілася пасля выбараў першага прэзідэнта Беларусі, які ўзяў курс на яднанне з Расіяй і русіфікацыю дзяржавы. Пасля рэферэндуму 1995 года руская мова таксама стала дзяржаўнай, сімвалы дзяржавы былі заменены новымі, блізкімі да савецкіх. На рэферэндуме 1996 года Дзень незалежнасці быў перанесены з 27 ліпеня на 3 ліпеня, калі быў вызвалены Менск ад фашысцкіх захопнікаў. З таго часу прэзідэнт і яго паслухмяная чыноўніцкая вертыкаль прыкладаюць усе намаганні, каб у памяці людзей зусім не засталася дата 27 ліпеня 1990 года. Яны ўбіваюць у галовы народа: тое, што адбывалася да прэзідэнцкага кіравання, — дрэнна; усё станоўчае ў краіне зроблена прэзідэнтам. Такая сутнасць аўтарытарных рэжымаў.

З часу абвяшчэння Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце прайшло 27 гадоў. Я ўважліва паслухаў беларускае тэлебачанне, радыё — толькі між іншым успомнілі гэтую дату і нават не адзначылі, што святкавалі яе як Дзень незалежнасці. Афіцыйныя ўлады і іх прэса не звярнулі ніякай ўвагі на такую знамянальную дату.

Пра 27 ліпеня 2017 года каротка нагадалі незалежныя газеты: «Народная Воля» на першай старонцы адзначыла ў рубрыцы «Грымасы часу» — «Розныя дні: 27 ліпеня 1990 года і 27 ліпеня 2017 года»; «Наша слова» таксама на першай старонцы абвясціла: «27 ліпеня 1990 года прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі», а далей адзначыла: «Дзень прыняцця Дэкларацыі з 1991 па 1996 год адзначаўся як Дзень незалежнасці Беларусі»; «Свободные новости плюс» і «Новы Час» таксама змясцілі больш падрабязныя меркаванні пра гэту знамянальную для Беларусі падзею. На жаль, наша дэмакратычная апазіцыя не адзначыла такое важнае свята якім-небудзь прыкметным мерапрыемствам.

У газеце «Свободные новости плюс» пра сітуацыю з днём незалежнасці наш вядомы дзеяч прафесар Міхаіл Пастухоў надрукаваў цікавы артыкул «Как вернуть праздник?». Ён пад-

крэсліў, што рэферэндум 1996 года быў праведзены пры грубых парушэннях Канстытуцыі і законаў. Пытанні, якія звязаны з гістарычнымі датамі, наогул не маглі выносіцца на рэферэндум. У дэкларацыі запісана, што беларускі народ — носьбіт суверэнітэту і адзіная крыніца дзяржаўнай улады, значыць, народ сам можа рашаць любыя пытанні, у тым ліку і аб святах. Гэта можна зрабіць як праз рэферэндум, так і праз парламент, які абраны дэмакратычным шляхам. Права выступаць ад імя ўсяго народа належыць толькі Вярхоўнаму Савету, як легітымнаму парламенту краіны. Міхаіл Пастухоў заканчвае артыкул такім чынам: *«Когда это будет? Тогда, когда народ поймёт, что у него забрали его национальный праздник и потребует провести досрочные парламентские выборы. Будем ждать и, как пишет Сергей Законников, “...разлічваць на цуд”».*

***2017***

## Мае сяброўства з Янкам Брылём

*(Да 100-годдзя з дня нараджэння)*

1968 год — асаблівы для сям'і Гарэцкіх: імя і спадчына Максіма Гарэцкага пачала вяртацца да народа, Гаўрылу Гарэцкаму нарэшце ўдалося назаўсёды пераехаць у Менск. 28 лістапада 1968 года ў клубе Саюза пісьменнікаў БССР адбыўся першы юбілей Максіма Гарэцкага — 75-годдзе з дня нараджэння «выдатнага беларускага пісьменніка». Адкрыў і вёў вечарыну Янка Брыль. Змястоўны даклад зрабіў Дзмітрый Бугаёў, які ў гэтым жа годзе надрукаваў першую манаграфію «Максім Гарэцкі» і які адзначыў, што пісьменнік — *«...адзін з пачынальнікаў нашай нацыянальнай празаічнай традыцыі».* Я тады яшчэ жыў і працаваў у Маскве, але спецыяльна прыехаў, каб разам з бацькамі прысутнічаць на юбілейнай вечарыне дзядзькі Максіма.

Я ўпершыню ўбачыў і пазнаёміўся з Янкам Брылём, які ўразіў мяне не толькі цудоўным вельмі выразным уступным словам і выдатным правядзеннем вечарыны, але і сваім абліч-

чам: высокі, магутнай постаці, статны, прыгожы, з багатай хвалістай шатэнавай чупрынай над вялікім ілбом, уважлівым ласкавым поглядам шэра-блакітных вачэй, вузкімі вуснамі з прыемнай добразычлівай усмешкай і выступаючым наперад валявым падбародкам. Ён моцна паціснуў мне руку, паглядзеў на мяне з шчырай прыхільнасцю — я думаю, што ўбачыў і адчуў маё захапленне ад яго і таму мы развіталіся са значнай сімпатыяй адзін да аднаго.

У 1972 годзе я таксама вярнуўся ў горад свайго нараджэння і як сапраўдны «менчук» на наступны год прысутнічаў на вечары ў гонар 80-годдзя Максіма Гарэцкага. Выйшаў у свет двухтомнік М. Гарэцкага («Выбраныя творы», Мінск, 1973), які мае бацькі разам са мной паслалі некаторым пісьменнікам. Янка Брыль адказаў: *«Пішу Вам, яшчэ не супакоіўшыся ад глыбокага хвалявання, з якім я чытаў надрукаваныя ў ''Маладосці'' пісьма Лёні Гарэцкага... Вобраз Максіма Гарэцкага ідзе са мной з ранняй маладосці. Любоў да яго, павага, захапленне з новай сілай перажылося, чытаючы двухтомнік. Цяпер жа, праз вобраз Леаніда, яшчэ раз прыйшоў да мяне і Максім Іванавіч, і ўся Ваша цудоўная сям'я Гарэцкіх... Я хачу, каб Вы ведалі, колькі людзей паважае і любіць Вас, як упрыгожвае наша жыццё свядомасць, што ёсць такая беларуская сям'я. Яна для нас пабагацела яшчэ і на Лёню»*.

З Янкам Брылём я пачаў даволі часта сустракацца на розных літаратурных вечарах, прэзентацыях. Мне вельмі прыемна была яго ўвага, а мяне цягнула да яго, бо нашы кароткія размовы былі заўсёды цікавыя. У снежні 1978 года я атрымаў ад Янкі Брыля цудоўны падарунак да майго 50-годдзя — яго кнігу «Птушкі і гнёзды. Кніга адной маладосці» (Мінск, 1975) з такім аўтографам: *«Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму — з удзячнасцю за памяць і падарунак, а таксама з найлепшымі пажаданнямі з выпадку першага круглага дня нараджэння. Янка Брыль 4–7.XII.78»*. Перад гэтым я паслаў Івану Антонавічу манаграфію «Тэктоніка Беларусі» з тэктанічнай картай Беларусі,

за якую я разам з калектывам атрымаў Дзяржаўную прэмію БССР. У канцы года прыемна было атрымаць карталюшку з віншаваннем з Новым годам, прэміяй і ганаровым званнем «заслужаны дзеяч навукі БССР».

У 1981 годзе — цудоўная навіна: Янку Брылю прысвоена званне «Народны пісьменнік БССР».

Яшчэ ў канцы 70-х — самым пачатку 80-х гадоў Янка Брыль з Нінай Міхайлаўнай разам з Алесем Адамовічам і Верай Сямёнаўнай, асабліва калі да нас прыязджала Галіна Максімаўна, прыходзілі на кватэру да маіх бацькоў, каб пагаманіць наконт жыцця, творчасці і спадчыны Максіма Гарэцкага. Я часта таксама прысутнічаў там.

18 лютага 1983 года ў Доме літаратара прайшоў урачысты вечар, прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння Максіма Гарэцкага. Зала была поўнасцю запоўнена. Вечар адкрыў і вёў Максім Танк, у прэзідыуме былі Алесь Адамовіч, які зрабіў даклад пра жыццёвы і творчы шлях пісьменніка, Гаўрыла Гарэцкі, Янка Брыль, Ніл Гілевіч і іншыя, якія выступілі з успамінамі і думкамі. Прысутнічала Галіна Максімаўна — з ёй мяне разам з нашымі выдатнейшымі пісьменнікамі (у тым ліку і Янкам Брылём) сфатаграфаваў У. Крук.

Троху раней, у снежні я атрымаў ад Янкі Брыля выдатны падарунак — Збор твораў у пяці тамах. У тым жа годзе рад быў павіншаваць Янку Брыля з Дзяржаўнай прэміяй БССР за аповесць «Золак, убачаны здалёк».

20 лістапада 1988 года памёр мой Тата. Упершыню развітанне зрабілі ў вялікай зале АН БССР, якая была запоўнена, прычым не толькі навукоўцамі, але прыйшлі многія пісьменнікі, сярод якіх быў і Янка Брыль. Я быў вельмі ўдзячны за яго шчырыя, сардэчныя развітальныя словы, якія выклікалі ў мяне слёзы нейкага супакаення.

У 1992 годзе Ніл Гілевіч і В. А. Лашковіч арганізавалі цікавую паездку на керамічную фабрыку ў Радашковічы. Са-

бралася нас чалавек сем, у тым ліку Максім Танк, Янка Брыль. Сустрэліся з працаўнікамі фабрыкі, жыхарамі пасёлка, агледзелі фабрычны музей керамікі. Як пажартаваў Максім Танк: «Вось і аднавілі дні навукі і культуры».

Яшчэ больш я зблізіўся і пасябраваў з Янкам Брылём і Нілам Гілевічам у 1993 г., калі адзначалі 100-годдзе Максіма Гарэцкага. У Горках адбыліся ўжо другія «Гарэцкія чытанні», рэспубліканскі ўрачысты вечар, адкрыццё мемарыяльнай дошкі на будынку Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі і музея М. Гарэцкага ў Малой Багацькаўцы і інш. З таго часу кожны год мы праводзілі «Гарэцкія чытанні», якія спачатку былі прысвечаны жыццю і творчасці Максіма, а пазней і Гаўрылы Гарэцкіх. У многіх чытаннях прымалі ўдзел Ніл Гілевіч і Янка Брыль, прычым некалькі з іх у Горках. Яны выступалі з прывітальным словам і рабілі даклады.

У кнізе наведвальнікаў у музеі-сядзібе Максіма Гарэцкага Янка Брыль зрабіў запіс: *«Удзельнікі Гарэцкіх чытанняў, мы яшчэ раз наведалі родную вёску Гарэцкіх, каб адкрыць мемарыяльную дошку на хаце, з якой вылецелі ў свет два волаты роднай літаратуры і нашай навукі, браты Максім і Гаўрыла Іванавічы, годнасць і слава Беларусі. Хай свеціцца і свеціць іх імёны! 19 лютага 1994 г.».* Ніжэй — 23 подпісы.

У нашым аўто ўсю дарогу гучалі песні, галоўным салістам быў Янка Брыль, які меў прыгожы голас, а аматарскі хор складалі Тэрэза Голуб, Таццяна Дасаева, Міхась Мушынскі і я. Пазней Янка Брыль узгадаў, як разам з Нілам Гілевічам плылі на параходзе па Амуры і спявалі розныя песні славянскіх народаў, і іх прынялі за «приезжих артистов». Аднойчы ў Канадзе ён быў на сустрэчы з канадскімі ўкраінцамі і выступіў на ўкраінскай мове. Украінцы папрасілі яго паспяваць — прыйшлося выканаць песню (праўда да галавы прыйшла беларуская), але поспех быў надзвычайны, што адзначылі нават многія газеты. У апошні год жыцця Янка неяк мне прызнаўся, што ён цяпер,

калі нават адзін, паціху спявае. У сэрцы Янкі Брыля заўсёды была песня.

Калі ў пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя мяне выбралі віцэ-прэзідэнтам АН Беларусі, я вельмі хацеў зрабіць нашу акадэмію больш нацыянальнай і таму прапанаваў нашаму Бюро Прэзідыума аднавіць выбары ганаровых акадэмікаў, якіх не было ўжо 35 гадоў. У ганаровыя члены акадэміі выбіраюцца грамадзяне Беларусі, якія зрабілі вялікі ўклад у развіццё культуры і адукацыі рэспублікі. У 1994 годзе ганаровымі акадэмікамі сталі Янка Брыль і Пімен Панчанка — найвыдатнейшыя прадстаўнікі беларускай літаратуры і вядомыя грамадскія дзеячы. Нават толькі адна прысутнасць гэтых асоб надавала Агульнаму сходу АН Беларусі большую значнасць, урачыстасць і беларускасць. На жаль, пасля новых выбараў Прэзідыума АН Беларусі і выбараў Прэзідэнта дзяржавы беларуская мова, пытанні беларускай літаратуры і культуры паступова пачалі пакідаць акадэмію, а нашых паважаных ганаровых акадэмікаў нярэдка проста забывалі запрасіць на сходы Аддзялення гуманітарных навук і на Агульныя сходы АН Беларусі.

Цікава прайшлі пятыя (першыя міжнародныя) Гарэцкія чытанні (Мінск, 23–24 красавіка 1996 года), на якіх з прывітальнымі словамі выступілі Янка Брыль, Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч. Пасля чытанняў Янка Брыль, Ніл Гілевіч з Нінай Іванаўнай, Алеся Бабарэка, Галіна Максімаўна Гарэцкая пайшлі на кватэру да нас з Галяй, дзяліліся ўражаннямі ад дакладаў і, канечне, спявалі (салісты Іван Антонавіч, Ніл Сымонавіч і Алеся Адамаўна), гучалі розныя песні (галоўным чынам беларускія, але і інш.), у тым ліку любімая «Ой, сівы конь бяжыць…». Я запісаў на маленькі магнітафон гэтыя спевы і цяпер, калі прайшло ўжо амаль 20 гадоў і няма на свеце тых салістаў і некаторых слухачоў, мае ўспаміны пра маіх дарагіх сяброў не даюць мне спакою, я ўключаю магнітафон і слухаю са слязьмі на вачах цудоўны хор…

Яшчэ ў 1978 годзе Янка Брыль на ўсё лета пераязджаў у Крынічнае на Нёмане, дзе ў яго доме была невялічкая мансарда — тут ён напісаў многія творы. У шырока адчыненае акно ён бачыў цудоўны краявід — сіняе неба і мудрагелістыя аблокі, чуў шчэбет рознагалосых птушак, лёгка дыхалася свежым смачным паветрам — адчуваў сябе часцінкай прыроды, зліваўся з ёй і ад яе піў сокі жыцця, і прыходзіла натхненне… Успамінаю, як на маіх «Жыгулях» з Нілам і Нінай Гілевічамі і маёй Галяй паехалі ў Крынічнае, каб павіншаваць Янку Брыля з 80-годдзем (4 жніўня 1997 г.). Ужо недалёка ад яго сядзібы трапілі ў лес, здалёку ўбачылі жанчыну, якая шукала грыбы, вырашылі спытаць дарогу. Калі падышлі, аказалася, што гэта Ніна Міхайлаўна — жонка Івана Антонавіча. Сваёй гасціннасцю, добразычлівасцю, розумам, вялікім гумарам абедзве Ніны былі падобныя. Колькі тады было радасці, смеху, добрых слоў, цікавых успамінаў!

Іван Антонавіч хваляваўся, бо не хацеў, каб улады Беларусі ўзнагародзілі яго — не ведаў, як рэагаваць. Быў вельмі рад, што ад іх не прыйшло нават віншавання, а было толькі ад кіраўнікоў мясцовага раёна. Мы, як і большасць інтэлігенцыі і жыхароў Беларусі, былі абураны такой знявагай да аднаго з самых выдатных дзеячаў краіны.

Янка Брыль меў вялікую колькасць сяброў. Іван Мележ неяк сказаў, што зайздросціць яму: «У цябе столькі сяброў!» Ён адказаў, што сапраўды лічыць сябе шчаслівым чалавекам з гэтай прычыны. У людзях галоўнай станоўчай якасцю лічыў чалавечнасць, не цярпеў двурушнасць, а сяброўства любіў «на роўных». Таму значна маладзейшым — спачатку Нілу Гілевічу, а потым і мне прапанаваў перайсці на «ты». Гэта было для нас не проста, але вельмі прыемна і прыносіла гонар. Пазней і мы з Нілам перайшлі на «ты».

У 1996 годзе паслалі ліст, у якім павіншавалі Ніну Міхайлаўну і Івана Антонавіча з днём нараджэння. Хутка з Крыніч-

нага атрымалі адказ*: «Дзякуем шчыра за віншаванне і добрыя пажаданні! […] А прыемна вельмі, што гэтыя добрыя людзі, якіх паважаеш і любіш, памятаюць цябе, дораць табе сваю сяброўскую шчырасць. А ты, Радзім, яшчэ і парадаваў мяне добрым словам пра "палымянскую" публікацыю, за што яшчэ адзін дзякуй. […] Пра нашага слаўнага Гаўрылу Іванавіча, для кнігі пра яго, я пастараюся нешта напісаць, дзякую за гэтую пачэсную прапанову. […] Усяго Вам добрага! І яшчэ раз дзякуем за пісьмо. Я. Брыль»*.

Па запрашэнні Ніны Міхайлаўны і Івана Антонавіча я з Галяй з вялікай прыемнасцю пачалі прыязджаць у Крынічнае, каб трапіць на іх амаль адзін дзень нараджэння (яна 22.VII па новым стылі, а ён таксама 22-га, але па стылі старым), прычым другі раз былі пару дзён, а начавалі па-геалагічнаму — у палатцы ў двары дома. Вельмі добра сустрэліся з цудоўнай сям'ёю Брылёў і некаторымі гасцямі ў 1998 годзе. Але ў верасні атрымаў ліст ад Янкі Брыля:

*«Дарагі Радзім Гаўрылавіч! 18. IX. 98.*

*Думаў спачатку, што пазваню пра гэта, вярнуўшыся, але ж калі яно яшчэ будзе, недзе ў першай дэкадзе кастрычніка, — дык вось і пішу. Зусім выпадкова, дзякуючы суседу па дачах, якому прывезлі трохі прэсы, у рукі мае трапіла "Белорусская деловая газета", дагэтуль цалкам невядомая, а там — гартаю спакойна — на перадапошняй старонцы… інтэрв'ю з самім Табою!.. Талкова, мужна, словам вельмі добра і патрэбна. Прачытаў з удзячнасцю і зайздрасцю. І фота добрае — бацька з дзядзькам, ужо даўно знаёмае, і сам геолаг у рабочым, заклапочаным выглядзе. Пасля Вашага ад'езду я нейкі час быў у даволі невыразна прыкраватым настроі. Вам бы пабыць у нас больш, даўжэй, а мы Вас як быццам адправілі з Богам на другі дзень…*

*[…] 11.IX мы з Наташай, якая тут, у першай палавіне верасня, дабывала свой адпачынак ездзілі на прысланай начальствам машыне ў Карэлічы, на міцкевічаўскія чытанні, тым*

*часам пятыя ўжо, пасля Чачота, Дамейкі і іншых, зладжаныя сумесна са Скарынаўскім цэнтрам. Мне прыйшлося выступіць, напісаўшы прамову, хоць я і не люблю прамаўляць з паперкі. А потым была паездка па родных мясцінах вялікага земляка, балазе надвор'е было добрае. Такі наш прарыў у вялікі свет.*

*А так — цішыня ды самота, ад якое ратуемся працай, хто ў градах ці ў лесе, а хто за сталом. Беластоцкія беларусы ўзяліся за выданне часопіса з добра прадуманай назвай — "Тэрмапілы", і папрасілі паўдзельнічаць, з чым я ахвотна згадзіўся. Дый наогул раблю сёе-тое.*

*Шчырае прывітанне мілай Галіне Рыгораўне і ўсяго добрага Вам абаім! Я. Брыль».*

У Крынічным я вельмі любіў прагулкі з Іванам Антонавічам, які меў такое моцнае замілаванне да дзівосных краявідаў Прынёмання, што мог гадзінамі хадзіць у лес, усцяж ракі. Ён з захапленнем паказваў магутныя дубы, якія мы не маглі ахапіць разам; кожны раз дзівіліся ссечаным асілкам — дубу, які не губляў жыццёвай моцы і таму з яго пня расла белая прыгажуня бярозка. Тут у яго думках нараджаліся мініяцюры, прысвечаныя прыродзе, і настолькі пранікнутыя лірызмам, што былі сапраўднымі вершамі ў прозе. Ён мне казаў, што не разумее тых, хто кажа «ні дня без радка», для яго галоўнае — настрой, натхненне і толькі праўда жыцця. Ён уважліва назіраў жыццё, збіраў рэальныя падзеі, тыпы і характары людзей (будучыя прататыпы твораў) і для гэтага пастаянна вёў запісы. У апошнія гады Янку Брыля больш цягнула да апавяданняў, эсэ і асабліва да мініяцюр, якія, дзякуючы яму, зрабіліся такім папулярным жанрам у беларускай літаратуры. Ён поўнасцю быў адданы роднай мове, свайму народу, Бацькаўшчыне. Усё жыццё любіў кнігу, прычым чытаў не толькі ўважліва, але вельмі хутка. Праз кнігу стаў сапраўдным энцыклапедыстам. Добра ведаў мастацкую літаратуру, а пры размовах часта цытаваў сваіх любімых пісьменнікаў — Льва Талстога, Чэхава, Адама Міцкевіча, Шаўчэнку, Багдановіча і інш.

На навуковай канферэнцыі ў вялікай зале НАН Беларусі, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння Гаўрылы Гарэцкага (10.04.2000), Янка Брыль сядзеў побач з Нілам Гілевічам у прэзідыуме і яскрава выступіў з успамінамі пра сустрэчы з юбілярам, высока ацаніў яго дзейнасць як вучонага, грамадскага дзеяча, змагара за нацыянальнае адраджэнне. Тады ж у кнігу «Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі: Да 100-годдзя з дня нараджэння» напісаў артыкул «Сялянскае, народнае», у якім шчыра і сардэчна ўспомніў усіх Гарэцкіх.

Былі ў нас і сумныя моманты. Адзін з іх Іван Антонавіч успамінае ў тым жа артыкуле: *«Апоўдні мне як усё роўна хто падказаў пайсці на пошту, не адкладаючы на дзень ад'езду ў вёску. Пісьма, між іншымі і ад Гарэцкіх. Галі, падумалася, напішу, а Радзіму, які крануў віншаваннем Ніне і мне, пачаў званіць на работу. […] ...толькі за трэцім званком сакратарка сказала, што ён дома, што праз паўтары гадзіны... пахаванне яго маці. Пазваніў яму дахаты і сказаў, што еду. Каля труны мы, нічога не кажучы, абняліся...»* Янка сказаў вельмі шчырыя добрыя словы, так ласкава падтрымаў мяне ў такі жудасны момант майго жыцця, а потым застаўся на памінкі. Гэта было 3 жніўня 1994 г., нягледзячы на тое, што на наступны дзень у яго быў дзень нараджэння — 77-годдзе.

Калі 5 верасня 2003 года памерла Ніна Міхайлаўна, Янку Брылю не дазволілі пахаваць жонку на блізкіх да горада могілках, а ён вельмі прасіў, каб былі Кальварыйскія. На яе пахаванні на могілках «Калодзішчы», калі я стаяў побач з Янкам на ўзгорку з прыгожым краявідам, ён сказаў: «А ведаеш, нават добра, што так атрымалася — мне падабаецца тут. Глядзі, які тут добры сасновы бор, мяккі сыпучы пясочак, чыстае паветра, цішыня. Вось і я лягу побач, а тлуму мне не трэба». Ён быў мудры, сціплы чалавек. Гора Івана Антонавіча было невыносным, але ён трымаўся мужна. Ніл Гілевіч і я шчыра спачувалі свайму старэйшаму сябру, выказалі наш сардэчны сум і боль у сваіх развітальных словах. На памінках у кватэры на вул. Дразды я

сядзеў побач з ім на канапе, прытуліўшыся да яго, магутнага, але такога аслабелага ад згубы, стараўся перадаць яму хоць нейкую і маю сілу, гаманіў-гаманіў пацІху з ім, каб ён адчуў мае шчырае спачуванне і каб троху адхіліць змрочныя думкі, якія, я бачыў, увесь час надыходзілі на яго.

Іван Антонавіч быў вельмі шчаслівы сваёй сям'ёй: верная спадарожніца жыцця Ніна Міхайлаўна, выдатныя дзеці — Галя, Наташа, Андрэй — і, безумоўна, унукі, якіх усіх ён вельмі любіў і ганарыўся імі, ды і былі яны чалавечнымі і таленавітымі. Калі Янка ў сваёй кватэры жыў ужо адзін і з кійком хадзіў па хаце, я часта наведваў яго, асабліва пасля наведання рэдакцыі часопіса «Роднае слова» (галоўны рэдактар Міхась Шавыркін), у якім я ў той час рэгулярна друкаваў свае артыкулы. Івану Антонавічу тады гэты часопіс заказаў нарыс пра яго радавод. Не паспеў я ўвайсці, як ён з радасцю паведаміў: «А ведаеш, дарагі мой, павіншуй мяне — я стаў прадзедам!» Ведаючы пра «Радавод», які мне паказалі ў рэдакцыі, я адразу спытаў: «А ў радавод паспееў уключыць новага чалавека брылёўскай крыві?» Ён пазней у часопіс з «Радаводам» пра праўнучку дапісаў пастскрыптум. Пазней у апошняй яго кнізе «Парастак» я з прыемнасцю пра той момант прачытаў: *«Вясёлы пастскрыптум. 10 красавіка, калі ўжо гэты нарыс быў здадзены ў рэдакцыю "Роднага слова" і прыняты да выхаду ў чэрвені, я на шарай гадзіне, не ўключаючы святла, у адзіноце спяваў сам сабе, у нейкія моманты нават і ў слёзнай асалодзе ад музыкі і слоў — родных, рускіх, украінскіх, польскіх. І тут нечаканы і доўгачаканы званок ад Галі, што вось і яна ўжо бабуля, а я — такім чынам, прадзед!.. У Мішы з Машай — дачушка, імя якой падрыхтавана бацькамі загадзя — Даша, Дар'я, а ў нас па-загорску — Адарка, Адара. Зноў жа высокае хваляванне, святочная навіна, пра якую мне захацелася дапісаць, бо яна ж і да месца ў размове пра мой, пра наш радавод»*.

Я заўсёды здзіўляўся, як Янка Брыль вельмі многа і хутка чытаў, нягледзячы на тое, што адным вокам ён не бачыў (пaш-

кодзіў трэскай, калі калоў дровы на лецішчы ў Крынічным). Я жаліўся на сваё маруднае чытанне — ён выступаў за мяне па-адвакацку і тактоўна супакойваў, што ў мяне шмат розных іншых спраў і адхіленняў, а ў яго галоўная і праца і асалода — чытанне. Ён быў рад, калі я наведваў яго, і мы даволі доўга размаўлялі пра новыя творы, у прыватнасці надрукаваныя ў «Дзеяслове», які ён звычайна праштудзіраваў раней за мяне і раіў, на што звярнуць увагу. Ён дзяліўся сваімі літаратурнымі прыхільнасцямі, пра мінулае жыццё і творчасць, падкрэсліваў, што галоўная яго крыніца — родная мова, самаадукацыя праз кнігу, дыханне праўдай і шчырасцю. Некалькі разоў мы звярталіся да пытання, ці могуць быць літаратурныя творы калектыўнымі, асабліва ў сувязі з непрыемнай спрэчкай нашых сяброў Ніла Гілевіча і Міколы Аўрамчыка наконт «Лысай Гары». Янка прынцыпова лічыў, што літаратура — індывідуальная творчасць, хаця могуць быць даволі рэдкія выпадкі калектыўных твораў. Пра тую спрэчку ён казаў, што гэта справа іх асабістая, няхай самі і разбіраюцца. І Ніл, і Мікола — абодва нашы сябры і сварыцца з кім-небудзь з іх з-за такога разбору ён не збіраецца. Ён прыводзіў свой прыклад з кнігай «Я з вогненнай вёскі». Калі аж тры аўтары надрукавалі яе, дык вырашылі ўсе рукапісы спаліць, каб пазней ні паміж імі, ні сярод літаратуразнаўцаў не было разборак, хто больш, хто лепш напісаў, хаця яны адзін аднаму і давяралі поўнасцю і не мелі ніякага сумнення ў інтэлігентнасці і сумленнасці кожнага з іх.

16 траўня 2006 года мне пазваніў Іван Антонавіч і паведаміў, што ляжыць у бальніцы Бараўлян, куды яго паклалі, каб выразаць пухліну на кішцы. Я вельмі ўсхваляваўся — чаму Бараўляны? Супакоіў — звычайная адэнома. Спачатку паклалі яго ў агульную палату, у якой адзін трактарыст так брыдкасловіў і крычаў, што было вельмі няўтульна. Добра, што адна дактарыца, якая ведала, хто такі Янка Брыль, падняла шум, і яго, як удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, перавялі ў палату з надпісам на дзвярах «палата ВОВ». Я з жонкай Галяй заехалі

наведаць — я пажартаваў: «Як тут адчувае наш дарагі таварыш ВОВ?» Пасмяяліся. Ён быў спакойны, добразычлівы. Хаця яго кожны дзень наведвалі родныя, асабліва клапатлівыя дочкі — Наташа і Галя, ён быў рад паслухаць ад нас розныя навіны. Цяжкую аперацыю перанёс мужна, але тры дні адыходзіў ад наркозу: спаў і трызніў. Але настрой быў аптымістычны, бадзёры. Падарыў нам нядаўна надрукаваную ў серыі «Беларуская проза ХХ стагоддзя» — «Птушкі і гнёзды. Выбранае». Калі мы прыехалі, ён ляжаў з кропельніцай і таму падпісваць было нязручна, і смяяўся, што ніколі не рабіў надпіс такімі каракулямі: *«Радзіму і Галі — з "незабыўнага". 15.VI.06. Я. Брыль».* Яго адправілі ў Аксакаўшчыну на рэабілітацыю. 7 ліпеня зноў радасць — пазваніў Янка і вясёлым бадзёрым голасам паведаміў, што ўжо ў хаце, дзе так прыемна пасля 2,5 месяцаў адсутнасці ды яшчэ ў бальніцах. Збіраецца ў Крынічнае.

Перад ад'ездам ён разаслаў сваю новую кніжку «Парастак», якую адправіў амаль па 60 адрасах. Мы таксама атрымалі: *«Дарагім Радзіму і Галі з сяброўскай прыхільнасцю. 8.VII.06. Я. Брыль».* Адразу пазваніў, але пра ўражанне не мог сказаць, бо Іван Антонавіч ужо з'ехаў у Крынічнае. Вырашылі, што абавязкова прыедзем да яго ў дзень нараджэння — 4.VIII.2006, калі споўніцца 89 гадоў. Якая цудоўная сімвалічная назва — «Парастак»! Гэта — зварот класіка беларускай літаратуры да сваіх вучняў, чытачоў, прыхільнікаў, асабліва да больш маладых парасткаў, якіх у Янкі Брыля за яго доўгае складанае сумленнае жыццё вырасла вялікае мноства. Ён і мастаку падказаў, як зрабіць такую выразную вокладку. У кніжцы аўтар, вялікі майстар прозы і асабліва мініяцюр, зноў шырока і шчодра расчыніў браму сваіх багатых скарбаў. Тут можна пачуць бязмерную любоў да беларускай прыроды, да Нёманшчыны; мудрыя філасофскія разважанні пра жыццё, пра Бацькаўшчыну, пра ўвесь свет; пра стан мовы беларускай; выказванні пра мінулае і будучыню краіны, пра сяброў, пісьменнікаў і мастакоў, пра прыгажосць жыцця, якое, на жаль, часта парушаюць сатанін-

скія з’явы; сапраўды народныя думкі ад народнага пісьменніка Беларусі, які не можа абыціся без народных прыказак; шчырыя споведзі пра сябе і свой радавод і г. д. Усё напісана прыгажэйшай адпрацаванай да дробязі брылёўскай мовай. Каб усё дайшло да глыбіні розуму і сэрца трэба кніжку чытаць і перачытваць вельмі ўважліва.

І раптам 25 ліпеня 2006 года — неспадзяваны страшэнны ўдар: Янка Брыль памёр у бальніцы Лечкамісіі а 12 гадзіне, калі паставілі кропельніцу, якую так не хацеў прымаць, бо перад тым на працягу многіх дзён хваробы ўсе вены на руках былі паколаты. Памёр раптоўна, бо за 1,5 гадзіны да таго Наталлі Іванаўне сказалі, што «состояние удовлетворительное». Хаджу сам не свой. У галаве: «Іван Антонавіч! Янка! Як жа так? Чаму так? Як будзем без цябе?» Сэрца плюхае зачаста і адчуваецца, што яно ёсць, таму што нешта паколвае. Беларусь і ўвесь свет асірацелі: пайшоў ад нас Вялікі Пісьменнік, Вялікі Грамадзянін.

На другі дзень у кватэру Брыля прывезлі труну. Пачалі прыходзіць развітацца блізкія, сябры, знаёмыя. Прыйшлі і мы. На вуліцы сустракае Данута. Кватэра адчынена. Наташа, Галя, родныя, Марыя Захарэвіч, Валянціна Коўтун, Анатоль Сідарэвіч маўчаць ці шэптам размаўляюць… Іван Антонавіч, прыгожы, спакойны, трошку схуднелы, выглядае як быццам спіць. Ён заўсёды быў вельмі фотагенічны. Шматлікія яго здымкі такія выразныя, на якіх лёгка бачны самыя разнастайныя пачуцці: радасць і прыемную ўсмешку, роздум і задумлівасць, дабрыню і прыязнасць… Пазваніў сын, Андрэй Іванавіч, які працуе зараз у Японіі, што ўжо ў Маскве і хутка дабярэцца да Мінска.

На наступны дзень а 14 гадзіне пахаванне. Людзі ішлі адзін за адным з кветкамі — сумная вестка разляцелася па Беларусі. Сабралася чалавек пад 400–500. Многа знаёмых і незнаёмых. Бачу палітычных дзеячаў: С. Шушкевіча з Ірынай, А. Мілінкевіча, А. Лябедзьку, С. Калякіна, Ю. Хадыку, А. Дабравольскага, П. Краўчанку, многіх пісьменнікаў, жур-

налістаў, літаратуразнаўцаў, гісторыкаў і інш. Вынеслі труну і над ёй і натоўпам узняліся магутныя светлыя, але з чорнымі стужкамі, бел-чырвона-белыя сцягі. Ад афіцыйных структур няма прадстаўнікоў не тое, што ад Адміністрацыі Прэзідэнта, ці Савета Міністраў, ці Нацыянальнага схода РБ, а нават ад міністэрства культуры, міністэрства адукацыі, міністэрства інфармацыі, Нацыянальнай акадэміі навук (праўда ёсць сціплы вянок ад Прэзідыума, а ён жа — ганаровы акадэмік!). Не відаць і прадстаўнікоў чаргінцоўскага пісьменніцкага саюза. Як тады пры пахаванні Васіля Быкава, бел-чырвона-белы сцяг як ветрам здзьмуў усіх афіцыйных прадстаўнікоў чыноўніцкай «вертыкалі», так і цяпер страх ад сцяга не пусціў іх на развітанне з народным пісьменнікам Беларусі.

Жалобны мітынг вёў Алесь Пашкевіч. Слова казалі Ніл Гілевіч, Радзім Гарэцкі, Генрых Далідовіч, Сяргей Законнікаў, Вянцук Вячорка, Уладзімір Някляеў.

На могілках «Калодзішчы» цела Янкі Брыля паклалі побач з Нінай Міхайлаўнай. Цёплыя шчырыя словы сказалі Вольга Іпатава, Анатоль Вярцінскі, Анатоль Кудравец, Віктар Карамазаў, загадчык аддзела культуры Карэліцкага райвыканкама Нагорная. Развіталіся, кінулі па тры жменькі зямлі ў магілу. І ўсё — не ўбачым больш жывога Янку Брыля.

Думкі, дух, словы Янкі Брыля будуць жыць вечна ў Беларусі і ўсім свеце, будуць захоўваць беларушчыну, дапамагаць жыць і будаваць вольную дэмакратычную цывілізаваную еўрапейскую дзяржаву з прыгожай назвай Беларусь, якую так любіў і аб якой ўсё жыццё марыў вялікі Янка Брыль.

На кніжнай паліцы ў маёй кватэры супраць майго пісьмовага стала стаіць шэраг кніг (у тым ліку пяцітомнік і трохтомнік) з пятнаццаццю аўтографамі Янкі Брыля і яго здымак. Працуючы, гляджу на іх, а перыядычна праглядаю яго творы і, як некалі маёй стрыечнай сястры Галіне, дачцэ Максіма Гарэцкага, яны дапамагаюць мне жыць.

Янка Брыль — вялікі майстар роднага слова, сапраўдны інтэлігент, які заўсёды заставаўся самім сабой з дзівоснай сціпласцю і годнасцю, дабрынёй і прынцыповасцю, мудрасцю і любоўю; вялікі грамадзянін краіны, для росквіту якой рабіў усё, што мог; гонар беларускай нацыі, які так глыбока змог спасцігнуць народную душу; сумленне нацыі, які зваў свой народ да нацыянальнай самасвядомасці і агульначалавечых каштоўнасцей.

*2017*

## Рыбнае смакаванне

У мой адпачынак у канцы жніўня — пачатку верасня 2017 года Галя і я былі ў Нарвегіі, дзе нам удалося адчуць сапраўдную асалоду ад цудоўнага смаку рыбнага багацця. Трэба падкрэсліць, што амаль уся рыба была з улову нашага рыбака. Здзівілі трасковыя, асабліва шэраг глыбакаводных. Перш-наперш гэта ланге (па-нарвежску), ці мольва, якая жыве на глыбінях каля 400 м, хаця бывае і на 150–200 м, мае памер да 2 м, а вагой да 40 кг. Яе рыбакі завуць марскім шчупаком, бо яна рыба драпежная. Наш рыбак злавіў 20-кілаграмовую ланге памерам 1,7 м (амаль з самога рыбака). Кавалкі ланге нагадваюць тоўстыя кавалкі свінога сала, маюць мала касцей, але вараная і нават смажаная рыба сухаватая і жарсткаватая. Яшчэ на большай глыбіні — да 1000 м, але часцей — таксама каля 400 м, на камяністым дне жыве бросне (па-нарвежску), ці мянёк (налім — па-беларуску таксама мянёк). Яна сустракаецца значна радзей, а смак падобны да ланге.

З прыемнасцю елі смажаную макрэль (скумбрыю), якую ў час ранейшых прыездаў і самі лавілі. Пасмакавалі марскога акуня, ці ўэр (па-нарвежску). Ён быў даволі тоўсты, даўжынёй 50–60 см і вагой 4 кг, аранжава-чырвонага колеру. Падсмажаны даволі смачны, мяккі і тлусты. Яшчэ больш смачны — гэта вэнджаны сіг. Усю пералічаную рыбу лепш за ўсё есці з пад-

смажанай бульбай. Не саступае па смаку палтус, які асабліва добра есці з рысам. Не адарвешся ад вэнджанага вугра. Самы выдатны далікатэс, які нам давялося пакаштаваць упершыню, гэта — акула.

Мы не забыліся на снеданне есці бутэрброды з маслам і засоленым свежым лаксам (па-нарвежску), ці ласосем, які прадаецца ўжо нарэзаным акуратнымі скібачкамі.

*2017*

## Зноў у фермера Berge

У нядзелю нас запрасілі ў госці да фермера — да той жа вельмі сімпатычнай, гасціннай і добразычлівай сям'і, у якіх мы былі тры гады таму. Нам асабліва было прыемна трапіць да іх, бо яны нашы цёзкі па прозвішчы — Berge (па-нарвежску — гара), а таму па-беларуску будуць Гарэцкія (наша прозвішчы таксама ад гары). Ён Тур-Ігіль, жонка — Іра (латышка, родам з Елгавы), іх ферма знаходзіцца на месцы, якое завецца Berge.

У сваіх нататках «З нарвежскіх замалёвак» («Жыццёвы меланж — 2013–2014» / часопіс «Тэрмапілы», 2014, № 18) я зрабіў апісанне іх фермы.

У гэты раз нас са шчырай гасціннасцю сустрэла толькі Іра — вельмі вясёлая, сімпатычная, даволі стромкая жанчына. Аказалася, што гаспадар вымушаны быў тэрмінова паехаць далёка ў горы, дзе ўсё лета пасвіліся іх авечкі без асаблівага нагляду ў велізарнай «кампаніі» шматлікіх авечак іншых гаспадароў. Як раз у гэты дзень прызначылі разбіраць авечак (іх у яго 210), каб сабраць сваіх у асобны гурт, і наш фермер вымушаны быў паехаць на тую важную працэдуру. Сын таксама адбыў на «адлоў» авечак, якіх на зіму абавязкова трэба звесці ў больш цёплыя хлявы. Кожная авечка памечана спецыяльнымі знакамі свайго фермера, а каб прыкметней было — на галаве знак фарбай рознага колеру: чырвонай, жоўтай, зялёнай… Праца вельмі цяжкая і нават небяспечная, бо ідзе на крутых

скалістых склонах. Неабходна сярод тысяч авечак адшукаць сваю, злавіць, сеўшы на яе амаль вярхом, і адцягнуць у адведзены куток.

Катэдж Berge ўразіў яшчэ лепшым станам, чым раней, бо быў рамонт. Выгоду відаць ва ўсім: усюды цёплая падлога; на першым паверсе — вялікі пакой сына з рознымі прыладамі для заняткаў фізкультурай, камп'ютарам, тэлевізарам і інш; на другім паверсе — вялізная гасціная зала — утульная з прыгожымі сталамі, канапай, крэсламі, тэлебачаннем, цікавымі сямейнымі фотаздымкамі, камінам і добрай печкай; тут жа кухня з неабходным абсталяваннем, прычым усё на электрычнасці; далей прыбіральня з душам, умывальня з гарачай і халоднай вадой; пакой для працы з прыгожым сталом, камп'ютарамі; побач бібліятэка, спальня, вольны пакой для гасцей.

Іра так ласкава нас прыняла, зрабіла смачны абед з віном і півам — нам стала так прыемна і добра, што мы, на чале з гаспадыняй, адчулі такі вясёлы, бестурботны настрой, і сталі жартаваць, успамінаць розныя смешныя прыгоды, анекдоты, ад якіх нас ахапіў цудоўны, сапраўдны, ад душы, шчыры смех, які не пакідаў нас ні на хвіліну ўвесь час побыту на ферме, а гэта было на працягу амаль 6 гадзін, якія, мне думаецца, амаль на столькі ж гадоў працягнулі нашы жыццёвыя шляхі.

*2017*

## Птушкі на дачы і дзяржава Катар

Якая можа быць сувязь паміж птушкамі на дачным таварыстве «Навука» каля Дуброўскага вадасховішча пад Менскам і далёкай дзяржавай Катар? Справа ў тым, што 9 ліпеня 2012 года гаспадар дзяржавы Беларусь падпісаў указ «Аб перадачы дзяржаве Катар зямельных участкаў для будаўніцтва рэзідэнцыі і паляўнічых вальераў» (газ. «Наша Ніва», 30 ліпеня 2014 г.). Паколькі замежнікі не могуць валодаць беларускай зямлёй, Катару далі 25 га на беразе Дуброўскага вадасховішча ў арэнду на 99 гадоў (таму указ быў з грыфам «для службовага карыстання»). Улетку 2014 г. інтэнсіўна пачалося будаўніцтва: ад трасы «Мінск–Віцебск» адыходзіць дарога з бетонных пліт, далей старожкі і будаўнічая тэхніка, раскурочаны лес, высачэзныя платы…

На нашых дачах заўсёды было вельмі шмат розных птушак — асабліва раніцаю, адначасова са світаннем чулася такое моцнае і на дзіва прыгожае align="center" розгалоссе, што прачнешся з вялікай радасцю ад пачуцця сапраўднага жыцця. Увесь дзень гучаць прыемныя спевы. Можна пачуць стукі працавітага дзятла, цвырканне мілага вераб’я; падлічыць колькасць гадоў свайго жыцця, якую падкажа зязюля; адчуць асалоду ад прыгажосці сінічкі ці снегіра (я любіў маляваць яго ў дзяцінстве); з цікавасцю пабачыць віртуозныя палёты ластавак; карканне варон, асабліва моцнае ў час іх сваркі ці нейкага пасяджэння на вяршынях сосен, калі галдзяць яны, як бабы на кірмашы і г. д.

Але мы заўважылі, што з часу катарскага будаўніцтва з кожным годам бачым і чуем усё менш птушак, а сёлета ў 2017 годзе, значыць праз тры гады, на дачным пасёлку стала зусім ціха, бо птушак засталося вельмі мала. Не ведаю, што гэта — проста супадзенне, ці тут ёсць нейкая сувязь. Якая ж прычына такой з’явы?

***2017***

# Лічбы хуткасці адыходу жыхароў Беларусі з жыцця

Газета «Свободные новости плюс» ад 11 верасня 2017 года надрукавала даведку «Memento mori», у якой паведаміла, што Белстат прывёў даныя пра смяротнасць у нашай краіне за 2016 год. Усяго за год не стала 119 379 чалавек. Гэта роўна прыблізна насельніцтву горада Маладзечна.

Далей былі прыведзены лічбы хуткасці смерці ў Беларусі. Кожныя 4 хвіліны 20 секунд памірае 1 чалавек — гэта амаль 14 чалавек кожную гадзіну ці 236 чалавек за дзень. Затым ідуць лічбы смяротнасці ад розных прычын. Вядома, што найбольш часцей гэта хваробы (сістэм кровазвароту — інсульт, інфаркт; органаў стрававання; нервовай сістэмы; анкалогія і г. д.).

Мяне больш за ўсё ўразіла колькасць смяротнасці ад псіхічнага і маральнага стану людзей. Аказваецца, што кожныя 3 гадзіны 30 хвілін памірае адзін чалавек ад псіхічных расстройстваў; 4 гадзіны 20 хвілін — ад самагубства; 6 гадзін — ад атруты алкаголем; 20 гадзін — ад патаплення; 22 гадзіны — ад забойства. Цяжка ўявіць, што кожны дзень нехта канчае жыццё самагубствам, другі — тапелец, трэцяга — забілі.

*2017*

# Беларускія карані

22 лістапада 2017 года ў Лондане памёр сусветна вядомы ўнікальны барытон прыгажун Дзмітрый Хварастоўскі, які завяшчаў свой прах пахаваць у двух самых дарагіх для яго месцах Расіі — Маскве і Краснаярску. Даведаўшыся пра яго скон, наш знакаміты паэт Анатоль Вярцінскі ў сваёй запісной кніжцы знайшоў запіс ад 9 верасня 2016 года, які быў звязаны з чытаннем кнігі «Дмитрий Хворостовский. Две женщины и музыка» Соф'і Бенуа. Там вытрымка з кнігі: *«О бабушке милой замолвите слово... Моя бабушка — белоруска, родилась под Гомелем. Была гениальной хозяйкой и научила меня содержать дом в идеальном состоянии... У неё самые лучшие беляши, которые мне доводилось пробовать. И шаньги она делает просто потрясающие. С детства не могу забыть её пироги с капустой, она печёт их лучше всех на свете. Ну а если сподобится сделать пельмени, то это — ой, ой, ой!»* Далей цытата з кнігі: *«Бабушка была едва ли самым важным человеком в жизни маленького Димы. Ведь даже став взрослым и востребованным певцом, он в интервью на простой вопрос “Когда просыпаетесь, о чём начинаете думать?” — вдруг вспомнил именно бабушку! — “Вспоминаю, знаете. У меня ведь бабушкино наследство”».*

Анатоль Вярцінскі заканчвае свой артыкул («Народная Воля», 28 лістапада 2017 г.): «Знамянальнае прызнанне “бабулінага ўнука”. Вось адкуль яго ў першасным сэнсе голас, моц і краса. Царства яму нябеснае».

***2017***

# Верш-віншаванне

У перадюбілейны дзень нараджэння (асабліва, калі юбілей ужо зусім удзячна-сумны — 90 гадоў) прыемна адчуваць, што сябры і знаёмыя яшчэ памятаюць пра цябе і робяць даволі шматлікія віншаванні самымі рознымі сродкамі, у тым ліку і вершаванымі. Рад быў атрымаць такі верш ад славутага беларуса, майго калегі па прафесіі, яшчэ больш старэйшага па ўзросце.

**Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму**

Радзім Гаўрылавіч, шаноўны,
З днём нараджэння, дарагі!
Пачуццяў лепшых кошык поўны
Ад сэрца шчырага прымі!
Штандар Гарэцкіх ты высока
Трымаеш, і ён бачны тым,
Хто крочыць побач, хто далёка,
Хто любіць Беларусь — усім!
Дай Бог табе здароўя, моцы,
Каб здзейсніў ўсё, што прыгадаў,
І у скарбонку Беларусі
Свае каштоўнасці паклаў!

*Фелікс Шкірманкоў — ветэран Вялікай Айчыннай вайны. 7.XII.2017, г. Слаўгарад*

***2017***

## 2017 — Год навукі

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 23.12.2016 года 2017 год абвешчаны Годам навукі, які ў канцы года завяршыўся важнымі падзеямі: у сярэдзіне лістапада выбарамі акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў, 12–13 снежня — Другім з’ездам вучоных Рэспублікі Беларусь. Гэты час супаў з 90-годдзем заснавання першага Інстытута геалогіі ў нашай краіне (1 кастрычніка 1927 г.). Улічваючы, што 2017 год — Год навукі, мы нават XXV Гарэцкія чытанні прысвяцілі літаратурна-мастацкай і навуковай дзейнасці братоў Гарэцкіх.

* * *

24 кастрычніка рашэннем Прэзідыума НАН Беларусі зарэгістраваны кандыдатамі ў члены НАН Беларусі, выбары якіх адбудуцца 16 лістапада на вакансіі: акадэмікаў — 29 чалавек, членаў-карэспандэнтаў — 103. Пасля выбараў на Аддзяленнях навук прайшлі далей кандыдатуры ў акадэмікі — 11, а ў члены-карэспандэнты — 25. Такі вялікі адсеў кандыдатур звязаны не толькі з выбарамі самых выдатных вучоных, але і з шматлікімі іншымі прычынамі (барацьба і канкурэнцыя навуковых школ і ўстаноў, сяброўства, ціск кіраўніцтва, шчырыя просьбы кандыдата, агітацыя, асабістыя адносіны, зайздрасць, пратэст супраць фармальнага неразумнага кіраўніцтва і г. д.). У гэтыя выбары, гледзячы на шмат незайманых (згубленых) адзінак, была вельмі моцная барацьба.

У Аддзяленнях навук выбіраюць сваіх будучых калег па званнях вучоныя, блізкія па спецыяльнасці, якія найбольш добра ведаюць і могуць ацаніць кандыдатуры ў члены НАН Беларусі. Таму на Агульным сходзе НАН Беларусі ўсе члены іншых Аддзяленняў павінны прымаць вынікі іх выбараў вельмі ўважліва і ў асноўным іх падтрымаць. Аднак там з 11 кандыдатаў у акадэмікі было абрана толькі 5. Такое ўражанне, што галоўнай прычынай быў пратэст супраць фармальнага кіраўніцтва

НАН Беларусі («чыноўнікаў ад навукі»), як адзінай магчымай формай. У лік такіх кандыдатаў трапілі перш-наперш «любімцы» Прэзідыума НАН Беларусі Ф. І. Прывалаў, А. А. Каваленя, Э. І. Каламіец. Сярод іх аказаліся і кандыдаты з нашага Аддзялення хіміі і навук аб Зямлі ў акадэмікі С. А. Усанаў і ў членыкарэспандэнты І. У. Войтаў. Самае цікавае, што ў апошніх падзеях удзельнічалі і кіраўнікі Прэзідыума НАН Беларусі, якія многім членам Агульнага схода раілі галасаваць супраць двух кандыдатаў у акадэмікі В. А. Асташынскага і С. С. Пясецкага, а таксама ў члены-карэспандэнты М. С. Якоўчыка, што ім і ўдалося зрабіць.

* * *

Другі з’езд вучоных Рэспублікі Беларусь прайшоў яшчэ больш шырока і пампезна, чым першы. 12 снежня адбыліся секцыйныя пасяджэнні па 9 тэмах: «физика и информатика в технологиях будущего; технические науки — Индустрия 4.0; современная химия и рациональное природопользование; современные биотехнологии; медицинские и фармацевтические науки; отечественная гуманитаристика — обществу; инновационный агропромышленный комплекс; молодёжь и новые горизонты науки; международное научное взаимодействие на современном этапе».

13 снежня ў Палацы Рэспублікі Упраўлення справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь было праведзена пленарнае пасяджэнне з’езда, якое пачалося са знаёмства з выстаўкай «Навука і інавацыі». Уступнае слова на адкрыцці пасяджэння зрабіў У. І. Сямашка — старшыня Аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні з’езда, намеснік Прэм’ер-міністра РБ. Пасля зацвярджэнняе парадку дня, абрання рабочых органаў з’езда выступіў А. Р. Лукашэнка, які прысутнічаў толькі да перапынку на абед. З сумам павінен адзначыць, што ад выступоўцаў не пачуў ніводнага слова па-беларуску. Нават Ігар Марзалюк, якога я трохі раней павіншаваў з выбарамі яго ў члены-карэс-

пандэнты НАН Беларусі, і падзякаваў за яго прыхільнасць да роднай мовы і карыстання ёй на розных афіцыйных мерапрыемствах, нечакана для мяне выступіў па-руску.

Галоўны дакумент, які абмяркоўваўся на пасяджэнні, праект Стратэгіі «Навука і тэхналогіі: 2018–2040». Я не буду паўтараць тыя дасягненні, якія адбыліся і добра паказаны ў Стратэгіі, а звярну ўвагу на некаторыя цяжкасці. На жаль, шэраг праблем, якія былі і абмяркоўваліся яшчэ на Першым з'ездзе вучоных Беларусі, засталіся, а то нават і павялічыліся.

Галоўны паказчык узроўню навукі — навукаёмістасць валавага ўнутранага прадукту (ВУП). У 1990 годзе яна была ў Беларусі 2,3 %, у час Першага з'езда знізілася да 0,8 %, а ў апошнія гады — усяго 0,5 % (а можа і менш), што ніжэй парогавага значэння, якое зацверджана Канцэпцыяй нацыянальнай бяспекі РБ (1 %). Як бачна, гэты паказчык, які па рашэнні Першага з'езда павінен быць значна павялічаны, не выкананы. Бясконцыя рэфармаванні структуры навуковых устаноў і падраздзяленняў, адсутнасць выбараў і валявыя прызначэнні чыноўнікамі іх кіраўнікоў, інтэнсіўнае імкненне перавесці навуку НАН Беларусі амаль цалкам на прыкладныя рэйкі, каб яна давала вынікі хутчэй і поўнасцю арыентавалася на патрэбы рэальнага сектара эканомікі прывялі да зніжэння ролі фундаментальнай навукі, а разам з ёй і той жа прыкладной, і новых тэхналогій. Як і раней, за гэтыя 10 гадоў праблема ўкаранення навуковых распрацовак у вытворчасць так і не вырашана больш станоўча. Тут справа ў вытворчасці, якая слаба зацікаўлена ў новых вынаходках, тэхналогіях, бо там пры адсутнасці сапраўднай канкурэнцыі, галоўная задача — выканаць план, а не ўкараняць нешта новае.

Поўнасцю засталіся праблемы з навуковымі кадрамі: старэнне вучоных са ступенямі (узрост толькі 14 дактароў навук, 137 кандыдатаў маладзейшых за 29 гадоў), зусім малы прыток моладзі, «уцечка мазгоў» і інш. Адна з прычын — нізкая аплата

супрацоўнікаў, што пасля Другога з'езда кіраўнік дзяржавы абяцаў разглядзець і станоўча вырашыць.

Здзіўляе хуткасць стварэння Стратэгіі, адсутнасць вядомасці аўтарскага калектыву, шырокага абмеркавання, а таксама такога вялікага — да 2040 года. Сучасны свет і адзін з яго галоўных рухавікоў — навука — так хутка змяняюцца, што прадбачыць на такі вялікі тэрмін шматлікія перспектывы развіцця вельмі цяжка. А. Лукашэнка ў сваім выступленні справядліва адзначыў: «Вы изучили проект стратегии “Наука и технологии: 2018–2040”. Я очень сложно отношусь к разного рода проектам и программам. Особенно аж до 2040 года. Многих из нас уже и на свете этом не будет. Простите, но это аксиома нашего бытия. Кто-то ещё где-то. И с кого спросишь за эту программу?».

Я, як прадстаўнік Аддзялення хіміі і навук аб Зямлі НАН Беларусі і старэйшы акадэмік у галіне навук аб Зямлі, таксама здзіўлены, што ў Стратэгіі аж да 2040 года няма ніякіх згадак пра такі важнейшы вельмі разнастайны і шырокі комплекс навуковых напрамкаў: геалогія, геафізіка, геахімія, горныя навукі, геаграфія, фізіка атмасферы і г. д. Навукі аб Зямлі — аснова ўсіх прыродных працэсаў і ведаў пра іх, каркас народнагаспадарчай дзейнасці, яны вывучаюць гісторыю будовы і развіцця той Зямлі, на якой жыве беларускі народ, а яна ахоплівае каля 4 млрд гадоў. Геалогія згадваецца толькі ў адным месцы раздзела пра «стан навукі», дзе пералічаны «…авторитетные научные школы, имеющие результаты мирового уровня». Гэта справядліва, бо некалі ў ІГіГ АН БССР было не менш за 5 такіх школ, ад якіх пасля разгрому навук аб Зямлі (і асабліва геалагічных) у час кіраўніцтва Акадэміяй М. У. Мясніковічам і да сучаснага перыяду ад тых школ засталіся адзіночныя вучоныя, якія раскіданы па розных установах, а дактароў геолага-мінералагічных навук можна пералічыць па пальцах.

Аўтары Стратэгіі пра будучыню нашай дзяржавы напісалі: «Концептуальное видение модели “Беларусь Интеллектуальная”», якая ўключае «три ключевых элемента: I. Полноформа-

тное внедрение цифровых технологий, образующих ядро интеллектуальной экономики»… «“Беларусь — IT-страна”; II. Развитый неоиндустриальный комплекс… “Новая Индустрия 2040”; III. Высокоинтеллектуальное общество… “Общество Интеллекта 2040”. “Сочетание прорывных технологий производственного, цифрового и социогуманитарного контуров обеспечит реализацию модели “Беларусь Интеллектуальная”». Тут найбольш важнае і перспектыўнае — гэта праект дэкрэта «О развитии цифровой экономики», пра што А. Лукашэнка паведаміў яшчэ да з’езда на пасяджэнні 11 снежня.

* * *

29–30 лістапада 2017 года Інстытут геалогіі — філіял «Навукова-вытворчага цэнтра па геалогіі» Мінпрыроды РБ правёў юбілейныя мерапрыемствы, якія прысвечаны 90-годдзю заснавання першага Інстытута геалогіі ў нашай краіне. Першы дзень — урачыстае пасяджэнне вучонага савета і святочны канцэрт, другі — экскурсіі ў Геалагічны музей і «Парк валуноў». На вучоным савеце былі зроблены паведамленні пра галоўныя напрамкі навуковай дзейнасці, шматлікія прывітанні, а таксама прэзентацыя выдання «Геологи и горные инженеры Беларуси: биографический справочник. 4.II» (сост. О. А. Берёзко и др.; науч. ред. Р. Г. Гарецкий. Минск: НПЦ по геологии, 2017. 255 с.); манаграфія «Ранне- и среднефаменский седиментогенез в Припятском рифтовом бассейне» (С. М. Обровец и др. Гомель: БелГУТ, 2017. 201 с.).

А. А. Махнач зрабіў даклад «От Института геологии — 1927 до Института геологии — 2017». У канцы 1927 года пастановай СНК БССР на базе геолага-глебавай падсекцыі Інбелкульта быў створаны Інстытут геалогіі, які праз год стаў адным з першых інстытутаў створанай Беларускай акадэміі навук. У яго гісторыі Махнач вылучыў тры этапы: даваенны (1927–1941), «залаты паўвек айчыннай геалогіі» (1945 — пачатак 1990-х), сучасны (з пачатку 1990-х).

Са студзеня 1945 года пад назвай Інстытут геалагічных навук АН БССР зноў пачаў працаваць у Менску. У 1960 годзе ў АН БССР створана Плешчаніцкая геафізічная абсерваторыя. У 1963 годзе Інстытут геалагічных навук быў перададзены ў Госгеолком СССР (з 1965 года Міністэрства геалогіі СССР), а ў лістападзе 1969 года атрымаў назву Белорусский научно-исследовательский геологоразведочный институт (БелНИГРИ) (па-беларуску — БелНДГРІ). У 1971 г. на базе Лабараторыі геахімічных праблем і Плешчаніцкай геафізічнай абсерваторыі быў створаны Інстытут геахіміі і геафізікі АН БССР. К канцу гэтага этапу геалагічныя навукі складаліся з Інстытута геахіміі і геафізікі АН БССР (больш за 300 чалавек, 16 дактароў, 70 кандыдатаў навук з вядомымі навуковымі школамі сусветнага ўзроўню), пры ім Вопытна-метадычная сейсмалагічная партыя з Плешчаніцкай і Нарачанскай геафізічнымі абсерваторыямі (пазней самастойны Цэнтр геафізічнага маніторынгу); Навукова-даследчае геалагічнае прадпрыемства «БелГЕА» (больш за 300 чалавек) АН БССР; у вытворчым аб'яднанні «Белгеалогія» Мінпрыроды — «БелНДГРІ» (каля 400 чалавек). Такім чынам, тады існавала найлепшая трыяда навук: фундаментальныя навукі (ІГіГ) → вопытна-метадычныя цэнтры (БелГЕА і Цэнтр геафізічнага маніторынгу) → прыкладныя навукі (БелНДГРІ). Далей ішло моцнае вытворчае аб'яднанне «Белгеалогія». Менавіта ў гэты этап была найбольш добра вывучана геалагічная будова і гісторыя развіцця тэрыторыі Беларусі, у выніку чаго тады і былі адкрыты практычна ўсе вядомыя цяпер радовішчы карысных выкапняў.

Сучасны этап звязаны з працэсам перабудовы, які прывёў да распаду СССР і стварэння шэрагу суверэнных дзяржаў, у тым ліку і Рэспублікі Беларусь — спачатку парламенцкай (кіраўнік С. С. Шушкевіч), затым — прэзідэнцкай (А. Р. Лукашэнка). Узніклі значныя эканамічныя і палітычныя праблемы, згуба заказчыкаў, «уцечка мазгоў» і інш. Навісла пагроза ліквідацыі Акадэміі (як такое зрабіў Н. А. Назарбаеў у Казахстане).

Новаму Прэзідыуму Акадэміі на чале з Л. М. Сушчэнем удалося захаваць НАН Беларусі. Кіраўнік дзяржавы падтрымаў Акадэмію, але патрабаваў, каб яна працавала на распрацоўку канкрэтных задач народнай гаспадаркі з хуткім укараненнем вынікаў і аддачай. Для гэтага неабходна сур'ёзнае рэфармаванне Акадэміі. Апрача таго, ён выдаў шэраг указаў, у тым ліку і пра адмену выбараў прэзідэнтаў (пазней старшынь Прэзідыума) НАН Беларусі і многіх іншых членаў Прэзідыума, якіх вырашыў прызначаць сам. У кастрычніку 2001 года указам кіраўніка дзяржавы прэзідэнтам НАН Беларусі (да кастрычніка 2004 г.) і старшынёй Прэзідыума (кастрычнік 2004 — снежань 2010 г.) стаў глава Адміністрацыі Прэзідэнта РБ М. У. Мясніковіч. Прабыўшы на гэтай пасадзе 9 гадоў, ён быў прызначаны прэм'ерам Савета Міністраў РБ. Тады ён у вядомым лісце Прэзідэнту РБ (2013 г.) прапанаваў ліквідаваць НАН Беларусі і прызнаўся, што гэтую задуму хацеў здзейсніць адразу па прызначэнні кіраўніком НАН Беларусі.

Калі Мясніковічу не ўдалося гэта зрабіць з усёй НАН Беларусі, дык у адносінах да геалагічных навук ён выканаў паспяхова: у самым канцы 2007 года выйшла распараджэнне Мясніковіча пра выкананне пастановы Савета Міністраў РБ пра передачу Інстытута геахіміі і геафізікі з усімі супрацоўнікамі, а таксама і будынка ІГіГ у Мінпрыроды (БелНДГРІ). Тым самым Мясніковіч поўнасцю выкідаў геалагічныя навукі з НАН Беларусі. Шматлікія выступленні і лісты з пярэчаннем супраць такога рашэння ад супрацоўнікаў ІГіГ, Аддзялення хіміі і навук аб Зямлі, ад акадэмікаў і дырэктараў інстытутаў розных краін СНД і іншых дзяржаў усё ж падзейнічалі на Мясніковіча, ён злітаваўся і дазволіў пакінуць у НАН Беларусі членаў акадэміі і 20 супрацоўнікаў у складзе Інстытута прыродакарыстання, а таксама блок Б будынка ІГіГ для новых супрацоўнікаў гэтага інстытута і Цэнтра геафізічнага маніторынгу. Неўзабаве Мясніковіч (з дапамогай П. А. Віцязя) перадаў «БелГЕА» разам з памяшканнем Мінпрыродзе, а таксама прадпрыемства

«Космааэрагеалогія». Паказальна, што ўжо ў красавіку 2010 года на Агульным сходзе НАН Беларусі Мясніковіч павінен быў выказаць шкадаванне па тым, што зрабіў: *«Передача их в Министерство природы не дала стране нового качества. Скорее наоборот»* (газета «Веды», 2010).

Рэфармаванне геалагічнай навукі і службы інтэнсіўна ішло і ў Мінпрыродзе: ліквідавалі БелНДГРІ, усю навуку аб'ядналі з вытворчасцю ў навукова-вытворчы цэнтр — «НВЦ па геалогіі», што прывяло да адсутнасці ў Беларусі Інстытута геалагічнага профілю.

У канцы 2013 года ў НАН Беларусі было прызначана новае кіраўніцтва на чале са старшынёй Прэзідыума У. Р. Гусаковым. У наступныя гады як з яго боку, так і ад «НВЦ па геалогіі» (асабліва новага міністра Мінпрыроды А. М. Каўхута) працягвалася тэндэнцыя на ліквідацыю геалагічных навук у НАН Беларусі шляхам перадачы блока Б Мінпрыродзе.

11 сакавіка 2016 года адбылася рабочая нарада пра супрацоўніцтва НАН Беларусі і Мінпрыроды. Гусакоў прапанаваў абмеркаваць магчымасць арганізацый у НАН Беларусі самастойнага структурнага геалагічнага падраздзялення. Гарэцкі выказаўся, што ў перспектыве — гэта інстытут геалогіі для вырашэння фундаментальных праблем геалагічных навук, але для стварэння яго трэба пачаць працу ўжо цяпер, пакуль ёсць спрактыкаваныя спецыялісты старшага пакалення. У Мінпрыродзе неабходна стварыць інстытут па прыкладной геалогіі — тыпу інстытута мінеральных рэсурсаў. На што Каўхута адказаў, што яшчэ раней (пасля размовы з Гарэцкім) падрыхтаваў ужо такі загад.

Пытанне пра абмен блока Б на былое акадэмічнае памяшканне «БелГЕА» было спрэчным, прычым мы нагадалі, што яно офіснае (не падыходзіць для лабараторных прац), а таксама пра абяцанне кіраўніцтва Прэзідыума АН Беларусі не перасяляць нас. Таму было прынята рашэнне, канчаткова яго прыняць так, як прагаласуюць на вучоным савеце Інстытута прыродакары-

стання ў прысутнасці «прадстаўнікоў апарата НАН Беларусі». Вучоны савет ў хуткім часе адбыўся. На ім прысутнічалі С. Чыжык, П. Віцязь, А. Сукала, У. Левашкевіч, якія катэгарычна былі за перадачу блока Б і яго абмен ці нават проста перасяленне нас у будынак Інстытута прыродакарыстання. Р. Гарэцкі растлумачыў, што для стварэння інстытута геалогіі ў НАН Беларусі ўжо цяпер патрэбна памяшканне, якім рэальна можа стаць блок Б. Нягледзячы на моцны ціск прадстаўнікоў Прэзідыума НАН Беларусі, вучоны савет прагаласаваў супраць абмену. На пісьмо членаў акадэміі Гусакову не перасяляць нас атрымалі адказ з рэзалюцыяй «Для положительного решения вместе с Минприродой». Тым не менш Бюро Прэзідыума НАН Беларусі пад старшынствам Чыжыка вырашыла перадаць блок Б Мінпрыродзе, а нашаму інстытуту было дазволена ўзяць у арэнду некалькі пакояў, у якіх мы і засталіся да гэтага часу. Ужо пытанне аб стварэнні Інстытута геалогіі ў НАН Беларусі больш не ўздымалі. Добра, што міністр Мінпрыроды Каўхута, якога даволі хутка знялі з гэтай пасады, паспеў у кастрычніку 2016 года ўсё ж даць распараджэнне стварыць у «НВЦ па геалогіі» ў якасці філіяла Інстытут геалогіі. Як бачна, Інстытут геалогіі — гэта зусім малады невялікі асколак ад «залатога паўвека айчыннай геалогіі», які быў створаны амаль выпадкова, але дазволіў адзначыць 90-гадовы юбілей геалагічнай навукі і службы Беларусі і ўзгадаць пра яе слаўны шлях як у фундаментальных, так і ў прыкладных напрамках. Адначасова такі юбілей выклікае вялікі сум ад сучаснага стану геалагічнай навукі і службы, якая так неабходна для развіцця шматлікіх бакоў жыцця Беларусі.

*2017*

## Кніга пра вучоных Беларусі

У 2017 годзе НАН Беларусі была падрыхтавана і выдадзена цікавая кніга «Учёные, прославившие Беларусь» (Мінск: Беларуская навука, 2017. 366 с.). Як адзначыў ва ўводзінах «К читателю» галоўны рэдактар, старшыня Прэзідыума НАН Беларусі акадэмік У. Р. Гусакоў: *«Книга приурочена сразу к трём знаменательным датам: Году науки, 500-летию белорусского книгопечатания и 135-летию со дня рождения академиков Янки Купалы и Якуба Коласа. [...] Очерки представлены в хронологической последовательности, позволяющей проследить процесс развития научной мысли наших соотечественников и оценить их вклад»*. І праўда, кніга пачынаецца з артыкулаў «Скорина Франциск (1482/87 — конец 1551 / начало 1552)» і «Будный Сымон (ок. 1530–13. 01. 1593)» і канчаецца нарысамі «Ипатьев Виктор Александрович» (30. 03. 1942–09. 06. 2009) і «Белоенко Евгений Дмитриевич (09. 11. 1947–08. 12. 2006)». Шкада, што кніга поўнасцю выдадзена толькі на рускай мове.

У. Р. Гусакоў адзначыў: *«Книга содержит краткие очерки о тех, кто внёс огромный вклад в отечественную и мировую науку. При определении круга персоналий редколлегия и составители исходили из таких критериев, как значимость достижений, признание заслуг, а также вклад в организацию и развитие науки и образования»*. Мне так і засталося незразумелым, чаму ў кнігу трапілі адны вучоныя, а іншыя — не. Мае пытанні пра канкрэтных вучоных (асабліва нашых сучаснікаў) да некаторых членаў рэдкалегіі, складальнікаў і выдаўцоў у гэтым сэнсе не далі ніякіх вынікаў — дакладна яны і самі не ведалі.

Мне вельмі прыемна, што ў кнізе ёсць нарысы пра Максіма і Гаўрылу Гарэцкіх, а таксама пра некаторых іх калег, выдатных вучоных, поўнасцю адданых навуцы — Сцяпан Некрашэвіч, Мікалай Байкоў, Павел Рагавы, Міхась Ганчарык, Алесь Вечар, Пятро Глебка, а сярод больш маладых маіх калег — Аляксандр

Махнач, Алесь Адамовіч, Міхась Высоцкі, Леанід Сушчэня, Уладзімір Конан.

*2017*

## Вучоныя НАН Беларусі не заслужылі Лечкамісію

2017 год, які быў абвешчаны Годам навукі, завяршыўся Другім з'ездам вучоных Рэспублікі Беларусь, на якім кіраўнік дзяржавы адзначыў вялікае значэнне навукі, без якой не можа быць неабходнага прагрэсу, і падкрэсліў, што галоўная каштоўнасць Беларусі — вучоныя, асабліва тыя, якія сабраны ў НАН Беларусі. Амаль адначасова быў пабудаваны новы комплекс Лечкамісіі. Найбольш выдатныя вучоныя Акадэміі навук Беларусі (у першую чаргу акадэмікі і члены-карэспандэнты) з самага пачатку стварэння гэтай лячэбнай установы карысталіся яе паслугамі. Калі я ў 1972 годзе стаў навуковым супрацоўнікам Інстытута геахіміі і геафізікі АН БССР, мяне (спачатку разам з блізкімі роднымі, а пазней толькі з жонкай) прымацавалі да Лечкамісіі, і вось ужо 45 гадоў я карыстаўся яе паслугамі. У канцы мінулага года ўся Лечкамісія — ад урачоў, медсясцёр, тэхабслугі да пацыентаў — была ў хваляванні (каго «возьмуць, каго «выкінуць»?), пазней пачалося ўладкаванне, звальненне, перасяленне, перасталі класці хворых на лячэнне і г. д. У многіх узнікла адпаведнае сітуацыі слова — «дурдом». Перад Новым годам казалі, што ўрачы на старым месцы будуць працаваць тыдзень, потым абвясцілі, што да 15 студзеня, а затым — нават да 1 лютага.

У мяне, як назло, нешта парушылася з сэрцам (шмат экстасістал, мярцальная арытмія), але цудоўны кардыёлаг Л. В. Кавалёва, у якой я лячыўся шмат гадоў, зусім звольнілася. Яшчэ раней наш участковы акуліст выявіла ў мяне павышаны ціск вачэй, які для дыягназу трэба было мераць два разы на

дзень (раніцаю і ўвечары) тры дні запар. Але ў мяне ўсё не знаходзілася такіх магчымасцей у сувязі з рознымі тэрміновымі працамі. Улічваючы сітуацыю ў Лечкамісіі, вырашыў пайсці да акуліста, зрабіў усе неабходныя працэдуры, аказалася, што ёсць тэндэнцыя да магчымай глаўкомы. Такая ж сітуацыя з вачыма (глаўкома) яшчэ раней была вызначана ў маёй Галі. Таму ўжо ў пачатку студзеня 2018 года ўрач прапісала нам каплі, якія Галя павінна капаць увесь час, а мне праз 10 дзён зноў абавязкова прыйсці да яе, каб праверыць ціск.

Гэты дзень абавязковага наведання акуліста трапляў на 17 студзеня. Таму я за некалькі дзён пазваніў у рэгістратуру, каб запісацца да нашага ўчастковага ўрача. Пачуў суровы адказ, што Гарэцкі і яго жонка адлучаны ад Лечкамісіі. На пытанне, як мне быць? Адказ — «не наша справа, займайце жывую чаргу да акуліста Другой клінічнай бальніцы, дзе для лячэння пацыентаў вашага рангу спецыяльна пакінулі аднаго са старэйшых акулістаў Лечкамісіі С. А. Федарашка».

Праз дзень Галя і я паехалі ў паліклініку і больш падрабязна высветлілі сітуацыю. Аказалася, што ў новую суперэлітную Лечкамісію (як казалі «беларускую Крамлёўку») не ўключаны не толькі вучоныя НАН Беларусі, але і шматлікія заслужаныя людзі, якія прынеслі вялікую карысць Беларусі. Яны павінны карыстацца раённымі паліклінікамі ці ведамаснымі. Пазней гаспадар дзяржавы свой «калядны падарунак» заслужаным людзям вырашыў змякчыць і пакінуць будынак былой паліклінікі Лечкамісіі ў якасці Кансультацыйнай паліклінікі пры Другой клінічнай бальніцы, якой змогуць з адпаведнымі ільготамі карыстацца гэтыя дзеячы (а іх усіх каля 700 чалавек), але толькі самі, а іх жонкі будуць выключаны і адсюль.

Мы зайшлі да С. А. Федарашкі, якая ў кабінеце сядзела зусім адна, але не магла змерыць ціск вачэй, бо ўсе прыборы былі ўвезены, паведаміла, што, магчыма 1 лютага нешта зробяць. Усе іншыя кабінеты ў такім жа стане разгрому — урачы і абсталяванне ўжо ў новай Лечкамісіі. У кабінеце ўліку кліентаў

рыхтуюць шматлікія лісты-паведамленні, якія пасылаюць былым пацыентам Лечкамісіі аб іх адлічэнні і новай сітуацыі.

*2018*

## 100-годдзе Усебеларускага з’езда 1917 года і ўтварэння ў 1918 годзе Беларускай Народнай Рэспублікі

26–27 сакавіка 2016 года Хведар Нюнька, які ў той час быў старшынёй Культурнага цэнтра Якуба Коласа ў Вільні, запрасіў групу сяброў адзначыць свята 25 сакавіка 1918 года — дзень абвяшчэння незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). Гэта вялікае для ўсіх беларусаў Свята Волі мы вельмі ўрачыста з уздымам правялі ў Беларускім доме правоў чалавека імя Барыса Звозскага. Тады ж вырашылі стварыць Аргкамітэт па святкаванні 100-годдзя БНР. Старшынёй абралі Радзіма Гарэцкага, намеснікам — Марыю Міцкевіч, сябрамі — Лявона Баршчэўскага, Алену Анісім, Алега Трусава, Міколу Люцко, Алену Макоўскую, Ніну Шыдлоўскую і інш; з Літвы — Алега Аблажэя, Хведара Нюньку, Леакадзію Мілаш.

Па розных прычынах Аргкамітэт больш сістэматычна пачаў працаваць толькі ў канцы 2016 і ў 2017 годзе. Звычайна мы збіраліся ў памяшканні ТБМ. З часам да нас далучыўся шэраг новых сяброў, а некаторыя, наадварот, зусім адышлі ці ўдзельнічалі зусім пасіўна. Яшчэ ў сярэдзіне траўня 2016 года нечакана памёр выдатны мастак і новы старшыня Культурнага цэнтра Якуба Коласа Алег Аблажэй. Сярод новых сяброў асабліва актыўна ўдзельнічалі Станіслаў Рудовіч (аўтар кнігі «Час выбару: Праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 годзе»), Валер Герасімаў, Мікола Купава. Вырашылі да 100-годдзя Усебеларускага з’езда 1917 года падрыхтаваць брашуру, што даручылі Рудовічу і Герасімаву. Паміж сябрамі нашай каманды ўзніклі вельмі гарачыя спрэчкі па многіх пы-

таннях, якія хвалявалі нас (фінансаванне, весці справу разам з уладамі ці не, аб'ядноўваць працу з markdown рознымі дэмакратычнымі партыямі і інш.). Мае намаганні прывесці да адзінай думкі не далі вынікаў, і таму я нават папрасіў замяніць мяне ў якасці старшыні, але ўсе, улічваючы стан майго здароўя, прагаласавалі, каб я заставаўся «ганаровым старшынёй». Тым не менш большасць з нас працягвала працу. Я разам з Міколам Купавам звярталіся да Гарвыканкама, грамадскасці і іншых структур з шэрагам прапаноў па святкаванні 100-годдзя Усебеларускага з'езда ў снежні 1917 года. Мы нават прапанавалі правесці яго ў Купалаўскім тэатры, у будынку якога і праходзіў той з'езд. Шматлікая грамадская дэмакратычная супольнасць, розныя апазіцыйныя партыі падымалі пытанне аб святкаванні гэтай выдатнай падзеі ў гісторыі краіны.

* * *

У мяне ўжо раней былі непрыемныя падзеі, якія звязаны са святаткаваннем 25 сакавіка (85-х угодкаў БНР) ў 2003 годзе. Тады я таксама ўвайшоў у Аргкамітэт па падрыхтоўцы і правядзенні Свята Волі, і мы 17 студзеня сабраліся ў сядзібе ТБМ. Прыблізна каля 19 гадзін вечара я развітаўся з Нілам Гілевічам і пазваніў Галі, якая вельмі хвалявалася за мяне, старалася сустракаць ці нават суправаджаць мяне на розныя мерапрыемствы. Справа ў тым, што тады адпаведныя сілавыя органы сачылі за «апазіцыйнымі» прадстаўнікамі інтэлігенцыі і ўжо збілі шэраг з іх, прычым блізкімі па методыцы і форме прыёмамі: увечары каля сваіх дамоў непрыкметна, прафесійным ударам тупым цвёрдым прадметам са спіны па галаве. Сярод іх мае знаёмыя і сябры: Артур Вольскі, Ю. Хашчавацкі, В. Мазынскі, А. Кароль, А. Мальдзіс, С. Законнікаў і інш. Я нават думаў: «Хто ж на чарзе?» Не думаў тады, што гэта буду я. Я быў у вельмі добрым настроі пасля нашага ўдалага пасяджэння, з пачкам кніг «Гаўрыла Гарэцкі. Выбранае» (Мінск: Беларускі кнігазбор, 2002. 544 с.) бестурботна крочыў

дамоў. Я пашкадаваў Галю і ўгаварыў яе мяне не сустракаць, бо я хутка буду ў хаце. Тэлефонныя размовы, асабліва такіх «шкодных асоб», праслухоўваліся. Не паспеў я дайсці да нашага 4-га пад'езда, як каля 1-га пад'езда я быў збіты, страціў прытомнасць, трохі ачуняў, хістаючыся даклыпаў да нашага пад'езда, дзе з дапамогай суседа трапіў у кватэру.

Галя выклікала хуткую дапамогу, якая адвезла мяне ў нейрахірургічнае аддзяленне бальніцы № 9, кансультантам якой быў акадэмік, галоўны нейрахірург Міністэрства аховы здароўя РБ Ф. В. Аляшкевіч. У мяне ўрачы засведчылі чэрапна-мазгавую траўму сярэдняй цяжкасці, страсенне мозга, зламаны нос і пашкоджанні твару, прыкушаны язык, раздутыя губы, кровападцёкі на руках, нагах, твары. У свядомасць пачаў прыходзіць толькі праз тры гадзіны. Зрабілі неабходныя абследаванні — дзякуй Богу гематомы вялікай няма. Правялі аперацыю, наклалі трынаццаць швоў.

Як пазней я даведаўся ад Галі, суседзяў і іншых, каля нашага дома мяне чакаў сіні «Опель», з якога выйшлі два моцных хлопцы, а два другія стаялі далей і наглядалі. Першыя ціха падышлі да мяне са спіны, прафесійным ударам збілі, забралі з кішэняў 150 тысяч рублёў, пашпарт, пасведчанне акадэміка, пачак з кнігамі. Я страціў прытомнасць і таму не памятаю, што са мной здарылася, колькі ляжаў, але на тым месцы засталася такая вялікая лужына крыві, што трымалася больш за тыдзень, нягледзячы на дожджыкі. Цікава, што дарагі гадзіннік і каштоўны значок (з золата і плаціны) акадэміка Расійскай акадэміі навук, ключы ад кватэры яны пакінулі.

Падзея са мной выклікала значны рэзананс. Ужо 21 студзеня ў газеце «Народная Воля» надрукавалі артыкул «Сатанінскі напад» прафесара, доктара тэхнічных навук Аляксея Саламонава. *«Ён — адзін з найактыўнейшых змагароў сучаснасці за нацыянальнае адраджэнне Беларусі, [...] напад на Радзіма Гарэцкага — гэта працяг камуна-бальшавіцкіх рэпрэсій супраць сукупнай душы беларускага народа, каранёў яго духоўнасці».*

Марат Гаравы ў той жа газеце напісаў пра сход інтэлігенцыі Мінска, на якім павінен быць і я. Удзельнікі схода выказалі «абурэнне і глыбокую трывогу» у сувязі са збіццём акадэміка АН Беларусі і Расійскай акадэміі навук Радзіма Гарэцкага і патрабавалі адстаўкі кіраўніцтва сталічнай міліцыі. 21 студзеня пра гэтую падзею паведамілі рускамоўныя газеты «Комсомольская правда в Белоруссии» — «Академика Горецкого избили возле дома», «Известия» — «За что разбили голову академику Горецкому». Газета «Наша слова» (ад 22 студзеня) — «Напад на акадэміка Радзіма Гарэцкага», у якім падкрэслілі, што ён — «сябра Рэспубліканскай Рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"». Газета «Труд в Беларуси» (ад 23 студзеня дала заметку «Печальная тенденция в среде интеллигенции». Газета «Звязда» (ад 23 студзеня) паведаміла пра сустрэчу кіраўніцтва Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў (ГУУС) Мінскага гарвыканкама з журналістамі. На пытанне журналіста, як ідзе пошук бандытаў, якія 17 студзеня моцна збілі акадэміка Радзіма Гарэцкага і якія матывы гэтага злачынства? Першы намеснік начальніка ГУУС Аляксандр Зыль паведаміў, што акадэмік Гарэцкі стаў ахвярай рабаўнікоў [...]. Зараз пошукамі разбойнікаў займаецца следча-аператыўная група. У рубрыцы «Хроніка» «Беларуская деловая газета» (№ 9, 24 студзеня) паведаміла пра гэтую падзею. У «Комсомольской правде» (24 студзеня) зноў напісалі *«На академика Горецкого напали преступники» — «...По факту нападения возбуждено уголовное дело. Преступники пока не найдены»*. Вядомы фотакарэспандэнт Анатоль Кляшчук зрабіў маё фота, якое было змешчана на першай старонцы газеты «Наша Ніва» (№ 3, 24 студзеня 2003) з подпісам «Твар беларускай інтэлігенцыі» і побач невялікі артыкул *«Зьбіты акадэмік Радзім Гарэцкі» — «...Упраўленне сьледчага камітэту Савецкага раёну распачало крымінальную справу па факце нападу. Аднак намесьнік начальніка сьледчага аддзелу Ігар Столяр адмаўляе "палітычную версію"»*. У той жа газеце змешчаны артыкул «Улада супраць Гарэцкіх» Анатоля

Сідарэвіча, у якім разглядаў новую кнігу Гаўрылы Гарэцкага «Выбранае» (Мінск: Беларускі кнігазбор, 2002. 544 с.).

Я тады ляжаў у бальніцы, глядзеў на фота, мой пабіты твар з сумнымі прыпухлымі вачыма стаў як бы сімвалам беларускай інтэлігенцыі, і думаў: «Дык які ж сапраўдны твар беларускай інтэлігенцыі?» Я запісаў свае думкі на гэтую тэму і пазней надрукаваў артыкул «Твар беларускай інтэлігенцыі» ў газеце «Наша Ніва» (№ 13, 4 красавіка 2003) — скарочаны варыянт, а потым поўны ў кніжцы «Вечна жыве Беларусь» (Мінск: Беларускі кнігазбор, 2003. С. 59–61). Той артыкул я закончыў такімі словамі: *«Толькі аб'яднанне беларускай інтэлігенцыі можа прывесці да пабудовы сапраўднай незалежнай дэмакратычнай еўрапейскай дзяржавы, і тады кожны жыхар без злога ўдару ў твар падтрымае вядомы вокліч "Жыве Беларусь!"».*

У бальніцы на працягу часу знаходжання я адчуў розныя адносіны да сябе. Некалькі дзён маё прозвішча чамусьці адсутнічала ў спісе хворых, таму шэраг маіх наведвальнікаў не маглі даведацца аб маім стане і тым больш не трапілі да мяне. Так было з нечаканым, але вельмі прыемным прыходам да мяне (з дапамогай Галі) Зінаіды Бандарэнка з мужам Генадзем Канаплёвым, з якімі раней я блізка ніколі не размаўляў і з якімі пазней шчыра пасябраваў. Спачатку мяне вельмі ўважліва наглядалі, часта наведвала вялікая група ўрачоў на чале з Аляшкевічам. Пазней даволі рэзка сітуацыя змянілася — некаторыя прафесары і сам акадэмік, мне здалося, нават пазбягаюць мяне. Здымалі швы і іншыя працэдуры праводзілі толькі лечачы ўрач і цікавіўся загадчык і яшчэ адзін прафесар, з якім мы размаўлялі па-беларуску на розныя тэмы і які вельмі прыхільна да мяне ставіўся. 16 студзеня мяне агледзела група ўрачоў, паведамілі, што зрабілі ўсё, што маглі, і прапанавалі мяне перавесці ў Лечкамісію, але адзін з прафесараў непрыкметна даў мне знак, каб я не згаджаўся і лепш адпрасіўся дахаты, што я і зрабіў. Я тады зразумеў, што ў сучасны момант мне трапляць туды не пажадана, бо быў яшчэ нядаўні незразумелы і падазроны

прыклад зусім моцнага Генадзя Карпенкі. 27 студзеня мяне выпісалі, і я даволі хутка зноў змог працаваць і ўдзельнічаць у грамадскім жыцці, хаця траўмы галавы нагадвалі ўвесь час. Таму ўжо 17 лютага на 10 дзён прыйшлося ўсё ж легчы ў аддзяленне кардыялогіі ў Лечкамісіі.

11 сакавіка 2003 года ў бібліятэцы Нацыянальнага цэнтра імя Францыска Скарыны сабраўся Аргкамітэт па святкаванні Свята Волі 25 сакавіка. Тады я сустрэў Адама Мальдзіса, які ў сувязі з нападам на мяне з гумарам прывітаў: «Віншую вас з уключэннем у кагорту “недабіткаў”!»

Праз два тыдні ўдзельнічаў у пасяджэнні Аргкамітэта па правядзенні Усебеларускага схода інтэлігенцыі, які 16 сакавіка адбыўся ў Доме культуры камбіната «Сукно». Пазней абралі Раду інтэлігенцыі (куды трапіў і я), а яе старшынёй абралі Уладзіміра Коласа.

21 сакавіка 2003 года ў гонар Свята Волі ў сядзібе БНФ было адкрыццё выстаўкі суполкі «Пагоня», якую праводзіў Аляксей Марачкін. 22 сакавіка ў малой зале «Сукно» адбылася ўрачыстая навуковая канферэнцыя, якую вёў Юрась Беленькі. Я там выступіў з дакладам «Незалежнасць Беларусі і прыродныя рэсурсы». 25 сакавіка адбыўся ўрачысты сход у гонар 85-годдзя БНР, які вяла Зінаіда Бандарэнка, а выступілі Анатоль Грыцкевіч, Ніл Гілевіч і Радзім Гарэцкі. Завяршыўся сход канцэртам фальклорных музыкантаў.

28 сакавіка ў газеце «Звязда» з’явілася нататка «Затрыманы падазраваемы ў нападзе на акадэміка Гарэцкага», аб чым паведаміў падчас сустрэчы з журналістамі намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў (ГУУС) Мінскага гарвыканкама Аляксандр Найдзенка. Нарэшце 5 чэрвеня 2003 года мяне выклікаў Прахарэнка — супрацоўнік Упраўлення следчага камітэта і паказаў маё «дело», якое было даволі тоўстае. Пазнаёміў мяне з «судмедэкспертызай» (М. Э. Вярлыга), у якой ужо паказчыкі намнога лепшыя: *«...перелом костей*

*носа, ушибленная рана затылочной области, кровоподтёки лица, причинённые тупыми твёрдыми предметами незадолго до обращения за медицинской помощью, относящиеся к категории лёгких телесных повреждений, повлекших кратковременное расстройство здоровья».* Далей прыблізна такія высновы: допыты міліцыянтамі падазронага Віктара Бурагі — бяздомнага маладога бадзягі, а таксама размовы з суседзямі і пацярпелым ніякіх доказаў не далі. Ніхто з суседзяў нічога не бачыў. Версіі нападу: абрабаванне, хуліганства, зайздрасць. Следчы паўтарыў фразу, якую раней выказаў кіраўнік дзяржавы, што да чаго дайшлі гэтыя бадзягі — нападаюць нават на акадэмікаў. Я адказаў следчаму, што першы раз бачу бадзяг, што прыязджаюць на легкавым аўтамабілі «Опель», на што той нічога не адказаў, але вельмі прасіў падпісаць пратакол, каб закрыць «дело».

Адзіны плюс з усіх гэтых падзей: мусіць, я стаў апошнім, хто трапіў у стан «недабіткаў» такога кшталту.

* * *

Падыходзіла 25 сакавіка, калі беларусы ўсяго свету адзначаюць Дзень Волі — гадавіну абвяшчэння БНР, таму актывісты апазіцыі звярнуліся да сталічных улад дазволіць правесці масавую акцыю «святкавання 99-й гадавіны БНР» ад Акадэміі навук да Кастрычніцкай плошчы. Беларускія ўлады парушылі закон (адказ заяўнікам павінны былі даць за 5 дзён да пачатку мерапрыемства), а чамусьці цягнулі з рашэннем да апошняга моманту адзначаць у парку Дружбы народаў, і таму самі справакавалі сітуацыю. Актывісты апазіцыі не пайшлі мітынгаваць у парк, а накіраваліся па праспекце Незалежнасці ў бок плошчы Якуба Коласа. Вось тут іх сустрэлі міліцэйскія «аўтазакі» і нябывалая па колькасці армада ўзброеных сілавікоў, якія з дзікай злобай накінуліся на мірных дэманстрантаў, многіх збівалі і нават скалечылі. Праз некалькі гадзін у пастарунках апынуліся сотні людзей, а затрымана было больш за 700 чалавек.

* * *

Сто гадоў таму 7 лістапада 1917 года (па старым стылі 25 кастрычніка) адбылася Кастрычніцкая рэвалюцыя, і бальшавікі захапілі ўладу. Ці адзначаюць афіцыйна дзяржавы свету гэтую дату як свята? **Толькі Беларусь ў гордай адзіноце адзначае Кастрычніцкую рэвалюцыю як афіцыйнае свята.** Шырока вядома, што бальшавіцкі тэрор учыніў масавы генацыд супраць народа, мільёны людзей як «ворагі народа» прайшлі праз пакуты турмаў, лагераў, ссылак, былі расстраляны. Гэтыя злачынствы не маюць тэрмінаў даўнасці.

У Беларусі 80 гадоў таму, 29 кастрычніка 1937 года, за адну ноч сталінскія каты расстралялі больш за сто выдатных прадстаўнікоў творчай, тэхнічнай і дзяржаўнай інтэлігенцыі. У Расіі амаль тая ж дата — 30 кастрычніка 1937 года, была вядома як галадоўка палітвязняў у мардоўскіх і пермскіх лагерах. У Расіі гэта адзначаецца як Дзень памяці ахвяр рэпрэсій, прычым тое робіцца на ўзроўні прэзідэнта краіны. На месцы помніка Дзяржынскаму супраць знакамітай Лубянкі пастаўлены спецыяльны камень памяці ахвяр бальшавіцкага тэрору, да якога прыходзяць тысячы людзей з кветкамі і запальваюць свечкі памяці. У Беларусі дзясяткі і сотні «апазіцыянераў» са свечкамі ўспамінаюць ахвяр рэпрэсій пад пільным наглядам сілавых структур.

Справа ў тым, што беларускі рэжым — самы прасавецкі ва ўсім былым СССР, таму Беларусь часта і называюць «савецкім запаведнікам» (нават «Лінія Сталіна» створана). У гэтыя дні лістапада ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі адбылася Міжнародная навуковая канферэнцыя з характэрнай назвай «Великий Октябрь в исторических судьбах белорусской государственности».

Беларусі таксама неабходна адмовіцца ад святкавання 7 лістапада, адзначаць яго як дзень жалобы і памяці ахвяр бальшавізму. На наступны год будзе вялікае свята беларусаў усяго свету — 100-годдзе ўтварэння Беларускай Народнай

Рэспублікі (БНР) — першай незалежнай беларускай дзяржавы, дзякуючы якой у 1919 годзе ўзнікла БССР, а на базе апошняй — у 1991 годзе суверэнная Рэспубліка Беларусь. Безумоўна, гэта свята павінна падтрымаць кіраўніцтва дзяржавы РБ, бо яно падкрэслівае сваё імкненне да незалежнасці Беларусі.

* * *

У газетах працягвалі пісаць пра важныя ў гісторыі Беларусі юбілеі — 100-годдзе Усебеларускага з'езда і БНР. Асабліва дэталёва асвятляў падзеі тых гадоў у серыі артыкулаў Лявон Баршчэўскі на старонках «Народнай Волі». Я таксама ў той жа газеце надрукаваў артыкул «100 гадоў Усебеларускаму з'езду». Удалося выдаць кніжку Станіслава Рудовіча і Валерыя Герасімава «Іх звала Беларусь святая: Да 100-годдзя Усебеларускага з'езда 1917 года» (Мінск: Кнігазбор, 2017. 84 с.). Кніга выдадзена па замове і коштам спадара Міколы Люцко, які стаў і яе рэдактарам. Наклад 300 асобнікаў. У сядзібе ТБМ адбылася вечарына з прэзентацыяй кнігі. Старшыня ТБМ Алена Анісім выказала спадзяванне, што 100-годдзе БНР будзе шырока адзначана і паспрыяе аб'яднанню нацыянальных сіл. У магазіне «Акадэмкніга» ідзе паспяховы продаж кнігі, што сведчыць пра яе каштоўнасць і магчымасць яе перавыдання. Па ініцыятыве Міколы Купавы адбыўся круглы стол, які прысвечаны гэтаму слаўнаму юбілею.

1 снежня 2017 года ў гістарычным будынку Купалаўскага тэатра, дзе праходзіў Усебеларускі з'езд у сярэдзіне снежня 1917 года, адбылася Міжнародная канферэнцыя «Как события 100-летней давности отразились на судьбе суверенной Беларуси» («Новости "24 часа"» на СТВ). На пленарным пасяджэнні выступілі Пётр Брыгадзін, дырэктар Дзяржаўнага інстытута ўпраўлення і сацыяльных тэхналогій БДУ; Вячаслаў Даніловіч, дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі; Ігар Марзалюк, прафесар гісторыі, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага схода РБ; Георгі Атаманаў, другі сакратар ЦК

Камуністычнай партыі Беларусі. Усе выступоўцы нагадалі, якія гістарычныя падзеі ў краіне і Усебеларускім з'ездзе адбываліся ў тыя часы.

Прывітальнае слова на адрас міжнароднай канферэнцыі прыслаў Аляксандр Лукашэнка, Прэзідэнт РБ: *«Идея самоопределения Беларуси, которая шла снизу, от инициативы народных масс, выразилась в созыве Первого Всебелорусского съезда. Это народное собрание продемонстрировало важнейшие ценности, значимые для нас до настоящего дня: своё государство, его социальный характер и тот факт, что только народ, его воля, коллективный разум и лидеры могут стать подлинным источником независимости»*.

Пазней у газеце «Наша слова» ад 13 снежня 2017 г. з'явілася публікацыя «Улады прызналі Першы з'езд». Пра гэта сведчыць прывітанне, якое Аляксандр Лукашэнка накіраваў гасцям і ўдзельнікам канферэнцыі «Падзеі 1917 года ў гістарычным лёсе Беларусі» (паведамленне БелТА). Прывітанне зачытаў першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Максім Рыжанкоў. Размова ідзе пра канферэнцыю і прывітанне, якія ўжо былі надрукаваны па матэрыялах «Новости “24 часа”» на СТВ.

Такім чынам, свята «100-годдзя БНР» грамадскасць Беларусі зможа правесці пры поўнай падтрымцы ўладаў. У сувязі са святам ЗБС «Бацькаўшчына» падрыхтавала цудоўны каляндар «Адрасы БНР. 1918–2018», у якім змешчаны фота 12 будынкаў, дзе ў розны час адбываліся падзеі, звязаныя з БНР. Нацыянальны грамадскі Аргкамітэт распрацаваў шырокую праграму святкавання 100-гадовага юбілею БНР 25 сакавіка 2018 года.

***2018***

*Травень 2017 — люты 2018 г., Менск*

# Змест

## II. ЖЫЦЦЁВЫ МЕЛАНЖ — 2014–2015



## III. ЖЫЦЦЁВЫ МЕЛАНЖ — 2015–2016

## IV. ЖЫЦЦЁВЫ МЕЛАНЖ — 2016–2017



## V. ЖЫЦЦЁВЫ МЕЛАНЖ — 2017–2018

**Гарэцкі, Р.**

**Г20** Апантаны Бацькаўшчынай. Жыццёвы меланж-2 : публіцыстычныя артыкулы, лірычныя замалёўкі, мініяцюры, эсэ / Радзім Гарэцкі. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 504 с. [20] с. : іл.

ISBN 978-985-7180-88-2.

Акадэмік Радзім Гарэцкі, вучоны ў галіне навук аб Зямлі і грамадскі дзеяч, аўтар кнігі «Жыццёвы меланж» (2013), прапануе яе працяг, напісаны ў апошнія шэсць гадоў у той жа своеасаблівай жанравай форме. Гэтыя творы — падсумаванне думак, уражанняў, пачуццяў ад шматлікіх падзей у нашай краіне і свеце, юбілеяў і страт сяброў і блізкіх людзей (у тым ліку вядомых дзеячаў літаратуры, культуры, навукі), успамінаў пра жыццё і дзейнасць бацькі і дзядзькі — братоў Гаўрылы і Максіма Гарэцкіх, родных, некаторых момантаў асабістага жыцця і інш.

**УДК 821.161.3.09+929 Гарэцкі**
**ББК 83.3(4Беи)**

**16+**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Гарэцкі** Радзім Гаўрылавіч

**Апантаны Бацькаўшчынай**

*Жыццёвы меланж-2*

*Публіцыстычныя артыкулы,
лірычныя замалёўкі, мініяцюры, эсэ*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Алена Спрытніч*
Вёрстка *Ларысы Гарадзецкай*
Карэктар *Алена Спрытніч*
Вокладка *Ланы Красікавай*

Падпісана да друку 11.04.2018. Фармат 84×108 1/32.
Папера афсетная. Друк на рызографе.
Ум. друк. арк. 26,46 + 1,05 укл. Ул.-выд. арк. 21,4.
Наклад 150 ас. Зак. 144.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.